

## БЕЛАРУСКІ ЛІРНІК

У сярэдзіне XIX стагоддзя імя Уладзіслава Сыракомлі было добра вядома ва ўсіх кутках Беларусі. Шчыры абаронца простага люду, выдатны паэт, празаік, публіцыст, гісторык, краязнавец Уладзіслаў Сыракомля (сапраўднае імя — Людвік Кандратовіч) стаяў у самым цэнтры антыпрыгонніцкага руху свайго часу. Вось як успамінала пра ўздзеянне яго паэзіі на тагачаснае грамадства Э. Ажэшка: «Як звычайна бывае, на гэты велізарны разумовы рух уплывала многа фактараў, у тым ліку і літаратура. Сялянскія аповесці Крашэўскага чыталі, разрывалі на часткі, развозілі. "Абломак" Качкоўскага меў поспех… але самае моцнае ўражанне тут, на Літве, рабіла паэзія Сыракомлі». Далей Э. Ажэшка гаворыць, што ёй добра запомніўся «вялікі дэмакратычны і, разам з тым, узвышаны дух» яго вершаў*. Гэты «вялікі дэмакратычны дух» паэзіі У. Сыракомлі быў галоўнай прычынай таго, што «вясковы лірнік», як сцвярджаюць сённяшнія даследчыкі польска-рускіх літаратурных сувязяў, «побач з Бёрнсам і Шаўчэнкам быў адным з найбольш любімых паэтаў рускай інтэлігенцыі»**. А М. Горкі ставіў яго ў адзін шэраг з Пушкіным, Шэлі, Гейнэ, Міцкевічам***. Захоплены вялікім антыпрыгонніцкім пафасам творчасці У. Сыракомлі, яе глыбокай народнасцю, рускі крытык М. Аксакаў называў вясковага лірніка «сапраўды народным паэтам, народным гусляром»****. Высокім тытулам народнага паэта надзяляюць У. Сыракомлю ў розныя часы і польскія даследчыкі яго творчасці — Ю. Крашэўскі, А. Тышынскі, А. Драгашэўскі, У. Спасовіч, В. Кубацкі, Ю. Гамуліцкі, Ф. Беляк і інш.

Але тут напрошваецца пытанне: якога ж канкрэтна народа быў Сыракомля песняром, якому народу прысвяціў пяро?

«Я літвін», — казаў неаднаразова паэт і падкрэсліваў, што і яго «прапрадзед» быў «шчырым літвінам»*****. «Літоўскім лірнікам», «літоўскім паэтам», «песняром Літвы» называлі У. Сыракомлю ў польскім, рускім і замежным друку пры яго жыцці і доўгі час пасля смерці. Вось што пісаў, напрыклад, М. Аксакаў: «Калі паэт можа прысвяціць усю сваю дзейнасць аднаму якому-небудзь прадмету, вакол

* Eliza Orzeszkowa. Listy. Warszawa ; Grodno, 1937. T. II. Cz. II. S. 143.

** Прокофьева Д. С. Владислав Сырокомля в России. Польско-русские литературные связи. М. : Наука, 1970. С. 300.

*** Тамсама. С. 324.

**** Аксаков Н. Людвиг Кондратович (Вл. Сырокомля) // Русская мысль. 1880. № 1. С. 13.

***** Syrokomla Wł. Wybór poezji. Wrocław ; Warszawa ; Kraków, 1970. S. 53.

якога, як бы вакол агульнага цэнтра, лунаюць і кружацца ўсе вобразы, думкі яго і летуценні, у якім, нібы ў фокусе, збіраюцца ўсе водгукі і ад якога ўсе любоўныя струны яго атрымліваюць асаблівы водгалас і каларыт, — то такім прадметам, бясспрэчна, з'яўляецца для Сыракомлі Літва. Куды б ні накіраваўся вольны лёт яго натхнення, у якую б сферу ні залятала думка яго, якія б ні кранаў ён струны душы — заўсёды… выступае з масы вобразаў усё адзін і той жа вобраз айчыны, які ён па-мастацку і любоўна малюе»*. Тое самае канстатуе, напрыклад, і В. Касцялкоўская, называючы Сыракомлю «песняром Літвы»**. У гэтым жа не раз прызнаваўся сам паэт:

Пра адно я толькі спяваю, хоць на розныя ноты:
Хай жыве наша Літва! Хай жывуць літвіны!***

У вершы «Што ўмею намаляваць» У. Сыракомля таксама сцвярджае, што, калі ён бярэ ў рукі аловак, заўсёды ў яго атрымліваецца «альбо літоўская хатка, альбо касцельчык вясковы, альбо дворык літоўскі». «Нічога іншага, — гаворыць паэт, — я не ўмею маляваць на паперы: толькі тое, што палюбіў усёй сваёй душой»****.

Літвою У. Сыракомля, як і наогул яго сучаснікі, называў Беларусь. Тут (вёска Смольгаў на Любаншчыне) у 1823 годзе нарадзіўся паэт, тут (спачатку на Палессі, а потым на Нясвіжчыне і Стаўбцоўшчыне) правёў ён асноўную частку свайго жыцця. Апошнія дзесяць год (1853–1862) У. Сыракомля пражыў у фальварку Барэйкаўшчына, што на дарозе з Вільні да Ашмян. Тут паэт таксама быў сярод беларускага насельніцтва. Пра гэта сведчыць сам У. Сыракомля, сцвярджаючы, што «люд падвіленскі… гаворыць па-русінску»*****, г. зн. па-беларуску. Тое, што У. Сыракомля, гаворачы пра Літву як сваю радзіму, меў на ўвазе не што іншае, як Беларусь, добра разумелі праз 50 год пасля яго смерці нават польскія аўтары. Ч. Янкоўскі ў артыкуле «Літва» Сыракомлі» пісаў, што, калі б Сыракомля ўстаў з магілы, то ён «аказаўся б не на Літве, а на Беларусі, дзе ўбачыў Кандратовіч святло і дзе пражыў свой век — паміж Залучам і Барэйкаўшчынай»******. Вядомы польскі літаратуразнавец А. Брукнер, азнаёміўшыся з творчасцю паэта, прыйшоў да высновы, што У. Сыракомля «сапраўдны пясняр беларускай зямлі, ні ў якім разе не літоўскай-жмудскай… яго «Улас» (г. зн. Włas-Błażej),

* Русская мысль. 1880. № 1. С. 14.

** Litwa i Ruś. 1912. № III. S. 99.

*** Kondratowicz L. Poezje. Wydanie zupełne… Warszawa, 1872. T. VII. S. 186.

**** Syrokomla Wł. Wybór poezji. 1970. S. 3.

***** Цэнтральны дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва Літвы. Ф. 96, воп. 1, спр. 23, арк. 3.

****** Tygodnik illustrowany. 1912. № 37.

«Янка-цвінтарнік» і г. д., яго засцянковая шляхта, Лагода ці Дэмбарог нават — гэта сапраўдная беларуская кроў»*.

Тое, што У. Сыракомля быў усё жыццё ўлюбёны ў сваю Беларусь, адразу кідалася ў вочы даследчыкам і біёграфам паэта. «Сыракомля, — пісаў у сваіх успамінах пра вясковага лірніка Г. Мяжэнскі, — перавышаў пачуццём і надзвычайнай любоўю да роднай зямлі, можна сказаць, усіх сучасных яму паэтаў… Словам, усё, што гэты чароўны паэт выліваў са сваіх збалелых грудзей, дыхае сапраўднай любоўю — любоўю да ўсяго таго, што сваё, што роднае!»**

Матывамі патрыятызму прасякнута ўся творчасць У. Сыракомлі — паэзія, драматургія, проза, публіцыстыка. Паэт лічыў, што любоў да сваёй зямлі, да Бацькаўшчыны — самае высакароднае пачуццё. Ён адкрыта ганьбуе тых, хто адракаецца ад свайго толькі таму, што яно сваё, хто, забываючы звычаі роднага краю, слепа пераймае ўсё замежнае, чужое, хто мяняе свой родны край на чужыну. Не адзін з тых, піша паэт у адным з вершаў, хто туляецца на чужыне, хто пазнаў там, «што дым родны значыць», цяпер, каб была магчымасць вярнуцца, «ішоў бы да Літвы абдзёрты і босы… Хворы, вярнуў бы здароўе сваёй душы ад шклянкі вады з Нёмана альбо Гарыні»***. У творах Сыракомлі можна знайсці нямала прачулых радкоў, прысвечаных родным ваколіцам. Гэта вершы і паэмы пра «смутны краю Палессе» («Улас»), пра наднёманскія лугі, якія паэт можа пазнаць «па паху» («Акраец хлеба»), пра камяніцы і паркі Нясвіжа, «дзе над сінім азерцам стаіць стары замак» («Пілігрым у канцы вандроўкі»), пра вуліцы Мінска, які паэт называе «родным» («Тост у доме В. Марцінкевіча», «У коле знаёмых у Мінску») і г. д.

Патрыятызм У. Сыракомлі — і гэта даводзяць сённяшнія даследчыкі творчасці паэта — «быў не польскі ці літоўскі, а “лакальны”, г. зн. беларускі»****.

Адправіўшыся ў падарожжа па Польшчы (дарэчы, У. Сыракомля ўпершыню наведаў яе ў 1856 годзе, г. зн. усяго за 6 год перад смерцю, будучы ўжо шырокавядомым паэтам), ён заўважае: «Тут, на польскім баку Нёмана, усё не такое, як у нас»*****. Падарожнічаючы па Польшчы, Сыракомля ні на міг не забывае пра свой родны край, сумуе па ім, а ўбачыўшы Карпаты, не можа ўтрымацца, каб не ўзняцца на высокую гару: магчыма, яму ўдасца ўбачыць адтуль «родную Літву»******.

Вядома, што У. Сыракомля наадрэз адмовіўся ад вабных прапаноў перабрацца жыць у Варшаву, дзе яму, як папулярнаму паэту і

---

* Brückner A. Z niwy białoruskiej. Kraków, 1918. S. 11.

** Dziennik literacki. 1864. № 2. S. 16.

*** Kondratowicz L. Poezje. S. 305.

**** Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мінск, 1969. С. 48.

***** Syrokomla Wł. Podróż swojaka po swojszczyźme. Warszawa, 1914. S. 24.

****** Kondratowicz L. Poezje. S. 129.

публіцысту, давалі пасаду рэдактара спачатку «Biblioteki Warszawskiej», а потым «Gazety Codziennej» — салідных польскіх выданняў таго часу. Вось як гаворыць пра гэта сам паэт у пісьме да А. Плуга: «Прапанову ўзначаліць рэдакцыю я не прыняў, прычыны ты павінен зразумець. Туга па краі, па сваіх, па Вільні забіла б мяне…»*

Аб беларускім патрыятызме У. Сыракомлі вельмі яскрава сведчыць вершаванае апавяданне («гавэнда») «Жменя пшаніцы». Старому Сцяпану, войту, пра якога аўтар гаворыць, што «такога чалавека і са свечкай не знойдзеш», было даручана падабраць сабе замену. Каб выбраць са сваіх трох сыноў новага войта, мудры і справядлівы стары вырашыў учыніць ім экзамены. Ён адправіў усіх трох у розныя краіны: «Хто з чужой стараны прынясе найбольшую карысць, той стане войтам». Старэйшы сын, Рыгор, вярнуўшыся з Нямеччыны, з захапленнем расказвае бацьку і грамадзе, «які быт у немцаў мілы», якія там капелюшы і кафтаны. «Што тут казаць пра сярмягу? — гаворыць сваім слухачам Рыгор. — Крой дзівацкі ў яе, нечуваны: адразу па ёй відаць галечу! Перакройма ж світкі на кафтаны!» — «Не, яму не быць войтам!» — сказаў на гэта сам сабе стары Сцяпан. Другі сын, які ездзіў у Польшчу, у Кракаў, «тонам зуха» расказвае пра свае ўражанні: «Якая там мова! ***Проша пана*** (падкрэслена аўтарам. — *К. Ц.*), якія песні! Кожны напявае кракавяка. А мы спяваем так нудна…» І малады «зух» самаўпэўнена прапаноўвае сялянам: «Ведаеце, братва, якую дам параду? Кіньма нашы старыя песенькі, паспрабуем танцаваць кракавяк, а я буду весці рэй». Стары Сцяпан, які выказвае настроі і погляды сялян, адразу ж зазначае: «Не, не быць і гэтаму войтам!» І толькі трэці сын, Сымон, які з пашанай і любоўю ставіўся да культуры свайго беларускага народа і які прывёз з Украіны на развод жменю пшаніцы, заслужыў бацькава блаславенне на пасаду войта. Заканчваючы апавяданне, У. Сыракомля гаворыць, што толькі дурань «хоча нямецкім адзеннем пакрыць цела славяніна». Але большы дурань той, хто «пагарджае бацькоўскай зямлёй», хто мяняе родныя песні на «нейкую песеньку з чужой нівы»**.

Шчырую любоў паэта да Беларусі польскія шавіністы лічылі літоўскім сепаратызмам, тым сепаратызмам, у якім яны абвінавачвалі і выдатнага беларускага рэвалюцыянера Кастуся Каліноўскага, сапраўднага патрыёта Беларусі і разам з тым перакананага інтэрнацыяналіста. Ці не таму доўгі час творчасць У. Сыракомлі адсоўвалася недзе на задні план, ігнаравалася, на што звярнуў увагу яшчэ А. Драгашэўскі, дзівячыся «ўбоству літаратуры пра літоўскага лірніка»***. «Тэарэтыкі» тыпу С. Цывінскага проста заяўлялі, што ў наш век «значэнне Сыракомлі зменшылася», прызнаючы разам з тым,

---

* Biblioteka Warszawska. 1862. T. 4. S. 493.

** Syrokomla Wł. Wybór poezji. Warszawa, 1957. S. 390.

*** Drogoszewski A. Władysław Syrokomla. Warszawa, 1905. S. 1.

што яго творчасць будзе мець цікавасць больш доўгі час хіба толькі сярод шырокіх мас «на Усходніх Крэсах»*. Толькі сённяшнія польскія літаратуразнаўцы рашуча адхіляюць гэтую недаацэнку творчасці выдатнага паэта-дэмакрата, пра што сведчыць, напрыклад, грунтоўны артыкул В. Кубацкага «Гавэнда пра Сыракомлю», дзе ён пераканаўча даводзіць, што У. Сыракомля — паэт «далёка не малой меры»**.

«Сепаратызм» У. Сыракомлі меў у сваёй аснове класавыя карані. Перад ім стаяла дылема: з кім ісці — з польскім панам, прыгоннікам, супроць беларускага селяніна ці наадварот — з беларускім селянінам супроць польскага пана. У. Сыракомля фактычна выбраў апошняе.

Паэт паслядоўна, з уласцівым яму публіцыстычным запалам абараняў інтарэсы запрыгоненага беларускага селяніна, змагаючыся за яго разняволенне, за адмену бесчалавечнага прыгоннага права, якое зжыло сябе як эканамічна, так і маральна. «Я край мой кармлю ад веку і маю права звацца чалавекам»***, — заяўляў вуснамі свайго паэта селянін-беларус. Гэтае патрабаванне Сыракомлі аддаць народу ўсе яго чалавечыя правы пазней падхопіць і ўзніме як неадкладны лозунг часу вялікі абаронца свайго народа Янка Купала. Дарэчы, паэзія Я. Купалы, які надзвычай высока цаніў вясковага лірніка за яго дэмакратызм, за тое, што ён не забыўся «слоў беларускіх», сваімі некаторымі матывамі, вобразамі вельмі пераклікаецца з творчасцю Сыракомлі, што дае падставу гаварыць аб уплыве Сыракомлі на Купалу як аб адным са звенняў пераемнасці беларускай літаратуры. Абодва паэты былі выразнікамі самых кроўных інтарэсаў беларускага народа на розных этапах яго гісторыі: «Не я пяю, а люд божы, які песню ва мне творыць»****, — гаварыў У. Сыракомля, падкрэсліваючы сваю непарыўную злітнасць з мужыком-беларусам, якога быў «адвакатам і прадстаўніком на Парнасе»*****.

Вельмі ярка і зусім недвухсэнсоўна выказаўся У. Сыракомля аб сваёй блізкасці да беларускага народа ў выдатным вершы «Вясковы лірнік». Паэт піша, што яго ліру «людзі пояць слязамі». Таму ён спадзяецца, што рэха ад яго песень панясецца шырока па свеце — «ад краю да краю, да самага Дунаю, да самага Кіева». І калі-небудзь пасля яго смерці «ў акно суседа пастукае грамада чужых людзей» і скажа: «Прыйшлі мы паглядзець, дзе ваш лірнік спачывае, лірнік, знаны ў свеце». Слухаючы гасцей, «люд з усёй вёскі будзе дзівіцца і шаптаць, паціскаючы плячыма: «Адкуль яны, людзі з далёкіх краёў, ведаюць песні гэтай вёскі?» І, вядома ж, здагадаюцца, што гэта разнёс іх па

* Cywiński S. Syrokomla, człowiek i twórczość. Wilno, 1923. S. 47.

** Syrokomla Wł. Wybór poezji. 1957. S. 11.

*** Kondratowicz L. Poezje. T. VII. S. 168.

**** Тамсама. Т. VI. С. 154.

***** Спасович В. Д. Соч. Т. I. СПб., 1892. С. 81.

свеце «наш лірнік вясковы». І таму з гордасцю «перад людзьмі з чужой зямлі ўсёй душой будуць славіць лірніка, што спяваў і жыў з імі»*.

Пад гэтым вершам значыцца: «Залуча, 18 студзеня 1852 года». Адсюль вынікае, што вёскай, якая зможа ганарыцца сваім лірнікам і песні якой ён разнясе па свеце, быў Жукаў Барок (за паўкіламетра ад Залучанскай сядзібы паэта). Іншымі словамі, У. Сыракомля тут сам прызнаецца, што асновай яго творчасці быў беларускі фальклор. І гэта зусім не голая дэкларацыя. Пра творчае выкарыстанне У. Сыракомлем беларускага фальклору ёсць нямала сведчанняў як польскіх, так і беларускіх даследчыкаў. Многія вершы У. Сыракомлі — гэта «творчае наследаванне і апрацоўка беларускіх песенных матываў»**.

Як пясняр і абаронца народа Сыракомля не мог без сарказму і гневу гаварыць пра яго прыгнятальнікаў. Каб пераканацца ў гэтым, даволі перачытаць такія творы паэта, як «Ілюмінацыя», «Вызваленне сялян», «Лялька», «Нядзеля», «Эпітафія землеўласніку» і г. д. Свае адносіны да паноў вельмі выразна выказаў У. Сыракомля і ў вершы «Вясковы музыка», прысвечаным С. Манюшку. Стары музыка раіць маладому кінуць свой «марны» занятак, бо ва «ўбогай вёсцы» яму не шмат заплацяць: «Тут рэдка абсеўкі, дажынкі, вяселлі, тут хлеба не вельмі, гулянак не вельмі». Малады падае думку, што трэба кінуць вёску, «дзе жывуць небаракі», і адправіцца са скрыпкай туды, «дзе багатыя людзі». «О дзіця! — адказвае на гэта стары. — …лепш знямець са сваімі песнямі, чым стукаць у дзверы багатых… Нічым не кранеш іх, бо ў душы іх — холад, слухаюць яны з пагардай на твары»***. Усё гэта, вядома, не магло не раздражняць закаранелых прыгоннікаў. Так, клерыкальны «Przegląd Poznański» адкрыта нападаў на творы У. Сыракомлі якраз за тое, што ў іх ён убачыў «выбух… нястрыманага і ніяк не зразумелага нам гневу супроць паноў і князёў…»**** Ф. Беляк у заўвагах да «Выбранага» У. Сыракомлі прыводзіць таксама яскравы ўрывак з верша Ф. Вэнжыка, які абвінавачваў вясковага лірніка ў тым, што ён «бэсціць» у асобных творах «польскую шляхту»*****.

Супрацьстаўляючы высокія маральныя якасці беларускага селяніна маральнай разбэшчанасці, фанабэрыі і ганарлівасці шляхты, У. Сыракомля смела выкрываў міф аб яе выключнасці, аб яе праве гаспадарыць над мужыком. Вельмі яскрава выказана гэта ў знойдзеным мною першапачатковым варыянце кнігі У. Сыракомлі «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах», які захаваўся ў Цэнтральнай бібліятэцы АН Літвы. Разважаючы пра старажытнасць беларускіх вёсак, У. Сыракомля

---

* Syrokomla Wł. Wybór poezji. 1970. S. 8.

** Александровіч С. Лірнік вясковы / Сыракомля У. Выбраныя творы. Мінск : Беларусь, 1966. С. 6.

*** Syrokomla Wł. Wybór poezji. 1957. S. 111.

**** Цыт. па кн.: Huszcza J. Sęp Sybiru. Lodź, 1968. S. 40.

***** Syrokomla Wł. Wybór poezji. 1970. S. 92.

пісаў (гэты ўрывак выкраслены рукой цэнзара. — *К. Ц.*): «І не адно мужыцкае імя добра было вядома праз вякі ў сваёй ваколіцы, пакуль не з'явіліся імёны і гербы магнатаў. Калі б народ наш лепей помніў мінулае, калі б разумеў ідэі так званай гістарычнай арыстакратыі — як бы ён пасмяяўся з нашай пыхі, з таго, што мы ганарымся старажытным, трыста гадоў назад атрыманым гербам, ён, што тысячы год налічвае ў сваёй генеалогіі… Наш селянін не піша і не чытае гісторыі, але, верачы ў якое-небудзь сваё вясковае паданне, з пагардай пaглядае на шляхецкую расу, інстынктыўна адчуваючы, што мы — прыхадні адкульсьці, а ён — тутэйшы жыхар і гаспадар тутэйшай зямлі»*.

Якраз дзеля таго, каб беларускі народ успомніў сваё мінулае і тым самым усвядоміў, што ён «гаспадар тутэйшай зямлі», У. Сыракомля і ўзяўся падымаць з забыцця гэтае мінулае, звярнуўшыся да гісторыі, да цікавай і самабытнай культуры беларускага народа. Гісторыі Беларусі быў прысвечаны ўжо самы першы твор У. Сыракомлі, які прызначаўся для друку, — вялікая і даволі грунтоўная натaтка пра мінулае Нясвіжа, апублікаваная ў «Старажытнай Польшчы» М. Балінскага за 1846 год. Дарэчы, у арыгінале нататкі, які захоўваецца ў Цэнтральнай бібліятэцы АН Літвы (аддзел рукапісаў, ф. 81–36, арк. 10–13), астаўся неапублікаваны дадатак — апісанне каштоўнасцяў Нясвіжскага замка, якое і цяпер мае цікавасць для даследчыкаў нашай культуры. Гісторыі беларускіх мястэчак (Нясвіжа, Стоўбцаў, Койданава, Міра), быту беларусаў, іх вуснапаэтычнай творчасці прысвячае паэт і сваю кнігу «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах» (1853); пра вёскі і мястэчкі беларускага Прынёмання расказвае У. Сыракомля ў кнізе «Нёман ад вытокаў да вусця» (1861). Вялікую цікавасць мае аб'ёмістая манаграфія У. Сыракомлі «Мінск», якая друкавалася ў двух нумарах часопіса «Teka Wileńska» (1857). У гэтай працы аўтар грунтоўна раскрыў гісторыю Мінска, якая прасочваецца на фоне ўсёй гісторыі Беларусі, расказаў пра быт і заняткі сучасных яму мінчан, а таксама на аснове фальклору беларусаў імкнуўся паказаць старажытную культуру «крывічан». Прытым аўтар асабліва канцэнтруе ўвагу на тых фактах з гісторыі Беларусі, якія найбольш красамоўна расказваюць пра яе славу, якія самі па сабе маглі ўздымаць нацыянальны дух беларусаў. Так, значнае месца адводзіць У. Сыракомля разгляду «Слова аб палку Ігаравым», якое, паводле яго меркавання, напісана «на царкоўнабеларускай мове», напісана мінчанінам, з прычыны чаго Мінск павінен карыстацца славаю горада «старажытнай паэзіі, мясцовай песні, на той самай мове, на якой спявае свае песні наш народ у час жніва»**. Шмат каштоўнага матэрыялу па гісторыі і культуры Беларусі можна знайсці і ў дарожных нарысах У. Сыракомлі «Экскурсіі па Літве ў радыусе ад Вільні» (т. I–1857, т. II–1860). Пра гістарычнае мінулае Ашмян, Смаргоні, багушэвічаўскіх Жупран, пра быт насельніцтва гэтых ваколіц шмат

* ЦБ АН Літвы, аддзел рукапісаў. Ф. 9–414, с. 224.

** Teka Wileńska. 1857. № 1. S. 208.

цікавага расказана паэтам у дарожным дзённіку, які ён вёў, едучы ў 1856 годзе праз Беларусь у Варшаву. Гэты дзённік трапіўся мне ў рукі пры азнаямленні з матэрыяламі Цэнтральнага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва Літвы*. Раскрыццю быту падвіленскіх беларусаў, іх вуснапаэтычнай творчасці прысвячае паэт шматлікія артыкулы ў «Віленскім весніку», у раздзеле «Мясцовы агляд», які вёў паэт, будучы штатным супрацоўнікам газеты. Ёсць у Сыракомлі асобныя артыкулы пра Валожын, пра Нясвіжскі замак, пра ахову гістарычных помнікаў Беларусі. Захаваліся ў рукапісе накіды артыкула пра Маладзечна, дзе паэт меркаваў паказаць усю гісторыю горада, пачынаючы з далёкай старажытнасці**.

Адным з найбольш важных клопатаў У. Сыракомлі была барацьба за права беларускага народу ствараць культуру на сваёй роднай мове. Пра гэта яскрава сведчыць даволі грунтоўнае «Кароткае даследаванне мовы і характару паэзіі русінаў у Мінскай правінцыі», якое друкавалася ў трох нумарах «Gazety Warszawskiej», а таксама чатыры артыкулы пра творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча. Насуперак шляхце, якая называла беларускую мову «хамскай», «гміннай», У. Сыракомля пісаў: «Прыгожае гэта адгалінаванне славянскай мовы — крывіцкі дыялект, і стары! Бо гэта мова нашага Літоўскага Статута і справаводства на працягу двух вякоў, XVI і XVII, і распаўсюджаная! Бо смела можна сказаць, што размаўлялі на ёй тры чвэрці даўняй Літвы, люд, шляхта і паны; пазбавіўшыся свайго пісьмовага значэння, гэтая мова сёння асталася толькі адной спадчынай сялянскіх хат…»*** Паэт шкадуе, што «багатая калісьці, яго (беларускага народа. — *К. Ц.*) мова знаходзіцца цяпер у застоі, яна перастала ўзбагачацца, а тыя, што хацелі зрабіць яе пісьмовай і тым самым заахвоціць народ да кнігі, вымушаны змагацца з многімі цяжкасцямі»****.

У. Сыракомля горача падтрымліваў і абараняў ад нападкаў рэакцыянераў беларускую літаратуру. Пасля першых двух артыкулаў пра В. Дуніна-Марцінкевіча ў той жа «Gazecie Warszawskiej» з’явіўся водгук на іх пана Ф. Скібіцкага, які падпісваўся псеўданімам У. Аўтар гэтага водгуку, што называўся «Творы на гміннай гаворцы», выступіў супроць Сыракомлі, які з вялікай радасцю сустракаў творы на беларускай мове.

Уладзіслаў Сыракомля ў сваім новым артыкуле разбівае адзін за адным усе довады пана Скібіцкага. Перш за ўсё, прыводзячы пастаўленае Скібіцкім пытанне: «Ці творы, напісаныя на мове беларусінаў, заслугоўваюць такога радаснага вітання, безадносна на

---

* ЦДАЛІМ Літвы. Ф. 96, воп. 1, с. 26, арк. 1–10.

** Тамсама. Спр. 23, арк. 17.

*** Gazeta Warszawska. 1855. № 184.

**** Kurjer Wileński. 1861. № 19.

вартасць іх зместу?», У. Сыракомля з перакананасцю адказвае: «Любы, на любой мове напісаны твор не заслугоўвае радаснага вітання, калі ён нецікавы, непрыдатны; але калі якая-небудзь мова або гаворка з непісьмовай становіцца пісьмовай, кожная напісаная на ёй кніжка заслугоўвае ўвагі — як довад узнікаючай патрэбы пісання на гэтай мове або гаворцы…» На другое пытанне пана Скібіцкага: «Ці зможа гэтая мова (беларуская) перадаваць усе адценні думкі, быць прыдатнай для розных стыляў і ўдасканаліцца да такой ступені, каб заслужыць назву асобнай мовы?», У. Сыракомля зноў з глыбокім перакананнем адказвае: «Так, зможа, бо мае дастаткова лёгкасці і адначасова сілы, перадае ў паэзіі мяккія і далікатныя пачуцці, у жывой гаворцы мае лёгкія звароты, трапныя выразы. Не стае ёй многіх выразаў для перадачы таго, што не ўваходзіць у склад паняццяў і патрэб нашага народа, але ў меру развіцця асветы самога народа і літаратуры на яго мове гэтая мова патрапіць знайсці ў сваёй глыбіні выразы і словазвароты, якіх няма сёння. Кожная мова праходзіць эпоху дзяцінства». Адказваючы на трэцяе пытанне Скібіцкага, ці варта імкнуцца, як гэта робіць Сыракомля, да ўдасканалення беларускай мовы як мовы асобнага народа, паэт-дэмакрат даводзіць, што не толькі варта, але і «неабходна». «Надзвычай разнастайную ўвогуле мову Славяншчыны, — піша У. Сыракомля, — шаноўны апанент дзеліць толькі на чатыры разгалінаванні — на мову расійскую, польскую, чэшскую і ілірыйскую. Не пярэчым, што гэтыя чатыры мовы стаяць на першым месцы сярод славянскіх дыялектаў па сваёй пісьмовай дасканаласці, але чаму ж іншым мовам не даваць развівацца, нашто ж, напрыклад, у мове беларусінаў бачыць толькі мешаніну моваў рускай і польскай? Ці тое ж самае не можна сказаць і пра маларасійскую мову? Калі так, то чаму ж шаноўны апанент чэшскую і ілірыйскую мовы ўзвышае да годнасці асобных моваў? У іх жа таксама лёгка знойдзеш і рускія, і польскія выразы». Далей паэт гаворыць пра самабытнасць, адметнасць беларускай мовы, выкрывае хлусню шавіністаў, быццам бы яна — толькі дыялект польскай або рускай мовы. У заключэнне аўтар выказвае ўпэўненасць, што беларуская мова будзе развівацца і ўдасканальвацца. «З усёй павагай да шаноўнага апанента, — піша У. Сыракомля, — паўтараем: на гэтым полі працаваць можна і **варта** (падкрэслена аўтарам. — *К. Ц.*)»*. У сувязі з гэтым вясковы лірнік ад усяго сэрца заклікае паэта з большай адказнасцю і сур'ёзнасцю ставіцца да мовы сваіх твораў, раіць яму, каб ён «асцерагаўся паланізмаў і кніжных выразаў, каб правінцыялізмаў адной ваколіцы і парафіі не прыпісваў усёй русінскай мове, каб тады толькі ўжываў чужыя выразы, калі не знойдзе адпаведных у мове, на якой піша (нашто, напрыклад, пісаць “лакоце” (łakocie) замест “прысмакі”)»**.

* Gazeta Warszawska. 1857. № 16.

** Тамсама.

Робячы разгляд беларускіх твораў В. Дуніна-Марцінкевіча, У. Сыракомля заклікаў яго «выключна (слова «выключна» ён падкрэслівае. — *К. Ц.*) прысвяціць сябе»* творчасці на беларускай мове. Падкрэсліваючы тую вялікую ролю, якая выпала на долю В. Дуніна-Марцінкевіча як беларускага паэта, У. Сыракомля ў рэцэнзіі на яго кнігу «Цікавішся? Прачытай!» зноў даводзіць, што «народная, русінская паэзія — вось арэна п. Марцінкевіча, няхай жа ён выступае на ёй як сапраўдны гладыятар»**.

Цяжка пераацаніць значэнне гэтых публіцыстычных выступленняў У. Сыракомлі для развіцця беларускай літаратуры. Яе парасткі патрабавалі тады асаблівай, павышанай увагі і падтрымкі, бо ўзышлі на вельмі неспрыяльнай глебе — у атмасферы варожасці апалячанай шляхты да беларускага народа і яго культуры. Гэтую ўвагу і падтрымку маладая беларуская літаратура і атрымала ад Уладзіслава Сыракомлі, імя якога было ў той час аўтарытэтнае. І трэба поўнасцю згадзіцца са сцверджаннем А. Лойкі і Н. Перкіна, што без гэтай падтрымкі «перш за ўсё» з боку Сыракомлі «Дунін-Марцінкевіч, магчыма, не стаў бы тым, чым ён стаў для беларускай літаратуры»***. Нездарма беларускія паэты заўсёды шукалі ў У. Сыракомлі дапамогі, пісалі яму, як чалавеку, які робіць агульную з імі справу. Пра гэта яшчэ раз сведчаць тыя пісьмы В. Дуніна-Марцінкевіча і А. Вярыгі-Дарэўскага, якія асталіся пасля смерці (1969) унучкі паэта — Былінскай****.

Вядома, з усяго гэтага ўзнікае вельмі лагічнае пытанне: як жа так сталася, што У. Сыракомля, які гэтак горача вітаў кожны беларускі твор, клапаціўся аб удасканаленні беларускай літаратурнай мовы, аб яе чысціні, які быў не простай «зоркай», а якраз «сонцам» беларускага адраджэння, пісаў свае творы ўсё ж на польскай мове?

Каб адказаць на гэтае пытанне, неабходна звярнуцца да гісторыі. Як вядома, Беларусь, якая апынулася яшчэ ў XVII стагоддзі пад пратэктаратам Польшчы, больш за дзвесце гадоў цярпела жорсткі нацыянальны прыгнёт. Беларуская мова, якая раней была дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім, паступова выцяснялася з літаратуры польскай мовай. Нават пасля ўз'яднання з Расіяй у канцы XVIII стагоддзя польская мова яшчэ доўгі час лічылася афіцыйнай на беларускіх землях. «Усё, што думае аб грамадскіх справах, — пісаў пра гэты час З. Серакоўскі, — усё, што піша і чытае ў Заходнім краі, — усё гэта цалкам польскае»*****. І таму пісьменнік, які хацеў нешта сказаць адукаванаму грамадству, вымушаны быў пісаць на польскай мове. А Сыракомля якраз і імкнуўся, як

* Gazeta Warszawska. 1855. № 184.

** Тамсама. 1856. № 16.

*** Лойка А., Перкін Н. Беларуска-польскія літаратурныя ўзаемаадносіны ў XIX стагоддзі. Мінск, 1963. С. 32.

**** ЦДАЛІМ Літвы. Ф. 96, воп. 1, спр. 101 і 302.

***** Русская старина. 1884. С. 52.

сцвярджаў сам, уздзейнічаць сваімі творамі на грамадскую думку. Перад сабой ён паставіў адну вялікую задачу — паказаць антычалавечую сутнасць прыгоннага права, пераканаць грамадства ў яго амаральнасці, у тым, што і мужык — чалавек, што ён павінен карыстацца ўсімі чалавечымі правамі, у тым ліку ствараць літаратуру на роднай мове. Якраз у гэтым — асноўны пафас усёй творчасці У. Сыракомлі. Паэт верыў, што вызваленне сялян можа адбыцца «зверху», па волі саміх памешчыкаў і цара. Таму і адрасавана яго творчасць пераважна шляхце, якую крытыкаваў паэт. А каб гэтая шляхта, ад якой залежала, на яго думку, вызваленне сялян, зразумела паэта, каб яго слова трапіла ў цэль, трэба было гаварыць з ёю на яе мове, г. зн. па-польску. Пісалі па-польску і сучаснікі У. Сыракомлі — В. Дунін-Марцінкевіч і А. Вярыга-Дарэўскі. Па-беларуску яны пісалі тады, калі звярталіся непасрэдна да селяніна, імкнучыся, як сцвярджаў В. Дунін-Марцінкевіч у пісьме да Ю. Крашэўскага, «заахвоціць яго якім-небудзь чынам да асветы і паправіць маральна»*. Гэтае высакароднае імкненне беларускіх паэтаў да асветы роднага народа, як адзначалася, усімі сіламі падтрымліваў У. Сыракомля. Разам з тым ён лічыў, што без поўнага сацыяльнага разняволення беларускага народа не можа быць сапраўднага развіцця беларускай культуры, літаратуры. За гэтае сацыяльнае вызваленне і змагаўся ў першую чаргу У. Сыракомля.

Літаратурная праца для Сыракомлі, як відаць з біяграфіі, была галоўным сродкам існавання. Праца на панскіх фальварках (спачатку — Залуча, а потым — Барэйкаўшчына), якія арандаваў паэт, давала мала, на што неаднаразова скардзіўся сам паэт. Каб пракарміць вялікую сям'ю, беднаму арандатару даводзілася вельмі многа пісаць, за што не раз папракала яго крытыка. Паэт прызнаваў: «Папрокі варшаўскіх газетчыкаў аб тым, што працую я паспешліва і шмат друкуюся, у значнай ступені справядлівыя, але маё становішча, святы абавязак па ўтрыманні трох дамоў сваёй радні прымушаюць мяне спяшацца»**. Пісаць на беларускай мове, якая была ў той час, як вядома, пад забаронай, азначала б для У. Сыракомлі пакінуць тыя дваццаць з лішнім «галодных губ», якія штодзённа чакалі «вынікаў яго пяра»***, без кавалка хлеба, пусціць сям'ю па свеце з жабрачай торбай. Гэта была ў той час вялікая «раскоша» — пісаць на беларускай мове. Але чаму ж тады, можа ўзнікнуць пытанне, гэтую «раскошу» дазволілі сабе сябры і землякі У. Сыракомлі, яго аднадумцы В. Дунін-Марцінкевіч і А. Вярыга-Дарэўскі? А ўсё таму, што як В. Дунін-Марцінкевіч, так і А. Вярыга-Дарэўскі пачалі пісаць толькі пасля таго, як сталі больш ці менш матэрыяльна незалежныя. У. Сыракомля да канца жыцця так і не «ўзбіўся» на свой кавалак зямлі.

---

* Дунін-Марцінкевіч В. І. Збор твораў. Мінск, 1958. С. 417.

** Цыт. па кн.: Huszcza J. Sęp Sybiru. S. 40.

*** Kraszewski J. Wybór pism. Oddział X. Warszawa, 1894. S. 894.

Нягледзячы на ўсе гэтыя вельмі слушныя прычыны, У. Сыракомля ўсё ж не мог не пісаць і па-беларуску. На жаль, да нас дайшла толькі мізэрная частка беларускай спадчыны вясковага лірніка — вершы «Добрыя весці» і «Ужо птушкі пяюць усюды…» Але ў сапраўднасці беларускіх вершаў было значна больш. «Калі да нас дайшло так мала беларускіх вершаў Кандратовіча, — слушна заўважае ва ўступе да зборніка паэта польскі літаратуразнаўца, даследчык творчасці У. Сыракомлі Ф. Беляк, — то вінаваты ў гэтым у пэўнай меры ваенныя падзеі, але бясспрэчна, што многія з іх кружылі ў рукапісах. Як вядома, і польскія творы, напрыклад "На вызваленне сялян", "Авідзій на Палессі", "Сахар-мароз", хадзілі толькі ў рукапісах. А справа з беларускім пісьменствам была яшчэ горшая, нават не было дазволена друкаваць перакладу "Пана Тадэвуша". Заканспіраваныя беларускія тэксты Кандратовіча жылі, але ва ўмовах тайнай прэсы, што нам сёння вельмі перашкаджае па-сапраўднаму ацаніць гэтую надзвычай няпоўную творчасць паэта»*. Беларускімі вершамі У. Сыракомля заклікаў народ сілай дабівацца сваіх правоў. Нездарма абодва беларускія вершы вясковага лірніка былі напісаны ў часы найбольшага ўздыму народнага руху: першы, «Добрыя весці», у 1848 годзе — у перыяд Вясны народаў, другі, «Ужо птушкі пяюць усюды», — у 1861 годзе, напярэдадні студзеньскага паўстання. Верш «Добрыя весці», за распаўсюджванне якога ў час паўстання 1863 года ссылалі ў Сібір, паказвае нам, як сцвярджае Ф. Беляк, «іншае аблічча паэта, найбольш рэвалюцыйнае»**.

Акрамя вершаў рэвалюцыйнага зместу, у Сыракомлі было яшчэ нямала беларускіх твораў больш «памяркоўных». Якраз іх ён хацеў выдаць разам з беларускімі вершамі В. Каратынскага асобным зборнікам, бо аб выданні такіх вершаў, як «Добрыя весці» і «Ужо птушкі пяюць усюды…», накіраваных супроць «цароў-паганцаў», не магло быць і гаворкі. Паводле сведчання А. Кіркора, многія з тых беларускіх вершаў Сыракомлі сталі народнымі песнямі, і іх «спяваюць усюды»***. Спрабаваў Сыракомля пісаць і лібрэта беларускай оперы для кампазітара Лапатынскага, але на шляху да ажыццяўлення гэтай задумы стаялі неадольныя перашкоды.

Уладзіслаў Сыракомля шырока адчыняў дзверы беларускай моўнай стыхіі ў сваіх польскіх творах, за што вельмі часта крытыкаваўся ў польскім друку. Так, крытык С. Лісоўскі, даючы высокую ацэнку кнізе перакладаў У. Сыракомлі з лацінскіх паэтаў, агаворваўся: «Праўда, сустракаюцца і недахопы, але яны, як відаць, з'явіліся вынікам паспешлівасці, выпадкова. Дзіўна, напрыклад, гучыць для нас выраз на

* Bielak F.Wstęp do ks: Syrokomla Wł. Wybór poezji. 1970. S. LXXV.

** Тамсама. С. 24.

*** Живописная Россия. Т. III. Ч. 2. 1882. С. 327.

с. 27 “Не заўсёды квеценню красуюць у агародзе”, бо мы не разумеем, што азначае “красуюць”, так, як не разумеем, што такое “сумёты”… і г. д., і г. д. Гэта, праўда, дробязі, але бачыць іх нам непажадана. Нашто ж гэтыя правінцыялізмы, калі яны не для ўсіх зразумелыя?»* Без тлумачэнняў гэтых «правінцыялізмаў», а правільней — беларускіх слоў і выразаў, не абыходзіцца сёння ніводнае выданне твораў Сыракомлі — інакш паэт проста не быў бы зразумелы польскаму чытачу. Ф. Беляк, напрыклад, у складзенай ім кнізе выбраных твораў У. Сыракомлі дае вельмі шмат тлумачэнняў «правінцыялізмаў, частых у Сыракомлі»**. Так, ужо ў першай гутарцы паэта «Паштальён», што стала папулярнай рускай народнай песняй («Ямщик»), укладальніку давялося растлумачыць такія «правінцыялізмы», як «люлька», «сумёт», «чмыхнуць», «пісар», выраз «што табе так баліць» і нават самую назву «паштальён». Яшчэ больш было беларусізмаў у рукапісах Сыракомлі, але пры друкаванні занадта старанныя рэдактары імкнуліся «падгладзіць», «падшліфаваць» мову паэта. Не пазбегнуў гэтага і найбольш сумленны з іх — складальнік дзесяцітомніка Сыракомлі выдання 1872 года, з якога вось ужо 100 год перадрукоўваюцца творы паэта, В. Каратынскі. «Каратынскі, — заўважае В. Кубацкі, — знішчае ўсялякія рэгіянальныя рысы Сыракомлі — дыялектызмы, правінцыялізмы і “перыферыйныя архаізмы”, гвалтоўна падцягваючы крэсавага паэта да агульнапольскай, варшаўскай літаратурнай нормы»***. Вядомы польскі мовазнаўца Ю. Трыпуцька, аналізуючы мову Сыракомлі, выявіў, як ён сам сцвярджае, «цэлы шэраг фанетычных, словатворных, сінтаксічных і лексічных асаблівасцяў, якія можна растлумачыць толькі і выключна крэсавым паходжаннем паэта. Часам ён выкарыстоўваў іх свядома як стылістычныя сродкі… найчасцей, аднак, рабіў гэта несвядома, бо былі яны, так сказаць, у яго ў крыві, бо яны складалі неадымную частку яго ўласнай гаворкі і мыслення…»**** Заканчваючы сваю грунтоўную двухтомавую працу пра мову Уладзіслава Сыракомлі, Ю. Трыпуцька прыходзіць да высновы, што «ні ў аднаго яшчэ польскага пісьменніка не ўдалося выявіць такой вялікай колькасці беларускага элементу, як у яго. У адрозненне ад іншых іншаземных слоў і выразаў, гэты элемент ахоплівае ўсе часткі граматыкі і амаль усюды глыбока пусціў карэнне»*****.

У творчасці Уладзіслава Сыракомлі знайшлі сваё адлюстраванне ўсе бакі жыцця Беларусі напярэдадні скасавання прыгоннага права. Па

---

* Biblioteka Warszawska. 1851. T. 1. S. 588.

** Bielak F. Wstęp. S. LXXVIII.

*** Syrokomla Wł. Wybór poezji. 1957. S. 604.

**** Trypućko Józef. Język Władisława Syrokomli (Ludwika Kondratowicza). T. II. Uppsala, 1957. S. 247.

***** Тамсама. С. 255.

творах паэта мы можам вывучыць не толькі грамадскія ўзаемаадносіны перыяду крызісу феадалізму, але і ўмовы жыцця беларускага народа таго часу, яго быт, матэрыяльную і духоўную культуру. Без творчасці Сыракомлі, якая рабіла значны ўплыў на тагачасную грамадскую думку, мы не можам па-сапраўднаму зразумець і фарміраванне поглядаў вялікага сына беларускага народа Кастуся Каліноўскага, сучасніка і ў многім аднадумца Сыракомлі. Адным словам, творчасць Сыракомлі — гэта шырокае акно ў тую далёкую ад нас эпоху.

*Кастусь Цвірка*



## ДОБРЫЯ ВЕСЦІ

Заходзіць сонца пагоднага лета,
Веіць вецер з заходніх нябёс.
Здароў будзь, вецер з далёкага света:
Добрыя ж весці да нас ты прынёс!
Здаровыя ж будзьце, эй, добрыя весці!
Там, на заходзе, праліваюць кроў,
Б’юцца для славы, свабоды і чэсці
І робяць вольных людзей з мужыкоў.
Гудзяць вясёла і песні, і танцы
У добрым жніве на шчаслівы год.
Годзе вам, годзе, царыкі-паганцы,
Таптаць з балотам хрышчоны народ!
Годзе ж вам, годзе ў яснай карэце,
Годзе, чыноўнікі, ездзіць у двор,
Годзе вам, годзе, мужыцкія дзеці,
З хаткі астаткі даваць на пабор.
І панская дзецка, і хамская юха
З аднэй кватэркі папіяюць мёд:
І прысягнулі навек, да абуха,
Быць сабе вольны і роўны народ.
Мужык і шляхціч засядзе на лаве,
Каб весці раду а сваей зямлі,
Як трэба думаць а грамадскай справе,
На адно месца, як браты, прыйшлі, —
А як урадзім вайну на грамадзе —
Бараніць дзеткі, і зямлю, і дом,
Мужык і шляхціч на каня усядзе
Касіць касою, рубаць тапаром!
Эй, згіне вораг, як Бог нам паможа
За нашу крыўду, за горкі наш жаль.
Запяём песню: «Хваліць цябе, Божа!»
Лягчэй будзе сэрцу, як згіне маскаль.

Зямля ты наша, зямля ты святая,
Радзі нам збожжа ды судзі пажаць, —
Не прыйдзе вораг з маскоўскага краю
На магазын наша зерне браць!
Ручыць рукою худоба ў хаце.
Паны мужыцкіх слёз не забяруць, —
Мужык і шляхціч стаў запанебраце,
Рукі за рукі і грудзь за грудзь.
Пяром на карце, сахой на ніве
Адзін другому роўнасць засцярог.
Эй, у свабодзе зажывём шчасліве,
Мы будзем дзеткі, а наш бацька — Бог!

*1848, 1861*

## УЖО ПТУШКІ ПЯЮЦЬ УСЮДЫ…

Ужо птушкі пяюць усюды,
Ужо кветкі зацвялі…
«Вясна прыйдзе», — кажуць людзі.
Ды скуль прыйдзе і калі?

І нашто ж вясна нам, Божа?
Мы адвыклі ад вясны…
Елкі ў лесе, мох на стрэсе
Зелянеюць заўсягды…

*1861, Вільня*

## НЕ Я ПЯЮ — НАРОД БОЖЫ…

Не я пяю — народ Божы
Даў мне ў песні лад прыгожы,
Бо на сэрцы маю путы
І з народам імі скуты.

З ім я зліўся з добрай волі,
Чы то ў долі, чы ў нядолі,
Чы гдзе гора абзавецца,
Як асіна, грудзь трасецца.

Чы пра радасць чую весці,
Усё ў грудзь хаваю гдзесьці.
Мне гаворыць вёска, хата,
Мне гаворыць сэрца брата,

Рад збіраю, што пачую,
У грудзі сваёй нашу я,
Аж, як траўка на кургане,
Яно ўзыдзе — песняй стане.

*1844*

## НАДТА САЛОДКІЯ ДУМКІ

Пакуль доля нам засвеці,
Надта ж яно міла
Думаць думкі і, як дзеці,
Пушчаць пузыр з мыла.

Верце, людзі: шчасце будзе,
Так, як пчолкам ў вуллі!..
Лезь на грушку, рві пятрушку,
Пакаштуй цыбулі!..

Хоць галоўка на грудзь вісне
І апалі рукі,
Хоць нам сэрца часам сціснe
Цяжкі ланцуг мукі,

Крычу смела: «Што за дзела!»
Каб усе пачулі…
Лезь на грушку, рві пятрушку,
Пакаштуй цыбулі!..

Наша доля гдзесь у яры
Чы у воўчым доле.
Гром грахоча, плывуць хмары,
Град пабіў нам поле.

Не пужайся! — спадзявайся…
Кукуе зязюля:
Лезь на грушку, рві пятрушку,
Салодка цыбуля!

Так найлепей жыць на свеце
З думкай гдзесь у небе,
Хоць і пусткі у калеце,
Мякіна у хлебе.

Такім шлякам ляціць птакам
Шыбка мысль, як куля:
Лезь на грушку, рві пятрушку,
Салодка цыбуля!

Гані, гані думку пусту!
Будуй з лёду плоты.
Трэба скіснуць на капусту
Без такой работы.

Спі! — а мары згоняць хмары,
От — абы заснулі!
Лезь на грушку, рві пятрушку,
Пакаштуй цыбулі!

Усюды ўзыдзе збожжа колас,
Зажывем багата!
Ўсюды шчасце слыхаць голас,
Браць не крыўдзіць брата.

Срэдзь грамады усе рады,
Добры весці чулі…
Лезь на грушку, рві пятрушку,
Пакаштуй цыбулі!

Той не будзе пры ахвоце
І весел, як трэба,
Хто не ўмее на балоце
Знайсці бохан хлеба,

З адной ніткі ткаць дзве світкі,
Чатыры кашулі.
Лезь на грушку, рві пятрушку,
Пакаштуй цыбулі!

*1844*

## ТРУНЫ РАДЗІВІЛАЎ У ЕЗУІЦКІМ КАСЦЁЛЕ

*З цыкла «Успаміны пра Нясвіж»*

Пад даўняй святыняй — дзён колішніх сховы:
Падземны там склеп, ёсць алтар у ім, краты,
Эбенавых трунаў там шэраг суровы —
Ляжаць у іх косці, сатлелыя шаты.
Нясе адтуль гніллю, хоць арыстакраты
Калісьці ў стагоддзях там склалі галовы,
Згнілі паны й пані, адно ўбор багаты,
Шкілет, герб гавораць пра шлях іх жыццёвы.
Хацелі застацца у памяці люду,
Крывёю ды золатам імя пісалі.
Былі й яны людзі — тут блюзніць не буду,
Ды што, каб яны раптам з трун паўставалі?
Зноў падалі б ніц каля іх з перапуду?
Яны ж бы на вас і зірнуць не жадалі…

*1844*

## ШТО ПРЫСНІЦЦА

Пачакай, дзяўчо, хвілінку,
На дабранач вочкам блісні,
У салодкім супачынку
Сцісні ў жмені ўсё, што высніш!

Пёс табе прысніцца, можа,
Ці цукерка, ціналіснік,
Альбо пан які вяльможны, —
Сцісні ў жмені ўсё, што высніш!

Можа, бранец з даўняй даты,
Хоць з падаграй, а карысны,
Альбо кветкі, ці дукаты, —
Сцісні ў жмені ўсё, што высніш!

Ці са шпорай бот харошы,
Ці сасніш яшчэ капрызней —
Дарагога, ды без грошай, —
Сцісні ў жмені ўсё, што высніш!

Баль ці хатку з вечнай Мары
Тых, што верш плятуць без мыслі,
Ці ў люстэрку ўласны тварык, —
Сцісні ў жмені ўсё, што высніш!

А калі расплюшчыш вочы,
Не забудзься, не распрысні,
Бо там будзе сон прарочы, —
Сцісні ў жмені ўсё, што высніш!

*1845*

## ТЫ ПАМЕРЦІ НЕ ПАВІННА

Мкнуць хвіліны, мкнуць гадзіны,
А за імі зімы, леты.
Трапіш так і ў дамавіну
Ты, залётны госць сусвету.

Павандруе дух сірочы
У нябесныя вышыні.
А труну пацук паточыць,
Парахно касцей раскіне.

Перад тым жа труп застылы
Урачыста несці мусяць.
І прамоўца, люба-міла,
Пра цябе народу схлусіць.

З плачам пекным апранецца
У жалобу, як да балю,
І яна… Друг адгукнецца
Вершам сумным, поўным жалю.

Вось і ўсё, бадай, для цела,
Ды зямлі вільготнай груддзе…
Дзе ж усё, што летуцела,
Што агнём паліла грудзі?

Ўсё пагасла, ўсё патухла —
Думкі, сэрца, шчасце, слёзы.
Рэшткі ўсе, як пацяруху,
Вецер звее ў ніцы лозы.

Песня! Я ў табе пакіну
Варты неба дар нябесны!
Ты памерці не павінна,
А з табой і я ўваскрэсну!

Нелюдзь, пэўна, мкнуцца будзе
Здратаваць цябе і сцерці.
Але знойдуцца і людзі
Паратунак даць ад смерці!

*1845, Залуча*

## П'ЯНЫ БЯДАК

Мёд нам хмеліць галовы,
Людзі дзейкаюць хорам.
Я ж ні з кім ані слова,
Дый са мной не гавораць.

Эх, ці ж я вінаваты,
Што ў нас розныя сцежкі:
Ім і ўчора — як свята,
Ім і заўтра — усмешкі.

А якім жа праклёнам
Мне свой выстагнаць смутак?
Маё ўчора — пакута,
З вострых церняў карона.

Заўтра — цьмяна для вока,
Не чакаю патолі,
Быць не трэба прарокам,
Каб прадбачыць нядолю!

Маю хату ў даліне,
Дзе рачулка булькоча,
Хваля весняя рыне,
Адбярэ мой дамочак.

Людзі цешацца з вёснаў,
Мне ж і сонейка шкодзіць.
Нават скарга на лёс мой
Глухне ў шуме разводдзя.

Пад дубовай галінай
Захачу прыпыніцца,
Дождж на голаў мне ліне,
Пражане навальніца.

Летам людзі на полі
Светлым зросяцца потам,
Толькі крык майго болю
Зглухне ў гуле грымотаў.

Свет абсыпле імжою
Восень з хмарнага крысся,
Думак золь нада мною
Туманамі навісне.

Сыты восенню людцы,
Ёсць і мёд, і смятана:
А ў мяне слёзы льюцца
З нэндзы горкай — я п’яны.

А зімовай гадзінай
У сям’і, між малечы
Мае кожны спачынак,
Свой агеньчык у печы.

Я ж без дому, без роду,
Без агню на камінку,
Каля плота ў нягоду
Прычакаю спачынку.

І грабар мяне злае,
Грунт б’ючы зледзянелы,
Што памёр да цяпла я,
Быццам конча прыспела.

Ні кадзіла над долам,
Ні імшы, моцны Божа,
Нават цэглы пад голаў
У труну не паложаць.

Ці ж па мне загалосяць,
Ці слязьмі хто зальецца?
Дождж магілу заросіць,
Ветру хіба ўздыхнецца.

Востры сівер з паўночы
Замяце дамавіну, —
Скончан шлях мой сірочы,
Вось мой вечны спачынак.

*1845, Залуча*

## ПРА МАЮ СТАРУЮ ХАТКУ

Бачу вербы роднай вёскі,
Берагі рачулкі бачу.
Тут пазнаў я шчасця росквіт,
Боль ад першае няўдачы.

*Мацісан*[1]

1

За гарою за высокай
Леваруч дубы старыя.
Тут і Нёман цешыць вока,
Ён зялёны бераг мые.

А правей — як шляк, балота,
Вербалозы над дрыгвою.
А над імі і над слотай
На пяску гамоніць хвоя.

Паркановай трапіш вулкай
Да старой пахілай хаты.
Да зямлі яе прыгнула,
Мох страху закрыў і латы.

Цераз шчыліны ў драніцы
Можна немаль бачыць неба.
Гэта ўсё — мая святліца,
Лепшай мне нідзе не трэба.

Астракол, нібы на варце,
Каля весніц, перад ганкам.
А ў аградачцы, пры хаце,
Густалісты бэз альтанкай.

Перад вокнамі хаціны
Кветак, зёлак розных лешка[2].
Да агрэсту і маліны
Каля іх віецца сцежка.

Праз аградку бачыш поле,
Як плыве здалёку Нёман.
А пры шчытным астраколе
Ля вулля пчаліны гоман.

Тут маё ўсё ў агародзе,
Хоць убога ў ім і дзіка.
Тут я ў радасці, ў нягодзе
З рукапісам і матыкай.

Быццам сніцца сон цудоўны,
Так мне добра і вясёла.
Валатоўнай сілы поўны,
Пазіраю я наўкола.

Калі гляну на даліны
Ці на поплаў бераговы,
Ў захапленні вокам кіну
На шумлівы бор сасновы

Ці пушчу пагляд па хвалях,
Як рыбак на вёслах човен, —
Хараство прыносяць далі,
Пекнатою край мой повен.

Далягляд мой — нібы заля,
А рыбацкія хаціны,
А лясы, краса ўся ў далях —
Нібы ў залі той карціны.

Там аблокі над блакітам
Праплываюць ціхім статкам.
Покуль неба не закрыта —
Ўсё ж мая трывае хатка.

А як прыйдзе навальніца,
Абароніць дах наўдачу:
Цераз столь вада бруіцца,
Цераз сцены вецер плача…

2

З лесу звон сякеры чутны,
Вокал водгулле лунае.
Я вясёлы, я і смутны:
Хата будзе мне другая.

На старой маёй хаціне
Ўся страха амаль раскрыта.
У налецці я павінен
Жыць у новай самавіта.

Ах! Старую збураць хатку,
Ўсе куточкі, столь і сцены.
Дзе ж старыя дзену згадкі,
Дзе свае ўспаміны дзену?

Ці, бывала, цісне сэрца
Хваляваннем, сумным страхам,
Мне найлепш было сагрэцца
Пад маім збуцвелым дахам.

Ці, бывала, прыйдзе шчасце —
Адгукнуцца сцены рэхам.
Так пазбудзешся напасці,
А слязу прагоніш смехам.

Вось і прызба, вось і ганак…
Тут я слухаў напрадвесні:
Каля Нёмна ў ціхі ранак
Салавей спяваў мне песні.

Часам песнямі сваімі
Абуджаў ён жаль на сэрцы,
Часам сум такі узніме,
Што сляза ў слязу ліецца.

Неаднойчы… захапленне
Шчасным смуткам сэрца кроіць.
Але сэрцу гора меней,
Калі спогад шле другое!

Вось пакойчык мой самотны,
Фарбаваны ў колер цэглы.

Колькі думак тут гаротных
І прыбегла, і прабегла…

На сцяне вяночак жыта —
Пра дажынкі успамінак.
Вось сафа, што пылам крыта, —
Мой ад працы адпачынак.

Столік мой — мая сталіца,
На стале паперак горы.
Кніжак поўныя паліцы —
Маё шчасце, маё гора…

А над столікам высока
Павуцінне вісне долу.
Там маё бывае вока
Ў часе думак невясёлых.

Павуцінне ў бляску сонца
Зіхаціць, нібы вясёлка,
Калі думку-валаконца
Я сную-складаю ў столкі.

Тут і комін — друг найлепшы,
Ён выносіў дым цыгарны.
Ў ім свае паліў я вершы,
Можа, часам марнатраўна…

Вось пакой таму для пары.
Хіба ў ім прасторы мала?
Тут бывала ява ў мары,
Думка з сэрцам размаўляла.

Ці стамлёны, ці знясілы,
Супачыць я мог у хаце
І ў абоймах жонкі мілай,
І ля роднага дзіцяці.

На канапе разасланы
Дыванок, у кветы тканы.
Тут і столік для гарбаты,
Тут партрэты Банапарта…

Як любіў я, калі госці,
Ўсё найлепшыя суседзі,

Дадавалі весялосці
Роднай песняй пры бяседзе.

А яшчэ найлепш было мне
З другам шчырым, сябрам пэўным
Да паўночы ў ціхім гомне
Ўспамінаць аб задушэўным…

Супачыць калі ахвота, —
Мякка ў ложку, як на цэгле,
Тут жылі мае турботы,
Сны мае адгэтуль беглі…

Летуцеў я ў гэтай хаце,
Думка мару тут жахала.
На ўзгалоўе гэта, браце,
Слёз прабегла — эх! — нямала…

3

Спарахнееш, станеш тленам,
Хоць стаіш пакуль што, хата.
Як я ўрос у твае сцены,
Ты ў душу маю ўрасла так.

Што вазьму я са старое
На пярэбары да новай?
Будзе тое, ды не тое,
Хоць, мажліва, адмысловей.

Аднясу я ў хату тую
Стол, цыгары, узгалоўе.
Мо адновім быль старую,
А душу ўжо не адновім.

Цяжка ўражанняў шукаць мне
Заржавелымі вачыма.
Дзён мінулых новай хаце
Перадаць мне немагчыма.

Выгляд новы з новых вокан.
Тут на Нёман не зірну я
І лясоў, з другога боку,
Ціхі гоман не пачую.

А мой кветнік… Прэч сумоту!
Не вярнуць гадоў квяцістых…
Пра імпэт дарэмны клопат —
Трэба жыць цяпер статыстам…

Не вярнуць, не перайначыць!
Дай жыццю таму валету![3]
Па старому хай заплача…
Хвілька, хвілька… Дзе ты? Дзе ты?

*15 лютага 1847, Залуча*

## НАД КАЛЫСКАЙ

Гады за гадамі сплываюць вадою,
Глядзіш — ад маленства да сталасці блізка.
А чым жа ты станеш, дзіцятка малое,
Як выйдзеш, як выплывеш з гэтай калыскі?
Магчыма, на службу пакліча Феміда,
Каб шалькамі важыў і праўду і крыўду?
Запэцкаеш рукі, маё ты дзіцятка,
Заблоціш кашулю крывёю нявіннай,
Кашулю, што хросныя бацька і матка
Ўрачыста надзелі табе на хрысціны.
А можа, гарачае юнае сэрца
Да славы вайсковай адважна памкнецца?
І станеш, як рыцар, за тое змагацца,
Каб лепш зіхацелі чужыя палацы?
І станеш, як рыцар, адважна да бою,
За ўсё, што табе і айчыне чужое,
Сабе адшукаўшы урэшце магілу
Ў далёкіх, не нашых якіх Фермапілах?!
Ды сёння ж на рыцараў попыту мала,
На высакародных, адважных, трывалых.
Калі ж мы паверым сучаснай газеце,
Дык войны ўсе знікнуць павінны на свеце.
З’яднаюцца братняю дружбай краіны
Ў магутны хаўрус, непадзельна-адзіны.
Шкада толькі будзе, як выйдзеш ты марна,
Увесь закаваны ў сталёвую броню.
Каб страху нагнаць на гасцей у кавярні, —
Даволі з’явіцца ў звычайным бастоне.

А можа, свой розум і грэшнае цела
Суздром ахвяруеш біблейскаму Богу?
А тое, аб чым тваё сэрца хварэла,
Пакінеш ты перад касцельным парогам?
Яшчэ не дачуўся ты, пэўна, пра тое,
Што мудрых асэсараў цэлая зграя
Збіраецца неба разбурыць святое,
А свет філасофскі паставіць над раем.
У часе кароткім, так пішуць, усюды
Ўсе згінуць абрады старыя і цуды.
І «Верую» наша, што ўсмоктана з млекам,
Не будзе ў жыцці кіраваць чалавекам.
Зірні — гэта ж пара прыносіць асвету,
З паровых катлоў, з параходаў імкнецца.
«Паровыя думкі» маланкай над светам
Лятуць вокамгненна ад сэрца да сэрца…
А дзе ж табе, хлопча, шукаць сваю долю,
Калі ў наваколлі хапае тых дзіваў?
Хіба табе шчасце якое дазволіць
Стаць за машыніста лакаматыва?!
О не, мой маленькі, інакшай дарогай
Ты пойдзеш, мажліва, да суджанай мэты.
Калі падрасцеш ты, прасі пана Бога:
Няхай цябе зробіць вялікім паэтам.
Людзей ты пабачыш з каменнем у сэрцы,
Знясіленых духам, на сцежцы да смерці.
Пазнаўшы раскошу да сыці, адволі,
Утраціўшы веру, любоў і надзею,
Яны мізарнеюць, дранцвеюць паволі,
А хутка дык стануць сцюдзёным каменнем.
У дол пахавальны пара ім збірацца,
А золата ўзяць пад галовы маняцца…
Хутчэй жа прыўзняць іх! Дарэмна жаданне!
Хто вызваліць іх з-пад цяжару камення?
Калі захапіла іх душы згасанне,
Агонь ім у сэрцы наўрад ці хто верне!
О вы, што адзіныя здольны на гэта,
Ударце па струнах, зайграйце, паэты!
Патрэбны вяшчун нам, патрэбны прарок нам,
Каб меў ён і ліру і спеў перуновы,
Каб гэтаю песняй і ясным каб вокам,
Як сонца, ён шлях асвятляў наш баёвы.

З’явіся, паэце! Магчыма, сягоння
Прыйшоў ты на свет наш чаканае здзейсніць.
Дзіцятка малое! Ў нялюдскім прыгоне
Табе, можа, суджана выспеваць песні,
З якіх наш народ ад навалы прачнецца,
Пачнецца народа ўсяго ўваскрашэнне,
Зямля ўся адчуе пульсацыю сэрцаў,
А лёд закіпіць і размякне каменне.
Вялікая справа! Чало маладое
Аздобіць вясёлкамі памяць народа.
Але за жыццём…
О, дзіцятка малое! —
Цяжкая чакае цябе ўзнагарода! —
Цярновы вянец на чале тваім будзе
І грымне варожасць каменнем у грудзі.
Не здумай заплакаць! Пакуты наслання
Табе, нібы зоркі пачэснай праменне.
На свеце затым і было ўкрыжаванне,
Каб сэрцу мілейшым было ўваскрашэнне.
Бо толькі нікчэмны прыхільнік зямнога,
Ад лёсу і гора айчыны далёкі,
Ў жыцці не жадаў бы такой жа дарогі,
Якою прайшлі і Сакрат, і прарокі…
Цяпер жа… Якога там ліха героі!
Яны, як сучасныя нашы паэты,
Пачуўшы пра штосьці страшное-цяжкое,
Адразу бягуць да тлусцейшае мэты.
У сэрца як торгне, пачнуць скавытанне,
Адвага дарэшты іх сэрцы пакіне,
Калі ж навальніца сапраўдная стане,
Дык рады схавацца бы і ў дамавіне.

Зганьбованы самі сваімі слязамі,
Яны наракаюць на долю таксама.
Да ліры хоць пнуцца адзін праз другога,
Ад іхняга грання карысці нямнога.
Нікому няўцямны іх мутныя песні,
Ад песень такіх свет ніколі не ўскрэсне, —
Кірунак не той і матывы не тыя,
Што пелі калісьці паэты старыя,
З’ яднаныя з доляй народнай і горам,
Якіх і святымі назваць нам не сорам.
У жылах нам кроў абуджала нанова

Прарочае слова, мастацкае слова.
Адзін — як паток, веснавая паводка —
Спяваў нам пра славу выдатную продкаў.
Другі, пра нябесныя кажучы лёсы,
Вучыў, на зямлі каб стварылі дзівосы.
І слухалі з любасцю людзі прарокаў,
Хадзілі на бітвы, тварылі навокал.
Не ведалі скаргі нікчэмнай на тое,
Што цэзар гняце да зямлі ўсё жывое
Або што пара супачыць нам ад працы
На беразе сіняга мора, ў палацы.
Прароча! Хлуслівая тая размова,
Што з песні нібыта карысці замала.
Спявай нам цудоўнаю матчынай мовай,
Каб кожнае слова за сэрца кранала.
Ад песні тваёй, як ад яснага ўсходу,
Увойдзе дух новы у сэрца народу.
Нібыта Ісайя, дасі нам нанова
Праз вусны зямныя нябеснае слова
Або, як Гамер, праспяваеш-раскажаш
Вялікую песню аб прадзедах нашых —
Пра іхнюю працу, паходы, змаганне,
Пра іхнія звычаі, мужнасць, абрады,
Якімі шляхамі шукалі Світання
І хто вінавайца ўсяго заняпаду.
Ты стань як Арфей, каб ад песні цудоўнай
Злучыліся людзі ў хаўрус непадзельны,
Якія цяпер на ўсе бокі-староны
Развеяны сілай варожай, пякельнай.
Няхай Апяшаласць, Нязгода і Здрада
Цябе не сустрэнуць гамонкаю ёлкай,
Няхай твая ліра чаруючым ладам
Зайграе, як барвамі грае вясёлка.
Не меўшы нябеснага таленту ў сэрцы,
Ніяк не паможаш ты цудам з’явіцца.
Калі ж давядзецца нам з імі сустрэцца,
Мы ліры свае пакладзём на паліцы.
Хай моладзі прыйдзе шчаслівая доля,
Счарсцвелыя душы прывабіць, узрушыць.
Спявай, каб адчулі-пазналі патолю
Ўсе тыя, што сёння — як камень у крушні.
Зноў родзяцца ў свеце вялікія людзі,
Ізноў красаваць век вялікі ў нас будзе.

Вось гэта ўсё — мэта выдатных паэтаў.
Дзіцятка! Імкніся да гэтае мэты!
Як маеш адвагі багата і сілы,
Калі цябе родная маці натхніла, —
Ты створыш, ты здзейсніш той цуд, безумоўна,
У песні дзівоснай, нябеснай, цудоўнай!
Калі ж не далі табе голасу з неба,
У рад вершатворцаў залазіць не трэба.
І так не ўпраўляюцца нашых паэтаў
Вазіць на Парнасе крылатыя коні.
За самыя лепшыя нават санеты
Не знойдзеш пяшчот у каханак ты сёння.
Дарэмна спяваць ты ім будзеш узнята
Пра спеў салаўіны, пра шэпты зефіру, —
Мудрэйшыя нашага часу дзяўчаты:
Больш золата любяць, чым дзеньканне ліры!

*17 ліпеня 1847*

## ДА А. П.

«Пан вялікі, — пішуць у газеце, —
З сваім грэшным целам развітаўся».
Далібог, не чуў я, што на свеце
Жыў той пан і ў нашым нават часе.
Шмат паноў і ясных і вяльможных
Адыходзіць у нябыт навекі.
Мне ж здаецца, хоць я незаможны,
Можна жыць па смерці чалавеку.
Хоць нядоўга — перабуду згубу
І уладзе часу не паддамся:
Або ў сэрцы друга жыць я буду,
Або ў песні у сваёй, прынамсі,
Не надхмарныя ж мае надзеі!
Мы аднолькавымі станем потым:
І вяльможныя ўсе дабрадзеі,
І хто працу аблівае потам,
І хто дні марнуе ў весялосці,
Пехатою хто, а хто ў карэце —
Ўсе сустрэнуцца ў адным пагосце,
На адной з’яднаюцца ўсе мэце.

Трывалейшы — знойдзе узгалоўе
Міжы чатырох дасок яловых,
А каму пад карак квола-нежны
Прывязуць здаля эбен замежны.
Мармур пышны нададнымі стане,
А другім паложаць просты камень.
Каля хвоі ляжа камень просты,
Мармур кіпарысамі аточаць.
Покуль мохам парасце убоства,
Мармур пышны ўвесь на жвір здрузгочуць.

*1847*

## НАТХНЕННЕ

Ёсць пачуцці ў персях з гліны,
У мазгу ёсць думкі-цацкі,
А бывае, тым спружынам
Штосьці рух надасць знянацку.
Пульс абудзіць ад дрымоты,
Думку выхапіць з цянётаў.
Рэдкі госць той прыйдзе знекуль,
А не бавіцца нідзе ён,
Ды пакуль пры чалавеку,
Той бывае цудадзеем.
Памяць траціць ён імгненна
У вандроўцы летуценнай.
Мігацяць кругі прад вокам,
Сэрца б’ецца ледзь не скокам,
Варам кроў бяжыць па жылах,
Твар у сонцы, лоб у поце,
Толькі ўздых лье ў грудзі сілы,
Як вятрыска на спякоце.
Гляне ён тады ў прасторы…
Свет у постаці чароўнай!
Ён спяваў бы, зрушваў горы,
Абдымаў бы ўсіх, як кроўных.
Гэты стан такі салодкі,
Жыць бы ў ім даўгія леты,
Але ў госця час кароткі
У ледзяных веях свету…

Ці хвіліну, ці імгненне —
Быў і згас ён, як праменне.
Халадзеюць думкі, мары;
Сэрца просіць адпачыну,
І агонь знікае з твару, —
Чалавек зноў косць ды гліна.

*1849, Залуча*

## БУСЕЛ

Зімка надходзіць, звіслі туманы,
І вецер круціць і свішча,
На небе — цёмных хмар караваны.
Бусел узняўся і, задуманы,
Паплыў павольне на ржышча.

Сеў і клякоча, падняўшы ногу,
Дый жмурыць цёмнае вока.
Пэўне, ён думку ўздумаў глыбока —
Ужо выбірацца ў дарогу.

«Добра на вырай ляцець цяплейшы,
Пабачыць дзівы ў чужбіне,
Сонца над Нілам агонь яснейшы
І думаць думку пра край тутэйшы
На пірамідзы вяршыне.

А толькі… толькі ведама Богу,
Чы смерць у дарозе абміну?..
Пабачу жа Нёман і азярыну?!
Сяду ж на купцы мурогу?!

Я ж тут радзіўся, гдзе гэта хатка,
Шчасця знаў дзянькі нярэдкі:
Ось тут, гдзе выган і сенажатка,
Бывала, косіць касцоў грамадка,
Клякочуць жонка і дзеткі.

Добра ж тут была!.. Цяпер не знаю,
Чы не заплачу па згубе?
Чы, прыляцеўшы вясной з выраю,
Гняздо застану на дубе?

Рад бы застацца ў гэтай старонцы,
Гдзе страх не страшыць, ні гора,
А толькі болей не грэе сонца
Дый няма корму дзеткам ні жонцы,
Снег тут пасыпле ўскора».

Так пажурыўшысь думкаю шчырай,
Бусел, узняўшысь паволі,
Паплыў па небе кудысь на вырай
Шукаць і шчасця і долі.

*1849*

## А. Э. АДЫНЦУ З ПРОСЬБАЙ ЗМЯСЦІЦЬ У ГАЗЕЦЕ «KURJER WILEŃSKI» АБ'ЯВУ АБ КУПЛІ ЗЯМЛІ
*(у скароце)*

Была б страха, хоць і нізкай хаты,
Сэрца пры сэрцы, крынічка ў травах,
Тытунь для цыгаркі, шклянка гарбаты,
Больш ні пра што я не сніў бы нават…

Ды на арэндзе маёй дагэтуль,
На жаль, я не маю такой раскошы:
Амаль не родзіць пясчаны палетак,
З кішэні як бачыш знікаюць грошы…

Купіць страху, што яго заслоніць
Ад зімняй сцюжы і спёкі лета,
Дзе, вольны, з лютняй сваёй у далоні
Складаў бы песні ён ды санеты,

Дзе б мог ён бачыць з акна небасхілы,
Вясковыя стрэхі, крыжы на магілах,
Альбо сустрэцца б мог з селянінам,
Свабодна паплакаць горкай часінай.

Няхай была б мне сялянская хата
Рада, калі б я яе наведаў.
Хай мяне дрэў акружалі б шаты
І побач бачыў сядзібу суседа.

А калі б чуў я звон кос між ракітаў!
А калі б бачыў, як жнеі жнуць жыта!..
Як бы там пелася! Хіба ж не ўцеха:
З лесам ва ўласнасць купіць сабе рэха!

*1849, Залуча*

## НА ПАЛЕССІ

Сярод багнаў і бораў,
На пясочку на рыжым
Села вёска ў пакоры,
Як убогі пад крыжам.

Шумяць тонкія сосны,
Нуды ў шуме тым многа:
Выгляд вёскі нязносны,
Выглядае убога.

Людзі ў зрэбных сярмягах,
Лапці ногі ім вяжуць,
Уваччу голад, смага,
Б’е ад іх дым і сажа.

Тарчаць пуняў і хатаў
Ломам сцены-шкілеты,
Замест гонтаў на латах —
Лахманы з ачарэтаў.

Гняздо ж бусел бяспечна
На страсе пачаў класці, —
Селянін верыць вечна,
Што яго ў гэтым шчасце.

Не пляці гэтых божбаў…
Жывуць буслы пустынна,
Калі ж слухаць варожбаў, —
Шчасна й ваша краіна.

О, жывём мы шчасліва!..
Трудна хлеба век меці,
Глядзіць пусткаю ніва,
Пустка ў пуні і клеці.

Думкі скрыты памрокай:
То прасветласць, то цьма там;
Уздыхаеш глыбока
Над сабою, над братам.

Нікне з сэрца надзея,
Праўдзе верыць марудзіш…
Надта ж гора дадзене —
На свет цэлы забудзеш.

Сцежкі росіш слязою,
Гіне труд без патолі,
Варажба варажбою,
А нядоля нядоляй.

Недзе ў далі палае
Наша сонца-багацце,
Бусел стуль вылятае
Бедакоў прывітаці.

Людзі бусла пусцілі
Чысціць свет з брыды ўсякай,
Ды ці ж птушчынай сіле
Усіх знішчыць вужакаў?

Зводзімся забабонам,
Як бяду напаткаем,
Няма долі даўно нам, —
Варажбой намагаем.

Чалавеку бясконца
Шчасце ў прышласці сніцца,
Покі ж выгляне сонца,
Грызе вочы расіца.

*1850*

## РАТАЙ ДА ЖАЎРАНКА

1

Я ару, а ты мне звоніш, жаўручок, з дасвецця.
І мы, людзі, і вы, птушкі, — Божыя ўсе дзеці.
Чалавек у поце хлеб свой здабывае ў полі,
Птушцы ўзімку дробных зернят быльнягу даволі.
Мне таварыш ты, зраўняцца ж нельга мне з табою:
Свет паднебны ты чаруеш песняю сваёю.
Ты шчаслівы і вясёлы. Што ні дзень, ты рана
Зноў ляціш спяваць з анёлам радасна: асанна!
Бог сам рады тваёй песні, цябе хваліць неба,
Што табе на белым свеце гэтак мала трэба,
Што ўслаўляеш гэтак Творцу, яго ўзгор'і, рэкі:
«Няхай будзе пахвалёны навекі, навекі!»

2

Я ару, а ты мне звоніш, жаўручок, таксама.
Табе лёгка — заляці, брат, да нябеснай брамы,
Раскажы там аб ратаях, долі невясёлай:
Люд вясне не рад, бо ходзіць голад зноў па сёлах.
Чалавек прачнецца рана — рук крануць не ў сіле,
Песню спеў бы, толькі грудзі з голаду застылі.
Што нам кліч вясны-красуні, ранак той чароўны,
Калі зноў і зноў па мёртвых звоніць звон царкоўны.
Плачуць дзеці, і бацькоў іх у бакі хістае:
Жаўруку вясна — раскоша, ды смерць — для ратая.
Раскажы ўсё Богу: можа, нам дадасць апекі —
І хай будзе пахвалёны навекі, навекі!

*10 красавіка 1851 года*

## ПРЫСВЯЧЭННЕ ЛІТВІНАМ НАРОДНЫХ ГУТАРАК

Браткі мае з-пад Вяллі, з-пад Нёмна,
Калі вы рады гаворцы скромнай,
Я пагуду, а вы сядзьце ў кола,
У чаркі стукнем, каб стала вясёла,

А мо ж і выплыве праўда з донца
Ці ўкрадзем ад смутку часіну сонца.

Зляплю я вершык наспех часамі
І падзяліцца спяшаю з вамі,
Бо кожны шчыра так сустракае,
Гатовы слухаць мяне, пустабая.
Дык будзем рады гэтай прыгодзе,
А дзверы, пэўна, замкнуць не шкодзіць,
Каб панічок ці які падпанак
Не пасмяяўся з нашых спяванак.
Мы з вамі, праўда, майстры не надта,
Верш з-пад сякеры, яшчэ шурпаты,
Але слухач скажа ўдзячнае слова,
Сэрца адчуўшы у ім песнярова.

З вамі, браткі у сярмязе і ў світцы,
Кнізе лягчэй на свет нарадзіцца;
Мужык невучоны хутчэй дазволіць
Прыйсці паслухаць, адкуль нядоля:
Ці Бог карае, ці сам вінаваты,
Ці зазірае радасць дахаты.
Твар то збялее, то ўспыхне агніста, —
У селяніна і ў персях празрыста,
Як на далоні, пачуцці адкрыты,
Лёгка схапіць, запісаць у сшытак.
І калі братняе кола збяру я,
Хто мне нязграбны верш не даруе?!
Хто ніцаваць спеў дзядоў захоча —
З думкі да думкі, з радка ў радочак?

З панствам вяльможным рахуба не тая, —
Хто іх аблічча, сэрца ўгадае?
Як ім спяваць, заўжды надзіманым, —
Хочуць за грошы тавар без заганы.
Ёсць для іх кніжкі ў залочаных шатах,
Проста з Парыжа, з найлепшых варштатаў.
Дзе нам угнацца за той бягою, —
Адно Парыж, а Літва другое.
Той, каго вабяць пахі з-за межаў,
Што яму водар лугоў нашых свежых?
Ён пасля опер грэбаваць стане
Жаўранка песняй у сонечным ранні!

Сэрца, жыццё я аддаць гатовы,
Пяю табе, мой народ шарачковы,
Толькі з табой спадзяванні злучаю,
Смутак і радасць, хвіліны адчаю.
Подых палёў тваіх лашчыць аблічча,
Песні я ў птаства твайго пазычу.
Моваю сэрца хай думы бруяцца.
Музыкай жніва, касцоваю працай.
Хай пад страхою жабрацкай хаціны
Верш прачытаюць браты-ліцвіны,
Калі адчуюць брата ў паэце,
Значыць, не марна жыў я на свеце.

*1852, Залуча*

## ЛІРНІК ВЯСКОВЫ
*Ідылія*

### I

Ліра мая ты спеўная! З чараўнічага дрэва,
Мусіць, ты змайстравана.
Ледзь вазьму цябе ў рукі, ўсе, як ёсць, твае гукі,
І песняй я ўвесь забраны.

Чую радасць без краю, быццам бы сэрца грае
І смутна, і вясёла.
Я шчаслівы, багаты, зноў ад хаты да хаты
Іду праз родныя сёлы.

У дарагой старонцы і дзень, і ноч, і бясконца
Граць і граць буду людзям, —
Да ўсхваляванага твару горача кроў ударыць,
Болем сціснуцца грудзі.

Хай рука ўся здранцвее, сэрца няхай замлее,
Тону не зніжу я, шчыры.
Мо нават страчу голаў, усё ж я — лірнік вясковы,
Памру, пеючы на ліры.

II

Ліра мая ты спеўная з чараўнічага дрэва!
Ты — інструмент небяспечны!
Хто да цябе прыхінецца, струн тваіх дакранецца,
Помніць цябе будзе вечна!

Думка да зор панясецца, шчасця захочацца сэрцу,
Страты згадае кожны.
Ты — пакаранне з неба! Нібы з той брытвай, трэба
Быць з табой асцярожным!

Брытва парэжа цела, песня ж, што з сэрца ўзляцела,
Раніць душу маладую.
О! Людзям часта здаецца: лірніку лёгка пяецца,
Быццам бы ён не гаруе.

Што могуць ведаць людзі, як мне баляць часам грудзі,
Як мяне думы будзяць:
Граць ад сэрца, як трэба, граць высокаму небу
І ў карчме добрым людзям.

Граць адзінай, каханай, хай мой спеў палымяны
Ёй душу ахінае, —
Ці жне жыта на полі, ці гуляе ў прыволлі,
Ці ў гайку спачывае.

Ну ж ў мяне і дзяўчына! Хлопцы роем пчаліным
Уюцца пры ёй, бывае.
Хваляцца — той вусамі, той — серабром, кутасамі,
Той — меч стальны выстаўляе.

Бог мне болей прызначыў: даў мне талент спявачы!
І прад любым мундзірам
Песню не зніжу і галаў — горды лірнік вясковы,
Памру, пеючы на ліры!

III

Ліра мая ты спеўная з чараўнічага дрэва,
З табой надзея малая!
Песні не гожыя, мусіць: ці перад небам малюся,
Ці для людзей заспяваю, —

Толькі ніхто й не зважае, як ад сцяны, адлятае
Голас — у хаце ці ў полі.
Бо каму ні пяю я, — чуе ды як бы не чуе.
О мая бедная доля!

Так, калі часам з краю сяду ля алтара я
І, як хачу, зайграю,
Ксёндз глядзіць тады з гневам, што царкоўныя спевы
Смутным тонам збіваю.

А як пайду на свята, дзе хлапцы і дзяўчаты
Весела ў крузе скачуць,
У шуме гульняў вясковых лёс свой кляну песняровы,
Нават цішком заплачу.

Слухаць пачне дзяўчына, але душу зачыніць,
Гора мне, горка на сэрцы, —
Позірк лаўлю я харошай, кіне ж яна мне тры грошы
І ў скокі з іншым ірвецца.

Дзед загугнявіць ля вуха: «Колісь я лірнікаў слухаў!
Гралі — будзьце здаровы!
Сёння ж ліру, бывае, хлопец бязвусы трымае, —
Даць яму б рог пастуховы!»

І так паўсюль: маё гранне хваліць адзін, іншы ганіць.
Дзякуй, дзякуй вялікі, —
Што мне з гэтакай ласкі, калі ў далоні хто лясне, —
Раніць ён сэрца музыкі!

Ліра! Ты боль мой і церні! І ўсю разбіць бы цяпер мне!
Кінуць бы ў кіпень віру!..
Ды толькі ты — мая мова, і я ўсё ж лірнік вясковы!
Памру, пеючы на ліры!

IV

Ліра мая ты спеўная з чараўнічага дрэва!
Пояць слязамі людзі
Песні мае, і ў часіну, калі навек я спачыну,
Ты маім помнікам будзеш.

Эй, разляціцца навокал рэха тваё далёка!
Я ад краю да краю

Спеў данясу твой са славай — аж да Кіева нават,
Аж да самога Дунаю.

Некалі ў вокны — так будзе! — стукнуць чужыя людзі
Да суседскай хаціны:
«Мы ўсе прыйшлі, каб глянуць, дзе спачывае нам знаны
Лірнік — гонар краіны».

Будуць вяскоўцы здзіўляцца, ціскаць плячамі, шаптацца,
Скрозь паляцяць пагалоскі:
«Людзі з далёкага краю нашыя песні спяваюць!
Песні нашае вёскі!»

Стануць усе хваліцца, сваім земляком ганарыцца
Перад людзьмі чужымі.
І — заўсёды, усюды — славіць лірніка будуць,
Што жыў і спяваў з імі.

І ўсім, хто прыйдзе ў госці, пакажуць крыж на пагосце
Ды курганок са жвіру.
Скажуць гордыя словы: «Тут наш лірнік вясковы!
Памёр, пеючы на ліры».

*18 студзеня 1852, Залуча*

## КАРАЛІ

Як ішоў я ў бой кіпячы,
Як прашчаўся з хаткай,
Тут Гануля мая з плачам:
«Пойдзеш гінуць, братка!

Але буду я маліцца
Па табе з трывогі,
Ты ж прынось за то гасцінца —
Шнур караляў доўгі».

З ласкай Божай паручыла
Грамадзе радзімай:
Палі ворагавы сілы,
Горад здабылі мы.

Як прыціхнулі гарматы,
Як браму зламалі,

Хто саетаў, хто дукатаў —
Я шукаў караляў.

Хоць і ў шчасці не радзіўся,
А шукаю смела…
Шнур караляў замігціўся,
Як бы вішань спелых.

Тут здабычыну схапіўшы,
Не чакаю далей.
Чым хутчэй спяшу к наймільшай —
Даць ёй шнур караляў.

Па гасцінцы, па дарожцы
Кульгаю дадому…
Загудзелі званы ў вёсцы,
Як па нежывому.

Прыбліжаюся к хаціне,
Аж тут людзі здаля:
«Твая Ганна ў дамавіне —
Не трэба караляў!»

Ой, заплакаў, ой, заенчыў
Цяжэй цяжкай хмары,
Перад цэркаўкай укленчыў
Дый спяшу к алтару;

Да свяцейшай да Марыі
Зближаюся ў жалі
І завесіў ёй на шыі
Тых я шнур караляў.

*1854*

## ДОЛЯ

Ные сэрца без патолі,
Нудна льюцца слёзы…
Выйду клікаць лепшай долі
Ў даль, пад шум бярозаў.

Дзе ты лепшая, дзе, доля?
Прыбудзь — хай пазнаем!

Прымем хлебам, прымем соляй,
Шчыра прывітаем.

Дарма плачу, заклікаю
І ў жалі малю я:
Вецер словы адбівае —
Доля ані чуе…

Ой ты, песенька, маўчы ты!
Не нам вецер збіці:
Хадзі з сэрцайкам разбітым
Па долі тужыці.

*1854, Барэйкаўшчына*

## ГРУГАН

З-па-над лесаў, з-па-над хмараў
Груган вылятае,
Сеў пад вёскай на папары,
Груганят склікае.

На вялікай, знаць, быў згубе
Ў далёкіх старонках:
Рука правая у дзюбе
З залатым пярсцёнкам.

«Эй, скажы, груган нязнаны,
Скуль ты прыбываеш?
Скуль пярсцёнак пазлачаны
І руку скуль маеш?»

«За гарамі, ой, дзяўчына,
Страшны бой вядзецца;
Кроў ліецца ручаінай,
Труп на труп кладзецца.

Зарывае люд рабочы
Ссечаны галовы,
На малойцаў грудзі, вочы
Сыплюць насыпновы.

На курганах на бядачых
Воўчы рык чуваці;

Не адна галосіць-плача
Сірата і маці».

Слязьмі горка залілася
Бедная дзяўчына:
«Вось калі я дажылася
Няшчаснай часіны!

Ой, руку я ўжо пазнала!
Той, чыя — не ўстане:
Гэты персцень даравала
Міламу ў расстанні…»

*[1854]*

## ВЯСКОВЫ МУЗЫКА

*Станіславу Манюшку*
*прысвячаю*

### I

Убогі адзежай, а марай багаты,
Музыка на прызбе прысеў каля хаты
І ўзяў сваю скрыпачку ў рукі.
А ў думках музыкавых нібы нарада,
Ён брынкае, штосьці мармыча да ладу, —
І строяцца ў песеньку гукі.
А зіркам нябёсы, зямлю абдымае,
З вясковай страхою, з палеткамі, з гаем,
І сочыць за хвалямі рэчкі.
Унук трохгадовы з ім, кемны і жвавы,
Ён з трэсачак скрыпку зрабіў для забавы
І смыкам шчыруе па вечку.

### II

Стары пасміхаўся сабе ды не змоўчаў:
«У лес пацягнула, о, сыне ты воўчы!
Не стрэнеш, баюся, дабра ты!
То кепская цацка! Гульня недарэчы!

Кінь, хлопча мой, трэскі, бо рукі скалечыш, —
Скрыпіца — інструмант пракляты!
Абы прырэслі да душы яе тоны,
На згубу сабе іх не вырвеш да скону, —
Шкада маладой твае долі!
Не будзеш мець сну, і чым далей, тым горай
Душу тваю прага распаліць, як горан.
А дзе ж тая ў свеце патоля?

III

Зраблю табе крыжык — вось будзе забава, —
Хадзі па двары з ім, як ксёндз на адправах,
Літанні выспеўвай рахмана,
А вырасцеш, хлопча, разумны і дужы,
І лёс табе, можа, зычліва паслужыць:
Ты будзеш вясковым плябанам!
Ці вёска ў жалобе, ці ўкрытая маем,
Ці шлюб, ці хаўтуры, — ён трэбнік чытае,
Не ведае смутнай гадзіны.
Ці добра зародзіць сялянскі палетак,
Ці голад аратага гоніць са свету, —
Ксёндз мае сваю дзесяціну.

IV

Або з маім кіем гуляй у салдаты,
Гайсай навакола стадолы і хаты,
Я выстружу шаблю з лучыны,
А ў войску да твару ты будзеш убраны:
Каскетку надзенеш, мундзірык да стану
І сіваму ўскочыш на спіну!
Блішчаць будуць шпоры, і шабля пры боку,
І вус зарунее, запаліцца вока,
Дзяўчаты пасохнуць з любосці.
У карчме і дома, ў бяседзе застольнай
Ты рэй павядзеш і вясёла, і вольна,
Аж хлопцы табе пазайздросцяць!

V

Што з ліры карысці? От марна загіне
Убогі сын песні ў вясковай мясціне,
Змарнее на цяжкай рабоце.
Тут рэдка абсеўкі, дажынкі, вяселлі,
І хлеба не надта, і ўцехі не вельмі,
Музыку няшмат і заплоцяць». —
«Ой, дзеду! — адказвае ўнук трохгадовы. —
Сыдзі ты адгэтуль, ад нэндзы вясковай,
Кінь бедную вёску без жалю!
Ідзі папытай, дзе паны-багацеі,
Каб шчодра плацілі, каб слухаць хацелі
І шлях да другіх паказалі.

VI

Як вырасту дужы ды скрыпку мне купяць,
Па свеце пайду я, дзе плацяць няскупа,
І шэнціць мне будзе, дай веры!» —
«Ой, дзеткі! Блазнуе твой розум хлапечы,
Ды лепей знямець табе з песняй навечна,
Чым стукацца ў панскія дзверы!
Як ладзіць бяседу гаротнік сярмяжны,
Уцеха тады ў маім сэрцы бадзяжным:
На покуць ён кліча музыку!
Абсядзе і слухае люд з асалодай,
І першая чарка — мая ўзнагарода:
Тут песня ў пашане вялікай!

VII

На панскай гулянцы не стрэнеш душ братніх,
Ты будзеш там госцем астатнім з астатніх,
Зайграеш хіба пад дзвярамі.
Ні гімнам, ні песняй з тугою нязводнай
Не ўзрушыш паноў тых з душою халоднай,
Глядзяць ледзянымі вачамі.
Калі ж наўкруга пойдзе чара ў застоллі,
Ты стокраць адчуеш жабрачую долю,
Пакуль прычакаеш пачостку.

А часам як шал патыхаць будзе густа,
Зайграць загадае пан песню распусты
І золата кіне, як костку».

VIII

Нарэшце стары палагоднеў і кажа:
«Будзь, хлопча, музыкам, калі ўжо наважыў,
Навошта мне лёсу пярэчыць.
Калісьці аддам табе скрыпачку ў рукі
І свой запавет, каб іграў без прынукі
І ганьбаю спеў не калечыў.
Хоць хлеб і сухі спажываць будзеш часам,
Але песняром будзь галоты няшчаснай,
Як я быў нядолі музыкам».
Ад дзедавых слоў замаркоціўся хлопчык,
Ды слёзы матыль паздзімаў яму з вочак
І ўслед за сабою паклікаў.

*Верасень 1854, Вільня*

## ТОСТ У ДОМЕ В. МАРЦІНКЕВІЧА[1]

Шчаслівы той, каго любоў братоў акружыць блізка,
Вось так, як я, прыязню шчырай вашай сёння ў Мінску.
Як я цаню хвіліны гэтыя, паверце!
За нізку вершаў маю столькі братніх сэрцаў.
Я бяру абавязак, браты, перад вамі
На вялікую дружбу і працу між намі.
Ах, каб даў Бог мне час гэты ў песнях адзначыць,
Шчырым словам і чынам братам адудзячыць.
Сёння тут за сталом і Навум мой харошы,
Сэрца ж маё ледзь толькі расчуліцца можа,
Песня здольна мая ледзь на ноты слабыя:
Хай жыве родны Мінск наш, браты дарагія!

*5 чэрвеня 1855*

## ДА АЛЯКСАНДРА ЖАЛЕЗНЯКА[1] ПАСЛЯ ПЕРШАГА СПАТКАННЯ

Раней мы не страчаліся ніколі,
Але глыбей знаёмства ўжо й не трэба:
Мы толькі разламалі лусту хлеба,
А падалося — з'елі бочку солі.
Ты даў спазнаць духоўнасці багацце,
Што думкі і пачуцці уздымае:
Нас Бог і час наступны паяднае, —
Люблю цябе — любі ж і ты, мой браце.

*1855, Мінск*

## АДМЕННІКІ СТАРЫХ НАПЕВАЎ

Быць вядомым мог бы ў свеце,
Багацейшым у павеце.
Ды ў жыцці не меў на мэце
Безліч золата нагрэбці.

*Мікалай Каханоўскі*[1]

То чаркай, то скваркай, то просьбай, то грозьбай
Скарыў бы я лёс і людзей ў наваколлі.
Шмат золата меў бы, мой гонар узрос бы,
Ды хцівасці й пыхі не меў я ніколі.
Іх іскрынкам першым не даў разгарэцца,
А выбраў убоства, і песню, і сэрца.

Нядоля такога ў натоўпе сустрэне,
Хто ўскрыцца надумае сціплаю мрояй.
З убоства кпіць будуць, пры песні задрэмлюць,
Паклёпам накрыюць пачуцце святое.
Ў паходзе да храма мамоны і пыхі
Мой схоў зруйнавалі, разбурылі ціхі.

Чаму ў сваіх модлах не меў я малітвы
Да ідалаў марнае славы, Ваала?
З іх зброяй уласнаю стаўшы на бітву,
Я ўсіх ганарліўцаў скрышыў бы навалу.

Адчуўшы ў пакоры няскорную сілу,
Зняважваць мне сэрца варожасць спыніла б.

*1855, Вільня*

## ВІНЦЭНТУ КАРАТЫНСКАМУ[1] ПРЫ ВЫДАННІ «ЧЫМ ХАТА БАГАТА»

Ідзі, наш паэце, ляці, наш саколе,
Хай творчы агонь твой не згасне ніколі.
З паэтамі пець беларускімі ў коле —
То значыць людзям добрым несці патолю.
Любіць іх — не шкода і шчырага сэрца,
Спяваць ім — грудзей маладзенькіх не шкода,
Бо кожная нота, што ў песні кладзецца,
У сэрцах людскіх адгукнецца заўсёды.
Знаёмы мне сэрцы іх: трапіш адразу
Ў душу слухача, ці суседа, ці брата,
Калі іх з любоўю, без пыхі-абразы
Запросіш сардэчна: «Чым хата багата!»
Не будуць чаканні твае ашуканы:
Грамадаю прыйдуць на шчыры твой покліч.
З табой пераломяць і хлеб твой духмяны,
З табой і наплачуцца, седзячы поплеч.
Дай радасць у сэрцы ты песняй юнацкай!
Яны пачастунку твайго не асудзяць,
Калі ж бы знайшоўся язычнік знянацку,
Малы табе клопат ад гэтага будзе:
Бо людзі такога так трапна дакораць,
Што сам ён адразу глыне сваю горыч.
Спагада Радзімы табе дасць апору,
Якая мацнейшаю будзе, чым скалы,
Каб песня твая у блакітным прасторы,
Як ластаўка, край наш увесь аблятала.
Над кожным акном беларускай хаціны
Гняздо тваё будзе — прытулак гасцінны.
Для песень тваіх — несканчонае рэха,
Бязмежнае поле для працы упартай.
Зірні ты на вёскі, на шэрыя стрэхі:
Ў іх людзі пашаны вялікае варты.
Заглянь ты ў іх сэрцы — ды як там багата!

Дзівосныя скарбы хай песня асвеціць.
Як дым, што віецца ад кожнае хаты,
Хай думка да неба ўзвіецца, паэце!
Хай просіць-благае там ласкі ад неба,
Ўсяго, што тым сэрцам, хацінам тым трэба.
Ігрушына ў полі, крыжы на магілах,
Касцельныя вежы, палетак здзічэлы…
Ці знойдзеш ты барвы, ці знойдзеш ты сілы,
Каб гэта ў малюнку тваім зіхацела?
Ці здольны суладзіць ты сціслa ўсе мыслі?
За пэндзаль, мастача, адважна бярыся.
Сардэчныя людзі, сыны Беларусі!
Вы дар небагаты паэтаў прымеце!
І я праз гады немалыя вярнуўся,
Хоць толькі любоў і знайшоў вам у свеце,
Спатканы усмешкаю ветлага вока,
Заўсёды спагадай сардэчнай сагрэты.
А поле для песні настолькі шырока,
Так многа не сказана ў песні дагэтуль:
Пакуты людскія, надзеі людскія,
Вялікія спады, узлёты малыя…
Імкнуцца упарта да светлага варта!
Ударце званчэй нам у родныя струны!
Павінны быць рады, што з вамі на варту
Паэта-змаганнік становіцца юны.
Сустрэньце ж вы гранне братэрскае сэрцам,
Хай водгук у сэрцах навек застанецца!
Пабач, як за горамі, ў дальнім прасторы
На свеце і хмары, і ззянне прамення.
Спаткаеш ты радасць, сустрэнеш ты гора,
Пазнаеш, паэце, і ружы, і церні.
Спявай жа пра тое, што сэрца хвалюе,
У час весялосці умей весяліцца.
Тваю хай спагаду бяздольны адчуе,
Братам пакажы шлях да яснай Зарніцы.
У тлуме спявацкім твой спеў не загіне,
Падзяку пачуеш ты ў роднай краіне.

*1856, Барэйкаўшчына*

## ПЕСНЯ СЯЛЯНКІ-ЛІТВІНКІ

Часта з цяжкім сумам
Мару ды бядую,
Думкі мае, думы,
З кім вас падзялю я?
Хто мой боль астудзіць,
Словам падтрымае?
Ох, навошта ж людзям
Злыбеда чужая?
Я сказала б матцы,
Ды заесць ад злосці…
Сёстрам мо прызнацца?
Сёстры пазайздросцяць…
Брат смяяцца будзе,
Ён не падтрымае…
Ох, навошта ж людзям
Злыбеда чужая?

Хоць употай зрэдку
Плачу я, здаецца,
А мая суседка
Бачыць ды смяецца.
А за смех не судзяць,
Хто ж тут падтрымае?!
Ох, навошта ж людзям
Злыбеда чужая?
Любы мой, адзіны —
Ўся мая надзея,
Толькі ён дзяўчыны
Думку зразумее.
Ён мой боль астудзіць,
Словам падтрымае…
Ох, навошта ж людзям
Злыбеда чужая?

*1856*

## ХВОЯ

На вясковых магілах
Хвоя хутка ўзрастала,
Ствол яе браўся ў сілу,
Верхавіна буяла.
Пакручастае голле
Расхінула шырока,
А карэнне ўсё болей
Запускала глыбока.
Так узросшы без ліха,
За той сок, што смактала,
З ветрам пацеры ціха
За памерлых шаптала.
Ажно восеньскім часам
Хвоя штосьці прымоўкла,
Зеляніна нейк згасла,
Верхавіна пажоўкла.
Дзень за днём менш надзеі,
Стала ўжо як не тая,
А як ветрык павее,
З яе шышкі страсае.
Дае роднай зямліцы
Яна зерне сухое…
Перад самай зіміцай
Ссохла бедная хвоя.
Вецер просіць пакутна:
«Скажы, хвоя, з магілы,
Можа, гром цябе стукнуў,
Можа, чэрві стачылі?
Сокаў мо небагата
У пясочку у блізкім,
Ці карэнне занадта
Тваё камень прыціснуў?» —
«Мяне чэрві не точаць,
Гром не біў аніколі,
Зямля корміць ахвоча,
У ёй сокаў даволі.
Хоць каменне — замінак,
Ды тут горай намнога:
Я ўрасла ў дамавіну
Чалавека ліхога.

Дамавіна сапрэла,
Труп сатлеў яшчэ болей.
Яму ў сэрца карэнне
Я ўпусціла міжволі.
І працяў да жывога
Мяне холад мярцвячы —
Чалавек той нікога
Не любіў, не іначай,
Бо агідныя сокі
Даў цвінтарнай хваіне.
Ува мне дзесь глыбока
Яд засеў з той хвіліны.
З ядам смерці ўсяродку
Стала ўжо як не тая,
Кожны ветрык залётны
З мяне шышкі страсае.
Хачу зноўку ў зямліцу
Кінуць зерне сухое».
Ды дарма — прад зіміцай
Гіне бедная хвоя.

***1557, Вільня***

## ДА АРЦЁМА ВЯРЫГІ-ДАРЭЎСКАГА[1]

*У альбоме*

Просіш мяне ты ветліва, братка,
Каб упісаўся я напачатку.
Толькі ж — не створаны я верхаводзіць,
Сціпласць мая мне нямала ў тым шкодзіць.
Але калі твая братняя воля,
Сам сябе мушу я пераадолець,
Стану паперадзе ўсіх, хто любоўна
Гэты альбом песняй шчырай запоўніць.
Дык першым словам — благаславі, Божа,
Гэты альбом у аправе прыгожай!
Хай на лісты свае прыме імёны,
Славай вялікаю апрамянёны,
Хай кожны вершык з глыбіняў сэрца
Добразычліваю думкай кладзецца,
Кожная будзе хай мужнай, праўдзівай,

Высакароднай, збавеннай, пачцівай,
Каб ты ў хвіліны долі, нядолі, —
Шчасце мільгне, сэрца сціснецца болем,
Чорнаю цемраддзю ляжа сумненне,
Тут бы зачэрпаў сілу збавення,
Голас уцехі, шчырай спагады,
Светлай, духоўнай братняй парады!..

*1858*

## ГІМН ДА НАЙСВЯЦЕЙШАЙ ПАННЫ Ў ВОСТРАЙ БРАМЕ

Маці, Ты клічаш маліцца
Нас у няздарнасці горкай.
Ты над ліцвінскай сталіцай
Свецішся ранішняй зоркай.
Глянь на натоўп, што ўтрапёна
Хоча абраз Твой прывеціць.
Маці! Тваёй абароне
Мы аддаемся, як дзеці!

Неба высокага Пані!
Глянь на наш род чалавечы:
Сэрцы нам смутак параніў,
Хто нашы сэрцы палечыць?
Хто нас пяшчотай агорне
Найласкавейшай на свеце?
Маці! Тваёй абароне
Мы аддаемся, як дзеці.

Кожны, хто хворы, бяздольны,
Аб Тваёй літасці моліць,
Хто ж нас прытуліць спатольна,
Хто нашы раны загоіць?
Ласка Твая — цуд натхнёны —
Гойным бальзамам ільецца.
Маці! Тваёй абароне
Мы аддаемся, як дзеці.

Грэшныя ў путах падману
І неспатольнае смагі

Ўзняць свае вочы на Панну
Нават не маем адвагі.
Дай нам надзею ў палоне,
Выблытай з грэшнае сеці.
Маці! Тваёй абароне
Мы аддаемся, як дзеці.

Цісне калі нас хвароба,
Сына Ты ўпрошвай зычліва,
Благаславі земляроба,
Благаславі плён на нівах,
Благаславі край наш родны
І апрані яго ў квецень!
Маці! Тваёй абароне
Мы аддаемся, як дзеці.

Матчына ласка без меры
Ежай стаецца галодным:
Бедныя сем'і па веры
Просяць аб хлебе штодзённым.
Здольная ў зорнай кароне
Ўсіх у патрэбе прыкмеціць,
Маці! Тваёй абароне
Мы аддаемся, як дзеці.

*1858*

## ДЫ НАЙЛЕПШЫЯ САРМАТКІ

Дзеткі мілыя, зважайце,
Покуль сэрцы расцвітаюць,
З вочак прэч тугу змятайце,
Твары хай усмешкай ззяюць.
Вось дзяўчынка, ўбрана ў квецень,
Каля годнай крочыць маткі...
Хоць кабет нямала ў свеце,
Ды найлепшыя сарматкі.

Час мінае, і паненка
Ўжо шаснаццаць вёснаў мае,
З густам шыецца сукенка,
І ўжо некага кахае.

Дасягнула паўналецця,
Толькі з любым прагне хаткі...
Хоць кабет нямала ў свеце,
Ды найлепшыя сарматкі.

Ўсё вакол сябе атуліць
Хараством, каханнем, цнотай,
Бацьку, маці прыгалубіць
І разлучыць іх з маркотай.
Хто хоць раз яе прыкмеціць,
Захавае ў сэрцы згадкі...
Хоць кабет нямала ў свеце,
Ды найлепшыя сарматкі.

Мужу ў справах спагадае,
Падтрымае ліхалеццем,
Перадасць любоў да краю
З малаком уласным дзецям.
Гаспадарна будзе весці
Ў доме мужа лад-парадкі...
Хоць кабет нямала ў свеце,
Ды найлепшыя сарматкі.

Ці то ў радасці, ці ў горы,
Не злятае думкай з неба,
Падарожнага прыгорне,
Жабраку адкроіць хлеба,
Госця ў шчырасці прывеціць,
З бліжнім дзеліцца дастаткам...
Хоць кабет нямала ў свеце,
Не раўня яны сарматкам.

Як надыдзе ўзрост паважны,
Шчыра моліцца ў касцёле,
Рукі пацерамі вяжа,
Крыжам сцелецца на доле.
За дзяцей, за ўнукаў просіць,
За спакой усёй грамадкі...
Хоць кабет на свеце досыць,
Ды найлепшыя сарматкі.

*1858*

## ЖАВАРАНКУ

Што тваё сэрца трывожыць,
Што у галоўцы сабрана,
Выспеваць, птушачка, можаш
Без выдавецкага плана.

Бог твой спеў ласкай сустрэне,
Кіне зярнятак на поле,
А на закуску, па зерні,
Мушку злавіць ён дазволіць.

З добрай такой дапамогай
Песні прыносіць натхненне.
Ўвесь ганарар твой у Бога,
А не ў ліхвярскай кішэні.

*1858, Вільня*

## ВЫЗВАЛЕННЕ СЯЛЯН

Чытаў рэскрыпт я дабрачынны цараў[1],
Што даць людзям правы людзей павінен,
І пэўнасць меў — ніводная ахвяра
Ужо не будзе цяжкай для ліцвіна.
Дый колас плёны абяцаў на славу
Пасля дажынак залатога свята.
Хадзіў штодня глядзець я пад заставу,
Ці ў горад шляхты прыбыло багата.
Калі праз пыл ад панскае карэты
Я ўбачыў постаць і пазнаў здалёку, —
Пабеглі слёзы… З парушыны гэта
Ці штось з-пад сэрца выплыла на вока?
Адкуль яны? І лоб мой невыпадкам
Нібыта ўвенчан лаўравай галінай,
Бо мой прапрадзед шчырым быў ліцвінам,
Бо шляхціч я і маю герб з пячаткай.

Хай крыкуны, падумаў я, няславяць
І бэсцяць шляхты годнасць і аблічча,
Яны ўжо самі ўбачаць неўзабаве,
Што нездарма шляхетнымі нас клічуць.

І, можа, заўтра скажа з захапленнем
Масква і Польшча, цэлая Еўропа,
Што мы, ліцвіны, згодай ды сумленнем
Прыгону ёрмы паскідалі з хлопа,
Што прымуць славы лепшыя кавалкі,
Ў аналы трапяць як узор для свету
Перш-наперш тыя, хто з жазлом маршалка,
Хто галава і сэрца ўсіх паветаў.
Як Зыгмунт Аўгуст[2], і яны, нашчадкі, —
Зракуцца біча, каб навек адкінуць…
Я горды быў, што род мой ад ліцвіна,
Што шляхціч я і маю герб з пячаткай.

У Коўне быў ад добрых тостаў п’яны,
За вызваленне мы пілі аратых,
Чытаў я ліст, чарнілам палымяным
Брат вестку з Гродна пасылае брату:
«Хоць тут пяскі, няма ўрадлівай глебы,
Хоць для Друскенік грошы мець я мушу,
Ды зрокся, браце, паншчыны ганебнай,
Бо я ж не д’ябал, каб прысвойваць душы».
Тады я думаў: «О вы, фанфароны!
Ды што мне Коўна альбо тое Гродна?
Радзіма сэрца — ў Вільні улюбёнай,
І Вільня спраўдзіць клопат той народны.
Дабро для ўсіх там зробяць напачатку,
Дальюць віна ў вадохрышча ліцвінаў…
Я ганарыўся, што Літвы быў сынам,
Што шляхціч я і маю герб з пячаткай.

З сівое Ліды, са старой Ашмяны,
З Трок Кейстутовых ды з Вілейкі, з Дзісны —
Цвет нашай шляхты адусюль сабраны
Для люду вырак падпісаць карысны.
Айцы паветаў, іх жа наша пільнасць
Абрала з лепшых на сваіх загонах,
Няўжо яны дадуць зняславіць Вільню,
Вянец з чала сарваўшы ў Палемона?!
Аднак жа сталася… Мой край няшчасны!
Карону годнасці ў цябе сарвалі,
Твае айцы сваёй рукою ўласнай
Кайданы люду самі ўмацавалі.
Гісторыя асудзіць даастатку

Апеку іх над людам і краінай.
Мне брыдка Вільні, брыдка быць ліцвінам
І ганьба мець вось гэты герб з пячаткай!

*1859 (?)*

## СМЕРЦЬ САЛОЎКІ

За кратамі з дроту, у вулічным гудзе
Салоўка замкнёны,
Ды прага спявання, праймаючы грудзі,
Расце неўпынёна.
Не маеш тут ценю, алешнік з ляшчынай
Цябе не заслоняць,
Не маеш і ўторы — твае ручаіны
З шырокай аблоні.
Няма і каханай тут, дзеля каторай
Мог з песняй памерці.
Не вырвацца ў вольныя неба прасторы,
Не выпусцяць дзверцы,
Бо тут не вятрыскі, а колы грукочуць,
Трасуцца будынкі,
І пыл з-пад карэт запарушвае вочы —
Ляціць безупынку.
Замест ручаіны натоўпы, як воды,
Віруюць і плешчуць.
Ды дзе ж тут зацішак? Дзе ж тая свабода,
Каб голас даць вешчы?
Ад спёкі і пылу хістае галоўку,
Як сэрца трывае…
Але калі хто нарадзіўся салоўкам, —
Да скону спявае.
Ён песню пачаў, раскрываючы згодна
Свае запаветы,
Ды глушыць салоўку натоўп пешаходны,
Што лічыць манеты.
Магутны і стройны напеў салаўіны
Узняўся над грукам.
«Я перакрычу яго, — марыць птушына, —
Той бразгат на бруку!»
Вышэй і вышэй падымаецца голас,

Пануе наводдаль.
Ён час прыгадаў незабыўны, вясёлы —
Хвіліны свабоды.
Успомніў гаёк і свае адвячоркі
Пад белай калінай
Ды радасць сардэчнай і доўгай гаворкі
З сваёю адзінай.
Калі ружавелі світальныя далі,
Ён трэлі высвістваў,
Кароль сярод птаства! Яго там прызналі
Сапраўдным артыстам.
«Я так заспяваю, што сціхне бязладдзе
І гоман пракляты,
На самым высокім настроюся ладзе», —
Так думаў крылаты.
А шум прыбывае, што далей, то горай
На вуліцы шумна,
Ад смеху, ад крыку і розных гаворак
Нядобра і тлумна.
Той-сёй каля клеткі хаду прыпыняе,
Каб песню паслухаць,
Спявак тады грудзі мацней напінае,
Крыяючы духам.
Дарма! Свой трыумф у натоўпе задушным
Аплаціш не танна.
Здабудзеш хвалу, а да слёз ты не ўзрушыш
Прахожага пана.
Слухач, што слязіну, расчулены, ўроніць,
Такі табе трэба.
А воплескі! Пляснуць, бывала, ў далоні —
Ты пырхнеш пад неба!
Спеў льецца, а грудзі рве боль высілення,
І крыльцы памлелі.
Спявак жа не чуе, аддаўся натхненню,
Выводзячы трэлі.
У спеўным запале салоўка шалее —
Б’е пошчак у краты,
Чым болей пакуты, тым спеў галаснее,
Ды сіл небагата.
Не ціхнуць вазы, не спыняюцца дзейкі,
Сваё кожны робіць.
І лопнула горлейка у салавейкі

З астатняе спробы.
Дарэмна шалешча ён крыльцам апалым,
Пахіліцца, ўстане.
Гарачае сэрца яшчэ задрыжала,
Ды перад скананнем.
І той, каго слухалі ў нетрах, як дзіва,
Згарнуў сваё крылле.
А колы на бруку смяяліся кпліва,
Што птушку забілі.

*1859, Вільня*

## ЗАМЕЦЬ

Ці ты чуеш, мама?
Судны дзень на свеце!
Як за нашай брамай
Усхадзіўся вецер.

Спачынае вёска,
Ні душы на волі,
Толькі шум бярозкі
Ды завея ў полі.

Снег, нібы пясочак,
Вецер з ім гуляе,
Абгарнуў гаёчак,
Хвоі спавівае.

Далей, далей гоніць
Сыпкі снег віхура…
Ці то бомы звоняць,
Ці то свішча бура.

Замяло дарогі,
Цягне конь па грудзе.
Спаць не маю змогі,
Недзе гінуць людзі.

Ой, я ўстаць павінна,
Ў печы жар іскрыцца:
Запалю лучыну,
Хай акно свіціцца.

— Спі, дачушка, ціха, —
Ушчувае маці, —
Няхай тое ліха
Сунецца па гаці.

А дзяўчо ўтыкае
Між бярвён лучыну,
І агонь шугае,
Аж трашчаць іскрыны.

Водбліскаў патока
Льецца цераз шыбы,
І блішчыць у змроку
Снег вакол сялібы.

*1860, Барэйкаўшчына*

## НЯДЗЕЛЯ

*Сельская ідылія ў чатырох песнях*
*з нядаўняга мінулага*

Пра адну нядзелю
Песні склаў чатыры:
Не сасніш з пахмелля,
Што назвоніць ліра.
Ой, як ненавісна,
Як гучыць няміла,
Часам струны свіснуць,
Як пілой па жылах!
Ліра кажа ціха:
— Ці ж душы не маю?
Як пяе мне віхар,
Так і я іграю.

### **І. Ранак**

Спусцілася доле
Нядзеля святая,
І сонца над полем
Праменнем страляе,
Красуюць палоскі,

Жытнёвыя нівы,
Ляціць наўкруг вёскі
Анёлак зычлівы.
Гаворыць ён кветкам,
Што ў лузе зардзелі:
— Усцешцеся, дзеткі,
Сягоння нядзеля!

Трава ў цёплых росах —
Жывёліна рада,
І рык шматгалосы
Лунае на лядах.
Лугі, дзякуй Богу,
Мы шчодрыя маем,
На дудачцы з рогу
Падпасавіч грае.
На крыж прыдарожны
Шпакі густа селі,
Спяваюць заложна:
— Сягоння нядзеля!

За хатаю ў Янкі
Гатовы калёсы,
І тлум каля ганка
Наследнікаў босых.
А сам ён у клеці
Адмервае збожжа,
На рынак з дасвецця
Сабраўся, нябожа.
Жніво недалёка —
На гэта надзея,
Дый тое палёгка,
Што сёння нядзеля!

Бяда ў гаспадарцы —
На грошы патрэба,
Ўсё вымеў да гарца —
Застаўся без хлеба.
Бо жонцы дай солі, —
Дзяўбе яму ў вушы,
І дзеці скуголяць,
Каб кніжак ды стужак.
А з чым разысціся

На рынку тым вельмі?
Ды купіць гасцінцы,
Бо сёння ж нядзеля!

З двара Янка едзе,
Каня паганяе,
Бягуць за ім дзеці,
Чародка малая.
Кіруе за рэчку,
Паўз крыжык убогі,
Гукае малеча:
— Шчаслівай дарогі!
І пацеры шэпчуць,
Што выўчыць паспелі,
Так шчыра шчабечуць,
Бо сёння ж нядзеля!

З вачэй уранілі
Малыя па слёзцы.
На мшу зазванілі
З касцёла на вёсцы.
Калі разгукаўся
Ён звонам святочным,
Пугач абазваўся,
Крычыць, патароча.
Няма нідзе змроку,
Чаго ён там цвеліць?
У сонца ж на воку
Свіціцца нядзеля.

## II. Зварот Янкі з кірмашу

Выпіў я таго трунку
Чарку для падмацунку,
А другую з суседам —
Як адмовіць, не ведаў.
А за трэцяй — не жарты!
Назбіралася кварта.
У вачах відната,
Смалі, конь, з капыта!

Набок, пане, я п’яны,
Еду я ў даматканай,
Ды без плям мая світка,
Сам пашыў, сам і выткаў.
А пра вашае ўбранне
Што ты скажаш, мой пане,
Як пачне Бог пытаць?
Смалі, конь, з капыта!

Да карчмы прыдарожнай
Пыхнуць люлькай заходжу,
Жару ў печы шукаю,
А нячысцік міргае,
Знакі робіць з-за печы.
Каб я выпіў канечне.
От і ўзяў, паспытаў…
Смалі, конь, з капыта!

Ой, не варт, жонка, біцца,
Што пустая сальніца!
Пацярпець табе раю —
Надта ж соль дарагая.
Замарочыўся гэтак,
Не купіў кніг для дзетак.
А нашто ім чытаць?
Смалі, конь, з капыта!

Хоць і знаў бы чытанне,
Мужык панам не стане:
Тыдзень пот цячэ з карку,
А ў нядзелю п’е чарку.
Мала долі праклятай,
Дык здадуць у салдаты,
Дасць капрал па хрыбтах…
Смалі, конь, з капыта!

Крыж настрэчу… Спынюся…
Ты даруй мне, Ісусе!
Бо я цёмны і п’яны.
Дзе мне біцца з шайтанам?
Хто мне вочы асвеціць,
Каб лёс мелі хоць дзеці?

Заўтра што? Цемната!
Смалі, конь, з капыта!

Заблішчала ў аддалі,
Дзесьці хвоі гром валіць.
Чаму ж карчмы не рушыць,
Праз яе ж гора сушыць.
Так наставілі ёмка:
Што ні крок, то карчомка,
Мужыку ж — сухата!
Смалі, конь, з капыта!

Вёска!.. Быццам бы наша.
Конь спяшае да пашы.
У хамут даў ён хвацка,
Я зваліўся знянацку.
Цяжка ўстаць цемнатою,
А тут чорт нада мною,
Плешча ў ладкі, шайтан…
Смалі, конь, з капыта!

## III. Скаргі арандатара карчмы

Янка!.. Ўпіўся, як бэля,
Спіць, разлёгшыся ў рове.
Праўда, сёння нядзеля,
Можна ўзяць на здароўе.
Каб жа піў у карчме ты,
Меў бы грош я на ўцеху,
А то жлукціць за светам,
Аж на рынак паехаў.
Звёз капейку жывую, —
Гвалт — ратуйце, рабуюць!

Ой, зладзюга апошні —
Спіць сабе, не шманае:
Ты ж украў мае грошы —
Пан з мяне ж спаганяе:
За арэнду гатоўкай
Выдай тысячу звонкіх
Ды кармі дзве кароўкі,
Дробных дзетак і жонку.

Што ж, я грошы друкую?
Гвалт — ратуйце, рабуюць!
Ёсць і коз, і авечак
Дваццаць штук, дайце веры.
Ёсць кантракт неаспрэчны
На казённай паперы.
Там усё па закону,
Разам з панам пісалі:
Хлопцы ўсе каб да скону
Толькі тут выпівалі.
Ці ж з п'яных я ўтаргую?
Гвалт — ратуйце, рабуюць!
Далей пішацца строга,
Што ўсе помніць павінны,
Ад малых да старога,
Ад хлапца да дзяўчыны,
Што ніхто з іх — крый божа!
Апроч гэтай арэнды,
Нідзе выпіць не можа, —
І няма больш гавэнды.
А то скуру здзяру я…
Гвалт — ратуйце, рабуюць!
Пачытай, вось папера,
Але ж ты непісьменны…
Яшчэ сёння дзве меры
Жыта меў ты, не меней.
Чвэрць была і гароху,
У цане ён — не жарты.
Разлічыўшы патроху,
Мог на рынку ўзяць кварту.
Гэта я ўжо дарую,
Што ты зробіш — рабуюць!

Але рэшту, па ўмове,
Ты ў мяне прапіць мусіш…
Досыць спаць табе ў рове,
Ідзі ў карчму, закусіш.
Ну, ўставай, збяры сілы,
Што ў кішэні?.. Нічога!
Ах ты, хлопе пахілы, —
Грошы ўкралі ў п'янога.

Сам іх, думаў, зграбу я.
Гвалт — ратуйце, рабуюць!

Ах, якая прыгода,
Лепш прапіў бы, дурніца!
Мне, браток, цябе шкода,
Дам крыху пахмяліцца.
Янка, Янка, ты слабы,
Зноў пясок рыеш носам.
Не спяшайся да бабы, —
Ох і дасць табе чосу!
І ты выб'еш дурную…
Гвалт — ратуйце, лупцуюць!

**IV. Вечар**

Схіляюць галовы
Рамонкі ў дрымоце,
І вечар ружовы
З зямлёй на самоце.
І перш чым пагасне
Свяціла за стромай,
Зірне яна ясна
На стрэхі з саломы.
Агні ў хатах свецяць,
Відны людзі ў белі.
Канчаецца вечар
Святое нядзелі.

Вяртаецца статак
І гучна рыкае.
Пастух сіваваты
На дудачцы грае.
А конікі скачуць,
Пазвоньваюць хіжа.
Кабеціна плача,
Галосіць пад крыжам.
Каб гэткай пакуты
Павек мы не мелі…
Як горка, як скрутна
У вечар нядзелі.

Скрыпач п’янаваты
На танцы ўсіх кліча.
Жалобай працяты,
Б’е звон у каплічцы.
Я сёння, ты — заўтра…
Мой Янка, нябожа,
Гуляеш, за кварту
Аддаўшы ўсё збожжа.
А смерць не спытае,
Труною надзеліць…
Хто з нас прычакае
Наступнай нядзелі?

*1861*

## ЭПІТАФІЯ ЗЕМЛЕЎЛАСНІКУ D. O. M.[1]

Біў хлопаў бойма,
Гарэлкай спойваў,
Сто хат меў з гакам,
Любіў прысмакі,
Пхаў грошы ў торбу
І піва сёрбаў.
Штодня з азартам
Гуляў у карты
Ды ў аканома
Распытваў дома:
Ці будуць войны,
Ці свет спакойны?
Аднойчы гуску
З’еў на закуску,
Заеў капою
Клёцак з душою.
Ад бунту кішак
Лёг у зацішак,
У дамавіну
Для супачыну.
Храпе няўзбудна
Да часаў судных.
Грахі палічаць.

— Устань! —
                    паклічуць. —
Ужо гатова
Печань валова!

*1861, Барэйкаўшчына*

## ШТО ЎМЕЮ НАМАЛЯВАЦЬ

Калі трапіць у рукі аловак выпадкам
І, не знаючы што, маляваць я вазьмуся,
Заўжды выйдзе ў мяне беларуская хатка,
Ці касцельчык, ці двор і з буслянкаю бусел.

Я другога не ўмею падаць на паперы.
Толькі вобраз, што ў сэрцы назаўжды адбіўся.
Шчыра прагнуў навучыцца, ды згаслі намеры:
Панскі гмах не адолеў — аловак скрышыўся.

Каб то хата была, я штрыхамі б выводзіў
Саламяную стрэшку, акенца малое…
А ўсярэдзіне — люд працавіты у згодзе —
Дзецюкі і дзяўчаты, дзядок з барадою.

Маладосць — у каханні, надзеі і ў думе,
Век пахілы, што згадак грабе папялішча, —
Людзі мары сардэчнай не страцілі ў тлуме,
Хоць праз шчыліны вецер аб нэндзы ім свішча.

Каб вясковы касцёл! Вось старая званіца,
З драніц збітая вежа — малюецца проста!
Бачу дзетак я там, што прыходзяць вучыцца,
І плябана да іх нахілёную постаць.

Ці стары арганіст, адспяваўшы кантычкі,
На вячэрню ў касцёле ўрачыста зазвоніць,
Гэты звон у прастор, узлятаючы, кліча,
Ажно рэха трымціць на зялёнай аблоні.

Каб маленькі дварок са стадолай і садам!
Сам сабой з-пад алоўка бяжыць без памылкі.
Дуб ля ганка чало пахіліў са спагадай
Над дубкамі, што з роду хацінскіх асілкаў.

Вось і вычарпаў талент, мізэрна і марна,
Ганарыцца няма чым — убогія рэчы!
Крыж хіба што яшчэ намалюю цвінтарны,
Пад якім поруч з бацькам хацеў бы я легчы[1].

*1860, Барэйкаўшчына*

## АВІДЗІЙ НА ПАЛЕССІ[1]

Аўгуст Цэзар[2] калісьці для свецкага тону
Муз усіх перакінуў у Рым з Гелікону.
Да яго на мачанку паэты хадзілі —
І Гарацый[3] бываў, гасцяваў і Вергілій[4].
А Авідзій Назон не трымаў этыкету
І дачку таго Цэзара ўзяў на прыкмету.
Ён паэт і прыдворны малое аздобы,
Але Юльцы пентаметр яго даспадобы,
А была ж чарнаброўка яна, маляванка,
Спірт не дзеўка, а кроў не вада — італьянка!
Чорт у шапку не спіць, можа кепскае стацца…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Думаў так Цэзар Аўгуст…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
«Што рабіць?» — ён пытае ў сяброў без адкладу.
Мецэнат[5] і Агрыпа[6] даюць яму раду:
«Трэба пал паэтычны астуджваць без шуму,
Ды Табольск як на тое яшчэ не прыдуман,
Але можна інакш перабыць гэта гора, —
Хай праедзе паэт на Эўксінскае мора[7].
Не навучыцца там празаічнае мовы,
Дык у Пінск на барліне адпраўце яго вы».
Так па тым і зрабілі. Маркотны і хворы,
Каля Пінска збірае паэт мухаморы,
Ловіць ракаў прыдворны і юшку гатуе,
Ды з сармацкага лука па качках пудлуе.
А штопошты — сябрам дакучае і ные:
«Як мне сумна без Рыма, там людзі якія!
Хай даруе мне Цэзар, дадому вяртае,
Бо палеская тут камарня заядае».
А сябры як сябры: аднальковыя ўсюды —
Прысягнуць не забыць і адразу ж забудуць.

Юлька — сэрца падбітае ветрам у дзеўцы —
Строіць вочкі, за ёю ўпадаюць гвардзейцы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
А паэт ва ўладаннях князёў Радзівілаў
У Давыд-Гарадку адышоў у магілу,
І завецца гара яго імем дагэтуль…
Вельмі ж горкая доля ў чуллівых паэтаў!

Я да Юлькі ніякай не збочваў з дарогі,
І з Назонам раўняцца няма ў мяне змогі,
А з высокае волі ў вялікай турбоце
Гіну ў вёсцы, як ён у палескім балоце.
Мне загадана славіць тут вёсны і роскві́т,
А зірну на бярозкі — гадуюцца розгі.
Ні травіцы на лузе, ні руні на нівах,
Толькі буйны асот вырастае пышліва.
Я, няшчасны выгнаннік з далёкай краіны,
Не лаўлю нават ракаў — няма ручаіны…
А жніва каралевы, красуні-ліцвінкі?
Двойчы ў год толькі ўмыцца знаходзяць часінку,
Раз у год толькі чэшуць бялявыя коскі,
Прычакаўшы найбольшага свята для вёскі.
Гераіні літоўцаў — Альдоны[8], Паяты[9]!
Мыйце трошкі часцей вы аблічча і шаты,
Калі вам у каханні дасюль шанцавала,
Пераборлівых, значыць, залётнікаў мала.
Што красунямі сталі, не знаўшыся з мылам,
Спевакам вы падзякуйце, песням іх мілым.

Я выходжу. Пры ганку стаіць арандатар,
Сад яму выпускаю за сходную плату,
Ён паляк, так сказаць, Маісеевай веры,
Арандуе ў мяне папяроўкі і бэры.
Як прадбачлівы муж, прыглядаецца пільна,
Ці я часам ігрушак украсці не схільны?
Крок у крок мы праходзім ад дрэва да дрэва,
І заводзіць пад нос ён біблейскія спевы.
Ну і як тут патрапіш, о сын чалавечы,
Паглыбляцца у роздум аб сутнасці рэчаў?
Ці пад веццем таполі зайграць на жалейцы
Аб усім, што трывожыць, што маеш на сэрцы?
Хоць бы Ньютанам стаў ты, а думка ніколі
Не ўпадзе табе выспеўшым яблыкам доле.

У пакой свой вяртаюся, ціхі прыстанак,
Тут гады працаваў я ад рана да рана,
Стосы кніжак стаялі, пасілак юначы,
А цяпер толькі рэха пад крокамі плача.

*1861, Барэйкаўшчына*

## МЕЛОДЫІ З ВАР’ЯЦКАГА ДОМА

### 1

Над цэлым светам я пан-вяльможа,
Што поўзаць, плаваць ці лётаць можа,

Зямля і неба — мае багацці.
Я не баюся ніяк іх страціць.

Замкнуў на ключ я ўсё чыста неба,
Збарсаў шнурамі цяжкую глебу.

Канец вяроўкі і ключ трымаю.
Ніхто ніяк іх не атрымае!

Людзі і духі! Залазьце ў норы,
Каб і не піснуў які-каторы!

Бо як галёкну, як грукну ботам,
Дык па зямлі вас пакоціць котам.

Хай будзе ціха! Мне сон не здолець.
Згасіце сонца, бо ў вочы коле!

Зіхцення многа?! Знайшлі прычыну! —
Вы пагаліце яму чупрыну,

Як пагалілі мне адмыслова,
Каб не свяціў я святлом ружовым.

### 2

Вы гляньце! Д’ябал у печ ускочыў!
— Ну як там, нябожа?!

Агонь ён крыллем раздзьмухваць хоча,
Як толькі можа.

Мікстуру гатуе ў той печы
З кітайскага маку.
Для паху крыві дадае чалавечай,
А слёзаў — для смаку.

З французскіх газетаў даліў ён гарчыцы,
З нямецкіх — квасу,
А з надтэмзовых пагарда бруіцца
Для духу часу.

У буталь ён выліў мікстуру, заторкнуў,
Каб не пабегла.
І засмаліў ён той трунак прагорклы
Смалою з пекла.

Вучонаю моваю даў сігнатуру[1],
На ёй жа словы:
«Хай людскасць п’е тройчы ў стагоддзе мікстуру
І будзе здарова».

3

**Ліст пры адасланні кніжак**

Вазьмі, ўдзячны пане браце,
За паважныя ўсе кнігі.
Але ў свеце, ў роднай хаце
Маю досыць я фатыгі.

Як чало паважна змрокам
Крые хмара у прасторы!
Як паважным суне крокам
Панураднік да каморы!

Як картэж ягоны следам
Удае павагі знакі.
Як паважна баба з дзедам
Зажывае ў нос табакі!

Як індык, спусціўшы крылы,
Стаў паважна ля паркану…

Так абрыдла ўсё, мой мілы, —
Дагары нагамі стану!

Урачыстасць, паказуха
Горш за ўсякае там ліха.
Лепш папраўдзе ведаць скруху,
Чым з хлуснёю бачыць пыху.

І чаго ж чакаць далей нам,
Калі скрозь такая згуба?
Сэрца ў смутку безнадзейным,
А павага шчэрыць зубы.

Бач, як смешна ўсё наўкола
У людзях, сядзібах, мэце.
Кніжак мне прышлі вясёлых,
Каб смяяцца так, як дзеці.

Каб пазбыцца думак сумных,
Што вядуць да безгалоўя.
Пасмяёмся шумна-тлумна,
Можа, смех дадасць здароўя.

Хай усе смяюцца людцы:
І чытакі, і пісакі.
Дзед і баба хай смяюцца
Над сваім ражком табакі.

Хай музыку смех абудзіць,
Хай смяюцца-плачуць струны.
Хай з магіл смяюцца людзі,
Хай з людзей смяюцца труны.

Хай смяюцца хмары, горы,
Загучыць няхай сваволя.
Лес! Не выплачаш ты гора,
Лепей смейся з лугу, з поля.

Насмяюцца ўдосталь людзі —
Стане добра ў іх на сэрцы.
Хай чуваць высока будзе,
Як нам весела жывецца.

4

Заходзь, пане доктар! З вялікай асветы
Вядома і пра мінералы?!
На пацеркі глянь, што на шыю мне ўздзеты,
Каб немач хутчэй уцякала.

Цвярдзей, чым алмазы, блішчаць, нібы сонца,
Чысцей, чым вада у крыніцы.
Ад бляскаў вясёлкавых з кожнага донца
Праменне бясконца бруіцца.

А ў пацерцы самай — чырвонае зёрка,
Макулінка ў яснай пярліне.
Яна зіхаціць, як нябесная зорка,
Мяняецца ў кожнай хвіліне.

Духмяныя пацеркі гэтыя надта,
Як пах у блакітным прасторы.
Але ж іх падносіць да вуснаў не варта:
Атруціць пякельная горыч.

Ну, што ж то за камень? Скажы, эскулапе!
Га! Непадатная справа?!
Не схопіць навука ўсяго, не аблапіць,
Хоць вельмі б цікава!

Не ведаеш, што?! Тут навукі нямнога,
Тлумачыць паможа мне сэрца:
То слёзы бяздольнага негра, якога
Плантатар грызе, крыважэрца.

5

Выпінаецца коцік —
Негалодны варкоцік!
«Коця, што на сняданне
Меў ты да выпінання?
Можа, быў ля паляны
І, за камень схаваны,
Асачыў птушанятку,
Што прыемную згадку
Ў нас праносіць вясною
Над усёй стараною,

Вылятае на ранку
З пазлацістай заранкі
І, спавіта ў праменне,
Іх на песні адменіць?
Аж зіхціць шчабятанне!
Часам сумна так стане,
Што заплачаш, здаецца.
Часам весела ў сэрцы,
Аж пайшоў бы у скокі,
Рукі ўзяўшы у бокі…
Перад птушкамі ўкоса
Узлятае ў нябёсы
І на тым акіяне
Пачынае спяванне.
Вестку ўзносіць да неба,
Што тут людзі без хлеба,
Што патрэбна нам ласка,
А не панская ляска.
Калі ж неба расчуліць,
Долу падае куляй,
Над аратым кружляе
І «дзень добры» спявае».
Не гаруй, чалавеча,
Гора наша не вечна!
Праміне навальніца!
Сей, а будзе пшаніца!
Гэта ж ангел, не птушка!
Шчасце з той весялушкай!
Як заступніца нівы,
Як паэт наш праўдзівы.
Колькі светлага ў песні!
Каб ды тое ўсё здзейсніць!
А ты, коця, мажліва,
Асачыўшы цярпліва,
Кіпцюрамі раптоўна
Супыніў спеў цудоўны,
Па-зладзейску, знянацку
Загубіў нам спявачку?
Адкажы, дзе жаўрук наш,
Што ўзнімае ўсіх рупна
І усіх, хто мадзее,
Надарае надзеяй?

Кот зірнуў рызыкоўна,
Як бязвінны ўсё роўна,
Кіпцюры ашчаперыў
І уклаўся на пер'і…

Па сцяне кот скрабецца.
«Коця, ты, жываедца!
Ненажэрнае горла,
На абедзе што жорла?
Можа, быў ты на ловах
У прасторах гаёвых,
Дзе ляшчына цяніста,
Дзе крыніца празрыста?
Там, ля вербіны ніцай,
Ля празрыстай крыніцы
Смерць для птушкі прынёс ты,
Не звычайнай, не простай,
Што ў цішы вечаровай,
У ляшчыне шатровай
Сум цяжкі разганяе
І, заместа адчаю,
Ў сэрцы радасць калыша
Ў вечаровым зацішшы?
Слухаць спевы цікава
І ляшчыне, і травам.
Нават месяц двурогі
Збочыў з вечнай дарогі.
Стаў і ціха ўздыхае
Каля нашага гаю.
Слёзы коцяцца з неба
Ў засмучоную глебу,
Асядаюць на кветы,
Як раса, непрыкметна.
…Адкажы, кот пракляты,
Загубіў салаўя ты?!»

Сеў пачвара за госця,
Кроў вылізвае з поўсці.
На драпежніку гэтым
Кроў ляснога паэта…
Як дзіця, кот гуляе,
Хіжа ўсё ж пазірае.
Што ты іклы ашчэрыў?

Дзе ты, як ты вячэраў?
Можа, ў дзікі свой звычай
Лазіў ты па здабычу,
Не баяўшыся грэху,
Пад сялянскія стрэхі?
Там, дзе ластавак борздых
Прымацованы гнёзды,
З аднаго, на астатак,
З'еў усіх ты пісклятак —
Дзетак ластаўкі шчырай?
Свой пакінуўшы вырай,
Гэта птушка спрадвеку
Аддае чалавеку
На апеку-патолю
Сваю радасць і долю:
І гняздо, і пісклятак,
Свой святы ўвесь дастатак.
Яна ў нас гаспадыня,
Лета носіць краіне.
Ціхім, цёплым надвор'ем
Па-над хатай, над дворам
І праз дзень, і пад вечар
Безупынна шчабеча,
Дадае так ахвоты
Гультаям да работы:
«Ці вам сну не хапае,
Ці хвароба якая?
Дзе вы? Што вы? Ці жывы?
Не марудзьце са жнівам!
Звозьце ў гумны ўсё збожжа!»
Калі ж хмары абложаць,
Нізка лётаюць, сквіляць:
«Дождж! Дождж будзе праз хвілю!»
Чуеш?.. Енчаць так глуха.
След пакінуў ты горкі:
Кроў і дзетак іх пёркі.
Гора ў птушак якое!
Як клянуць нас з табою!
Б'юцца грудцамі ў сцены,
Дзетак клічуць дарэмна…

Чуе, пэўна, ён сорам,
Страшным лыпае зорам.
Больш няма ўжо сумнення,
Больш няма ўжо цярпення:
Загубіць ва ўсім лёсе
Хіжаку давялося
Стрэх вясковых такую
Гаспадыньку малую.

Кот па-здрадніцку муркаць
Стаў, залёгшы ў пячурку.
Сном накрыўся ён потым
Пасля сытнай работы.
Я ж яго цераз спіну
Як пагладзіў дубінай!
Праз адно вокамгненне
Знік драпежнік у сені,
На дварышча, ў прысады…
Даць не spраўлюся рады!
Га! На дрэве?! Ну годзе!
Пачакай жа ты, злодзей!

Пан дазорца шпіталю
Асачыў мяне здалю.
Загадаў чалядзінцам
З дрэва зняць на дзядзінцы,
Потым зімнай вадою
Паліваць за ўсё тое
І у цесны закутак
Пасадзіць на пакуту:
«Хлеб з вадой на трыднёўку!»
Не вазьму я да толку —
Што? Ды ў чым я правінны?
Помсціў я за нявінных,
За пакрыўджаных птушак,
За малых весялушак.
Што ж магло быць другое
За батурства такое?
Пане! Я у адчаі:
Тых ён птушак канчае.
Ды якое ты пекла ж,

Дзевятнаццаты век наш!
Мабыць, плёну не будзе,
Не палепшаюць людзі!
Што ж мне трэба? Мой Божа,
Мне заснуць дапаможаш?

6

Смешна ходзіць штось такое
Ў тым пакоі.
Горад збоку, вёску з краю
Ўспамінаю.
На курынай ножцы хата
Віхравата.
Там утульная карчомка
Сівагронка.
І палац там на адхоне
Стоваконне.
А касцельчык ледзь мадзее
Ў ветравеі.
На слупах стаіць падпёрты
Дах падзёрты.
Залажыў там нехта кветнік —
Мох і вейнік.
Людзі ходзяць, блудзяць, бродзяць —
Не даходзяць.
Сонны пойдзе ці паедзе
Стуль у недзе?!
І няма на свеце смеху
Ў гэтым грэху.
Кліча з вежы звон пабіты:
«На малітву!»
Па прабойнай каляіне
Дамавіну
На руках дзяды чатыры
Цягнуць шчыра.
І разуты, і раздзеты
Праўдай свету.
Паглядзеўшы гэтай праўды,
Уцякаў бы.
Бабкі бедныя, з шпіталю,

Свечы ўзялі.
Арганісты перад імі
Ног не ўздыме:
Мусіў выпіць для запалу
Кардыялу[2],
Бо з запалу цягне тоны
Антыфоны.
А як гукне «Адпушчэнне»
Ці «Збавенне»,
«Памяць вечную» як пальне
Капітальна,
Дык, здаволены работай,
Лясне ботам.
За труною малавата
Правважатых.
Выйшлі людзі простых станаў
Для пашаны,
Хлапчукі прыбеглі з поля
Для сваволі.
Сябры два, правёўшы крыху,
Зніклі ціха.
Толькі рэкнулі: «А шкода!
Даўся зводу!»
Сэрца, як вулкан, яскравай
Поўна лавай.
Так уласная ўся сіла
І спаліла.
А цяпер што? Ўсё забыта:
Труп — і квіта!

«Што гугніш-пяеш нячыста,
Арганісты?
Труп, як бачна, і па сконе
Ў добрым тоне.
Сцяты ў вуснах надзвычайны
Енк адчайны.
Лоб разумны і адкрыты.
Хто ж такі-то?!»

Так спытаўся пан далёкі
Пры маноклі.
Арганісты растлумачыў:
«Не партачым!

Па латыні і па нотах
Спеў сумотны.
А нябожчык перад панам —
Апантаны.
Быў на хмарах у вандроўцы.
Вершатворца.
Ўсё жыццё пароўся ў кнігах.
А наліха?
Гэта «іншы» быў заўсёдны,
Бо не модны.
Ачмуралі, як малога,
Усё нябогу.
Слёзы ліў, казаўшы ў дужках,
На падушку.
А красуня, сэрцу міла,
Знелюбіла.
І сяброў не меў сумленных,
Шчырых, пэўных.
Вершы згрызлі з добрай шаны
Крытыканы.
Ўсё дабро ўзяла ў абоймы
Родных плойма.
Так ішла за справай справа
Нецікава.
Жаль вялікі ў галаву ўзяў —
Цэлы вузел.
Больш — спаткаўшы чалавека,
Бег наўцекі.
І пайшла ў людзей гаворка,
Слухаць горка:
«Ў галаве яго мудрэчай —
Кукарэча?!
Захварэў, не мае есці.
Злыя весці!
На камінку корч палае —
Дагарае.
Ён жа, ў часе найцяжэйшым,
Піша вершы!»
Тут жа з енкам, як у трасцы,
Стаў пытацца:
«Ды калі ў пясок паложыш,
Моцны Божа?

Я ж любіў так! Мне ж за тое
Усё благое?!»
Адышоў ён так са свету…
Што паэту?!
Нам хаваць прыйшла калейка
Без капейкі!
Хто заплаціць?! Той багаты
Літаратар?!
Дармавая песня — гора,
Моўкне скора.
Га!.. Дзядулі і бабулі,
Ці вы чулі?!

Гэй! Гукнём мы ля магілы
З поўнай сілы:
«Памяць вечную дай Божа
Для нябожы!
Хай святло, — спявайце, дзеці, —
Вечна свеціць!»

*1861, Барэйкаўшчына*



## ПАШТАЛЬЁН[1]

— Тут пяюць і гуляюць, адзін ты не п’ян,
А сумны, як вязень прыкуты.
Вазьмі сабе чарку, сядай на тапчан,
Скажы, што ў цябе за пакута?

Ні бомы, ні дудка, ні смех вечарын
Развеяць твой смутак не могуць,
Два леты жывеш тут, а светлай пары
Ці меў ты часінку, нябога?

— Ой, горка і смутна мне ўсюды, браток,
Няміла на свеце, няміла!
Дай чарку! Скажу, калі вып’ю глыток,
Як доля мяне падкасіла…

На пошту я трапіў зусім малады,
Фурман з мяне ўдаўся зухвалы,
А волі не меў, дый ганялі тады:
Хоць свята, хоць ноч — усё мала!

Ад рання да змроку, ад змроку да дня
Вазіў я паноў і пакеты;
Заробіш рубля — і пад карчму каня:
Гуляй, весяліся да свету!

Ашукваў дзяўчат, зневажаў дружбакоў,
Быў з пісарам запанібрата!
На коні як свісну — аж іскры з падкоў, —
І лейцамі сівых не кратаў.

На мосце зайграю ў вясёлы свой рог,
Кагось абганю ці спаткаю.
Вязу паніча ці паненку, дальбог,
Два злотых як бач атрымаю.

Ды сэрца аддаў я дзяўчыне-красе
З убогай вясковай хаціны.
Дарогі туды кіраваліся ўсе, —
Пабыць з ёй хацеў хоць хвіліну.

Была нейк у пісара справа ўначы,
Паклікаў мяне да сябе ён.
Іду, сваю долю цішком кленучы,
А ў полі скуголіць завея.

«Вязі эстафету!» — «Ой, ліха звяло, —
Шапчу сабе, — ў полі ні тропу…»
А сам за пакет, за каня, за сядло!
Ганю каркаломным галопам.

Мяцеліца круціць, упыну няма,
Страшэннае скрозь бездарожжа,
Слупы верставыя мільгаюць старчма,
Пад'ехаў пад трэці — а божа!

Пачуўся мне плач, хоць віхура гула,
Хтось клікаў, прасіў дапамогі,
Падумаў я: «Згіне, сляпая імгла,
У снезе не знойдзе дарогі…»

Каня павярнуў, аж здалося, нібы
Хтось шэпча: «Куды ты, дзівача?
Ды лепей у вёсцы той час перабыць, —
Дзяўчыну сваю хоць пабачыш!»

Страх сэрца мне сціснуў, забіла духі,
Чало зледзянела ад поту;
Я ў рог затрубіў, каб не чуць, стаць глухім,
Пагнаў сівака праз сумёты.

Я еду дадому, за трое ганей
Вяртаецца страх непазбыты,
А сэрца ўсё шэпча крадком, як раней,
Бразджыць, як званочак разбіты.

Конь чмыхнуў пры слупе, спыніўся наўзбоч:
У снезе, пад плахтаю белай,
Жанчыну я згледзеў, яна ўжо за ноч,
Як дрэва, уся скасцянела.

Я снежную намець абтрос з яе шат
І труп падцягнуў да дарогі…
Абцёр ёй аблічча… Была гэта, брат…
Дай чарку… Не маю больш змогі!

*Май 1844, Залуча*

## ХАДЫКА

*Гутарка з палескай мінуўшчыны*

### I

Зайгралі трубы, і пад замак слуцкі
За хмарай хмара сунецца народу.
Над мужыком і шляхтай суд па-людску
Там правіць дзедзіч, слуцкі ваявода.
І ён, паводле княжых паўнамоцтваў,
Узброены і літасцю, і мечам,
Тых пакарае, тых ушчуне моцна,
А калі трэба, вызваліць бясспрэчна.
І ад гасцей, з раскошай і убоствам,
Надзейна князя адлучаюць краты,
Крыж на стале, ў багатых лаўках Статут,
А поруч пісар з панам падстаростам.
Шум у судзе.
І вось праз куламесу,
Праз гурт людзей, не слухаючы варты,
Абдзёрты старац ціснецца упарта,
З дубовым кіем, як разбойнік з лесу.
Страх паглядзець, іскрацца дзіка вочы,
Хаваюць бровы зірк яго трывожны,
Павісла белае валоссе клоччам,
Касцісты твар, пагорбленыя плечы.
Ступіў за краты, як сляпы, старэча,
Задыхаўся, і ўпаў, і гаварыць не можа.
Князь адступіўся, пісар забаяўся,
Дзед закрычаў на страх усёй дружыне,
Пан падстароста за палаш узяўся
І пацеры гаворыць на лаціне.
А старац скурчаны ляжыць у брудзе,

То шэпча штосьці, а то енчыць глуха
І дыхае — хрыпяць натужна грудзі, —
Нібы на слова набірае духу.
Аддыхаўся, спачыў. Без перашкоды
Загаварыў, а сілы не хапае.
Паўзе да ног ён князя ваяводы
І, плачучы, расказваць пачынае.

II

«Не бойся, добры найяснейшы княжа!
З тваёй я вёскі, бліжняй, небагатай.
Забойца я, згубіў душу, пракляты,
Чакае ўжо мяне сякера ката,
Пакуль прысуд — сумленне хоць разважу.
О, цяжка мне! Як цяжка, каб вы знали,
Чуць на руках расу крыві нявіннай.
Так гэта мучыць, так дратуе, паліць,
Нібыта прыску ўсыпаў хто ў грудзіну.
Ад той пары мінае год трыццаты,
Але не знае даўнасці сумленне,
Каб толькі сэрцу мець ад мук збавенне,
А галава хай будзе і адцята,
Сякераю адлучана ад шыі,
Хай не гарыць ад горкіх дум пажарам,
Хай кроў мая нявінную кроў змые.
Закуй у кайданы, пашлі мяне на кару,
Сумленне толькі вызваль з цяжкіх путаў,
Бо гэтак цяжка, дай ратунку, Божа!» —
«А хто ж ты ёсць?» —
«Завуць мяне Хадыка,
З Палесся родам, там у вёсцы, можа,
І помніць хто мяне з дзядоў магутных,
Хоць і даўно я ў пушчы асцярожна
Жыву, як звер, са зверыною дзікай,
Але даўгая памяць аб злачынцы!
І даўнія прыгадваюцца леты,
Суседзі часам баюць на гасцінцы
Аб тым Хадыку, звёў які са свету
Душу людскую». —
«Што цябе штурхнула

На троп забойчы?» —
«Ой ты, княжа ясны!
Няміла мне прыгадваць час мінулы,
Бо згадкі блытае выпадак той няшчасны.
З тае пары, калі сышоў я ў пушчу,
Нікому не казаў пра таямніцу,
А сёння, як на споведзі ў капліцы,
Усё з-пад сэрца буду я вылушчваць.
Дык слухайце, бо гавару я шчыра,
Пасля зрабіце ўсё належным чынам,
Пішыце, суддзі, мне смяротны вырак,
Хай здзейсніцца над галавой злачыннай.

III

Я асочваў звяроў, меў у лесе хаціну.
Люстравала азерца пахілую стрэшку.
Божа мілы, як хочацца позіркам кінуць:
Ці ліпіць яна там, ці згніла ўжо дарэшты?
Ці хто іншы жыве? Я, забойца няшчасны,
Абмінаю свой кут — людзі згледзяць, асочаць.
А жылі ж там і жонка, і бацька… Дачасна
Нехта ўссыпаў ім жвіру цяжкога на вочы.
Дзе магілы? Напэўна, і знаку няма іх.
Трыццаць год! Цэлы век для дзядка і жанчыны.
Мне здаецца ўсё: возера зоркі зыбае,
Лесу цёмны гушчар у мяне прад вачыма.
Быў мой голас вядомы звярам і суседзям,
Там калісьці вадзіў я паноў на аблаву,
Там ці раз барукаўся крыж-накрыж з мядзведзем,
Гнаў дзікоў і ласёў па сцяжынах крывавых.
Сам быў дуж, як мядзведзь, а спрыцён, як падлетак,
І ахвоч паляваць, хоць удзень, хоць уцёмнач…
Божа мілы, чаму не зрабіў тады гэтак,
Каб у лес не пайшоў, а ляжаў непрытомны.

IV

А было гэта ўзімку, парою марознай…
Атрымаў я загад, лоўчы ў двор мяне кліча.
(Драбнаваты панок, а ў рамёнах шырозны,

Спрытны быў ён да зброі, а болей да біча.)
Вось зазваў ён і кажа: «Хавай цябе Божа
Праз якую няўпраўку сапсуць паляванне:
На аблаву прыбудзе Сапега вяльможны,
Гэта гетман літоўскі, не жарты, васпане!
Ці ў абходзе сваім бачыў звера буйнога?» —
«Ёсць, панок, гадунцы,
два мядзведзікі гладкіх». —
«Вось да той серады нарыхтоўвай аблогу,
Асачыць, абкружыць і паставіць палаткі.
Бо прыедзе сам гетман! Будзь пільны і жвавы,
Каб пад кулю яму зверына выбягала,
Я прыеду пасля, узначалю аблаву,
А пакуль што кіруй, будзь начальнікам сталым.
Маеш тынф[1] на гарэлку, зрабі мне ўсё хвацка,
Бо іначай, Хадыка, — руку маю знаеш! —
Жартаваць я не ўмею з нагайкай казацкай:
Дзвесце — хоць бы сам чорт ратаваў —
атрымаеш!»
(Жонку меў маладую, баяўся пан лоўчы,
Не заходзіў у лес, каб не стрэцца з звярамі.)
Выйшаў я, грошы звоняць… Гульнуць бы нам, хлопча!
Як на споведзі, шчыра кажу перад вамі.
Тры дні піў я гарэлку, а ў дзень наказаны
Спадзяваўся — усё ж асачу-такі недзе,
Ды мядзведзь зразумеў, што асочнік[2]-то п'яны,
З пушчы ціха сышоў, даганяйце мядзведзя!
Я маўчу, аж у сераду — моцны мой Божа! —
На аблаву здалёку пан едзе за панам,
І нарэшце з сынамі той гетман вяльможны…
Тлумна, хораша, гучна… Дамок мой драўляны
Зазіхцеў, як палац, — ліхтары на варотах,
Двор які! Колькі служак наўкол мітусіцца!
Псярня — цуд, любата! Срэбра скрозь, пазалота, —
Так і ў казцы не зманіш і ў сне не сасніцца.
Выязджаем у пушчу. Што будзе, не знаю,
Але ўпрогся ў хамут, дык цягні даастатку.
Трубіць гучна аблава, страляе, гукае,
А мядзведзя няма. Панства мерзне ў палатках.
Вось і сонца зайшло, змрок спускаецца шэры,
Гетман страціў цярплівасць
і словам адборным

Злаяў лоўчага моцна, пасля па вячэры
Рушыў з лесу, і следам паехала дворня.
Тут пан лоўчы спагнаў сваю злосць у ахвоту:
Падхапілі мяне, прывязалі да дрэва,
Лупцавалі гарапнікам з тоўстага дроту,
Падплываў я крывёю ад панскага гневу.
Марна бацька да ног прыпадае з адчаем,
Плача жонка, а скаргі, працятыя болем,
Ловіць рэха лясное і скрозь паўтарае, —
Лоўчы быццам аглух, злосны быў як ніколі.

## V

Моцна збіўшы, мяне скуралупы пусцілі…
Сам не свой… А шайтан спакушае над вухам.
Меў за дзягай тапор і, хоць вельмі знясілеў,
Засвяціў між вачэй таму пану абухам.
Павярнуўшы лязом, цяў у грудзі таксама…
Кроў мне пырснула ў вочы, адзежу змачыла.
Ці ты бачыш, мой княжа, нязмытыя плямы?
Гэта свежая памяць аб даўнім злачыну.
Піратлела сярмяжка, хоць мыецца рэдка,
Паліняла яна ад нягоды, ад поту,
А нявінная кроў не сыходзіць, як сведка,
Выкрывае, таўруе злачынства згрызотай.
«Уцякай!» — мне шапнулі. Бяда, чалавеча, —
Падступаюць стральцы… З тапаром у далоні
Кулем кінуўся ў пушчу і знік у гушчары.
Го! Асочніка ў лесе не кожны дагоніць.
Як па гладкай дарозе, бег лесам уночы,
Ад людзей так зашыўся — ні следу, ні знаку!
Трыццаць год не дазнаўся ніводзін сабака,
Сёння ж сам я з’явіўся на вашыя вочы.

Глупства суд чалавечы! У сэрцы глыбока —
Горшы суд… Там сумленне адно валадарыць,
Зуб за зуб патрабуе і вока за вока…
Дык нясіце ланцуг, я гатовы да кары.
А пакуль што дарадзьце, шаноўныя суддзі, —
Цёмны я, невучоны, пачаў спадзявацца:
Час злачынства астудзіць, забудуцца людзі,
І віну акуплю я пакутай і працай.

Я пакутаваў гэтак, як дух той маркотны,
Што ў вярбіне сухой скаргі ўзносіць да неба:
Працаваў са слязамі, еў з хлебам гаркоту,
Дзе там хлеб? Што я даў бы за скібачку хлеба!
О, што значыць скарынка ў радзімым куточку!
Хата! Цёплы спакой! І праснак на вячэру!
Каб не хлеб, чалавек бы забыў, што не звер ён…
Але слухайце ўсё ад пачатку, паночкі!

VI

Праз гушчар прадзіраўся, ўцякаў ад пагоні.
Ці ў галлё зледзянелае вецер зазвоніць,
Ці зарыпае снег, ці на штосьці наскочу,
Ці на дубе крыламі сава залапоча, —
Скрозь здаецца пагоня. Няма мне збавення,
У сабе нёс пагоню, бо гнала сумленне.
Гналі думкі мяне з нейкім страхам звярыным.
Вецер след замятае, шалее ў ялінах.
Быў я цёпла адзеты, ды ў гэткай завеі
Адубееў я, азглееў, толькі думка не зглее.

Хоць гуло ў галаве, сэрца рвалася з болю,
Кроў гарачую сівер астуджваў паволі.
Азірнуўся навокал, успомніў аб стрэшцы, —
Ды ці раз мы ў бары начавалі, нарэшце!
Пазіраю, трывожныя думкі сцішаю:
Што ж, сякеру я маю і крэсіва маю,
Стрэльба ёсць за плячыма, мяшэчак барсучы,
Колькі дзён мне бяда і нуда не дакучаць,
Перабуду дзён колькі! А потым? Езусе!
Паміраць давядзецца мне з голаду, мусіць…
Поруч цёмная елка з чупрынай густою
Да зямлі апусціла галлё снегавое.
Хата будзе на ноч! Але што мне з хаціны,
Не засну, — вырываецца сэрца з грудзіны, —
Можа, трохі спачну. Разглядаюся зблізку,
А тут раптам з-пад ног як шугне медзвядзіска,
Як раўне — і наўцёкі. Правёў я вачамі, —
Эх, шкада, што пан гетман паехаў з сынамі!
Эх, шкада, што пан лоўчы не ўбачыў бярлога!
Чорным шнурам бяжыць недзе кроў з нежывога,

А няшчасная жонка яго маладая
Аж зубамі скрыгоча, галосіць з адчаю
І хінецца да мужа, цалуючы вусны…
Муж… Халодны, як камень, а белы, як хуста.
Ён шчаслівы, хоць рана пабраўся са смерцю, —
Кроў ад холаду згусла, не смаліць пад сэрцам,
А ў мяне там пажар над пажарамі ўсімі!
А мой бацька! А жонка? Што станецца з імі?
Так цалюткую ноч заліваўся я потам,
Думкі з пошчакам білі, тлумілі згрызоты.
Вось займаецца ранак, залоціцца золак,
Але ім не прагнаць маіх дум невясёлых.
Я падняўся, пабег, пакуль вока сягала,
У дрымотным гушчарніку пушча схавала.
Ад людзей-то затоішся ў нетры глыбока,
А ў сумлення ўсё роўна ты навідавоку, —
Не схавацца нідзе!
Па гушчарах сасновых
Праблукаў, быццам прывід, да ночак вясновых.
Пройме холад — дзе-небудзь прысяду ў зацішку,
Накладу аганьку, абагрэюся крышку,
А як голад прыцісне, набой падрыхтую,
Куляй звера здабуду ці птушку якую.
Скончан порах… Карою жывіўся я нашча,
Часам зайчыка вырву з ваўчынае пашчы,
Ці дастану саву з дуплянастае хвоі,
Ці вавёркаю голад крыху заспакою.
А бывае… дзён колькі не трапіць нічога.
Чорт рагоча:
«Хадыка, выходзь на дарогу,
Там па бітым гасцінцы ідуць караваны,
Грошы ёсць у купца і ў вяльможнага пана.
Скочыш ты на пярэсмык і мецьмеш вячэру,
Калі некаму ў твар пасміхнецца сякера.
Лусту хлеба здабудзеш, кусай прагавіта,
Свежы хлеб — асалода! У хаце нібыта.
А не хочаш, нараю збавенне ад скрухі,
Не пакутуй, звярніся да ўласнай папругі,
Ды гапельку зрабі, ды адважся — хвіліна!
Падшукаю табе, калі хочаш, асіну».
…Так да самай вясны пад нябеснаю столлю
Голад, холад, сумленне і чорта адольваў.

VII

Вясной дыхнула, пацяплела ў пушчы,
З гор у даліны ручаі спяшаюць,
Шарон і лёд на полі шумна трушчаць, —
Нібыта мора стала на імшары.
Мне толькі не палепшала, васпане,
Мардуе роспач, голад цела сушыць,
А радасць зрэдку, як з-за хмары, гляне,
Суцішыць сэрца, утаймуе душу.
Прачнуся часам, а паблізу рочаць,
Вада плюскоча, зяблікі цвіркочуць.
Пасля раптоўна я свядомасць трачу,
Ад думак глухну, свету зноў не бачу.
Увечары, калі аціхне вецер,
Пастаўлю ў чаратах лазовы венцер
І, слухаючы цішыню лясную,
Усплёскі рыбы, гоман хвалі весняй,
Я не зважаў, што, можа, хто пачуе, —
Гарлаў уголас роднай вёскі песні.
Дасюль, бывала, як пачне змяркацца,
Я не знаходзіў смеласці і сілы
Ні памаліцца, ні перажагнацца,
Ні проста зірк падняць да небасхілу.
…Не зразумець, паны, вам, як забойца
Маліцца можа, калі цісне скруха,
Хоць чорт шапоча: «Што святая Тройца!
Не паніжайся прад вышэйшым духам.
Патрэбна горда ставіцца да Бога,
Калі няма надзеі на збавенне, —
Пачнеш малітву быццам па налогах,
А скончыш плачам, от і ўсё маленне».
Вось як было са мною…
А наўкола
Лес акрываўся кволаю лістотай,
З нябёс жаўрук зашчабятаў вясёлы
І абазваўся цецер за балотам.
Салоўка заспяваў, тады з-пад гліцы
Зірнуў грыбок і першыя суніцы.
Благі наедак, хоць збіраць іх блізка,
Ды чалавеку мяса дай, як зверу.
Не раз я за спажывай, бы ваўчыска,

Гайсаў па пушчы, зубы хціва шчэрыў.
Злавіць што-небудзь цяжка чалавеку —
Ні кіпцюроў, ні крыл няма арловых.
Калі здабычу знюхаеш здалёку,
Чакай, таіся з хітрасцю катовай!
Хіба сіло стрымае лёт птушыны,
Ці тапаром раскрою лоб ваўчыны,
Тады — банкет! Свяжую і спяваю,
З лаўжоў агонь вялікі раскладаю,
Як на бяседу, мяса смажу смачна,
Яснейшых думак ладжу карагоды.
Ды рэдка-рэдка паляваў удачна,
Часцей галадаваў, а ў скрусе жыў заўсёды.

VIII

Лета. Самы прыпар, ні хмурынкі ў нябёсах,
Не магу я дыхнуць, даастатку знябыты.
Так мяркую, што быў гэта час сенакосу, —
Авадні і сляпні пацішэлі нібыта.
Мусіць, поблізу недзе блукаў ля балота,
А гавораць, што д’ябал у багне вядзецца.
Ціснуць думкі чало, паляць сэрца згрызоты,
Думаў крыжам прагнаць іх, але не ўдаецца.
Падупаў я душой, галадоўля ды скруха, —
Тапара не трымаюць аслабшыя рукі.
А нячысцік з балота: «Вось бачыш, не слухаў,
А ўжо зараз, дурніца, не ведаў бы мукі.
Як ні кінь, ад людзей не схаваеш злачыну,
Не ўсё роўна вісець: ці на плошчы,
ці ў лесе?
Калі шыбельня дурню мілей за асіну,
Дык чакай, калі ласка, хай каты павесяць». —
«Не, — кажу, — нацярпеўся і болей не буду.
Пашукаю галіны, каб цела ўтрымала».
Вочы ўгору падняў: а там звону, а гуду!
Рой лятае, і пчолка цяла мяне джалам.
Ладны рой! Памаленьку на дрэва сядае…
Кроў палеская ў жылах азвалася зноўку:
Не! Я думаць аб смерці пакуль пачакаю,
Пчол спярша абяру і зраблю ім дамоўку.

Пчолы — гэта набытак і скарб, ягамосці,
Так заўсёды лічылі палескія людзі,
І мой бацька, і дзед мой… І я з маладосці
Добра знаўся на пчолах… Эх, пасека будзе!
От з вялікім імпэтам узяўся за справу:
Рой у шапку сабраць — быццам вымавіць слова,
У хваіне дуплянку я выдзеўбаў жвава —
Хай пацешацца пчолкі сядзібаю новай.
Так цалюткі дзянёк завіхаўся, вясёлы,
А пад вечар да смерці ахвота мінула, —
Заўтра мушу глядзець, як аселіся пчолы,
І другая турбота мяне агарнула.
Стаў крыху меркаваць: пастараўшыся вельмі,
Больш раёў налаўлю, а вазьмуся цярпліва,
Дык і ў горкай нядолі наладзіцца пчэльнік,
Гаспадарка ў бары — гэта ж дзіўнае дзіва.
Не для ўласных патрэб, не на продаж у месце,
Хіба можна мне з мёдам туды патыкацца,
А для працы, карысці… ды так сабе, ўрэшце,
Для людзей, бо на іх жа трымаецца праца.
Што я варты без працы? Бадзяцца павінен,
Загніваецца сэрца ад думак паганых.
Крыж пастаўлю над багнай пры шумнай асіне,
Будзе Богу пашана і піка шайтану.
А калі ў галадоўлі і сцюжах загіну,
Нехта, косці знайшоўшы, заплача выпадкам,
Не канечне заплача, бо спадкі пакіну,
Цэлы пчэльнік… Бяры на здароўечка, братка.

IX

А пушча ў нас — там свет канчаўся недзе.
Вячыстая, высозная, густая,
За тры гады на конях не аб'едзеш,
А заблудзіцца — хай пан Бог хавае!
Дамоў не трапіш, людзі не пачуюць,
І пошчаку ў адказ не прычакаеш.
Усё жыццё, напэўна, тут звякую,
Ніхто не знойдзе, нават з ганчакамі.
Як вокам кінуць, сцелюцца шырока
Глухія багны, грузкія нізіны,

З алешніку малая ручаіна
Ледзь-ледзь булькоча, ціснецца па кроку,
Ніхто не абзавецца і не крыкне,
Хіба гадзюка ў мокрых травах сыкне
Або на вадапоі, ля крыніцы,
Раўне мядзведзь і прамільгне лісіца,
І зноўку ціха… Толькі лёгкі вецер
Шуміць таемна у спрадвечным вецці.
А як жа шмат на баравых палянах
Пахучых зёлак і раслін мядзвяных.
І процьму пчол хавае сівы ельнік,
Без догляду раяцца, проста ў дуплах,
Каб іх паболей ababраць у пчэльнік,
За хвойкай хвойку аглядаю рупна.
Пры першым вуллі — новыя дзяўбаю,
Раблю жытло нявольніцам крылатым
І, як пчала, пра свой прытулак дбаю —
У дубе на зіму майструю хату.
Паверце, ягамосці, што за працай
Лягчэй ад чорных думак абагнацца.
Тады няма згрызоты аніякай,
Калі ты ўсмак працуеш, чалавеча,
Тупой сякерай чэшаш паляняку
І раскладаеш вогнішча пад вечар.
…Прыйшла зіма. Куток мой небагаты
Сярод імшар красуе, як вяночак.
Злічыў раі, было ўжо іх дзясятак,
Работы ёсць ад раніцы да ночы.
Пачысціць трэба, паглядзець на месцы,
Ці добра ўхутаны мае калоды,
А можа, голадна якой сямейцы
Ці лазіў шчур паласавацца мёдам.
Заплачу часам… Каля кожнай маткі
Таўкуцца пчол вясёлыя грамадкі…
Успомню хату, жонку прыгадаю,
Старога бацьку, цэлы гурт вясковы.
«Як маемся? — здалёку прывітаю. —
Мае каханыя, ці жывы, ці здаровы?»
З якім бы шчасцем і з якою ўцехай
З людзьмі б я гаварыў і гаварыў без зморы!
А тут пачнеш — адно абудзіш рэха,
Гукнеш — аукнецца, само не загаворыць.

Хоць енч да слёз, хоць як працуй у поце,
Хоць тут прабудзь ад веку і да веку,
Не прыйдзе рэха памагчы ў рабоце,
Не скажа «памагай Бог» чалавеку.
Ды што жадаць, як здзейсніць немагчыма?
Я плакаў доўга, а бяды не сходаў,
Пасля здзічэў у нетрах непраходных,
Нібыта вырас у нары ваўчынай.

X

Трыццаць год я прабыў у маркотным закутку:
Гэта хутка падумаць і вымавіць хутка,
Ды не хутка пражыць, бо душа чалавека
Моцна ў целе сядзіць і ў слабога калекі.
У пакуце, у голадзе, ў сцюжы, ў рабоце,
Калі ўсё паміралі наўкол у самоце,
І дубы, што я ведаў з густой верхавінай,
Паўсыхалі, прапалі, а я ўсё не гінуў.
Многа хвоек за працай маёю сачыла,
Чэрві іх патачылі, гнілізна пабіла,
А чарвяк, што на труп мой нацэліўся ласа,
Дачакацца не можа смачнога папасу.
Да гарлянкі прысох мой язык анямелы.
Пашчарбіўся тапор, і сярмяга сатлела,
Што рабіць, я падумаў, магіла марудзіць,
Трэба жыць дзеля працы і мук на бязлюддзі.
Не пакіну цябе я, мой пчэльнік, самохаць
І сякеру напраўлю на камені трохі.
Вось хіба што крывавай адзежы зракуся —
Перазімую зіму ў мядзведжым кажусе.
Не шукаў іх, прыходзілі часта мядзведзі,
Самі перлі — хацелася борці падгледзець.
Я насустрач — дальбог! — заступаю дарогу,
Тапаром і даўбнёй супакою нябогу.
Іншай зброі не меў, ні кальчугі якое,
Пакалечыць зімою, а лета загоіць:
Траплю ў кіпці, ляжу, не аказваю духу,
Чэпне лапай мядзведзь,
будзе нюхаць і слухаць,
А прызнаўшы нябожчыкам, суне адгэтуль.

Адзічэлы мужык мудрэй за прайдзісвета.
Ды навошта расказваць? Ніхто не паверыць.
Як злаўчыўся ашукваць я птушку і звера,
Як нахватваўся зблізку, падсочваў здалёку.
З норкі выманіць ліса, арла — з-пад аблокаў
І лася задушыць — ні да чога тут зброя,
Голад розуму наўчыць і сілу патроіць.
Кожны год, як нападае снежная крупка,
Я на дубе сваім высякаю зарубку,
Так гады адзначаю…
Хапала мне пекла,
Пакуль дваццаць зарубак сякера насекла.
Час мінае, і Бог памагае заўсёды,
Абіраю раі і стаўляю калоды,
Мае мілыя пчолкі руку маю знаюць,
Выйдзе рой і спакойна сядзібы чакае.
Маюць пэўнасць, не будзе ім кепска ніколі:
Пасаджу іх на дрэве ці нізка — на доле.
А як здарыцца часам няўпраўка з ядою —
Ад старых маладзейшаму рою адкрою.
Гэтак год за гадком…
Па зярняці, не шпарка
Убіралася ў сілу мая гаспадарка,
І гадоў цераз дваццаць яна акрыяла:
Тры капы маіх борцяў у лесе стаяла!

XI

…Гэтак старасць прыйшла, назаляе нядужасць,
Рукі, ногі дрыжаць, да работы не служаць,
І сякеры няма — не разжыцца ніколі! —
Чым ты звера паваліш, калоду расколеш?
Голад, холад, а тут медзвядзішча кудлаты,
Што служыў кажухом, разарваўся на шматы.
Як парадзіць? Залягу ў дубовай каморы,
Перацерплю да скону нястачу і гора.
Завалок свае косці у дуб спарахнелы,
Навалiліся жахі на душу і цела,
Абудзілася жальба па свеце, па людзях,
Паліць смага, і голад апоўначы будзіць.
…Ды здаецца, што чорт выглядае з балота

І нібыта рагоча, якоча ў чаротах,
Страшыць даўняю кроўю, раз'юшана клепле:
«Як бы ты ні хрысціўся, сустрэнемся ў пекле».
Досыць тут марнавацца, далей не ўтрываю,
Выйду з пушчы, хай ловяць, няхай асуджаюць,
От калі ўжо заціхну, пятлёй пакараны,
Дык і Бога ўлагоджу, і ўлашчу шайтана.
Так разважыўшы, ўзяў я падраную світку,
Адвітаў свой закутак і пчол працавітых,
Са слязамі аб лесе, з праклёнамі долі
Я пайшоў выбірацца як-небудзь на поле.

XII

Блукаў я шмат… І вось аднойчы ранкам
Радзейшы лес пачаўся каля рэчкі,
Разлеглася пясчаная палянка,
А за пагоркам — вёска недалечка.
Ступіў на ўзгорак…
Як хадзіць па свеце,
А не ў бары са сцежкамі глухімі?
Баяўся, што мяне паваліць вецер,
Што сонца яснатою вочы выме.
У сінім небе прыпыніўся вокам,
Стаў да сялібы трохі прыглядацца.
Здаецца зрэнкам, быццам бы навокал
Дубы і сосны скачуць, мітусяцца.
Зайшоў у вёску. Страх сціскае грудзі,
Ды ў сэрцы неяк соладка і ўздымна:
Браты мае! О Божа! Тут жа людзі!
Усіх людзей схапіў бы я ў абдымкі.
Ды толькі ўсе, хто стрэўся на дарозе,
Хто клікаў, плакаў, падзываў рукамі,
Усе як ёсць, блазнота і дарослы,
З жахлівым крыкам з вуліцы ўцякалі.
Ці твар, знябыты ў нэндзы, іх уразіў,
Ці нажахала постаць патарочы,
Ці, можа, кроў блішчала на сярмязе,
Ці чым забойцу выкрывалі вочы?
Было так горка — вымавіць няможна,
Мяне, як пошасць, абміналі людцы,
Здалёку тройчы перахрысціць кожны

І бегма ў хату, на замок замкнуцца.
З канца сяла стаяў дамок замшоны,
Пастукаў я, штось адказалі з хаты.
Успёршыся на кій свой сукаваты,
Я павітаў: «Хай будзе пахвалёны».
Няма адказу… Хлопчык баязліва
Падбег і хлеба кінуў мне акраец.
О княжа мой! Ніколі гэтак хціва
Ваўчыска на ягня не пазірае,
Не разрывае ненажэрнай пашчай
Свае ахвяры на вясковых межах,
Як я глядзеў і рваў той хлеб драпежна,
Душу абнашчваў.

Я з вёскі у вёску сунуўся, мізэрны,
Ўсе гадзіліся, як лясной брыдоты,
Але адзін знайшоўся міласэрны,
Спыніў, спытаў: «Адкуль ты, дзеду, хто ты?»
Зазваў на ноч, наліў гарачай стравы,
Падараваў старую апранаху
І гаварыў са мною так ласкава, —
Хай будзе шчасце над ягоным шляхам!
(Найлепшы дар, найлепшая уцеха,
Калі хто бедака абдарыць сэрцам!)
Ён расказаў, што ў места князь прыехаў,
Судзіць за ўчынкі — кожнаму па мерцы.
І я прыйшоў…
                                        Як заслужыў злачынец,
Суровае мне вызнач пакаранне,
А я табе за гэта дам гасцінец:
Усе вуллі, іх тры капы, васпане!
Пчол гадаваў я ў нетры непралазнай,
На варце быў улетку і зімою.
Сам тое месца не знайду адразу,
Ды ёсць прыкметы: возера малое,
Лес, нібы выспа, багнішча навокал,
Збуцвелы крыж, паваленны на ўзбочча,
А спаміж выспы, над рачной затокай,
У спарахнелым дубе — мой дамочак.
Дарункам гэтым не пагрэбуй, княжа,
Мяне ж, забойцу, пакарай на горла.
Сумлення мукі, пэўна, смерць развяжа,
Аціхне боль, не будзе сэрцу горка…»

## XIII

Хадыка змоўк. Ні гуку, ані руху,
Глядзіць на дзеда грамада людская.
Князь да канца з увагаю даслухаў,
Нібы ўздыхнуў і вочы затуляе.
Нішто б натоўпу болей не здзівіла —
Бядой мужычай князь устурбаваны!
Калі ж бы так — слязою Радзівіла
Быць можа кожны статут скасаваны.
Князь пазваніў, падняўся наастатак,
І ўсіх падняў, і сцішыў голас медны.
«Панове! — возны абвясціў з-за кратаў. —
Solvitur sesja[3] заўтра па абедні».

## XIV

Не ведаю, які быў дзень той судны,
Ды званары са Слуцка мне казалі,
Што ў кляштары памёр стары прыблудны,
Якога быццам бы Хадыкам звалі.
…А між бароў, сярод імшары дзікай,
Дасюль вядзецца пасека лясная,
Багата дзіў аб ёй апавядаюць
І называюць гэтак жа — Хадыка.

*1847*

# РАДАВІТЫ ШЛЯХЦІЧ ЯН ДЭМБАРОГ

*Перадспеў для літоўскага чытача*

Святая Літва мая, край наш, айчына!
То жоўты пясок, то лугоў зеляніна…
Няма ў нас такіх ні нябёсаў, ні сонца,
Як недзе ў краінах гельветаў[1], аўзонцаў[2],
Дзе рай на зямлі, дзе арыкі — як дзіва,
Дзе вечназялёныя мірт і аліва,
Дзе горы — пад неба, не нашы Панары,
Дзе ў кветках раскошных пад сонцам абшары.
Краёў тых азёры, каскады, уцёсы
Малююць валахі[3] і, нібы дзівосы,

На нашы вязуць кірмашы — для літвінаў,
Напэўна, няма цікавейшых карцінаў.
Твае ж, о Літва, балаціны, твой морак
Ці ж хто павязе на малюнках за мора?
Не ўбачыш у нас вадаспада, цясніны,
Па ўзгорках — ядловец, там — хвоі, асіны.
З іх хаты будуюць, а нехта й харомы.
Цвіце мох зялёны на стрэхах з саломы.
А там, пад страхою — люд просты, люд цёмны,
Зусім непісьменны, ды ў працы няўтомны.

А глянуць, Літва, на цябе больш глыбока,
Ты вартая болей, чым здасца на вока.
З тваёй паднябеснай сасны ў тры абхваты
Брытанскі фрэгат змайстраваны крылаты.
Сын вёсак тваіх век гарбаціцца ў полі,
Каб гожай Еўропе мець хлеба даволі.
Літвін не збаяўся ў выправе ваеннай
Ні скал пад Мадрыдам, ні туркаў пад Венай.

Цячэ ціха Нёман паўз нашы сядзібы,
Плыві па ім смела. Спакойны ён нібы.
Дае ўсім гайдаць сваю плынь люстраную,
Зімой сябе ўзяць у турму ледзяную.
Ды гэтай пакоры не вер: ледзь вясною
Пачуе ён птаства над цішай лясною,
Як плечы расправіць, бы волат, што ўскрэсне,
І лёд, што трымаў яго, з грукатам трэсне
Ды ўздыбіцца глыбамі — бойцеся, хаты,
Ушчэнт разнясуць вас стыхіі раскаты!
А рыне вада, каля вокан заскача,
Захрысцяцца ўсе: канец свету, няйначай!
Ды Нёмана гнеў адбушуе й астыне.
Такое ж і сэрца ў цябе, брат літвіне!
Прымглёнае сонца, сам клімат пахмуры
Тут сцішвае, пэўне, душэўныя буры.
Наш люд, што жыве пры лясах, пры балоце,
Здаецца, праводзіць свой век у дрымоце.
Але непрыкметныя з віду літвіны
Раскажуць з ахвотай табе пра навіны,
Пра мудрых пракокаў, пра дзеі былыя —
Аж будуць іскрыцца іх вочы жывыя!

О, маеш агонь ты, Літва дарагая,
Тут думка людская высока сягае.
Тут рыцара грудзі — з запалам юначым,
Тут хто пакахаў, то ўсім сэрцам гарачым.
Сустрэнеш тут воя старога: на твары —
Аўтографы бураў — глыбокія шнары…
То з плугам, то з крыжам, то з мечам, то з чаркай
Тут хвілі літвіна міналіся шпарка.
А колькі прыгод меў — і сам бы не ўспомніў:
Сардэчных, імклівых, як сонечных промняў.
А часам геройскіх у бітвах крывавых
Дый смешных, пацешных, заўсёды цікавых.
Усюды сустрэне іх памяткі кожны:
Капец сярод поплаву, крыж прыдарожны,
Старая карчма, слуп каменны, капліца —
Гісторыі нашай у іх таямніца,
Паданні пра дзеі, пра славу айчыны.
Хіба ж іх забыць мы павінны, літвіны?
А хто не ўспаіў тут свой дух, свае грудзі
Паветрам радзімы, ці ж помніць іх будзе?

Калісьці шмат мела — бо даў ты, о Божа! —
І лірнікаў, і гусляроў Запарожжа.
Няхай бы й на нашае поле ты ў дар даў
Такіх, як былі ў Каледоніі[4], бардаў.
У спевах бы іх уваскрэсла яскрава
І нашая веліч, і нашая слава.
Ды не надзяліў Бог нас дарам спявачым,
Дарогу сваю камянямі мы значым.
А што гэты камень, няхай і зпадзорны —
Імхом зарасце ён ці пойдзе на жорны,
І знікла паданне. Калісьці ж надзіва
Было тут багатае лірніку жніва.
З часоў даміндоўгавых і болей позных
Было тут шмат дзеяў, вялікіх і грозных.
Пра прадзедаў-волатаў, даўнія былі
Як шмат курганы-валатоўкі стаілі.
А Крэва? Шчэ помняць тут замка руіны
Пра Кейстута смерць, пра падзеі краіны.
Ля Прыпяці й Шчары, дзе ў зорах нябёсы,
Раскажуць крыжы вам пра краю дзівосы.
Для барда — знаходка паданні такія:

У іх жа — і слава, і мроі людскія.
І песня яго, дзе зазвоняць крыніцы,
Адслоніць літвінскай душы таямніцы…

*1847–1850, Залуча*

## ГЕТМАН ПОЛЬНЫ[1]

*Старажаўнерская гутарка*

Бо калі дома львамі бязлітаснымі
будзеце, у часе грозным станеце,
як авечкі ў рэзніцы.

*П. Скарга*

### 1

Пад узгоркам, дзе стала вёска,
Татар чакае панскае войска,
Дабеглі чуткі, што познім часам
Арда тут будзе сёння з папасам.
«Як толькі ткнецца арда з даліны,
З усіх бакоў вы абняць павінны.
Для абароны хацін вясковых
Не пашкадуйце мячоў сталёвых!» —
Так план накрэсліў для гэтай справы
Вяльможны гетман польнай булавы.

### 2

Хто закаваны ў сталёвы панцыр,
І Бога можа не пабаяцца.
У вёсцы шляхта з абозным збродам
Глуміцца стала па-над народам.
Ламаюць свірны, рабуюць хаты,
Галосяць, енчаць ад іх дзяўчаты.
Валам рабочым сякуць галовы,
А хто заплача — б’юць дадаткова.
І хто ж смяецца з тае расправы? —
Вяльможны гетман польнай булавы!

3

Да гэтай вёскі на шэрым змроку
Прыйшлі татары, пачулі ёкат.
«Не будзе бога вышэй Алаха!
Наш Сулейман тут дае ім жаху!
Дзе Сулеймана нага ступала,
Там застаецца спажывы мала.
Мы лепш на замак хадзем паходам,
Каб скончыць справу адным заходам.
У замку вораг жыве крывавы —
Вяльможны гетман польнай булавы».

4

Рабуе шляхта не горш татараў,
А ў небе водбліск другіх пажараў.
Як глянуў гетман — закалыхаўся:
«На конь, панове! Мой двор заняўся!..»
Пакуль на коні, пакуль пагоня,
Там засталіся адны галоўні:
Што пагарэла, што паламана,
А гетманова ў палон забрана…
Заплакаў горка слязьмі няславы
Вяльможны гетман польнай булавы…

*1851*

## ЛЯЛЬКА

Будзь, лялечка, ветлай! І плакаць не варта!
А хто ж гэта вушка ка мне не схіляе?
Я ляльцы скажу пра цікавае надта,
Як чула ад родных сама я.

У свята… мне мама надзене абнову,
Бо выўчыла я па-французску маліцца.
Завяжа чало мне істужкай ружовай.
Паедзем мы ўсе да капліцы.

Вось будзе дзівіцца народ наш вясковы,
Калі па-замежнаму я памалюся!

Маліцца ж не варта мужыцкаю мовай,
Хоць я і жыву ў Беларусі.

Ціхутка скажу і папросту: хай Божа
Хутчэй дасць мне вырасці зграбнай, харошай,
А татку і маме здабыць дапаможа
Шмат жоўтых і беленькіх грошай.

Яны іх так прагнуць, як збавы смяротнай,
Кладуць на імшу па двузлотцы, не меней.
А Бог, што дае за ахвяры стакротна,
Адплаціць ім поўнаю жменяй.

Штораз яны лепей дагоджваюць Богу,
А ён жа ўсё бачыць сваімі вачыма!
Адразу дасць грошай так многа, так многа,
Што нават злічыць немагчыма.

Ах, лялька! Аж смешна! Не можаш ты ўцяміць:
Пытаеш, ці Бог прыйдзе ўласнай асобай,
Ці грошы нам ангел нябесны даставіць
Вялізнай, вялізнаю торбай?

Ды не! Мама кажа, што з літасці Боскай
Гандляр прынясе тыя грошы з мястэчка.
За іх купім хлопаў вялікую вёску,
Каб сеялі жыта і грэчку.

Мы — гэта паны. Зразумець табе трэба!
А ёсць яшчэ іншыя людзі — сяляне,
Якім загадаў Бог з высокага неба
Панам здабываць харчаванне.

Брыдкія і брудныя, хлеб з лебядою,
Сярмягі падраныя, курныя хаты…
Іх Бог так карае, напэўна, за тое,
Што хлопы не слухаюць тату.

Ён коні больш любіць, а мама дык шпіца.
Сялян — хто аблае, хто кіем пацягне.
Папраўдзе — і шкода, і трэба дзівіцца:
Усе неслухі, мабыць, сяляне!

Учора… як тата заснуў па абедзе,
Дык — на табе! — добра так? Што за патрэба? —

Ў пакой натаўкліся, крычаць, як мядзведзі:
«Дай хлеба, паночак, дай хлеба!»

Што ж! Далі кіямі. Ўсё стала на месца…
Ах! Я, калі вырасту, буду мецць збожжа, —
Пакуль уся вёска мая не наесца, —
Ніколі не лягу на ложак.

Прабач мне, ды як бы з табой мы заснулі:
Галодны народ каля вокан таўчэцца.
А як не накорміш, у торбу дзядуля
Паберыць усіх, хто без сэрца.

Што ж будзе, як Езус заўважыць з іконы,
Які дзеліць рыбу і хлеб між людзямі?!
Эх, лялька! Хай Бог дасць здароўя і плёну
Сялянам, і тату, і маме…

*4 красавіка 1851*

## НЕПІСЬМЕННЫ
*Народная гутарка*

### I

Я не зайздрошчу, крый мяне Божа,
Нікому ў свеце, ніякай сіле;
Адно зайздросна мне толькі, можа,
Што вас, панове, пісаць наўчылі.
Пяро мне дайце і аркуш белы,
Наўчыце, як мне вадзіць ім трэба, —
Пяро лятала б маё, зіхцела,
Як бліскавіца па хмарах неба!
І боль, і ўцеху, што браў аберуч,
Што сам адчуў я ці ўбачыў зблізку, —
Усё паклаў бы я на паперу,
За думкай думку, за рысай рыску.
І так бы вобраз паўстаў сусвету,
Дзівосны вобраз, заўжды адменны;
Але ўсё марна, не будзе гэтак,
Бо невучоны я, непісьменны.

II

Я запісаў бы ўсе сны спачатку,
Што сняцца часам і будзяць мары,
Калі пабачу я дзеўчанятка
Альбо анёла з дзявочым тварам.
Я назапісваў бы слоў птушыных:
І як спявае жаўрук на ўзлёце,
І што расказвае ручаіна,
Як разаб'ецца хваля ў чароце,
І што з вятрыскам шапоча ніва,
І як на пашы рыкае статак,
І што гаворыць звон буркатлівы,
Калі склікае людзей на свята,
Як па кавадле каваль б'е гучна,
Млынар грукоча ў пастаў каменны…
Усё спісаць мне было б так зручна, —
Ды, моцны Божа, я ж непісьменны!

III

Якая ж гэта, браты, раскоша!
Пяром выводзіць за словам слова:
Лятункі сэрца і думак ноша
На аркуш выльюцца папяровы.
З твайго, бядача, смяюцца гора,
Не разумеюць і сэрца раняць,
А часам думкі цябе азораць, —
І слоў не знойдзеш для тых абранніц!
Дык я папросту, як сэрца б'ецца,
Так і пісаў бы у чысты сшытак:
Пачуць няцяжка той стукат сэрца,
Ды хіба скажаш усё адкрыта.
Пяро гатова да шчырай мовы,
Маўчыць папера, як мур таўсценны.
Бывайце ж, думкі мае, здаровы, —
Я не злаўлю вас, я непісьменны!

IV

А панству лёгка. І пісар шпарка
Паперак стос у судзе ўсім строчыць:

Злавіўшы думкі свае на аркуш,
Пасля даводзіць людзям, што хоча.
А каб умеў я пяром валодаць,
Адразу выклаў бы ўсю нядолю,
Лічыць пачаўшы свае нягоды,
Цвярдыя сэрцы скрышыць бы здолеў.
Так напісаў бы я без падману
Малітваў кнігу, што ў краме бачыў.
Хрыстос бы, можа, раскрыжаваны
Слязу над доляй праліў жабрачай.
Гусачка, гуска! Пас цябе летам,
Зімой халоднай карміў сумленна,
Дай мне пяро і крыло за гэта,
От і ўзлячу — чалавек непісьменны!

***1852, Барэйкаўшчына***

## АКРАЕЦ ХЛЕБА

*Гавэнда з наднёманскіх палёў*

### Да чытача

Вось я зноў, слухач, з табою, —
Не дапытвайся, дзе так
Доўга быў я, што са мною,
Дзе забавіўся гэтак.

Боль грудзей трымаў ля дому.
Не баляць грудзі болей.
Зноў прыйшоў к вам па-старому
З лустай хлеба і соляй.

Пакаштуйце хлеб мой, людзі, —
Шчодрай дзякаваць глебе.
І прабачце, калі будзе
Трохі горычы ў хлебе.

Як ствараў свой хлеб (ці ўмела?)
Па душэўнай патрэбе,
З веек колькі слёз зляцела
І загоркла на хлебе.

Вам я дар свой, сціплы гэткі,
Рыхтаваў у наўколлі,
Вам збіраў я нашы кветкі
У лесе, ў лузе і ў полі.

Мо паслужаць — думаў гэтак —
Слухачам ад дакукі.
Ды асот ліхі між кветак
Акрывавіў мне рукі.

Так вось твор пайшоў мой крыва:
Што ж, прабачце няўмеку.
(Прабачайце ўсім зычліва,
Падарыце калеку.)

Покуль з лепшай песняй зноў я
Заяўлюся к вам, людзі,
Спажывайце на здароўе,
Што прыдатным тут будзе.

I

Здзіўляюся я, калі нашы паэты
(З іх кожны — у сіле, абуты, адзеты),
Сустрэўшыся, скардзяцца з сумам, з адчаем,
Што ім для аповесці, песні, паэмы
У гожай Літве не знаходзіцца тэмы,
Што зместу, сюжэтаў ім тут не хапае.
О брацці мае! Вы не гневайце Бога
І матак сваіх вы не сарамаціце!
Ці ў краі апець вам няма ўжо нічога?
Ці выбралі ўсё вы ў душы ўжо, скажыце?
Калі ваша лютня ўжо гэтак не ўмее
Лавіць гоман ветру ў ляску напрадвесні,
Ці, як Сіманідава[1], ўторыць той песні,
Што ў полі журліва пяюць нашы жнеі,
Альбо паўтараць спеў нязмушаны пташы
Ды енкі ўсе нашы, ўсе радасці нашы,
Калі вам старыя навукі такія —
Паслухаць, як стукаюць сэрцы людскія,
Бярыцеся ўсё перагледзець нанова
Пад шклом мікраскопа, — мая прапанова.

Спярша чалавечае сэрца вазьміце,
Пад гэтае шкельца сабе пакладзіце,
Слязіну, што ў бліжняга блісне міжволі,
Ці простую кветку з літоўскага поля.
Ды пільна разгледзьце ўсё: фарбаў адценні,
Рух кветачкі кожнай і сэрца памкненні, —
І прыйдзе раптоўна сама да вас тэма,
Сама ў вас складзецца і песня, й паэма.
Тады людзі добрыя абавязкова
Збяруцца да вас грамадою зычлівай
Паслухаць ваш твор, ваша шчырае слова,
А для песняра гэта — лепшае жніва.

II

Без шкла, ды з душою, што любіць і верыць,
Гляджу я на хлеб свой, прысеўшы вячэраць.
О хлебная крошка! Каб мела ты мову,
Паведала б столькі ты светламу свету!
Я бачу народнае песні аснову
Заўсёды у крошцы маленечкай гэтай.
Расказваеш мне ты пра роднае поле,
Пра дні хлебароба, што рукі мазоліў,
Загон аручы, пра зямлі красаванне,
Пра коласа спеўнага наліванне…
Пра тое, як піў ён гаючыя росы,
Як сонца яго даглядала ўсё лета,
Як біў наўкасы яго град з-пад нябёсаў
І вецер згінаў да зямлі колас гэты.
Ты мне раскажы, ці ўрадзіла на ніве?
Ці быў хоць шчаслівы сяголета жнівень?
І колькі асьмін бурштыновага жыта
Намераў сабе гаспадар працавіты?
Ці збыт мела добры адборнае збожжа?
І ці не збаяўся купец бездарожжа,
Кіруючы ў гэты зацішак вясковы
Па шчодры палеткаў дарунак — хлеб новы?
Як буйнае зерне вымалвалі жорны,
І ў кадаўб мука бегла белай ракою?
О пахкая крошка! О хлеб ты наш чорны!
Спрадвеку ты звязаны з доляй людскою!

З табою вясёлыя ў будзень і ў свята
І ясны палац, і сялянская хата…

III

«Хлеб» — слова святое на небе й пад небам,
З ім Бог дзеліць сам сябе людзям аддана.
Нішто і анёл перад ім, жытнім хлебам.
Бярэ чалавек яго ў вусны з пашанай.
У хлебе знаходзіць ён тайну збавення
І з Богам высокім і з ясным зблiжэнне.
Куды Бог анёла свайго пасылае,
Што дзікіх людзей да святла прылучае,
Там збожжам паўсюль засяваецца ніва
І хлеб спажывае сын лесу шчаслiва.
Ад хлеба душа ў чалавека святлее —
Адчуе сябе ён грамадства часцінай.
Хлеб сонцам азорыць усе яго дзеі,
Узвысіць, — хай ім ганарыцца айчына.
Праз хлебную крошку малую люд дзікі
Прымае удзел у абрадзе вялікім[2].

IV

Фантазія наша! Дар мудрага неба!
Ты корміш душу, як усіх — луста хлеба.
Гляджу я на крошачку хлеба малую
І ў думках дарогу яе ўжо малюю.

V

О хлебе! Па смаку тваім і па паху
Я чую над Нёмнам палянку лясную.
І бачу машок саламянага даху —
Капліца![3] Здаецца, і звон яе чую.
Мне звон той знаёмы: бывала, вавёркай
Ён — з хвоі на хвою — праз лес прабіваўся,
Ляцеў бліскавіцай з узгорка да ўзгорка,
У лузе паводкай наўкол разліваўся.
Ох, помню я, помню, як ранкам чаканым

Пажніўнай парою, што лета вянчае,
Ў дзеньПератварэння альбо святой Панны
Ён з вёсак бліжэйшых люд Божы склікае.
І людзі спяшаюцца, як павялося,
Свянціць агародніну, з поля калоссе.
Калі на алтар пакладуць дар той з нівы,
А ксёндз тут малітву сваю пачынае,
Люд верыць, што Бог дапаможа, зычлівы, —
І будзе налета ратай з ураджаем.
Свянцоныя тыя снапкі ён да нівы
Нясе, абмалочвае там, клапатлівы,
А зерне святое па ўзораным полі
Ён жменяю сее і ціха гавора:
«Хай Бог дасць — у час свой яно на прыволлі
Устане, як гай, зашугае, як мора».

Змяшаўшы свянцонае ўсё з намалотам,
На дворнай зямлі сеяў сейбіт руплівы.
Прывык ён сваімі лічыць тыя нівы,
Бо змоладу іх паліваў сваім потам.
І, сеючы, Бога маліў: каб рунела,
Каб бралася ў колас жытцо, каб паўнела.
На крыллях вятрыскі асенняга ранка
Малітва ўзляцела высока… высока…
Бо кінуў сюды міласэрнае вока.
І вось зарунела навокал палянка —
Так густа, як быццам палеткаў тых лона
Укрыў нехта вабнаю шатай зялёнай.

## VI

— Прымі ж ты падзяку найшчырую, Божа,
За жыта густое, што радуе вока.
Хай гэтую траўку, што вырасце ў збожжа,
Ні град не паб'е і не выпаліць спёка. —
Укленчыўшы перад палеткам, ахвочы,
Вось так арандатар Лагода[4] узносіў
З пакорай малітву сваю да нябёсаў,
Угору ўскідаючы рукі і вочы.
Устаўшы, чачоткавы кій нестругана
Узяў ён, адзеў капялюш саламяны
І думна пайшоў жытняй сцежкай ля гаю,

Хвалу сваю шэпчучы Даўцу ўраджаю.
А дома стары чару мёду з каморы
Прыняў і, ў застоллі з дзяцьмі сеўшы ў кола,
Так з імі смяяўся, расказваў вясёла
Усякія байкі: быў сёння ў гуморы.
Дзень цэлы свяцілася ўсмешка на твары:
Яго пра ўраджай гэтак цешылі мары.

## VII

Але паміж хвіляй засевак і жніва
Яшчэ цэлы год і надзей, і трывогі.
О ты, арандатар маёнтачка ўбогі!
Мінуў час твой лепшы. Калісьці — як ніва,
Не дай бог, у ласцы адмовіць, не ўродзіць,
Тады шляхціч іншы ратунак знаходзіць:
З канём ідзе ў войска служыць ён да пана
Ці піць несупынна ў кампаніі п’янай.
Так, добра, вясёлыя вояў дружыны,
Вы біліся ў бойках, пілі свае віны!
У келіхах панскіх знайсці можна й сёння
Жоўць з воцатам горкім зняверанных брацціяў.
Бяда хлебаробу, які чынш не ўплаце,
Бо град альбо суша прайшліся па гонях.
А чыншаў усякіх мо сотня, не меней!
За ніву, за луг, дах той над галавою,
За лужыны ўсе і за сонца праменне,
За хмарку, што поіць палетак вадою,
За кветку, якую Бог раніцай росіць
(Пчала з яе кропельку мёду прыносіць),
А то й за спагаду шчэ да селяніна —
Заплачана ўсё аж да гроша павінна
Быць пану… Цяпер — дарагія таляры:
Працуй ды працуй без спадзеўкі на чары.
Дык хай аслабоніць цябе ад нядолі
Тых жменя зярнят, што пасееў ты ў полі.

## VIII

Бог даў, і цяпер поля плоднага лона
Бы нехта укрыў цёмнай шатай зялёнай.

А вось і зіма. Траўка кволая жыта
Марозам прыхоплена, снегам накрыта.
Заснула і спіць сном глыбокім, нібыта
Дзіця, што пялёнкамі ў люльцы спавіта.
У траўцы —
пакуль Бог не збудзіць паўсюдна
Жыццё, наша заўтрае дрэмле падспудна.

IX

Бо звеку Бог дбае пра ўласную чэлядзь,
Мы — паства ягоная, шкода не шкода.
Няхай жа спакусы цябе тут не цвеляць,
Гатоў да ўсяго будзь, васпане Лагода!
Засеяў ты ніву з малітвай набожнай, —
Бог знае, хто плён свой пасля скарыстае.
Сусед з пэўнай блізкай сядзібы заможнай,
Убачыўшы дружную рунь каля хатак,
Даўно ўжо ад зайздрасці, можа, згарае,
Што хлеба нажне заўтра люд тут вясковы,
Мо пану свайму шэпча ўгодліва словы,
Каб зноў павялічыць на вёску падатак.
Ён, пэўна ж, заробіць падзяку магната
І ўсёй яго хцівай прыдворнае зграі
І, хітры, табе тут жа паспачувае,
Залічыць сябе за твайго нават брата.
У час той, калі ён руку тваю ціскаў,
Табе вынес вырак ён. Ты і не ведаў,
Даверлівы, мо не здагадваўся й блізка
Пра гэткія подлыя кіпці суседа.
Вядома, удачу той верную мае,
Хто здрадныя кіпці лаўчэй прыхавае.
Бяда нам, прастоце!

X

Тым часам па полі
Гуляюць віхуры і сцюжы ў сваволі.
Ды жытняя траўка ў прасторы скалелай,
Заснуўшы, не чуе пад коўдраю белай.
Мароз, што яе закаваў там без жалю,

Жыцця з кволай траўкі ўсё ж выссаць не здолеў.
Спазнаўшы той холад славянскі, даволі
Яна набярэ сілы й гарту надалей.
У небе ярчэй свеціць сонца, праменні
Яго ўжо цяплом цэлы свет адараюць.
Хоць сцюжы яшчэ баль свой часам спраўляюць,
Ды снег растае ўжо, штодзень яго меней.
І вось — сакавік. Цёплы вецер паўднёвы
Ужо ўвачавідкі снягі растапляе.
Вужамі ўючыся, па доле вясновым
Бягуць раўчукі, і ў іх сонца гуляе.
Імчацца, зліваюцца ў хуткія плыні,
Паводка навокал лугі запаўняе.
Праменнямі-стрэламі сонца з вышыняў
На Нёмане лёду кару раздрабляе.
Няволі пазбыўшыся, буйныя хвалі
Па плыні у танцы сваім заскакалі.
І човен рыбацкі плыве ўжо з затокі,
Кіруе й віціна[5] у шлях свой далёкі.
Клубіцца у полі пад свежай раллёю
Апошняя вільгаць празрыстаю парай.
Сюды што ні ранак ідзе баразною
Руплівы ратай з хлебаробскаю марай.
Спеў жаўранка, бусла разложысты клёкат
Душою і сэрцам ён шчыра вітае.
З тым жаўранкам к яснаму небу высока
Крылатая думка яго узлятае.

## XI

Стары наш Лагода за век свой пачцівы
Шмат вёснаў пад небам блакітным пабачыў,
Ды новая прыйдзе — і зноў ён шчаслівы,
Вітае яе з захапленнем юначым.
З усмешкай на твары дадому з прылеску
Нясе дзетвары ён з-пад снегу пралеску.
Ён першы паведае ёй з павітаннем
Пра жаўранка песню і бусла вяртанне.
Ніхто за яго лепш пра святы не знае,
Заўсёды іх дні добра ён вылічае.
Калі асвячаць плён палёў і гарода —

Дакладней не скажа ніхто, як Лагода.
Пасля, калі ў хаце гадзіннік, што роўна
Адмервае хвілі здаўна ля парогу,
Праб'е на Вялікдзень раскаціста поўнач, —
Стары устае й шчыра моліцца Богу.
На досвітку рана, калі усе чыста
Спяць моцна у хаце, дзе ціша пануе,
Ён, усхваляваны, шырока, ўрачыста
Заводзіць на голас увесь «алілуя».
І так будзе рады, як спеў той ягоны
Абудзіць дзятву ўсю і чэлядзь наўкола.
Калі ён убачыць, як хлебам свянцоным
Наўкруг усе дзеляцца ў хаце вясёла,
Калі яму скажуць усюды зычліва:
«Дай Бог дачакацца ўраджаю шчасліва».

Вось гэтак штогод ён маліўся на неба,
І ніва радзіла, давала ўсім хлеба.
І рады стары быў. А радасць такая
У шчодрым, не злым толькі сэрцы бывае.
Нібыта істотам жывым, ля прысады
Травінцы і кветцы ўсміхаўся ён, рады.
Зямлі хараство, свет дзівосны прыроды
Старое чало маладзілі заўсёды.
Не кожны у сэрцы скарб гэтакі мае —
Яго ў працавітага знойдзеш ратая.
Яго не папросіш ні ў кога, скарб гэты,
Набудзеш яго толькі працай сумленнай,
Жыццём, што нясеш ты праз зімы і леты,
Уласнай душы чысцінёю нязменнай.
Бо хто хоць адзін раз сумленне запляміць,
Яму не даруе уласная памяць,
Ён шчасця не знойдзе ужо, як ні шкода,
Такога, якое меў бедны Лагода.

## XII

Ёсць звычай у нас, у Літве, — грамадою
Выходзіць у поле на Юр'я святога.
На морзе сваім гаспадар там з сям'ёю
Укленчвае, пацеры шэпча да Бога.
Аглядвае поле. А потым суседзі

Збяруцца гуртом і ў вясёлай бяседзе
Зазвоняць у чаркі, закураць у коле
І, зноў памаліўшыся шчыра ля поля,
Дамоў у спакоі дарогай сваёю
Ідуць з мройнай песняй, з гамонкай жывою…
— Унь выйшаў з дзятвою і жонкай да поля
Сам пан састарэлы — ты бачыш, Мацею?
Укленчылі там, дзе ў засеўкі па ролях
Я жменю свянцонага зерня рассеяў.
Зямля дык зямля там! Як Бог дапаможа,
У рост чалавечы устане там збожжа, —
Так кажа Сымон да суседа у полі
І новую чарку яму налівае:
— Здароў будзь, Мацею! Хай шчасце ніколі
Не будзе мець той, хто нам ліха жадае!
— Здаровы будзь, куме! — Сымон без адмовы
Той трунак прымае — такая ўжо мода. —
І добры наш пан хай жа будзе здаровы.
Нездарма ж здаўна носіць імя Лагода.
Лагоднае, шчырае сэрца ў старога:
У крыўду ніколі не дасць ён нікога.
Не гэтак, як іншы, што крыўдзіць як можа:
І чуць пра такога не дай ты нам, Божа.
У нас жа… не трэба гнявіць, куме, Бога:
Нас пан за людзей, за братоў уважае,
Шануе, у крыўду не дасць анікога, —
Няхай жа яму Бог заўсёды спрыяе.
Хай будзе ў яго ўсё ліхое пазбыта
І ў полі расце, на лес гледзячы, жыта!
— От толькі шкада, што расце ля дарогі, —
Хаця б не ўраклі незычлівыя вочы.
Я чуў, нашу вёску прыгрэбці ахвочы
Сусед-арандатар — зайздроснік той строгі.
Схіліць да сябе зможа хутка магната,
Каб гэтыя землі ўхапіць разам з намі.
Я ведаю добра: ён запанібрата
У замку тым панскім з усімі чынамі.
Дасць грошай чынам колькі трэба, і тыя
Іх возьмуць з аддзякай — яны ж не дурныя!
А тое, што нас абдзярэ, — для магната
Нічога не значыць: ці ж нас яму шкода?
Ці то пан Забора, ці то пан Лагода, —

Яму ўсё адно: толькі б большая плата!
Хто больш дасць, той сядзе на дворным загоне…
— У імя Айца, Сына й Духа Святога! —
Усклікнуў Мацей. — Ты цішэй тут, Сымоне!
Пачуе шайтан! Не кажы лепш нічога!
Нас Бог сцеражэ ўсіх ужо год каторы
Ад мору, агню і ад пана Заборы!
А там, дзе Забора, падданыя ў хатах —
Худыя, галодныя, ходзяць у шматах.
За здзекі, за пот, якім пояць загоны,
Свайму прыганятаму сыплюць праклёны.
Калі прыбярэ нас у рукі Забора,
Знай, згуба нам будзе — самім, гаспадарцы.
Паслухай жа, куме: мо вып’ем па чарцы,
Каб быў тут Лагода. Не знацьмем з ім гора!
Так два мужыкі перад нівай сваёю
На Юр’я гамонку вялі між сабою.

## XIII

А жыта расце. І старыя такога
У вёсцы не помняць, густога, буйнога.
К зялёнаму святу, напрыканцы мая,
Калоссе ужо красаваць пачынае.
Хвалюецца жытні палетак, імжыцца,
Над нівай пылок хлебародны курыцца.
І ў сэрцы ратая мацнее надзея,
Бо ласкаю Божай навокала вее.
З цяплом красавік быў, а май во — з дажджамі,
А гэта прыкмета, што быць ураджаю.
Чаму ж у цябе на чале з маршчакамі,
Лагода, я сум, а не радасць чытаю?
Калісьці з вясны гэтак рваўся ты ў поле,
Ішоў адтуль з ягадай, кветкай, грыбамі.
Цяпер ты больш дома, а выйдзеш на волю —
Вяртаешся ў двор свой з пустымі рукамі.
Ты ўжо і ўсміхнуцца — так-так — забываеш,
Калі сваю жонку з дзятвой сустракаеш.
Не цешыць цябе ні ўраджайнае поле,
Ні ў хаце дзятва, што ўжо так падрастае,
Ні люду вясковага спеў у прыволлі,
Ні рынак, куды ты паедзеш, бывае.
На свет, на людзей ты глядзіш невясёла.

Што ж гэтак гняце тваю сівую голаў?
О, хто у грудзях сэрца чулае мае,
Хто жыў толькі Богам, з прыродай, на волі,
Той зрокам душы ўміг усё распазнае,
Таго не абманяць пачуцці ніколі.
Лагода, хаця й са спазненнем мо недзе,
Вачыма душы план Заборы разгледзеў.
Хоць, поўны даверу, прастоты дзіцячай,
Як грэх, падазронасць сваю адганяе,
Ды часам чарвяк сэрца точыць, няйначай,
Бы шашаль бярвенне, душу раз’ядае.
Ды кажа: «Эй, лопнуць твае ўсе надзеі!
Эй, праца жыцця твайго ўмомант змарнее!
Цяпер не пустуе гумно яго, клеці,
Ёсць грош у кішэні, накормлены дзеці.
Ды хто адгадае, дзе заўтра ён плечы
Прытуліць, што ў старасці наканавана?
Штось бегаюць вочы ў Заборы пры стрэчы,
Пачаў штось братацца з прыслугаю пана…»
Калі яго месца заступіць Забора,
О, шмат давядзецца хлябнуць тады гора!..
Куды ж мог падацца б тады ён, Лагода?
Не шкода ўмалоту, сядзібы не шкода,
Хоць сэрца да гэтых гайкоў прыкіпела,
Не шкода ўрадлівага гэтага поля —
Гняце яго здрадная думка цяжкая:
Дзятва падрасла — што ж ёй выкіне доля?
Самога што ў свеце, старога, чакае?
Пайшоў бы араць ён сахою з ахвотай,
Ды толькі нязвычна такая работа.
Цяпер перад ім крыж магільны маячыць,
І позна жыццё гэтак крута іначыць.

## XIV

У дні маладыя, у час мой шчаслівы
І я абрабляў прынямонскія нівы.
Я знаю, якія ў сялян там хаціны,
Як жаць грамадою выходзяць жанчыны.
Я тыя лугі ўсе па паху пазнаю,
Па смаку ваду з тых крыніц адгадаю.
Там добра мне помняцца ветру павевы

І звон жаўрука, спеў салоўкі ля гаю.
Па шуме адным прынямонскія дрэвы
Любою парою я ўміг распазнаю.
Бо сэрцам зямлю пакахаў сваю шчыра,
Навек пакахаў — як дзяўчыну, няйначай.
Я часта і ў снах яе, ціхую, бачу, —
Адтуль маіх думак найрадасны вырай.
Мо хто не паверыць, а ўсё-ткі ж люблю я
І траўку ў тым куце, і хвойку малую,
І дворык стары з падупалаю хатай
Каля балаціны на ўзгорку пакатым.
У сельскім прыволлі, у дворыку гэтым
Я быў пабратаны з прыродай, як з маткай.
Яна не была мне ніколі загадкай:
Я чуў, як з глыбінь вырастае трава там,
Бывае, ледзь вочы заплюшчу я сёння,
І мігам трапляю ў мінулыя годы.
Вось, як і калісьці, я постаць Лагоды
Ўжо бачу на вузкім ягоным загоне.
Ізноўку я чую, нібыта наяве,
Як звоняць касцы ў свае косы ахвоча
У лузе надрэчным, як міла стракоча
Там конік зялёны ў зялёнай атаве,
Як жыта шуміць, калі вецер павее,
Як жнуць яго з раніцы рупныя жнеі,
Як песні спяваюць яны, тыя песні,
Якія з часоў найдалёкіх данеслі
Іх маткі, іх бабкі, іх прапрабабулі, —
Ці песні журлівыя тыя вы чулі?
Пра сіні Дунай, пра зару, пра каліну
Ды пра казака, што ў чужыне загінуў…
Ці песні аб любым хлапчыне, аб руце;
Іх шчыра спявае дзяўчына ў хвіліны,
Калі стане цесна ў грудзях ад пачуццяў, —
Не спыняць яе і сяброўкі, іх кпіны…

## XV

Гасцей, што прыйшлі на дажынкі вясёла,
Прымае Лагода з пахмурнасцю нейкай.
А колісь быў рады такі, калі жнейка
Вянок яму гожы ўздзявала на голаў.

Сягоння ж старэчыя вочы — з тугою.
Што ж гэта з Лагодам сівым? Між сабою
Гадаюць вяскоўцы цяпер, і якія
Грызуць яго сэрца турботы ліхія?
Вянок ціха ўзяў ён. А твар — без крывінкі!
Падзякаваў жнеям з усмешкай крывою.
Калі ж заспявалі дзяўчаты дажынкі,
Заплакаў… Пабегла сляза за слязою.
І ўперад яго слёзы, можа, хто бачыў,
Ды то былі радасці слёзы, няйначай.
Такая сляза, калі бліснe з-пад века,
Бы промнем асвеціць душу чалавека.
Такімі слязамі на свята дажынак
Здаралася часам заплакаць Лагоду…
Якая ж слёз сённяшніх, горкіх, прычына?
Якую выказвае сэрца нягоду?
Якая гняце яго гэтак трывога?
Задуманы, ходзіць, не спіць ён начамі.
Убачыўшы змену ліхую ў старога,
І жонка, і дзеці цішком плачуць самі.
Вось люд грамадой, як днём гэткім заўсёды,
Нясмела падходзіць к сталу, да Лагоды.
І пан тут успомніў, што сёння ж дажынкі,
Вітае гасцей, да стала свайго кліча.
Святы на Літве ў нас гасціннасці звычай
Сцёр з твару журботу, разгладзіў маршчынкі.
На стол, што засланы бялюткім абрусам,
Кладуць новы хлеб, шчодрых лёхаў гасцінцы.
Каля касцярка, што гарыць на дзядзінцы,
Пад скрыпку ўсе весела кружаць хаўрусам.
Скрыпач сваю скрыпку падносіць да вуха,
Настройвае — хай жа пяе, весялуха.
Гуляе люд сельскі. Мёд, цар весялосці,
Пайшоў па руках. П'юць, вяселяцца госці!
Вясковы хлапец і красуня-дзяўчына
Смялей сябе чуюць тут з кожнай хвілінай.
Падходзяць да пана, — пан добры надзіва,
Ён з кожным, як з роўным, гамоніць зычліва.
Сяляне — сыны яму, дочкі заўсёды,
Старыя ж вяскоўцы — браты, не іначай.
Усіх просіць есці і піць. У Лагоды
Хай кожны, як дома, спявае і скача.

У сонным паветры шуміць свята жніва,
У скоках, у песнях бяжыць ноч імкліва.
Старыя ж вядуць між сабою размовы,
І чуюцца ў голасе гэткія словы:
— Дай, Божа, здароўя Лагоду старому
І шчасця, багацця дзятве яго, дому.
І хай жа сыны яго будуць панамі
Над намі, над нашымі потым сынамі.

## XVI

— Ой, кепска, Сымоне! Ой, будзе нам гора!
Папросім у Бога, мо зменіць тут штосьці:
Пілі, весяліліся ў пана мы ўчора,
А сёння ў фальварку ўжо іншыя госці.
Я чуў, уладар наш, падаўшыся к мору,
Сказаў камісарам: Лагоду старога
Прагнаць з гаспадаркі, няўмеку такога,
А вёску аддаць тут жа пану Забору, —
Казаў хтось з вяскоўцаў, што йшлі грамадою
У поле, гамонячы так між сабою.
— З арэнды прагнаць? Быць не можа такога! —
Адказваў другі. — Ды за што ж за якое?
— У пісараў вучаных знойдзецца многа
Прычэпак усякіх — ім плацяць за тое.
У рукі ім дайся, — напішуць, бывае,
Што нават забудзеш, якога ты роду.
За тое, я чуў, што дзесь дах працякае,
Плаціць пішуць тысячу злотых Лагоду.
Вядома, стары… Давярае любому…
Ішоў да сялян, у любую хаціну…
Цяпер во пра ўсё прыгадалі старому,
Апошнюю ўжо забяруць унь скаціну…
Са злым чалавекам і нам будзе ліха:
У пана Заборы — нядобрае вока.
Цярпі: пан далёка, а Бог жа высока,
Са скаргамі дома сядзі лепей ціха.
З Лагодам зычлівым мы добра жылі так!
Цяпер жа не тое ўжо будзе, не тое!
А мо ў нас такі ж будзе й далей прыбытак!
Пра гэта гадаць можна толькі надвое.

Дасюль грош які зараблялі мы сплавам —
Ідзі на раку сабе вольнай часінай.
Цяпер жа Забора — ягонае права —
Загадвае панскай пусціцца віцінай.
Вось гэтак, суседзі! — Сяляне старыя
Маўчалі — гнялі весці сумныя тыя.
Замоўк і Сымон. Так задумаўся з імі,
Што люлька пагасла. Рукамі грубымі
Ўзяў крэсіва, зноў распаліў яе ўмела
І далей казаў: — Як дажыць нам спакойна?
З Лагодам пра ўсё гаварылі мы смела,
Ён быў нам як свой, з ім жылося прыстойна…
Равеснік я з ім. На Сымона святога
Нам па шэсцьдзясят будзе — хіба ж не многа?
Гадоў ужо трыццаць, а можа, і болей
Мы ўсе за яго пана Бога тут просім.
Таксама ў царкву нашу з добраю доляй
Мы ходзім гадоў ужо трыццаць і восем.
Так, добры нам пан быў — усім яго шкода! —
Гамонячы так, разышліся не скора
Вяскоўцы. І быў на іх вуснах Лагода,
А ў сэрцах — трывога, страх перад Заборам.

## XVII

І праўда, у панскім двары, каля дома, —
І шумна, і людна: гасцей сустракаюць.
Прыехаў да пана начальнік — вядома,
Прыхільны Забору: яму ж там спрыяюць.
Начальнік прыстойны, без строгасці ходзіць
З усмешкай — ну быццам анёл нейкі з неба.
Узяўся з арэнды рахункі падводзіць.
Прастэча Лагода не знае як трэба
Тых слоў: «Не дасі — не палучыш». Лагода
Сумленне сваё аніколі не прадаў.
Затое начальнік з уласнае волі
Унь пісараў зграю на двор напускае.
У свірне, каморы, аборы, у полі
Яна, бы галодная, шнырыць, шукае.
А строгія ўсе! Вочы ў іх — нібы з лёду!
Адзін пан начальнік — з усмешкай на твары.

Ад панскага імя старому Лагоду
Даводзіць, што кепска ён тут гаспадарыць.
Што свірны усе збудаваў па-старому,
Што мох зелянее на стрэхах зялёны,
Што ўраз можа млын разваліцца ягоны, —
Зноў страты тады будуць панскаму дому.
Яшчэ — на лугах мала ўсё ж вадаспустаў,
Трава будзе, пэўна, рудая, ліхая.
Папар жа зарос чэпкім пырнікам густа, —
Ну, дзе ж тут старанная праца ратая?
Лятае пяром, як віхор, па паперы,
Усе вылічае Лагоды пралікі.
Расце ўвачавідкі рад лічбаў вялікі,
Здаецца, не будзе ўсім стратам тым меры…
— Так, — кажа начальнік, —
шмат страт у фальварку,
Меў, пане Лагода, ты часу замнога.
Глядзі, як суседзі вядуць гаспадарку,
Браў прыклад бы ў пана Заборы ўдалога!
Палепшыў зямлю, паправодзіў канавы,
Бяроз насадзіў ля дарог ды таполяў.
Хоць глеба адна ў вас, ды збожжа тут лавы
У пана Заборы. Звініць ажно поле!
А што ў вашмосці? Ці ўсюды тут хлебна?
Куколь ды каменне, усякія травы.
Павінен ты ўсё заплаціць, што патрэбна,
А потым арэнду пакінь, будзь ласкавы.
Наш пан аддаваць аніколькі ўжо болей
Не можа фальварак у гэткія рукі.
Таму гаспадарку ўсю, гэтае поле
Забору аддаў ён, — такія вось штукі.
А што да мяне, то я вельмі шкадую,
Што з весткай нядобрай да пана іду я.
За гэта сваё прыкладу я старанне,
Каб нешта аблегчыць у вашмасця долі.
Я бліжняму — гэтак, як кажа Пісанне, —
Усё памагу… што ў маёй будзе волі.
Ажно дзесяць тысяч — вялікая сума.
Яе на рахунку павінен ты касе.
Але як не маеш яе ты ў запасе,
Няхай не гняце галаву тваю дума.
Як выйсце знайсці, падказаць мы тут можам,

Паможам табе хоць разумнай парадай:
Расплацішся ты што гатоўкай, што збожжам,
Што коньмі адборнымі, можа, гавядай.
Усё мы тут прымем і спішам ахвотна
З рахунку, яшчэ можам нечым парадзіць.
Пажыць да зімы можаш шчэ бесклапотна,
Пакуль пан Забора тут войта пасадзіць.
Зімою прытулак ты знойдзеш з сям’ёю,
Нідзе не памруць твае з голаду дзеці:
Дамы міласэрныя ёсць жа на свеце,
А ў небе сам Бог са спагадай сваёю… —
Казаў так Лагоду начальнік ахвочы,
З усмешкай салодкаю гледзячы ў вочы.

## XVIII

Усё зразумеў састарэлы Лагода:
Прыйшла у сям’ю — злою госцяй — нягода!
Уміг прыліла кроў гарачая к твару,
Агнём заблішчалі прыцьмелыя вочы.
Аж сціснуў ужо кулакі для удару
І ледзь к «дабрадзею» у гневе не скочыў.
Ды хутка разважыў, бо ўбачыў яскрава
Бяссілле сваё перад звівамі права,
Убачыў, прыгорбіўшы плечы ў пакоры,
Магутнасць вяльможных і хітрасць Заборы.
Ці ж з імі змагацца? Тут іх перамога!
Схіліў галаву у бяссіллі на грудзі.
Сляза у вачах заблішчэла ў старога:
— О дзеці мае! Што цяперака будзе?
Ды хціўцы нядоўга таму былі рады:
Не ўбачылі слёз у Лагоды ўжо болей.
Крадком папрасіў ён у неба парады
І ворагаў змераў пагардай паволі.
Ці то праз балеснае тое здранцвенне,
Ці то у нябёс ён узяў суцяшэнне,
Ды ўжо, бы не чуючы плачу ўсіх родных,
Глядзеў на разбой той ён вокам халодным.
З усмешкай глядзеў, як яго рабавалі,
Зароблены грош ад дзяцей адбіралі,
Як гумны яго злою, хцівай рукою

Ужо апячатвалі ўсёю гайнёю.
Дзятву яго недзе чакаў ужо голад,
І проста Лагоду глядзець было карай,
Як тут малако яго статка вясёла
Даюць без шкадобы хартам камісара,
Як плуг чужы цягнуць пакорліва, стала
Дзве пары валоў, што ён песціў, бывала.
Калі быў Заборы слуга выпадковы
Зняважыў Лагоду абразлівым словам,
Ён крыўду сцярпеў, пракаўтнуўшы абразу,
Нібы і не чуў анічога ніколі.
Хоць слабы, ды больш не сарваўся ні разу, —
Нясці да канца трэба крыж сваёй долі.
Чало — у спакоі, халоднае вока
Нічым сваёй роспачы не праяўляе.
Калі ж боль даймае, то дзесь там глыбока,
Што гэтага й блізка ніхто не пазнае.
У цяжкую хвілю, што часта прыходзіць,
Уцеху ў сям'і, у дзяцей ён знаходзіць.
Гаворыць, што ўсё распачне ён спачатку,
Што ў жылах крыві новай чуе ён токі.
Далёка ад Нёмна знайшоў недзе хатку
І ўзяў там някепскай зямлі паўвалокі:
Хоць горам аглушаны быў, як абухам,
Ды ўсё ж не ўдае ён, што ўпаў неяк духам!
Няхай пан начальнік у месце шыкуе,
Хай носяць яго коней звонкія пары.
Лагоду найлепей за пыху такую
Жабрачы кіёк і лагода на тварь...

## XIX

Не, ён не хацеў біць Забору паклоны;
Зімы не чакаючы, з жонкай, з дзятвою,
Пакінуўшы дом свой, у свет заімглёны
Пайшоў ён, прыгорблены думай цяжкою.
Праводзіў Лагоду Марцін днём тым рана —
Ён з плачам жагнаў свайго добрага пана.
Прыйшлі развітацца з ім многія з вёскі —
Мужчыны, жанчыны, старыя, малыя.
Цалуючы рукі за клопат бацькоўскі,

За ўсе яго добрыя дзеі былыя,
За хлеб і за соль, за спагадныя словы,
Схілялі свае перад панам галовы.
За добрае ўсё, за былую падмогу
Прынеслі й дары, як ахвяру святую:
Той — жменю арэхаў дзятве на дарогу,
Другі — пляйстар мёду, знаходку лясную,
Той — хлеба акраец, каб быў ён нязводны,
Хлеб жытні, з якім ты не будзеш галодны…
Лагода наяве яскрава убачыў,
Як любіць яго люд вясковы, прастачы,
І пры развітанні з ім, людам убогім,
Стрымаць слёз сардэчных не меў ужо змогі.
Бы з сэрца спаў камень, калі гэтак шчыра
Вяскоўцы яго ў новы шлях блаславілі.
О пане Забора! Ты добры праныра,
Ды гэткай шчаслівай не зведаеш хвілі!
Ці ж шмат каму гэткае шчасце трапляла?
Душу яго гордасць усю запаўняла,
Калі рушыў з вёскі ён воляю лёсу
У світцы старэнькай, на простых калёсах.
Убачыў цяпер ён, хаця й перад сконам,
Убачылі родныя дзеці і жонка,
Што жыў недарма ён, што ў свеце замглёным
Ягоных заслуг — немалая скарбонка.
Яго перад Богам і перад сабою
Люд просты узвысіў так хвіляй цяжкою.
Яшчэ раз акінуў прымглёным паглядам
Ён родную вёску сваю, і падвода
Навекі схавалася за даляглядам —
Нібыта й не жыў тут ніколі Лагода.

## XX

Не лайце мяне, чытачы дарагія,
Што ўбок павяла нас з гасцінца дарога,
Што збіўся я гэтак, малюючы тыя
Пастаці — Забору й Лагоду старога.
Пра хлеб я пачаў сваё шчырае слова,
Ды загаварыўся вось так бесталкова.
Але для таго наднямонская вёска

Малюецца тут, каб мы лепш прасачылі
Шлях коласа доўгі — ад першае хвілі
Да той, калі ў сноп ляжа ён з волі Боскай.
Даруйце яшчэ, што не чыстае поле:
Што між каласоў ёсць нямала куколю.
Таму, як, здараецца, робяць на жніве,
Адно ад другога мы хутка аддзелім,
Каб бачылі ўсе, што ўрадзіла на ніве,
Каб добра пазналі, дзе хлеб, а дзе зелле,
Каб жытнюю траўку нідзе не стапталі
Між зелля таго, каб яе шанавалі.
«Хлеб» — слова святое на небе й пад небам,
З ім Бог дзеліць сам сябе людзям аддана.
Нішто і анёл перад ім, жытнім хлебам,
Бярэ чалавек яго ў вусны з пашанай.
У хлебе зямным сіла ёсць немалая,
У хлебе жыццё людзям Бог прысылае.
Мы з хлеба бяром у любое імгненне
Збавенне для цела, для духа збавенне.

## XXI

Ды гора таму, хто смяецца з пакуты,
Хто хлебам збавення спрадвечным ганьбуе.
Для ўласнай душы ён здабудзе атруты
І бездань самому сабе падрыхтуе.
Аб хлебе зямным тое ж часта я чую,
Не верыш, вандроўнік, — вясёлай дарогай
Зайдзі у Літве ты у вёску любую
І сам папытайся пра гэта ў любога.
Табе там наяве пакажа люд Божы
Хлеб спорны й не спорны, далёкі прахожы.
Адзін — падсілкуе, а іншы ж, бывае,
Узмоцніць шчэ голад, адклікнецца болем:
Адзін будзе чысты — любы адгадае,
Другі ж перасыпаны будзе куколем.
Аднолькава, здэцца, расло пад блакітам
На блізкіх загонах някепскае жыта,
Аднолькава ў сквар яго сонца паліла,
Аднолькава хмара дажджамі паіла,
І разам пажалі яго і змалолі,

А вось не адна ў яго, бачыце, роля, —
Ёсць хлеб, які часам куколь раз'ядае
Ці слёзы сірочыя, крыўда людская.
Калі хлеб вось гэтакі ўбачыш ты недзе,
Яго не бяры і не рай браць суседзям.
Не еш яго толькі — хай лепш скамянее, —
Хлеб гэты пракляты, я пекла ў ім чую.
Спытай у Заборы — як не пабляднее,
Дык, значыць, я тут вас хлуснёю частую.

## XXII

Вяртаўся з вандроўкі я ў познюю восень,
Быў вечар, ліў дождж несупынны, абложны.
Да ніткі прамок я, з адзежы лілося,
І тут скрозь заслону дажджу, падарожны,
Раптоўна ў акне я агеньчык убачыў.
«Ды гэта ж карчма!» — я адразу зазначыў.
А корчмы у нас — гэта ўсюды вядома —
З бярвён так-сяк збітыя, крыты саломай,
Зусім непаглядныя, з шумам і дымам,
Удзень абмінеш іх заўсёды здалёку,
Затое ўначы вось такім пілігрымам
Яны — як ратунак і мілыя воку.
Нібыта дайшоў ты да роднага дому,
Нібы сам сябе адшукаў ты па страце,
Бо, засумаваўшы па твары людскому,
Сказаць ты б хацеў: «Добры вечар, мой браце!»
Тут знойдзеш цяпло ты, спагаду наўкола.
Агонь у каміне палае вясёла,
І люду гамонка ніяк не цішэе,
І раптам захочацца тут, пры каміне,
Правесці начлег свой ва ўбогай мясціне.
Вось так у карчме, хоць быў блізка ля дому,
На ноч я застаўся пад водгалас грому.
Але не нудзіўся я ў цесным пакоі,
Вярнуўся у кола людзей гаманкое.
Пілі яны мёд. Я прысеў да іх збоку.
Былі то вяскоўцы якіясь здалёку.
Гарэлі ў каміне, патрэсквалі дровы.
Сядзеў я і слухаў людзей тых размовы.

## XXIII

— Здароў будзь, Сымоне! — Здароў пі, Марціне!
О, праўда, нам пана старога так шкода!
І дзе ж ён цяперака, бедны Лагода?
Бог бачыць — дзесь гіне ў нязнанай мясціне!
Забралі ж усё — да малога цялятка.
Пусцілі па свеце — няхай там гібее!
Ну, што яму морг той, чыншовая хатка?
Ды ён і сахі мо трымаць не умее.
Ды хоць бы і ўмеў, ён не зробіць нічога, —
Якая там сіла ў такога старога?
Дый жыў па-шляхецку — даў Бог гэтак, пэўне.
І як жа прывыкнуць да беднасці, глуму?
Калі шэсцьдзясят табе, сіл — нібы ў пеўня,
Сам гэта я чую — ці верыш ты, куму?
— Я веру, Сымоне. Ды ўсё ў нас ад Бога.
Дзе трэба, усё-такі ён дапаможа.
Ужо ж і дзятва падрастае там, можа,
Яшчэ мо пацешыць, заступіць старога.
Хутчэй бы за працу магла яна ўзяцца —
Паправіць усё можа шчырая праца.
— Каб сёння да нас завітаў як Лагода, —
Другі селянін гаварыў, задуменны, —
Сядзібы, якой столькі год ён валодаў,
Ані не пазнаў бы — такія там змены!..
Што ж, грозна над намі Забора ўладарыць,
Нідзе не папусціць свайго ён ніколі.
Умее, як тут ні кажы, гаспадарыць,
Унь новыя свірны ўжо выстраіць здолеў,
Дах новаю гонтай накрыў дасканала,
Маргуе палеткі, капае каналы.
Налета ён большыя планы малюе:
За вёскай млыны будавацца павінны,
Гарэльню пачне мураваць немалую,
Даставіць вялікіх валоў з Украіны,
Што поле араць будуць летняй парою,
Пасля ж за дукаты прадасць іх зімою.
— Быў я, — мовіў іншы, — нядаўна ў Заборы, —
Каб звольніў ад варты, хацеў папрасіцца.
Прыняў у двары мяне ён у гуморы,
Пачаў пра удачы свае ўсё хваліцца:

«Ну як, неблагая мая гаспадарка?
Няважна, што стогне ад працы галота!
Не ведаў Лагода, што мог ён з фальварка
Мецць золата груды — такая прастота!
О так — мужыка шкадаваў ён заўсёды!
А ці ж ад яго меў падмогі хоць кроплю?
Што ж тут зарабіў ён за доўгія годы?
Чачотку з узлеску ды торбу з канопляў!
Сто копачак шчуплых і ў гэтым во годзе
У гумнах сабралася з нівы ягонай.
А глянь, што ў мяне за ўраджай на выгодзе
Без пацераў тых, без вады той свянцонай!
Трымаўся даўнейшых ён звычаяў стала,
А поле араў тут нядбала, я ж бачыў.
Ліў пот на жніве, ну а збожжа, бывала,
За бесцань збываў, не вылазіў з нястачы.
Не просячы Бога, на ўласныя сілы
Прывык пакладацца заўсёды я. Поле
Пад жыта пяць раз узару я, мой мілы,
Дык хлеба мецць буду мо ў дзесяць раз болей!»
— Я еў хлеб Заборы, ой, хлеб, пане браце!
Хай Бог нас бароніць ад хлеба такога!
Мне даў быў ён жыта дзве меркі, не многа, —
І тут жа хвароба з’явілася ў хаце.
Здаецца, канца ўжо не бачыў я ліху! —
Сымон грамадзе так расказваў паціху, —
Спярша захварэла малое ў калысцы,
Там — парабак, потым — чарга і да сына
Дайшла, хоць як дуб быў, як сам я калісьці!
Два тыдні ў гарачцы кідаўся хлапчына.
Пазваў дактароў я, ды што дактары там!
Дарма парашкамі якімісь кармілі.
Я — да знахара, гаваркога, са спрытам, —
Хваробу ён тут распазнаў за паўхвілі.
«Мо гэта ад ветру? — спытаў я. — Ці, можа,
Чые злыя вочы?» — «О не, не дай, Божа!
Хлеб пана Заборы вы, мусібыць, елі!
Нячыстыя ж духі ў тым хлебе заселі!
Вы дайце мне лусту — я выганю ліха». —
Ён хлеб пажагнаў, пашаптаў над ім ціха,
І хлеб пачарнеў, нібы сажа, — аж дзіва!
Па ім чарвякі папаўзлі мітусліва! —

Эй, згіньце, нячыстыя духі ліхія!
«Паслухай, Сымоне, — знахар мне тлумачыў, —
Во гэтыя чэрві — то слёзы людскія,
Я тут рабаванне, у хлебе, убачыў!
Ды ты ўсё ж не бойся! Паправіцца хворы.
А хлеб той спаліце — вам шчыра кажу я.
Інакш ён атруціць усіх, хлеб Заборы,
Ці сіла нячыстая вас апануе».
І вось я у горад памчаў па нядзелі.
Купіў сабе жыта, даставіў да млына.
Ад новага хлеба ўсе паздаравелі,
Памалу пакінула немач і сына. —
Во так пра здарэнне цікавае тое
Расказваў Сымон пры вясёлым напоі.

## XXIV

— І я, — хтосьці голас падаў, — чуў пра гэта.
І жонцы сказаў, што заклятае збожжа.
«Чаму? Хлеб як хлеб, — у адказ мне кабета, —
Калі не ў дварэ, дзе ж яшчэ ўзяць хто можа?
На дворных палетках люд пот праліваe
Штодня — з панядзелка да самай суботы.
А каб прыступіцца да ўласнай работы,
Ужо аніякага часу не мае.
Дык хай жа нас корміць Забора за тое,
Калі ёсць на свеце сумленне якое!»
Гаворачы так неразумна, жанчына
Ізноў падалася па збожжа да пана.
І вось усялякіх няшчасцяў лавіна
На нас, як навала, найшла нечакана.
У хаце ўсчалася грызня недарэчы,
Счапіўся я з братам — скрозь крыкі ды сваркі.
Аж цешыўся злыдзень з такой калатнечы.
Адсюль — як адплата — разлад гаспадаркі.
Кажу я да брата: «Паслухай хоць, Янку, —
Давай мы нянавісць дурную астудзім.
Нашто нам сварыцца так бесперастанку —
Нас Бог асуджае, смяюцца з нас людзі.
Падзелімся лепей». — «Падзелімся, згодны,
Свае ж мы, — адказвае, — брат жа ты родны».

У пана я ўзяў паўвалокі пустэчы
Для дзелі — нас чорт падзяліў бы іначай!
Быў нейкі ў нас грош, мелі нейкія рэчы —
Усё напалам: у абодвух — нястача.
Калі падзялілі — на долі, на долькі —
Па звычаю хлеб напалам разламалі,
Сказаўшы: калі хлеб не злепіцца толькі,
Жыць разам не будзем ужо мы і далей…
Тады ў лусце хлеба — хто даць можа веры? —
Адкрыўся вачам чарвячок нейкі шэры!..
Даўней працавалі ўсім гуртам, без зморы,
Затое нястачы не ведалі зроду.
Цяпер беднякі мы. Бо хлеб той Заборы
Сям'ю падзяліў, нам прывіўшы нязгоду.

XXV

— О, праўда — у хлебе Заборы таіцца
Няшчасце, — прамовіў так хлопец з чупрынай. —
Ці помніце Ганну? Магу пабажыцца —
Была яна самай найгожай дзяўчынай.
Шаснаццаць гадкоў было ёю пражыта.
Збіралася замуж. Хадзіла, спявала.
Ды на каравай даў Забора ёй жыта,
І вось табе на — у дзень шлюбу сканала.
А той перахожы жабрак аднаногі?
Вы помніце, быў ён, як рыба, здаровы.
Прыбіўся у двор быў у вечар вясновы,
Там хлеба здабыў — і памёр ля дарогі.

XXVI

— Усе добра знаюць Забарава збожжа, —
Казаў зноў Сымон, па-над чаркай схілёны, —
Вязе яго пан у чужыя староны,
Бо дома прадаць анідзе ўжо не можа.
У месце вялікім і людным хто можа
Пазнаць, у каго тое куплена збожжа?
І так між людзьмі там згрызотаў без меры,
Ён, горад, на смерці, хваробы багаты.
Там людзі мудрэйшыя, менш у іх веры,

Хто ж можа паверыць у хлеб той закляты?
Не так, як у нашым мястэчку гандлёвым!
Мне неяк купец напаткаўся знаёмы.
Расказваць пачаў аб жыцці местачковым,
Пра цэны, ўраджаі і зерня й саломы.
«Ну, — мне казаў ён, — няхай марна я згіну,
Ды дзіўны ў вас пан, па ім плача лазіна:
Сыпні жменю зерня яго на віціну,
Напэўна, затопіцца ўмомант віціна!
Паглядзіш — прыстойны, амаль бездакорны,
Ды з ім гандляваць анікому не раю!
Цяжкі на руку, грош ягоны няспорны,
А сэрца — бы ў сажу ўваляна, я знаю».
Яўрэй — не дурны, ён сягае далёка.
Здаецца, прастак, толькі ўсё бачыць вока.

## XXVII

З карчмы, дзе быў гоман і шум, як заўсёды,
Я з гэтакай думкаю ехаў дадому:
Чаму хлеба кус, адабраны ў Лагоды,
Не служыць здароўю і шчасцю людскому?
Чаму ён з сабою прыносіць у хаты
Смерць, сваркі, хваробы, хлеб гэты пракляты?
За што ж невіноўным усё гэта зносіць
За вернасць такое мы маем ад Бога?
Ці ўласных грахоў на душы ў нас не досыць,
Што трэба плаціць шчэ за злыдня якога?
Чаму пан Забора вясёлы, багаты?
Чаму ў яго полі ўраджай аж буяе?
А бедны падданы з прыгоннае хаты
З Заборавым хлебам бяду нажывае?
Мне не зразумець, мусіць, гэта ніколі…
Карчэмныя байкі — то байкі, не болей!

## XXVIII

Я ў горадзе бачыў, як збожжа Заборы
З цікавасцю хцівай купцы абступілі,
З трывогай падумаў: няўжо з гэтай хвілі
Яшчэ будзе болей няшчасных і хворых?

І сталася так: фуру цэлую жыта
Сусед мой купіў — быў ён пекар заўзяты.
Спёк хлеб ён, і я ўзяў сабе на спажытак
З Заборавай нівы хлеб гэты закляты.
І быў пакараны за гэта я небам:
Раптоўна ўзяла мяне ў дзень той знямога,
А той, з кім, як брат, падзяліўся я хлебам,
Мяне абняславіў, бы злыдня ліхога.
Мне хлеб той, атручаны сілаю злою,
Абліць давялося крывавай слязою.

XXIX

Нямала дарог пакручастых у Бога,
Што грэх асуджае, заслугі ўхваляе.
Мы ж блюзнім, даводзячы з пыхай, бы многа
За бліжніх пакутуем нашых, бывае.
Мо й нашы грахі міласэрнае неба
Вось так раскладае на плечы людскія,
Каб свету грахоўнасць — даўно б гэта трэба —
Збыць разам праз мукі і дзеі святыя?
Ці мо, як ахвяру за бліжніх зноў ложым,
Мы шэраг уласных заслуг гэтак множым?
Бог ведае ўсё — о, ён ношку цяжкую
Турбот чалавечых ускінуў на плечы!
Знаць трэба яму, хто дзе крыўду рыхтуе,
Хто хлеб з рук крыўдзіцеля ломіць пры стрэчы,
Бо кожная крошка нясе — скажам смела —
Спакой для душы і хваробу для цела.
А як пан Забора? Ці спіць хоць спакойна?
Ці ўскідвае ў сне яго сполах-трывога?
Спытайся ў анёла яго ты прыстойна,
Яму ўсё вядома, — ды што нам да тога?
А хлеб, што замешаны быў на няшчасці,
Міні — хоць якая ні будзе нагода.
Бо тут жа й на голаў тваю можа ўпасці
Слёз кропля цяжкая, што выліў Лагода.

*1854*

# ДАЧКА ПЯСТАЎ
*Урыўкі*

## Трайдзень[1]

Гукнуў Трайдзень у свой рог зубрыны,
І ўжо віхураю пад зарою
Ляцяць на конях яго дружыны.
Вядзе літву князь Трайдзень да бою.

Сам моцны, стройны, а зрок — арліны,
У бляску сонца — высокі шолам.
Няўзнак віецца за ім няўпынны
Плюмаж, аддадзены вятрам вясёлым.

Без латаў — з лёну яго адзенне,
Затое вольна руцэ на ўзмахі.
На князю толькі — кальчугі звенне
Ды на плечуках — па лісціне бляхі.

Улады знак, праз плячо звісае
Аздобны рог на раменным пасе,
Пры ім — сякера яго стальная,
Што прагна кроў п’е на злым папасе.

Яшчэ — меч доўгі паверх адзежы,
Раззалачоны, вісіць пры боку.
Скакун — на спіне чапрак мядзведжы —
Іржэ, хрыпіць: чуе бой здалёку!..

## Песня паходу літвінаў

Сёння пець нам самы раз:
Князь гукнуў да бою нас.
Хай жа ў неба песня рвецца,
Заўтра хваляй кроў пальецца —
Наш пачаўся час!

Смела, смела, конь, у бой!
Ты — таварыш добры мой!
Закіпіць навокал сеча,
Не палохайся ты меча,
Рвіся ў кіпень той!

Зачыніўся ў замку лях,
У грудзях у ляха — страх.
У разгоне мы праз хвілі
Цвержу ляхаву прабілі,
Захапілі гмах!

Немцаў край знаёмы нам,
Шмат дзяўчатак красных там!
Немцаў мы ў баі паклалі,
А красунь з сабой пабралі
Ад іх брам, ад мам!

Як ляцелі праз абшар
Мы на Гданьскі мур між хмар
З гучным спевам заліхвацкім,
Задрыжаў магістр крыжацкі,
Мура валадар.

*1855, Барэйкаўшчына*

## ІЛЮМІНАЦЫЯ

### **Успамін пад дождж**
*Народная гутарка*

I

Вечары падаўжэлі, на восеньскіх пожнях
Задрамала прырода.
Спахмурнелі нябёсы, дождж лінуў абложны,
Ад заходу да ўсходу.

Абазваўся паштовы званочак з дарогі
І ў прасторах рыдае.
Абняла маё сэрца туга і трывога,
А па чым, не ўгадаю.

Нібы вецер асенні, што шастае ў лісці
І ўжо лугам бяжыць ён,
Гэтак думка чуллівая рвецца кудысьці,
А куды? Адкажыце!

У мінулыя часы вядуць мяне мары
Гэтай смутнай гадзінай.
Ці то кропля дажджу секанула па твары,
Ці то ўпала слязіна?

Стала брыдка мне, плачу, заплюшчыў павекі,
Я сяджу сціхатою;
І малюнак, здаецца, забыты навекі,
Паўстае прада мною.

II

Ой, даўно было гэта, ды так, як сягоння, —
Ноч, асенняя слота.
Толькі сэрца не знала такога сутоння
І не мела згрызоты.

Заманулася раптам майму таварыству
Ехаць на паляванне.
І хоць я не стралец, з мяне мала карысці,
А гатовы быў зрання.

У дарогу сабе я злажыў тады нішкам
Рэчы ўсе да патрэбы:
Алавок і паперу, ды люльку і кніжку,
Не забыўся і хлеба.

Смеючыся, мы рушылі рана ў дарогу,
Гаварылі і кпілі.
А было там не блізка да бору старога —
Дзве ці тры нават мілі.

Да рубіны змакрэлі — дождж лье ручаямі,
І ўся зброя замокла…
Як мы рады былі, калі перад вачамі
Засвяціліся вокны!

Гаспадар дапамог пасушыць нам адзежу,
Трохі сала наскварыў,
І размова тады паплыла як належыць,
З паляўнічаю чарай.

Села маці старая, сагнутая доляй,
Але постаць якая!

Вось пра замак нясвіжскі, пра князя Кароля
Гаварыць пачынае.

Там на вочы свае змалку бачыла дзівы,
А найболей уразіў
Яе Аўгуст Станіслаў, кароль літасцівы,
На гасцінах у князя.

На цяперашні час як аглухла жанчына —
Па мінуўшчыне крочыць.
Сэрца мне разарвалі яе успаміны
І завільжылі вочы.

Гэтай сціплай аповесці ўток і аснова:
Боль з пякельнаю скрухай.
Раскажу вам яе тою, матчынай, мовай:
Калі хоча хто — слухай!

III

Князь нясвіжскі Кароль, дайце веры мне, дзеткі,
Пэўна, мора меў грошы,
Не чувана нідзе дый не бачана гэткай
І за светам раскошы.

Хай Шыбіцкі, Ляховіч — старыя — раскажуць,
Ім жа добра вядома,
Як жылі, як гулялі паны безразважна,
Калі меў хто маёмасць.

Колькі птаства на кухню ішло, колькі трункаў,
Як ігралі музыкі,
Калі князь на дзівосы свае ды частункі
Панства featurese клікаў.

От, вядома, шалеюць з раскошы магнаты,
Шум і смех у палацы;
Плацяць плачам за гэта змарнелыя хаты,
Плацяць чорнаю працай.

IV

Пасля нашага шлюбу, здаецца, налета
Адбылася прыгода…
Чалавека ў бядзе, без хвіліны прасветлай,
Не мінае нягода.

Дзень пры дні барукаешся з доляй нялюдскай
Аж да самага скону…
Муж наняўся на службу за брамаю Слуцкай
Старажуе ў Аўрона.

На святога Кароля ў Нясвіжы панадна,
Фэст надзвычай вясёлы.
Трэцяга ці чацвёртага лістапада
Князь спраўляе анёлы.

Муж паехаў… (не помню) у Слуцк ці у Начу,
Кінуў дом як на тое…
А пан Бог літасцівы за нашы нястачы
Падарыў нам малое.

Чысты бацька пяршынец мой быў улюбёны,
Вельмі, вельмі падобны.
Ахрысціў яго ксёндз бернардзінскі Антонам,
Імем дзедавым добрым.

Хлапчанё было — золата; іншыя дзеці
Не ўдаліся такія.
Спарахнеў ужо, нават шкілетам не свеціць
Праз пясочкі сухія.

Але жыў бы, магчыма, каб тыя гасціны
Князь не ладзіў увосень.
Густа воспа валіла дзяцей селяніна —
Захварэў мой Антосік.

Уважайце, панкі, акрыяць бы ён здолеў
Ад хваробы нягоднай,
Але змусілі нас на святога Кароля
Пазапальваць паходні.

Як ліхтарня, палац ззяе сотнямі свечак,
Толькі лой аплывае,
Езуіцкі пан рэктар расквечвае вечар,
Феерверкі пускае.

Нават голку на грэблі ў святле каганцовым
Адшукаў бы адразу,
Ды ў мястэчку паходні гараць ля дамовак
Па бурмістра наказу.

Вартаўнічыя там працавалі нястомна,
Білі палю за паляй,
Настаўлялі слупоў каля кожнага дома,
Толькі лямпы запальвай!

Галава мая бедная! Слуп не гарыць мой,
Запаліць не паспела.
А што мела рабіць я адна з хворым дзіцем —
Я сыночка глядзела.

Пазіралі на вуліцу з нашай сядзібы
Два акны невідушчых.
Служка з ратушы моцна загрукаў у шыбы,
Шкло дашчэнту патрушчыў:

«Гэй, запальвай святло, як загадана ў месце
Ясным панам бурмістрам!»
Ці туліць мне дзіця, ці святло тое несці?
Калачуся я лістам.

Там хапае агнёў, а мне хворага сына
Трэба ўцешыць, загушкаць…
Тады, ў хату заскочыўшы, б'е мяне ў спіну
Злосны ратушны служка.

Я — на вуліцу бегма, агеньчык то цьмее,
То згасае раптоўна,
А як гляну праз шыбу — дзіця там дранцвее, —
Хата сіверу поўна.

Мой Антосік заходзіцца, бедны, без рады,
Сэрца кроіцца жалем,
Хочу бегчы, ды служка паказвае ўладу,
Бізуном пагражае.

Раздзімаю агонь, а ён нікне, як знічка,
Не гарыць мой слупочак.
Служка б'е мяне ў плечы, а тлум вартаўнічых
Насміхаецца ў вочы.

Каганцы іх гараць, а мой возьме ды згасне, —
Толькі вецер павее.
Запаліла-такі, а хлапчынка няшчасны
Ужо з крыку сінее.

Праз пабітыя шыбы шугнуў у калыску
Сівер разам са смерцю,
Смерць хапае дзіцятка ў ледзяныя усціскі,
Ахалоджвае сэрца.

Маці бегчы не можа, старацца ёй трэба,
Каб агонь быў магнатам.
Апаўночы ударылі з вежаў пад неба
Ў гонар князя гарматы.

Там венгерскае п'юць, забаўляюцца госці
У раскошы, ў багацці,
А тут паліць святло і па сыне галосіць
Змізарнелая маці.

Бочкі match рознага трунку прывезлі з палаца,
Віны, моцную старку,
І мяшчане на плошчу бягуць частавацца,
Задарма выпіць чарку.

Калі ж князю крычаць пачыналі віваты,
Значыць год яму многа,
Я дабегла да сына ў халодную хату,
Ды знайшла нежывога.

І праз дзень яшчэ цешылі ўсіх даастачы
Імяніны ў Нясвіжы…
Я ж на могілкі йшла за труною дзіцячай,
На плячах несла крыжык.

І дагэтуль душа мая ў жальбе вялікай,
Як наяве ўсё бачу:
Ручаняты, як воск, скасцянелыя ў крыку,
Жоўты тварык дзіцячы.

Гэтак суджана… Дзе ўжо шукаць вінаватых,
Хай пан Бог мяне крые.
Але ж гучна па замках спраўляліся святы
У часіны былыя.

*1856, Барэйкаўшчына*

# ЖМЕНЯ ПШАНІЦЫ
*Гутарка*

## I

Дзед Сцяпан быў войт спрадвеку,
Войт адзіны ў той староцы,
І такім быў чалавекам,
Што не знойдзеце пад сонцам.
Кемны быў да кожнай справы
І да люду меў спагаду.
У цяжкіх прыгодах нават
Як найлепей мог даць рады.
І што ў свеце нечувана,
Хоць у войта з вёскай згода, —
Пан не даў яму заганы,
А драпежнага быў роду.
І няма ніякай звады,
Лічаць войта бацькам вёскі,
Але старасць-то не радасць —
Падыходзіць век дзядоўскі.
Ён без кія ўжо ні кроку,
Вока бляскам больш не грае,
За плячыма горб шырокі,
Барада зусім сівая.
На людзях бяды не тоіць:
— На спачын пара, суседзі.
Памяркуйце між сабою:
Войта трэба вам нагледзець!
Галава да трох не злічыць,
Я здароўя ўжо не маю…
Грамада крычыць там крычма,
Моцна долю праклінае.
— Што ты, вашаць, пане-браце?..
Выракаешся худобы,
Збрыдла нас апекаваці,
Наша згуба даспадобы?
Аж пакуль па белым свеце
Ходзіш, войце, з ласкі неба,
Як раней, твае мы дзеці,
Іншы войт нам без патрэбы.

Просяць, грозяць, ходзяць следам,
Вёска стогне, вёска ў скрусе…
Давялі нарэшце дзеду,
Што застацца войтам мусіць.
Але ж старасць вельмі валіць
Тых дзядоў, як з дрэў апады,
І Сцяпан дае параду,
Каб наступніка абралі.
Потым спрэчак многа будзе,
Калатэча, злосць, нязгода,
Пакалечаць душы людзі
Нават лепшага заводу.
— Добра! — крыкнулі навокал. —
Праўду кажаш ты, Сцяпане,
Ды нашто шукаць далёка,
Мы сыноў тваіх не ганім!
Трое хлопцаў…
Адным словам,
Кожны варт быць на пасадзе,
Не чужы ім люд вясковы, —
Хай адзін з іх войтам сядзе.

Вось і спрэчкі. А каторы ж?
Зноў у вёсцы тлумна стала:
Той хінецца да Рыгора,
Тым Васіль здаецца ўдалы,
А ўсе іншыя Сымона
Хочуць ставіць на законы.
Бацька чуе: запалае
Звада зараз у народзе,
Валасы згарнуў з чала ён
І сваё людзям даводзіць:

— Лепшых ёсць між вас нямала,
Але выбраць як — вось гора…
Калі вам на думку ўспала,
Што прыдасца сын каторы,
Ваша ласка, не пярэчу,
Ды людзям служыць — не жарты!
Перш чым ношка ўгнула плечы,
Хай пакажа, што ён варты.
Можам мы дазнацца скора,
Хто з іх здатны больш да чыну,

Пан вясной пашле Рыгора
У Кралевец на віціны.
А Васіль у Кракаў рыне,
Не абы-як, пане-браце.
Ну, Сымонка будзе ў хаце.
Вось яго паслаць вам раю
Соль купляць на Украіне,
Плацім дорага ў мястэчку.
Кожны ўправіцца павінен —
Не аб гэтым будзе спрэчка.
Але хто з чужога краю
Больш карысці прынясе нам,
Таго войтам выбіраем,
Бацькам вёскі, мне на змену,
Год мінецца ў спорнай працы,
Спраўдзім нашыя намеры,
І калі ўсіх трох праверым,
Будзем знаць, на кім спыняцца.
Словы дзедавы, як рочаць,
І ў душы надзеяй свецяць.
Ды не знаюць войта дзеці,
Як за імі вёска сочыць!

II

Год мінуў ад той гаворкі,
Вось Кралевец шле барліны,
І старэйшы сын Рыгорка
Прыплывае ўжо з віціны.
Доўгіх год яму жадаюць,
Льюць у кубкі мёд ды піва,
І Рыгор апавядае
Пра ўсе цуды, пра ўсе дзівы.
— Надта ж мілы ў немцаў побыт,
Пыхі многа нечуванай,
Ды найболей даспадобы
Капялюшык і каптаны.
Што казаць аб світцы нашай!—
Крой дзівацкі, неўжываны,
І відно, што гарапашны.
Кройма світкі на каптаны!
Саламяны капялюшык —

Ад прыгону ўбор для хлопа!
Вось у немцаў, кажуць слушна,
Сапраўды значна Еўропа!

Бацька слухае ціхмана,
Жар варушыць на камінку,
Але ў думках у Сцяпана:
«Ой, не будзеш войтам, сынку!»

III

І Васіль сыскаўся хутка:
Размаўляе тонам зуха.
Хата войтава паўнютка,
Люду ўсё цікава слухаць:
— Што за мова у палякаў,
Што за песні, *проша пана*!
Напяваюць кракавяка,
А мы так пяём пагана.
Мы спяваем так шчымліва,
Словы песні — боль, гаркота,
Смутак льецца з кожнай ноты,
Ажно рэха плача ў нівах.
Дам параду я, браты, вам:
Кіньма спеў стары, жабрачы,
Кракавяка лепш заскачам,
Павяду я рэй імкліва!
Бацька слухае ціхмана,
Жар варушыць на камінку,
Але ў думках у Сцяпана:
«Ой, не будзеш войтам, сынку!»

IV

І Сымона сустракаюць,
Што вярнуўся з Украіны:
Ён не строіць кплівай міны,
На свой край не наракае.
— Добра, — кажа, — ў старане той,
І сляпцу відаць далёка:
Стэп пакуль сягае вока,

Стэп, здаецца, на паўсвета.
А зірне ў сваю старонку —
І затужыць падарожнік
Па рацэ, па хвойцы гонкай,
Па узгорках каля пожні.
Хоць бы нават Украіна
Горы скарбаў абяцала,
А туга б дамоў пагнала,
У бацькоўскую хаціну.
Вось адно хіба — пшанічка!
Рэч зайздросная ў тым краі!
Кожны колас, быццам бічык,
Ніва з небам размаўляе!
Трохі плёнаў тых дзівосных
Я сабраў у торбу ўпотай.
Прычакаем — прыйдзе восень
Украінскіх умалотаў.
Я па жменьцы ўсім адразу
Дам для добрага пачатку…

Бацька выслухаў нашчадка
І ўздыхнуў замест адказу.
Гэты ўздых яго без слова
Гордай думкі быў высновай.
Гонар бацькі знаць па твары:
Дбайны хлопец, спраўдзіць мары.

V

Войт гаворыць з хваляваннем:
— Ў дурня дрэнныя навіны!
Хто нямецкае убранне
Прапануе славяніну,
Той, каму чужое міла,
Хто аб шапцы з лямцу марыць,
Каму вочы засляпіла,
Лічыць брыль свой не да твару,
Хай страі чужыя носіць,
Хай здароў заплюшчыць вочы:
Летам пот яго заросіць,
А пад восень дождж прамочыць!
Тройчы дурань той зухвалец,

Хто хапае спеў няродны
З ніў чужых і потым хваліць
Дух тутэйшы ў песні зброднай.
Хто ганьбуе грунт бацькоўскі,
За чужой сягае зоркай,
Той не дасць ані для вёскі,
Як Васіль і як Рыгорка.
Хто ж прывёз з другога краю
Зерне плённае радзіме
І зямлю абсемяняе,
Падзяліўшы між сваімі,
Хто аб свеце кажа скромна,
Бо свае мілей улонні,
Будзе вам служыць нястомна,
Войтам быць табе, Сымоне!
Грамада яго вітае
І заўзята б'е ў далоні,
Плён з пшаніцы прадчувае:
Войтам быць табе, Сымоне!

*1856, Варшава*

## ГАДАВЫ КРУГАБЕГ ДЗЁН НА ЛІТВЕ

### Мясапуст

I

За сцяною — чуеш, браце? —
Сівер ходзіць, свет халодзіць,
І на коміне ўжо ў хаце
Бог сам вугалем выводзіць:
«Студзень сцюжны — ля парога,
І ты — бедны ці багаты —
Падлічыць павінен строга
Года ўсе прыбыткі й страты
Ды прыкінуць, ці гатовы
Перабыць як час зімовы».

Кожны збожжа з пуд спяшае
Збыць для гроша. У час ранні,
Час нямы рыпяць ратая
Па дарогах снежных сані.
Выясняюцца нябёсы,
Захад золатам палае,
І вось промень сонца косы
Прабіваецца з-за гаю,
Міг — і як не падзівіцца:
Снег брыльянтамі іскрыцца!
Глянь на хвою, на яліну —
З верху самага да нізу
Нібы хто на іх накінуў
Снегавую ў перлах рызу.
Бела ўсюды — пры дарозе
Толькі зрэдку зачарнее
Крыж, што стыне на марозе,
Хатка, крытая завеяй.
Нават сонца пабялела —
Пазірае ўніз нясмела,
Дзе мароз на ўсёй прасторы
Ўжо царуе ў нашым краі.
Да касцей ён прабірае,
Каб трымаць нас у пакоры.
Толькі ў сэрцы чалавека
Кроў гарачая віруе,
І адольвае спрадвеку
Непагоду ён любую.
Беражы ж ад лютай веі
Ў сэрцы ты парой любою
Той агонь жывы, што грэе,
Што завуць усе — Любоўю.
Ён, агонь сардэчны гэты,
З сонцам снег растопяць весні,
І ўвесь край, цяплом сагрэты,
З-пад акоў зімы ўваскрэсне.

II

Вечар з снежных вей збірае
Ў хату ўсю сям'ю ратая.
Той — стаяў на варце ў пана,
Той — вазіў у двор калоды,
Той — сек лёд на рэчцы зрана:
Кожны — глянь — сівабароды!
Кожны ж стыў — з-за хлеба куса —
На марозе злым дзень цэлы,
І, каб скінуць іней з вуса,
Не расшчэпіць рук скалелых.
Ды ён рады, што дадому
Ўсё ж патрапіў да начлегу,
З кажухом скідае стому,
Атрапаўшыся ад снегу.
На агні, што грае ў печы,
Рукі грэе, як вядзецца.
А як добра, як дарэчы
Верашчакаю пагрэцца!
Потым люба на гадзінку
І на попрадкі дапасці,
Дзе дзяўчаткі пры камінку
Любяць кужаль тонкі прасці.
Не звядзеш з адной ты, пэўне,
Ясны зірк свой, поўны ласкі.
Там спяваюць, баюць казкі
Аб заклятай каралеўне.
Хоць не кожны дасць ім веры,
Слухаць казкі так цікава,
Што не еў бы і вячэры:
Ўсё набок, любая страва!
Расчыняецца ў іх неба,
Бачыш зоры, бляск палацаў…
Толькі ж спаць лажыцца трэба:
Заўтра зноў чакае праца.
Месяц выглянуў з-за хмараў.
Бог спускае сон на хаты,
І людзей анёл крылаты
Ўжо нясе ў краіну мараў.

## III

Шляхта гойсала палямі
За казулямі, зайцамі.
А цяпер, у час зімовы,
Кожны дзень у звоне чарак
Толькі й чуеш, што пра ловы,
Пра хартоў ды пра аўчарак…
— О, мой пёс цаны не мае,
Ён ёсць гонар мой і слава.
Не знайсці у цэлым краі
Вам такога ваўкадава!
Ён ля Слуцкай гуты ў мосе
Ўзяў мядзведзя, што льва, пане,
Як наладзіў быў увосень
Радзівіл там паляванне…
— А ў мяне ружжо затое —
Кожны скажа — залатое!
Вераб'ю з яго здалёку
Я не раз трапляў у вока…
— Пан, хлусі, ды не без меры.
— Праўда, праўда! Стрэл мой меткі.
Вы далі б адразу веры,
Каб жылі мае два сведкі…

## IV

Гэтак студзень дні праводзіць —
Звычным торам, з даўняй верай.
Шляхта — глянеш — з стрэльбай ходзіць,
Люд — хто з цэпам, хто з сякерай.
Хоць мароз, ды сонца свеціць —
Ясната перад вачыма!
Толькі неба чорным меціць
Хмара броварнага дыму.
Ён штодня з сядзібаў панскіх
Будзе бухаць, як і бухаў.
У катлах часоў паганскіх
Вараць трунак злога духа.
Плён зямлі ў атрутным дыме
Валяць з іх — за грудай груду,
Каб зрабіць паўсюль пустымі

Мыслі люду, сэрцы люду.
Ад гарэльняў гэтых вочы
Лепш адводзь да ясных высяў,
Каб іх дым той не азмрочыў
І слязу з-пад век не высек.
Апусці свабодна лейцы —
Хай ляцяць, як хочуць, коні,
Хай цябе нясуць улегцы
Праз заснежаныя гоні!

V

«На Грамніцы — паўзіміцы,
На Мацея ж, на Мацея —
Знай — ужо зіма пацее,
Хоць пад лёдам шчэ крыніцы.
Час забаў, час карнавалаў!
Па снягах паны й падпанкі
Ў места, ў места на гулянкі
З ціхіх вёсак валяць валам!
А ў цябе, васпан зухвалы,
Мо ратай сядзіць без хлеба?
Дык табе на карнавалы
Ехаць, дружа мой, ці ж трэба?» —
Вось такія выстаўляе
Каляндар усім парады.
Толькі хто на іх зважае?
Кажа пан: «Я ж быць там рады.
Лепш мне слухаць арфы гранне
У тракціры ці ў цукерні,
Чымся стогны хлопскай чэрні:
«Хлеба, пане, солі, пане!»…

*1857–1858, Вільня*

# ШКОЛЬНЫЯ ЧАСЫ[1] — НОВАЕ АПАВЯДАННЕ ЯНА ДЭМБАРОГА

*Урывак*

## III

У кляштары школа была, вучні ж дзесьці
Жылі па кватэрах — іх мелася з дзвесце.
Мястэчка пры возеры ціхім стаяла —
Люстэрка вады замка гмах адбівала.
У час мой вучнёўскі трымаў яшчэ замак
Даўнейшую святасць, а з ёю таксама
Дух грозных магнатаў, што спяць у касцёле —
Я труны іх бачыў пад змрочнаю столлю.
Я ледзь прачытаў на табліцы, прыбітай
Над важнай труной, аксамітам абшытай,
Лацінскія словы, што аж пад аблокі
Узносілі род той магнацкі высокі.
Але пад імхом векавым паступова
Сціраецца гордае, гучнае слова.
І просіцца надпіс такі ўжо ў скляпеннях:
«Тут грэшнага праху сатлелая жменя».
Ды вернемся зноў да мястэчка старога.
Трухлеюць і ў ім ужо рэшткі былога.
Вунь вал абарончы лазой зарастае,
Гадзіннік у замкавай вежы не грае,
Пляснее касцёл і капліца патрошкі,
На вокнах палацаў скрыжованы дошкі,
Паспадвалі з ратушы даўнія гербы.
Ці мог гэты рэзрух спыніць хто цяпер бы?

## IV

Як памяць былога, у вежы касцёла
Званы, як і некалі, граюць вясёла.
Я голас іх помню. Адзін, ружанцовы,
Будзіў сном скаваныя нашы галовы.
Працяжны, з пад’енкам, у золаце раніц
Плыў звон той і клікаў усіх на ружанец.
Плыў звон, і ўжо вуліцай соннай, пустою
Зусюль ішлі людзі паважнай ступою

З малітвай, што ўзносілі к Матцы Марыі —
Ружанец іх з буку пазвоньваў на шыі.
Другі звон быў, помніцца добра, вялікі —
На мшу ён у дні урачыстыя клікаў.
Меў голас ён грозны, гучаў з гэткай сілай,
Што ў жылах, здавалася, кроў нават стыла.
Калі чвэрць дванаццатай граў у нядзелі,
Аж глухла ўсё ў горадзе, вокны дрыжэлі.
На звон той цягнуўся люд з рынку вясковы,
Між люду і шляхціч спяшаў шарачковы.
Дый пана вазок ляскацеў кожным колам.
Людзей аж кішэла тады пад касцёлам.
У гэтакі дзень, ва ўрачыстыя хвілі
Чацвёра кляштарных у звон той званілі:
Яго шанавалі — у свята й без свята,
Ён выліты быў шчэ з турэцкіх гарматаў.
З усіх тых званоў быў найменшы звон трэці,
Ды голас яго буду помніць да смерці:
Прарэзлівы, ўвесь аж захлёбваўся ў гранні,
Бы вучань, што вызубрыў добра заданне.
Калі ён звінеў, дык — ні многа ні мала —
Ураз дзвесце сэрцаў тады трапятала.
То страх, то надзею будзіў ён, старанны,
Наш школьны званок, што «Пятром» быў празваны.
О, як бы хацеў кожны з нашай дружыны,
Каб хутка «Пятра» падышлі імяніны!
Тады б ён — зноў нашы і сонца, і месяц! —
Вакацыі нам абвясціў аж на месяц.
Але йшчэ далёка да тых імянінаў.
Звініць! У свой клас не спазніся, сябрына!
Як звоніць ён prym*, шумным гуртам вясёлым
Імчацца зусюль зноў студэнты да школы.
(Бо як на secund цябе прэфект сустрэне
Не ў класе — тады пастаіш на каленях!)
Па secund дырэктар паважнай хадою
Вядзе ўжо студэнтаў сваіх да пакою.
За ўсімі глядзіць ён, не любіць сваволі:
«Ідзіце цішэй — вы ж не дома, а ў школе!..»

*1858*

---

* Prym — першы званок, secund — другі званок, пасля якога прыходзіць прафесар.

## ВУЛІЧНЫ КНІГАР
*Гутарка*

Аксамітам і золатам ззяюць кнігарні, —
Аксамітнае панства таўчэцца не марна,
Праўда, ломіць кнігар за пакупкі нямала,
Але хваліць тавар, не шкадуючы хвалы,
І дае нам, хто ў аўтары выбіцца хоча,
Да спартанскае поліўкі солі драбочак.
Дзякуй Богу за гэта! А помніш, мой браце,
Як у панскім палацы і ў шляхціча ў хаце
Кнігі ўсе замяняў каляндарык святковы
І газетай служыў арандатар вясковы?
А сягоння Літва ўсё на свеце чытае,
Але як, пра каго? Сам сябе я пытаю.

* * *

Вунь, прыгледзьцеся добра: яўрэй абшарпаны,
Дзень у дзень ён стаіць пры сцяне мураванай.
Твар згрыбеў, і крывавыя вочы не бачаць,
Найстарэйшы кнігар, але з лёсам жабрачым.
Не мінайце, стыдацца не трэба нікому:
Шэсць дзясяткаў гадоў ён не ведае стомы,
Прапануе прахожым шмаццё: рарытэты,
За мядзяныя грошы — ўсе скарбы асветы.
Калі слава Элады і Рыма зіхцела,
Панавала над мудрасцю нашай няспелай,
Калі ў слове Платона[1], Гарацыя одзе
Кожны Веліч і Праўду пачуццяў знаходзіў,
Прадаваў ён лацінскую кніжку in quarto[2],
Пашматаны і брудны, на жаль, быў тавар той,
А прадаўшы за дробязь, спагадлівым словам
Зычыў пану чытаць і заўжды быць здаровым.

Там здароўе было! Дзей вялікіх багата!
Начытаўшыся рымлян, ты быў іх сабратам,
Дух мацнеў у змаганні, тануў у раскошы,
За мізэрную плату, за марныя грошы.

А гаротнік, прадаўшы, ляцеў, як на прыску,
Хлеба чорнага трохі купіць для сям’іскі,

І за хлеб гэты чорны, жніва свайго плёны,
Богу дзякаваў, псалмы спяваў, акрылёны.

* * *

Часам нешта згадае з пары маладое,
На кіёк абапрэцца сівой барадою,
Абатрэ свае вочы і кажа: «Панічу!
Столькі доўгіх гадоў, столькі ўдач табе зычу,
Колькі я Эльзевіраў[3] прадаў і пабачыў,
Самых лепшых, апраўленых скурай цялячай.
Ці адзін тут прафесар, стары і натхнёны,
Па дукату плаціў мне за ліст Цыцэрона[4]?
А за сівы зусім інкунабул[5], за Плаўта[6],
Перапала ад Гродэка[7] добрая плата.
Я таргую сабе, пацiскаю плячамі:
Што ім кніжкі купляць, калі пішуць іх самі!
Быў то час рарытэтаў! А кніг выпускалі,
Хоць былі гэта спрэс навуковыя працы,
Ды ішлі яны добра, не горш асігнацый.
Ці жывуць, ці памерлі? Дай Божа ім долі!
Акадэмікі ўсё набывалі найболей.
Не адзін стаў пісьменнікам, музай абраным,
Альбо лекарам добрым, усімі прызнаным,
Праз Гамера майго не адзін чутны свету —
І людзям памагае, і мае карэту.
Гэта ўсё мае дзеці, сказаць магу смела,
Гэта моладзь на воку расла, разумнела.
Хто на працы давіўся, хто жыў у халупе,
Хоча кніжку купіць, ды за што яе купіш?
Гляне ў змест панічок, пагартае гадзіну
І аддасць, а ў самога на воку слязіна.
Я даваў у крэдыт, бо шкада было — дзеці! —
Або браў наўзамен вершаванае смецце.
Ад Бакі[8] і да Ньютана[9] — ўсё мяне грэе,
І паны маладыя любілі яўрэя.
Пакрысе, але пэўна збіраліся грошы,
От нарэшце і плашчык я справіў харошы.
Даставаў фаліянты, таўсценныя зборы,
Рэяў[10], Вуйкаў[11], Папроцкіх[12], Стрыйкоўскага[13] творы,
Лазар і Піатркоўчык[14] — з выданняў багатых…

Помню тытулы кожнага, помню і даты,
Знаю кракаўскі друк самых даўніх выданняў
І ў Бянткоўскага[15] хібу заўважу, васпане.
Неацэнны тавар быў і малавядомы.
Я тады… па паверхах, ад дома да дома,
На сабе ўсё цягаў, рарытэтнасць даводзіў,
Выганялі з парадных, праз кухню заходзіў.
Што ты зробіш іначай? За хлеба асушак
Панству гвалтам асвету навязваць прымушан.
Ды такі абудзіў я да кніжак ахвоту:
За калонскага Кромера[16] меў па два злоты,
Каляндар стогадовы і Nove Ateny[17]
Гэтаксама куплялі за добрыя цэны,
Даражэй быў Папроцкі з работай гравёрнай:
Там гербы для карэт і для панскае дворні.
І хоць часам гатычнай старызны шкадую,
А падумаю — дзеці! — і ў продаж фурую.
Вось і пана Міцкевіча слава заззяла,
Толькі я пастарэў, барада абліняла,
Рук не чую ад твораў Тацыта[18], Плутарха[19],
Кій падпёр маю старасць, нібы патрыярха,
А калі дастаўляю драбнейшыя кніжкі,
Дык самому няёмка, падумаю нішкам:
Ды ці варты ён друку, тамочак няспорны?
Я прывык да in folio ці quarto maiori[20].

Толькі я памыліўся: то ўдалыя творы!
Аб «Дзядах», «Валенродзе» Літва ўжо гаворыць.
Гэта цуд быў, паночак, я нават не марыў, —
За паўдня, пэўне, тузін прадаў экзэмпляраў.
А калі дзесяць злотых у кайстры намацаў, —
О! — падумаў я, — гэты вышэй, чым Гарацый.
Не забуду дасюль узрушэння хвіліну, —
Я руку цалаваў, што пісала «Гражыну»[21].
Час ідзе — не ўгадаць, на прыбытак ці страты.
Я збяднеў, гандаль шырыцца ў крамах багатых,
Там не стоўпяцца людзі: падай да чытання
Ім усё, што ў кнігарні з найноўшых выданняў.
Я ж — старэйшы кнігар, што цягнуў ім асвету, —
Падпіраю сцяну і скалею на ветры.
Але што там старому той холад ці слота?
Прапаную прахожым раман Вальтэр Скота[22].

Экзэмпляр некамплектны… А як перабіцца?
Пан Адам[23] у труне, пан Іяхім[24] за граніцай.
Абдаралі мяне, не чакаю больш дару
І не маю на продаж буйнога тавару.
Змізарнела сучассе, здрабнеў літаратар.
Час ідзе — не ўгадаеш, прыбытак ці страта…
Бог аддзякуе мне за турботу, за працу:
Спаганю на Крашэўскім[25], калі дзе пратрацїў.
То купляйце ж, панове, прадам яго танна,
Каб унучкі галодныя мелі сняданак».
…Кнігарова карэта па бруку грукоча:
Граззю пырснула старцу ў крывавыя вочы.
Ён абцёрся і з болем павекі прыжмурыў:
«І нашто я стварыў цябе, літаратура!»

*1859, Вільня*

## ДЗЯВОЧЫ ВЕЧАР
*У скароце*

Папросту хаты сабе стаўлялі
Сыны літвінаў:
З бярвён дубовых вянцы вязалі
У зруб адзіны.

Вясковы дойлід у сцены дома
Слаў многа моху;
Падпоры-кроквы пад дах з саломы
Падвёў патроху.

Даўгой, шырокай была хаціна,
Нібы стадола.
Адзін бок хаты — жытло літвіна,
Другі — жывёлы.

Дужыя коні ці да работы,
Ці то да бою;
Былі кароўкі, пра іх турбота,
Каб мець удоі.

І крутарогіх волікаў пара,
Што скібы рэжа,

Пасля авечка з кудзерам шарым —
Дзеля адзежы.

Дзе густа ў хаце таўкуцца людзі,
Акенца днее,
А далей — чорна, у дыме, ў брудзе
Сям'я гібее.

Замест падлогі ток глінабітны
Хаціна мае,
А пасяродку агонь нязбытны
Гарыць, палае.

Не гасне знічу ахвярнік гэты
У хаце чорнай,
Пры ім ткуць кросны свае кабеты
Ці круцяць жорны.

Пры ім старыя пра час мінулы
Апавядаюць,
Малыя, моладзь з увагай чулай
Пры ім сядаюць.

Як дзед і ўнукі збяруцца купна,
Аж глянуць люба:
Нібы два векі — стары з наступным —
Ідуць да шлюбу.

Пакуль унукам з былога споведзь
Дзед не дакажа,
Смерць не запыніць яго на слове,
Свет не завяжа.

Пад грукат жорнаў, пад стукат кроснаў,
Пад бразгат цэўкі
Пяе літоўка, аж сэрцу млосна
Ад той запеўкі.

Бо Эрму хлопцу ўжо заручылі
З суседняй вёскі,
І расставацца пара дзяўчыне
З кутком бацькоўскім.

Кос залацістых тугі вяночак
Каптур укрые,

Блакіт нябесны з чароўных вочак
Слязіна змые.

Дарма аб шчасці ты сніш употай
І сэрца хмеліш,
Гучыць у песнях адна сумота
Перад вяселлем.

Сышліся ў хату яе сяброўкі,
Глядзяць панура
І толькі з жалем хіляць галоўкі,
Як на хаўтурах.

І хоць гавораць з такім нясмакам:
«Шлюб ёсць жалоба»,
А над сабою хутчэй паплакаць
Ім даспадобы.

Зашчабяталі, як птушкі з бору
Перад навалай,
Пападбіралі да хору ўторы
І запявалаў.

Тады абселі Эрміны кросны,
Як што іх дрэнчыць,
А заспявалі — аж воку росна,
Аж сцены енчаць.

«Рута красуецца перад сястрыцай,
Келіх лілея дала ёй з расіцай,
Але сястрыца слязьмі хоча ўмыцца.

Што цябе, любая, гэтак трывожыць?
То ж маладосць твая — раначак Божы
І нарачоны — ўдалы ды гожы».

«Праўда, вясна мая — свежае ранне,
І нарачоны — між лепшых абраннік,
Ды востры смутак душу параніў.

Мушу пакінуць я хатні куточак,
Родную маці, вясёлы гародчык,
Руты зялёнай пахучы вяночак.

Чорныя пеўні, не пейце рана,
Хай будзе доўгай ночка няспана,
Што засталася з маці адна нам.

Пеўні не пелі, вёска заспала,
Цёмная ночка гадзін прыбрала,
А ці ж я маці пра ўсё сказала?»

— Песню ямчэйшую, — кажа дзявуха, —
Можа, вы хочаце зараз паслухаць:
Быў сабе хлопец, сіротка без долі,
Дубу ён сэрца адкрыў для патолі:

«Там, дзе прыстань хваля мыла,
Гара выйшла з долу,
Вырас дуб на ёй асілак
З галінастым чолам.

На відне паплыў я з гора, —
Сірата без дому,
І прыбіла човен мора
Акурат пад строму.

Дуб абняў я з парываннем:
— Ты змяніся, братка, —
Хай замест цябе тут стане
Постаць майго таткі!

Падымі сукі ўрачыста,
Як бацькавы рукі,
Замяні ты шолах лісту
На словы, на гукі.

Ды сіротка ў паняверцы
Марна сілы траціць, —
Не зайграла ў дубе сэрца
Радзімага бацькі.

Не падняў сукі ўрачыста,
Як бацькавы рукі,
Не прамовіў шумналісты
Ні слова, ні гуку».

Потым дзяўчына кажа другая:
— Ці ж толькі хлопцам скрутна бывае?
З іхняй слязіны — горача воку,

Наша — зямельку точыць глыбока:
Жаль іх сягае ў неба на крылах,
Наш — прабівае глыбу магілы.
Толькі у шчасці хлопцы спяваюць,
Нас жа і ў смутку спеў парывае.
Гэткую ж песню я ўмею іначай, —
Як па матулі дачушка плача:

«Мяне, бедну, не пыталі —
Ў лес па ягады паслалі.
Ды тых ягад я не бачу:
На магіле ў маці плачу.

Бегла сцежкай добра знанай,
Дзе матуля пахавана,
А як білася на грудзе,
Дрэвы енчылі, як людзі.

Маці кажа з дамавіны:
— Хто гарачаю слязінай
Дол пясчаны прабівае
І мне грудзі залівае?

— Гэта я, ты чуеш, маці,
Кепска як твайму дзіцяці?!
Хто касу маю расчэша,
А хто ўмые, хто пацешыць,
Хто ад злыбеды затуліць,
Слоўкам ласкавым расчуліць?

— Ой, табе, мая ты доня,
Маці вымаліла долю:
Там сватоў прыслаў у хату
Рыцар знаны і багаты.
Ён касу тваю расчэша,
Ён умые, ён пацешыць,
Ён ад злыбеды затуліць,
Слоўкам ласкавым расчуліць».

* * *

— Эй вы, дзяўчаты! Пабойцеся Бога,
Плакаць прымусілі дзеда старога! —
Кажа ім старац з вокам замглёным,

Варпас — нявольнік з часаў прыгону.
Строгі ахоўнік даўніх абрадаў,
Сівы, як явар зімняга саду.
Шлюбныя песні з нотай хаўтурнай
Цяжка з ягонай слухаць натурай.
Вясёлы быў, не гняла яго старасць,
Смех падабаў ён на кожным твары,
А больш за ўсё, як ад мёду, піва
Расчырванеюцца асабліва,
Ажно кладуцца людзі ад смеху,
Як жарт састроіць ім на пацеху.
Зараз ён кажа:
— Будзе вяселле,
Песень стае ў вас для добрай капэлі,
Ды за маю маладосць, бывала,
Песні вясельныя моладзь спявала.

Хорам пяялі, смяяліся хорам,
Сёння смяяцца забыліся з гора.
Ніхто не знае, хто там чым дыхаў,
Калі жанілі ваўка з ваўчыхай.
Дайце мне жорны, цяжка без працы,
Просяцца рукі, каб распрастацца,
Думкі пушчу я жвавейшым рэем,
Бо без работы спяваць не ўмею.

І вось, сыпнуўшы зерне на камень,
Адкінуў голаў, крутнуў рукамі,
Як добры лірнік, што дзеля спробы
Сабе спачатку прайгранне робіць.
Нібы са студні пачуўся голас,
Так часам рыпне на мосце кола, —
Пачаў дзед песню з далёкай хвілі,
Калі ваўчыцу з ваўком жанілі.

«Мядзведзь да ваўчыцы, кудлаты, кудлаты,
З гарэлкай прыпёрся за свата, за свата:
Пад зімоўку жэнім воўка,
Зваў гасцей ён у дамоўку,
У пушчу, у пушчу.

Гарэлачку вожык пільнуе, пільнуе,
А ліс за маршалка кіруе, кіруе,
Заяц п’яны за фурмана,

Маладых памчыць з паляны
Да шлюбу, да шлюбу.

Тхор піва вясельнае пеніць ды пеніць,
Шпакі робяць солад з ячменю, з ячменю,
А зязюлі ў тыя гулі
Шышак хмелю нацягнулі
З гароду, з гароду.

Бык дровы пілуе, а лысы ён, лысы,
Пёс лыжкі шаруе і місы, і місы.
Кабан гладкі для грамадкі
Накупляў свяжынкі з яткі
Па грошу, па грошу.

Мядзведзь, адпачыўшы з турботы, з турботы,
Тне марша на дудцы з ахвотай, з ахвотай.
Воўк пад чарай зблытаў пару,
Запрасіў казу-няздару
Да танца, да танца.

— Я зараз у добрым гуморы, гуморы,
Хай кумка хоць вальсам адорыць, адорыць:
Хто не скача, той заплача,
Гэй, мядзведзь, зайграй, дружбача.
Вальчыка, немчыка!

Як кумка адмовіць у танцы, у танцы,
Заем я куму на палянцы, палянцы.
А са скуры для вільчуры
Каўпак будзе ад віхуры
На свята, на свята».

* * *

Зарагаталі дзеўкі-раготкі,
Які то з воўка танцор салодкі
І як каўпак яму быў да твару,
Як на бяседзе ліс гаспадарыў,
Як бедны заяц стагнаў пад возам,
Ад смеху дзеўкі ўціраюць слёзы.
— Ці ж не казаў я, што будзе смешна? —
Дзед сам рагоча, самому ўцешна,
Што так забавіў дзяўчат грамадку,

У жорны грукнуў ды новай згадкай
Хацеў смяшыць іх, спяваць ім далей,
Аж тут трывожна ўсе закрычалі!
З акна, знадворку, са змроку ночы
Зірнулі страшна чыесьці вочы,
Твар дзікаваты блішчыць праз шыбу,
Рудабароды, разбойнік нібы.
З-пад вусаў зубы свіцяцца ў роце,
І галавою трасе страхоцце.
— Хто там? — разлёгся крык утрапення,
І моладзь кулем ляціць у сені.
Адзін зрывае з цвіка бярданку,
Другі сякеру схапіў — каванку,
Дзяўчат да дзеда хіне трывога,
Але ў дварэ ўжо няма нікога.
Адно прыкмеціў з грамадкі нехта:
Гула зямелька, як той прабег там.
Другі заўважыў здалёк, з-за дрэва,
У белым постаць, плашча павевы,
Над галавою штосьці іскрыцца, —
Са сталі шапка на ім як быццам.
Дзед пасмяяўся з трывог юначых,
Ды смак да песень ужо быў страчан.
На твары дзеда з дзіўным выразам
Жуда і кплівасць сышліся разам.
Свой страх схаваўшы за смешнай мінай, —
«Воўк, — кажа, — быў у чапцы казіным!»

*1860, Вільня*

## ВЯСКОВАЯ ШКОЛА
*Гутарка*

### I

Навіна ў нашай вёсцы, падзея дзіўная, —
І старыя гадаюць, тужыць ці смяяцца:
Пабудована хата на выгане, з краю,
І хоць печы няма яшчэ ў гэтым палацы,
Не тынкованы сцены і вокны не свецяць,
А ўжо лаўкі стаяць, штосьці кшталтам касцёла.

Пра такія дзівосы не чулі на свеце:
Тут будзе школа!..

II

Гэта добра ці блага, але без адмовы
Хлопцаў слаць таму чорту — казалі не жартам,
Пан загадваў, і ксёндз, і старшынька вясковы,
Дык няхай сабе ходзяць — спрачацца не варта.

III

Дзівака-ягамосця прывезлі да школы:
Барада, як мяцёлка, з рудзінаю волас,
Паўкажушак на ім, капялюш не па мерцы,
Замест люлькі ён смаліць тытунь у паперцы.
Пан не пан, бо не горды, не хлоп, бо чытае;
Не аконам таксама — дзяўчат не чапае.
Пойдзе ў двор або часам адведаць плябана,
А з людзьмі гаварыў бы ад рана да рана.
Зняў мужыцкую хату, есць простую страву,
Муляроў ды шкляроў падымае на справу,
Намагае і сам, хоць не здатны да працы, —
Хоча скончыць хутчэй, школе час адкрывацца.

IV

Дзень за днём прамільгнуў, вось і школа гатова.
Ксёндз святою вадой акрапіў пабудову.
Пазганялі хлапцоў, і бацькі з імі разам
Сталі слухаць ксяндзову прыгожую казань:
Аб тым золку, што некалі свету засвеціць,
Аб святым, у якога вучыліся дзеці.
Мала цямяць сяляне ў тым слове паважным,
Але бабы аж плачуць, так хораша кажа!
А канец ужо кожны так-сяк расшалопаў:
«Хай жа Бог памагае! Вучыцеся, хлопцы!»

V

От і школа!.. А дзіўна, нібыта ў мястэчку!
Звоніць з ганка званочак, склікае малечу,
Раздалі ўжо хлапцам алаўкі і паперы,
А што з гэтага будзе? Хрыстос міласэрны!
Ягамосць той, што з горада, вельмі сурова
Мыцца ім загадаў і расчэсваць галовы.
Мусіць, свету канец! Пашалелі, дый годзе!
Добра, што з катэхізісам ксёндз у прыходзе.
У таго ж ягамосця ўсё змены ды змены:
Дзеці пішуць, крычаць, аж калоцяцца сцены,
Школа, быццам кірмаш на раз’ездзе, у часе,
Калі людзі пад чаркаю па амбарасе.

VI

З гэткіх свету паслуг і пачата дарога
Тысяча восемсот шэсцьдзясят другога.
Моцны творца! Куды на жыццёвае поле
Ты штурхнеш яго долю?..

VII

Вясковы хлопчык бяжыць са школы.
Пад густ навука, таму вясёлы.
Меў за стараннасць, відаць, ухвалу, —
Глядзіць ён важна, крыху зухвала,
А думкі смела шукаюць тропу:
Казаў плябан ім: «Вы дзеці хлопаў,
Але праз кнігі з вас можа кожны
Стаць вельмі моцным або вяльможным».
Калі то праўда, моцны Езусе,
Да кніг тады я так прыгарнуся,
І днём і ноччу аж да світання,
Пакуль не ўцямлю ўсяго ў чытанні,
І двойчы два падлічу адразу,
І словы ёмка складацьму ў сказы.
Калі я моцна так зажадаю,
Дык і магутнасць, пэўна, прыдбаю.
А чым жа стаць мне на свеце Божым?

Застацца хлопам ужо няможна, —
Пайшла б намарна уся навука…
Зноў, як на бацьку, ўпадзе прынука:
Ганяць на пасту, нага ды боса,
Хадзіць за сошкай з праклёнам лёсу.
Як горкі старац, жыць аб скарынцы,
Перад пагардай дурняў скарыцца,
Ці ж варта біцца?..

VIII

Хіба я зломак?
Магу застацца за аканома.
Пачну людзей біць… Не, гэта брыдка, —
За брата буду ім, занядбаным,
Як у Пісанні надрукавана.
Пачну старацца ім піва, мёду,
Як на жніве ў нас пяюць заўсёды.
Вусы, як венікі, адгадую,
Шапку сабе з кутасом куплю я
І табакерку са срэбнай цыны!
Коней чацвёра ўпрагу ў драбіны,
Пасля жанюся, як жа без жонкі!
Ды каб насіла сукню ў фальбонкі,
Тонкі каптурык з карункаў белых,
Бэсцячы мужа дзянёчак цэлы!
Пан будзе лаяць, жонка сварыцца,
На аднаго занадта як быццам.
Не, з аканомствам не трэба знацца,
Буду шукаць сабе іншай працы.

IX

Я маляваў бы, як той пан Юрый,
Што для касцёла рабіў фігуры
Жаўнераў грозных: стаяць з мячамі
Пры Божым целе, стрыгуць вусамі.
У іх дзівосныя апранахі —
Ці то з дзяругі, ці проста з бляхі,
Затое пёры на іх галовах —
То два блакітных, то два ружовых!

Але за сэрцы вельмі благія
Мастак зрабіў ім ногі крывыя.
Здзекі чынілі з цябе, Езусе!
Няхай стаяць аднанож, як бусел.
Так ім і трэба!.. Буду мастачыць
І пакажу ўсім, што гэта значыць.
Пэндзляў куплю я, фарбаў мянёных —
Белых, блакітных, жоўтых, чырвоных —
І намалюю вёсачку нашу —
З хатаю, грэбляй, рэчкаю з пашай.
Будзе касцёл там, будуць магілы,
І арганіста дамок пахілы,
І галубоў чарада над вежай.
Дыхне бярозка ў паветры свежым,
І расшчабечацца ручаіна,
А на пагорку ўздыхне хваіна.
З карціны будуць чутны заплачкі,
Смутныя песні старой жабрачкі,
Брэшуць сабакі, сварацца бабы,
Стогне дзядуля, на ногі слабы.
А над усім узыходзіць ранак,
І ў небе постаць святое Панны,
Яна на ўлонні трымае сына,
Прасцёршы рукі к нашым хацінам,
Благаслаўляючы вёску нашу,
Касцёл драўляны, што точыць шашаль,
І школу нашу, і наша жыта,
І луг у красках, расою ўмыты.
І чалавека благаслаўляе:
Ці то ён зблізку, ці то здаля ён.

X

Бо там за ўзгоркам уздоўж паляны,
Сцяжкі падняўшы, ляцяць уланы.
Божа, мой Божа! Што за каніскі!
Як чмыхне, з храпы шугаюць іскры.
Стану я зухам! Дам сабе волю,
А мастаком ужо быць даволі!
Як будзе вёска намалявана,
Я — на каня і гайда ва уланы.
Буду фарсіць залатым убраннем,

Золата, праўда, не варт старання.
Вус будзе доўгі, ды што мне вусы!
Слава салдата — мая спакуса!
Калі ён з крыжам вернецца ў хату,
Ой, будзе ўцешна сям'і салдата!
Бацька слязіну змахне, а маці
Прамовіць: «Сынку, маё багацце!»
Суседзяў скліча і стол накрые,
Мяне абдымуць дзяды старыя.
За гэты момант жыцця не шкода!..
А калі з муштрай будзе нязгода,
Ці ў бойцы шабляй плячук скалечаць,
Ці нават голаў праб'юць карцеччу,
Ці сама горай — злітуйся, Божа! —
Раптоўны страх мяне пераможа,
Пагоніць з бою куды пад вугал,
А людзі крыкнуць: «Уцёк, падлюга!» —
То ж для бацькоў, як жвір на павекі,
І для салдата ганьба навекі.
Не, хоць са славай знаюцца ўланы,
Хоць залатыя на іх жупаны,
Бляск гэты здрадны звядзе з дарогі,
Калі разважыць не маеш змогі.

## XI

А як разважыш? Не ў маім веку, —
Мне трэба пільна стаць чалавекам!
А гэта цяжка… Цяжка уланам…
Куды ж падацца? Зраблюся панам.
Збяру я хлопаў тае ж хвіліны,
Каб на палац накапалі гліны,
Але скасую зусім шарваркі[1]
І ўсім гарэлкі па дзве дам чаркі.
Як архітэктар прыедзе ўлеглы,
Дык загадае прывезці цэглы
І пабудуе палац высокі.
Ён будзе вежай страшыць аблокі,
Нібыта пудзіла, што заўсёды
Ад птушак ставяць на агароды.
Як малацілі ў двары мы жыта,
Прынёс я маці абед нясыты,
Як зараз помню, пасілак скнары:

Нішчымны крупнік і бульбін пара.
Пан за работай сачыў здалёку,
Я пану нечым успаў на вока:
За рукі ўзяўшы, мяне папесціў
І да палаца сказаў прывесці.
Вось там раскоша, мяккія лавы!
Блішчыць на кожнай тыфтык[2] яскравы!
А люстры, люстры! Яны ўсё двояць,
Нібыта дражнішся сам з сабою.
Карціна ў раме аж ломіць мур там:
Панны ў купальні плешчуцца гуртам.
Якія вокны! Што за падлога!
Багацце, пыха — на літасць Бога!
І я ўладкую ўсё гэтак добра,
І служкі будуць, і грошай торба.
Прыдбаю коней, брычкі на шынах
І люльку доўгую, як галіна.
А размаўляць пачну па-еўропску,
А не па-польску і не па-хлопску!
Віно, што ў корак б’е утрапёна,
Закусваць буду гурком салёным.
А прыйдзе маці ў адзенні зрэбным
І будзе плакаць, што год няхлебны,
Ці меншы брат заступіць дарогу:
«Прашу, паночак, дай дапамогу!» —
У чырвань кінуць мяне іх твары,
Скажу, каб слугі прагналі ў карак.

XII

Ой, што вярзецца! Дай сілы, неба,
Мне абагнацца ад дум ганебных.
Браточак, маці… Чаго ж я варты, —
Як нелюдзь, думаў аб вас з пагардай…
Кленчу, да ног вашых прыпадаю,
Хай заўтра ксёндз мяне спавядае;
А вашу крыўду — мой грэх страшэнны
Слязой крывавай сплачу сумленна.
Хай аднагодкі мае за правіны
Гразёй абліюць мяне з каляіны.
Благі занятак быць гордым панам:
Як бач паддаўся думкам паганым.

Не буду хціўцам, каб за багацце
У пекле Лазара не спяваць мне.
А з тым набыткам, што ўзяў з навукі,
Братам-вяскоўцам пацісну рукі.
Панакупляю лемантароў ім,
Хай вучаць літары на здароўе!
Настаўнік скажа, міргне павекам:
«Ты, хлопча, вырасцеш чалавекам!
Ідзі выцягвай у людзі вёскі,
Як след на ніве ары бацькоўскай!
Хоць і разумны, а з сівай маткай
Рыдлёўкай дбайна ускопвай градкі,
І з буракамі пасей ты жменю
Зярнятаў сонца, яго праменне.
А з ласкі Божай той плён не згіне.
Благаслаўляю цябе, мой сыне!»
Лячу я ўподскак, от рады будуць:
Насенне сонца нясу я люду.
Вясной тым зернем засею нівы —
Пан Бог не Рымша — будзе руплівы:
Дождж дасць без граду, цёплыя росы, —
Вырасце колас аж пад нябёсы.
Запалавее жытняе поле,
Накорміць хлебам людзей уволю!
Людзі збяруцца «дзякуй» сказаць мне,
Ціха заплачуць бацька і маці;
Перламі слёзы ў сэрцы зальсняцца.
Вось мая кніжка… Вось мая праца.
Кім ты маніўся стаць, чалавеча? —
Панам, уланам, яшчэ там нечым;
Каб нават біўся ў мур галавою,
Век застанешся самім сабою.

*1862, Барэйкаўшчына*



# ВАНДРОЎКІ ПА МАІХ БЫЛЫХ ВАКОЛІЦАХ

## *Успаміны, даследаванні гісторыі і звычаяў*

Спяваў для сябе я пра родныя далі —
Каб слухалі й вы і пра сум забывалі.
Таму і спрачацца ні з кім тут не будзем,
Сабе тым лагоджу душу больш, чым людзям.
Прывыклі наш свет адбіваць на паперы
Во так — мастакі, а во так — землямеры.
Каморнік пакажа праз лініі поле:
У іх — толькі думка яго і не болей.
Мастак жа бярэ краявід найцудоўны
Ці сад манастырскі, руж сонечных поўны,
І сэрцам натхнёна пейзаж свой малюе.
Так я маляваць хачу край свой…

*Б. Зімаровіч*[1]

Вы ўжо без мяне заставайцеся ў свеце,
Маленства палеткі, — як май вас расквеціў!
І вы заставайцеся, ў сціпленькіх красках
Лугі мае любыя — светлая казка.
Таксама і вы, нашы ціхія рэкі
Са стругамі ўсімі, бывайце навекі!
Бывайце, суседзі, сябры нашы, — болей
Тут песні маёй не пачуць вам ніколі.
Вы толькі не кпіце з нядолі суседа
І не забывайце яго на бяседах.
А прыйдзе Купалле — на лузе ці ў лесе
Агонь раскладзіце і там пад гук песень,
Што з вамі спяваў я, мяне спамяніце
Спагадлівым словам…

*Б. Зімаровіч*

## ДА ЗЫЧЛІВАГА ЧЫТАЧА

Вельмі незвычайную кніжку прыношу табе, чытач: падарожжа па ваколіцы ў акружнасці пяці ці шасці міль ваколіцы, якая нічым адметным не вылучаецца, якая не шмат можа ўспомніць з мінулага, а сёння зусім засталася без значэння. Аднак жа, не зважаючы на гэта, узяўся я за працу над кніжкай. Дзве галоўныя акалічнасці падштурхнулі мяне да гэтага. Першая — жаданне падзяліцца з людзьмі сваімі асабістымі ўспамінамі, за што я павінен прасіць у чытача прабачэння, бо хоць для мяне яны і дарагія, яго могуць пакінуць абыякавым. Усё ж я цешу сябе надзеяй, што, мажліва, і не шмат, але знойдуцца чулыя сэрцы, якія, перажыўшы прыкладна тое ж, што і я, патрапяць і захочуць мяне зразумець.

Ваколіцы, якія я назваў тут сваімі, адыгралі найважнейшую ролю ў маім жыцці. Малым дзіцем трапіў я сюды, і тут, у радыусе некалькіх міль, прайшло ўсё маё маленства, юнацтва і сталыя гады, тут зведаў я ўсе чалавечыя пачуцці — ад хлапчуковай радасці, калі ганяўся за матылём, і да сардэчнага болю, калі як бацька плакаў над магілкамі дзяцей. Гэтае сціплае мястэчка[2] было першым горадам, які бачыў я ў жыцці, у гэтым ціхім касцёле пачуў я першы раз голас арганаў, прыняў там першае святое прычасце, якраз там на школьнай лаве ўпершыню пакаштаваў я пладоў навукі, там, пад ценем вясковага алешніку, каля крыніцы, пачаў я прычыняцца да высокага святла паэзіі і марыць пра нязнанае яшчэ пачуццё кахання; у гэтым старажытным замку я ўвайшоў юнаком у кола таварыскага жыцця, у гэтай святыні ўзяў я шлюб, а потым у гэтай наднёманскай ваколіцы з Богам і кніжкай ступіў на пісьменніцкую дарогу, устанавіў ганаровыя для мяне і дарагія сэрцу адносіны з далёкім светам, тут, у першароднай цішыні, пад уражаннем прыроды і сямейнага жыцця вольна снаваў я ўток маіх думак. Што ж за дзіва, калі гэтыя ваколіцы сталі для мяне святымі, што прырос я сэрцам да кожнай мілай майму сэрцу касцельнай вежачкі, да кожнага ўзгорка на полі, крыжыка на дарозе, да кожнага дрэўца і кусціка, да амаль кожнай аблачынкі на небе!

Той, хто палюбіў так свае ваколіцы, знайшоў у іх, здавалася б, сваё шчасце.

Ды дзе там! Калі не знайшоў гэтага шчасця ў сабе, дарэмна шукаць яго ў знешнім свеце. Два балючыя ўдары лёсу, два непаразуменні з людзьмі, — і старана, такая дарагая некалі сэрцу, стала для нас невыноснай; заставалася толькі пакінуць яе,

забыўшыся на ўсё добрае, узяўшы з сабой толькі апошнія горкія ўспаміны. Добрае было сном і ілюзіяй, горкае ж — рэальнасцю.

Аднак жа цяпер, у шуме горада[3], не раз апаноўваюць мяне неадступныя ўспаміны пра тыя ваколіцы, пра тых людзей, тую прыроду. Калі не прагоніш іх сярод звычайных клопатаў удзень, яны вяртаюцца ўночы, не даючы спаць; дарэмна будзеш адганяць ад сябе былыя пачуцці — жаль ізноў міжволі сціснe здранцвелае сэрца; з заіржавелага вока па мармуровым твары скоціцца горкая сляза — уздыхнеш па сваім мінулым.

Як апошняе развітанне з людзьмі і зямлёй, дзе пражыў столькі гадоў гожай маладосці, як апошняе «Бог, заплаці» за хлеб, за соль, за слёзы, за радасць, за вясёласць, за зведаны там смутак пішу я на аснове сваіх дзённікаў і ўспамінаў гэтыя нататкі пра мае ваколіцы. Нібы стары пілігрым, які, не маючы нічым іншым заплаціць свайму гаспадару за міласціну ці за гасцінную страху начлегу, расказвае свету пра свайго дабрачынца і ўслаўляе яго імя сярод добрых людзей. Хітры дзед ведае, што такім спосабам закране ў людзей самалюбства і схіліць іх да яшчэ больш шчодрай падаянкі. Але што да мяне, то, не выпрошваючы, як жабрак, міласціны спачування, без ніякага тайнага разліку выплачваю доўг ваколіцы, у якой жыў.

Але ведаючы, што мае асабістыя ўспаміны не ўсім будуць цікавыя, тым не менш не жадаючы цалкам іх адкідваць, у гэтай вандроўцы будзем больш трымацца паважнасці і сухасці. Будзем даследаваць тут гісторыю, народныя звычаі, усё, што просіцца на пяро, а паколькі выбралі мы вельмі невялікую прастору для вандроўкі, хачу паказаць, што кожны закутак краю, хоць бы на першы погляд і не ўяўляе ён нічога надзвычайнага, можа быць прадметам даследаванняў, а даследаванні такога роду не могуць быць для нас бескарыснымі, бо не ўсе мы добра ведаем сваю зямлю; што кожны, пільней прыгледзеўшыся да сваёй роднай ваколіцы і гэтак жа апісаўшы яе, мог бы дадаць нейкія звесткі да скарбніцы гісторыі.

Гэта была другая і важная мэта маёй працы.

Для спробы падаём на суд грамадскасці яе першую частку. Некалькі сядзіб, мястэчак, ваколіц — вось і ўсё кола нашай вандроўкі. Калі чытач прыхільна яе прыме, гэта будзе штуршком для далейшага падарожжа па маіх былых ваколіцах.

*10 сакавіка 1853 г., Вільня*

## I
## СЯДЗІБА ЗАЛУЧА

*Дзе яе шукаць на карце? — Мяжа славяншчыны і Літвы. — Лясы. — Перадача маёнтка з ваколіцамі Яну Храптовічу. — Лёс уладанняў пасля яго. — Позірк на ваколіцу За́лучы. — Жукаў Барок. — Успаміны Адама Плуга.*

Шчаслівы я, што доля даравала
Дабротаў мерку мне. Хай іх і мала,
Мне досыць, Божа. І за гэта дзякуй —
Не трэба ўзнагароды больш ніякай.
Мая ты ніва! Скіба глебы плённай!
Ты з каласоў вянок за пот штодзённы
На галаву мне ўсклала…

*В. Кахоўскі[4]. Лірыкі*

Адзінокая, са старым дамком, ані адным дрэвам не прыцененая наднёманская сядзіба, што бачыла маю раннюю маладосць, не багатая на падзеі, але поўная ўсякіх пачуццяў, уражанняў, памятак з малых і сталых гадоў майго жыцця; сядзіба, сама назва якой звязана са столькімі маімі ўспамінамі, якая прыняла мяне дзіцем, песціла, калі стаў хлопцам, а потым выхавала з мяне, мусіць, аж занадта сур'ёзнага чалавека, — ад цябе пачынаю я сваю вандроўку, табе належыць першая старонка ў гэтай кніжцы! Хлеб з тваіх пясчаных палёў карміў маё цела, твае панурыя лясы, квяцістыя лугі, ні з чым не зраўняныя салоўкі выхавалі ў маёй душы замілаванне да красы нашай прыроды, тваёй самотнай глушы ўдзячны я за тое, што палюбіў песні і кнігі, у якіх бачу ўсю сваю будучыню. У падзяку за ўсё гэта я пашукаю ў зніклых вяках сляды тваёй мінуўшчыны — не гістарычных падзей, бо нам з табой не суджана было адыграць нейкай важнай ролі ў свеце.

Вось я разгортваю геаграфічную карту і, сочачы за бегам Нёмана, шукаю месца, дзе ты ляжыш…

Сакрат граміў некалі Алківіяда[5] за тое, што ён выхваляўся сваім шчуплым кавалкам зямлі, якога і на карце Грэцыі нельга адшукаць. Я ж багацейшы за Алківіяда, бо на карце Літвы без цяжкасці знаходжу месца, дзе ляжыць мая былая сядзіба. Праўду кажучы, не маё гэта ўладанне, але тое ніяк не кранае маё самалюбства. Мяне мала абыходзіць, што нехта іншы называе сябе ўладаром часткі зямлі, пра якую ідзе гаворка; хоць улюбёнец не мае аладыяльнага права[6] над сваёй любай, але тым

не меней валодае ёю, — яна належыць яму па праву любові. Такое права дазваляе і мне называць маімі і гэту сядзібу, і гэту вёску, і я прасочваю іх мінуўшчыну, не думаючы пра нечае там дамінальнае на іх права.

Так што зычлівы чытач, які захоча выправіцца з намі ў цяперашнюю вандроўку па маіх былых ваколіцах, няхай прабяжыць вокам па геаграфічнай карце — ад вусця да вытокаў Нёмана ў Мінскай губерні і спыніцца непадалёк ад гэтых вытокаў, у пункце паміж 45° і 46° паўночнай шыраты і паміж 54° і 55° усходняй даўгаты, — з паўночнага боку Нёмана ўпадае тут у яго рака Сула. На малых картах яна пазначана толькі паўколам, на большых — напісана і яе назва. Амаль у гэтым жа самым месцы перасякае Нёман, ідучы з усходу і поўначы, старая мяжа паміж рускай славяншчынай і Літвой. На карце ўсё гэта — у адным месцы, але на зямлі ад Сулы да таго перасячэння мяжы праз Нёман — добрая палова мілі; тут якраз і мая сядзіба Залуча са сваім сціплым набыткам. Аднак мая тэрыторыя не абмяжоўваецца гэтым шчуплым кавалкам зямлі, а, цягнучыся аж за згаданую мяжу славяншчыны, уключае ў сябе вёску, названую Жукаў Барок, дзе ўпадае ў Нёман невялікі ручай Ячонка. На паўночны захад, там, дзе вусце Сулы і Залуча, была яшчэ ўласна Літва, праз крок на паўднёвы ўсход, дзе сёння вёска Жукаў Барок, былі ўжо руска-славянскія ўладанні дрыгавічоў, крывічоў і г. д. Тут, за якія дзве тысячы крокаў ад майго дамка, я стаю на высокай гары, адкуль адкрываецца такі шырокі кругагляд, адкуль не раз азіраў я бясконцы свет, такі прывабны здалёку, не раз пасылаў малітву Небу, стаю на гары тварам да сонца, што заходзіць недзе за Нёманам за лес Бярштаны, і крычу: «Направа адсюль ляжала літоўская зямля, край Пяркуна[7] і сардэчнай Мілды[8], налева пачыналася зямля славянская, зямля сыноў Славы, прыхільнікаў Святавіда; потым з гэтага левага боку адбілася тут хрысціянская песня і рэха касцельнага звона, а з правага — хрыпаваты гук літоўскага рога; тут, дзе стаю, спакойны складальнік вершаў, — была мяжа двух рыцарскіх народаў, у кожнага з якіх — свая будучыня, народаў, такіх розных сваімі норавамі, верай, звычаямі. Я мог бы, паказваючы направа і налева, усклікнуць услед за паэтам:

Вунь у адным баку блішчаць святыняў шчыты,
Гамоніць з небам лес — багоў прыстанак,
Ну, а ў другім — стаіць на ўзгорку ўбіты
Крыж…

Але ў сапраўднасці не было ў гэтай дзікай ваколіцы ні паганскіх святынь, ні хрысціянскіх крыжоў, толькі лясы на літоўскім і лясы на славянскім баках; літоўскія трохі цямнейшыя, бо сасновыя, славянскія дзе-нідзе перамешаны з весялейшымі бярозамі і ляшчынай; тут дае сябе знаць невялікая розніца ва ўрадлівасці зямлі. Спакойныя салаўі маглі тут свабодна лятаць за мяжу на братнюю размову, бусел мог свабодна жыраваць на наднёманскай лугавіне за кардонам, нічога не баючыся… А людзі… дзесьці ў гэтым месцы перасякала Нёман палітычная мяжа дзвюх моцных краін і плямён.

Але жалезнае плячо літоўскіх князёў яшчэ ў XIII стагоддзі знесла, як Самсон браму філістымлянаў, мяжу сваёй дзяржавы недзе далёка ва ўладанні мінскіх і полацкіх князёў. Рынгольд, літоўскі князь, бацька Міндоўга, у 1235 годзе, гэта значыць шэсцьсот сямнаццаць гадоў назад, атрымаўшы перамогу пад Магільнай (4 мілі ад Залучы) над кіеўскім князем Святаславам, Дзмітрыем Друцкім і Львом Уладзімірскім, заняў тутэйшыя славянскія ваколіцы, зліў іх з Літвой, знёсшы гэтую мяжу. З таго часу тут ужо была Літва; Міндоўг, Віцень, Гедымін, Альгерд і яго дзеці былі заўсёды ўладарамі гэтых ваколіц; але панаванне Евангелля і крыжа шырылася тут гэтаксама хутка, як панаванне літоўскага мяча і тапара; з крыжам і Евангеллем літоўскія людзі прымалі чужую для сябе мову і звычаі народаў, ад якіх узялі веру. А з прычыны таго, што рэлігійная прапаганда вялася не мячом, а хлебам і соллю, пры дапамозе суседскай прыязнасці і шчырай любові, то поўная асіміляцыя тутэйшых літоўцаў прайшла так дасканала, што не толькі тут, але нават у ваколіцах Наваградка, даўняй сталіцы Рынгольдаў і Міндоўгаў, дарэмна б было шукаць сярод люду чаго-небудзь літоўскага — звычаяў, грамадскіх парадкаў, мовы ці абрадаў. Калі што і нагадвае старое паганства, то, без сумнення, носіць хутчэй характэрныя рысы славян, чым літоўцаў. Але пакінем гэтакага роду даследаванні.

Мілда, літоўская багіня кахання, учыніла свой апошні цуд, кінуўшы князя Літвы Ягайлу да ног гожай хрысціянкі — польскай каралевы. Калі з віленскай вежы Крыве-Крывейтэ[9] загучаў голас кафедральнага звона, калі Польшча з Літвой пачалі ісці адной палітычнай дарогай долі і нядолі, старая мяжа Літвы, што ў тутэйшых ваколіцах пераразала раку Нёман, хоць і страціла сваё палітычнае значэнне, не пераставала, аднак, існаваць, бо ў польскія часы стала мяжой Наваградскага і Мінскага ваяводстваў, у нашы ж часы аддзяляла Гродзенскую губерню ад Мінскай, а цяпер падзяляе Мінскі і Наваградскі паветы.

Як відаць з геаграфічных карт, уся гэтая межавая лінія, якая існавала з найдаўнейшых часоў, па сённяшні дзень засталася без асаблівых мадыфікацый і змен.

Шкада, што гэтая мясціна, нават назва якой невядома, нічым не вызначылася ў гісторыі: яна не была полем якой-небудзь гістарычнай бітвы, тут няма ніякага замчышча, няма нават мястэчка, якое б карысталася магдэбургскім правам і пра якое можна было б расказаць, што калісьці ў сівых вяках мела права мяча. Тут нават шляхецкае права бізуна над аколічнымі вёскамі дасталося маім папярэднікам, тутэйшым арандатарам, вельмі позна, бо хоць назва Залуча вядома ўжо з XVI стагоддзя, аднак я сумняваюся, каб у тую эпоху сядзіба была сталіцай памешчыцкіх уладанняў. Можа, у ягелонскія часы які далёкі перасяленец раскарчаваў тут колькі загонаў поля, пабудаваў хату і даў назву мясціне, можа, потым жыў тут які стралок, бортнік ці наднёманскі рыбак, можа, якая цікавая народная быліца звязана з гэтай мясцінай, — хто ведае? Вецер развеяў тутэйшыя дзеі, хвоі прыглушылі сваім шумам голас народнай традыцыі, песні.

Тут жа заўсёды былі лясы і лясы; хвоі і елкі ішлі па Літве ўздоўж па Нёмане ад самых яго вытокаў і, можа, да вусця, а ўпершыню — адзін Бог ведае, як далёка. Рэшткі гэтых лясоў славяцца яшчэ і сёння, нягледзячы на тое, што кожны год іх бязлітасна знішчаюць тыя, хто гандлюе дрэвам з замежнымі краінамі, нягледзячы на нябачную сякеру селяніна, які што ні дзень агаляе ваколіцу ад яе скарбаў, патрэбных яму ў штодзённым жыцці, і (што страшней за гандаль лесам і сялянскае спусташэнне) нягледзячы на так званую лясную ахову, для якой, як кажа мясцовая прымаўка, — на сосне пшаніца росне.

Пасярод гэтых лясоў нешматлікае тут насельніцтва разрабляла для сябе палянкі, будавала вёскі і мястэчкі, якія, як і ўвесь край, належалі згодна са спадчынным правам Вялікаму Княству Літоўскаму, бо ў Літве Гаспадар быў уладаром краю і ўладальнікам маёнткаў і зямлі з усімі яе багаццямі і прыбыткамі, а яго падданыя былі падданымі ў вузкім значэнні слова: адно — як падданыя яму палітычна, а другое — як памешчыцкая ўласнасць. Гэтак, як нашы сённяшнія сяляне. І была поўная роўнасць саслоўяў перад правам кія. Пасля пад уплывам іншых уяўленняў уладары пачалі за заслугі даваць рыцарству з уладанняў галоўнага дамініёна свае вотчыны, г. зн. наменклатуру месца, часам усяго некалькі хатак, з правам высечкі лясоў і заснавання асад у межах некалькі міль ці дзясяткаў міль. Такім чынам пачалі з'яўляцца ўладальнікі зямлі, наданай уладарамі

краю, пакуль, як вядома, Жыгімонт Аўгуст[10] не адрокся ад правоў над Літвою як землеўласнік, а застаўся толькі ўладаром у палітычным значэнні гэтага слова.

Месца, дзе сёння Залуча і навакольныя вёскі, было толькі малой часткай нязмернага абшару лясоў, дзе-нідзе раскарчаваных на палянкі, якія належалі маёнтку (curia) Свержань. Як і ўся Літва да пачатку XVI стагоддзя, гэтае месца было родавым уладаннем вялікага князя. Толькі Жыгімонт I[11], ацаніўшы маральныя вартасці, заслугі, вернасць і мужнасць Яна Літавора Храптовіча, вялікага маршала і драгічынскага старасты, яго змаганне ў абарону манархіі і айчыны, перадаў яму ў вечнае карыстанне Свержань і вёскі, якія належалі Свержню, з усім тым, што ў іх маецца сёння і што будзе тут у будучым, з людзьмі, якія жылі на гэтых землях і якія могуць тут асесці пасля з усёй без выключэння маёмасцю і выгодамі, скрупулёзна падлічанымі ў лацінскім пергаментным прывілеі, падпісаным самім каралём. Калі ад нядбалага захоўвання гэты прывілей быў так пашкоджаны часам і моллю, што нават год яго выдання нельга было прачытаць, Жыгімонт-Аўгуст пад час Гродзенскага сейма ў 1550 годзе на просьбу зацікаўленага боку загадаў выдаць з яго выпіску пад яго ўласным подпісам і вялікай літоўскай пячаткай.

Гэтыя падараваныя ўладанні цягнуліся некалькі міль па абодва бакі Нёмана. Яшчэ ў той час мы не сустракаем назваў вёсак і сядзіб. Відаць, іх было тут не шмат, а можа, мы проста не знайшлі тутэйшых назваў у паперах з эпохі, пра якую ідзе гаворка*.

Ян Храптовіч спадчынныя ўладанні Свержня аддаў у пасаг дзвюм сваім дочкам, адна з якіх — Ганна — выйшла замуж за Грыгорыя Остыка, трокскага кашталяна, а другая — Зофія — за Мікалая Ужалеўскага. Куток зямлі, дзе цяпер Залуча і прылеглыя вёскі, дастаўся Грыгорыю Остыку.

Остык нядоўга быў уладальнікам гэтых зямель, а хутчэй — гэтых лясоў, бо ў выніку сямейнай дамоўленасці ўступіў уладанні свайму швагру Ужалеўскаму. З апісання гэтай перада-

* Звесткі пра наднёманскія фальваркі, якія перайшлі потым да Радзівілаў, узяты з папер Нясвіжскага архіва: некаторыя — непасрэдна, а некаторыя — з выступленняў юрыстаў пры разглядзе справы пра апеку князя Антонія Радзівіла, пазнанскага валадара, над князёўнай Стэфаніяй Радзівіл у рамках гаворкі пра аддзяленне нясвіжскага маярату ад спадчынных уладанняў. З тых выступленняў найбольш прыдалася «Рэпліка з боку князёўны» п. Юзафа Карчэўскага 1824 г.

чы, ажыццёўленай у 1536 годзе, вельмі выразна відаць межы тых уладанняў, дзе сённяшняя Залуча, — рускі дакумент акрэслівае абшар ад ракі Ячонкі да Сулы. «А Сула ў Нёман упадае, а Ячная таксама ў Нёман упадае, і цягнуцца землі па рацэ Нёман…» — значыць, гэта быў абшар ад вусця ракі Ячонкі і да вусця Сулы. Якраз у гэтым абшары ляжыць мая вёска. У апісанні не згадваюцца іншыя паселішчы, акрамя вёскі Аталезь, якая мела дзевяць асобных «службаў», сялянскіх хат, колькасць якіх вырасла сёння да пяцідзесяці.

У гісторыі малой вёскі тры стагоддзі можна акрэсліць некалькімі фразамі: ад Ужалеўскіх гэты куток перайшоў да Служкаў, гаспадароў стаўбцоўскіх уладанняў, ад Служкаў у 1575 годзе — да Мікалая Крыштофа Радзівіла; у 1681 годзе Залуча ўжо значыцца як фальварак; пры Яне-Казіміры (паводле падання) гэтыя ваколіцы спустошылі шведы, пакінуўшы пасля сябе як памяць пару капцоў у лесе і жменю мядзяных шэлегаў з адбіткам Яна Казіміра і падобных ім з ініцыяламі Г. А. (Густава Адольфа), кінутых калісьці ў Нёман, — грошы гэтыя вясной у час паводкі асядаюць на пясчаных берагах; Кароль Станіслаў Радзівіл, літоўскі канцлер, каля 1720 года заснаваў у Жукавым Барку ўніяцкую царкву, тут жа сама сабой узнікла і карчма, — вось і ўсё гістарычнае мінулае вёсачкі. У вёсцы люд убогі, робіць ён на нёманскіх віцінах альбо на сваім і панскім полі; у маёнтку — арандатар ці аканом; на пясчаных нівах — часцей за ўсё неўраджай; часам ранні разліў Нёмана, мор, спякотнае лета, марозная зіма, дажджы, спрыяльныя ці не спрыяльныя для гаспадаркі, — вось усе факты мясцовай гісторыі, якія трымаюцца ў памяці мясцовага люду. Помняцца яны, пакуль жыве старое пакаленне; маладое ў сваёй долі і нядолі цалкам забываецца пра ўсё гэта. Генерацыя за генерацыяй працавала на памешчыцкай ніве, скардзілася на сваю долю ў вясковай карчме, у нядзелю малілася ў сваёй царкве, у панядзелак вазіла з бліжэйшых лясоў у Мір дрэва на продаж і такім чынам аплачвала падаткі і чынш, пасля ішла на вечны спачын на пясчаны царкоўны цвінтар, уступаючы месца новаму пакаленню.

Выехаўшы з двара, мінуўшы грэблю ў нізіне, узбіраемся на высокую гару, з якой, як на далоні, відаць налева разлеглыя пустыя палі, направа — зялёныя лугі, сярод якіх дзе-нідзе высяцца расахатыя дубы, далей — зарослыя вербалозам нёманскія затокі, а яшчэ далей — срэбная стужка самога Нёмана, за ім — лясы, раскіданыя ўдалечыні хаткі, пясчаныя ўзгоркі, шырокія разлогі палёў — ваколіца, прыгожая для вока таго, хто тут прыжыўся,

але пустая для чужака, які не звязаны з гэтымі мясцінамі ніякімі ўспамінамі, таму не можа зразумець спеваў тутэйшых салаўёў, шуму тутэйшага ветру.

Пясчаным насыпам уязджаем у вёску Жукаў Барок. Працавіты люд праз стагоддзі ўрабіў гэтыя бязлюдныя пяскі: збажына навокал кусціцца буйней, чым ва ўсёй ваколіцы. Людзі тут сярэдняга росту, лагоднага славянскага выразу твару, у чорных, з дамашняй воўны сярмягах, заклапочана снуюць па сваіх шнурах. Мы вітаем іх згодна са звычаем «Бог у помач!» і ад усёй душы зычым поспеху ў мазольнай працы.

Вёска балоцістая, бо ў нізіне, і хоць малая (у ёй можна налічыць ледзьве дзесяць хат), але дзякуючы свайму гожаму месцу на беразе Нёмана славіцца кузняй, млынам, царквою, плябаніяй, лясніцтвам, прасторнай новай карчмою і паромам на Нёмане. Яна часам нагадвае мястэчка, зрэшты, у мінулым і папраўдзе была нечым да яго падобнай, пра што яна любіць успомніць.

Не смейцеся, паблажлівыя чытачы, з такой арыстакратычнай прэтэнзіі нашай вёскі, — я пакажу вам памятку, якой і праўда наша вёска можа ганарыцца. Ці бачыце з гэтай грэблі побач з царквой у садзе малую, цяпер запушчаную сядзібу? Гэта — тутэйшае лясніцтва. У гэтым дамку, у гэтым садзе правёў свае дзіцячыя гады малады, прызнаны грамадствам пісьменнік, аўтар «Споведзі», «Дзетазабойцы», «Заразы» і іншых твораў, Антоні Пяткевіч, вядомы пад іменем Адама Плуга[12]. Таварыш яго дзіцячых гадоў, я добра помню маладога паэта ў акружэнні прыстойнай шляхецкай сям'і, у абдымках братоў і добрай маці; помню тыя сціплыя пакоі, той садок у квецені і тыя добрыя сэрцы жыхароў дамка, гледзячы на якіх, чалавек з замілаваннем думаў пра сціплую прастату продкаў. У мяне сціскаецца сэрца, калі чытаю ў прысвечаным мне вершы Плуга* ўспамін пра тыя прыгожыя хвілі нашага ранку і адначасна горкі і праўдзівы зварот да рэчаіснасці:

Вунь яна, сядзіба продкаў, —  
З садам тым, з гняздом буслінным,  
З шустрых ластавак чародкай,  
З буркатаннем галубіным.  
Родны кут. Стаю, застылы.  
Во наш дом бацькоўскі мілы.

---

* Гл. Athenaeum. 1849. T. III. C. 235.

Пацямнелі, збляклі сцены.
Дзе ты, час наш летуценны?
Жураўлінымі ключамі
Адляцеў ад нас імкліва.
Дом акенцамі-вачамі
На мяне глядзіць тужліва.
З палыном глухім ля клеці
Сумна шэпчацца унь вецер.
І сабака ў будцы вые…
А ці помніш, як, бывала,
Дружа, ўсё тут шчасцем грала?
Пойдзем к хаце… Ах, мой браце:
Людзі іншыя, чужыя
Там цяпер гаспадарамі;
Могуць дзверы ў нашай хаце
Зачыніць яны прад намі.
Дзе ж цябе я прывітаю?
Хай кутка, мой друг, не маю,
Дзе б цябе я хоць часамі
З распасцёртымі рукамі
Мог сустрэць каля парогу.
І абняць, мой любы дружа,
Ды я маю, дзякуй Богу,
Сэрца, што кахае дужа.
Ты у ім, калі ні зойдзеш,
Дом наш даўні, ў сэрцы, знойдзеш.

І праўда, малады паэце, яшчэ ў нашых сэрцах знойдзем сябе. Ад берагоў Днястра[13], ад берагоў Віліі, куды параскідала нас доля, мы, поўныя ўспамінаў, сэрцам вяртаемся на пясчаны бераг Нёмана, каб там падумаць і заплакаць і ў сяброўскім абдымку падбадзёрыцца, набраць новых сіл у бясконцай жыццёвай дарозе.

## II

*Дарога да Міра. — Некалькі слоў пра засянковую шляхту.*

Мінаючы вёскі, дубровы, мястэчкі,
Табе раскажу я пра рэкі і рэчкі,
Дзе шлях іх, куды з іх якая ўпадае,
Якую з іх Вісла глытае.

*Кляновіч[14]. Плытнік*

Пазнаёміўшы крыху з маёй ранейшай сядзібай, запрашаю цябе, чытач, у далейшую вандроўку па тутэйшых ваколіцах. Будзем пільнавацца пры гэтым большых дарог. Пераправіўшыся ў Жукавым Барку праз Нёман, мы трапляем на яго заходнім беразе ў нізіну, прывабную для вока, але вельмі небяспечную для вандроўніка, які змушаны перасякаць тут сухія і мокрыя канавы і ручаіны, кружыць удоўж і ўпоперак па гразкім балоце. Удосталь пакружыўшыся тут, мы ўрэшце выязджаем на шырокую пясчаную дарогу, якая вядзе на паўднёвы захад, да Міра.

З гэтай нізіны цікаўнае вока, скіроўваючыся і назад, і ўперад, убачыць усю розніцу ў краявідзе краіны па двух баках Нёмана: там, за ракой, адкуль мы рухаемся, сінеюць хваёвыя лясы, ярчэй зелянеюць наднёманскія астраўкі дрэў і гэты «ракітавы вянок»*, што аздабляе чало Нёмана. Адтуль, ад вады і з лясоў, далятаюць да нас спевы птаства, бо мы едзем раніцай; а перад намі — голая пясчаная раўніна, высокія пясчаныя ўзгоркі, бедная расліннасць. Уся безабаронная краіна, аддадзеная ва ўладу віхур і спякоты, выклікае ўражанне нейкай паныласці. Направа ад нас цягнецца ўдалечыні ўзбярэжжа Нёмана, налева — пачынаюцца высокія ўзгоркі (на адным з іх — даўні шведскі акоп), якія служаць як бы пераходам да больш урадлівых ваколіц, здольных карміць многія вялікія вёскі і засценкі. Дарога, якая вядзе нас да Міра, адкрывае перад нашымі вачамі стэп, на якім відаць толькі крыжы, дахі далёкіх людскіх хат і дзе-нідзе адзінокія купкі дрэў. Гэта адзіныя дэмаркацыйныя пункты, якія паказваюць дарогу таму, хто яе ведае і без іх; той жа, хто яе не ведае, пэўна, заблудзіцца сярод гэтых пясчаных палёў і ўзгоркаў, на гэтай сетцы дарог і дарожак, што вядуць немаведама куды.

Едзем адкрытымі палямі, прыпякае сонца, над намі бумкаюць авадні з нявінным намерам напіцца крыві падарожнікаў. Ці мала на дарозе жыцця мы сустракаем такіх во сатэлітаў?

* Выраз Кляновіча, які адносіўся да Віслы.

Што азначаюць гэтыя крыжы, якіх так многа сустракаецца па дарозе? На бясплоднай ніве выцягваюць яны плечы да неба — як бы ўзносячы малітву, каб быў пасланы адтуль ратаю лепшы ўраджай. Можа, гэта памятка якога-небудзь даўняга трагічнага выпадку? Але дарэмна пытацца пра гэта ў навакольнага люду: пастаўлены ў нейкай далёкай даўніне крыж паступова гніў, вось-вось меўся ўпасці ці ўпаў, і новае пакаленне аднавіла яго і моліцца перад ім, просячы лепшае долі, а доля яго — тая самая.

Крыж, пясчаны маляўнічы ўзгорак, за ўзгоркам — ізноў крыж і вось ручай, абапал якога зялёная паша, а налева ўцёк ад гасцінца засценак Віскачы, каб схаваць ад вока падарожніка сваю беднасць.

Бо вядома ж, што засценкі, альбо шляхецкія сядзібы, якія былі калісьці характэрнаю прыкметаю шляхецкай польскай Рэчы Паспалітай, якія некалі бурлілі палітычным жыццём сваёй краіны, болей нават шумна, чым сённяшнія клубы на Захадзе, і якія былі гняздом і рассаднікам гэтай дзейнай расы шляхцічаў, што зброяй, пяром, моцнай да кнігі і келіха галавой здзіўляла свет, цяпер, скажам мы, страцілі не толькі грамадскае, але і ўсякае значэнне і ніякай не вытвараюць прадукцыі, нічога не даюць краю, акрамя невялікіх чыншаў, акрамя аканомаў для суседніх маёнткаў, акрамя (як тут) коней на кірмашы, гадаваных шляхтай, вернай рыцарскім звычаям продкаў. Са сціплымі патрэбамі і сродкамі засцянковы шляхціч, абрабляючы сваю шчуплую ніву, не клапоціцца пра асвету, пра лепшы побыт, пра павышэнне прадукцыйнасці сваёй гаспадаркі. Ён яшчэ ганарыцца сваімі прывілеямі і гатоў паўтараць, што «ён роўны ваяводзе», але не здагадваецца, што ў былыя часы ён і праўда быў роўны ваяводзе і ў сіле, і ў розуме, што ваявода лічыўся з ім; не здагадваецца яшчэ засцянковая шляхта, што калісьці была каўчэгам законаў свабоды, якія так клапатліва выпрацоўваліся на сеймах, з'ездах і ў вусных ці пісьмовых палітычных даследаваннях альбо ў крывавых бітвах з ворагамі і братамі, што права яе продкаў не прызнавала ні пана, ні мужыка, ні мешчаніна, а толькі шляхціча, што яно не літавала нават караля — толькі шляхту, толькі шляхта была ўсім і ўсё было для яе. Сумна глядзець на былых нашчадкаў тых магутных, свабодных, авеяных славаю шляхцічаў-рыцараў, сумна бачыць іх цяперашні інтэлектуальны ўзровень і прызнаваць маральны заняпад дробнай шляхты, якая пасля былога ўзвышэння трапіла ў поўную залежнасць ад магнатаў — сваіх братоў паводле канстытуцыі, але ў сапраўднасці сваіх паноў. Як Ісаў з Бібліі, які за міску сачавіцы прадаў хітраму брату права

старшынства, шляхта за кухаль мёду, за паўвалокі зямлі прадавала панам і рыцарскае плячо, і грамадзянскае права голасу, і не адзін раз сваё грамадзянскае сумленне. Спадзеючыся на панскую ласку, прыкутая да ўбогіх засцянковых сядзіб, выцесненая з рысталішча вялікіх грамадзянскіх заслуг і адапхнутая ад стала, калі рэспубліка дзяліла хлеб для заслужаных, шляхта пачала карміцца сеймікавым варывам і, абражаная ў сваёй чалавечай годнасці, дайшла да таго, што ў яе пачало расці пачуццё ганарлівасці за сваё шляхецкае званне, яна стала толькі хваліцца абвешчанай роўнасцю ў шляхецкім саслоўі, якой у сапраўднасці ўжо не было.

Сваю палітычную ролю, а з ёй і маральнасць шляхта пачала страчваць ужо з другой паловы XVII стагоддзя, дык ці ж дзіва, што сёння, калі ў яе аднялі права голасу, якім бог ведае як карысталася, калі перайшла выключна на земляробчую працу, не вельмі ўдзячную як тут, так і ў іншых краях, яна ледзь-ледзь забяспечвае свае самыя сціплыя патрэбы. Добра раскрыў невысокі інтэлектуальны ўзровень засцянковай шляхты ўсімі паважаны і мілы майму сэрцу паэт А. С.[15]

…Ведае шляхта, адкуль яна родам,
Ды раз не дае грошай прадзедаў слава,
Іх цнотам вучыцца якая выгода?!
Глядзіць усё ж шляхта ў мінулага сховы
І знае, што продкі галілі галовы,
Насілі здаўна кунтушы ды чамары…
Што йшчэ? Білі туркаў, татараў.

Але цяпер перажыла век свайго актыўнага жыцця і забыла найбольш важную частку ўласнай гісторыі. Што ж ёй застаецца рабіць? Яшчэ болей драбнець ці адрадзіцца ў новай форме, знайшоўшы карысную працу, выбраўшы адну з многіх патрэбных грамадству прафесій, якія прапануе ўрад кожнаму, хто жадае працаваць? Земляробства, літаратура, гандаль, дзяржаўная служба, — колькі ж тут трэба працаўнікоў, колькі ж працавітым рукам будзе і хлеба, і пашаны, і славы! Сціплыя, невялікія ідылічныя засценкі, якія не даюць колькі патрэбна хлеба і не могуць забяспечыць усіх работай, няхай бы засталіся толькі як гняздо, дзе вырастаюць маладыя пакаленні, і як прытулак для старых пасля працоўнага жыцця, як захавальнікі сямейнай дабрачыннасці. Але маладым трэба ў свет! Абавязкова ў свет! Як было ў часы, калі шляхта жыла актыўным жыццём. Такая

наша братэрская парада шляхце з засценкаў. І я буду маліцца, каб ёй на свеце заўсёды свяціла шчасце.

Няхай даруюць мне чытачы за такое адступленне пра нашу засцянковую шляхту. Едучы па пясчаных і аднастайных раўнінах, чалавек — хоча ён ці не хоча — мусіць пра што-небудзь думаць, а апісваючы падарожжа, і думкі свае павінен паведаць чытачу. Хто-небудзь можа пісаць усю кнігу з саміх уражанняў падарожжа, — чаму ж мы не можам думкам сваім прысвяціць колькі старонак? Ці гэта для нас першыня? Ці адзін раз паэтычныя летуценні, салодкія і горкія, якія нам прыплывалі ў галаву і ў сэрца якраз у гэтых мясцінах, мы перадавалі нашым чытачам? Але пойдзем далей! Мінуўшы цяжкі для пераезду масток пад засценкам Віскачы, «наталіўшы, — як кажа Трэмбіцкі[16], — смагу ў мілым раўчуку», рухаемся па пясчанай раўніне пакручастаю дарогай далей. Мінаючы злева і справа ледзь бачныя здалёку два ці тры засценкі, дзе праводзяць сваё незайздроснае жыццё нашчадкі шляхты, што служыла некалі Радзівілам, падарожнік з прыемнасцю адчуе, як яго галаву акрывае лес гожых хвой, елак і ляшчын, а перад прытупленымі аднастайнасцю вачыма паўстае новая карціна. Неўзабаве з лесу адкрываецца від на зарослую цяністымі вербамі грэблю, направа відаць гожая лугавіна пасярод лесу, налева — возера, а за ім маляўнічы ўзгорак, зарослы ядлоўцам, — там шляхецкая хата, млын на возеры і яшчэ дзве іншыя хаты. Гэта асада Міранка, якая сваёй назвай нагадвае, што мы ўжо недалёка ад Міра.

І праўда, выехаўшы з лесу, мінуўшы колькі глiністых узгоркаў, любуючыся весялейшымі краявідамі, бачым, як выплываюць з туману касцельныя і царкоўныя вежы мястэчка Мір, дах яўрэйскай школы і велічны сваімі руінамі замак Іллінічаў у вянку старых ліп і вязаў прылеглага да яго саду.

## III
## МІР

*Першыя ўражанні па ўездзе. — Мірскі замак. — Адступленне ад прадмета і колькі слоў аб архітэктуры. — Першае гістарычнае ўпамінанне пра Мір у XIV ст. — Перадача Міра Сеньку Гедыгалдовічу. — Татарскія напады. — Іллінічы. — Апошні з Іллінічаў. — Мір у руках Радзівілаў. — Парафіяльны касцёл. — Літаратурная спрэчка мірскага арганіста з панам Марцінам, бернардзінскім фурманам, пра мірскія званы. — Надпіс на плябаніі. — Сённяшні выгляд і становішча мястэчка.*

Вось дамкоў убогіх статак, —
Дзе канец, там і пачатак,
Бо ў мястэчку тым на грудзе
Нават дзвесце хат не будзе.
Пэўна, холадна ў тых хатах,
Бо ад дыму тут падатак.
Два тут кляштары, храм Божы,
Дзве карчмы на раздарожжы,
Як і ўсюды, як звычайна…

*Я. Ясінскі[17]. Спрэчкі*

З боку Жукавага Барка ўязджаеш у Мір, як у вёску: усе больш арыстакратычныя будынкі недзе пахаваліся, перад намі ж — вуліца мяшчанскіх дамоў і хлявоў, што нагадваюць вёску. Толькі карчма пры самым уездзе — гэтая пастка на сялян, што прыязджаюць у горад, і купкі бруднага і лянівага яўрэйства напамінаюць нам, што мы ў мястэчку. Вязнучы ў гразі, якой Мір славіцца сярод іншых тутэйшых гарадоў, потым патрэсваючыся па выкладзеным нячастымі камянямі бруку, які, мусіць, помніць яшчэ паганскія часы — такі мае варварскі выгляд, прыязджаем на рынак, рухаемся міма ранейшай базыльянскай, а цяпер грэчаскай царквы і паміж крам, змураваных у два рады, паглядных знадворку, але пустых усярэдзіне, уцякаючы ад чарады крыклівых жыдоў абодвага полу, якія расхвальваюць свае рэдкія тавары, сунімаемся, нарэшце, перад старасвецкім мураваным касцёлам з мураванай таксама званіцай, толькі ўжо новай, у нейкім няпэўным архітэктурным стылі.

Калі паварочваем улева і едзем па вуліцы, што вядзе на Нясвіж, перад нашымі вачыма ўстае ва ўсёй велічы сваіх руінаў Мірскі замак, да якога ад касцёла будзе з тысячу крокаў.

Спяшаемся паглядзець на прыгожы помнік дойлідства пачатку XVI стагоддзя, узнесены над невялікім ручаём і абведзены валам, лёхам і ровам, рэшткі якіх яшчэ можна дзе-нідзе ўбачыць. Прыгожы гэта быў замак, шкада толькі, што ён не праславіўся якой-небудзь гістарычнай падзеяй. Брама ў форме паловы вала, над брамай і па кутах замка пяць прыгожай архітэктуры вежаў з пашкоджанымі байніцамі, яшчэ мураваныя сцены, — вось і ўсё, што засталося ад велічнага гмаху. Руіны з чырвонай цэглы прыгожа глядзяцца на зялёным фоне даўніх валоў і блізкага саду, а буслы, што звілі на вежах свае гнёзды, вельмі добра аздабляюць тое, што засталося ад замка, — якому, нягледзячы на моцныя яшчэ сцены, ужо ніколі, мабыць, не ўваскрэснуць.

Гэта, як бачым, гатычная пабудова; яшчэ ў ёй праглядваецца нешта феадальнае, часы сярэднявечча, але відаць ужо ўплыў італьянскага густу, які ў XVI стагоддзі адбіўся ў нас на ўсіх творах мастацтва. Бо дойлідства, як і літаратура, добра адлюстроўвае думку кожнага народа і часу. Хачу развіць сваю думку. У грэкаў і рымлян, народаў рэспубліканскіх, якія на «ты» з багамі, святымі, і грамадскія пабудовы вызначаліся вялікімі памерамі, лагоднасцю формаў і велічнаю прастатою. Адбівалася тут не веліч багоў, у гонар якіх узносіліся святыні, а веліч здольнага да ўсяго народа, што прыходзіў сюды маліцца і спраўляць свае абрады. Язычнікі грэкі і рымляне прадугадвалі Бога, але паколькі жылі пры дзяржаўным ладзе, пры якім улада не была сканцэнтравана ў адных руках, то і рысы аднаго Бога — усёмагутнасць, звышдабрата і звышмудрасць — яны раздрабілі на лікі тысячы сваіх бажкоў, што паасобку былі не чым іншым, як людзьмі найвысокай маральнай дасканаласці, рысы якіх у сваёй сукупнасці і складалі Бога (так, як senatus populusque romanus[18] у сукупнасці складаў грамадскую ўладу Рыма), але ніводзін з іх паасобку не дасягаў найвышэйшай улады. Скараючыся зборнай сіле Бога, колішні язычнік адчуваў, што яго бажкі — толькі форма, у якую ён сам па сваім разуменні ўвасобіў некаторыя рысы Бога; таму з гэтымі багамі дазваляў сабе абыходзіцца як хацеў, а ў святынях, пабудаваных у іх гонар, не біў чалом, але адкрыта абмяркоўваў дзяржаўныя праблемы, верачы, што найбольшая заслуга ў вачах багоў — гэта лепшыя грамадзянскія якасці. Святыні грэкаў і рымлян былі пабудовамі народнымі — шырокімі, адкрытымі, галасы ў іх адгукаліся рэхам; у іх адзначаліся мінулыя гады, консульствы, бітвы, у іх можна было ўбачыць творы папулярнага ў народзе разьбярства і атрыманы за бітвы з ворагам сцяг — славу айчыннага мастацтва

і славу зброі. Архітэктура іх святынь сімвалізуе сабой чалавецтва, згуртаванае ў грамадзянскую супольнасць і ўзвышанае да ідэалу боства.

Асаблівасці народнага побыту ў сярэднія вякі, адрозненні ад побыту ранейшых часоў адбіліся на абліччы гатычнай архітэктуры. Божы свет, разарваны на тысячы дробных частак; закуты ў жалеза рыцар адваяваў сабе ўладу над часткай зямлі, назваўся з Божай ласкі ўдзельным панам, але, адчуваючы, што здабытае грубай сілай ён здолее ўтрымаць толькі тады, калі будзе пільны, узброены і хітры, а таму павінен быць строгім і ганарыстым, бо іначай не здолее дабіцца паслухмянасці васалаў. Дом яго — гэта замак на высокай скале, з вежамі, якія служаць для абароны і адначасова сімвалізуюць неабмежаваную моц магната-феадала, гмах як быццам кажа падданым, што няма ўлады іншай, як Бог і гаспадар замка, герб якога на высокай вежы сягае аж у неба. Феадальныя замкі звычайна завостранай формы, аздабленне ламаных кутоў нагадвае думнае і гнеўнае чало; кожная самая нявінная на выгляд аздоба мае абарончую мэту, як кожная ўсмешка хітрага чалавека, што прывык маскіраваць свае тайныя намеры; многа ў гэтых замках лёхаў, хованак, падкопаў, адсекаў для зняволеных і капліц, бо гэтак жа многа страшных тайнаў жыве ў сэрцы вяльможнага феадала. Вузкая брама — хаця б праз яе не ўціснулася помста ці здрада, малыя вокны — бо тут не любяць сонца, бо гэта вякі цямноты; непабеленыя, з каменю альбо цэглы муры — бо ў задачу гэтых замкаў не ўваходзіць прымаць любых сэрцу гасцей, а бараніцца ад назойлівых, пужаць тых, хто можа праціснуцца з ліхімі намерамі.

Гмахі касцёлаў у сярэднія вякі маюць гэтакі ж гатычны характар. Манархі і папы імкнуцца ўмацаваць сваю ўладу і паказаць людзям, што яны — пасланнікі Бога. Бог — гэта не носьбіт міласэрнасці, не сын, які пайшоў на крыж за людзей, не дух, што прыйшоў асвяціць зямлю, як уяўляецца ўсім, а грозны ўладар, які на першы план ставіць справядлівасць, а не літасцівасць, які гатовы ў кожную хвіліну перуном пацвердзіць клятвы Ватыкана. Малітва да яго — гэта не просьба дзіцяці да бацькі, але голас зняволенага да свайго пана. І сапраўды, толькі так магло духавенства гаварыць з тагачасным грамадствам. Дзе матэрыяльная сіла стала над усімі ідэямі, дзе вялікія злачынствы патрабавалі вялікіх пакут, дзе толькі касцёл мог рэфармаваць грамадства; з магутнымі і беспакаранымі нельга было гаварыць інача, як мовай нязломнай сілы і Божай справядлівасці. Вось тайна цёмных, вузкіх, высокіх, закратаваных жалезам касцельных і кляштарных

сярэдневяковых муроў. Выгляд гатычных муроў з іх высокімі вежамі, што сягаюць аж у хмары, як бы хоча сказаць: з нябёс бяруць яго пасланнікі сваю грозную зямную сілу.

Па меры таго як друк і Рэфармацыя хісталі сярэдневяковы парадак, весялеў і стыль будаўніцтва. Муры пачалі закругляць, вокны павялічваць, брамы пашыраць, бо ўжо дабрачыннасць, асвета, гасціннасць, словам, лепшыя чалавечыя якасці замянялі ранейшае «права мацнейшага».

На месцы даўнейшай пакорнай і гарачай веры Рэфармацыя, тэалагічныя спрэчкі і заглыбленне ў Біблію адхілілі частку таямнічай заслоны, якая закрывала ў сярэднявеччы ўсю хрысціянскую рэлігію. Пачалі са свяшатацкай цікавасцю, наколькі гэта было даступна, углядвацца ў аблічча боства, а калі заўважылі, што на гэтым святым абліччы болей спагады, чым гневу і грозьбаў, разняволеныя дзеці зблізіліся з Айцом, а ў велічных, ясных, прыгожых і адкрытых святынях, што былі ўзнесены Богу, хацелі выказаць Яго веліч, звышмудрасць і дабрату, якая гарнула да Яго лона ўсю Адамаву дзятву. Гэта была прысяга не зняволеных, а вольных і разумных істот, якімі бачацца ўжо дзеці новых вякоў.

Такі стыль касцельнага будаўніцтва, які спярша пачаў праяўляцца ў Ватыкане, зрабіўся хутка ўсеагульным, так што нават езуіты, якія кінулі ўсе сілы, каб не дапусціць усяго гэтага і вярнуць назад сярэднявечча, вымушаны былі прыстасавацца да духу часу і сваім касцёлам надаваць рысы добразычлівага, а не грознага боства.

Заняпад гвалтоўнай сілы і рост палітычнага значэння маралі адбіліся ў новым часе і на грамадзянскім будаўніцтве. Паглядзім толькі на нашы замкі XV і XVI стагоддзяў і на пазнейшыя, — як палагаднеў іх гатычны стыль ад новых, менш суровых формаў, як вострыя куты ўступілі месца простым кутам, кругам і авалам, якія, надаючы будынкам хараство правільнасці, выклікаюць пашану, а не страх. Грамадства стала ўваходзіць у больш прыстойныя формы жыцця. Зменшылася сіла, знізіліся вежы і дахі замкаў, расшырыліся вузкія брамы, як верны знак той дыпламатычнай гасціннасці, якую кожны чакаў у гмаху магната. Са зменай умоў вайсковага мастацтва з вузкіх байніц былі зроблены шырэйшыя вокны, якія ўпускалі болей сонечных праменняў, бо арыстакрат баяўся, каб не падумалі, што ў цемнаце снуе змову супроць грамадзянскіх свабод. Завалены таямнічыя лёхі, а ў падземных скляпах, дзе некалі енчылі зняволеныя ахвяры самадурства і суровасці, пачалі хаваць бочкі з венгерскім і мёдам

для прыёму братоў-шляхцічаў, без якіх не мелі сілы магнаты. Атынкаваны і пабелены муры, бо ўсякую дзікасць, якая яшчэ заставалася, трэба было старанна выганяць, а ісці да людзей з прыветлівасцю, са святочнасцю, з распасцёртымі рукамі і з той вясёлай усмешкай, што яднае людскія сэрцы.

Гэтакі выгляд муроў так званай новай эпохі як бы гаворыць: няхай братаецца слабасць з сілай у імя святла.

Ці пабудаваны сёння гмахі нашых багацеяў — з нізкімі дахамі, як іх ганарыстая лагоднасць, з квяцістымі садамі, як іх мова, з узятымі на замок брамамі, як іх сэрцы, з недаступнымі паркамі, як іх эгаізм, ці яны, гэтыя пабудовы, у якіх відаць столькі розных стыляў і эпох, правільна характарызуюць нашы часы? Які наогул характар нашай эпохі і нашага дойлідства? Пра гэта з адлегласці часу скажа нехта іншы. Ну, а мы вернемся да руінаў Мірскага замка.

Адразу можна заўважыць, што гэта пабудова сягае ў далёкую старажытнасць. У руінах няма тых вялізных камянёў, якія, напрыклад, мы бачым у сценах Наваградскага, Лідскага, Медніцкага ці Крэўскага замкаў, дзівячыся з незвычайнай сілы людзей, якія так высока ўзносілі і змацоўвалі вапнай велізарныя валуны, што прымушалі верыць народнаму паданню пра нейкае племя волатаў, якое будавала гэтыя гмахі*, ці, можа, дае прычыну паплакаць над дзікасцю вякоў, калі ваеннапалонны, прыраўняны да быдла, быў прыгнаны на работу, якая патрабавала нечалавечай сілы. Тут жа нічога гэтага няма: муры цагляныя, акуратныя, малюнак пабудовы чысты і поўны вытанчанага хараства, стыль гатычны, але змякчаны акруглымі і прамавугольнымі формамі, — увесь замак прыгожы, з пераходнымі рысамі ад сярэднявечча да новага часу.

Тут можа ўзнікнуць пытанне: з якой мэтай быў пабудаваны гэты прыгожы помнік дойлідства XVI стагоддзя? Быў спакойны час, будаваўся замак у глыбіні спакойнага краю, і цяжка дапусціць, што абарончыя мэты былі тут галоўныя, — тым

---

* Наш просты люд пра многія замкі апавядае, што яны быццам бы пабудаваны волатамі альбо багамі. Прывяду тут паданне, якое чуў я ў ваколіцах Крэва, дзе знаходзіцца старалітоўскі замак, які помніць забойства Кейстута. Люд сцвярджае, што гэты замак муравалі адначасова з Медніцкім, за сем міляў адсюль. А племя, якое будавала яго, было такое дужае, што майстры абодвух замкаў, пазычаючы адны ў адных мулярскі молат, перакідалі яго з Меднікаў да Крэва і наадварот.

больш што сама раўнінная мясцовасць для абароны не вельмі прыдатная.

З другога боку, Юрый Ілініч, што загадаў мураваць гэтыя сцены, быў не надта багаты магнат, і гэтакі магутны гмах не адпавядаў яго фартуне і значэнню. Дзеля чаго ж тады будаваў? Ды проста ганарыстаму Іллінічу ці яго апекуну Мікалаю Радзівілу Чорнаму хацелася, каб Ілініч займеў тытул валадара замка Святой Рымскай імперыі і пісаўся граф мірскі, а такі тытул прысвойвалі нямецкія імператары толькі ўладальнікам замкаў. […] Такім чынам арыстакратычная пыхлівасць была краевугольным каменем гэтай пабудовы.

Але вернемся ў даўніну, зазірнём у першыя часы існавання Міра.

Сама назва мясцовасці гаворыць пра нейкі мір ці саюз, можа, паміж Літвой і Руссю, бо, як ужо згадвалася, недалёка адсюль была мяжа, што падзяляла два племені. Але калі, хто і з кім завязаў тут саюз? Хто заснаваў мястэчка ці асаду? Змрок стагоддзяў схаваў усе гэтыя падрабязнасці.

Першае ўпамінанне пра Мір мы сустракаем у рэляцыі пра інтрыгі крыжакоў у XIV стагоддзі, калі гэтыя ўзброеныя законнікі, пасварыўшы паміж сабой дзяцей Альгерда і Кейстута[19], мелі надзею скарыстаць заняпад Літвы для свайго палітычнага ўзвышэння.

У 1395 годзе крыжакі, якія падтрымлівалі Свідрыгайлу ў барацьбе з Вітаўтам, уварваліся на чале з вялікім магістрам Конрадам Юнгінгенам у Літву і за пятнаццаць дзён спустошылі наднёманскія ваколіцы, спалілі Драгічын, Наваградак, Мір і Ліду* і працягвалі свой рэйд далей, пакуль вясновае разводдзе, якое іх заспела пад Салаечнікамі, не прымусіла павярнуць назад.

Праз трыццаць дзевяць гадоў, у 1434 годзе, знаходзім яшчэ адну згадку пра Мір. На велікакняскім літоўскім троне, сагнаўшы з яго Свідрыгайлу, гады два сядзеў Жыгімонт Кейстутавіч[20]. Перад гэтым паміж абодвума князямі вяліся варварскія бітвы, з прыцягненнем крыжакоў. Рыхтуючыся да рашучага ўдару па Свідрыгайле, Жыгімонт адчуў патрэбу ў аб'яднанні моцных і верных сабе прыхільнікаў, для чаго пачаў раздаваць славутым літвінам землі і замкі — як тыя, што належалі ўсяму краю, так і тыя, што былі ў аладыяльным валоданні вялікіх князёў. У ліку адораных князем быў Сенька Гедыгалдовіч, якому дастаўся Мір

* Глядзі «Гісторыю» М. Балінскага[21]. Вільня. Т. 1. С. 154. Цыт. Ліндэнблат.

з усімі землямі. Прыводзім тут дароўную паперу, якая да гэтага часу захавалася на лацінскай мове ў Нясвіжскім архіве: «In nomine Domini, amen. Cum humana opera in se sunt labilia et a memoria hominum quae labilis est et caduca facilime evanescant; necesse est, ut literarum apicibus et fidelium testimonium perhenentur. Proinde nos Sigismundus, Dei gratia Magnus Dux Lithvaniae, Russiae etc. Ad cunctorum perhennent deducimus memoriam praesentium per tenorem quomodo pensatis et diligenter consideratis fidelibus servitiis quibus generosus Szyenko Gyedigołdowicz fidelis nobis sincere dilectus, Nostrae Serenitati fidelis extitit multimodo commendatus et in futurum aucto suae fidelitatis studio, per ejusdem ferventius et diligentius exhibendum, volentesque harum fidelium servitiorum et obsequiorum constantia hactenus continuata, condigno non fraudetur praemio, sed potius merito caeteris redeat in exemplum, praefato Syenko suisque heredibus ac legitimis successoribus hac infra scriptam Curiam, videlicet Mir cum omnibus ad ipsam a diu spectantibus. Item homines ut pate Demid cum suis germanis et filiis qui exivit de sua terra, per granicias in terram praedicta curiae dedimus, donavimus, contulimus, assignavimus, praesentibus que damus, donamus, conferimus, inscribimus et in perpetuum largimur, cum omnibus utilitibus, censibus redditibus introitibus et obventionibus ad praedictam Curiam, singullatim spectantibus Agris Silvis, Nemoribus, Campis Quercetis, Rubetis, Meruis, Gaiis, Borris, Pinetis, Melificiis et meliiss, tributariis equorum pabulatoribus, pratis, pascuis, collibus, vallibus, lacis vet lacubus, aquis, fluviis, fluminibus, stagnis, paludibus, piscinis, piscatoriis, Ripis, rivis… et eorum emolumentis et breviter cum omnibus et singulis usibus et proventibus quibuscunque nominibus generalibus, specialibus nominatur, vel valeant nominari longe late ac circumferentialiter ut ab antiquo in ipsius singulis metis… bus et limittibus sunt, fuerant distincta et limittatae, cum omni jure et dominio prout antecessores Nostri ac ejus Szyenkonii pertenuit habuit et possedit, nihil penitus Juris aut Dominii nobis et nostris successoribus in eisdem reservantes, duntaxat servitia quae Nobis et Nostris successoribus, ab antiquo est restrictus, habendum tenendum et perpetuis temporibus possidendum, vendendum, commutandum, dandum, aligenandum, condonandum, et in usos suos beneplacitos, prout sibi suisque liberis legitimis, ac suae legitimae posterioritati et successoribus melius commodius et consultius expedire videbitur, convertendum. In cujus rei testimonium et robur firmitatis optinuere Sigillo Nostrae Majestatis suppendenti, praesentia in simul communiri. Actum et datum in Castro Nostro Troky majori, feria sexta infra octavas Corporis Christi, anno

Domini millesimo quadragentesimo traecesimo quarto, Praesentibus Magnificis et Strenuis: Osticone Castellano Vilnensi, Petro alias Leluszch Palatino Trocensi, Petro Mongierdowicz terrae Lithvaniae Marschałco, Andrea Nyemirowicz, Nobili Nicolao Nostri Secretario, qui praesentiam habuit in Comissis, alisque quam pluribus testibus, fide dignis» — «У імя Бога амін. Паколькі людскія дзеі хутка мінаюцца і іх не можа ўтрымаць нядоўгая чалавечая памяць, то іх трэба абавязкова замацаваць у пісьме. Пагэтаму мы, Жыгімонт, з Божай ласкі вялікі князь літоўскі, рускі і г. д., пісьмом гэтым даводзім да ведама ўсіх, што, добра ўзважыўшы многія заслугі вернага нам і мілага Сенькі Гедыгалдовіча і жадаючы, каб у будучым ён яшчэ лепей нёс сваю верную службу — не так дзеля ўзнагароды, як для прыкладу іншым, — названаму Сеньку, а таксама яго дзецям і нашчадкам маёнтак Мір, з усім тым, што даўно яму належыць, разам з людзьмі, з Дзямідам і яго роднымі сынамі, тым Дзямідам, які праз мяжу перайшоў сюды са сваёй зямлі, мы аддалі, даравалі, запісалі і цяпер аддаём, даруем, замацоўваем, запісваем на будучае гэты маёнтак з усімі яго выгодамі, чыншамі, прыбыткамі, з палямі, лясамі, палянкамі, дубнякамі, зараснікамі, з гаямі, сасновымі барамі, з борцямі і пчалінымі пасекамі, з платнымі выпасамі для коней, з лугамі, пашамі, узгоркамі, далінамі, азёрамі, ставамі, рэкамі, затокамі, плытамі, сажалкамі, з правам лавіць рыбу на берагах, ручаямі… з дабротамі — з усімі паасобнымі і валавымі здабыткамі і даходамі ўсялякага роду як цяперашніх назваў, так і тых, якія ім будуць давацца ў будучым, уздоўж, ушыр і навокал у даўнейшых межах… і межах папярэднікаў нашых і яго, Сенькі; якія ён сам меў, дадаючы нашы правы на ўладанні да правоў нашых нашчадкаў, не адносячы сюды толькі службу, якая здаўна нам абавязана падначальвацца. Правамоцны ён гэтыя памесці трымаць і на вечныя часы валодаць імі, можа прадаць іх, абмяняць, перадаць, аддаць у заклад, падараваць, менавіта рабіць з імі так, як яму і яго паўнапраўнаму патомству ці паўнапраўным далейшым наступнікам захочацца. Для пасведчання і трывалай моцы надання мы зацвярджаем пячаткай Нашай Вялікасці. Адбылося гэтае наданне ў нашым замку ў Троках большых у суботу, на восьмы дзень пасля свята Цела Божага, года тысяча чатырыста трыццаць чацвёртага ў прысутнасці радавітых і паважаных віленскага кашталяна Остыка, Пятра альбо Лелюша, ваяводы трокскага, маршалка зямлі літоўскай Пятра Мангердовіча, Андрэя Неміровіча, нашага сакратара шляхетнага Мікалая, які прысутнічаў на камісіі, і многіх іншых сапраўдных сведкаў».

Ці крыжакі дашчэнту спалілі і знішчылі даўнейшы Мір, ці быў ён тады яшчэ невялічкай асадай, але мы бачым, што гэты гучны прывілей, які даваў шырокае права на валоданне ўсім, што ўжо і перад тым належала Гедыгалдовічам, — відаць, ён даваў толькі права на карчаванне лясоў і засяленне людзьмі гэтых зямель, але не даваў гатовых тады ўладанняў. Мы чытаем тут згадку толькі пра маёнтак (curia), але не ўпамінаецца яшчэ там замак, ані словам не згадваецца горад, не называюцца ніякія ўгоддзі, а ўсё сялянскае насельніцтва складаецца толькі з нейкага Дзяміда і яго сям'і, Дзяміда, які Бог ведае адкуль заблудзіў сюды і які, нібы той Ной, памалу выгадаваў цэлае племя падданых. Праз сямнаццаць гадоў гаспадарання Сямён Гедыгалдовіч, які стаў ужо віленскім кашталянам і намеснікам Казіміра Ягелончыка[22] ў Смаленску, запісаў Мір у тым жа амаль складзе, што ў час яго набыцця, сваёй прыёмнай дачцэ Ганне Бутрымаўне, якая, паміраючы яшчэ ў дзявоцтве ў доме Забжазінскіх у Камені (міль за 8 ад Міра), перапісала свой набытак у пажыццёвае валоданне роднай цётцы — жонцы Сенькі — Мілохне Гедыгалдовічавай (1476), пасля ж яе смерці ўладанні былі перададзены сваяку — Юрыю Іллінічу. Так у 1490 годзе ўладальнікамі Міра сталі Іллінічы. Юрый Ілініч пачаў клапаціцца пра ўпарадкаванне і ўдасканаленне сваіх уладанняў, скупліваць прылеглыя вотчыны, а можа, і заснаваў горад, бо якраз тады тутэйшыя ваколіцы сталі здабычай татарскіх нажоў і агню.

Гісторыкі хоць і не называюць спустошаных татарамі ў 1505 годзе мясцін, але з іх прац выразна відаць, што яны маюць на ўвазе якраз тутэйшыя ваколіцы. Першы раз татары прайшлі тут, калі кіраваліся на Наваградак, які абараняў ад іх са зброяй у руках наваградскі ваявода Альбрэхт Гаштольд. На другі год, ідучы па сваіх леташніх слядах, яны рушылі далей за Наваградак — аж за Нёман, пад Ліду. А ці ж невядома, што азначалі татарскія пераходы па безабаронных ваколіцах? Прывядзём рэляцыю з Кромера пра другі іх напад на Літву: «Кароль (Аляксандр[23]) дагараў у руках аднаго эмпірычнага лекара, а хутчэй ашуканца, які, будучы палякам, выдаваў сябе за грэка, — ён, прызначыўшы каралю лазню, паценне, яшчэ больш гэтым яго аслабіў. Літоўскія ж паны, усчаўшы бясконцыя сваркі ў час цяжкай хваробы караля, клапаціліся толькі пра сябе, не думаючы пра Рэч Паспалітую. Татары ж, падбадзёраныя сваім першым паспяховым паходам, калі яны прыцягнулі дамоў шмат рабункаў, пасля кароткага адпачынку, падмацаваўшы свае сілы, у жніўні ізноў напалі на Літву. Размясціліся пад Клецкім замкам, недалёка

ад вытокаў Нёмана, пакінулі там двух салтанаў (так называюць сыноў іх уладароў) з дзесяцітысячным войскам, разбегліся ў колькасці дваццаці тысяч чалавек спустошаць ваколіцы. Перад гэтым цяжкахворы кароль разам з жонкай і ўсім сваім рыштункам выехаў з Вільні ў Ліду, да замка, які знаходзіцца за 12 міль ад Вільні… Калі ён ужо быў у Лідзе, прыскакаў да яго ганец і паведаміў, што татарскія войскі адсюль на адлегласці толькі аднаго дзённага пераходу*. Гэтай вестцы не вельмі паверылі. Міхал Глінскі[24], які быў пры каралі, паслаў туды верны яму атрад адважных сербаў, што быў пад рукой, упэўнены, што яны разаб'юць ворага. Хутка атрад напаў на татарскую арду, але дзевяць з іх палегла ў бітве, астатнія былі рассеяны. Нанізаныя на коп'і галовы забітых татары прынеслі свайму военачальніку. Прыбліжаныя вырашылі адправіць караля, непакоячыся пра яго бяспеку, хворага і здарожанага манарха, на крытых насілках назад у Вільню. А Міхал Глінскі, які ведаў звычкі татар, з гетманам Станіславам Кішкам і літоўскай шляхтай, што, дачуўшыся пра набліжэнне арды, збеглася да караля, гатовая ісці з ім на ворага, выправіліся пад Клецк, каб ударыць па галоўным стане ворага раней, чым збяруцца асобныя групы, якія спустошалі ваколіцы…»**

Глінскі, як вядома, разбіў пад Клецкам татар і весткай пра гэтую перамогу асвятліў апошнія хвілі караля Аляксандра, які паміраў у Вільні. Але вернемся да Міра. Мы бачым, што ён стаяў на дарозе татарскіх набегаў, паміж Клецкам і Лідай, за сем міль ад галоўнага зборышча татар. Ахвярамі іх спустошэнняў, пра якія пішуць гісторыкі, былі якраз ваколіцы Нясвіжа, Міра, Карэлічаў, пунктаў занадта малазначных, каб іх называць па імені.

Татарскія спустошэнні, сваркі Забжазінскіх, Ільлінічаў, Кішкаў, Глябовічаў і іншых літоўскіх магнатаў з гордым і магутным Міхалам Глінскім прывялі да таго, што Забжазінскі быў пазбаўлены ваяводскай пасады, а Крыштоф Ільлініч трапіў у турму, і яшчэ жахлівы лёс Яна Забжазінскага, на якога Глінскі ўчыніў напад, замардаваў ва ўласным доме, — усё гэта, відаць, і натхніла Юрыя Ільлініча пабудаваць у Міры крэпасць. Ці так гэта

---

* Гэта якраз у ваколіцах Міра, які ляжыць паміж Лідай і Клецкам міль за 14 ад Ліды.

** Cromeri M. De orig. et rebus gestis Polonorum. Colon. Agripinae, 1589. Liber XXX. P. 456. — Не маючы пад рукой перакладу Блажоўскага, прапаную свой пераклад.

было ў сапраўднасці, ці падмурак замка пачаў закладваць Юрый, ці сын яго — Шчасны Іллініч, ці ўнук Юрый — невядома, бо ў тагачасных дакументак мы не знаходзім згадак пра Мірскі замак.

Юрый Іллініч (дзед) памёр каля 1520 года маршалкам літоўскім і старастам брэсцкім. Ён значна пашырыў пры жыцці свае ўладанні ў ваколіцах Міра, узяў спадчыну жонкі — Белую і Чарнаўчыцы, увесь гэты багаты набытак пакінуў сваім чатыром сынам. Шчасны, перажыўшы братоў, стаў уладальнікам амаль усёй бацькаўшчыны, у тым ліку і Міра*.

Пра гэтага Шчаснага Іллініча вядома толькі тое, што ён, гэтак жа, як і бацька, быў брэсцкім старастам і ажаніўся з Соф'яй Радзівіл, дачкой Яна Барадача, трокскага кашталяна, ад якой меў сына Юрыя. Памёр Шчасны Іллініч у 1540 годзе, а неўзабаве, у 1541 годзе, памерла і яго жонка, пакінуўшы адзінага сына — Юрыя Іллініча, якога ўзялі пад сваю апеку яго багатыя сваякі — Радзівілы.

Апекуном юнага Юрыя стаў яго дзядзька Мікалай Радзівіл Чорны, віленскі ваявода і літоўскі канцлер, вядомы сваім багаццем, розумам і магутнасцю, а яшчэ сваяцтвам і прыязнымі сувязямі з Жыгімонтам-Аўгустам і, нарэшце, клопатам пра пашырэнне пратэстанцтва ў Літве. Юрый Іллініч выхоўваўся, відаць, у Нясвіжы разам з малымі дзецьмі Альбрэхта, Станіслава,

---

* Ю. І. Крашэўскі[25] ў «Карцінах жыцця і падарожжа» і М. Балінскі ў «Старажытнай Польшчы» не прыйшлі да адзінай думкі наконт таго, ці ўваходзілі ва ўладанні Радзівілаў землі Белай на Падляшшы. Першы сцвярджае, што яны былі набыткам Кішкаў, другі — што Іллінічаў. Іх довады, якія апіраюцца на пазнейшыя акты, хоць і дакладныя, але ўсё ж супярэчлівыя. Каб убачыць ісціну, трэба вярнуцца на некалькі дзясяткаў гадоў назад і не блытаць двух Юрыяў Іллінічаў — дзеда з унукам. Карыстаючыся даўнімі дакументамі, мы можам высветліць, як усё было ў сапраўднасці. Юрый Іванавіч Іллініч ад сваёй жонкі (родавае імя якой невядома) атрымаў уладанні Белую і Чарнаўчыцы, якія пасля яго смерці былі падзелены паміж двума сынамі — Станіславам і Шчасным і дзвюма дочкамі — Ядвігай, што была замужам за Абрамовічам, і Ганнай — жонкай Пятра Кішкі. Потым Ян Іллініч памёр, а Ядвіга Абрамовічава перапрадала сваю вотчыну сястры, Бельшчына ж была падзелена на дзве часткі, адна дасталася Шчаснаму Іллінічу, а другая — Ганне Кішкавай. Сын Шчаснага, бяздзетны Юрый, усынавіўшы князя Мікалая Крыштофа Радзівіла, зрабіў яго ўладальнікам сваёй вотчыны, уладанні ж Кішкаў яшчэ раней Мікалай Кішка і яго жонка з дому Хадкевічаў перапрадалі ў 1549 г. Мікалаю Чорнаму. Адна палова Белай і Чарнаўчыц з прылеглымі землямі перайшла да Радзівілаў ад Іллінічаў, а другая — ад Кішкаў.

Юрыя і Мікалая Крыштофа яшчэ на прынцыпах каталіцкага касцёла, бо Мікалай Чорны каля 1550 года прыняў гельвецкае[26] веравызнанне і схіляў да яго ўсю сваю сям'ю і дамашніх. Ёсць звесткі з 1542 года, што Мікалай Чорны выконваў згодна з законам абавязкі апекуна над малалетнім Іллінічам. Гэта быў магутны апякун: асабістая слава і знатнасць роду, багацце, арыстакратычная гордасць і дыпламатычныя здольнасці рабілі Мікалая Чорнага адной з найславутых постацяў сваёй эпохі. Значэнне яго ўзрасло з наданнем яму першых у Літве міністэрскіх пасадаў і асабліва пасля таго, калі былі выяўлены сваяцтва і прыязныя адносіны з домам манарха: Жыгімонт-Аўгуст, сын Жыгімонта І, пасля смерці сваёй першай жонкі ў верасні 1547 года ажаніўся з Барбарай Радзівіл Гаштольдавай, дваюраднай сястрой Мікалая Радзівіла. Яшчэ калі гэты шлюбны саюз захоўваўся ў тайне, ужо быў адчувальны ўплыў Радзівіла на справы двара і дзяржавы. Праз месяцы два радзівілаўскі дом заззяў новымі найцудоўнейшымі ўпрыгожаннямі, — гаспадары імкнуліся не адстаць у гэтым ад двара, з якім былі звязаны. А нагода была такая. Імператар Карл V пацвердзіў пасланніку Жыгімонта-Аўгуста раней прысуджанае Радзівілам княскае званне, пашыраючы яго на ўладальнікаў вотчын дзвюх ліній Радзівілаў — ад Ганёндза і Мэдэлі да Алыкі, Нясвіжа, Бірж і Дубінак. Паважанаму ў імператарскім двары Мікалаю Чорнаму лёгка было знайсці свайму выхаванцу Юрыю Іллінічу выдатную пасаду на аўстрыйскай службе. Бо нашы магнаты рэдка калі праходзілі сваё выхаванне і сваю рыцарскую вывучку на радзіме; ім хацелася перад усімі выхваляцца сваёй еўрапейскай адукацыяй, гучным тытулам, які да таго ж быў забаронены айчынным правам. Ды і чаму ж было не пазнаваць змоладу свет, калі дазвалялі сродкі? Чаму ж было не набываць уласнай працай замежныя званні, калі айчынныя даставаліся і так, без працы? Калі сын прывілеяванага роду мог заўсёды быць упэўнены, што яму забяспечана і месца ў сенаце, і староства для падтрымання яго годнасці і гонару сярод шляхты? Малады Юрый Ілініч, дзякуючы апецы Радзівіла і ўласным рыцарскім якасцям, выдатна праявіў сябе ў аўстрыйскім войску і атрымаў прыхільнасць Фердынанда II, рымскага караля, які за заслугі надаў яму 10 ліпеня 1555 года тытул графа Рымскай дзяржавы ў Міры, — гэта ж яго каралеўска-апостальскай мосці нічога не каштавала. Тытул згодна з польскім securityанадаўствам, асновай якога была шляхецкая роўнасць, не даваў ніякіх дадатковых правоў, але надаваў магнату яшчэ большай велічы і важнасці.

У дакуменце пра наданне гэтага тытула першы раз сустракаем мы згадку пра Мірскі замак: «Ipsius Arcem Mijr cum tota juris dictione omnibusque illius pertinentiis in comitatum ereximus, nec non ipsum Georgium Illinicz ipsius liberos haeredes et saccessores legitimos ex lumbis suis legitimo thoro procraeatos ac natos et nascinaturos tam masculos quam foemineas deinceps perpetuis futuris temporibus ad dictum comitatum Arcis Mijr in comites creavimus et nominavimus» — «Яго замак Мір і адміністрацыйную акругу з усёй маёмасцю мы ўзвышаем на ступень графства, гэтае званне надаём самому Юрыю Іллінічу, яго дзецям, спадчыннікам і законным наступнікам і іх дзецям абодвух полаў, якія ёсць і якія народзяцца, ад сённяшняга дня і ва ўсе будучыя часы называючы іх ад графства замка Мір графамі»*.

Але не суджана было Іллінічу перадаць сваім нашчадкам уладанні, падвышаныя велічным званнем графства. Чалавек у самым росквіце сіл, па-мужчынску прыгожы і моцны, якім мы бачым яго на захаваным партрэце ў Нясвіжскім замку, адчуваў, аднак, што яму нядоўга засталося гасціць на зямлі. Невядома, ці слабое здароўе, ці нейкая таямніца ў жыцці былі прычынай таго, што, не беручы ні з кім шлюбу, заўчасна пачаў думаць аб смерці і перадачы сваёй маёмасці ў чужыя дастойныя рукі, бо ні нашчадкаў, ні блізкіх сваякоў у яго не было. Урэшце ў падзяку за апеку, якую ўзяў над ім Мікалай Радзівіл Чорны, Ілініч запісаў свае ўладанні ў спадчыну яго сыну Мікалаю Крыштофу Радзівілу, празванаму ў народзе Сіроткам, — юнаку хваравітаму, з рознымі заскокамі маладосці, якія яшчэ больш падрывалі яго здароўе. Калі Ілініч усынавіў Мікалая Крыштофа (1568), яму было гадоў дзевятнаццаць і ён быў ужо маршалкам літоўскім, а праз тры гады пасля смерці бацькі стаў на чале свайго сямейства як галава магутнага княскага роду Радзівілаў. Мікалай Крыштоф праславіўся як пілігрым у Іерусалім, як багаты, міласэрны і набожны пан, мудры міністр каралеўскай рады, пачынальнік нясвіжскага маярату, беражлівы гаспадар дому, заснавальнік многіх замкаў і касцёлаў у сваіх уладаннях, нарэшце, як роданачальнік шматлікіх радзівілаўскіх пакаленняў, што праславіліся ў айчыннай гісторыі. Але калі яго ўсынавіў Ілініч, быў гэта, як ужо згадвалася, хваравіты юнак, да таго ж гуляка, ад якога мала чаго можна было чакаць у будучым, таму намнога большай пашаны заслугоўвае славуты сваімі дзеямі Ілініч, чым яго прыёмны сын. З вялікай цікавасцю сочым мы

* Арыгінал гэтага дакумента знаходзіцца ў Нясвіжскім архіве.

за гэтай постаццю, за чалавекам, які ў самым росквіце сіл з халоднай крывёю рыхтуецца да смерці, як шчодра ўзнагароджвае слуг, раздорваючы ім набыткі небагатай спадчыны*, як робіць нашчадкам рэшты ўладанняў сына свайго апекуна, намнога багацейшага за сябе, і хутка памірае, распыліўшы такім чынам усю сваю зямную маёмасць.

Неўзабаве пасля смерці Ілініча, а памёр ён у Брэсце ў 1569 годзе, Мікалай Крыштоф Радзівіл афіцыйна быў запісаны дзедзічам памесцяў Мір і Белая. Перадаваў гэтыя памесці навагрaдскі возны Грыгорый Тарасовіч, а прымаў ад імя Мікалая Крыштофа стары радзівілаўскі слуга і стары арыянін [Мацей] Кавячынскі, вядомая ў гісторыі Рэфармацыі ў Польшчы постаць як мецэнат Сымона Буднага, выдаўца славутай Нясвіжскай Бібліі, паслядоўніка гельвецкага веравызнання пры жыцці Мікалая Чорнага, але потым гарачага прыхільніка і распаўсюджвальніка ў Літве навукі Соцына. Ці доўга жыў яшчэ Кавячынскі, ці быў распарадчыкам радзівілаўскіх уладанняў і тады, калі малады яго пан вярнуўся ў лона каталіцкага касцёла, невядома.

З таго часу Мір увайшоў у склад уладанняў Радзівілаў нясвіжскай лініі. Калі апісвалі маярат, які Мікалай Крыштоф Радзівіл з братамі далучыў да сваіх уладанняў, Мір быў у ліку маёнткаў, што кіраваліся статутамі гэтага маярату, які ў 1589 годзе зацвердзіў сейм. На працягу вякоў Мір з замкам і графствам належаў наступным нясвіжскім ардынатарам:

у 1549–1616 гг. — Мікалаю Крыштофу Радзівілу;

у 1616–1654 гг. — Аляксандру Людвіку, прыдворнаму маршалку;

у 1654–1680 гг. — Міхалу Казіміру, падканцлеру літоўскаму;

у 1680–1720 гг. — Каралю Станіславу, канцлеру літоўскаму;

у 1720–1762 гг. — Міхалу Казіміру, віленскаму ваяводу і гетману літоўскаму;

у 1762–1790 гг. — Каралю Станіславу, віленскаму ваяводу, які быў шырока вядомы пад імем Пане Каханку;

---

* Усе распараджэнні Ілініча наконт надзялення маёмасцю слуг былі зроблены за год да яго смерці, г. зн. у 1568 г. Ён падараваў Цімафею Крышталоўскаму вёску Уніхава, Ярмолу Авядоўскаму — сем валок зямлі (надзел называўся Трэмбачоўскі, а пазней там узнікла вёска Агароднікі), Яну Абрамовічу — пяць валок зямлі і г. д. Спадчына Мікалая Крыштофа, якая дасталася ад Ілініча, у Міры і Белай не такая была і выдатная. Але апрача Ілінічавых уладанняў Радзівілы атрымалі яшчэ тытул мірскіх графаў.

у 1790–1813 гг. — Дамініку, камергеру двара рускага імператара.

Пасля Мір належаў дачцэ Дамініка князёўне Стэфаніі, а сёння ў выніку сямейных пагадненняў па лініі нясвіжскіх уладальнікаў маярату — мужу Стэфаніі, князю Людвіку Вітгенштэйну Берлебургу.

Вось уся гісторыя Міра. Хоць ён і вельмі блізка ад галоўнай рэзідэнцыі гаспадароў уладанняў, але яны ніколі тут не жылі. Замак, што яшчэ ў 1792 годзе, як нам вядома, быў жылы, не маючы сродкаў абароны, не мог аказаць супраціўлення ані шведам у 1655 годзе, якіх прывёў сюды сваяк тагачаснага ўладальніка Міхала Казіміра здрадны сын Багуслаў Радзівіл, літоўскі канюшы, ані расіянам у час паўстання Касцюшкі. Праўда, ён быў сведкам перамог, але ніякай яго заслугі ў гэтым не было.

І ўсё ж такі шкада, што з гэтымі руінамі не звязана ніводнага гістарычнага ўспаміну, шкода, што яго імя не праславілі які-небудзь рыцар або якая-небудзь выдатная з’ява ці славутая бітва. Малы, але жвавы ручай, што непрыкметна віецца за рэшткамі вала, паведаў бы нам пра тыя цікавыя дзеі, а бард ці натхнёны паданнем вандроўнік уночы падслухалі б яго сказ і расказалі б пра ўсё ў песнях:

Убачыў бы ў гэтых руінах
Чыесьці і цені, і лікі,
Пачуў бы там рыцараў клікі
Пад поўнач у крыках савіных.

Папраўдзе ж, задумнаму воку
Не бачацца ў замку тым здані.
Абдзёртая вежа здалёку
Самотна і холадна гляне.

Аб ёй не раскажуць старыя,
Мінуўшчыны след час развеяў.
Мо хіба што сэрцам здалее
Дамроіць хто дзеі былыя…

Пакінем старыя разваліны і пойдзем паглядзець касцёл няпэўнага архітэктурнага стылю і мураваную трохпавярховую плябанію, якая калі не прыгажосцю, то ва ўсякім разе даўнасцю сваёй пабудовы заслугоўвае ўвагі.

Гэты прасторны касцёл, што доўгі час быў занядбаны, але цяпер у лепшым стане, быў пабудаваны на сродкі Мікалая

Крыштофа Радзівіла. Ён у 1594 годзе заклаў першы камень у падмурак касцёла, а праз гадоў дзесяць, у 1604 годзе, калі касцельныя муры былі гатовыя, выдзеліў багатыя сродкі і для плябаніі. У 1605 годзе тагачасны адміністратар віленскага сабора, а пазней яго біскуп, асвяціў ужо закончаную святыню. У ёй, наколькі вядома, нават і не веяла старажытнасцю, а рамонт інтэр'ера зусім сцёр некалькі характэрных адзнак мінуўшчыны. Усе карціны — новыя ці падноўленыя; ранейшых шкадаваць не трэба, бо яны былі вельмі кепскія, за выключэннем карціны бакавога алтара св. Яна Непамуцэна, сапраўды выдатнай, амаль не кранутай пазней пэндзлем. Да прадметаў, якія напамінаюць пра даўнейшы густ, трэба аднесці: статую Хрыста ў вялікім алтары, абраз найсвятой Панны Марыі з пазалочаным металічным месяцам, срэбныя шаты на абразах гэтай жа Багародзіцы, святога Яна Непамуцэна і святога Антонія, а таксама калоны алтароў, драўляныя рамы з перавітым разьбяным лісцем і гэтакага ж стылю купель. Невядома, ці добра асвяжылі гэтыя старыя помнікі разьбы, пафарбаваўшы іх у белы і блакітны колер. Мы хоць і любім усё старажытнае, запыленае, аддаючы перавагу нейкай звычайнай фарбе каменя, але павінны ўхваліць старанні сённяшняга плябана, дзякуючы якому інтэр'ер касцёла ў Міры стаў прывабным, чыстым, гэтым яшчэ больш настройвае душу на малітву. Да характэрных упрыгожанняў мірскага касцёла, якія мне давялося бачыць на працягу многіх гадоў, адносіліся вывешаныя каля алтара святога Антонія прынашэнні, пералітыя цяпер на алтарныя крыжы, — гэта былі ў вялікай колькасці малыя сярэбраныя конікі. У Міры, мястэчку, дзе на год бывае шэсць конскіх кірмашоў, дзе амаль уся навакольная шляхта жыве на звязаных з імі спекуляцыях, дзе некалі была цыганская сталіца, а сёння ў час кірмашоў сапраўднае зборышча прыбылых здалёку жыдоў, — можа, ні адзін шляхціч, п'ючы дзе-небудзь у карчме разам з панам-сябрам* барыш**, нават не здагадваецца, што спрытны злодзей ужо недзе далёка скача на ягоным каняку, які быў, здаецца, незаўважна пастаўлены на двары. Дазнаўшыся пра страту, ён ішоў маліцца да святога Антонія, патрона згубленых рэчаў, а потым, знайшоўшы страчанае, са слязамі на вачах падвешваў каля ног таго патрона срэбнае simulacrum[27]

---

* Сябар (ням. kundman) — у тутэйшай мове чалавек, з якім ідзе гандаль.

** Барыш — замочка торгу, у іншых месцах гэтую неабходную кірмашовую цырымонію называюць «магарыч» ці «літкуп».

свайго гнядога ці каштанкі. А якія добрыя думкі выклікае від гэтых прынашэнняў! Што тут слёз, што тут скаргаў! Бо гэтая ж каштанка — можа, уся маёмасць, прадмет усіх турбот, мрояў і надзей беднага засцянковага шляхціча. Якія тут сямейныя сцэны, колькі ўрачыстых клятваў віноўніка, што болей на гарэлку ён і не гляне, а колькі радасці, калі неяк зусім неспадзявана знойдзецца страчанае, радасці чыстай і прававерная, бо тут уцеха пасля роспачы прыпісвалася толькі Богу і святому патрону, сіле веры і пакорлівай малітвы.

Званіца, якая служыць адначасова брамай да касцёла, была змуравана ў першыя гады гэтага стагоддзя ў вольным гатычным стылі. У яе невялікай вежы месціцца галоўны звон, названы Каролем, а ў аркадах тры іншыя, хоць і меншыя, але з гарманічным гукам званы.

Хто ж не ведае «Мемуараў манаха», якія займаюць цэнтральнае месца ў выданых «Літоўскіх карцінах» Ігната Ходзькі?[28] Хто не запомніў у іх рэляцыі бернардзінскага фурмана Марціна пра мірскія званы, рэляцыі, якая дала Антонію Залескаму штуршок да стварэння прыгожай замалёўкі ў «Віленскім альбоме» пра тое, як пачцівы манах…

…быў якраз пад Мірам,
Ступаў дарогай бітаю, са жвірам,
Яго гняды, а побач на кабылцы сівай
Патрэсваўся Марцін і пугай жыва
Паказваў на мястэчка — Лаўрыновіч слухаў
Пра мірскі звон і бернардзінку нюхаў.*

Але ніяк не зменшыцца вартасць «Мемуараў манаха», калі, апіраючыся на дакладныя мясцовыя даследаванні, асмелімся аспрэчыць эрудыцыю пана Марціна і скажам, што мірскі звон, празваны Каролем, адліты быў задоўга да нараджэння князя Караля Пане Каханку, і калі ён вярнуўся з-за мяжы (1768), не магло быць гаворкі пра мірскі звон як толькі што адліты. Што ў часе вяртання Радзівіла дадому мірскі «Кароль» ужо 52 гады склікаў на імшу прававерных насуперак сцвярджэнню пачцівага бернардзінскага фурмана Марціна ў «Мемуарах», тут можна даверыцца сведчанню не менш аўтарытэтнаму. Мірскі арганіст на нашу вялікую просьбу ласкава згадзіўся ўслужыць

* Гэта ўрывак з паэтычнага ліста да мяне пана Міхала Канткоўскага, аўтара «Гавэндаў Амбражэвіча».

нам і дабрацца па лесвіцы аж да званіцы і, чытаючы па складах вылітыя на вялікім звоне літары, запісаў іх для нас у тым жа парадку: «Corolus Stanislaus Rasziwiłł. D. G. Dux in Ołyka, Nieswież, Birże, Dubinski, Słuck, Kopyl et Kleck S. R. J. Princeps. Comes in Szydłowiec, Mir, Kroże et Biała, supremus Cancellarius M. D. L. Braclaviensis, Premislensis, Człuchoviensis, Camenecensis, Krzyszoviensis, Niżynensis, Ostrensis perpetuus gubernator. Anno domini 1710. Die 14 Julii». Ніжэй: «Fudit me Ambrosius Joannes Patt», а яшчэ ніжэй: «S. Michael, S. Carolus, Stanislaus»[29], імёны святых, якія былі наданы, паводле звычаю касцёла, звону.

Выходзіць, што фундатарам мірскага «Кароля» быў у сапраўднасці Кароль Радзівіл, толькі не Пане Каханку, а яго дзед Кароль Станіслаў, падканцлер літоўскі (памёр у 1711-м). Другі, меншы звон таго ж самага фундатара Кароля пазначаны той жа датай і імем майстра Пата. Але за год перад гэтым убогі шляхціч пан Мацей Самуэлёвіч са сваёй жонкай даў добры прыклад князю падканцлеру, заказаўшы ў таго ж Пата звон для мірскага касцёла. Тое, што Пане Каханку не ўзбагачаў тую званіцу ніякімі скарбамі, цалкам пацвярджае сваімі довадамі мірскі арганіст, абвяргаючы расказы пана Марціна. Хто ведае, калі б не лясы, што цягнуцца паўз дарогу з Міра да Нясвіжа, калі б не нізкае падвешванне «Кароля», можа, гучнае яго рэха дасягала б і муроў радзівілаўскай сталіцы.

Ва ўсякім разе, мы за дзве мілі чулі не раз, як мірскі звон склікаў вернікаў на імшу альбо вячэрню.

Прасторная, мураваная, на тры паверхі плябанія, якая цяпер менш як напалову жылая, была заснавана ў першыя гады XVII стагоддзя на сродкі першага ў Міры плябана Каспара Лянгшэвіча, відаць, з немалой дапамогай князя Мікалая Крыштофа Радзівіла, — над брамай на вуліцы на каменнай пліце выбіта назва заснавальніка і год узвядзення пабудовы (якія мы не занатавалі). Вось гэты надпіс на лацінскай мове: «Sic vos non vobis. Annuante Principe ac Domino meo Nicol. Christop Radzivill, hanc mihi condo domum, tibi successor bone donum, si bona sume bonam si mala conda novam. Casper Zangszewicz curator in Mir». І вось яго пераклад: «Гэта вы не для сябе (працуеце)»*. З дазволу князя і майго пана Мікалая Крыштофа Радзівіла гэты дом я будую для сябе, але і табе, добры наступнік, завяшчаю гэты

* Вергілій.

дар: калі спадабаецца — з удзячнасцю прымі яго, калі не — пабудуй новы»*.

Мураваная грэка-расійская царква, пры якой быў даўней кляштар базыльянаў, мураваныя крамы пасярод рынку, драўляная аптэка, а таксама паштовая станцыя, гэты нерв, які мяне гадоў восем звязваў з далёкім светам, — вось найбольш важныя цяпер пункты мястэчка, што складаецца з трох ці чатырох сотняў драўляных дамкоў — жыдоўскіх, хрысціянскіх і татарскіх. Жыды, як звычайна, — найбольш рухавая і найбольш шумная частка местачкоўцаў, якая да таго ж часцей за ўсіх трапляе на вока. Некалькі гадоў назад тутэйшыя крамы былі поўныя добрых баваўняных ды шаўковых вырабаў, палатна, футраў і ўсякай драбязы. У гэтых адносінах Мір меў шырокую вядомасць. Калі пра паненку, што збіралася хутка выходзіць замуж, казалі: «Паехала ўжо ў Мір», то гэта азначала, што яна пачынае рыхтаваць сабе пасаг.

У часы майго маленства сэнс той фразы нават у досыць далёкіх адсюль мясцінах быў добра знаёмы. Сёння гандаль тут амаль поўнасцю заняпаў, але ў жыдоў засталося ў звычаі гурмой абступаць усіх, хто праязджае па вуліцы ці спыняецца каля карчмы, і наперабой расхвальваць сваю якую-небудзь прызначаную на продаж драбязу. Кожная больш-менш прыстойная павозка прыцягвае да сябе цэлую хмару гаманлівага і сварлівага жыдоўства. Некалькі самых значных таварных складаў месцяцца не ў крамах, а па дамах заможных жыдоў, але і іх эмісары ходзяць па вуліцах, заваблíваючы да сябе любога прыезджага — чаго толькі не вярзуць яму, каб зганьбіць тавары сваіх канкурэнтаў. Пацяшацца з усяго гэтага ці абурацца — тут ужо будзе залежаць ад настрою прыезджага.

Тутэйшыя мяшчане ніколі не былі абдораны магдэбургскімі правамі, яны карысталіся толькі прывілеем Мікалая Крыштофа Радзівіла (1579), што ж да пытанняў, звязаных з маёмасцю і ўзаемным наймам, з перадачай і переразапісваннем выдзеленай памешчыкам зямлі, то яны вырашаюцца са згоды гэтага памешчыка. Апрача земляробства мяшчане займаюцца ганчарствам,

---

* Яшчэ адзін афарызм з мінулага стагоддзя, знойдзены ў мірскай плябаніі, гэта лацінскі надпіс на дзвярах верхняга, цяпер нежылога паверха:

> «Octiam cur claudis, dum vocem pauperis audires,
> Fac quod Christus amat, dum pauper in ostium clamat».

Гэта значыць:

> «Нашто дзверы замыкаеш, пачуўшы голас убогага;
> Рабі тое, што Хрыстос робіць, калі жабрак у дзверы стукае».

ткацтвам, шавецкім рамяством — але ўсё гэта робіцца звычайна на вельмі нізкім узроўні. Наогул і побыт мяшчан-хрысціян вельмі кепскі, прычына чаго, як і ўсюды, — адсутнасць асветы, суседства жыдоў. У гэтым месцы можна было б пагаварыць пра абавязкі памешчыка, духавенства, пра добрыя прыклады вярхоў… але ж я не пішу кнігу пра абавязкі, а занатоўваю толькі тое, што ёсць, не маючы намеру павучаць, як павінна быць.

Жыве ў Міры некалькі дзясяткаў татарскіх сем’яў, татары маюць тут свайго Молну і малую, прыцененую дрэвамі мячэць. Хто і калі іх тут пасяліў, яны не помняць. Можа, Вітаўт, а можа, яны засталіся тут пасля клецкага разгрому, — не хачу тут фантазіраваць.

У мяне ў руках не было на гэты конт ніякіх пісьмовых дакументаў, а вусныя роспыты таксама нічога мне не далі*. Татары займаюцца вырабам скур, агародніцтвам, якое вядуць адмыслова, і фурманствам. Увогуле, гэта працавіты і цвярозы люд, хаця дзякуючы рэстрыкцыям (а дзе іх няма?), што дазваляюць піць гарэлку замест забароненага віна, якое, зрэшты, беднаму люду няма за што купляць, правілы цвярозасці тут не без выключэння. Здаралася яшчэ ў іх абліччах напаткаць тып чыста азіяцкі, але на многіх тварах, асабліва жаночых, відаць ужо ўплыў паўночнага сонца, што сцерла іх родавыя рысы, наблізіўшы да мясцовага тыпу.

Можна было б сказаць колькі слоў і пра цыганоў, якія жылі тут некалі і мелі нават свайго «караля», што ў добрыя для цыган часы ўчыняў парады на вуліцах Міра, ехаў у акружэнні коннага цыганскага эскорту, узброенага канчукамі, — але сёння няма тут нават і следу гэтага племені. Уплыў цыганства застаўся толькі ў традыцыях, дух яго чуецца яшчэ хіба на конскіх кірмашах, якіх і цяпер бывае шэсць на год. Кірмашы, цыганы, гандаль футрамі і іншымі замежнымі таварамі — усё тое, што надавала калісьці гораду асаблівы характар, цяпер канчаткова знікае. Старое мінулася, а новае жыццё з адпаведнымі часу ўмовамі яшчэ не пачалося.

Такая доля ўсіх нашых шматлікіх гарадоў і мястэчак.

---

* Нататка, што далі нам з Галоўнага кіраўніцтва маёнткамі князя Людвіка Вітгенштэйна, запэўнівае, што ў Актах адміністрацыйных няма і следу якога-небудзь прывілея мірскім татарам, што «ў нешматлікіх просьбах пра атрыманне дрэва для гарбарні (зрэшты, яны больш нічога не прасілі і ніколі ні на што не скардзіліся) не спасылаюцца ні на якія прывілеі, а толькі на старыя звычаі». Даўнейшыя інвентары таксама не згадваюць аб прывілеях служылых татар.

## IV

*Куды паехаць далей? — Тракт да Нясвіжа. — Нашы дарогі і корчмы. — Мары і рэчаіснасць. — Прыклад добрай гаспадаркі. — Маёнткі, вёскі, лясы. — Уезд у Нясвіж.*

Пра жыцця ўсе праявы расказ пачынаю, —
Што падумаеш ты, я зусім не зважаю.

*Ян Кахано́ўскі*[30]

З ахвотай падарожнічаць, з блакнотам для запісу ўражанняў стаю я на рынку ў Міры, нібы той дзед-жабрак на ростанях: мэта не акрэслена, свет шырокі, — да якой жа вёскі ці горада пусціцца падарожніку? Пытанне гэтае цяжкае ў любой жыццёвай сітуацыі. Тут жа яго таксама нялёгка вырашыць: прыемныя сустрэчы чакаюцца ў адным месцы, але ці не страціш штонебудзь яшчэ больш прыемнае ў іншым? Калі б мы паехалі прама, па вуліцы Жухавіцкай, я паказаў бы вам узгорак, на якім на схіле мінулага стагоддзя адбылася нейкая бітва. Далей напаткалі б мы гожую Паланечку — уладанне князя Канстанціна Радзівіла, дзе ўбачылі б цудоўны сад, прыгожы і цікавы ў многіх адносінах палац і, сустрэўшыся з гаспадаром, упэўніліся б у радзівілаўскай знакамітасці і гасціннасці. Пасля б мы агледзелі ў мястэчку Ішкалдзь стары, вельмі стары, бо, несумненна, перароблены з язычніцкай святыні, парафіяльны касцёл, які ў XVI стагоддзі быў арыянскім зборам. Словам, была б у нас цікавая і прыемная вандроўка. Але зноў жа як адмовіцца ад наведання вядомага выдатнымі помнікамі Навагрудка, сталіцы Міндоўга, месца нараджэння аднаго з выдатнейшых нашых паэтаў![31] Як адмовіцца ад наведання Любчы, дзе ў глыбокай старажытнасці быў сабор, дзе ў язычніцкай Літве часоў Міндоўга высока ўзнёс біскупскую годнасць Віт Дамінікан[32], пра якога мы не шмат ведаем, Любчы, дзе друкарні Пятра Бластуса Кміты[33] і Яна Лянге[34] выдалі ў XVI–XVII стагоддзях столькі важных для вывучэння гісторыі Рэфармацыі ў Літве, такіх сягоння рэдкіх твораў, дзе яшчэ засталіся руіны радзівілаўскага замка, Любчы, якая, урэшце, у нашы дні сваю старую славу падтрымлівае хіба што вытворчасцю бруднаватага колерам, але, праўда, вельмі адметнага і славутага любчанскага лаку, калі верыць крамнікам, што разносяць яго па маёнтках? Гэтулькі важных прычын, вядома, не маглі б не схіліць нас скіраваць да Навагрудка, калі б не Нясвіж, да якога адсюль нейкія ўсяго чатыры мілі, Нясвіж,

славуты не менш за Любчу ў гісторыі Рэфармацыі і літоўскага друкарства, Нясвіж, які быў сталіцай вядомага князя Караля Радзівіла, дзе яшчэ стаіць яго замак і захоўваецца яго архіў, а таксама многа легендаў пра яго і нават ягоны прах, Нясвіж, да якога вядзе выдатная дарога і куды трапіць можна да змяркання.

Але косць кінута: едзем у Нясвіж. Дарога туды бітая, прамая і, як даводзяць матэматыкі (а за справядлівасць сваіх слоў хай самі адказваюць), павінна быць самая кароткая.

Яшчэ раз пад'язджаем мы да замка, каля якога разыходзяцца два тракты — адзін, той, што злева, каля старажытнага саду, вядзе на мястэчка Свержань, другі, правы, — на Нясвіж. Кіруемся направа. Пераязджаем мосцік і, з ахвотай кінуўшы позірк на Мірскі замак і скамандаваўшы: «Едзьма, фурман», пачынаем паводле старасвецкага звычаю наша падарожжа звыклым псалмом падарожнікаў: «Хто аддасць сябе ў апеку Пану свайму!»

Зямля гарбаціцца невысокімі пясчанымі ўзгоркамі. Па баках тракту — бярозы, а за дарогай высяцца сасновыя гайкі і кусцяцца досыць буйныя хмызнякі — прыкмета някепскай зямлі. Збажына — сярэдняй ураджайнасці, краявід — не шырокі, нічым асаблівым не вылучаецца, дарога крыху пясчаная, але ў цэлым — выдатная. Нічога незвычайнага тут не ўбачыш.

Для эфекту можна было б, як звычайна робяць падарожнікі, распісаць які-небудзь дарожны выпадак альбо ў яркіх фарбах размаляваць краявіды, — чытач, можа, паверыў бы гэтаму, але калі адкрыецца падман, ці ж не сорамна будзе і ці паверыць табе пасля такога? Кажуць, праўда — як тая аліва ў вадзе: заўсёды наверх выплыве. Напрыклад, у гэтых самых мясцінах, па якіх мы едзем, мы можам праз дзвесце гадоў абвінаваціць у хлусні шаноўнага Сымона Старавольскага, які напісаў нямала разумных і праўдзівых кніг, які так мудра і прыгожа адказаў шведскаму каралю, калі (ці памятаеце, чытачы?) той самаўпэўнены швед, робячы абход трунаў польскіх каралёў, прарочыў, што Ян Казімір не вернецца болей у Польшчу. Дык вось ксёндз Сымон Старавольскі, чалавек у цэлым паважны, перасаліў праўду, апраўдаючы ў адным цікавым творы пра Мікалая Крыштофа Радзівіла і тутэйшую ваколіцу. Расхвальваючы перад каралём Радзівіла, ён даводзіў, што Радзівіл пабудаваў у Міры мураваную ратушу, а навакольныя вёскі акружыў садамі і ставамі, напракладваў прамых дарог, абсадзіўшы іх з абодвух бакоў пладовымі дрэвамі, у цэнтры Літвы стварыў сапраўдную Аўзонскую даліну[35]. Адна няпраўда шаноўнага гісторыка — перад нашымі вачамі, а тры іншыя няпраўды адчуваем інстынктыўна. Пра мураваную рату-

шу ў Міры ніхто, колькі жыве, не чуў. Зрэшты, дзеля чаго была патрэбна ратуша там, дзе жыхары не мелі магдэбургскіх правоў? Што ж да фруктовых дрэў, прамых дарог і ставоў, то даволі паглядзець на мясцовасць, каб засумнявацца ў гэтым. Тутэйшыя дарогі, як і ўсе людскія дарогі, зусім не прамыя, яны ўюцца самым фантастычным чынам, мінаючы то ўзгорак, то балота, то пясок, то проста камяні ў полі, — бо лепей аб'ехаць камень, чым адкінуць яго з дарогі, тым болей што гэта ўжо работа для ўсіх, а хто ж яе ўзнагародзіць? Выкапаных ставоў не відаць і следу — зрэшты, яны маглі і засыпацца. Фруктовых дрэў не толькі на дарогах, але і на вёсках вельмі мала. Хоць дрэва мае ўласцівасць адраджацца ў новыя часы, мы не сустракалі ні разу якой-небудзь прапраўнучкі старой яблыні ці грушы, пасаджанай па загаду Радзівіла. Тутэйшая зямля занадта неўрадлівая для гэтага, а Мікалай Крыштоф, які тады скупліваў і акругляў свае ўладанні пад Мірам, не меў яшчэ часу заняцца іх гаспадарчым упарадкаваннем. Добраўпарадкаваць дарогі і масты — вялікая раскоша, і да яе нашы продкі не дайшлі, як і мы сёння, іх нашчадкі. Славуты польскі паэт Ян Каханоўскі, дарэчы, сучаснік Мікалая Крыштофа, так пакеплівае з гэтай нямчызны (сатыр):

Аб прусах казаць вам не трэба, бо самі
Штогод плывяце вы да Гданьска плытамі
І бачыце бляск стройных замкаў, паселішч,
Як струны — дарогі, мастоў гожых веліч.
Без грошай такое зрабіць немагчыма:
Там гаспадары скрозь былі — вось прычына.
А сёння што сталася?

Але загаварыўшыся пра дарогі, не збочыць бы дзе на якую іншую дарогу, тым болей што едзем мы па роўным і гладкім гасцінцы — такім яго зрабіла не людская праца, а сама прырода: так сабе, выпадкова кінула паміж Мірам і Нясвіжам сухі і не вельмі ўзгорысты грунт, а людзі гэтак жа выпадкова праклалі тут дарогу, абсадзілі яе бярозай і асінай, якія цяпер унь як разрасліся. Так выпадкова атрымалася добрая дарога.

Праз мілю паказалася вёска Семакова, якая, нібы вялікі воз, ад'ехала ад дарогі ў поле. Галава яе — карчма — свеціць падарожнаму двума прагнымі вокамі пабітых шыбаў і зіяе, як пашчай, адчыненымі варотамі свайго гумна, а тулава і хвост вёскі віецца па ўзгорках далей аж да лесу. Вёска гэтая, якая знешне нічым асаблівым не вылучаецца ад іншых нашых вёсак, вядомая

тым, што ў ёй жыве аж некалькі выдатных сталяроў, вырабы якіх маглі б аздобіць самы раскошны і вытанчаны салон. Гэтыя сталяры — сяляне, трохі вальнейшыя ад іншых, бо вызвалены ад паншчыны як вартаўнікі далёкіх занёманскіх лясоў. Чаму ж, папытаецеся вы, надумалі сяляне навучыцца такому непапулярнаму рамяству ў гэтай бязлеснай ваколіцы, далёкай ад горада, які мог бы купляць тыя вырабы? Адказ тут вельмі просты: так захацелася памешчыку, які падабраў некалі вясковых мужыкоў, паслаў іх у горад, дзе ім далі ў рукі па гэблю і загадалі — самім на славу, а двару на карысць — вывучыцца гэтаму рамяству.

Далей паабапал дарогі пайшоў прыгожы яловы лес, у якім адну за адной убачылі мы аж тры карчмы з маляўніча заквітнелымі саламянымі стрэхамі і напалову разваленымі сценамі. Ох і гожы ж гэта прадмет у нашым пейзажы! Але чаму ж аздабляем мы нашы найцудоўныя краявіды толькі такім спосабам? Ці ж не больш прыгожа на фоне цёмна-зялёнага лесу выглядала б касцельная вежа, франтон сельскай школы, домік лесніка альбо сапраўдны заезны дом з усімі выгодамі для падарожнікаў, з кухняй, дзе чуецца пах дымку, з гасцінным святлом вокан, з аздабленнем, якое само запрашала б падарожнага адпачыць. А як бы выдатна ўпрыгожыўся б наш краявід, калі б пры касцельчыку стаяў сівы ксёндз-плябан з малітоўнай кнігай, прыхінуўшыся да якога-небудзь надмагільнага помніка, а перад гэтым помнікам укленчыла б заплаканая жанчына (ці дзіцё), — святар суцяшае яе, паказвае на неба, і на яе твары відаць нябеснае суцяшэнне. Альбо каб мы ўбачылі з дарогі школьны падворак, са званком, са свавольнымі вясковымі хлапчукамі, з таўставатым настаўнікам, чало якога сведчыць аб вялікіх ведах, някепскай думцы пра сябе і добрым сэрцы, так што нават у тым выпадку, калі б ён павесіў сабе каля пояса класічны боцькаўскі бізун[36], то і гэты аксесуар улады не змог бы знізіць добрага ўражання ад пачцівага сельскага ментара. Якраз такія карцінкі хацелася б бачыць у нашых мастакоў-пейзажыстаў, але што ж рабіць, калі няма з чаго іх маляваць. Дзе знайсці ў нас сельскую школу адметнай архітэктуры альбо добры заезны двор, дзе ўзяць такіх настаўнікаў, сельскіх ксяндзоў з кніжкай, што нясе слова суцяшэння абяздоленым? Дзе знайсці хоць бы адзін прыклад добрага гаспадара заезнага двара? Усё гэта кніжныя ідэалы, якіх не відаць у жыцці. Заезны двор і жыды, вясковы хлопец, што пасе скаціну, парафіяльны святар і прэферансавы столік — вось найбольш тыповыя кампазіцыі; разваленая карчма, каля якой тоўпяцца шумныя п’янаватыя вяскоўцы і звоняць зубамі няўдалыя іх клячы, што

слухаюць рыторыкі, — вось яшчэ вельмі характэрная мясцовая карціна. Дзіўна, што не натхніць яна ні пэндзля мастака, ні пяра якога-небудзь літоўскага Вальтэра Скота. Бо гэта ж праўда, што прыгожае мастацтва ў нас таксама на вельмі нізкім узроўні.

Па выездзе з лесу перад вачамі адкрываюцца прыгожыя разлогі палёў, штораз больш ураджайных. Направа, не намнога вузейшая, чым паштовы гасцінец, бярозавая алея вядзе да мураванага маёнтка, што велічна выглядвае з зялёнага вянка саду. Побач з памешчыцкім дваром відаць акуратна збудаваная вёска, кожная хата ў ёй абсаджана таполямі, высяцца там і сям ветракі, што замяняюць вадзяныя млыны, бо тут няма ніякай ракі. Нібы дываны, квітнеюць добра дагледжаныя палі канюшыны. Пры дарозе добры заезны двор. Усюды тут адчуваецца заможная і гаспадарлівая рука — а гэта сведчыць аб большым прагрэсе краю. Тут — Гарадзея, уладанне палкоўніка Брахоцкага, сапраўдны аазіс у гэтым баку. Шкада толькі, што гэты двор і гэтая акуратная вёска адбегліся ад дарогі і іх нельга добра разгледзець: можа, тыя, хто іх убачыў бы, шмат чаму навучыліся б. Мы, зазірнуўшы ў людскія вочы, і з аднаго позірку селяніна дазналіся б пра многае: напрыклад, колькі прыбытку ад гарэлкі прыносяць гэтыя ўладанні, ці нельга было б знайсці тут тып сельскага настаўніка для мясцовай карціны і г. д. Толькі здалёку кінуўшы вокам на гэтыя прыгожыя ўладанні, мы шлём да неба просьбу, каб у тутэйшым краі паболей з’явілася такіх вакаліц.

І чаму ж не спадзявацца на гэта? Урадлівая навакольная зямля дае гарантыю заможнага жыцця. Люд моцны, выглядае пачціва, тут мае дзе, як кажуць, прыкласці рукі грамадзянін, які добра адчувае, што абавязаны людзям, духу часу і добра зразумеламу ўласнаму інтарэсу.

Перад намі праходзяць яшчэ дзве іншыя вёскі, што носяць тую ж назву — Гарадзея (можа, гэта варыянт назвы Гарадзішча, — такія назвы, як даводзіў добрай памяці Зарыян Хадакоўскі[37], можна знайсці на кожнай квадратнай мілі), потым вёска Ужанка — колішняе ўладанне нясвіжскіх езуітаў. Вёскі, як усюды, нізкія, кепска пабудаваныя, маёнткі бялеюць дзе мураванай стайняй, дзе такой жа гарэльняй, дзе, як ва Ужанцы, ладным, відным здалёку касцёльчыкам, і — кожны навакольны маёнтачак прыслаў на паштовую дарогу сваю карчму, бо гэта ж кожнаму з іх належыць частка кантрыбуцыі з траякоў селяніна, што вяртаецца з торгу, — так робіцца.

За Ужанкай колькі вёрст цягнецца прыгожы ліставы лес — дубы, асіны, бярозы, кляны, дзе-нідзе пракідаецца ў ім і хвоя.

У лесе відаць ямы і печы для выпальвання вапны, якую навакольны люд здабывае з лона зямлі. Густы цень, халаднаваты ветрык, водар лесу добра бадзёраць падарожніка, асвяжаюць грудзі, — марыць бы тут, слухаць птушыныя песні, збіраць духмяны ятрышнік, салодкія суніцы і кахаць. А гэты ж лес, хоць ён і блізка каля вёсак і горада, не адзін раз, паводле паданняў, быў хованкай для разбойнікаў, быў арэнай забойстваў бязвінных людзей. І меў жа сэрца злачынец сярод гэтай прыгожай прыроды ўзяць забойчы нож! Ён гэты цудоўны куток цаніў толькі як добрую хованку: лясны гушчар даваў яму мажлівасць беспакарана ўчыняць свае злачынствы.

Мінуўшы лес, мы сустракаем справа мураваны вакзал Рудаўку, таксама даўнейшае ўладанне езуітаў, пры дарозе, як звычайна, бачым карчму, а на ўзгорку — мураваны слуп. Слуп гэты пасля першага падзелу Польшчы адзначаў, відаць, месца, дзе клінам збягаліся межы Расіі, Прусіі і Аўстрыі, потым паказваў мяжу Гродзенскай і Мінскай губерняў, цяпер нібыта размяжоўвае Слуцкі і Наваградскі паветы, але на ім ужо няма аніякага надпісу — стаіць на ўзгорку без патрэбы.

З узгорка відаць ужо былы Нясвіж з ваколіцамі. Сам горад, час ад часу паблісканаючы ўгары вострымі вежамі фарнага і дамініканскага касцёлаў, хаваецца ў даліне. Над ім узвышаецца пабудаваны на ўзгорку на другім баку горада пусты сёння езуіцкі касцёл святога Міхала, направа сінее лес і дрэвы звярынца Альба, налева адкрываецца вачам велічны замак, дзенідзе позірк схоплівае сляды старых гарадскіх валоў. Пачынае мацней стукаць сэрца: гэта мы ўжо ўязджаем у дарагое даўнімі ўспамінамі месца. Вунь драўлянае прадмесце, якое завецца Казімер, нас акружае вянок корчмаў, потым праязджаем каля касцёла бернардзінцаў мост праз нейкую лужыну ці пачатак ракі Ушы, — і вось мы ўжо ў горадзе.

# V
# НЯСВІЖ

## I

*Цяперашні стан. Замак: карцінная галерэя, архіў, скарбніца, гарматы (з апісаннем некаторых), капліца. — Слова пра шматгадовы кірмаш. — Фарны касцёл і грабніцы Радзівілаў у ім. — Касцёлы: бернардзінцаў, дамініканцаў, бенедыкцінак. — Іншыя муры горада. — Ваколіцы. — Звярынец Альба. — Абацтва айцоў бенедыкцінаў у лесе за горадам. — Касцёл святога Міхала.*

Схаваецца Дум, нібы кедр у Ліване, —
І быццам бы зноў ён ніколі не ўстане.

*Вэсп. Кахоўскі. Лірыкі*

Славуты ў мінулым, гэты невялікі горад сёння мала чым можа зацікавіць падарожніка. Некалькі касцёлаў, руінаў іншых муроў, крамы, гаўптвахта, а воддаль напалову жылы радзівілаўскі замак з рэшткай старых помнікаў, — вось усё, што на хвіліну забавіць госця горада, але потым пачынае наводзіць на яго нейкую невыказную сумоту, жаданне даведацца пра ўсё, што адбывалася тут у далёкія гады. Вобразы князёў Сіроткі і Пане Каханку ўстаюць перад вачыма, выклікаюць розныя пытанні, якія цяпер застануцца, відаць, без адказу. Тут усё створанае імі — у развааленым выглядзе, там яны самі парахнеюць у свінцовых трунах пад скляпеннямі фарнай святыні. Мы бачым, што мінуўшчына з асаблівасцямі свайго побыту адышла, адляцела, як гістарычны сон, будучыня дзесьці за заслонай наканавання, а цяперашняя хвіля не мае ніякай прывабнасці. Люба бывае ўспомніць часам мінулае; гордасць старых часоў — здзяйсненне чацвёртай Божай запаведзі: любоў да бацькоў; а паколькі вопыт мінулага служыць ці, прынамсі, павінен служыць у нейкай ступені навукай для будучыні, то і гісторыя малога мястэчка мае сваю цікавасць і павучальнасць.

Пакуль пачну пра яе расказваць, патрэбна паглядзець, што засталося тут ад старых часоў. А перш за ўсё задаволім нашу цікавасць аглядам замка, бо там найбольш старых помнікаў, і ад таго, што рабілася ў замку, залежаў лёс горада, бо калі там не знойдзем адгадкі на многія пытанні мінулага, то ўжо нідзе не знойдзем.

Мінуўшы былы езуіцкі касцёл і перад ім капліцу Булгарына, успаміны пра якую запісаў аўтар «Сапліцы…»[38], і невядома кім пабудаваную прыгожую, вялізных памераў, высечаную з аднаго каменя статую святога Яна Непамуцэна, ідзём тысячы дзве крокаў па грэблі, абапал якой цягнуцца ставы вады. За адным з іх, злева, бачым муры кляштара святых бернардзінцаў і іх сад, за другім ставам, справа — прадмесце новага горада са старым запушчаным касцельчыкам святога Лазара. Грэблю, без сумнення, паклалі сярод вады, каб у выпадку ваеннага нападу яе можна было раскапаць і заліць вадой, зрабіць перашкоду ворагу. Замак, акружаны глыбокім ровам, асыпаны высокім валам, можна прыняць на першы погляд за добра ўмацаваную крэпасць. Але, агледзеўшы нізкую васьмікантовую вежу, што ўзвышаецца над галоўнай брамай, гэтыя бясформенныя, у розны час прыбудаваныя і да агульнага ансамбля далучаныя крылы, чатырохкутныя бастыёны і другую, справа, вежу, над якой распасцірае крылы гербавы арол Радзівілаў, трэба прызнаць, што ўзводзіўся гэты замак хутчэй як раскошнае панскае жытло, чым пабудова для абароны самога месца і горада, а калі ў рыцарскія часы заснавальнік такога збудавання і думаў пра вайну, то болей, чым на муры, пакладаўся на мужныя плечы і грудзі сваёй служылай шляхты, якая была ў яго пад апекай.

Зарослыя дзікім зеллем валы, разложыстыя грушы ў рове сведчаць, што здаўна ўжо не акружалася крэпасць вадой, замест даўняга разваднога моста ляжыць тут на палях новы, не зусім трывалы мост, — усё гэта сцірае чароўнасць старога феадальнага збудавання, чароўнасць, якую хацелася б захаваць у галоўнай сталіцы Радзівілаў.

Праз доўгую скляпеністую браму ўваходзім у васьмікутны брукаваны замкавы дзядзінец, пасярэдзіне якога яшчэ за маёй памяццю была купка бяроз і асін, якія так разрасліся на добрай глебе, што нечым нагадвалі старыя часы. Насупраць брамы высокі гатычны фасад замка з брамай, што вядзе на лесвіцу да галоўных замкавых залаў, дзіўна неяк выглядае між двух бакавых крылаў, проста ўзнесеных на тры паверхі, як звычайная жылая камяніца; над фасадам мы бачым гіпсавыя арматуры, эмблемы і гербы Мікалая Крыштофа Радзівіла, першага заснавальніка гэтых муроў, а направа, побач з фасадам, над уваходнай брамай, узносяцца дзве згаданыя ўжо вежы з гербамі, — вось і ўсе феадальныя рысы замка.

Галоўная лесвіца вядзе на трэці паверх да прасторных, але нічым не адметных сеняў, ад якіх направа і налева разыходзяцца

прыгожыя залы, сёння альбо паперарobленыя, альбо нежылыя і таму недагледжаныя, апрача адной, так званай мармуровай, якую, відаць, нядаўна асвяжылі, выгіпсавалі, аднавілі. А такіх, намнога большых, залаў было дванаццаць. Прывядзём некалькі старых іх назваў: Залатая — на чацвёртым паверсе, у крыле, цалкам запушчаным, славілася вытанчанасцю і багаццем аздаблення; Каралеўская — таксама на чацвёртым паверсе, упрыгожаная партрэтамі польскіх каралёў, была пакоем для банкетаў, як бы гасцінай для прыёму шматлікіх паноў і шляхты; Гетманская — у ёй былі партрэты ўсіх польскіх і літоўскіх гетманаў, у шэрагу якіх гаспадар знаходзіў не аднаго са сваіх продкаў, што падштурхоўвала яго імкнуцца да іх славы альбо, на жаль, схіляла (калі ён успамінаў іх сілу, значэнне і веліч) да гвалтоўніцтва, уціску падданых і да непаслушэнства каралю і рэспубліцы. Рознае бывала. Багацце — небяспечная рэч, яно жывіць вялікія і нікчэмныя памкненні, высокае патрыятычнае спаборніцтва гэтак жа, як і злачынную пыху, служыць для дабра альбо для злоўжыванняў правоў мацнейшых і для ігнаравання слабейшых. А багацці былі тут незлічоныя: без перабольшання можна сказаць, што добрая палавіна Літвы, значная частка Украіны, Русі і амаль усё Палессе зносілі сюды даніны за сваё збожжа, за свае лясы, за рыбу, што ў вадзе, за птушак і пчол, што ў паветры, і, хто ведае, можа, за само паветра. Пот мільёнаў ратаяў, замененыя на золата, напаўняў тутэйшыя скарбніцы каштоўнасцямі, тутэйшыя лёхі — вытанчанымі напоямі, свет — здзіўленнем, а Сенатарскую і Пасольскую залы — гонарам і страхам.

У некаторых залах на сценах, абабітых некалі багатымі дыванамі ці аздобленых ад столі да падлогі суцэльнымі люстэркамі, чаго ўжо і следу не засталося, раскіданы старажытныя карціны, іх больш за ўсё на чацвёртым паверсе ў асобнай зале, названай сёння гучна Карціннай галерэяй. Сэрца сціскаецца, калі глядзіш на многія з гэтых карцін, асабліва калі зойдзеш у «галерэю», дзе выдатныя палотны, каштоўныя і з боку мастацкай вартасці, і як дарагія памяткі, што захавалі для нас вобразы гістарычных асоб, старасвецкія ўборы альбо асобныя падзеі гісторыі, — без парадку, без рам, без надпісаў вісяць на сцяне, чакаючы лепшых часоў, і, разасланыя па падлозе, марнеюць на нашых вачах, аблазяць, абвяшчаючы аб хуткай сваёй гібелі. Адны з іх маюць даўнія надпісы, на другіх прыклеены нумар, пры дапамозе якога ў інвентарнай кнізе, схаванай ад вока прафанаў дзесьці ў архіве, можна знайсці, хто ці што на іх прадстаўлены, іншыя — без надпісаў, без нумароў. Найбольшай

увагі заслугоўваюць перш за ўсё вялізныя карціны, пакуль што не поўнасцю яшчэ сапсаваныя, напрыклад: наданне Мікалаю Чорнаму Радзівілу княскага звання імператарам Карлам V; нейкі ўрывак пра казацкія войны часоў Яна-Казіміра, паляванне з XVI ці XVII стагоддзя (абодва гэтыя шматкі палатна асыпаюцца з кожным павевам ветру з пабітых вокнаў, што гуляе па галерэі), паказ войск перад Аўгустам II, учынены Міхалам Казімірам Радзівілам, гетманам літоўскім. Да каштоўных, магчыма, сучасных, карцін патрэбна аднесці партрэты Вітаўта (дакладную яго копію, гравюру на сталі, зробленую панам Гесам, можна ўбачыць у пачатку «Вітольдыяды» Крашэўскага, выдадзенай у Вільні, у Завадскага, у 1842-м), Уладзіслава Ягайлы, Барбары і яе роднага брата Мікалая, празванага Рудым, такія цудоўныя творы пэндзля, як партрэты Мікалая Чорнага, канцлера літоўскага Альберта, аднаго з Астрожскіх, Януша Радзівіла, Міхала Казіміра Гетмана і іншых. Карціны гэтыя, што паказваюць нам гістарычных мужоў у поўны рост, выяўляюць сваё замежнае паходжанне. Нічога не было б дзіўнага, калі б які знаўца сярод некаторых з іх адкрыў творы аднаго з найвыдатных майстроў італьянскай ці фламандскай школ, ёсць жа ў нас звесткі, што Рэмбрант ахвяраваў за паслугі свой пэндзаль Крыштофу Радзівілу, слаўнаму гетману літоўскаму*. Мастацкую вартасць уяўляюць і пазнейшыя карціны, дзе намаляваны на ўвесь рост кароль Станіслаў-Аўгуст (мастак Гескі[39]) і князь Дамінік Радзівіл (мастак Дамель[40]). Да значных твораў мастацтва можна аднесці бюсты кардынала Юрыя Радзівіла, падканцлера Міхала Казіміра і яго жонкі з роду Сабескіх, партрэты Льва Сапегі, Аляксандра Служкі, караля Аўгуста II Флемінга і іншыя. З гістарычных карцін патрэбна адзначыць выдатную, майстэрскага, элегантнага пэндзля «Каранацыю каралевы Барбары», адноўленую некалькі гадоў назад. З твораў айчыннага пэндзля заслугоўваюць увагі партрэты Ярэмія Вішнявецкага, кіеўскага мітрапаліта Пятра Магілы, гетманаў Паца, Пацея, Казіміра Сапегі, Станіслава Кішкі і многіх іншых. На некаторых мы заўважылі подпіс Ёгана Шрэтэра (пачатак XVII ст.), іншыя ў інвентары 1658 года маюць надпіс: «Свежага Францішкавага малявання» або стаіць прозвішча «Вітаноўскі» (здаецца, гэтыя Францішак і Вітаноўскі

---

* Не будзем удакладняць гэта, бо сваю знаходку наконт сказанага мы аддалі Ю. І. Крашэўскаму, які некалькі гадоў працуе над гісторыяй нашага мастацтва. Там цікаўны чытач зможа ўпэўніцца ў тым, пра што тут гаворка.

былі адной асобай), пазнейшыя работы належаць Юзафу Гескаму. Такія вось скарбы хаваюцца яшчэ ў Нясвіжскім замку. Некаторым карцінам пашанцавала, яны ў свой час былі ўзяты ў рамкі, пакрыты лакам, другія ж былі асуджаны на забыццё, а тыя, што значацца ў згаданым інвентары, проста загінулі. Дзе, напрыклад, дзеўся партрэт Івана Грознага, на твар якога так цікава было б паглядзець? Дзе той партрэт селяніна з вёскі Чучэвічы, які пражыў у часы князя Міхала Казіміра Гетмана 140 гадоў? А хіба трэба сумнявацца, што ў доме Радзівілаў не было аніводнага партрэта караля Жыгімонта Аўгуста? Ці можна дапусціць, каб сёння ані ў так званай карціннай галерэі, ані ва ўсім Нясвіжскім замку не было партрэта Караля Пане Каханку? Яшчэ ў інвентары з 1770 года мы налічылі 984 рознага роду карціны на палатне і дрэве, цяпер, не ведаю, ці хоць палова іх засталася.

Так вось шануем мы светлыя памяткі продкаў, так вось выконваем чацвёртую Божую запаведзь.

Акрамя карцін вялікай увагі даследчыкаў старажытнасці заслугоўвае радзівілаўскі архіў — колішні склад усялякіх папер, што датычыліся Літвы. І гэта нягледзячы на шкоду, што прынеслі яму рабаванні пад час войнаў. Дыпламатычныя матэрыялы, дзённікі, а галоўнае — збор напісаных у розныя эпохі на адрас Радзівілаў лістоў, усё, што некалі складала багацце роду і краю, можа праліць нямала святла на шмат якія гістарычныя падзеі. Архіў займае некалькі залаў, што над галоўнай брамай. Гаспадарчыя паперы трымаюцца там у парадку, але лісты яшчэ неўпарадкаваны.

Сярод гэтых горкіх заўваг пра непашану да помнікаў мінулага не вельмі нас абыходзіць нясвіжская скарбніца, пра якую столькі кружыць легендаў і якой ужо няма і следу. Матэрыяльнае багацце мае ўласцівасць знікнення намнога хутчэй, чым збуцвее папера, чым згіне палатно з фарбай і аліфай. Бронза ды жалеза захоўваюцца даўжэй: збройня Радзівілаў, хоць і ў страшным бязладдзі, захавалася аж да нашых дзён, а некалькі малых гармат, рэшткі багатых некалі (бо ў 1658 годзе мелі болей ста штук адзінак) нясвіжскіх умацаванняў — іх цікаўны вандроўнік і сёння можа паглядзець у адным з замкавых падзямелляў. Гэтыя старыя помнікі ліцейнага рамяства заслугоўваюць падрабязнага апісання. Сем гармат большага калібру 1529, 1534, 1536, 1541 і 1543 гадоў з вылітымі альбо выразанымі пазней гербамі горада Львова на большасці з іх. Здаецца, адліваў усе Ленарт Гірл, подпіс якога мы бачым на некаторых з іх: «Lenhart Hirl

hat mich gossen». З мастацкага боку заслугоўвае ўвагі асабліва адна гармата — з шасцю барэльефамі, якія варта апісаць. На першым — герб горада, на другім — бусел дзяўбе яшчарку, на трэцім — сатыр вядзе каня з урачыстым возам, дзе сядзяць двое, увенчаныя лаўрам, што падараваў анёл, які якраз адлятае ў неба, на чацвёртым — у спакойнай паставе сядзіць арол, на пятым — тры медальёны з галовамі туркаў ці, можа, валохаў, на шостым — галовы трох анёлаў, надпіс: «Добрая ў таго абарона, з кім Бог» і год — 1541-ы. Узнікае пытанне: якім шляхам трапілі ўсе гэтыя рэчы ў радзівілаўскі арсенал?

Але пяць іншых гармат з часоў Мікалая Крыштофа Радзівіла, пазначаныя радзівілаўскім гербам і крыжам і датаваныя 1591, 1599 і 1600 гадамі, можна лічыць не толькі помнікамі мінулага, але і выдатнымі творамі мастацтва. Вільгаць ад зямлі ў цёмным скляпенні псуе гэтыя цудоўныя медныя гарматы, якія, калі б іх ачысціць, маглі б стаць аздобай самага вытанчанага салона. Яны такога невялікага памеру (два з лішнім локці даўжынёю), што іх можна было б памясціць дзе хочаш — ці ў ляжачым становішчы, ці ў форме калон. Апішам іх падрабязна.

Першая, «Гідра», пры аснове мае форму страшыдлы з пяццю галовамі і такога ж страшыдлы пасярэдзіне, на ёй надпіс: «Hydra paro luctus piceos dum concito fluctus» — «Гідра — рыхтую траур, калі смаловыя крану хвалі». Другая, «Цэрбер», мае абрысы неачэсанай калоды, пасярэдзіне якой віецца полымя; пры аснове — галава Цэрбера і такая ж на сярэдзіне, з надпісам: «Cerberus acre tono cum dit… militi dono» — «Цэрбер — грымлю прарэзліва, калі салдату даю дзяржаву».

Трэцяя, «Цырцэя» — у форме патрэсканай калоны, звязанай каля ручкі, пасярэдзіне і пры вылеце мядзянай завязкай, дзве пятлі якой паказваюць сярэдзіну гарматы; пры яе аснове — чалавечая галава, вакол якой надпіс: «Murmure non vano Circe quos tango profano» — «Цырцэя — зняслаўлю кожнага, да каго з непустым шумам даткнуся».

Чацвёртая — васьмікутная прызма, пасярэдзіне — дзве савы задзіраюць дзвюх мышэй, а на адной сцяне — барэльеф савы.

Пятая — найпрыгажэйшая за ўсе іншыя, у форме калоды, абвітай вінаграднай лазой, лісце якой гожа раскідана па гармаце; пры аснове і пасярэдзіне вылучаюцца дзве вінаградныя гронкі і надпіс: «Populi sint ditis nostrae vindemiae vitis» — «Няхай народы жывяцца з нашага багатага вінаградніку».

Вельмі шкада, што не ўдалося аздобіць кнігу малюнкамі гэтых цікавых гармат, якія смела можна аднесці да выдатных

мастацкіх кампазіцый. Варта, каб яны дачакаліся, калі іх намалююць, пакуль не знішчыць іх вільгаць, пакуль хто не скіне на іх цяжар, сціраючы надпісы і барэльефы.

Мы агледзелі найбольш цікавае, што было ў старым гняздзе Радзівілаў. Больш дробныя рэчы ў сваім цяперашнім стане заслугоўваюць меншай увагі. Мы ўжо не ўбачым знойдзенай пад Венай каралём Я. Сабескім карціны, што трапіла дарогай сямейнай спадчыны да Радзівілаў, месцілася ў капліцы Нясвіжскага замка, якой была ахвяравана ў 1758 годзе. Не служыць ужо людзям святая ахвяра на зруйнаваным алтары; дом Божы стаў складам рознага хламу, які, аднак, нельга назваць помнікам старажытнасці; сведчаннем даўнейшага прызначэння месца з’яўляюцца толькі дзве мармуровыя пліты з рэляцыяй пра карціну і яе ахвяраванне, умураваныя калісьці з абодвух бакоў алтара.

Пра радзівілаўскія лёхі і крамы, напоўненыя некалі шляхетнымі напоямі, гэтак жа як і пра скарбніцу, нагадваюць цяпер толькі глухія паданні. Не кажучы пра залатыя і сярэбраныя кубкі, што зніклі разам з іншымі каштоўнасцямі, цяжка нават убачыць сёння ў замку хоць бы шкляны келіх, які напамінаў бы вясёлую эпоху караля Саса альбо яшчэ весялейшыя гулянкі вядомага Караля Радзівіла.

Уздыхнуўшы, пакінем цяпер старыя радзівілаўскія муры. Пасля замка звернем увагу на два рады кірмашовых крам, збудаваных у новыя часы з прускага муру. Яны большую частку года пустуюць і толькі з 17 па 29 верасня, а менавіта ад рымскага да рускага дня святога Міхала Архангела, прыходзяць у рух, што вельмі нязвычна для спакойнага выгляду замка і мястэчка. Кірмаш бывае тут не абы-які. Уведзены ў даўнейшыя часы каралеўскім прывілеем, ён адбываўся тут у розную пару года і ў розных месцах (заўсёды за горадам) аж да таго моманту, калі канчаткова былі вызначаны для яго пэўны час і месца.

Правінцыйны кірмаш звычайна дае вельмі многа матэрыялу для гумарыстычных карцін, якія, аднак, няма намеру тут маляваць. Увядзенне вялікага кірмашу ў глухім месцы, аддаленым ад галоўных гарадоў краіны, такіх, як Варшава, Вільня, Кіеў ці Адэса, лічу вельмі карысным не толькі для прыбыткаў памешчыка і горада, але і для жыхароў бліжэйшых паветаў, што маюць тут добрую магчымасць набываць неабходныя ім рэчы і збываць лішнія. Зрэшты, ці ёсць патрэба апісваць тутэйшы кірмаш, — ён жа нічым не адрозніваецца ад кірмашоў іншых гарадоў. Наплыў людзей розных класаў і краёў, змяшанне, як у той Вавілонскай

вежы, моў, крыкі і абрыўкі фраз на розных мовах — жыдоўскай, нямецкай, польскай, рускай і кухоннай французскай, гукі аргана, спеў жабракоў, цыгарэтны дым, — усё, як на кожным нашым кірмашы. Асаблівасць тутэйшага хіба тое, што на ім можна ўбачыць жыхароў Палесся, якія прыязджаюць сюды амаль што з адзіным прадуктам сваіх мясцін — рыбай, іх вазы са скуранымі будамі, пастаўленымі ў два рады, замяняюць шалашы. Гэтыя прыбышы з ваколіц Пінска і Давыд-Гарадка мовай і тыпам свайго твару прыкметна адрозніваюцца ад мясцовага люду. Палескі дыялект Русі — гэта яшчэ не маларасійская ці валынская мова, а нешта пераходнае ад беларускай да маларасійскай гаворкі*. Але пакінем у спакоі рухавыя кірмашовыя тыпы, якія нас далёка адхілілі б ад прадмета гаворкі, і, верныя сваёй тэме, вернемся да горада, каб агледзець выдатнейшыя яго будынкі.

Калі ідзеш ад замка ў горад, перш за ўсё на вочы трапляецца колішняя езуіцкая святыня ў чыстым італьянскім стылі, у падзямеллях якой месцяцца астанкі багатых, слаўных і магутных спрадвечных уладароў Нясвіжа. Пазней мы яшчэ вернемся да гісторыі гэтага касцёла і яго калегіі, а тым часам кінем вокам на яго цяперашні стан.

Пад высокім і прасторным скляпеннем, ва ўрачыстым паўцені, якога не можа сагнаць святло з высокіх вокнаў, цябе агортвае нейкае пачуццё скрухі і пашаны да святой старажытнасці, сляды якой сустракаеш усюды. Вялікі цудоўны алтар з выявай Тайнай вячэры, здаецца, пэндзля Юзафа Гескага, і два бакавыя алтары з партрэтамі апекуноў ордэна езуітаў уяўляюць сабой sanctum sanctorum[41], аддзеленыя ад астатняй часткі касцёла драўлянымі балясінамі, з разьбянымі кветкамі і лісцем, — гэтая старажытная разьба заслугоўвае ўвагі.

Направа знаходзіцца алтар тонкай работы — пачатку нашага стагоддзя; у алтары — абраз пэндзля Дамеля з выявай

---

* Палессе, даўняя сядзіба яцвягаў, хоць і невялікі край, мае тым не меней два розныя тыпы сваіх насельнікаў. Паляшук з ваколіц Слуцка і Бабруйска — худы, бледны, барадаты, пакорлівы, з вачэй яго глядзіць бяда і нездароўе; чалавек жа з-над Піны, Шчары і Ясельды высокі, моцнай будовы, а ў мове і позірку адчуваецца амаль украінская энергія. Не відаць, аднак жа, каб гэтыя, такія непадобныя адзін на аднаго тыпы мелі рознае паходжанне: адны, як і другія, не маюць лепшай зямлі, здаравейшай вады альбо якіх-небудзь больш спрыяльных умоў жыцця, пінчукі хіба што адрозніваюцца ад сваіх сабратаў з-пад Слуцка тым, што ў іх, можа, трохі болей свабоды ў адносінах з памешчыкамі буйных уладанняў.

святой Канстанцыі ці Гелены з крыжам, у даўнейшых строях; а над алтаром, на багата аздобленай, з каляровага мармуру труне — белая, майстэрскай работы статуя заплаканай жанчыны. Гэта — надмагільны помнік Канстанцыі Радзівіл, дачкі клецкага ўладальніка маярату трокскага ваяводы Юзафа, якая была замужам за Чудоўскім. Гэта павінен быць алтар, але касцельнае кіраўніцтва, ці то знайшоўшы ўборы святой Гелены на абразе занадта сучаснымі, ці то, як кажа паданне, рысы святой былі ўзяты з твару князёўны, на грабніцы якой стаў алтар, не дазволіла яго асвяціць*. Кампазіцыя маўзалея, разьба на труне і статуі выклікаюць жаданне даведацца імя мастака — аўтара гэтага твора. Мы шукалі звесткі пра помнік у мясцовых парафіяльных візітах, але хто ж не ведае, што візіта — гэта толькі звычайны інвентар касцельных прадметаў, дзе не звяртаецца ўвага на іх мастацкую вартасць. Направа ад балясін прыгожы помнік Крыштофу Мікалаю (сыну Мікалая Сіроткі), які памёр у шаснаццаць гадоў (1607), калі вучыўся ў Балонні. Пад белым мармуровым бюстам на чорнай дошцы таксама з мармуру выціснуты на латыні надпіс акрэслівае гады нараджэння і смерці юнака і расказвае пра гора бацькоў. Калі б мы болей шанавалі нашы айчынныя памяткі, гэты помнік заслугоўваў бы таго, каб ён быў перамаляваны і ўвекавечаны на літаграфіі, тое ж трэба сказаць і пра другі помнік, які знаходзіцца тут жа, — барэльеф з выявай укленчанага Мікалая Крыштофа Радзівіла ў пілігрымскім плашчы, у капелюшы, з кіем і ружанцам. Час не ашчаджае цвёрдых камянёў, а надпіс бывае больш трывалы, чым мармур. Гэта можа пацвердзіць і трэці прыгожы барэльеф яшчэ аднаго надмагільнага помніка. Гэта — помнік другому сыну Мікалая Крыштофа, што памёр у калысцы. Долата мастака па-майстэрску адбіла вобраз маленькага дзіцяці і яго вечнага ложа, але мармур пакрышыўся і засталіся толькі рэшткі гожага помніка. А можа, якраз у пашкоджаным месцы і было імя мастака, а калі гэтае імя было польскае — у такім разе двайная страта для нашчадкаў. Партрэт Эльжбеты Вішнявецкай, жонкі Мікалая Крыштофа, намаляваны на сцяне і выцерты плячамі набожных, заслонены спавядальняй. З іншых рэчаў былой езуіцкай святыні, якія заслугоўваюць упамінання, можна назваць фрэскі не надта яшчэ дасканалай работы езуіцкіх часоў на скляпеннях з выявамі сцэн са Святога Пісання, запыленыя партрэты Мікалая Крыштофа

* Абраз перанеслі ў плябанію і заставілі якімсьці іншым абразам у алтары, дзе адпраўляецца імша.

Радзівіла і яго жонкі, якія стаяць каля касцельных дзвярэй, а таксама аксамітныя, з залатымі галунамі пакрывалы, падараваныя Радзівіламі для заслоны — ад столі да долу — прэсвітэрыі ў час вялікіх урачыстасцяў. Існуе паданне, што падобнымі пакрываламі абівалі некалі ўвесь касцёл, прынамсі, усе яго тоўстыя чатырохкутныя калоны, — але чаго толькі на рахунак падання не ўскладае народ! Карціны і статуі іншых бакавых алтароў не ўяўляюць мастацкай вартасці.

Пад адным з такіх алтароў ёсць дзверы і лесвіца да радзівілаўскіх грабніц. Ветлівае касцельнае начальства не адмаўляецца адкінуць гэтых таемных дзвярэй перад цікаўнымі і павадзіць іх між грабніц. Ёсць там алтар, перад якім у пэўны дзень кожнага года правіцца набажэнства за памерлых Радзівілаў. А бліжэй, за кратамі, у доўгіх лёхах цягнуцца шэрагі вельмі дагледжаных свінцовых альбо дубовых княскіх трун, акутых латуннымі скобамі. З іх, як з генеалагічнай табліцы, можна даведацца пра ўсе пакаленні магутнай сям'і. За якія хвіліны можна абысці некалькі эпох у гісторыі Радзівілаў — ад Сіроткі да Пане Каханку. Тут прыходзяць звычайныя, але абвостраныя думкі пра людскую фанабэрыю, пра марнасць чалавечага жыцця, схіляючы да заўсёднай пакоры перад Богам. Дык ушануйма ж вечную цішу памерлых, а вяртаючыся назад і праходзячы каля труны Мікалая Крыштофа, якая месціцца бліжэй да капліцы, возьмем сабе хоць крышку дабраты і высакародства гэтага пана, якога шанавалі за хрысціянскае сэрца. Вось у грабніцах, якія ён змураваў для сябе і для сваёй сям'і, у грабніцах, куды не маглі трапіць не ўзвышаныя княскім тытулам Святой Рымскай імперыі астанкі, усё ж дазволіў пахаваць побач з сабой вернага гайдука, які суправаджаў яго ў паломніцтве да Іерусаліма. Нам невядома імя гэтага вернага слугі, але хоць ён не быў шляхцічам, пан, які меў да яго сардэчную прыязнасць, лічыў яго членам сваёй сям'і. Наступныя пакаленні таксама належным чынам ушанавалі гэтага гайдука, і дагэтуль доўгая труна, якая сведчыць аб яго незвычайным росце, стаіць побач са свінцовай трунай князя Сіроткі.

Ад грабніц выйдзем цяпер на свежае паветра і агледзім іншыя нясвіжскія касцёлы.

Перад намі — падноўленая пры дапамозе белай і блакітнай фарбаў святыня бернардзінцаў, правільнага, але нічым асаблівым не прыметнага архітэктурнага стылю; у ёй няма той велічнай таямнічай красы, якою каталіцызм звык уздзейнічаць на сэрцы тых, хто заходзіць у такое святое месца; затое ўсе абразы святыні маюць адметную мастацкую вартасць. Шкада, што

невядома імя мастака, які іх выканаў. Малюнак — правільны, пэндзаль — роўны, можа, нават залішне, прываблівае гульня святлоценяў, прыгажосць і праўда. Тут знаходзяцца пяць такіх абразоў, а канкрэтна — выявы розных асоб, сярод якіх — святая Кацярына-пакутніца ў хвіліну, калі дзявочая грамадка пераконвае сівабародых мудрацоў у праўдзівасці веры; паказаная на ўвесь рост Матка Боская, якая наступае на месяц, — гэта найбольш выдатны з усіх абраз; святая Ганна на фоне прыгожага краявіду; святы Антоні і святы Францішак Серафічны, з ран якога, як з ран Хрыста, пырскае праменне святла.

Касцёл дамініканцаў на рынку з характэрнымі архітэктурнымі рысамі асабліва цікавы абразамі 70-гадовага Юзафа Гескага, які быў тэрцыярам ордэна святога Дамініка, памёр на пачатку гэтага стагоддзя ў Нясвіжы і амаль усе апошнія хвіліны жыцця прысвяціў тутэйшаму касцёлу. Усё, што тут ёсць, — фрэскі з гісторыі ордэна на скляпеннях касцёла, абразы алтара (адноўленыя), партрэт святога Яцка, што вісіць у касцёле каля амбона, бюсты патронаў ордэна, якія ўпрыгожваюць калідоры кляштара і трапезную, — носіць характэрныя рысы яго роўнага, дакладнага пэндзля, часта натхнёнага святой энергіяй і запалам.

Ёсць у касцёле, у так званым Ружанцовым алтары, і твор іншага мастака: гэта бюст Маткі Боскай са складзенымі ў малітве рукамі і галавою, ахінутай белым празрыстым пакрывалам. Пра гэты твор у кніжцы «Прэрагатыва прапаведніцкага закону» ксяндза Юзафа Шымака знаходзім легенду, якая была заснавана на шчырай веры, а таму не вытрымлівае сённяшняй рацыянальнай крытыкі.

Было гэта задоўга да 1672 года, калі Базыль Баканоўскі заснаваў касцёл дамініканцаў. На яго месцы раней стаяў палац Зыгмунта Кароля Радзівіла, мальційскага рыцара, які памёр у 1642 годзе. Пры езуіцкім касцёле жыла святоша, званая Шыеруўна. Як і ўсе святошы, яна верыла ў сны і ў розныя цуды. Аднаго разу прыснілася ёй Матка Боская, якая быццам бы сказала пайсці ў замак і папрасіць стары, аднесены з іншымі непатрэбнымі рэчамі на гарышча яе абраз, што павінен быў захоўвацца ў белых манахаў, пра якіх тады ў Нясвіжы яшчэ і не чулі. Святоша пайшла ў замак, знайшла той абраз, папрасіла яго для сябе і папрасіла семінарыста, які вучыўся ў бернардынцаў, паднавіць яго. Семінарыст, хоць не дасканала валодаў сваім рамяством, на здзіўленне вельмі хораша аднавіў абраз (і праўда, ён някепска адноўлены). Гэты поспех мастака-семінарыста айцы ўзялі за першы довад цудадзейнасці абраза. Ксёндз-

рытар езуіцкай калегіі выпрасіў у Шыеруўны абраз для алтара ў студэнцкай капліцы і хацеў яго назаўсёды захаваць у калегіі, але ў тым часе з’явіліся ў Нясвіжы дамініканцы, і святоша, выконваючы пачуты ў тым сваім сне загад, памясціла абраз у іх першым, драўляным касцельчыку.

Варта згадаць тут яшчэ пра колькі гіпсавых статуй, драўляны амбон, аздоблены разьбой, а таксама два партрэты над рызніцай, адзін — гетмана Міхала Казіміра Радзівіла, другі — Базыля Баканоўскага, падчашага смаленскага, фундатара.

У кляштары, які некалі, пасля заняпаду езуітаў, меў школы, спачатку гімназічную, а потым павятовую, захавалася яшчэ невялікая бібліятэка, дзе сабраны творы маральнага і аскетычнага зместу. Не помню, ці было там што-небудзь з бібліяграфічных каштоўнасцяў, апроч вершаў Кахаоўскага першага выдання і аддзела забароненых кніг, дзе магло захавацца што-небудзь з твораў іншаверцаў XVI стагоддзя, якія артадаксальная стараннасць пазнейшай эпохі нішчыла і паліла.

Касцёл бенедыкцінак з кляштарам, які меў, верагодна, бібліятэку і цікавы архіў ордэна, нельга было належным чынам вывучыць, бо мужчын туды не пускалі. Абразы ў святыні не заслугоўваюць асаблівай увагі, а агульны выгляд касцёла такі ж змрочны, як і статут ордэнскіх маладзіц, тут можна ўбачыць мноства дробных цікавых упрыгожанняў — дотык мілых жаночых рук.

З найбольш цікавых муроў Нясвіжа патрэбна назваць гарадскую ратушу, высокая вежа якой колькі дзясяткаў гадоў узвышалася над іншымі вежамі горада, але, пашкоджаная пажарам у 1836 годзе, была няўдала прыкрыта нечым падобным на каптурык дашкам і замест колішняй велічнасці мела цяпер смешны выгляд. Яшчэ неабходна адзначыць мураваную краму побач з гэтай ратушай, стары радзівілаўскі палац, у якім некалі быў тэатр, і пры ўездзе са Слуцка браму ў форме аркі з капліцай і абразом Маткі Боскай, над якой відаць горды надпіс: «Restauratum anno Domini 1787 dominante Principe Carolo secundo» (пад час панавання князя Караля Другога). Так па-манаршаму тытулавалі сябе Радзівілы. Заўважу, што надпіс на браме пакінуў той самы магнат, які казаў: «Кароль сабе каралём у Варшаве, а Радзівіл у Нясвіжы».

З бліжэйшых ваколіц вартая ўвагі гістарычная Альба — радзівілаўскі звярынец з руінамі летняга палаца князёў, што да нядаўняга часу пуставаў і толькі цяпер нейкі спекулянт перарабіў яго на простую гаспадарчую ферму, таму палац пазбавіўся

найпрыгажэйшай сваёй аздобы: ценю раскошных ліп і бяроз, якія помнілі яшчэ тыя часы, калі хараство цудоўнай прыроды цанілася вышэй за дробныя ад яе прыбыткі.

З другога боку горада відаць пахмуры хвойнік, над якім маляўніча высоўвае галаву невялічкая вежа ксяндзоў-бенедыкцінаў і бялеюць муры іх кляштара. Гэта — Святы Крыж, прывілеяваны могільнік усяго горада. На высокай гары стаіць мураваны касцёл, побач з ім — кляштар. Чароўны, эфектны выгляд. Навокал святыняў — лес, а ў лесе — горад мёртвых, прах некалькіх пакаленняў, магіла на магіле, помнік пры помніку. Нібы спрачаючыся са змрочнымі думкамі, што апаноўваюць тут кожнага, у цёмнай гушчыні бяроз, ліп і ляшчын весела, на розныя галасы выспеўваюць свае шчаслівыя песні салаўі і іншае птаства. Толькі дзякуючы вышэйшай веры можна зразумець такі дзівосны кантраст — у хрысціянстве няма смерці, у агульнай гармоніі сусвету бясконца доўжыцца вечнае жыццё, а жыццё гэтае з магіл, са смерці бярэ свой пачатак.

Згадаем яшчэ на другім баку дарогі, што вядзе на Слуцк, на самым высокім у ваколіцы ўзгорку, якраз насупраць Святога Крыжа, пабудаваны ў пачатку XVIII стагоддзя мураваны касцёл святога Міхала, пры якім было паслушніцтва езуітаў. Касцёл пазбаўлены цяпер сваёй вежы і пераўтвораны ў склад пораху і вайсковай амуніцыі: ад калегіі ж няма і следу. Паводле падання, ад гэтага касцёла аж да езуіцкай калегіі ў горадзе цягнуліся пад возерам падземныя лёхі, па якіх наладжваліся працэсіі. Ці ёсць якая праўда ў гэтым паданні? Ці, можа, яно прыдумана для ўзвелічэння езуітаў? А калі ёсць у ім праўда, чым тады растлумачыць імкненне езуітаў хавацца пад зямлю ад людскіх вачэй і сонечнага прамення? Сёння, калі эпоха езуітаў адышла ў гісторыю, як святы Міхал ад Нясвіжа*, калі на іх падземныя лёхі і падземную палітыку час насунуў сваю заслону, можна гадаць па-рознаму, але цяжка знайсці ўсяму адгадку, даведацца, як было папраўдзе.

Звернемся ж да старых часоў Нясвіжа і накрэслім яго хроніку.

---

* Тутэйшая прымаўка, вядомая на Літве.

# II
# ХРОНІКА МІНУЛАГА НЯСВІЖА

Усё, што ў мінулым, мае сваю гісторыю.
Новыя гмахі маўчаць, руіны гавораць.

*М. Вішнеўскі[42]. Гісторыя літаратуры. Т. 2.*

## § 1. Узвышэнне горада (1224–1650)

*Даўнія нясвіжскія князі. — Кішкі і Радзівілы. — Мікалай Радзівіл Чорны і яго палітыка. — Кальвінізм і арыянства. — Нясвіж да Мікалая Крыштофа. — Мікалай Крыштоф Радзівіл. — Езуіты. — Першае кіраванне горада — сацыяльныя, рэлігійныя, гаспадарчыя арганізацыі. — Нашчадкі Мікалая Крыштофа. — Эпідэміі. — Памятныя выпадкі да другой паловы XVII стагоддзя.*

У гэтых мясцінах, як ужо згадвалася, былі спрадвеку паселішчы славян, што межавалі з літвой. Жылі яны пад кіраваннем сваіх гмін, гаспадароў і князёў, якія ў сваю чаргу былі ў залежнасці ад больш магутных уладароў Кіева, Галіча, Уладзіміра альбо Мінска, потым, у першай палове XIII стагоддзя, сталі падуладнымі вялікім князям літоўскім. У рускіх летапісах ёсць згадка пра Юрыя, нясвіжскага князя, які каля 1224 года загінуў у бітве з татарамі. У апошнія гады палітычнага існавання Літвы нясвіжскія князі былі вядомымі баярамі, а ў 1388 годзе, калі Літва аб’ядналася з Польшчай, нясвіжскія князі Грыгорый і Ян, якія панавалі тут ад імя Дзмітрыя Карыбута, уладара Ноўгарада-Северскага, паставілі свае пячаткі на акты, даказваючы тым самым сваю і свайго пана вернасць Уладзіславу Ягайлу[43] і каралеве Ядвізе.

Каля 1430 года ў Нясвіжскім удзельным княстве панаваў Федзька, сын Карыбута Альгердавіча, пра якога мы ведаем, што ён заснаваў горад Вінніцу на Падоллі, якое было далучана ў 1395 годзе Вітаўтам да Літвы. Федзька ўзамен страчаных там уладанняў змог атрымаць ад дзядзькі Нясвіж з ваколіцамі. Сынам Фёдара быў Дашка, сынам Дашкі — Васілій, князь Нясвіжскі, — яны, як сведчыць Папроцкі, і былі пачынальнікамі княскіх родаў: Збаражскіх, Вішнявецкіх, Порыцкіх і Варанецкіх, але Нясвіж ад іх адышоў, перайшоўшы ва ўласнасць Кароны. У

канцы XV стагоддзя польскі кароль Аляксандр аддаў яго магутнаму ў Літве роду Кішкаў, пра што сведчыць збережоны ў архіве лацінскі прывілей, дзе гаворыцца, што ён дадзены ў 1492 годзе ў суботу ў Троках перад днём святога Марціна Пятру Іванавічу Кішку з Цеханоўца на валоданне вотчынамі: Нясвіж, Крутыбрэг, Чучэвічы, Папорце. Гэты ж Пётр Іванавіч Кішка ў наступным годзе ад таго ж караля Аляксандра атрымаў пацвярджэнне на ўладанне Алыкі, а таксама Лахвы з маёмасцю, якія ён займеў ад Казіміра Ягелончыка.

Нясвіж заставаўся ў руках дому Кішкаў каля сарака гадоў, аж да 1533 года, калі Ганна Кішчанка, выйшаўшы замуж за Яна Мікалаевіча Радзівіла, кашталяна трокскага і маршалка літоўскага, празванага Барадачом, прынесла ў пасаг Радзівілам Нясвіж, Алыку і палову Лахвы.

Радзівілы яшчэ з язычніцкіх часоў былі вядомыя як слаўныя літоўскія мужы. Яны, праўда, не паходзілі ад Ліздзейкі, галоўнага жраца Літвы, і не ад яго ўзялі сваё прозвішча, паводле падання, быццам бы адзін з іх радзіў Гедыміну заснаваць Вільню. Гэтую легенду стварылі пазней езуіцкія панегірысты, не карыстаючыся аўтэнтычнымі крыніцамі, з якіх відаць, што Радзівілы паходзілі ад нейкага Войшміда, а сваё прозвішча як чыстай крыві літвіны ўзялі, без сумнення, з літоўскай, а не польскай мовы. Гэта быў на Літве славуты род. Першы з вядомых у гісторыі нашчадкаў Войшміда — Радзівіл, які пры святым хрышчэнні атрымаў імя Мікалая, падпісаў у 1401 годзе унію Літвы з Польшчай. Памёр ён у 1460 годзе. Яго сын Мікалай (II), віленскі ваявода і канцлер літоўскі, ад свае жонкі Соф'і Монвід меў чатырох сыноў: Мікалая, які згодна з прывілеем імператара Максіміляна ад 1518 года пісаўся князем Ганёндзы і Мэдэлі (тытул гэты ў другім пакаленні знік), Альбрэхта, які быў у 1508–1519 гадах віленскім біскупам і атрымаў прыгожае імя Бацькі ўбогіх*, Юрыя, праслаўленага геройскімі ўчынкамі пры Жыгімонце I, гетмана літоўскага, родапачынальніка пазнейшай біржанскай лініі, і вядомага нам ужо Яна Барадача.

У самым пачатку XVI стагоддзя мы бачым магутнасць Радзівілаў. Ужо не кажучы пра вялікія ўладанні і пра тытулы, відаць, што не абы-якія пасады ў Літве мелі гэтыя чатыры сыны

* М. Балінскі беспадстаўна называе яго князем Алыкі і Нясвіжа, бо тыя ўладанні праз чатырнаццаць гадоў пасля яго смерці адышлі да Радзівілаў, а праз дваццаць восем атрымалі тытул княства (Гісторыя горада Вільні. Т. 1. С. 224).

Мікалая II Радзівіла. Мікалай быў віленскі ваявода і канцлер, Альбрэхт — біскуп, Юрый — віленскі кашталян, маршалак. Больш высокіх сенатарскіх пасад не было ў Літве. Радзівілы былі ўсім, палова Літвы апынулася ў іх руках, на другую яны аказвалі свой пераважны ўплыў як найвышэйшыя чыны Літвы, не вельмі моцна яшчэ з’яднанай з Польшчай.

У такім вось доме, у Нясвіжскім замку, драўляным яшчэ, але вядомым сваім багаццем і славаю, нарадзіўся Мікалай Радзівіл, празваны Чорным, славуты вучонасцю, вялікім дыпламатычным талентам, заможнасцю, уплывам на двор, сваяцтвам з каралём Жыгімонтам Аўгустам. У 1547 годзе як пасланец караля ад імператара Карла V Мікалай Радзівіл Чорны атрымаў тытул алыцкага і нясвіжскага князя — для сябе і сваіх нашчадкаў. Гэты замежны тытул не дадаваў яму дома ніякіх правоў, але надаваў магнату большай вагі і велічы ў вачах шляхты. Там, дзе няма сапраўдных фактаў, гісторык не мае права выносіць нейкай з’яве свой прысуд, але ён можа выстаўляць уласныя меркаванні, гіпотэзы, не прэтэндуючы на канчатковую ісціну.

Да такіх неадкінутых гісторыяй гіпотэз можна аднесці намеры Мікалая Чорнага ў яго стаўленні да Літвы. Зямля Альгердаў пры Ягайле і яго наступніках не хутка ўваходзіла ў лона сваёй старой сястры Польшчы, з якой потым ішла адной палітычнай дарогай долі і нядолі. Пры Ягайле, родныя і стрыечныя браты якога змагаліся за Карону, яна прыпісвала свае няўдачы палякам. Няўдачлівы Казімір Ягелончык тысячу разоў сварыў два толькі што пабратаныя плямёны, абвастраючы адносіны паміж імі; пры Жыгімонце I, парушаючы унію, пра якую марылі патрыёты свайго краю, Літва вечна перамаўлялася з Польшчай словамі, паводле дасціпу чарналескага паэта: «Толькі вайна са скандалам». Жыгімонт Аўгуст, якому надакучылі соймавыя буры з нагоды жаніцьбы з Барбарай Гаштольдавай, гразіўся, што кіне Польшчу і перабярэцца ў Вільню панаваць над сваімі вернымі ліцвінамі. Замест абмежаваных каралеўскіх правоў у Кракаве і гучных шляхецкіх з’ездаў і соймаў, якія зрываліся магутнымі магнатамі, у Вільні Ягелоны мелі права на спадчыну, усеагульную пашану і неабмежаваную паслухмянасць. Пра падзел дзвюх краін, як відаць, не раз марылі стомленыя барацьбой з народам манархі Ягелоны. Норавы і звычаі Літвы не дазвалялі хутка зрасціся ёй з блізкай сваім паходжаннем краінай, таму і літоўскія магнаты адкрыта і патаемна ўздыхалі па падзеле. Але, не зважаючы на тыя непрыемнасці, якія прыносіла унія, Жыгімонт Аўгуст быў дастаткова мудры, каб бачыць палітычныя перавагі еднасці,

дастаткова шляхетны, каб нечым ахвяраваць асабіста. Так што, паўздыхаўшы па свабодзе літоўскіх лясоў, на практыцы шмат рабіў для з'яднання дзвюх краін, для іх умацавання. Таму ліцвіны, якія хацелі аддзяліцца ад кароны, не маглі спадзявацца, што іх князь і адначасова польскі кароль стане на чале іх. Другім пасля караля па моцы, багацці і асабістых вартасцях быў Мікалай Чорны. У спрэчках караля з народам наконт жонкі Радзівілы выпрабавалі сваю моц, не дзіва, што ў ганарыстай галаве Мікалая Чорнага магла нарадзіцца думка пра незалежнасць літоўскай кароны ад Польшчы. Ён прыкладаў усе сілы, каб сарваць унію, а паколькі меў немалую моц, уплыў на караля і найвышэйшы ў Літве чын віленскага ваяводы, дык у яго былі ўсе падставы спадзявацца, што яго мара пра незалежнасць рана ці позна, а здзейсніцца. Народу, якому паўтара стагоддзя свяціла ўжо сонца вышэйшай цывілізацыі, цяжка было загадаць, каб ён ізноў вярнуўся ў лясы, запаліў агонь Зніча і чалом біў Перуну. Радзівіл не думаў пакідаць у Літве каталіцызм, хоць якраз у імя рымскай веры аб'ядналіся дзве краіны, якія мерыўся падзяліць. Бо каталіцызм быў верай палякаў, а ён не хацеў, каб Літва мела з імі што-небудзь агульнае. Ён пачаў прыглядацца да іншавер'я, што распаўсюджвалася ў гэты час у Еўропе, і каля 1554 года сам прыняў вучэнне Кальвіна і паволі пачаў пашыраць яго ўсякімі магчымымі сродкамі па Літве, сродкамі, якіх у яго руках было аж занадта многа. Іншыя літоўскія магнаты, не здагадваючыся пра намер Радзівіла, імкнучыся патрапляць духу часовай моды, працавалі ў яго кірунку, прымалі пратэстантызм, садзейнічалі яго пашырэнню ў сваіх уладаннях. Радзівіл заснаваў у Вільні ў сваім доме насупраць касцёла святога Яна другі на Лукішках гельвецкі збор, прывёў туды двух старанных празелітаў пратэстанцтва Вандрыхоўскага і Чаховіча, у Брэсце, не шкадуючы выдаткаў, згуртаваў магутныя разумовыя сілы з пратэстантаў, каб яны працавалі над рэдагаваннем перакладу Біблії, пабудаваў збор у Клецку, на чале якога паставіў Тамаша Сакалоўскага (Фалконюша), узнёс зборы ў Койданаве, Свержні, Дзераўной і іншых сваіх уладаннях, а ў Нясвіжы, які быў у яго часы, можна сказаць, другой сталіцай Літвы, акружыўся духавенствам новай веры, якое ўзначаліў Ваўжынец Крышкоўскі з Вялікай Польшчы, заўзяты палемік, аўтар гутаркі чатырох братоў Вальдэнскіх, перакладчык гутарак філосафа святога Юстына з жыдом Трыфанам і памочнік Буднага ў перакладзе вядомай Нясвіжскай Біблії. Гэтак жа, як і Радзівіл, Крышкоўскі зрабіў магутны ўплыў на ўсіх бліжэйшых грамадзян, асабліва на братоў Войцеха і Марціна

Кавячынскіх, вяльможных слуг і верных выканаўцаў волі Радзівіла. Пад уплывам Крышкоўскага Кавячынскія заснавалі ў Нясвіжы друкарню, запрасіўшы ўзначаліць яе вядомага ў друкарскай справе ў Польшчы Даніэля Лянчыцкага. У гэтай друкарні апрача менш значных рэлігійна-палемічных твораў выйшаў перадрук з Брэсцкай Бібліі — «Новы запавет, дакладна перакладзены з грэчаскай мовы на польскую» (надрукавана ў Нясвіжы ў 1563 годзе друкаром Даніэлем).

Тым часам палітычная сітуацыя змянілася і пра ўтварэнне асобнай літоўскай дзяржавы ўжо нельга было думаць, бо ў 1564 годзе Мікалай Радзівіл Чорны памёр, а маладыя яго сыны Мікалай Крыштоф, Юрый, Альбрэхт і Станіслаў былі заняты адны вучобай, другія — грамадскай працай. Кавячынскія ж сталі ўсеўладнымі кіраўнікамі Нясвіжа і радзівілаўскіх уладанняў, а грамадская ўзбуджанасць, выкліканая рэлігійнымі спрэчкамі, прайшла не вельмі хутка. Адзін раз парваўшы з вучэннем, тэолагі не маглі ўжо затрымацца ў межах чыстага кальвінізму. Навука Соцына адкрывала новую арэну для тэалагічнай думкі, і Нясвіж дзякуючы намаганням Кавячынскіх, Лянчыцкага, Крышкоўскага, Фалконюша, Буднага, Паўлі стаў шырокавядомым ачагом арыянства ў Літве. Не гуляла друкарня Лянчыцкага: тут быў перш за ўсё паўторна аддрукаваны брэсцкі «Новы запавет» (1586), выдадзены «Катэхізіс» Буднага і двойчы выйшла Нясвіжская Біблія, над перакладам якой некалькі гадоў працавалі Кавячынскія, Крышкоўскі і Будны і якая носіць імя Буднага як галоўнага перакладчыка. Нясвіжская Біблія як надзвычай важны помнік рэлігійнай барацьбы, польскай мовы і нават друкавання ў мінулым заслугоўвае шырокага даследавання, якое, аднак, тут будзе не да месца. Вернемся да гісторыі Нясвіжа.

Надзелены тытулам княства, Нясвіж, гэтае гняздо магутнага роду, прыстанак арыянства ў Літве, быў драўляным горадам, падзеленым на дзве часткі — на стары і новы горад. Жыхарамі яго былі хлебаробы-хрысціяне, княскія слугі і жыды, якія вялі шырокі гандаль з Руссю. Непадалёку ад горада высіўся драўляны замак (можа, частка сцен была ў ім і мураваная), што быў пабудаваны згодна з прывілеем Жыгімонта Аўгуста, дадзеным у 1551 годзе ў Вільні Мікалаю Чорнаму і аднесеным у галоўны архіў прывілеяў, якія служылі Літоўскаму княству (знойдзеныя тут літоўскія паперы могуць пацвердзіць меркаванне пра надзеі Мікалая Чорнага незалежна панаваць над Літвой). Горад карыстаўся ўжо некаторымі гандлёвымі прывілеямі, нададзенымі яму каралём, але ён не быў яшчэ вызвалены ад

земскіх законаў і звычаяў. У горадзе ўзнёсся парафіяльны касцёл Святога Духа, які стаў потым гельвецкім зборам, і старажытная грэчаская царква Нараджэння Найсвяцейшай Панны («Рождества Пречистой»). Было гэта яшчэ невялікае сціплае мястэчка, якое хутка вырасце і праславіцца.

Тым часам малады ўладар Нясвіжа Мікалай Крыштоф ужо адведаў двор імператара Максіміляна, праявіў сябе пад кіраўніцтвам Рамана Сангушкі ў рыцарскай прафесіі, быў пасланцом у Парыж для запрашэння на трон Генрыха Валуа і браў удзел у выбарах Стэфана Баторыя. На Стэнжыцкім з’ездзе ён захварэў. У сваёй хваробе ён убачыў Божую кару за свавольствы маладосці і за адрачэнне ад каталіцызму. Ён адклікаў дыпламатычнага прадстаўніка, прыняў святое прычасце паводле каталіцкага абраду з рук Пятра Скаргі і прысягнуў, што калі выздаравее, то наведае магілу Збавіцеля ў Іерусаліме. Паправіўшыся, прымаў удзел у войнах Стэфана Баторыя з Іванам Грозным і ў 1582 годзе выбраўся ў сваю набожную вандроўку. Калі чытач хоча даведацца пра прыгоды яго двухгадовага падарожжа, можа пачытаць кнігу «Вандроўка», якую ён напісаў па-польску і якая не належыць да бібліяграфічных рэдкасцяў, бо з польскага арыгінала, аддрукаванага ў невялікай колькасці экзэмпляраў, Тамаш Трэтэр пераклаў яе на лацінскую мову, а Анджэй Варгоцкі ізноў на польскую, — якраз нядаўняе выданне гэтага перакладу і ёсць у нас (Вроцлаў, у Схлеттэра, 1847).

7 ліпеня 1584 года вярнуўся Радзівіл у Нясвіж, і гэтае вяртанне паклала пачатак новай эпохі ў гісторыі горада — калыскі роду Радзівілаў. Перш за ўсё на месцы даўняга, вельмі ўбогага, не адпаведнага княскай велічы мястэчка ён заклаў 8 мая падмурак Нясвіжскага замка. Потым пачаў знішчаць з такой стараннасцю створаныя бацькам усе помнікі пратэстанцтва, паліць на рынках у Вільні і Нясвіжы Брэсцкую і Нясвіжскую Біблії, замяняць кальвінісцкіх пастараў каталіцкім духавенствам, словам, шумнаму колісь збору арыянаў пачаў надаваць прававерную постаць. Зварот да каталіцызму быў у Польшчы тады ўсеагульны, а апорай Рыму, выразнікамі тэндэнцыі часу былі не хто іншыя, як езуіты. Бліжэйшая шляхта, княскія слугі, мяшчане і сяляне дружна вярталіся ў лона старой веры; у гэтай справе патрабавалася дапамога езуітаў, і Радзівіл выклікаў іх у Нясвіж яшчэ перад сваім падарожжам у Палесціну.

Але выкліканыя, убачыўшы малое і ўбогае, малазабяспечанае мястэчка, не вартае таго, каб засноўваць тут школу, тым больш што яны былі нарасхват (трацішча на езуітаў зрабілася

модай), нібыта доўга не хацелі жыць у гэтым, як піша іхні гісторык Растоўскі, вясковым зацішку (ruralis solitudo). Паміж Радзівілам і генералам ордэна вяліся доўгія перамовы. Убачыўшы, што намаганнямі Мікалая Крыштофа горад увачавідкі расце, езуіты згадзіліся паслаць сюды двух сваіх братоў — Войцеха Мрашкоўскага і Крыштофа Астроўскага, «як найбольш дасведчаных у божым вінаградніку працаўнікоў». Было, аднак, гэта падвышэнне ў цане езуітаў перабольшанае. Яшчэ ў час вандроўкі да Святой зямлі прыданыя Радзівілу два езуіты Леанард Паціфікус Сіцылійчык і Ігнацы Іспанец добра настроілі набожнага Радзівіла імкнуцца нават коштам найцяжэйшых ахвяр для ўзвелічэння горада замацаваць у ім езуітаў. Пасля доўгіх нараканняў на дзікае і глухое месца, на цеснату жылля і недастатковае забеспячэнне езуіты, нарэшце, адкрылі ў 1584 годзе пачатковую школу граматыкі і казанямі пачалі прываблівацць люд. Праз два гады пачалі закладваць падмурак касцёла, але самі езуіты і іхні своеасаблівы пратэктар кардынал Юрый Радзівіл, брат Мікалая Крыштофа, былі ім незадаволены, таму пачалі закладаць яго іначай, у выніку кутні камень быў пасвечаны аж у 1589 годзе. Тым часам Мікалай Крыштоф адарыў езуітаў сапраўды па-каралеўску, запісаўшы на іх буйное ўладанне Ліпскае, гэта значыць вёскі Туховічы, Свецічы, Навасёлкі, Раздзяловічы, Заліпене, Залучу, Ушанку і Рудаву, адносячы гэтае сваё наданне да тых саслоўяў дзяржавы, якія санкцыянавалі яго і тым самым вызвалілі езуітаў ад вайсковай службы і чыншу, ад усіх павіннасцяў, як гэта было ў маёнтках духавенства. Будаўніцтва касцёла і калегіі цягнулася да лістапада 1593 года. У гэтым годзе касцёл быў пасвенчаны і адчынены для людзей, і значэнне езуітаў павысілася. Яны змаглі схіліць да каталіцкай веры Элеанору з князёў Астрожскіх, удаву Гераніма Язлавецкага, з якой ажаніўся Ян Юрый Радзівіл, сын Мікалая Крыштофа, а таксама вярнулі да новай веры яшчэ трыццаць іншаверцаў. Гэтая стараннасць нясвіжскіх езуітаў яшчэ болей схіляла да іх Мікалая Крыштофа, які ўсяляк садзейнічаў ім: значна павялічыў іх калегію, у ёй можна было змясціць дзвесце асоб, падараваў сваю друкарню, — невядома толькі, ці выйшла ў ёй тады хоць якая важная кніга. У 1590 годзе згуртаванне езуітаў адведаў айцец Людвік Масэлля, прысланы з Рыма ад езуіцкага генерала, пры якім была ўтворана ў Нясвіжы езуіцкая правінцыйная кангрэгацыя, што была гасцінна прынята князем; яе мэтай было аддзяленне Польскай правінцыі ад Літоўскай, бо ў абедзвюх краінах ужо значна вырасла колькасць калегій і

немагчыма было кіраваць імі з аднаго правінцыйнага цэнтра. Раздзяленне адбылося некалькі гадоў пазней.

Задаволіўшы патрэбы роду і зрабіўшы ўсё, што падказвала сумленне, Мікалай Крыштоф Радзівіл пачаў звяртаць пільную ўвагу на горад Нясвіж. Выкліканыя князем з краіны і з-за мяжы рамеснікі і аселыя ў Нясвіжы шматлікія купцы патрабавалі карэннага паляпшэння ўмоў іх жыцця і гарантыі ўсіх іхніх правоў. Цэнячы іх працу, адукаваны гаспадар паехаў да караля Стэфана з просьбай аб наданні Нясвіжу магдэбургскага права, падаўшы яму пры гэтым гатовы праект. І вось 23 красавіка 1586 года Баторый падпісаў у Гродне прывілей для Нясвіжа. Так горад быў прыроўнены да ўсіх каралеўскіх гарадоў у Літве, атрымаўшы магдэбургскае права з апеляцыяй ад магістрата да гаспадара, вызваліўшыся ад усіх іншых айчынных юрысдыкцый — як земскіх, так і гродскіх. Яго жыхары былі вызвалены назаўсёды ад аплаты за грэблі і масты, а ад павіннасцяў, што збіраюцца ў Літве, — на пяцьдзясят гадоў. Прычым былі ўстаноўлены апрача ранейшых яшчэ два новыя кірмашы: адзін — на Сёмуху, другі — перад Божым Нараджэннем; абодва цягнуліся па два тыдні. Гэты каралеўскі прывілей даў пачатак другому прывілею, нададзенаму гораду 18 чэрвеня таго ж года яго гаспадаром — князем Сіроткам; гарантуючы поўнае захаванне са свайго боку і з боку нашчадкаў нададзеных гораду прывілеяў, ён загадаў нясвіжскім мяшчанам кіравацца кнігай «Саксонскае люстэрка» ў перакладзе Паўла Шчэрбіча, выдадзенай у 1581 годзе. Вялікая частка гэтага прывілея вартая нашай памяці. Згодна з ім, уводзілася пасада войта, якому давалася шэсць валок зямлі. У выпадку яго смерці быў вызначаны спосаб выбрання новага войта. Войт і мяшчане выбіралі бурмістра і дарадчыкаў, устанаўлівалася апеляцыя гарадскога кіравання да князя і яго наступнікаў. Паводле гэтага прывілея мяшчане атрымалі ў вечнае валоданне зямельныя надзелы без усякай іх аплаты і поўнае права распараджацца імі. Для сумеснага карыстання ўсяго горада былі аддадзены ўсе бровары, саладоўні, вінакурні, лазні, крамы, яткі, цырульні і воскабойні з іх прыбыткамі. Нарэшце, горад атрымаў у поўнае ўладанне сто валок зямлі — з пэўнымі ўмовамі, а канкрэтна: каб тыя, хто не вызвалены ад чыншу, плацілі па капе грошаў, якія размяркоўваліся, згодна з даўнейшымі княскімі распараджэннямі, на розныя патрэбы. Сабраныя такім чынам сродкі ішлі на гарадскі шпіталь — 40 коп грошаў літоўскіх, на школу — 24, на арганіста — 8 коп, рэшта ж павінна была паступаць у гарадскую скарбонку. Мяш-

чане са сваіх надзелаў абавязаны былі, паводле каралеўскага прывілея, даваць пробашчу да 50 гадоў па грошу, а за сто валок — па карцы жыта. Князі захавалі сабе права збору гандлёвай мыты, падушнай і памернай, але не болей 40 коп грошаў за год, і то толькі ў будучым, пасля пяцідзесяцігадовай волі. Гарадское кіраўніцтва абавязана было пабудаваць мураваную ратушу, дзве брамы — адну большую, пры ўездзе з Міра, а другую меншую — для замыкання горада. Былі ліквідаваны талокі на жніве, якія дагэтуль адбывалі мяшчане, з умовай, каб кожны са свайго надзелу насыпаў вакол першапачатковага горада па адным прэнце валу. Урэшце, князь, жадаючы, каб мяшчане ў знак падзякі каралю за дараваную волю з большай ахвотай будавалі муры, дабіваўся ў гарадскога кіраўніцтва на святога Марціна штогадовай справаздачы перад гаспадаром і горадам пра ўсе даходы і расходы. Князь сачыў, каб людзі ўсіх саслоўяў маглі заўсёды карыстацца нададзенымі правамі. Нават таму, хто ехаў куды-небудзь са сваімі таварамі далёка ад горада, давалася пасведчанне з гарадской пячаткай. І жыды не заставаліся тут абыдзенымі. Яны, праўда, не карысталіся магдэбургскім правам, але затое кіраваліся юрысдыкцыяй замка. Такім чынам, Мікалай Крыштоф быў другім фундатарам і ў нейкай ступені аднаўляльнікам Нясвіжа. Ён залажыў замак, у якім падпісаў згаданы прывілей, пачаў умацоўваць горад, збудаваў і забяспечыў усім неабходным школу і шпіталь. Апрача таго, пры падтрымцы князя было ўтворана брацтва міласэрнасці, бо Сіротка, нягледзячы на ўласцівую яму беражлівасць, меў чулае да чужога гора сэрца і, не адкладваючы ў дапамозе няшчасным, часта казаў: «Няхай мяне не завуць Радзівіл, а рад жывіл».

Кароль Стэфан, зацвярджаючы такія распараджэнні князя Мікалая Крыштофа, надзяліў горад гербам і пячаткай, з выявай: «З аднаго боку на шчыце палавіна чорнага арла, рассечанага ўздоўж, з цэлай галавой, а з другога боку — дзесяць касых палос блакітнага, чырвонага і жоўтага колеру, папераменна размалёваных». Хутка разбудаваны, надзелены свабодамі, Нясвіж стаў галоўным горадам ардынацыі, утворанай 16 жніўня 1586 года сямейным пактам паміж князем Сіроткам і яго братамі Альбрэхтам і Станіславам. Новы ўладальнік маярату, шчыра ўзяўшыся за развіццё горада, выдаў важнае распараджэнне адносна тутэйшых жыдоў. У дадзеным ім прывілеі хацелася б звярнуць увагу на адзін яго пункт. Паводле прывілея, жыды абавязаны былі не толькі на ноч, як звычайна, але і ўсе тры Велікодныя дні — чацвер, пятніцу і суботу — замыкаць з абодвух бакоў сваю вуліцу.

Ключы на гэты час абавязкова здаваліся ў кіраўніцтва замка, якое абавязана было сачыць, каб ніхто з жыдоў не выходзіў у горад і, наадварот, каб распаленыя ўяўленнямі пра пакуты Збавіцеля хрысціяне не кідаліся помсціць нашчадкам ганіцеляў Хрыста. Мудры Радзівіл хацеў папярэдзіць самавольства, можа, не так нясвіжскіх мяшчан, як вучняў езуіцкай школы, не свабодных ад забабонаў часу.

Доўга можна было б пералічваць грамадскія, гаспадарчыя, сямейныя і рэлігійныя новаўвядзенні Крыштофа Радзівіла; гэтае клапатлівае, поўнае боязі Бога і хрысціянскай міласэрнасці спагадлівае сэрца дачакалася жаданага плёну сваёй працы. Разгледзім іншыя важнейшыя яго новаўвядзенні ў Нясвіжы. Ён заснаваў пры езуіцкім касцёле брацтва міласэрнасці, прызначыў пад назвай Montis pietatis*[44] сродкі на пажыццёвае забеспячэнне

---

* Не маючы пад рукой фундацыі Montis pietatis у Нясвіжы, але жадаючы даць чытачам уяўленне пра падобнага роду ўстановы міласэрнасці нашых продкаў, прывядзём тут апісанне ўтворанага ў 1690 г. у Алыцы ахвярнага фонда Альбрэхта Станіслава Радзівіла і яго жонкі Кацярыны з Любамірскіх: «Жадаючы даць з нашых прыбыткаў дапамогу і пасаг убогім паненкам, якім сорам не дазваляе ісці жабраваць і беднасць якіх прычыняе ім многа ліха… ахвяруем і запісваем… сорак тысяч злотых польскіх, з якіх кожны год на дзень нараджэння святога Яна Хрысціцеля будзем аддаваць для іх на рукі пробашча чатыры тысячы злотых на правізію. Выбраць дванаццаць паненак — шэсць шляхецкага і шэсць простага саслоўя, даць па 500 злотых першым і па 100 злотых другім. Для іх пасагу даць ксяндзу пробашчу 100 злотых, капітуле — 200 злотых, а астатнія 100 злотых — на абед паннам. Гэты абед наладзіць адразу пасля ўручэння пасагу… Каб здзяйснялася ўсё гэта найлепшым чынам… павінны адбыцца выбары паненак, якім будзе прызначаны пасаг. На цырымоніі выбараў будуць прысутнічаць: пробашч з васьмю прэлатамі і дзясяты пан, уладар Алыкі альбо яго намеснік. У дзень уручэння пасагу яны сыдуцца ў ратушы і адтуль пад вянкамі, з якімі звычайна бяруць шлюб, пойдуць у касцёл на імшу. І там перад вялікім алтаром — шляхцянкі з правага боку, а з левага дзяўчаты простага саслоўя — з запаленымі свечкамі на працягу ўсёй імшы будуць стаяць на каленях і, папярэдне паспавядаўшыся, прымуць прычасце, а яшчэ прамовяць літанію пра святую Панну, пасля чаго ксёндз пробашч з капітулай і пан ці яго намеснік сядуць на табурэткі і сам пробашч перадасць у апячатаных пакетах пасаг. Пасля маёй смерці гэтая цырымонія павінна быць праведзена перад пахавальнай працэсіяй, пасля якой панны адразу пойдуць у капліцу святой Аргенціны, дзе я буду ляжаць, і там услед за святаром прамовяць літанію пра Найсвяцейшую Матку за памерлых, потым гэты ж ксёндз, а за ім кожная панна пакропіць труны

бедных паненак, у 1590 годзе разам са сваёй жонкай Яўфіміяй з Вішнявецкіх заснаваў кляштар бенедыкцінак, аддаўшы яму набыты ад слуцкіх князёў Алелькавічаў маёнтак Гавезну (гэта быў першы ў Літве жаночы кляштар). У 1598 годзе ён заснаваў і ўсім забяспечыў кляштар бернардзінцаў і, нарэшце, перадаў уладанні Навасёлкі і Амулынцы ў фонд нясвіжскага плябана, якім павінен быць свецкі святар, прызначаны ад імя езуітаў, — ад іх ён павінен атрымліваць свой дар і ў іх касцёле адпраўляць парафіяльныя абрады, таму што іншага парафіяльнага касцёла не было. Гэты плябан, як бачым, быў стаўленікам езуітаў, бо езуіты стаялі ў той час, можна сказаць, на чале духавенства. Мікалай Крыштоф да такой ступені любіў езуітаў і верыў у іх вучэнне і збаўчыя для хрысціянства намеры, што, як сведчыць тагачасны пісьменнік Каспар Вількоўскі, прыдворны медык Радзівіла, у кнізе «Desidorosus, альбо Сцежка да ласкі Божай» (Кракаў, 1589), «імкнуўся, каб дом пры нясвіжскім калегіуме быў забяспечаны прыбыткамі для пэўнай колькасці маладых людзей, якія вучыліся б набожнасці, каб потым былі добрыя і годныя плябаны ў яго шматлікіх уладаннях». Гэтае імкненне, хоць яно і не здзейснілася, паказвае на вялікую перавагу езуітаў ва ўплыве на грамадскую думку краю, такую, што нават свецкая семінарыя пачынала ім верыць. Дык ці ж дзіўна, што езуіцтва так хутка рабіла поспехі?

Хіба ж патрабуе каментарыяў гэтая святая фундацыя ці гэты мілы абрад? Звяртаем толькі ўвагу чытачоў на тое, што і дочкі простага люду мелі права карыстацца такім забеспячэннем.

Мікалай Крыштоф Радзівіл стварыў тутэйшую краіну, якая яшчэ нядаўна была лясной пустэчай. На колькі міляў наўкол скупіўшы зямлю і маёнткі ў дробнай шляхты, пачаў па-сапраўднаму там гаспадарыць, удыхнуў новае жыццё ў горад, змяніўшы ўвесь яго выгляд. Сам жа гаспадар, які, паводле сведчання Вількоўскага, у першы год пасля свайго пераходу ў лона каталіцызму ледзьве змог восем асоб далучыць да свайго прычасця на Вялікдзень. Паміраючы, ён бачыў, задаволены, як да некалькіх збудаваных ім каталіцкіх святыняў збіраліся на малітву тысячы людзей. Памёр Мікалай Крыштоф Радзівіл у 1616 годзе. Калі ён паміраў, пры ім былі для суцяшэння тры

---

свянцонай вадой і скажа: «Дай ім, Божа, вечны спачынак». Адтуль зноў пойдуць у ратушу і, спажыўшы там абед, разыдуцца куды захочуць. З атрыманым пасагам яны могуць выходзіць замуж, ісці ў манастыр ці жыць паненкамі».

езуіты, вядомыя ў гісторыі нашага пісьменства: Ян Аляндус, яго біёграф і перакладчык «гутарак з самім сабой» (soliloquium) святога Аўгустына пад назвай «Трызны» (каля 1633 года ён быў тутэйшым рэктарам), Марцін Смігельскі, вядомы палкімі і пераможнымі палемікамі з іншаверцамі, і Міхал Орціс Іспанец (двойчы быў рэктарам, памёр у 1637 годзе), вядомы як вучоны муж і надзвычай набожны чалавек. Мікалай Крыштоф спачывае ў грабніцы, якую сам сабе падрыхтаваў. Над ёю мы бачым яго барэльеф і надпіс на латыні: «Advena ego sum, et peregrinus apud te sicum omnes patres mei» — «Я прыхадзень і вандроўнік да сябе, як і ўсе бацькі мае». Сярод мноства пахвал, якія яму пры жыцці і пасля смерці, па-польску і па-латыні, вершамі і прозай пісалі езуіты, хочацца прывесці тут гэтае во прыгожае чатырохрадкоўе:

Templa Deo, turres patriae, Collegia Musis
Aedes afflictis mundae fugisquae, dedit,
Gloria militiae lux pacis, cognitor orbis.
Si deni tales, vicimus Italiam.

(Узнёс святыні Богу, крэпасці айчыне, калегію навукам, прыстанак гаротным і ўцекачам ад свету; быў славаю ў баі, святлом у радзе, адведаў і пазнаў зямлю. Калі б мы мелі двух такіх мужоў, без цяжкасці перагналі б Італію.)

Пасля смерці Мікалая Крыштофа Радзівіла гаспадаром усіх княскіх уладанняў стаў як спадчыннік і кіраўнік нясвіжскага маярату яго сын Ян Юрый Радзівіл, трокскі кашталян, што быў вядомы, паводле сведчання Нясецкага*, распуснымі звычкамі, якія ледзьве прыглушыў толькі перад смерцю. З яго часоў варта згадкі толькі тое, што ў верасні 1617 года Уладзіслаў IV, яшчэ каралевічам, пад час паходу на Маскву адведаў Нясвіж і быў у гасцях у Радзівіла. У калегіуме яго віталі пахвальнай прамовай езуіты, каралевіч даверыў іх малітвам поспех сваёй экспедыцыі**. У горадзе на сустрэчу з маладым рыцарам выйшлі з харугвамі цэхі, на замкавым вале яго віталі стрэламі, а калі на банкеце прагучаў тост у гонар яго каралеўскай мосці, такі быў гром з гармат, што толькі дзе-нідзе ў горадзе вокны засталіся цэлыя. Кашталян трокскі, з вялікай помпай прыняўшы каралевіча і яго прыдворных, падараваў яму для вайны дзве вялікія гарматы***.

* Лейпцыгскае выданне. Т. VIII. С. 73.

** Маскевіч ва ўспамінах.

*** Растоўскі.

Пасля смерці Яна Юрыя Радзівіла (1625), які ад сваёй жонкі Элеаноры Язлавецкай з Астрога не меў патомства, яго малодшы брат, таксама бяздзетны, Альбрэхт Уладзіслаў, стараста рыжскі і кашталян віленскі, завалодаў Нясвіжам з маяратам, дзе гаспадарыў да 1636 года. У час яго гаспадарання быў асабліва памятны 1625 год, калі лютаваў па ўсёй Літве і Польшчы мор, які ў кастрычніку гэтага ж года дайшоў і да Нясвіжа. Калі пачалі паміраць людзі на Валыні, езуіцкае кіраўніцтва прыслала ў Нясвіж сваіх маладых вучняў тэалогіі, і колькасць асоб у тутэйшым калегіуме ўзрасла да 73. З набліжэннем эпідэміі езуіты, пакінуўшы ў горадзе толькі Яна Алянда з некалькімі яго вучнямі для адпявання і пахавання памерлых, разбегліся па палескіх вёсках. Пяцьдзясят свецкіх асоб і некалькі езуітаў палі ахвярамі бедства, якое спынілася ў апошнія дні лістапада. Езуіты, прыпісаўшы гэта апецы святога Пасхазюша, мошчы якога былі ў калегіуме, адправілі ў яго гонар пахвальную імшу, а ўдзячныя Небу мяшчане збудавалі ў прадмесці Новы горад невялікую ўніяцкую капліцу.

Уладзіслаў IV, стаўшы каралём, пацвердзіў даўнія прывілеі для Нясвіжа, вызваліў горад ад мыты і пошлін на 12 гадоў і перанёс на 24 лютага кірмаш. З помнікаў, што засталіся ў Нясвіжы з часоў Альбрэхта Уладзіслава, трэба назваць уніяцкую царкву святога Юрыя, пабудаваную перад бернардзінскім касцёлам. У 1635 годзе пан прадстаўляў у ёй ксяндза Базыля Меляшкевіча*. Калі ўніяцтва зблізілася з каталіцкім касцёлам, а езуіты са сваім парафіяльным святаром і яшчэ бернардзінцы маглі задаволіць духоўныя патрэбы ваколіц горада, гэтая царква, якая многія гады не дзейнічала, так заняпала, што нельга ўжо адшукаць нават месца, дзе яна стаяла. З часоў кіравання Аляксандра Людвіка Радзівіла, трэцяга сына Мікалая Крыштофа (ад 1636 па 1654), варты ўвагі некалькі выпадкаў, якія датычацца Нясвіжа.

У 1640 годзе Таварыства Ісуса спраўляла стагадовы юбілей свайго зацвярджэння. Па ўсіх калегіях наладжваліся ўрачыстасці, да якіх падахвоціў віленскі біскуп Война, распачаўшы ў Вільні васьмідзённае ўрачыстае святкаванне. У Нясвіжы Аляксандр Людвік Радзівіл разам з езуітамі наладзіў велічнае відовішча. Ад касцёла бенедыкцінак аж да муроў калегіума пацягнуліся працэсіі, былі выстаўлены трыумфальныя аркі, гербы таварыства, гербы Радзівіла і партрэт іх стваральніка Мікалая Крыш-

* Прывілей гэты надрукаваны ў «Зборы старажытных грамат і актаў Мінскай губерні» (Собрание древних грамот и актов. Минск, 1848).

тофа. Школьная моладзь выспеўвала пад музыку трыумфальныя гімны. У памяць пра гэты дзень Радзівіл паклаў у касцёле натуральнай велічыні сэрца, адлітае з золата. У той жа год пасланыя ад езуіцкага генерала інспектары Фабрыцыус Банхус і Бенедыкт дэ Сакса падзялілі езуітаў у Польшчы на дзве правінцыі — Польскую і Літоўскую. Для раздзеленага згуртавання неабходна было арганізаваць вышэйшае навучанне езуіцкай моладзі, і таму магістр Анджэй Эрэнт адкрыў філасофскія курсы на дваццаць слухачоў.

У 1644 годзе нясвіжскі калегіум узначальвалі два рэктары: Рудзінскі, які ажыццяўляў нагляд за шасцюдзесяццю з лішнім асобамі, і Мікалай Лянчыцкі, які кіраваў гаспадарчай часткай. Гэта быў сын славутага некалі друкара Даніэля з Ленчыцы, які якраз тут пры дапамозе свайго друку не так яшчэ даўно сеяў па Літве насенне гельвецкай навукі і арыянства. Які палымяны быў бацька пратэстант, гэтакім жа шчырым, аж да фанатызму заядлым каталікам-езуітам стаў яго сын. Нясецкаму спатрэбілася некалькі лістоў паперы, каб запісаць многія рысы характару гэтага незвычайнага чалавека. Можна знайсці там рысы высакароднасці, узорнай маралі і адначасова рэшткі дзівацтваў празмернага піетызму. Прыпісвалі яму чараўнічыя здольнасці і прароцтвы. Але як можам мы гэта аспрэчыць? У тым, што ў шчырай веры, у любові і хрысціянскай пакорлівасці ёсць таямнічае насенне цуду, ніхто не сумняваецца, але ў наш разважлівы час цяжка паверыць у цуд.

У гэты ж час жылі ў Нясвіжы вядомыя езуіты: Казімір Каяловіч, брат славутага гісторыка Войцеха, аўтар дзвюх частак «Рыторыкі», а таксама прамовы над магілай віцебскага ваяводы Уладзіслава Валовіча, біяграфіі Мікалая Лянчыцкага і многіх друкаваных пропаведзяў, Андрэй Розенвальд, вядомы як аўтар некалькіх лірычных паэм, напісаных на латыні, і Бенедыкт дэ Сакса Іспанец, заслужаны сярод езуітаў чалавек, аўтар асноў права і пачаткаў польскай граматыкі.

Недзе ў гэты час, як сведчаць езуіцкія хронікі, жыў у Нясвіжы езуіцкі місіянер з Францыі Францішак Рыкард, які ездзіў у Іспанію як апостал і дыпламат (ён насіў тытул пасла Польскай Рэчы Паспалітай у Персіі). Вярнуўшыся, Рыкард заклікаў каталіцкіх святароў, асабліва езуітаў, каб яны наведваліся з місіяй у Персію. Пры гэтым ён запэўніваў, што тамашні шах іх гасцінна прыме. Ён паказаў нават указ шаха пра пастаялыя двары для прыезджых. Езуіты вельмі ганарыліся тым, што ў гэтым указе некалькі разоў упаміналася іх згуртаванне, адпаведныя словы з

таго ўказа яны перапісвалі залатымі літарамі. Ці напраўду Персія ў той час гэтак добра ставілася да хрысціянства, ці пабожны француз толькі выхваляўся — цяжка было тады паверыць. Занадта неспакойны час пачынаўся ў краіне, каб польскае духавенства магло шукаць небяспеку ў краях няверных. Лаўр пакутніцтва можна было лёгка знайсці і дома.

Набліжаліся сапраўды вельмі сумныя часіны. Уладзіслаў IV паміраў, узбунтаваная казаччына на чале з Хмяльніцкім, які ўзяў сабе ў дапамогу і татар, аб'явіла вайну Рэчы Паспалітай. Гетманы Патоцкі і Камінскі і мноства знакамітай шляхты трапілі ў татарскую няволю, але мала хто спяшаўся на Украіну, каб паставіць на месца мяцежнікаў, бо шляхта ў Варшаве была занятая то выбарамі, то рэлігійнымі спрэчкамі, то сваркамі магнатаў.

Польшчу і Літву ахапіла паніка. А выбранне ў такіх абставінах Яна Казіміра каралём наводзіла на думку, што гэтакім жа неспакойным будзе ўсё яго панаванне.

## § 2. Бедствы і ваенныя спусташэнні. Паступовае адраджэнне горада (1650–1763)

*Смерць Уладзіслава IV. — Казакі. — Пачатак войнаў з Расіяй. — Колькі слоў пра матэматыка езуіта Освальда Кругера. — Смерць Аляксандра Людвіка Радзівіла. — Два напады расіян на Нясвіж. — Прывілеі і статуты ўрада і паноў для развіцця горада. — Становішча горада. — Напад шведаў, асада і ўзяцце Нясвіжа. — Міхал Казімір Радзівіл, вялікі гетман літоўскі. — Норавы часу. — Рэлігійныя абрады. — Творы, што выдаваліся мясцовым духавенствам. — Тэатр, слова аб Францішцы Уршулі Радзівіл з Вішнявецкіх. — Становішча Нясвіжа ў час смерці князя Гетмана.*

Калі Нясвіж пад апекай урада і сваіх паноў усё болей квітнеў і развіваўся, памнажаючы свае багацці, узносячы новыя пабудовы, павялічваючы сваё насельніцтва, і хутка мог ужо заняць не апошняе месца сярод іншых гарадоў Літвы, з Украіны пачаў даносіцца да гарадскіх муроў водгалас панічнага страху. Жыхары Украіны, Валыні, Палесся, пакідаючы свае стэпы і лясы, уцякалі сюды, каб знайсці сховў у нашых абаронных крэпасцях, якіх не так і шмат было на літоўскай зямлі. Нясвіж даваў ім прытулак у сваіх мурах. Аляксандр Людвік Радзівіл, замак якога быў прыстасаваны пад абарону, гасцінна адчыняў вароты ўцекачам. Тыя, каго не ўдалося змясціць у замку, беглі далей. Быццам анёл

смерці праляцеў па горадзе — так ён абязлюдзеў. Але на гэты раз страхі былі дарэмныя: непрыяцель не дайшоў так далёка. Нясвіж яшчэ гады чатыры быў у спакоі, толькі ў 1651 годзе пракаціўся тут мор, які забраў некалькі ахвяр.

Але з-за казакаў і выхваляння польскага пасла Весэля і іншых прычын абвастрыліся адносіны паміж Янам Казімірам і маскоўскім царом Аляксеем Міхайлавічам. Чатыры злучэнні расійскіх войск уварваліся ў Літву. Януш Радзівіл, хоць і даў ім добры адпор у бітве пад Шкловам, не здолеў, аднак, затрымаць рассыпаных па краі чужых войск, якія, мінуўшы Мінск, пацягнуліся да Вільні. Нясвіжская цвярдыня замкнулася, і вораг яе не змог узяць, але горад у 1654 годзе ўпершыню стаў ахвярай спусташэнняў. Няўзброеныя гараджане паўцякалі, а тыя, хто мог узяць у рукі зброю, бег у замак, які, не здольны змясціць усіх, толькі знатнай шляхце адчыніў свае брамы. Перапалоханы вясковы люд бег у горад, каб схавацца ў езуіцкім касцёле, дзе пакінутыя тры святары* з вялікай цяжкасцю аказвалі сваю апошнюю паслугу такому мноству людзей, пакуль самі не былі забіты раз’юшанай салдатнёй. У гэты ж, 1654 год уладар Нясвіжа Аляксандр Людвік, падарожнічаючы па Італіі, развітаўся ў Балонні з жыццём. Яну Казіміру, які быў у Гродне, спатрэбіўся на выпрацоўку плана ваенных дзеянняў добры матэматык, дзеля чаго выклікалі з нясвіжскага калегіума рэктара Освальда Кругера, ён выдаў нямала кніг па матэматыцы. У Гродне ён і памёр у 1656 годзе**.

---

* Вяховіч, Станішэўскі і Буткевіч.

** Паколькі нашы гісторыкі літаратуры нічога не ўпамінаюць пра Кругера, бо ён пісаў на латыні і не належаў да кампаніі мясцовых мудрацоў, пададзім тут пра яго кароткую даведку: нарадзіўся ён у 1601 годзе ў Прусіі, уступіў у ордэн езуітаў у 1619 г., а ў 1622-м яго паслалі па навуку ў Рым, дзе ён вучыўся разам з Янам Гружэўскім, Андрэем Рудамінам, Мікалаем Завішам і Мацеем Казімірам Сабескім. У 1639 г. атрымаў у Вільні вучоную ступень доктара філасофіі і выкладаў там матэматыку, філасофію і тэалогію. Не займаў ніякіх высокіх езуіцкіх пасад, пакуль у 1653 г. яму не прапанавалі пасля Анджэя Шчапкоўскага пасаду рэктара ў Нясвіжы. Напісаў і выдаў працы: 1. Матэматычныя задачы па оптыцы, геаметрыі, астраноміі, элементарнай сферы і касцельнай рахубе (Вільня, 1633); 2. Арыфметыка (1635); 3. Аб устаноўцы гармат (1635); 4. Рымскі каляндар (1637); 5. Астранамічная сотня (1639); 6. Выклад тэорыі зроку (1641); 7. Матэматычныя нататкі аб пункце і цэнтры (1644); 8. Вылічэнне Велікодных свят (1646); 9. Аб колерах вясёлкі (1647); 10. Трактат пра

У 1659 годзе расіяне з новымі сіламі пайшлі на Літву. Трыццацітысячнае войска на чале з князем Трубяцкім рушыла на Украіну, гэтакае ж войска развярнуў паміж Дняпром і Бярэзінай Радомскі, немалыя сілы пад камандаваннем Далгарукага і Хаванскага ўварваліся ў Літву. Пасля паражэння ў ваколіцах Вільні пад Вэркамі гетмана польнага Гансеўскага атрады непрыяцеля смялей разышліся па Літве. Хаванскі напаў на абарончую крэпасць Ляхавічы, непадалёку ад Нясвіжа, адна частка яго войск пад кіраўніцтвам Шчэрбы, а другая на чале са Зміевым паспрабавалі ўзяць Нясвіж, які быў забяспечаны зброяй і служыў прытулкам навакольнай шляхце, сялянам, мяшчанам і духавенству. Войску, якое ўсюды мела поспех, замак узяць не ўдалося, але не заслонены мурам і шанцам горад не мог даць ніякага адпору ворагу. Ён быў аддадзены на рабаванне і ў гэтым, і ў наступным годзе. Начальства не здолела стрымаць раз’юшанай салдатні, было некалькі забітых, сярод якіх і стары Машынскі, фундатар і дабрачынец езуітаў у Наваградку*.

Нарэшце Чарнецкі і Сапега разбілі войскі, што асаджалі Ляхавічы, і вызвалілі Нясвіж, які, вытрымаўшы асаду, быў заліты крывёю, зрабіўся папялішчам. Гаспадар, заможнейшыя жыхары і езуіты пацярпелі мала: свае багацці яны здолелі схаваць, абараніць. Сціплая ж маёмасць бедных была разрабавана і спалена.

Пасля ваенных спусташэнняў на сейме 1661 года Міхал Казімір Радзівіл здолеў перш за ўсё вызваліць на гады чатыры свой горад ад падаткаў і салдацкіх пастояў, а таксама ад каралеўскіх пошлін, а сабе здабыў гарантыі вяртання сродкаў, укладзеных на абарончыя ўмацаванні Нясвіжа**. Праўда, як відаць з пазнейшых папер, дзяржава многія гады не магла выплаціць доўг і, здаецца, ніколі яго не выплаціла, але само дамаганне аплаты за ўмацаванне ўласнага родавага гнязда не робіць гонару шаноўнаму мужу, якім быў Міхал Казімір Радзівіл, падканцлер і гетман літоўскі, гаспадар вялікіх уладанняў, саноўнік высокага рангу, што абавязаны быў падзяляць цяжкую долю краю, плёнам якога так шчодра карыстаўся. Бо гэта ж у тыя часы мінулася, як ні шкада, шляхетнае імкненне да ўсеагульнага

вакуум (1648); 11. Пра зрок (1652). Смерць заспела яго над працай «Аб практычнай устаноўцы гадзіннікаў». (Гл.: Растоўскі).

* Гл. часта цытаваны твор Растоўскага: «Litvanicarum Soc. J. historiarum provincialium pars prima».

** Гл. Volumina legum. 1661, 1670, 1674.

дабра. За кроплю крыві, за нейкія цагліны, за кавалачак жалеза ці бронзы не саромеліся магнаты таргавацца з айчынай і грукацца да яе небагатай казны.

Як бы там ні было, Міхал Казімір не шкадаваў сваіх сіл для аднаўлення Нясвіжа. Апрача льгот для горада 20 студзеня 1673 года ён выдаў універсал, у якім, каб заахвоціць людзей сяліцца ў Нясвіжы, гарантаваліся на аснове нямецкага права новапасяленцам усялякія свабоды, у тым ліку свабода пакінуць горад у любы час. Усе гэтыя прывілеі, а таксама арганізацыя новых прадпрыемстваў змаглі ў нейкай ступені палепшыць жыццё нясвіжцаў і аднавіць горад. У 1678 годзе Танер Чэх, які разам з царскім пасланнікам князем Міхалам Чартарыйскім праязджаў праз Нясвіж, напісаў у сваім дарожным дзённіку*, што бачыў тут муры, якія акружалі горад, вялікі рынак, прыгожыя дамы і замак, умацаваны валамі ды равамі і забяспечаны гарматамі.

Два новыя касцельныя ахвяраванні прыдалі гораду болей руху, палепшылі яго выгляд. Першае з іх учыніў у 1672 годзе для дамініканцаў смаленскі войскі Базыль Баканоўскі, падтрыманы князем. Спачатку ён пабудаваў Араторыум, а неўзабаве ўзнёс і асвяціў мураваны касцёл святога Яна Хрысціцеля. Другое ахвяраванне было ад самога князя абацтву бенедыкцінаў, якое знаходзілася за горадам і якому ён запісваў у 1673 годзе са сваіх прыбыткаў трыццаць тысяч польскіх злотых на касцёл Святога Крыжа. Аднак закончыў гэтае духоўнае збудаванне ўжо сын фундатара Караль Станіслаў Радзівіл, а ў 1690 годзе яго зацвердзіў сейм.

Міхал Карыбут Вішнявецкі прывілеем 1669 года ізноў вызваліў нясвіжскіх мяшчан ад мыт і пошлін назаўсёды, а ад галоўнай пошліны — на пятнаццаць гадоў; у 1670 годзе сейм сваёй пастановай падоўжыў яе да дваццаці гадоў у сувязі з ваеннымі спусташэннямі і пераходамі айчынных войск, улічваючы абарончыя ўмацаванні, якія Радзівіл канчаткова прывёў у парадак «для большай бяспекі і славы дзяржавы»**. У наступныя гады ўладару Нясвіжа падканцлеру Міхалу Казіміру яшчэ лягчэй было дабівацца для свайго горада дабрачынных прывілеяў, бо яго звязвалі з тронам сваяцкія адносіны: ён быў мужам роднай сястры Яна Сабескага — Кацярыны. У выніку Ян III, уступіўшы на трон, не толькі пацвердзіў Нясвіжу ўсе папярэднія прывілеі і надалей вызваліў яго ад краёвых пошлін і мыт, але ў дадатак

* Нямцэвіч. Нататкі пра даўнюю Польшчу.

** Volumina legum. T. V. S. 11.

асобным прывілеем як узнагароду за мужнасць пры адпоры непрыяцелю ад горада Нясвіжа, які не раз быў у варожай асадзе, устанавіў для паляпшэння жыцця гарадскіх грамадзян чатырохнядзельны кірмаш, што павінен быў пачынацца 25 жніўня*.

Міхал Казімір Радзівіл, жыццё якога праходзіла то ў клопатах пра дабрабыт айчыны, то на полі бітвы, то ў навуковых занятках, дзе меў поспех, у апошнія гады жыцця наведваў з дыпламатычнай місіяй замежныя краіны. У 1681 годзе ён быў пасланы да імператара Леапольда — выказаць ад імя польскага караля суседскую прыязнасць, а таксама да папы Інакенція XI, каб пасведчыць яму каралеўскую пакору. З гонарам справіўшыся з абедзвюма місіямі і дабіўшыся далучэння да ліку святых Яна Кантэма ў Балонні, фатальным для яго бацькі і дзядзькі месцы, закончыў ён сваё жыццё**.

Пасля яго смерці маёнткамі гадоў дванаццаць валодала жонка Кацярына Радзівіл з Сабескіх, а яе каранаваны брат Ян III быў заўсёдным апекуном радзівілаўскай фартуны. І сапраўды — можна ўбачыць не адзін прыклад клопату тагачаснага трона пра дабрабыт горада Нясвіжа. На сейм 1681 года кароль зацвердзіў прадстаўлены Кацярынай Радзівіл статут купецкага цэха, а ў наступным годзе перанёс пачатак чатырохнядзельнага кірмашу з 25 жніўня на Уводную нядзелю***, нарэшце, 21 лютага 1688 года ўладальніца Нясвіжа выдала (відаць, з ведама караля, бо гэта было ў сямейным гняздзе Сабескіх — Жолкве) загад магістрату, каб гарадскія жыды не дапускаліся ні ў якія кіраўнічыя ўстановы, а ў кірмашовыя дні не чынілі ніякіх пабораў, якія б стрымлівалі гандаль, а тым самым перашкаджалі развіццю і ўзбагачэнню горада.

Гэта былі, трэба сказаць, часы заняпаду горада і мяшчанска-купецкага саслоўя. Яшчэ нядаўна мяшчане выдатнейшых гарадоў па сушы і вадзе вялі шырокі гандаль з замежнымі краінамі і на сваіх землях, довадам чаго з’яўляюцца шматлікія прывілеі, якія вызвалялі розных мяшчан ад пошлін і мыт на ўвоз замежных тавараў, ад аплаты ў сваёй краіне за грэблі і масты, за купецкі транспарт. Чытаючы ў актах канцылярыі Слуцкага замка тастаменты розных мяшчан, якія станавіліся купцамі,

---

* Арыгінал прывілея — у гарадскім архіве.

** Нясецкі (выд. Бабровіча. Т. VIII. С. 178) расказвае, што ў адзін такі прыезд ён бачыў гравюру на бляхе. Прыгожы малюнак з гэтай гравюры ёсць у «Альбоме» Вільчынскага.

*** Прывілей, датаваны 26 сакавіка 1682 г., быў падпісаны ў Яварове.

дзівішся з іх заможнасці і багацця. Але разам з аплаканымі часамі Яна Казіміра канчаецца шчаслівае жыццё нашых гарадоў. Падпальванне дамоў і крамаў, рабаванні, напады на дарогах на купецкі транспарт давялі мяшчан-купцоў да беднасці, а гэта хутка скарысталі заўсёды спрытныя і моцныя сваёй салідарнасцю жыды. Пазычаючы збяднелым мяшчанам невялікія сумы на значныя працэнты, яны здолелі такім спосабам завалодаць іхнімі багатымі калісьці крамамі і дамамі на рынках і галоўных гарадскіх вуліцах, дзе пры заснаванні гарадоў ізраільскаму племені не было дазволена сяліцца. Паслужлівы гандаль гарэлкай давяршыў карціну*. Са свайго боку, шляхта і багацейшае духавенства, да каго збяднелы мешчанін ішоў пазычаць грошы, здолелі прысвоіць зямельныя ўгоддзі, гарадскія пляцы і пабудовы, таму ў гарадах знаходзім мы вызваленыя ад розных абмежаванняў і гарадскіх павіннасцяў духоўныя і шляхецкія сядзібы і камяніцы, якія ўсім сваім цяжарам пачалі прыціскаць непрывілеяваных і маральна прыгнечаных бедных мяшчан. Вось дарога, якой нашы гарады, прыйшоўшы да заняпаду, набылі свой сённяшні незайздросны выгляд. Вернемся ж да Нясвіжа.

Падканцлер літоўскі Кароль Станіслаў Радзівіл, стаўшы ў 1692 годзе кіраўніком канцылярыі сваіх уладанняў, добра бачыў заняпад горада і ведаў прычыну. Прывілей, дадзены Нясвіжу 4 чэрвеня гэтага ж года, быў чаканай узнагародай гораду за яго зычлівасць да гаспадара і нясвіжскай крэпасці, дзе (як сцвярджае прывілей) «грамадзяне атрымалі не адзін голас крывавай Белоны[45], але захавалі веру». Убачыўшы, як абязлюдзеў горад у выніку войнаў, гаспадар дазволіў застацца ў ім і сялянам з вёсак, якія аселі ў горадзе, прытым яны былі прыроўнены ў правах да мяшчан. Аднак пазней прымаць сялян у горад было забаронена. Прывілеем касаваліся духоўныя і шляхецкія правы, лік якіх у горадзе памножыўся, пры гэтым дазвалялася перадаваць іх мяшчанам, забіраць, нарэшце, аддадзеныя ў доўг дамы і пляцы**.

---

* Каб дабіцца свайго, жыды заўсёды падшуквалі сабе прыхільнікаў, скарыстоўвалі любыя хітрыкі. Так, у 1729 г. у Слуцку яны выпрасілі сабе ў Аўгуста II мартарыяльны ліст, згодна з якім аплата жыдамі і ўсім слуцкім кагалам сваіх даўгоў розным асобам адтэрміноўвалася на тры гады, на працягу якіх крэдытары павінны забіраць толькі пяць працэнтаў. Дзе ж тут справядлівасць? Жыд меў права турбаваць свайго даўжніка, а ад крэдытораў засланяўся каралеўскай паперай. Як жа тут не магло заняпасці гарадское саслоўе хрысціян?

** Арыгінал захоўваецца ў гарадскім архіве.

Але ўсе гэтыя ахоўныя меры не змаглі даць свайго выніку, таму што ў хуткім часе палітычны гарызонт зацягнула хмарамі і літоўскія гарады ізноў зведалі забойствы, рабункі і пажары. Пачатак XVIII стагоддзя памятны ў нашай гісторыі крывавымі спрэчкамі паміж Аўгустам II і Станіславам Ляшчынскім, якія далі падставу двум найлепшым ваенным геніям таго часу — Пятру Вялікаму і Карлу XII — умяшацца ў справы Польшчы і пачаць паміж сабой барацьбу за пальму першынства і палітычныя набыткі. Шведы, быццам бы для падтрымкі Ляшчынскага, рабавалі Польшчу. У пачатку 1706 года ваенныя дзеянні перанесліся з Польшчы ў Літву, дзе ў Гродне Аўгуст II са жменькай палякаў, з войскам саксонцаў і з расійскімі падмацаваннямі сабраў свае сілы. Карл XII, скіраваўшы ўсю ўвагу на гэты галоўны ваенны цэнтр, выслаў у глыб Літвы конныя атрады, каб заняць крэпасці і знішчыць маёнткі прыхільнікаў Аўгуста. А якраз да самых шчырых саксонскіх прыхільнікаў належаў Кароль Станіслаў Радзівіл, які колькі гадоў карыстаўся вялікай пячаткай літоўскай і быў абавязаны трону за шматлікія староствы і іншыя дабрачыннасці Аўгуста II. Не маючы магчымасці схіліць на свой бок такога праціўніка, як Радзівіл, Карл XII вырашыў хаця б паралізаваць яго. Нясвіж з усімі навакольнымі радзівілаўскімі ўладаннямі павінен быў стаць ахвярай яго нянавісці, а знешняй нагодай для рабаўніцтва ваколіц паслужылі сорак тысяч казакаў пад кіраўніцтвам Мазепы, якіх разам з расіянамі Пётр Вялікі размясціў у Мінску, Слуцку, Нясвіжы і ў іншых гарадах. Вось што расказвае сучасны шведскі гісторык пра першы напад шведаў на Нясвіж: «Кароль адчуваў, што трэба выслаць на другі бок Нёмана свае войскі пад кіраўніцтвам падпалкоўніка Траўтветэра, маёра Аксэля Спенса і ротмістра Дрэфеншольда. Спачатку накіраваліся яны да горада Міра, дзе знаходзілася тысяча казакаў. Супраць іх былі пасланы шведамі прыданыя ім валахі, якія да такой ступені асмялелі, што, напаўшы на абоз непрыяцеля, захапілі дзесяць палонных… З Міра Траўтветэр накіраваўся да Нясвіжа, горада, які належаў вялікаму канцлеру літоўскаму Радзівілу. Акружаны валам і ровам Нясвіж меў прыгожы і моцны замак, які стаяў за межамі горада. Гаспадар замка не прыняў у яго сцены казакаў. У горадзе іх было дзве тысячы чалавек, камандаваў імі Міхаловіч, адзін з вышэйшых военачальнікаў Мазепы. Прыбыўшы вельмі рана (14 сакавіка) пад муры горада і выстраіўшы тры батальёны сваіх драгунаў, Траўтветэр ударыў адначасова на браму і гарадскія валы. Казакі, што сабраліся на рынку для абароны, адказалі агнём. Але шведы

з ходу захапілі браму, напалі з палашамі на непрыяцеля так хутка, што казакі разбегліся па бліжэйшых дамах, а іх военачальнік і 300 чалавек палі на полі бою. Пяцьсот казакаў зачыніліся ў мурах езуіцкага калегіума, якога Траўтветэр без гармат вялікага калібру не змог узяць. У замак не пусцілі ніводнага з казакаў, адтуль не стралялі па шведах, хоць яны на вачах военачальніка ўшчэнт разбілі каля рова казацкі атрад. Тых, што паўцякалі ў дамы, Траўтветэр загадаў не забіваць. Але казакі, не жадаючы карыстацца ласкай шведаў, безупынна вялі з вокнаў і дзвярэй агонь. Таму военачальнік вымушаны быў выкарыстаць апошні сродак: даць загад падпаліць горад. У пажары загінула 500, а то і ўсе 600 казакаў. Каля 180, уцякаючы з агню, добраахвотна здаліся ворагу. Чатыры гарматы, чатыры штандары, дзве пары літаўраў і дамашнія рэчы, якія не згарэлі ў агні пажараў — сталі здабычай пераможцаў. Траўтветэр адаслаў палонных і 50 чалавек параненых, сярод якіх былі афіцэры і салдаты, а сам рушыў на Ляхавічы»*.

Было гэта ў сакавіку 1706 года. У спаленым Нясвіжы быў яшчэ абарончы замак на чале з радзівілаўскім камендантам Баліманам. Карл XII загадаў захапіць гэты замак. Але шведам не ўдалося яго ўзяць, таму праз два месяцы кароль сам накіраваўся да Нясвіжа. Ізноў звернемся да аповеду гісторыка пра штурм крэпасці: «З-пад Ляхавіч кароль (Карл XII) накіраваўся да Клецка, а праз тры дні з войскам, што білася пад Ляхавічамі, пайшоў на Нясвіж. Нясвіжская крэпасць уяўляла сабой правільны чатырохкутнік з умацаванымі і глыбокімі мураванымі акопамі. Гарнізон складаўся з 200 чалавек, з якіх толькі 90 было сапраўдных салдат, мяшчан і сялян. Падпалкоўнік Траўтветэр і генерал-ад'ютант Расенштэрн былі пасланы да каменданта крэпасці Балімана з прапановай праз гадзіну здаць крэпасць, таму што ён не можа спадзявацца, каб яго пана (Караля Станіслава Радзівіла) і ўсіх прыхільнікаў спаткаў іншы лёс, чым той, які яны заслужылі як бунтаўнікі супроць караля і Рэчы Паспалітай. Гэтыя словы мелі вынік: крэпасць здалі шведам. Быў спалены ўвесь ваенны рыштунак, у тым ліку сцягі, ручная зброя і шчыты, затоплена 21 гармата**; камендант, афіцэры і

* Гл.: Nordberg G. Leben Carl des Zwolften. 1745. T. 1. S. 656–657.

** Паводле «Histoire militaire de Charles XII» Адлерфельда шведы ўбачылі Нясвіжскі замак з чатырма вежамі, акуратнымі валамі. З 21 гарматы, пра якія тут кажа Нордберг, 17 было бронзавых і 4 жалезныя. Паколькі замак, як чытаем у інвентары 1658 г., падзяляўся на ўласна

ўвесь гарнізон былі адпушчаны на волю. Выгнаўшы жыдоў і сялян, якія хаваліся ў замку, і дазволіўшы ім узяць з сабой сваю маёмасць, шведы разбурылі крэпасць. Пад канец горад, за выключэннем касцёлаў і кляштараў, быў аддадзены агню і ператвораны ў попел.

Акрамя таго, кароль пасылаў атрады розных партызан, якія ўшыр і ўдоўж спусташалі ваколіцы. Было разрабавана каля ста вёсак і мястэчак, не ўцалела ні адна з вёсак, што належалі Вішнявецкім, Радзівілам і іх прыхільнікам. Гэтакім спосабам кароль хацеў аслабіць іх сілы, каб яны не змаглі выступіць супроць шведаў і караля Станіслава»*.

Карл XII імчаўся на кані чвалам, з незразумелай паспешнасцю займаючы і спусташаючы тутэйшыя ваколіцы. 10 мая прыйшоў, убачыў і заняў Нясвіж, а праз два наступныя дні тое ж самае зрабіў і са Слуцкам. 13 мая з князем Вюртэнбергскім і генералам Меерфельдам ляцеў ужо конна праз лясы, яры і балоты Палесся, а 14 быў ужо ў Пінску, у тым nec plus ultra[46] сваіх паходаў, як сам назваў гэты горад, гледзячы з вежы езуіцкага касцёла на раўніну навакольных багнаў. Але не паставіў тут яшчэ сваіх пераможных слупоў, як Геркулес, бо пасьпяшаўся далей — на Валынь, на Украіну, дзе аж пад Палтавай пачуў фатальнае nec plus ultra.

Не хутка пасля столькіх спусташэнняў адраджаўся Нясвіж з руін і папялішчаў. Сярод руін і папялішчаў прымаў Кароль Станіслаў Радзівіл з усёю радзівілаўскай гасціннасцю і пыхаю Аўгуста II, які наведаў яго. Радзівіл так і не дачакаўся аднаўлення горада аж да сваёй смерці, якая наступіла ў Белай у 1719 годзе**.

Колькі гадоў пасля яго смерці кіравала ўладаннямі яго жонка Ганна Радзівіл з Сангушкаў, як гэта відаць з многіх эканамічных дагавораў. Каля 1720 года кіраўніцтва ўладаннямі канчаткова перайшло да старэйшага сына Караля Станіслава — Міхала Казіміра, кіраўніка нясвіжскага маярату, больш вядомага пад імем князя Гетмана, альбо князя Рыбанькі — званага так паводле ягонай прыгаворкі. Бязлюдную пустэчу атрымаў ён у

крэпасць і замкавую камяніцу, дык шведы, разбураючы крэпасць, мусілі зруйнаваць прывулічныя муры, на месцы якіх пазней быў пабудаваны павільён, што зусім не стасаваўся з рэштай пабудовы, дзе сёння месціцца архіў.

* Nordberg G. T. 1. S. 661–662.

** А не ў 1711-м, як у Нясецкага.

Нясвіжы, калі сваёй пастановай ад 26 ліпеня 1724 года, пацвярджаючы даўнейшыя прывілеі сваіх папярэднікаў, дазволіў карыстацца гарадскімі правамі ўсім тым, хто хацеў тут пасяліцца, з гарантыяй поўнай свабоды для ўласнага ўзвышэння.

У іншым яго прывілеі для горада ад 1731 года ёсць цікавы параграф пра вайсковыя вучэнні альбо, хутчэй, пра гульні. Гэта стральба па шчыце, якая праводзілася пад кіраўніцтвам самога князя кожны год на трэці дзень Сёмухі і ў якой павінны былі ўдзельнічаць усе без выключэння мяшчане Нясвіжа. Галоўнейшыя ўмовы гэтай стральбы: хто найлепей пападзе ў шчыт, той будзе названы каралём і з трыумфам узнагароджаны аксамітным пасам з сярэбранымі пласцінкамі, будзе праведзены ў ратушу і запісаны ў спецыяльны пратакол. «Кароль» вызваляўся на цэлы год ад гарадскіх работ і службы і мог выгнаць без аплаты адзін вар гарэлкі і два піва; разам з тым ён абавязаны быў трымаць ключы ад памяшкання, пабудаванага за валамі і кляштарам бенедыкцінак, вартаваць яго, рамантаваць, калі трэба, і пакінуць там зробленую за свой кошт сярэбраную таблічку вагой у адзін лот з выбітымі на ёй імем і датай выбрання. Гэтыя вучэнні нагадваюць кракаўскую гульню ў пеўніка, яны не былі, як там, нашай традыцыяй, нашай школай, дзе гарадскі люд можа вучыцца ваяваць. Адначасова ў тутэйшай езуіцкай школе, відаць, паводле распараджэння ўладара, было ўведзена нешта падобнае на вайсковую муштру. Але гэта было толькі гульнёй, толькі падставай для наладжвання потым шчодрага банкета.

Такія вось урачыстасці, гульні, банкеты, пахвальныя прамовы і набажэнствы былі характэрнай асаблівасцю саксонскіх часоў у Польшчы. Гэта былі такія ж спакойныя часы, як сон здарожанага вандроўніка над кратарам вулкана. Сніліся прыгожыя рэчы!

Апрача набажэнстваў і рознага роду ўрачыстасцяў няма чаго больш сказаць пра часы Міхала Казіміра Гетмана. Былі адноўлены касцёлы. На ўзгорку за чвэрць мілі ад горада пры езуіцкім касцёле святога Міхала ўзнёсся другі езуіцкі кляштар для паслушнікаў і амаль цалкам быў перабудаваны сам касцёл, які ў 1738 годзе асвяціў віленскі біскуп Міхал Зяньковіч. У 1746 годзе князь Гетман наладзіў нечувана раскошнае пахаванне сваёй маткі Ганны з Сангушкаў, на якім было некалькі біскупаў, некалькі сот духоўнікаў і езуітаў, што прыехалі амаль з усёй Літоўскай правінцыі. У 1750 годзе там, дзе радзівілаўскія грабніцы, быў збудаваны алтар, які асвячалі з гэткай жа помпаю. Пахаванне ў 1753 годзе Францішкі Уршулі Радзівіл з Вішнявецкіх, першай жонкі князя Гетмана, і асвячэнне

ў 1758 годзе капліцы ў замку з унясеннем туды знойдзенай пад Венай іконы Маткі Боскай сталіся для Радзівіла, які любіў набажэнствы і ўрачыстасці, падставай для запрашэння шматлікіх гасцей — свецкіх сенатараў, біскупаў, духавенства і шляхты, гасцей, якіх замкавыя, кляштарныя і гарадскія муры ледзьве змаглі змясціць. А колькі было тут віна, колькі прагучала ўрачыстых прамоў, вершаваных панегірыкаў, колькі пахвал атрымалі хітрыя езуіты!

Але ў той час, калі мужчынскія галовы, ачмураныя езуіцтвам, нічога лепшага не маглі ўжо прыдумаць для прагрэсу, жанчыны, надзеленыя мацнейшым пачуццём прыгожага, пачалі скіроўваць грамадства да большай інтэлектуальнасці. І смела можна сказаць, што, калі б тады польскія жанчыны былі больш адукаваныя і свабоднейшыя, хто ведае, ці не прыйшло б да нас так званае адраджэнне навук у Польшчы значна раней і ў формах меней згубных для веры, звычаяў і побыту. Яшчэ да Станіслава-Аўгуста, да Канарскага[47] Альжбета Друждбацкая[48] настроіла родную песню на сапраўдную ноту, выказаўшы ў лёгкіх вершыках слова праўды пра тагачасную літаратуру, да чаго не дадумаўся ў 1752 годзе ніводзін з мужчын, апрача Канарскага, якому нямала прычынілі клопату недругі. Вось гэтае месца ў Друждбацкай:

Я чула шмат прамоў панегірычных,
Вітанняў найузнёслейшых публічных,
Дзе што ні слова — то пыхлівасць оды,
Абагаўленне, пахвальбы куродым.
Узнёсласць і ў лісты ўжо, бачым з вамі,
Скрозь сыплецца, бы збажына, карцамі.
Калі каму захочацца — як бачыш
Лашт пыхі з меркі вырасце, няйначай.
Усе мы ведаем з Пісьма Святога,
Што узвялічваць варта толькі Бога.
Ці ж трэба нам, каб зноў мы ажыўлялі
Язычніцкіх бажкоў, што пазнікалі?
Венера, Марс… Тут помніць мы павінны,
Што кожны ідал ёсць кавалак гліны.

Папярэдніцай Друждбацкай у пісьменніцкай прафесіі была Францішка Уршуля Радзівіл з Вішнявецкіх. Яна была аўтаркай драматычных твораў, што ставіліся ў нясвіжскім тэатры і выйшлі з друку ў 1754 годзе пад назвай «Камедыі і трагедыі, вельмі арыгінальныя, дасціпныя, напісаныя ў выдатнай вершаванай

форме жонкай віленскага ваяводы Радзівіла…» і г. д. Надрукаваў іх Якуб Побуг Фрычынскі. Яны ілюстраваны былі гравюрамі, вельмі кепска выкананымі на блясе Міхалам Жукоўскім у Львове.

Гэта ў большасці камедыі, перарobленыя з Мальера і іншых французскіх драматургаў. Хоць тут нічым асаблівым не праявіўся талент аўтаркі, творы гэтыя цікавыя для нас як факт гісторыі нашай культуры. У Нясвіжы яшчэ да Друждбацкай пісалі вершам п'есы для сцэны і працаваў выдатны княскі тэатр, у якім ставіліся спектаклі задоўга да таго, як у 1765 годзе ў так званым «адроджаным тэатры» ў Варшаве ўпершыню быў паказаны спектакль па п'есе Бяляўскага[49] «Назолы», на якім прысутнічаў Станіслаў Аўгуст*.

Зрэшты, гэтая набожная і адукаваная па сваім часе пані рабіла дзейсны ўплыў на мужа ў яго намаганнях для развіцця горада. Пад час прабывання ў Нясвіжскім замку яна шмат рабіла і для пашырэння адукацыі сярод насельніцтва. Пад яе кіраўніцтвам распачаўся ў тутэйшых мясцінах пэўны культурны рух: яна многа зрабіла для памнажэння багаццяў сціплай дагэтуль замкавай бібліятэкі, кніжны фонд яе вырас з часам да дваццаці з лішнім тысяч тамоў. Яна падгаварыла мужа, каб ён знайшоў і загадаў аднавіць забытую замкавую друкарню, якую Аўгуст III прывілеем ад 27 жніўня 1750 года санкцыянаваў і якая выдала дзве кнігі і некалькі брашур. У яе часы, мабыць, заахвочаны княскай апекай, вызначыўся як гравёр нясвіжскі жыд Гірш Ляйбовіч, вядомы сваімі рэдкімі гравюрамі на блясе, сярод якіх — «Кніга партрэтаў Радзівілаў» з замкавага збору, гравюра «Castri doloris»[50], дзе паказаны інтэр'ер езуіцкага касцёла ў Нясвіжы. Гэта гравюра аздабляла кнігу надмагільных казаняў, якія прагучалі пры пахаванні мацеры князя Ганны Радзівіл з Сангушкаў (Вільня, 1750, in folio). Духавенства пачало вы-

---

* Арыгінальнай задумы ў п'есах не відаць, верш, аднак, бывае някепскі. Вось некаторыя з іх: трагедыя «Суддзя без розуму» — пра адзін эпізод гісторыі пакутніцтва першых хрысціян, камедыі «Празорлівыя не праходзяць міма», «Каханне нараджаецца з вачэй», «Гульня фартуны», «Несумленнасць у пастцы», «Суддзя, якому адмовілі ў розуме», «Ідэальнае каханне майстрыхі», «Суцяшэнне пасля турбот». Здаецца, яны перароблены з невядомых сёння французскіх п'ес ці апавяданняў. Два іншыя творы — «Трагедыя» і «Камедыя» (іншых назваў не маюць) — пераклады з Мальера: «Камедыя» — гэта вядомы мальераўскі «Доктар па прымусу», перакладзены дакладна і сапраўды па-майстэрску. […]

даваць розныя аскетычныя творы, узровень якіх хоць і не быў вышэйшы за іншыя тагачасныя творы, але яны паказвалі, што ў кляштарных мурах ужо адчувалася патрэба ў культуры, у кнігадрукаванні.

Перш за ўсё патрэбна назваць палемічныя творы езуіта Яна Пашакоўскага, які жыў у Слуцку, у Белай і Нясвіжы, дзе быў рэктарам, — «Кальвінісцкая гісторыя пра пачатак, росквіт і заняпад гэтай секты ў Францыі…» (1747), «Гісторыя пачатку адлучэння англіканскага касцёла» (1748), «Кальвінісцкая гісторыя — частка трэцяя, дзе расказваецца пра гэтую ерась і спосабы яе пашырэння ў Бельгіі альбо ў Нідэрландах» (1749) і г. д. Гэта кампіляцыі з Сандэра, Рыхтэна і Страда. Яшчэ ён пераклаў з французскай мовы «Вясковыя казкі» Юзафа Лямберта (1755), выдаў «Споведзь, альбо Вызнанне веры, складзеную з агульнага дазволу ўсіх кальвінісцкіх збораў і падлеглую раздрабленню, калі гэта не разыходзіцца са словам Божым і вучэннем старадаўняга касцёла» (1742). Апрача таго, з 1737 года ён выдаў на працягу некалькіх гадоў на польскай і лацінскай мовах «Палітычныя календары», «Езуіцкія календары», большыя і меншыя, з каталогамі правінцый, калегій і асоб Societatis Jesus[51], неабходных для гісторыі польскіх езуітаў*. Ксёндз Міхал Пашкевіч, нясвіжскі бернардзінец, выдаў зборнік сваіх велікапосных казаняў пад пацешнай назвай «Балесная слава, альбо Слаўныя болі (бо каралеўскія) найслаўнейшага караля Баляслава, Хрыста, прамоўленых за пяць посных пятніц з нясвіжскага амбона» (1744), а таксама іншыя казані пад назвай «Festum ecce, альбо Фэст святога Бенедыкта», прамоўленыя ў касцёле нясвіжскіх бенедыкцінаў**. Яшчэ адзін нясвіжскі бернардзінец Ювеналіс Харкевіч выдаў кнігу «Праваднік у нябесную айчыну, які трымае ў сабе статут трэцяга закону айца святога Францішка» (1758)***. Да тутэйшай аскетычнай літаратуры трэба аднесці казань «Вяршыня, альбо Усе дабрадзействы Маткі Боскай, паказаная калісьці свету ксяндзом Пятром Дунгоўскім у свержаньскім абразе, а цяпер паданая ў друк з дадаткам да другой часткі» (у Нясвіжы ў княскай друкарні, 1757)****. Нарэшце, для вывучэння развіцця асветы ў Літве можа паслужыць школьная брашура

* Гл.: Jocher. Obraz bibliograficzno-historyczny literatury i nauk w Polsce. № 3089, 4552, 7897, 9319…

** Тамсама. № 4648, 4993.

*** Тамсама. № 9268.

**** Тамсама. № 9038.

нясвіжскіх езуітаў «De incitamentis ad literarum studia» («Што падштурхоўвае пісаць навуковыя працы»)*, якая чыталася ў гадавіну адкрыцця школьнага навучання ў 1750 годзе. Гэтая кніжачка — адна з рэдкіх памятак княскай радзівілаўскай гімназіі (ducalis Radiviliani Gymnasii). У ёй ёсць звесткі пра княскую публічную бібліятэку ў Нясвіжы.

Нясвіжская друкарня выдала ў той час некалькі кніг, сярод якіх — «Даніна ўдзячнасці святому Казіміру, аплачаная ксяндзом Янам Корсакам рознымі пахваламі» (1751), «Курцый Руф пра жыццё і дзейнасць Аляксандра В. п. Кс.» Анджэя Варгоцкага (1763)**.

У гэтых і іншых тагачасных помніках пісьменства тутэйшага краю, мабыць, няма адзнак высокага інтэлектуальнага жыцця, але ж відаць, прынамсі, моцная патрэба гэтага жыцця.

Мы ўпаміналі пра асвячэнне прыведзенай у парадак князем Гетманам капліцы ў замку для таго, каб змясціць там абраз Прасвятой Маткі Боскай, знойдзены пад Венай. Цяпер пададзім тут расказ пра гэты абраз так, як ён запісаны на мармуровай пліце, што дасюль захоўваецца ў замку. Калі Вена была па Божай волі пры пасрэдніцтве Яна III вызвалена ў 1683 годзе ад доўгай і цяжкай аблогі туркаў, кашталян кракаўскі Станіслаў Ябланоўскі, аб’язджаючы горад, прыкмеціў пад руінамі муроў сувой палатна, растаптаны конскімі капытамі. Загадаўшы яго прынесці, ён убачыў, што гэта быў абраз Маткі Боскай, і прачытаў напісаныя на ім словы (angelorum manibus). На адным баку значылася: «Vinces Joannes» («Пераможаш, Яне»), а на другім — «Eris victor Joannes» («Будзеш пераможцам, Яне»). Здзіўлены гэтымі прарочымі выразамі, Ябланоўскі аднёс абраз каралю, які загадаў строга назіраць за ім. Аднак, нягледзячы на ўсе намаганні, цяжка было зразумець, хто быў уладальнікам абраза, якім чынам апынуўся ён пад руінамі і да якога Яна адносілася прароцтва. Расказвалі, праўда, што гэты абраз быў некалі прывезены з Італіі Янам Капістранам, праслаўленым перамогай над туркамі ў Венгрыі. Кароль, уражаны абразам з надпісам, дзе было яго імя, адразу памясціў яго ў сваёй абознай капліцы, а тое прароцтва падбадзёрвала ў бітве з мусульманамі. Пасля смерці караля 17 чэрвеня 1696 года ў Вілянове каралева Марыя Казіміра забрала абраз з сабою ў Рым. Пазней абраз дастаўся каралевічу

* Гл.: Jocher. Obraz bibliograficzno-historyczny literatury i nauk w Polsce. № 1686.

** Гл.: Bandkie. Hist. Drukarn. T. II. S. 18–19.

Якубу, а потым стаў уласнасцю Міхала Казіміра Радзівіла, які і памясціў яго ў капліцы Нясвіжскага замка. Біскуп жмудскі Антоні Тышкевіч у таварыстве двух іншых біскупаў пры вялікім зборы сенатараў і грамадскасці 18 чэрвеня 1758 года асвяціў гэтую капліцу пад назвай Прасвятой Панны Марыі.

Дапоўнім нашу хроніку Нясвіжа звесткай пра збудаванне ў 1758 годзе невялічкага летняга палаца пад назвай «Суцяшэнне» ў звярынцы Альба, што знаходзіўся на паўднёвай ускраіне горада, там, дзе яшчэ ў часы Мікалая Крыштофа быў іншы гмах, які называўся «Пустэльніцтва». Ён быў вымураваны ў дзве лініі. Як відаць з дакладнага яго апісання ў старых інвентарах, гэта было месца, куды набожныя ўцякалі для роздуму і духоўнага самаўдасканальвання. Па сваёй структуры гэта было нешта сярэдняе паміж капліцай і домам. На адным франтоне была статуя святога Мікалая, а на другім — святога Крыштофа, усярэдзіне пакоі пафарбаваны цёмнымі фарбамі, аздоблены чорнымі мармуровымі камінамі, над кожным з іх была нейкая эмблема: то крыж, то келіх, то Agnus Dei [агнец Божы], то мёртвая галава, то што-небудзь іншае. Цяпер «Пустэльніцтва» згніло, ад яго не засталося і знаку. Маленькі палац «Суцяшэнне» — увесь у руінах. Невядома, ці можна дапытацца ў якога дзеда ў Альбе, дзе знаходзіліся парахавы млын і ліцейны завод, пра якія ўпамінаецца ў інвентарах. Цяжка знайсці і сляды італьянскага саду, аранжарэі, выспы паміж каналамі, якія зліваліся, так званай Каралеўскай дарогі (ёю праязджаў у свой час Станіслаў Аўгуст) і звярынца. Нават старыя радзівілаўскія бярозы і ліпы кожны дзень спускае бязбожная сякера, не чакаючы, пакуль зваліць іх старасць.

Князь Міхал Казімір Радзівіл Гетман памёр у 1762 годзе. Пасля яго Нясвіж з маяратам перайшоў да Караля Станіслава II, Караля Пане Каханку, пры панаванні якога пачынаецца асобная эпоха ў гісторыі Нясвіжа.

## § 3. Яшчэ ваеннае спусташэнне. Росквіт. Заняпад (1763–1844)

*Кароль Радзівіл. — Кароткі нарыс яго жыцця. — Свавольствы маладосці. — Багацці. — Палітычныя выступленні і пакаранні. — Радамская і Барская канфедэрацыі. — Спусташэнне Нясвіжа. — Вяртанне Караля Радзівіла дадому. — Святкаванне ў памяць перамогі пад Венай. — Прабыванне Станіслава Аўгуста ў Нясвіжы. — Смерць князя Караля. — Слова пра князя Дамініка Радзівіла. — Сціслая хроніка новых падзей.*

Намерыўшыся апісаць гэтую эпоху і на яе фоне адметную постаць Караля Радзівіла, адразу прадбачу, што мы не адолеем прадмета нашага расказу. Трэба мець немалую адвагу маляваць яго ў побыце паводле тых узораў, якія падалі ўжо граф Ржэвускі ў «Сапліцы…» і «Лістападзе» і Ігнат Ходзька ў сваім «Зборшчыку ахвяраванняў» і «Сядзібах на Антокалі». Намаляваны пяром гэтых майстроў слова, Радзівіл як бы ажывае перад намі. Калі часам у пісьменніка не стае фактычных дэталяў з біяграфіі героя, то праўда мастацтва, адзнакі часу, мясцовыя рэаліі дапамагаюць яшчэ больш замацаваць у нашай памяці яго вобраз. Шырокі гістарычны фон, мноства паданняў і анекдотаў пра Караля, сам кантраст дзвюх эпох пры іх змене: езуіцка-шляхецкай патрыятычнай, пабожнай, актыўнай у баі і ў бяседзе са сваім галоўным героем Радзівілам — яна ўжо завяршалася — і французскай XVIII стагоддзя, легкадумнай, бязбожнай — яна была на цэлую галаву вышэй за першую ў асвеце і на цэлае сэрца ніжэй за яе з пункту гледжання ўзнёсласці пачуццяў. Галоўнымі дзейнымі асобамі гэтай эпохі былі Чартарыйскія і Станіслаў Аўгуст. Сутыкненне абедзвюх эпох — гэта выдатная тэма для мастацкага твора, але, каб напісаць яго, патрэбна рука майстра. Караля Радзівіла мы бачылі толькі ў труне сямейнага склепа. Не давяраючы чужым характарыстыкам вялікіх гістарычных асоб, не хочацца абапірацца на мноства анекдотаў і паданняў пра яго, бо анекдоты і паданні, як і песні, любяць пералятаць з эпохі ў эпоху, чапляючыся ад адной асобы да другой. Добра было б толькі на аснове строга гістарычных звестак скласці сухі жыццяпіс Караля Радзівіла, але перашкаджае гэтаму адсутнасць крыніц, далікатнасць матэрыялу. Эпоха Радзівіла, Патоцкіх, Браніцкіх, Пулаўскіх найлепш распрацавана ў нашай гісторыі, але яна занадта яшчэ блізкая, так што вывучаць яе ў асобных момантах не заўсёды будзе зручна. Таму, апісваючы жыццё Караля Радзівіла і ў сувязі з ім гісторыю Нясвіжа, абмяжуемся толькі некалькімі вядомымі альбо мною знойдзенымі звесткамі.

Нарадзіўся ён каля 1730 года. Бацька яго — вядомы набожнасцю і строгасцю ў норавах Міхал Казімір, віленскі ваявода, гетман Вялікага Княства Літоўскага. Маці — Францішка Уршуля з Вішнявецкіх, жанчына высокай маралі і адукацыі. Быў ён трэці па ліку сын у сям'і. Паколькі два яго браты — Мікалай Крыштоф і Януш Тадэвуш — рана памерлі, была надзея, што ён возьме ў спадчыну агромністыя радзівілаўскія ўладанні, якія к таму часу намнога пашырыліся па нясвіжскай лініі гэтых князёў.

Анекдоты, якія малююць яго як гуляку, паказваюць, нібы ён з дзяцінства быў невукам, ды такім, што яго ледзьве можна

было навучыць чытанню, быццам дзеля гэтага стралялі ў намаляваныя на шчыце літары. Такі своеасаблівы метад навучання трэба лічыць толькі дасціпнай мастацкай выдумкай. Цяжка ўявіць, што сын такога строгага бацькі, такой разумнай, захопленай літаратураю маці не атрымаў адпаведнай свайму званню адукацыі, тым больш што ў дзяцінстве быў пад пільным вокам езуітаў з іх педантычнай дысцыплінай. Можа, для яго як для князя гэтай кніжнай навукі было малавата, але як для магната, дык нават і залішне. Характэрныя для таго часу рыцарскія вучэнні, банкеты, што часта наладжваліся пры двары князя Гетмана, вывешаныя на сцяне партрэты славутых продкаў, — усё гэта прычынілася да выхавання той прамой, бесцырымоннай, таварыскай і разам з тым папулярнай асобы, узнёслай любові князя да краю, якая праз усё жыццё была яго характэрнай рысай.

Яму не трэба было дабівацца высокіх званняў, бо яны самі прыходзілі ў радзівілаўскі дом. У 1739 годзе Карл Філіп Палятын Рэну зрабіў яго кавалерам ордэна святога Губерта, у 1750-м бачым ужо маладога Кароля ротмістрам петыгорскім і суддзёй пінскім трыбунала літоўскага, пазней ён ужо становіцца вялікім мечнікам літоўскім і чакае далейшых пасад.

Смерць мацеры і пасталенне маглі б паўплываць на нястрыманасць у гулянках Кароля Радзівіла, але ўсё ж цяжка яшчэ прывесці факты, якія сведчылі б пра яго свавольства ў той час. Першай авантурай Радзівіла быў перапынены напад на трыбунал у Мінску пасля нашумелага пакарання смерцю Валадковіча. Але гэты выпадак у сапраўднасці нагадвае, як гэта падаў аўтар «Зборшчыка ахвяраванняў», не столькі гайдамацкае свавольства, колькі выяўляе парыў маладога сэрца. Толькі пасля смерці бацькі ў 1762 годзе распачынаецца перыяд пагулянак маладога літоўскага магната.

Ды і як жа мог ён устрымацца ад гэтага шалу: у яго ж было безліч спакус, і ўсе — даступныя. Малады чалавек, якому было якіх трыццаць з лішнім гадоў, стаў пасля бацькі віленскім ваяводам, а значыць, і найпершым у Літве сенатарам. Быў ён князем у Алыцы, Нясвіжы, Біржанах, Дубінках, Слуцку і Капылі, графам у Шыдлоўцы, Міры, Белай і Крожах, магнатам у Невелі, Себежы, Заблудаве, Койданаве і Копысі, апекуном некалькіх старостваў, меў адзін мільён трыста тысяч талераў гадавога прыбытку. Натоўпы паслужлівай шляхецкай кліентуры акружалі багатага саноўніка, пад камандаваннем якога было каля шасці тысяч чалавек уланскага войска і некалькі абарончых крэпасцяў. Грошы, муры і верныя плечы забяспечвалі рас-

пуснаму князю беспакаранасць ва ўсіх яго ўчынках. Што ж за дзіва, што ў краі неабмежаваных свабод у час разлажэння ўсіх абарончых сіл ён вытварыў столькі амаральных учынкаў? Узброеная радзівілаўская плойма нападала на шляхецкія сядзібы, вытварала бясчынствы і разбой. На рэгіянальных сейміках у Вільні, Мінску і Лідзе князь не раз правакаваў, а то і непасрэдна ўчыняў крывавыя сцэны. У актах тагачасных гарадоў не цяжка адшукаць маніфесты паноў Карэйвы, Ляговіча ці нават сваякоў і яго сяброў — Струтынскага, Пішчалы, Багушэвіча, Янкоўскага, пакрыўджаных ці замардаваных паплечнікамі Радзівіла.

Але гэтыя ганебныя факты ў жыцці Радзівіла апраўдваліся ў нейкай ступені яго грамадскім становішчам. Разбоі часта дыктаваліся палітычнымі меркаваннямі, што не хацелі прызнаваць яго непрыяцелі, замоўчваючы іх прычыну. Пасля смерці Аўгуста III Кароль Радзівіл як прыхільнік саксонцаў падтрымліваў курляндскага князя на трон караля, выступаючы разам з Клеменсам Браніцкім і Патоцкімі. На баку Станіслава Аўгуста сталі непрыязныя да Радзівілаў роды Масальскіх і Чартарыйскіх. Яшчэ пры жыцці караля Аўгуста III Кароль Радзівіл зрываў іх намеры, калі як віленскі ваявода і маршалак трыбунала правяраў паўнамоцтвы дэпутатаў на гэты трыбунал. Пад час бескаралеўя запомніўся ўсім яго авантурны напад на Вільню з мэтай дапячы Масальскім за тое, што яны схілялі дэпутатаў сеймікаў супроць яго. Уварваўшыся ў горад на чале двухсоценнага атрада, ён узяў у асаду палац біскупа Ігнацыя Масальскага. Нагадваючы яму пра лёс біскупаў, якія паплаціліся смерцю за свой удзел у палітыцы, ён заявіў: «Калі захочацца што-небудзь падобнае зрабіць яшчэ раз, ведай, што ў мяне ў запасе ёсць сто тысяч чырвоных злотых для таго, каб дабіцца ў Рыме апраўдання».

Пасля адыходу Радзівіла Масальскі загадаў біць у набат, забарыкадаваўся ў кафедральным саборы і ўтварыў узброены саюз супроць Радзівіла пад назвай Літоўская канфедэрацыя. Але Радзівіл сваім смелым выступленнем заваяваў прыхільнасць у літоўскай шляхты і перавагу на сейміках, што была падарвана непрыяцелем. Сваім дэкрэтам ад 7 мая 1764 года канфедэрацыя паклікала яго на свой суд. Калі ж Радзівіл не з'явіўся, ён быў аб'яўлены выгнаннікам з краю, а гетманам літоўскім загадвалася абяззброіць і ліквідаваць радзівілаўскае войска. У час жаніцьбы з Марыяй Любамірскай Радзівіл, вяртаючыся з вясельнага піру, спустошыў горад Флемінгаў Цераспаль і разбіў пасланае супроць яго войска. У маніфесце 25 ліпеня 1764 года, пададзеным у брэсцкі гродскі суд, ён імкнуўся апраўдаць гэты ўчынак. […]

Гэтым апошнім учынкам Радзівіл у вачах варожай яму Літоўскай канфедэрацыі перайшоў усе межы свайго свавольства. 16 верасня 1764 года канфедэрацыя сваім прынятым у Гродне дэкрэтам абвінаваціла яго ў дзяржаўным злачынстве, аб'явіла ворагам айчыны і пазбавіла звання віленскага ваяводы. Было загадана абяззброіць яго крэпасці ў Нясвіжы, Слуцку і Белай, перадаўшы зброю і гарматы ў арсенал Рэчы Паспалітай, а маёнткі — у распараджэнне ўрадавай адміністрацыі, а самога вырашана было адправіць у Слуцкі замак як вязня з выплатай яму па дзесяць тысяч польскіх злотых у год, пазбавіўшы яго нават права апекі над malалетнім братам Геранімам Радзівілам.

За такія злачынствы, учыненыя ў выніку свавольства, ніколі ў Польшчы, калі не лічыць справы Збароўскіх, так сурова не каралі магнатаў. Не цяжка тут убачыць палітычную прадузятасць абодвух бакоў.

Прыгнечаны такім вырақам, Радзівіл ехаў у Варшаву на сейм. Але калі там перамаглі яго ворагі, калі кароль прускі, якому ён пісаў, просячы дапамогі, толькі і зрабіў, што параіў яму быць спакойным і стрыманым, ён усю надзею ўсклаў цяпер на ўласную моц і на плечы сваёй вернай шляхты. Ён быў якраз у Белай, калі да яго дайшла вестка аб асадзе Нясвіжа Літоўскай канфедэрацыяй. З усімі сваімі сіламі рушыў на дапамогу. У ваколіцах Слоніма ён уступіў у святую бітву з расійскім войскам*, пасля чаго паспяшаўся да Нясвіжа. Камендант замка Юзаф Сабескі ўжо здаў яго ворагам. Радзівіл кінуўся на поўдзень, каб схавацца ў сваёй родавай Алыцы. Але абараняцца там было немагчыма, хоць і хапала зброі: Алыцкі замак быў у стане поўнага занядбання — абваліліся муры, заплылі равы. Не рашаючыся замыкацца ў такім замку, баючыся сутычак з моцнымі сіламі, Радзівіл пакінуў сваю пяхоту і на чале пяцісот коннікаў падаўся да турэцкай граніцы. Пад неаслабным націскам ворага ён вымушаны быў кінуцца ў вірлівыя хвалі Днястра, пераплыў раку і, карыстаючыся звычаем гасціннасці, які свята выконваўся ў туркаў, папрасіў схавішча ў султана.

А дома ўсе яго набыткі і частка зямельных уладанняў сталі здабычай ворагаў. Вакантнае віленскае ваяводства кароль аддаў

* У бітве пад Слонімам разам з Каролем Радзівілам білася яго маладая сястра Тэафілія. Сярод удзельнікаў бою вызначыўся мужнасцю бедны малады чалавек Ігнацы Мараўскі. Ён так зачараваў сваёй адвагай рыцарскую дзяўчыну, што праз восем дзён пасля бітвы багатая князёўна аддала сваю руку беднаму шляхцічу.

Агінскаму. Радзівілаўскія ж маёнткі былі падзелены паміж непрыяцелямі, а прыяцелі паўцякалі хто куды. Крэпасці былі заняты, срэбра перададзена ў манетны двор. Не страціўшы ў нядолі гераічнага духу, Радзівіл не думаў прыніжацца, прасіць у трона прабачэння і вырашыў не ступаць на бацькоўскую зямлю да таго часу, пакуль яму не будуць вернуты ўсе высокія званні і пасады і аплачаны ўсе страты.

І гэтай хвіліны ён такі дачакаўся. З гісторыі вядомы падзеі, якія прычыніліся да ўтварэння так званай Радамскай канфедэрацыі. Каб прыдаць ёй вагу, трэба было звязаць з ёй найбольш папулярнае ў краі імя. Так яе маршалкам быў абвешчаны Кароль Радзівіл. Ён, прыехаўшы з Турцыі, прабываў якраз у Саксоніі, у Дрэздэне, калі да яго дайшла ганаровая прапанова. Прапанову прыняў, але, вяртаючыся на радзіму, не мог забыць пра тое, што яго выгналі, таму ён абагнуў тэрыторыю Польшчы і скіраваў да Гданьска, адкуль пад эскортам казакаў ступіў на сваю зямлю. 3 чэрвеня 1767 года, калі ён уваходзіў у Вільню, духавенства, шляхта, магістрат і натоўпы людзей выйшлі яго сустракаць. У яго гонар званілі званы касцёлаў і салютавалі гарматы. Вярнуўшы ўсе свае пасады і званні, стаўшы маршалкам канфедэрацыі, Радзівіл выправіўся праз Беласток да Радамлі, дзе, сабраўшыся, яго ўжо чакалі шматлікія землякі.

Радамская канфедэрацыя потым перанеслася ў Варшаву. Горды сваёй перамогай Радзівіл акрамя маршалкоўства канфедэрацыі стаў яшчэ маршалкам сейма, які не толькі вярнуў яму гонар, званне віленскага ваяводы, страчаныя ўладанні, права на захоўванне ў сваім архіве папер, што тычыліся Літвы, але яшчэ дабіўся выплаты сямі асобных сум у агульнай колькасці сямі мільёнаў польскіх злотых, якія былі яшчэ продкамі выдаткаваны на абарону краю, на замежныя дыпламатычныя місіі ці на грамадскія патрэбы. Для параўнання з тымі грознымі рашэннямі, якія некалькі гадоў назад абрынуліся на яго, прывяду выпіскі з новай пастановы сейма: «Самы верны доказ душэўнай велічы і прыгажосці — самааддана, ахвяруючы жыццём, служыць айчыне, чыніць людзям дабро, вялікімі дзеямі даваць прыклад нашчадкам і не шукаць за гэта ўзнагароды і нават ганаровай славы. Якраз да такіх вялікіх людзей трэба аднесці высокаадукаванага князя, маршалка Генеральнай кароннай канфедэрацыі і маршалка сейма Караля Радзівіла, вартага самай шчырай і вечнай хвалы і ад усёй Рэчы Паспалітай заслужанай удзячнасці… Усе яго прэтэнзіі, як уласныя, так і грамадскія, павінны быць задаволены цяперашнім сеймам. Ніякіх іншых узнагарод, якія

Рэч Паспалітая ахвотна гатова ахвяраваць, ён не просіць і тым самым у братніх сэрцах грамадзян мацней, чым у велічных манументах, закладае лепшыя да сябе пачуцці, што даражэй за ўсё. Пра гэту веліч і сціпласць, а значыць, пра сапраўдную любоў да айчыны, пра высакародную і слаўную акцыю паведваючы праз вякі нашчадкам для памяці і добрага прыкладу, запісвае Рэч Паспалітая ў канстытуцыі яму, адукаванаму князю, і славутаму дзеямі і маральнымі вартасцямі роду яго заслужаную падзяку».

Тое, што пераможца заўсёды лічыцца героем, а пераможаны злачынцам, яшчэ раз вельмі добра паказаў Кароль Радзівіл.

Радзівіл вымушаны быў прасіць аўдыенцыі ў караля, якога не любіў і не паважаў. Адзін французскі аўтар запісаў яго размову з каралём:

«— Тая самая рука, — казаў Радзівіл, — якая надзела на тваю галаву карону і якая аб'явіла мяне ворагам айчыны, сёння прывяла мяне сюды, — спадзяюся, што ад гэтага буду мець прыхільнасць у Вашай каралеўскай мосці.

— Род твой, князь, — адказаў Станіслаў Аўгуст, — заўсёды быў верны каралям; цябе самога бачыў асвечаным для караля, майго папярэдніка, і такіх самых пачуццяў я чакаю ад цябе.

— Былы кароль мяне не прыціскаў, — прамовіў суха Радзівіл.

— Будучы раней раўнапраўнымі грамадзянамі, — казаў кароль, — мы былі прыяцелямі. Хачу, каб гэтая прыязнасць працягвалася.

— Мне хацелася б верыць у шчырасць гэтых слоў, — адказаў князь Кароль з уздыхам.

Кароль абняў яго. Пасля некалькіх хвілін маўчання Радзівіл выйшаў, не пацалаваўшы каралеўскай рукі».

Сапраўды, гэтае паяднанне Радзівіла з дваром было толькі знешняе і нядоўгае. Хутка змяніліся абставіны: Радамская канфедэрацыя ў наступным годзе была расфарміравана і Радзівіл вярнуўся ў спустошаны Нясвіж, каб хутчэй арганізаваць тут мясцовую канфедэрацыю, блізкую па сваёй сутнасці да ўтворанай на Украіне Пулаўскімі Барскай канфедэрацыі, якая ўзнікла пад уплывам аўстрыйскага двара і Апостальскай сталіцы. Але Нясвіж занялі расіяне, войска Радзівіла было распушчана, яго прыхільнікі разбегліся. Князь Кароль на чале невялікай жменькі свайго войска падаўся да Варшавы і, перайшоўшы неўзабаве аўстрыйскую мяжу, знайшоў сховў у Цешыне, дзе знаходзілася кіраўніцтва Барскай канфедэрацыі.

З гісторыі вядомы лёс гэтай канфедэрацыі: выдатныя яе поспехі, спроба пасадзіць у турму караля, уцёкі кіраўніцтва

ў Цешын пад апеку Аўстрыі, дзе яму было пасля адмоўлена ў прабыванні, і нарэшце здача яго ў рукі караля. Падзеі гэтыя папярэднічалі першаму падзелу Польшчы ў 1772 годзе.

Няма падрабязных звестак пра гэтую паўторную эміграцыю Радзівіла. Вядома толькі, што ён быў у Вене, дзе меў аўдыенцыю ў двары, быў, здаецца, у Італіі, дзе здзіўляў усіх сваёй здольнасцю прыкладацца да келіха і добрым апетытам, быў у Парыжы, дзе ў яго гонар адну брудную вулачку назвалі Радзівілаўскім пасажам. Але больш за ўсё ён прабаўляўся ў Саксоніі і Баварыі. Якраз з яго прабываннем у гэтых краях звязаны адзін пацешны выпадак, пра які варта расказаць.

Баварскі курфюрст, ведаючы, што Радзівілы атрымалі ад імператара Карла V княскі тытул і гэтым ураўняны ў званні з князямі нямецкай рэспублікі, намерыўся акружыць Караля манаршай світай. Для гэтага палякам і ліцвінам з яго світы ён панадаваў званні камергераў і ім падобныя. Але для таго каб атрымаць гэтыя званні, кожнаму з прэтэндэнтаў трэба было яшчэ даказаць сваё шляхецкае паходжанне, вывесці свой радавод праз многія стагоддзі як па бацькоўскай, так і па мацярынскай лініях. Зрабіць гэта было немагчыма: канфедэраты толькі са зброяй у руках уцяклі за мяжу і, вядома ж, не мелі пры сабе ніякіх родавых архіваў і не маглі атрымаць з дому патрэбных папер. Але выйсце тут прапанаваў знаходлівы Радзівіл. Палякі пачалі даказваць сваё шляхецкае паходжанне пры дапамозе папер, якія быццам бы прыслалі ім з дому поштай. У сапраўднасці яны былі пад кіраўніцтвам Караля падроблены спрытнымі прыдворнымі. Пры дапамозе геральдыкі выводзіўся кожны шляхецкі род з глыбокай старажытнасці, яшчэ ад Ноевага каўчэга, даказвалася сваяцкасць з усімі славутасцямі свету. Выплывалі на свет Божы дзіўныя юрыдычныя і геральдычныя дакументы, рукапісныя хронікі. Баварскі двор прымаў за чыстую манету гэтыя «апокрыфы», што, кажуць, захоўваюцца ў тамашніх архівах альбо з пашанай вывешваюцца на шаўковых шнурах і сведчаць аб тым, якія штукі выкідваў Радзівіл перад немцамі.

Багацці Радзівіла забяспечвалі доўгі час як яго самога, так і бедных палякаў, якія знайшлі прытулак за мяжой. Але калі яны былі вычарпаны, калі з уладанняў, на якія быў накладзены секвестр, не маглі да яго прыходзіць прыбыткі, шляхта, што сядзела на яго землях, нягледзячы на плату, якую яна павінна была ўносіць у казну Рэчы Паспалітай, пасылала за мяжу збяднеламу каралю ўласны грош. Ці патрабуе гэта каментарыя? Ці

не яскрава малюе гэта характар літоўскай шляхты і характар Радзівіла, які быў для яе амаль богам?

Радзівілаўскія ўладанні сталіся аб'ектам ваенных спусташэнняў аж да 1776 года. «Вайна людзей не нараджае», — казаў некалі Чарнецкі. Вайна, можна дадаць, гарадоў не ўзбагачае, палёў не ўрабляе і не дае краіне ўмоў для дабрабыту. Лісты і рапарты каменданта Нясвіжскай крэпасці, якія захаваліся ў архіве, даюць карціну спусташэнняў гэтых мясцін ад 1773 да 1776 года. У 1773 годзе (год, калі якраз былі распушчаны езуіты, лёс якіх падзяліў і нясвіжскі калегіум) Нясвіж апынуўся ў руках расіян. У замку гасціў генерал Татлебен. «Нясвіжскі замак, — піша князю 27 мая Сабескі, — пасля паведамлення няверных вашых слуг пра тое, што там павінны захоўвацца гарматы і розныя скарбы, ужо тры разы быў перакапаны…» У пісьме ад 12 лютага 1774 года ён паведамляе: «Скарбніца ў Нясвіжы пасля яе агляду нябожчыкам Татлебенам была запячатана, цяпер, з прыбыццём праз колькі тыдняў на пастой новага легіёна пад кіраўніцтвам каменданта князя Фабулава, пячаць ужо сарвана, таму наўрад ці трэба сумнявацца, што ў скарбніцы што-небудзь засталося». Услед за вайсковымі рабаўнікамі было нямала і мясцовых шукальнікаў радзівілаўскіх каштоўнасцяў. Пра гэта 10 ліпеня 1774 года, калі ўжо мінуліся ваенныя трывогі, паведамляе князю той жа Сабескі: «Ключы ад скарбніц аддадзены пану Папінему, а самі скарбніцы апячатаны панам камісарам Раманоўскім, хоць у іх мала чаго засталося, таму што і па заканчэнні секвестру яшчэ многа было рабаўнікоў і зладзеяў… Некалькі дзясяткаў жалезных гармат, прывезеных у старыя часы са Слуцка, яшчэ дасюль ляжаць у Нясвіжы на гаўптвахце…»

Пасля першага падзелу Польшчы і аб'яўлення амністыі барскім канфедэратам Кароль Радзівіл вярнуўся, нарэшце, на радзіму, дзе былі для яго страчаны толькі вялікія ўладанні Невель і Себеж, якія разам з іншымі беларускімі землямі адышлі да Расіі. Спустошаны і надоўга пакінуты Нясвіж ізноў вітаў яго ў сваіх мурах. Ізноў адбылося прымірэнне з каралём, прымірэнне няшчырае, бо дыктавалася толькі неабходнасцю. Але Радзівіл цяпер мала паказваўся ў двары, замкнуўся ў сваім уладанні, каб цараваць над шматлікай і магутнай шляхтай. Здаволіўшыся ўсякімі прыгодамі, ён бавіўся цяпер успамінамі пра іх, не скупячыся дамалёўваць гэтыя прыгоды яркімі фарбамі ўласнай фантазіі. З таго часу пра яго пачалі хадзіць шматлікія выдумкі і пацешныя анекдоты. У недаступных лясах Лахвы, Леніна, Налібок і дальніх слуцкіх і нясвіжскіх уладаннях не

раз наладжвалася такое шумнае паляванне, што сваім размахам пераўзыходзіла ўсе ловы каралёў і феадальных князёў, пра якія мы толькі чыталі ў кнігах. Ёсць звесткі, што за мілі і дзясяткі міляў паміж спецыяльна выгараджаных платоў проста ў нясвіжскі парк гналі ўсялякую зверыну, так, як гоняць па вуліцы статак жывёлы. Дзе яшчэ можна знайсці такое своеасаблівае паляванне? Альбо такую дзікую язду Радзівіла ў карэце, запрэжанай мядзведзямі? Але памыліўся б той, хто толькі па гэтых арыгінальных забавах Радзівіла меркаваў аб яго адукаванасці і схільнасцях, бо ёсць таксама факты, якія сведчаць, што ён ведаў патрэбы краю і рабіў шмат карыснага. Ён давёў да ўзорнага парадку сваё войска, якое пазней падараваў Рэчы Паспалітай. Заснаваў у Нясвіжы кадэцкую школу, вельмі прэстыжную і важную для краю, школу, дзе вялося навучанне артылерыі, маляванню, мовам, вайсковай і грамадзянскай архітэктуры. Апрача пачатковых ведаў, якія магло атрымаць тут кожнае шляхецкае дзіцё, за кошт князя выхоўвалася трыццаць вучняў. Адны выхаванцы гэтай школы выдатна вызначыліся потым у літоўскім войску, другія, як Сакалоўскі і Цыбульскі, даслужыліся ў расійскім войску да генералаў*. Ушаноўваючы памяць сваёй маці, стваральніцы тэатра ў Нясвіжы, Радзівіл аднавіў яго і аздобіў у сваім гмаху ў горадзе, арганізаваў балет, куды ўваходзіла сорак чалавек, упарадкаваў і забяспечыў новым абсталяваннем бацькоўскую друкарню, якая апрача некалькіх газетных лісткоў і брашур выдавала на польскай мове «Судовы працэс, альбо Спосаб вядзення судовай справы ў трыбуналах Вялікага Княства Літоўскага» (Нясвіж, 1781), прывёў у парадак персіярні, альбо фабрыкі вышываных золатам паясоў у Слуцку і Нясвіжы (абедзве, асабліва першая, славіліся да апошняга часу ва ўсёй Польшчы і Літве), заснаваў шкляныя гуты ў Налібоках і Урэччы, вырабы якіх яшчэ і цяпер дзе-нідзе можна ўбачыць і якія сталі каштоўнымі помнікамі мінулага, закладаў і ўпрыгожваў сады ў Нясвіжы, Белай і Міры, дзе ў аранжарэях культывавалася многа субтрапічных раслін. Гэтае дзікае сэрца было ў сваёй аснове добрым, шляхетным і адгукалася на ўсё прыгожае, у гэтай дзівацкай галаве ўзнікалі часам здаровыя і канструктыўныя думкі.

---

* Звесткі пра кадэцкую школу ў Нясвіжы ўзяты з папер Амброзія Вейлы (Athenaeum, 1845), але паколькі аўтар даводзіць, што ён пісаў па памяці і толькі праз некалькі дзясяткаў гадоў пасля смерці Караля Радзівіла, гэтыя факты праверaны па іншых крыніцах.

У часы Кароля Радзівіла Нясвіж і тутэйшая жыдоўская абшчына маглі ганарыцца тым, што ўзгадавалі вялікага чалавека. Быў гэта вядомы ў свеце Саламон Майман, аўтар многіх філасофскіх твораў на нямецкай мове, якія зрабілі яго імя славутым у Еўропе. Многа павучальнага ў маленстве геніяльнага ізраільцяніна, які з убоства і цемнаты жыдоўства, сярод якога вырастаў, знайшоў дарогу да навукі. Аўтабіяграфія Маймана* — хвалюючы і павучальны прыклад таго, чаго можа дасягнуць прыродны талент, надзелены да таго ж цярплівасцю і працавітасцю. Нарадзіўся Майман у 1754 годзе. Бацька яго быў заняты мудрэц-талмудыст, які з усім бацькоўскім запалам навучаў сваёй мудрасці і сына. З цікавасцю сочым мы, як гэтае шасцігадовае жыдоўскае дзіця, цэлымі днямі не вылазячы з сінагогі, вартуе кабалістычныя кнігі, як начамі пры смольнай лучыне, хаваючыся ад бацькі, вывучае астранамічны трактат пражскага рабіна Давіда Ганса, былога таварыша па аглядных працах Ціхана Брагэ[52], як выплятае з дубцоў нябесную сферу, як на адзінаццатым годзе жыцця прызнаны адзінаверцамі годным сану рабіна, прыгнечаны беднасцю, прысвячае сябе навучанню дзяцей, як, расшыфроўваючы друкарскія нямецкія сігнатуры ў жыдоўскіх кнігах, вывучае азы нямецкай мовы, якой пазней валодаў як першарадны пісьменнік, як у зімовыя маразы не адну мілю месіць снег, носячы кнігі па фізіцы, якімі яго забяспечваў суседні рабін, як, нарэшце, з такімі цяжкасцямі набытымі ведамі шчодра дзеліцца з землякамі, якія слухаюць яго з недаверам і жахам, як маладога апантанага ерэтыка.

Займеўшы нейкія сціплыя сродкі, Майман выправіўся з Нясвіжа ў Шчэцін і Берлін. Без гроша ў кішэні, узяўшы ў дарогу толькі селядца і некалькі сухароў, праз негасціннае Памор'е ён дабіраўся да прускай сталіцы, спадзеючыся, што там чаму-небудзь навучыцца і атрымае сталы, хай і скупы кавалак хлеба. Але калі фанатычны і цёмны тамашні рабін назваў яго сярод жыдоў у Берліне небяспечным нававерцам, падаўся галодны да Познані, дзе яму ўсміхнулася нарэшце лепшая доля. Вярнуўшыся пасля доўгіх блуканняў ізноў у Берлін, з усёй сур'ёзнасцю ўзяўся ён за вывучэнне філасофіі, медыцыны, хіміі, матэматыкі, пачаў перапісвацца з Кантам, Мендэльсонам, Бен-Давідам, Рэйнгольдам, Шульцам, з нямецкімі паэтамі Кюнам і Гётэ, наладзіўшы з імі сяброўскія стасункі. Тут і ў Амстэрдаме напісаў каля трох-

* Maimons S. Lebensgeschichte von ihm selbst geschrieben. Berlin, 1793.

сот прац у галіне філасофіі і матэматыкі, у якіх паказаў сябе як сапраўдны філосаф-мысліцель*.

Дзіўнае было жыццё Маймана. Жыды ганарыліся, што ён з іх асяроддзя. Заўсёды схільны да крайнасцяў просты люд палічыў яго мудрацом, вышэйшым нават за Саламона, прарокам, пасланым з неба, і пачаў біць чалом перад сціплым вучоным. Але ўбачыўшы, як мудрэц усміхаўся, калі вучоны рабін даводзіў, што згатаваная на шабаш рыба адзывалася голасам прытоенага ў ёй духа, ён ужо называў яго блюзнерам і атэістам. Вучоны свет захапляўся ім, просты люд яго недаацэньваў, яго ўсюды праследавала зайздрасць.

Між тым вучоны, які быў верны рэлігіі сваіх бацькоў, верны Польшчы, дзе ён не меў ні грамадзянскіх правоў, ні таварыскага кола, адпаведнага яго высокай духоўнасці, думаў, пісаў, рабіў навуковыя даследаванні і не мог на сціплы ганарар за свае кнігі задаволіць самыя неабходныя жыццёвыя патрэбы: ён быў у такой нястачы, што калі б не ласкавая апека графа Калькрэўта, ва ўладаннях якога знайшоў сабе гасцінны прытулак, апошнія гады жыцця правёў бы ў галечы. Памёр Майман у 1800 годзе ў Шлёнску, ва ўладанні свайго дабрачынца. Толькі са смерцю знікла зайздрасць, а Польшча, яго родны горад і ўсе яго аднаверцы пачалі ім ганарыцца. Звычайная гісторыя незвычайных людзей! Вернемся ж да прадмета нашай гаворкі.

У 1783 годзе ў Нясвіжы быў урачыста адсвяткаваны стагадовы юбілей перамогі Яна III пад Венай. Думку пра гэта падаў на святочных абходзінах у Варшаве, якія каштавалі сто тысяч злотых, Станіслаў Аўгуст. Ва ўсёй краіне, ва ўсіх дамах магнатаў, беручы прыклад з Варшавы, адзначалі гэтую слаўную дату. Караль Радзівіл не даў манарху пераўзысці сябе ва ўрачыстасці. Маючы ў спадчыне па Сабескіх нямала родавых памятак, ён здолеў не адной толькі пампезнасцю, але і паказам гэтых унікальных памятак, што засталіся ад Яна III, прыцягнуць увагу грамадскасці. Вось што пісалі тагачасныя газеты пра гэтую ўрачыстасць у Нясвіжы: «Святкаванне стагадовага юбілею перамогі польскага караля Яна III над туркамі ў 1683 годзе пад Венай нідзе з такой раскошай і велічнасцю (хай і найбольшым коштам) не магло быць праведзена, як у горадзе

* Важнейшыя працы Маймана: «Даследаванні ў галіне трансцэндэнтальнай філасофіі» (Берлін, 1790), «Крытычныя даследаванні чалавечага духу» (Лейпцыг, 1797), «Аўтабіяграфія, альбо Майманіяна» (выдадзеная яго прыяцелем Вольфам).

Нясвіжы. Бо ў славутую родавую скарбніцу Радзівілаў былі пакладзены для захоўвання каралеўскія багацці і дамашнія рэчы вялікага Сабескага. Вельмі каштоўныя самі па сабе як дарагія металы і ювелірныя вырабы, яны, аднак, мелі непараўнальна большую каштоўнасць ад таго, што служылі гэтаму вялікаму герою свайго часу. Аднымі рэчамі ён валодаў, займаючы высокія пасады ў Рэчы Паспалітай, удзельнічаючы ў войнах, другія адбіраў пераможнай рукой у ганарлівых атаманскіх правадыроў, іншыя — з удзячнасцю атрымліваў у падарунак ад хрысціянскіх манархаў (як вядомы абаронца хрысціянства). Тыя дарагія сямейныя рэчы да цяперашняга часу цалкам захаваліся ў радзівілаўскім доме. Гэтыя рэчы — адзіныя ў сваім родзе, ім няма цаны. Па загаду Кароля Радзівіла, віленскага ваяводы, яны былі перанесены са скарбніцы для публічнага паказу ў велічную нясвіжскую езуіцкую базіліку і з густам раскладзены на троне пад аксамітным балдахінам, дастойна ўшаноўваючы вялікага караля. Рэчы былі размешчаны ў такім парадку: 1. Арыгінальны партрэт караля Яна; 2. Пад партрэтам — французскі ордэн Святога Духа; 3. Шчыт, ці герб Яна з Сабескіх; 4. Два маршалкоўскія жэзлы караля Яна; 5. Шаблі — з правага боку караля Сабескага, з левага — Жалкеўскага; 6. Дзве булавы караля Сабескага; 7. Яго ж дзве паліцы; 8. Два бунчукі, адзін — караля Яна, другі — турэцкі, узяты пад Венай; 9. Два турэцкія мушкеты; 10. Дзве пары пісталетаў караля Сабескага; 11. Два булаты таго ж караля; 12. Бубен караля Яна, што быў у яго пры сядле, каб у час баявых сутычак клікаць да сябе ад'ютантаў; 13. Шчыт караля Яна, аздоблены перламі; 14. Сагайдак і лук турэцкі; 15. Турэцкая харугва; 16. Яшчэ сагайдак і лук турэцкі; 17. Зноў турэцкая харугва; 18. Кайстра караля Яна для вады, што была пры сядле ў час баявых сутычак; 19. Плашч французскага ордэна Святога Духа з чорнага аксаміту, абшытага золатам. Яго прыслаў каралю Яну французскі кароль Людовік XIV; 20. Капялюш, аздоблены перламі, разам са згаданым ордэнскім плашчом быў падараваны каралю Яну Людовікам XIV; 21. Шышак і зброя Жалкеўскага; 22. Меч, прысланы каралю Яну папам Інакенціем XI, з залатымі рукаяццю і похвай, з папскім гербам і інш. Акрамя таго, на дванаццаці добрых конях, якіх трымалі на дзядзінцы перад касцёлам, паказвалася багатая збруя, дыўдыкі і розныя рэчы, аздобленыя золатам, дыяментамі, перламі, рубінамі, смарагдамі і іншымі дарагімі камянямі, забраныя пад Венай каралём Янам у абозе вялікага візіра»*.

* Gazeta Warszawska. 1783. 22 pazdz. № 85.

Апрача такой колькасці гістарычных каштоўнасцяў заставалася яшчэ ў нясвіжскай скарбніцы, пэўна, мноства іншых розных багатых рэчаў, нягледзячы на рабункі і ліхую долю горада і яго гаспадара. «Хто ж высушыць мора?» — усклікаў, маючы на ўвазе радзівілаўскія скарбы, прыдворны нясвіжскі паэт Юзаф Ляснёўскі ў сваім вершы «Радасць айчыны, што мае такога ўлюбёнага ў яе сына, як князь Кароль Радзівіл, віленскі ваявода». З заўваг аўтара да гэтага верша возьмем некалькі звестак пра багацці Нясвіжскага замка, тым больш што ў творы, які быў прысвечаны Радзівілу і друкаваўся, не магло быць фальшу і перабольшання, як гэта бачым у вусных паданнях, што нямала бытуе сярод людзей.

«Дванаццаць апосталаў, — піша наіўны прыдворны падхалім Ляснёўскі, — і чатыры евангелісты велічынёй у два локці — гэта золата ў радзівілаўскай скарбніцы. Гэтых святых апосталаў і евангелістаў можна назваць Dei penates, дамашнімі бажкамі, бо яны не павінны дапусціць няшчасцяў у доме Радзівілаў… Дванаццаць вялікіх касцельных ліхтароў, таз, налівачка, келіхі, міскі, кадзільніцы, амфары — усё з найлепшага золата; гэтыя рэчы большай часткай — адлітыя, як, напрыклад, ліхтары, часткова — выкаваныя. Гэты бясцэнны скарб для таго толькі зроблены ў форме касцельных рэчаў, каб быў заўсёды цэлы, некрануты, каб бараніў ад вялікіх няшчасцяў Рэч Паспалітую і радзівілаўскі дом: пры выпадку святыя апосталы не пашкадавалі б сваёй міласэрнасці нябеснай». «Бачыў я ў Нясвіжы, — кажа ў іншым каментарыі Ляснёўскі, — вялікі круглы стол асоб на дванаццаць, не меней, — мала таго што сам стол быў срэбны, але нават яго ножкі і падножкі былі выкаваны са срэбра, так, як некалі з жалеза, па-старасвецку. Святыя апосталы і евангелісты часта сустракаюцца каля гэтага стала і радзяцца, што рабіць, каб магутны радзівілаўскі дом мог заўсёды з адпаведнай велічы гаспадара раскошай прымаць каралёў, даваць банкеты, карміць тысячы людзей, забяспечваць бедныя шпіталі і сірот, памагаць збяднелай шляхце, клапаціцца, каб і яе дзеці мелі добрае і прыстойнае жыццё, прыбліжаць іх да свайго двара. Такія парады даюць святыя апосталы і евангелісты каля гэтага срэбнага стала, імкнучыся да таго, каб на ім Радзівілы ў пазнейшыя вякі лічылі мільёны талераў».

У тым жа 1783 годзе ізноў можна было ўбачыць багацце і пыху Радзівілаў — тады святкаваліся ўгодкі князевага брата — Іераніма Радзівіла, літоўскага падкаморага. Паводле апублікаваных твораў пададзім гэтае святкаванне, якое вельмі добра паказвае тагачасныя багацці і карціну забаў Караля

Радзівіла. «Раніцай, пасля сотага стрэлу з гармат ягамосць князь віленскі ваявода, абвясціўшы князю, свайму брату, віншаванне, выехаў у Залучу на сустрэчу са сваім шваграм ягамосцем панам Мараўскім, маршалкам трыбунала Вялікага Княства Літоўскага, падаў у карэце яму правую руку, прывёў той жа раніцай пад салюты з гармат у свой Нясвіжскі замак. Каля паўдня ягамосць князь выслухаў ад шматлікіх гасцей віншаванні і накіраваўся да парафіяльнага езуіцкага касцёла. Перад ім скакаў эскадрон кавалерыі, потым вывелі дванаццаць дзівосных адборных коней для верхавой язды ў рыцарскай экіпіроўцы, аздобленай рубінамі, перламі, смарагдамі і іншымі дарагімі камянямі, пры кожным кані былі па два конюхі, за коньмі рухалася дванаццаць парадных карэт, кожная з іх была запрэжана ў шасцёрку коней з сярэбранай і залацістай шорнай вупражжу і з прыданымі да кожнай карэты лёкаямі. Далей выстраілася пяцьдзясят карэт для гасцей. Калі князь падкаморы пад'ехаў з усёй кампаніяй да касцёла, яго павіталі ад ксяндза Катэбрынга, тутэйшага пробашча, каноніка смаленскага. Пасля гэтага пачалася імша і «Te Deum Laudamus»[53] пры стральбе з гармат і з ручных стрэльбаў. Калі вярнуліся з парада ў замак, гасцям быў дадзены багаты абед на двух сталах, адзін з якіх прызначаўся на сто, а другі — на шэсцьдзясят асоб. Там пілі за здароўе імянінніка пад стральбу з гармат. Вечарам была паказана опера, потым вячэра і, нарэшце, пачаўся баль, які цягнуўся аж да трох гадзін раніцы»*.

Але найлепш могуць характарызаваць Радзівілаў урачыстасці з нагоды памятнага наведвання Нясвіжа ў 1785 годзе Станіславам-Аўгустам, які ехаў на сейм у Гродна. Гэтае гасцяванне, якое павінна было ўвянчаць уяўную згоду Кароля Радзівіла з тронам і якое каштавала больш аднаго мільёна польскіх злотых, апісана ўдзельнікам урачыстасцяў Нарушэвічам**[54] (мабыць, ён суправаджаў караля), а таксама Амброзіем Вейлам***. Там цікаўны чытач знойдзе падрабязнае апісанне баляў, феерверкаў, насыпаных пасярод возера гор, якія імітавалі ці то Гібралтар, ці то вывяржэнне Везувія; там можна знайсці і апісанне тых дзіўных ловаў у звярынцы Альба, куды, як ужо гаварылася, гналі з палескіх лясоў цэлыя чароды мядзведзяў, ліс і ваўкоў, — ловы гэтыя, праўда, маглі б у поўнай меры задаволіць больш рыцарскага караля, чым Станіслаў-Аўгуст; з тых апісанняў можна скласці ўяўленне і пра багаты радзівілаўскі тэатр, і пра

* Гл.: Дадатак да «Gazety Warszawskiej». 1783. № 85.

** Гл.: Raczyński. Pamietniki o dawnej Polsce.

*** Гл.: Athenaeum. 1845. T. VI.

былую езуіцкую школу, якая працвітала пад апекай Радзівіла, зняслаўленага перад нашчадкамі як невука.

Купаючыся ў раскошы, акружаны ўсімі самымі вядомымі ў Польшчы славутасцямі кансерватыўнага крыла і шматлікай, адоранай яго дабрадзействамі шляхтай, у вясёлым таварыстве Бароўскіх, Касакоўскага, сярод сваёй сям'і, на чале вялікай колькасці слуг і прыдворнай міліцыі, адпраўляючы малітвы, забаўляючыся паляваннем, спраўляючы банкеты, цараваў у Нясвіжы Кароль Радзівіл. Палітычнае яго жыццё ўжо закончылася. Ён бачыў, што не можа ўплываць на падзеі ці ўхіляцца ад іх, і добра разумеў, што нічога яму не застаецца, як толькі аказваць дабрачыннасць людзям, сярод якіх жыў. Апошнія гады жыцця Радзівіла называюць яго лянівай дрымотай. Гэта мела сваю прычыну. І разумнейшыя галовы, і больш магутныя постаці падалі ў няроўных бітвах, дык ці ж дзіва, што Радзівіл, змучаны частымі палітычнымі няўдачамі і трохразовым выгнаннем, не захацеў прымаць удзелу ў астатнім акце гістарычнай драмы Польшчы? Не дзіва таксама, што ў асяроддзі шумнай шляхты, над якой цараваў, у бяседах і на паляванні прыходзілі яму ў галаву пацешныя дзівацтвы, у якіх адны бачылі геніяльнасць, іншыя — праявы варварства. Мы не бачым у яго ні таго, ні другога і, аддаючы належнае лепшым памкненням яго першапачатковай грамадскай дзейнасці, без асаблівага здзіўлення слухаем усялякія неверагодныя байкі, якія ён выдумляў, калі быў у добрым настроі, ці якія спісваюцца на яго рахунак.

У 1787 годзе памёр Геранім Радзівіл, малодшы, любімы брат Караля. Паданне расказала пра багатае пахаванне, якое наладзіў Кароль разам з пахаваннем сваёй мачыхі. Былая езуіцкая святыня была абабіта кармазінавым аксамітам, якога, як расказваюць, пайшло на гэта дзве тысячы локцяў. На пахаванне прыехалі ў Нясвіж запрошаныя Радзівілам папскі нунцый Салюза і біскупы — віленскі Ігнацы Масальскі, смаленскі Габр. Вадзінскі і траадэнскі Мікалай Быкоўскі. Тады апошні раз усе ўбачылі старую радзівілаўскую зброю, якой была надзелена варта, што стаяла пры ўваходзе ў касцёл і каля трун. Пасля пахавання, развітваючыся з гасцямі, Радзівіл сказаў: «Я пахаваў таго, хто мяне пахаваць бы павінен, — ніхто мяне не пахавае».

Былі гэта прарочыя словы. Праз некалькі гадоў, у 1790 годзе, страціўшы зрок, Кароль Радзівіл памёр у Белай. Цела яго перавезлі ў Нясвіж і паставілі ў касцельчыку ў прадмесці Новы горад. Але хваляванні, якія ўзніклі якраз у краі, не далі часу апекунам яго багаццяў і малалетняга пляменніка Дамініка

Радзівіла падумаць пра пахаванне, рытуал якога адбыўся толькі праз некалькі гадоў.

Мы прасачылі важнейшыя моманты жыцця гэтай славутай у свой час постаці, апошняга, як нехта сказаў, з еўрапейскіх паноў, чые імёны праславіліся ў гісторыі апошніх стагоддзяў і хто сілай сваёй прыроўніваўся не да аднаго з тагачасных дзяржаўных уладароў. Праслаўленае яго імя надоўга яшчэ было аб'ектам успамінаў, захаплення, насмешак, ухвалы, легенд і спрэчак, бо таксама выразна адзначылася на карце гісторыі і ў людской памяці.

Каб хутчэй скончыць нашу хроніку Нясвіжа, зробім толькі кароткі нарыс яго гісторыі апошняй паловы стагоддзя.

Адразу пасля смерці Кароля Радзівіла Нясвіж ізноў і ўжо канчаткова занялі расіяне. Малалетні яго нашчадак, спешчанае дзіця, выхоўваць якое не ўзяўся паэт Фр. Карпінскі[55], заставаўся пад апекай сваіх крэўных, пакуль не завалодаў набыткамі сваіх прадзедаў. Пляменнік і нашчадак Кароля Радзівіла ўзяў у спадчыну таксама і яго адкрытае ўсім людзям сэрца, і яго схільнасць да раскошы, жаданне быць аб'ектам захаплення, раскідваць направа і налева грошы, паказваючы гэтым самым, што радзівілаўская скарбніца — невычэрпная. Але часы ўжо змяніліся: польскі магнат не мог ужо ў такім шырокім маштабе выстаўляць сваю пыху і раскошу. Мода і звычаі часу, а таксама строгія айчынныя законы абумовілі фантастычныя выбрыкі багатага дзецюка. Зрэшты, Дамінік Радзівіл, не шкадуючы на раскошу свае нязмерныя багацці, гэтак жа, як і дзядзька, шчодра надзяляў бліжніх, ажывіў грамадскім рухам муры свайго замка і горада, так што Нясвіж у яго часы развіваўся і квітнеў, займеўшы назву малой Варшавы. Пасярод рынка ўзнесліся мураваныя і добра забяспечаныя неабходнымі прыстасаваннямі купецкія крамы. Тут пасялілася многа выдатных рамеснікаў. У палацы аднавіўся тэатр. У другім княскім гмаху, які называўся Абержай і які сёння ў руінах, месціліся гандлёвыя ўстановы, рэстаран і пошта. Былая езуіцкая гімназія была перададзена дамініканцам, для яе забеспячэння Дамінік Радзівіл аддаў вёску Скарбін. Нават вольнамулярскае таварыства мела тут, у спустошаных цяпер мурах дома Мікуця, былога сакратара князя Кароля, сваю ложу.

Росквіт горада перапынілі падзеі 1812 года. Вядомыя з гісторыі ваенныя дзеянні ў гэтым краі, у выніку якіх Нясвіжскі замак быў спустошаны і разрабаваны і такім чынам страціў значэнне абарончай крэпасці. Дамінік Радзівіл, заражаны рыцарскім духам сваіх продкаў, сфарміраваўшы кавалерыйскі полк, падаўся на чале яго пад штандары Напалеона, зорка

славы якога ўжо згасала. Ён атрымаў кантузію і 11 лістапада 1813 года памёр у Францыі ў горадзе Ляўтэрэцку, пакінуўшы пасля сябе адзіную дачку. На ім перапынілася лінія нясвіжскіх ардынатаў, якая цягнулася без перарыву ад Мікалая Крыштофа каля 230 гадоў: Нясвіж перастаў быць месцам жыхарства сваіх паноў, якія ўладарылі тут каля трох стагоддзяў.

Указам блаславёнай памяці цара Аляксандра ад 24 лютага 1814 года нясвіжская ардынацыя была перададзена князю Антонію Радзівілу, пазнанскаму ўладару. Малалетняя дачка Дамініка Радзівіла князёўна Стэфанія (потым яна выйшла замуж за князя Людвіка Вітгенштэйна) пад апекай князя Адама Чартарыйскага, Тамаша Ваўжэцкага, а таксама князёў Валента і Канстанціна Радзівілаў. Для размежавання ардынацкіх зямель ад уласна памешчыцкіх, а таксама для ўрэгулявання агромністых, але абцяжараных даўгамі радзівілаўскіх уладанняў была створана камісія, якая працавала ў Вільні аж да 1838 года ўключна. Гэта яшчэ занадта свежыя падзеі, каб пра іх падрабязна расказваць.

Нясвіж у той час, пастунова страчваючы сваё насельніцтва і заможнасць, прыходзіў да заняпаду. Ён быў даведзены да руін, у якіх па сённяшні дзень бачым яго.

У 1835 годзе была ліквідавана тут павятовая школа, якую трымалі дамініканцы на руінах гімназій — езуіцкай і дамініканскай, а два пажары — адзін у ліпені 1836, а другі ў жніўні 1843 года давялі да канчатковага заняпаду славуты некалі горад. Галоўнае кіраўніцтва ўладаннямі князя Вітгенштэйна за некалькі гадоў свайго існавання надало Нясвіжу хоць нейкі рух і жыццё. Але ў 1844 годзе кіраўніцтва перабралася ў Вільню, а Нясвіж, які зрабіўся амаль пусткай, меў ажыўленне толькі ад таго, што тут скрыжоўвалася некалькі трактаў, якія злучалі захад і поўдзень краю з яго паўночнымі і ўсходнімі бакамі.

Сёння Нясвіж налічвае 4230 жыхароў абодвух полаў, звыш 300 дамоў, з якіх дваццаць — мураванак, пяць касцёлаў, тры мужчынскія і адзін жаночы кляштар, адну мураваную і колькі драўляных жыдоўскіх бажніц. Хрысціянскае насельніцтва займаецца выключна земляробствам, жыдоўскае, як усюды, дробным гандлем, продажам спіртных напояў, пасрэдніцтвам, рамёствамі — усім і нічым. Дзейнічае тут яшчэ магдэбургскае права і цэхавыя статуты, напамінаючы пра залаты час, — зрэшты, усё шчасліва плеснявее пачцівай гістарычнай плесняй.

Жыццё горада, як жыццё чалавека, адыграўшы сваю ролю, павінна дайсці да сваёй мяжы, каб уступіць месца новаму часу, новым людзям, гарадам і новаму іх прызначэнню на зямлі. Застаецца, нібы цьмяны сон, толькі ўспамін, які і праходзіць, як сон!

## VI
## УСПАМІНЫ

*Шэраг асабістых успамінаў. — Праграма далейшай вандроўкі.*

> Пра свой боль памаўчы і забудзь аб журбе,
> Каб не знаў непрыяцель, што кепска табе.
>
> *Ян Каханоўскі*

Калі б мы ў гэтай кніжцы не адмовіліся даваць месца асабістым, магчыма, малацікавым для грамадскасці ўспамінам, тут, у Нясвіжы і ў яго ваколіцах, мне было б вельмі многа чаго прыгадаць. Вярнуўшыся ў думках у гадоў дваццаць назад, павадзіў бы я цябе, чытач, па калідорах тутэйшага дамініканскага кляштара, дзе я пачынаў сваю вучобу, паказаў бы кожныя дзверы манаскіх келляў, прыгадаў бы, дзе які мясціўся клас, і расказаў бы пра мае поспехі і няўдачы ў кожным з гэтых класаў. Успамінаючы аблічы маіх таварышаў па школьнай лаве, якіх Бог ведае дзе параскідалі жыццёвыя буры, і шаноўныя, незабыўныя для мяне твары дарагіх настаўнікаў, я мог бы бясконца маляваць іх вобразы. І я, паважаныя мае настаўнікі, святары, бескарысна адданыя выхаванню маладога пакалення, Абдоне Рагальскі, Сымоне Чарніцкі, Якубе Шкілондзь, а перш за ўсё дарагі мой прафесар нямецкай мовы Тадэвуш Сікорскі, яшчэ раз хачу падзякаваць вам за ўсё і сказаць, што я заўсёды буду ў даўгу перад вамі. Заглыбляючыся ва ўспаміны, я вярнуўся б у мае пазнейшыя гады і даў бы чытачу ўяўленне пра маю прафесію перапісчыка-канцылярыста, раскрыў бы вобразы маіх начальнікаў і калег, сваю пашану і прыязнасць да якіх я хацеў бы выказаць і сёння. Але тут мяне стрымлівае пачуццё далікатнасці і боязь таго, што чытачу ў гэтых месцах можа прыйсці ахвота не зусім дарэчы пазяхнуць, а нам — заплакаць. Так, так — заплакаць. Вялікі паэт сказаў, што калі б той камень, з якім гуляе чалавек у дзіцячым узросце, пакласці праз многа год яму ў труну пад галаву, ён, камень, мог бы пусціць слязу над чалавечай доляй. Мясціны, дзе я рос! Сведкі прыгожых мар, сведкі звычайнай, нуднай, прыкрай, цяжкай рэчаіснасці! І вы, добрыя людзі, сярод якіх пражыў я столькі вёсен, столькі летаў і восеняў! Няўжо ж не захавалі вы ніякага пра нас успаміну, ніякага да нас спачування? Але нашто гэтыя ўспаміны і спачуванні? Занадта мы гордыя, каб прасіць шкадавання, і радыя, што пачынаюць зацягвацца пакутлівыя душэўныя раны, нам не хацелася б ізноў вярэдзіць

іх успамінамі, прыгадваць, што калісьці былі мы шчаслівыя, — тое шчасце, як добра паказала пазнейшае жыццё, было адзінае ў нашай тагачаснай слепаце, у залішне лёгкай веры, у залішне паэтычнай надзеі, у залішне маладым каханні, у падмане. Люба ўспамінаць мінулыя гады, калі ў цэлым яны ўдачлівыя, але калі, агледзеўшы сваё мінулае, чалавек бачыць адны толькі бязвінныя, смешныя і нязбытныя мары, — для чаго ж аднаўляць іх у душы? Нехта скажа: «Для навукі на будучае!» О, добрая для мяне навука, ад якой ідзе нявер'е і магільны холад, здольны на ўсё астатняе жыццё смяртэльна замарозіць душу і адгарадзіць яе ад усіх пачуццяў. Але пакінем у спакоі асабістыя ўспаміны.

Цяпер чарга наведаць Свержань, Стоўбцы, Койданаў. Тут я змагу паказаць вам некалькі святынь, апісаць некалькі гістарычных падзей. Па дарозе заглянем пад гасцінную страху якога-небудзь невялічкага маёнтка, дзе будзем упэўнены ў ласкавым прыёме. А калі міжволі сыду на дарогу асабістых успамінаў, то хай ласкавы чытач даруе за гэта. Нарэшце, успомніўшы, што абяцаў вам падаць тут і даследаванне пра наш люд, я мяркую апісаць воблік тутэйшых вёсак і люду.

## VII

*Дарога да Свержня. — Палі. — Звярок, што завецца суслік. — Мястэчка Гавезна. — Характарыстыка зямлі і людзей. — Свержань. — Яго спадчыннікі. — Касцёл. — Слова пра сплаў і гандаль збожжам па Нёмане да Круляўца.*

> Высокія горы, ў абнове лясы,
> Любуюся вамі й былыя часы
> Свае ўспамінаю…
>
> *Я. Кахаnоўскі. Фрашкі*

Робячы неверагодны зігзаг, кіруем з Нясвіжа ізноў на поўнач, ізноў да Нёмана. Едзем у кірунку да Мінска, і першай нашай перадышкай будзе прынёманскае мястэчка Свержань.

Я не разгарну перад вашымі вачамі панарамы незвычайнай прыгажосці краявідаў — гэты бок Літвы небагаты на раскошныя карціны прыроды. Аднак вока падарожніка не стамляецца аднастайнасцю раўнін, узгоркаў і лясоў, бо кожны пейзаж мае сваю сціплую, някідкую красу, якую, думаю, можна параўнаць хіба толькі з красою літоўскай дзяўчыны. Не знойдзеш у ёй ні

залішне правільных контураў, ані той эфектнай стройнасці — убачыш толькі ў абліччы адкрытасць і мілую прастату, стрыманую ўсмешку на ім, нейкую ціхую гуллівасць, пяшчоту. Што ж такога, што яна не распальвае жаданняў, не растрывожвае сэрца, а толькі разлівае гаючы бальзам для душы. Спачатку яна будзе проста падабацца, але потым да яе разгарыцца сапраўднае каханне. Пакуль мы разбяромся ў сваіх пачуццях, яна ўжо завалодае нашымі сэрцамі. Такая Літва, такія і яе дочкі.

Але не будзем развіваць далікатныя і небяспечныя параўнанні, бо воз ужо гатовы ў дарогу, частка якой у нас за плячыма.

Тым жа самым прадмесцем Казімер, якім мы ўехалі ў горад, выязджаем цяпер з Нясвіжа. Налева, на захад, ідзе дарога на Мір, направа, амаль строга ў паўночным напрамку, выбягае паштовы тракт на Свержань. Туды мы і кіруем.

Мінаем сляды даўніх валоў горада і праз колькі часу, азірнуўшыся назад, ужо не бачым касцельных вежаў, — іх засланілі сабой крайнія дамы пабудаванага ў нізіне горада. Здалёку ўзвышаецца над старым радзівілаўскім горадам толькі разбураны Свята-Міхальскі касцёл, пабудаваны на гары.

Перад намі колькі вёрст сцелецца па раўніне прамая, абсаджаная высокімі бярозамі дарога. Абапал бачым багатую расліннасць: густыя шыракалістыя лясы, выдатная збажына ў полі, — як-ніяк Нясвіж з ваколіцамі належыць яшчэ да Случчыны, якая славіцца сваімі ўраджаямі на раўніннай зямлі, вядомай сваімі чарназёмам і глінай.

Аднак плён палёў бывае здабычай своеасаблівага непрыяцеля. Гэта малы, попельнага колеру з белымі крапінкамі звярок, што завецца суслік (Arctomis citellus), з роду пацукоў — велічынёй з пацука; размнажаецца ён на палях у нечуванай колькасці. Неўзабаве пачне спець збажына, і чароды суслікаў, узброеных чатырма вострымі зубкамі, будуць нападаць на каласы, падгрызаць іх і цягаць у свае глыбокія вертыкальныя норы — назапашваць іх на зіму. На адным моргу жыве зерняедных шкоднікаў да дзясяткаў сямей, і кожная сям’я вельмі хутка размнажаецца, таму не дзіва, што часам яны спустошаюць цэлыя моргі, так што людзі вымушаны іх кідаць. Вывесці гэтых шкоднікаў зусім немагчыма, бо свае норы суслік капае так глыбока, што іх нельга дастаць плугам, а атруціць сябе ён таксама не даецца, бо для яго не знойдзеш лепшай прынады, чым зерне, якога яму ў полі колькі хочаш. Паколькі раскопваць гэтыя норы вельмі цяжка, па патрабаванні ўрада часам праводзіцца ўсюды адначасовы водны наступ на сусліка. Гэты спосаб дзякуючы вертыкальнасці нор

суслікаў вельмі эфектыўны: пакуль звярок з затопленага гнязда выплыве наверх, у нары ўжо будзе не адно вядро вады. Суслік у Расіі і ў іншых краінах вельмі распаўсюджаны, на Літве ён вядомы толькі ў ваколіцах Нясвіжа. Паводле падання, нехта з Радзівілаў (Сіротка ці Кароль), упадабаўшы за мяжой гэтага гожага звярка, прывёз пару суслікаў у Нясвіж. Уцёкшы з замка, яны пачалі размнажацца ў навакольных палях, і праз нейкі час іх стала там, як зорак на небе. Сёння за некалькі міляў адсюль ужо можна сустрэць калоніі суслікаў, але галоўная іх сталіца — гэта прылеглыя да Нясвіжа палі.

Праз шэсць вёрст краявід мяняецца: адкрытыя дагэтуль палі ўступаюць месца лясам, якія некалькі вёрст цягнуцца злева, — сярод іх на тракце на радасць падарожнікам сустракаюцца дзве ці тры непрыглядныя карчмы. У гэтых драўляных цёмных і брудных прытулках можна дапытацца толькі трох прадметаў: гарэлкі, гарэлкі і гарэлкі. Авёс і сена для коней адносяцца тут да прадметаў раскошы, пра ежу для падарожных, пра асобны пакойчык для начлегу і пытацца не трэба.

Яшчэ праз чатырнаццаць вёрст сярод урадлівых раўнінных палёў ляжыць мястэчка Гавезна з прыгожай мураванай царквою, з прасторнай драўлянай карчмой, з панскім маёнткам непадалёку і з некалькімі падуладнымі яму вёскамі. Гэта адна са старэйшых тут асад. У 1588 годзе Мікалай Крыштоф Радзівіл набыў яе ў слуцкага князя Яна Алелькавіча, а ў 1590-м — перадаў з усімі сваімі навакольнымі вёскамі кляштару нясвіжскіх бенедыкцінак, якія тут заснавалі раскошную ўніяцкую царкву. Помняцца яе старыя непабеленыя гатычныя муры.

Вельмі шкада, што сёння, белячы царкву і аздабляючы яе блішчастымі купаламі, сціраюць і характэрныя асаблівасці далёкага мінулага.

За Гавезнай яшчэ колькі вёрст раўнінных урадлівых палёў, але потым, недзе вёрст за дваццаць ад Нясвіжа, характар ландшафту мяняецца: раўніна пачынае горбіцца ўзгоркамі, чарназём і гліністая глеба паступова ўступаюць месца пясчаным глебам. З левага боку некалькі вабных для вока сядзіб, з якімі звязана ў нас многа асабістых хвалюючых успамінаў, але яны наўрад ці зацікавяць абыякавага чытача. Цяпер перад намі ўжо краявід, характэрны для наднёманскіх ваколіц. Пяць вёрст ад Свержня такія невыносныя для падарожніка, што ён звычайна зварочвае з паштовага гасцінца, хораша аздобленага шнурам стройных рослых бяроз, і едзе наўзбоч, дзе хоць пяскі і не меншыя, але не столькі прыкрых выбоін.

Уся гэтая мясцовасць, за выключэннем Гавезны, нягледзячы на ўрадлівасць глебы, была надзвычай позна заселена. Да XVI стагоддзя тут былі толькі дробныя ўладанні шляхты, якія набываў і далучаў да сваіх уладанняў Мікалай Крыштоф Радзівіл. І амаль усе тутэйшыя двары і вёскі ўзніклі не раней азначанага часу, а назвы іх паходзяць ад прозвішчаў іх уладальнікаў. Вось некаторыя двары і вёскі, пачынаючы ад Нясвіжа: фальварак Ферберкаў, які атрымаў назву ад Каспара Фальберга (перайшоў да Радзівілаў у 1675 годзе), Грэшнаўшчына — ад Андрэя Грэшнага (была набыта ў 1565 годзе), вёска Ахрамовічы каля Гавезны, яе Мікалай Крыштоф набыў у Абрама Мікітавіча Ахрамовіча, і г. д. Добра, што такім чынам захаваліся прозвішчы шляхты, якая першапачаткова валодала тымі землямі, але ўсё ж шкада, што сцерліся даўнейшыя назвы гэтых мясцін — якіх-небудзь Акопішчаў, Гарадзішчаў, Замчышчаў і іншых падобных помнікаў старажытнай славяншчыны, калі, вядома, яны некалі былі.

Па вёсках на гэтай дарозе, па знешнім выглядзе сустрэчных сялян можна меркаваць, як адрозніваюцца тут умовы жыцця ад тых, што мы бачылі болей чым за тры мілі адсюль. Селянін пад Нясвіжам, як і на ўсёй Случчыне, заможны, выключна аддадзены працы на сваёй урадлівай зямлі, ён дамасед, які далей царквы і гандлёвага мястэчка нідзе не бываў, а таму ў сваім адзенні захаваў нешта спрадвечнае. Ён носіць доўгія, старанна прычасаныя валасы, высокую шапку з аўчыны, адвечнага крою світу, шырокі рэмень. Сялянка ходзіць у каптуры і гарсэце, у такіх самых, якія насілі яшчэ яе прабабкі. Гэта шаноўны клас хлебаробаў, такі, якім мы і ўяўляем яго ў сваіх ідэалах. Селянін жа ваколіц Нёмана, гаспадар менш урадлівай нівы, вымушаны зімой зарабляць у мястэчку пры дапамозе сякеры, а летам хадзіць на плытах ці віцінах, — большы касмапаліт, ён з меншай пашанай захоўвае каштоўныя мясцовыя паданні, ён бяднейшы, спрытнейшы і менш клапоціцца пра сваю маёмасць. Замест старасвецкай сярмягі, высокай шапкі з аўчыны і ліповых лапцей з шырокімі рамянямі, якія з такой элегантнасцю абвязваюць нагу селяніна са Случчыны, тут убачыш у мужчын і жанчын якуюсь эмансіпаваную капоту, у жанчын яшчэ нешта падобнае на чэпчык паняў-мяшчанак, а ў мужчын пашытую на нямецкі лад шапку альбо капялюш і святочныя боты, хоць тутэйшыя сяляне ўвогуле не так любяць ахайнасць і чысціню ў адзенні, як іх браты з хлебадайных мясцін. Больш цесныя сувязі з жыдамі прывучылі іх да гульні і келіха, а зносіны з класам гандляроў вызвалілі іх у нейкай меры ад здаровых у сваёй аснове маральных нормаў.

У сялянскіх песнях, казках і гутарках можна ўбачыць і нейкі знешні ўплыў. Але які канкрэтна? І якой дарогай ён прыходзіць сюды? Цяжка растлумачыць, чаму любоў селяніна да сваёй бацькаўшчыны мала дапамагае зберагаць і шанаваць уласныя традыцыі. Зрэшты, і адны, і другія — і сяляне з-пад Слуцка, і сяляне з Прынямоння — размаўляюць на беларускай гаворцы, вызнаюць грэка-расійскую альбо каталіцкую веру, прычым веданне сваёй веры абмяжоўваецца толькі тым, што яны ўмеюць памаліцца, прыродная ж славянская пачцівасць сцеражэ іх сумленне, здаровы сялянскі розум замяняе навуку.

Але вось з пясчанага ўзгорка адкрываецца перад намі цудоўная наднёманская панарама! Здалёк відаць як бы вялікі горад з некалькімі мураванымі будынкамі. Гэта два блізкія адно ад другога мястэчкі, падзеленыя паміж сабой Нёманам — Свержань і Стоўбцы, якія ўдалечыні зліваюцца ў адно цэлае, выстаўляючы напаказ вежы сваіх касцёлаў і цэркваў. Злева — вянок альшын над рэчкай і маляўнічыя ўзгоркі з лесам, што сінее на гарызонце. Справа на зялёнай прасторнай лугавіне серабрыцца Нёман са сваімі затокамі. На адной з гэтых заток відаць мост на высокіх палях, які нагадвае нейкага вялізнага станогага авадня, што паўзе па лузе.

Уязджаем у мястэчка Свержань. Гэта маленькі і непрыглядны горад. Вось на шырокай бруднай вуліцы туляцца бедныя хрысціянскія і жыдоўскія дамы, некалькі корчмаў, далей — паштовая станцыя, млын, плябанія і невялічкі старасвецкі цагляны касцёльчык, рынак са сваімі ўбогімі драўлянымі крамамі, мураваная царква і дзве поўныя гразі вуліцы, якія пабеглі ўніз, і пры дапамозе іх Свержань звязаны з суседнімі мястэчкамі — Стоўбцамі і Мірам. Як бачым, няма тут ніякіх вартых увагі выдатнасцяў. Але пакуль папасуцца коні, раскажу што-кольвек пра мінулае гэтай мясціны і адведаем убогі касцельчык.

Свержань, як ужо згадвалася, быў у пачатку XVI стагоддзя толькі панскім маёнткам ці вёскай (curia seu vicus), падараванай Жыгімонтам I Яну Літавору Храптовічу, маршалку літоўскаму і старасту драгіцкаму. Жыгімонт Аўгуст пацвердзіў наданне. Свержань з прылеглымі ўладаннямі быў падзелены паміж дзвюма дочкамі Храптовіча, адна з якіх выйшла замуж за Грыгорыя Остыка, другая — за Мікалая Ужалеўскага. Абодва ўладанні шляхам куплі і працэсаў перайшлі потым да Мікалая Крыштофа Радзівіла і дасюль засталіся ўласнасцю яго роду. Патрэбна было б многа расказваць пра тыя працэсы. Адно толькі варта тут успомніць. Перагаворы, якія вяліся наконт гэтага да 1581 года

паміж Радзівілам і Глябовічамі, палюбоўна завяршыў таварыш і прыяцель Яна Каханоўскага Лукаш Гурніцкі, тыкоцінскі стараста, вядомы аўтар «Дваraніна», «Гісторыі Кароны Польскай», перакладчык «Troady» — трагедыі Сенекі, яго ж даследавання пра дабрачыннасць, а таксама Сакратавага «Дэмана».

Хто ж мог спадзявацца, што ў невялікім літоўскім паселішчы мы спаткаемся з гэтым імем, што знойдзем тут адну падрабязнасць з жыцця славутага польскага пісьменніка?

Пра тутэйшы касцёл мы ведаем толькі тое, што ў 1588 годзе яго забраў у кальвіністаў ці, мажліва, у арыянаў Мікалай Крыштоф Радзівіл, загадаў асвяціць яго на імя Пятра і Паўла, але вельмі скупа забяспечыў. Невялікі старасвецкі цагляны касцельчык гэтакі ж сціплы ўсярэдзіне, як і знадворку. З першага погляду відаць, што гэты касцёл будавалі не для каталікаў, а для невялікай часткі людзей пратэстанцкага веравызнання. Рызніца, алтары, лаўкі, амбон, спавядальні — усё драўлянае і прыбудаванае ў час, калі касцёл быў перададзены каталікам. У вялікім алтары статуя Хрыста пры слупе, а ў бакавых — два абразы, не зусім па-мастацку выкананыя. Званы разбітыя, арган, а лепш сказаць арганчык — з незвычайным піскам. Аднак у гэтай сціплай святыні, перапоўненай у свята вернікамі, помню, як шчыра і горача я маліўся, намнога больш шчыра і горача, чым пазней у прасторных і велічных базіліках! Ці то рысы шаноўнага і вельмі набожнага твару святара, ці працяжны, прачулы яго спеў, ці старадаўнасць, якой вее тут з кожнага кутка, ці, можа, большы запас веры ў грудзях, — не ведаю, што з усяго гэтага рабіла ўплыў на маю набожнасць.

Апрача касцёла — у рускай царкве, якая некалі належала айцам базыльянам, што мелі тут сваё паслушэнства, было, як мне помніцца, некалькі някепскіх абразоў. У маёй памяці засталіся паказаныя там пакуты езуітаў у Японіі, а таксама запомніўся пустэльнік Ануфрый з барадой да каленяў, з якім анёл ідзе да святога прычасця.

Свержань — гэта пункт, ад якога суднаходны Нёман пачынае несці на сваіх крутых хвалях літоўскія віціны, нагружаныя неапрацаванымі скарбамі нашай зямлі. Ёсць тут прыстань, некалькі свірнаў. Але ўвесь гандаль знаходзіцца ў руках жыдоў, — хто не бачыць, на якім яшчэ нізкім ён узроўні! Адсутнасць капіталаў у гандляроў, адсутнасць духу прадпрымальніцтва ў грамадзян, адсутнасць добрых рамеснікаў, якія маглі б спрасціць старасвецкую канструкцыю саміх суднаў (хаця б прыстасавалі да іх сілу пары), нарэшце, нежаданне

спраміць крутое карыта Нёмана і зрабіць карту меляў, карчоў, камянёў і схаваных пад вадой глыбаў, — усё гэта трымае яшчэ тутэйшы гандаль у тым стане, у якім быў ён у нашых далёкіх продкаў. Шкада толькі, што мы менш сціплыя ў сваіх патрэбах, чым продкі, і што збяднелыя нашы нівы ўжо не так добра родзяць, як у часы першапачатковага, больш стараннага земляробства, шкада, бо гандаль па Нёмане да Круляўца намнога меней дае сёння нам, чым нашым далёкім продкам.

## VIII

*Стоўбцы. — Яшчэ пра гандаль збожжам. — Стоўбцы ў далёкія часы. — Дамініканскі касцёл. — Царква. Urbs subterranea*[56].

Над суднамі тут — палатняныя крылы.
Заморскія купіш тут пілы ды вілы,
Тут гонкія мачты, што бачылі моры,
        Сягаюць пад зоры.
Тут шкіперы — мудрыя, пэўна, галовы:
У іх у цане ўсё — і грошы, і словы.
Купляй, прадавай. Ноч на носе? Няхай!
        Кішэнь напіхай!

*Кляновіч. Плытагон*

Са Свержня, замест таго каб падацца паштовым гасцінцам, што праз доўгі мост вядзе на Мінск, едзем прыватнай бітай дарогай — агледзець другое сплаўнае мястэчка — Стоўбцы, якое ляжыць праз вярсты дзве на другім беразе Нёмана. Кароткая дарога ідзе лугамі паўз раку і блізкія затокі. На мутным Нёмане стаяць віціны, пры якіх снуюць рабочыя альбо плытагоны, — гэта калі ехаць тут зімовай ці вясновай парою. Летам жа плёхаецца тут з венцерам рыбак, а па бязлюдным беразе паважна прахаджваецца бусел. На фоне зялёных лугоў і далёкіх цёмных лясоў бялее некалькімі мураванымі пабудовамі само мястэчка, да якога нас перавозіць паром.

Пры самым уездзе каля Нёмана пачынаюцца шэрагі купецкіх свірнаў. Летам тут пуста і глуха. Але зімой і пад вясну, калі саннай дарогай лёгка перавозіць тавары, для адпраўкі ў Крулявец, — што тут галасу, што людзей, што фур з усіх канцоў краіны і з усялякім таварам! Сустрэнеш тут і нашага селяніна

са Случчыны і з Наваградчыны са збажыною, і палешука з адзінай, характэрнай для яго краю прадукцыяй — дзяругамі, і валыняніна з прыправамі, і беларуса з ільном ці пянькой, велікаруса з алеем. Усё гэта віціны павінны забраць і завезці на спажытак немцам. А што мы будзем мець ад іх узамен? Некалькі сотняў бочак селядцоў, некалькі дзясяткаў бочак віна і трохі грошай. Кажам — трохі, бо з гандлю не вялікая карысць не толькі для краю, не толькі для вытворцаў прадукцыі, якімі з'яўляюцца гараджанін і селянін, але нават для самога гандляра, бо гэты гандляр часцей за ўсё жыд, што карыстаецца пазычаным грошам, гоніцца за дробным прыбыткам і не ведае сапраўдных купецкіх спекуляцый, авансаў, ахвяраванняў, без чаго цяжка ўявіць шырокі гандаль. Даверлівасць, гэтая наймацнейшая падпора меркантыльнага дабрабыту, так часта злоўжывалася ў выніку няўдачы ці кепскай рахубы паміж гандлярамі, здаецца, ужо страчана, дык што ж за дзіва, што плён нашай зямлі так бескарысна рэалізуецца?

Гэты раз толькі самымі агульнымі словамі мушу гаварыць з чытачом — хоць разумею, што пра гандаль збожжам трэба было б даць больш шырокую справаздачу. Калі-небудзь у вальнейшую хвіліну, займеўшы ўсе неабходныя матэрыялы, падрабязна раскажу, якая прадукцыя, у якой колькасці і адкуль дастаўляецца да прыстані, колькі віцін перапраўляе ўсё гэта, якія выручаюцца капіталы* альбо прадметы хатняга ўжытку, што вымушаны купляць у немцаў і англічан, як, напрыклад, суадносіцца сума, заплачаная за спіртное, што ідзе на шляхецкія сталы, з сумай, заплачанай за соль і селядцы — самыя неабходныя прадукты сціплага сялянскага абеду. Апішам вам падрабязна нашу віціну, раскажу пра яе вандроўку па шырокім Нёмане, намалюю аблічча наднёманскага сплаўшчыка, пастараюся на аснове матэрыялаў мінулага падаць хоць бы кароткую гісторыю сплаву па Нёмане з даўнейшых часоў, — паспрабуем вычарпаць тэму, якой мы тут толькі здалёку дакрануліся. Агледзім жа мястэчка Стоўбцы, пачынаючы, як звычайна, з яго гісторыі.

Вельмі сумняваюся, што яно магло быць заснавана раней другой паловы XVI стагоддзя. Бо ў цытаваным ужо прывілеі Жыгімонта I Храптовічу на Свержань напісана, што яму аддаюцца абодва берагі Нёмана, пры гэтым Стоўбцы там нават

---

* У 1848 г. на стаўбцоўскай прыстані сабрана і выслана за мяжу прадуктаў коштам 273 969 рублёў. Гл. Арсеньева «Статистические очерки России».

не ўпамінаюцца — сведчанне, што яны яшчэ не існавалі. Гэты другі (паўночны) бераг Нёмана, бераг, на якім былі вёскі, што належалі да Стаўбцоўшчыны, у выніку паяднання Храптовіча з домам Мікалая Яновіча Служкі, старасты крычаўскага, праз яго жонку Гальшку Кміцянку, роду Храптовічаў, засялілі Служкі. Пасля гэтага паміж Служкамі, Ужалеўскімі і Мікалаем Крыштофам Радзівілам, які набыў вотчыну Ужалеўскіх, у 1575 годзе працэс быў закончаны. Уладальнікам гэтых зямель стаў Радзівіл. Але пазней, аж у 1582 годзе, акругляючы свае ўладанні на свержаньскім баку Нёмана, дамовіўся з удавой Служкі і за некаторыя занёманскія вёскі аддаў ёй некалькі тутэйшых вёсак, з галоўным дваром Кавалеўшчыны. Пра мястэчка Стоўбцы тут няма яшчэ ніякага ўпамінку.

Можна дапусціць, што тут пасяліўся сын Мікалая Аляксандр Служка, ваявода наваградскі. Робячы двор Кавалеўшчына нечым падобным да рэзідэнцыі, заснаваў тут замак. Неўзабаве, перайшоўшы з пратэстантызму да каталіцкага веравызнання, ён, магнат, фундатар некалькіх касцёлаў у Літве, заснаваў у 1621 годзе кляштар дамініканцаў Рускай правінцыі і касцёл — спачатку драўляны, а потым прыгожа абклаў яго цэглай. Тут ён і спачывае пасля сваёй смерці ў 1651 годзе*.

У гэтым касцёле гатычнага стылю, з дзвюма вежыцамі спераду і велічнай ратондай збоку, ёсць некалькі абразоў, якія маюць адзнакі самага высокага пэндзля за выключэннем партрэта святога Казіміра ў вялікім алтары. Прапаведнікі, святы Антоні і Юльян Біскуп, які дае міласціну ўбогаму, — выявы, як відаць, мясцовага выканання, у іх праглядваецца рука Юзафа Гескага, мастака XVIII стагоддзя, якога ўжо ўпаміналі, гаворачы пра дамініканскі касцёл у Нясвіжы. Можна ўбачыць тут яшчэ ў бакавым алтары абраз, на якім паказана бойка святога Міхала Арханёла з д'яблам. Гэты абраз выкананы Смуглевічам[57] і падараваны стаўбцоўскаму касцёлу Чартарыйскімі, пазнейшымі ўладальнікамі гэтых зямель. Варты ўвагі даўнейшы партрэт фундатара, выкананы на ўвесь рост і вывешаны ў рызніцы, чатыры вялізныя статуі святых у прэсвітэрыі і чатыры меншыя ў двух

* Нясецкі (выд. Бабровіча. Т. VIII. С. 414), гаворачы пра Аляксандра Служку, два разы памыляецца: першы раз — што ён заснаваў у Кавалеўшчыне касцёл, якога там ніколі не было (толькі на могілках малая капліца святой Магдалены), другая памылка — што ён быццам спачывае ў тым жа касцёле, у той час калі ён пахаваны ў стаўбцоўскім касцёле, дзе мы самі бачылі яго прах.

бакавых алтарах. У першых кідаецца ў вочы пэўная афектацыя ў кампазіцыі фігур, затое другія, святыя жаночыя постаці, — поўныя высакародства і мілай красы. Гіпсавы арнамент ва ўсім касцёле вельмі прыгожы. Велічная і гожая выйшла гэтая святыня з рук фундатара. Аляпаватыя статуі святых апосталаў Пятра і Паўла ў бакавой капліцы, абы-як намаляваныя працэсуальныя харугвы і тоўсты слой пылу на сценах і скляпеннях касцёла — гэта ўжо «аздобы» пазнейшага часу. Трохпавярховы сціплы кляштар, пасля таго як яго пакінулі ў 1830 годзе дамініканцы, быў перароблены на свецкую плябанію, не меў, здаецца, ні бібліятэкі (нельга ж лічыць ёю некалькі дзясяткаў кніг, якія там знаходзяцца), ні якога-небудзь іншага помніка старажытнасці, апрача партрэта фундатара і старой выявы Хрыста з выразам боскасці і пакуты. Зрэшты, добрыя айцы жылі тут больш за дзвесце гадоў, не пакінуўшы пасля сябе ніводнай адметнай памяткі.

Апрача каталіцкага касцёла ў Стоўбцах ёсць яшчэ мураваная руская царква, заснаваная Чартарыйскімі, пасля якіх яна адышла ва ўласнасць манарха. Славяцца тут лёхі і крамы з напоямі, гэта як бы другі падземны горад, як рымскія катакомбы. Гэтыя лёхі і крамы — добры напамінак аб іншых, весялейшых часах. Пара такіх крамаў, якія належаць заможнейшым купцам, да гэтага часу працвітае.

Стоўбцы налічваюць амаль дзве тысячы душ жыхароў. Смела можна сказаць, што палова іх летам адпраўляецца ў Крулявец: жыды як купцы і іх рознай ступені і наймення камісіянеры, мяшчане як рулявыя і сплаўшчыкі. Летам пануе тут ціша і пустэча, восенню ж і зімою — рух і галас, характэрны для збожжавай пристані, дзе амаль цалкам гаспадараць дзеці Ізраіля.

## IX
## КОЙДАНАЎ
*Урывак з дзённіка*

*Выезд з маіх былых ваколіц. — Начлег у Койданаве. — Слова пра гэтую мясціну: яе старажытнасць, напады татар, касцёлы, успамін добрага святара. — Збор гельвецкага веравызнання ў Койданаве і дамавіны Радзівілаў у ім.*

У кожным кутку чалавека туга сустракае.
А сэрца дарэмна свайго суцяшэння чакае.

*Каханоўскі. Трэны*

У душэўных пакутах ёсць нешта святое: разарванае імі сэрца — нібы святыня ў час страшнай Ахвяры, калі ў яе нельга пускаць непасвячоных. Пакідаючы мае былыя ваколіцы, хачу толькі трошкі сказаць пра тыя прычыны, што змусілі мяне да гэтага.

Пад маёй зацішнай страхою жыло сямейнае шчасце. Усё, здаецца, было гэтак добра сярод дзятвы, у згодзе з Богам, з прыродай, у сяброўстве з кнігай, пакуль самым балючым чынам не кранула мяне Божая рука.

Магіла на стаўбцоўскіх могілках забрала ў мяне двое дзяцей — маю надзею на будучыню. Хто не быў бацькам, хто не любіў, хто ніколі не марыў, не зразумее майго болю, не зразумее стану душы, ахопленай роспачлівым адчаем, маіх пакут. Жадаючы зменшыць боль развагамі, працай, малітвай, яднаннем з прыродай, я адчуваў, што думкі ўвесь час бяруць адзін толькі кірунак, а кожны кут у доме, кожны прадмет у акне, кожная сцежка ў агародзе сталі для мяне сведкамі былога шчасця, якія выклікаюць успаміны: то хвіліны, калі схіляўся над хворымі ў ложку, то іх сканане, то карціну пахавання тых, за каго аддаў бы жыццё. Я не змог знайсці такіх сіл, такога гераізму, каб заставацца ў гэтых мясцінах, сярод гэтых успамінаў, таму, кінуўшы жменю пяску на апошнюю труну, вырашыў, як сапраўдны вандроўнік, выправіцца куды вочы глядзяць.

17 верасня 1852 года, развітаўшыся з добрымі прыяцелямі і глянуўшы затуманенымі ад слёз вачамі на дом, які перастаў ужо быць маім домам, і на такія любыя сэрцу ваколіцы, рушылі мы ў дарогу на Мінск, каб ехаць да Вільні. Праз мілю ад Залучы завіталі ў бацькоўскі дом, — новыя слёзы, новыя развітанні. Змяркалася, калі мы выязджалі, — нас не пускалі, прасілі пе-

раначаваць, але нам як хутчэй трэба было… ехаць без мэты, як найхутчэй і як найдалей уцячы адсюль і глынуць халоднага гаючага паветра, аблегчыць душэўны боль.

Лесам, паўз бераг ракі Сулы, якая непадалёку ад майго былога дома ўпадае ў Нёман, потым, пераехаўшы гэтую раку каля яе вытокаў у вёсцы Засулле, вялікай палявой раўнінай ехалі мы міляў пяць сярод чароўнай ночы. За намі быў мой дом, налева — мястэчка Свержань і Стоўбцы, адсюль ішоў паштовы гасцінец да Мінска і бясконцыя лясы, што цягнуліся ад вусця Нёмана. Мы едзем прасёлачнай шырокай дарогай да Койданава. Перад намі мільгаюць сядзібы, вёскі, засценкі, крыжы пры дарозе; там водны млынок між маляўнічых пагоркаў каля рэчкі, там велічны маёнтак над вялікім возерам. Але не ўсё можна было разгледзець, бо зямля хавалася ў змроку. Праўда, поўнік, які добра свяціў з начнога неба, дазваляў усё ж шмат чаго ўбачыць, мы дзівіліся зямному хараству, маліліся вялікаму Творцу сусвету. Пасля пяцігадзіннай хуткай язды мы спыніліся ў былым радзівілаўскім, а цяпер казённым мястэчку Койданаве, дзе дах жыдоўскай карчмы прытуліў нас на начлег. Хацелася адпачыць душой і целам пасля цяжкой дарогі, але тут праз тонкую сцяну жыдоўскай перагародкі даносіўся звон шклянак і гучны голас нейкага чыноўніка земскага суда, што расказваў пра свае геройскія ўчынкі ў нейкім тутэйшым следстве.

Назаўтра, пакуль папасвіліся коні, я агледзеў мястэчка Койданаў. Яно старое, як свет, а лепш сказаць, як Кітай, і, як Кітай, чужое ўсякаму прагрэсу — якое было спрадвеку непрыгляднае, такое і цяпер засталося. У Стрыйкоўскага можна прачытаць, што пад Койданавам вялікі князь жмудскі Скірмунт у 1241 годзе даў адпор татарам на чале з Балаклаем, а Міндоўг дабіўся перамогі над гэтымі ж татарамі і над рускімі князямі Даніілам і Васількам*.

---

* Так піша Стрыйкоўскі. Карамзін жа (выданне 1842. Т. IV. С. 53) сцвярджае, што, наадварот, Міндоўг быў пераможаны, але не падае пісьмовых звестак, на якія пры гэтым абапіраецца. «Данііл цешыўся ўжо думкай аб сваёй поўнай незалежнасці, калі незлічоныя войскі манголаў, якія вёў жорсткі Бурундай, наступнік слабога Курамсы, апынуліся на мяжы Літвы з Руссю. «Ты друг ці вораг хана? — запыталіся ў галіцкага караля паслы Бурундая. — Калі ты друг, ідзі з намі на Літву!» Данііл вагаўся, марудзіў з адказам, але нарэшце, бачачы перавагу татарскіх сіл, паслаў да Бурундая свайго брата Васілька з войскам і паклонам. Полчышчы манголаў абрынуліся на незнаёмую ім дагэтуль Літву. Толькі бясконцыя пушчы і багністыя балоты ратавалі

У 1442 годзе Казімір Ягелончык яшчэ перад уступленнем на польскі трон, толькі што пастаўлены намеснікам свайго брата ў Літве, перадаў Койданаў разам з некалькімі іншымі гарадамі Міхалу, сыну Жыгімонта Кейстутавіча. Потым Койданаў стаў уласнасцю кароны: Жыгімонт Аўгуст у 1551 годзе аддаў Койданаў з замкам як спадчыну брату сваёй любай жонкі Барбары Мікалаю Радзівілу Рудому, у родзе якога па біржанскай лініі заставаўся аж да знікнення гэтай лініі, пасля чаго перайшоў да дому князёў Радзівілаў нясвіжскіх.

Апрача сваёй старажытнасці, Койданаў нічым больш не вызначаецца. Ён налічвае дзве ці тры сотні сасновых дамкоў, больш за палову якіх складаюць занадта знаёмыя жыдоўскія корчмы і двары.

Насельніцтва горада складае 1550 душ абодвух полаў*. Апрача жыдоў і хрысціян тут жывуць на выдзеленых землях і татары. Жыгімонт III у 1588 годзе прызначыў гораду два кірмашы, цяпер змізарнелыя. Новыя крамы і жыдоўская бажніца на рынку сталі як бы сэрцам горада, бо хрысціянскае насельніцтва знаходзіцца тут, як і ва ўсіх нашых мястэчках, на другім плане.

Хрысціяне маюць тут тры малітоўныя дамы. Гэта — грэка-расійская царква, якая нядаўна пабудавана на рынку і якая вылучаецца сапраўды прыгожым спалучэннем італьянскай архітэктуры з візантыйскай. Другі — даўнейшы касцёл, пабудаваны ў 1439 годзе літоўскім ксяндзом Міхалам, — драўляны, сціплы і знадворку і ўсярэдзіне. Ён нагадаў мне нядаўна памерлага тутэйшага плябана, ксяндза Заусцінскага, сапраўднага святара, дабрачынца людскога. У час пахавання ўсе даведаліся пра тыя незлічоныя дары, паднашэнні, пазыкі і міласціны, што шчодра атрымлівалі ад яго беднякі і няшчасныя ў мястэчку і ў ваколіцах. Не магло не крануць сэрца гэтае адзінае ў сваім родзе пахаванне. Каля труны чуліся галашэнне і плач беднага люду, які страціў у яго асобе айца, а ўдзячныя за многія яго дабрадзействы койданаўскія жыды адправілі па ім у сваёй бажніцы набажэнства, у час якога выкліканы з Мінска рабін выступіў з

жыхароў. Гарады і вёскі былі сцёрты з зямлі» (Тамсама. С. 54.) Хітрыя захады Данііла не мелі выніку. Ані ў Кракаве, ані ў Венгрыі ён не знайшоў дапамогі, і адзінай для яго ўцехай была атрыманая ў дарозе вестка, што Васілька перамог Міндоўга, страшнага для суседзяў, але слабейшага за манголаў».

* Гэта лічбы 1843 г. Гл. «Журнал Министерства внутренних дел». 1843. Сакавік.

арыгінальнай, вельмі жаласнай казанню. Хто ж з нас не жадаў бы такога пахавання? Але, скажа нехта, каб быць дабрачынцам людскім, трэба мець скарбы. Так, скарбы, толькі не ў мяшку, а ў сэрцы. Шанаваны ўсімі плябан не меў вялікіх набыткаў, іх ледзьве хапіла на тое, каб аплаціць яго сціплае пахаванне, але меў дух Божы. Ён насіў у сэрцы любоў, якая шчодра адарала ўсіх бліжніх. Добры наш прыяцель Юльян Гарайн[58] у «Дзенніку варшаўскім» за мінулы год расказаў пра ксяндза Заусцінскага і яго пахаванне.

Трэцяя хрысціянская святыня ў Койданаве — гельвецкі збор, заснаваны Мікалаем Радзівілам Рудым, які для яго сваім адзінаверцам падараваў пляц і муры старога замка, а на патрэбы Божай службы — невялікую, але добрую вёску Чарнягоўшчыну. Гэтая святыня, агароджаная высокім мураваным парканам, умацаваная зубцамі і байніцамі, стаіць наводшыбе, у канцы мястэчка, у яго заходнім баку. Зубцы і мур разбураюцца, валы асядаюць, равы зраўноўваюцца з зямлёй, — усё гэта яшчэ больш жвава пераносіць нашу думку ў XVI стагоддзе, калі гельвецкае веравызнанне ў Літве, нягледзячы на магутную апеку Кішкаў, Радзівілаў і іншых магнатаў, вымушана было ўзбройвацца, ідучы на малітву, — каб залішняя заўзятасць езуітаў не прычынілася да ўсякіх зняваг у адносінах да іх псалмоў. А паколькі матэрыяльная сіла мае тэндэнцыю да злоўжыванняў, не дзіва, што літоўскія кальвіністы з абароны не раз пераходзілі ў наступ, сведчаннем чаго тыя нашумелыя трагічныя выпадкі, якія мелі месца у Вільні, у Слуцку і г. д. Невядома, ці здаралася калі такое ў Койданаве, але зразумела імкненне кальвінісцкіх пастараў умацоўваць свой збор якраз у XVII стагоддзі, калі ўжо нясвіжскія Радзівілы вярнуліся ў каталіцызм, даўшы гэтым прыклад навакольнай шляхце, а ўладальнікі Койданава і абаронцы пратэстантызму Радзівілы лініі біржанскай — Крыштоф, Януш і Багуслаў, жывучы далёка, не маглі абараніць сваіх адзінаверцаў ад мясцовых гвалтаўнікоў.

Койданаўская святыня ў неспакойныя часы Яна Казіміра стала ахвярай нападаў і рабункаў*. На сінодзе гельвецкага веравызнання, які адбыўся ў 1691 годзе ў Вільні, была прынята пастанова, каб кожны чацвёрты год сінод, ці ўсеагульны з’езд літоўскіх кальвіністаў, праводзіўся ў Койданаве. Хоць і многа было тут школ гэтага веравызнання, але сярод койданаўскіх пастараў былі і славутыя ў свой час імёны, напрыклад Крыштоф з Жарноўца. Вось і ўсё, што хацелася сказаць пра гэтую святыню.

---

* Гл.: Łukaszewicz. Dzieje wyznania Helw. w Litwie. T. II. S. 37.

Агледзелі мы яе іншым разам, калі прыязджалі ў Койданаў. Пачцівае кіраўніцтва паказала мне ўсе куткі збору, дзе былі каменная пліта алтара, амбон, хоры і лаўкі. На алтары, на вялікае маё здзіўленне, я знайшоў цудоўна захаваны экзэмпляр Брэсцкай Бібліі, гэтай вялікай у нашы часы бібліяграфічнай рэдкасці, на друкаванне якой Мікалай Радзівіл Чорны выклаў вялізныя сумы, паслаўшы ў Брэст трыццаць славутых тады літаратараў. Вялізныя стосы экзэмпляраў гэтай кнігі па загаду яго сына Мікалая Крыштофа спальвалі на агні на рынках у Вільні і Нясвіжы, і толькі лічаныя экзэмпляры яе змаглі ацалець.

Па гэтай кнізе сёння моляцца ў койданаўскай святыні. Брэсцкая Біблія, старыя абарончыя муры збору, пакрытыя плесняй, і ўрачыстая ціша жыва перанеслі мяне ў XVI стагоддзе, паставілі перад вачамі душы некалькіх адметных тагачасных постацяў, нагадалі ідэі гэтага стагоддзя, ідэі, што кіпелі рэлігійнымі і палітычнымі душэўнымі бурамі. Толькі магільны пах з-пад алтара вяртаў да балючай праўды, што на зямлі ўсё смяротнае: людзі, іх ідэі, іх жаданае заўтра, якое праз хвіліну становіцца сумным і смешным учора.

Напомнілі мне і пра радзівілаўскія дамавіны, якія тут знаходзяцца. Зайшлі мы пад алтар і па вузкіх падгнілых сходах ступілі ў склепік, дзе стаіць некалькі трун са спарахнелымі касцямі Радзівілаў, вызнаўцаў кальвінізму. Найбольш багатыя з іх, металічныя, спазналі рукі рабаўнікоў. Але які канкрэтна з Радзівілаў тут спачывае, ніхто не здолеў мне сказаць. Калі Радзівілы-католікі збудавалі сабе грабніцу ў Нясвіжы, каб у сямейным коле некалькіх пакаленняў разам стаць у вялікі дзень Уваскрасення перад Богам, другая, не менш магутная іх галіна, пратэстанты, складалі свае косці па ўсім краі. Адны з іх ляжаць у Біржах, другія — у Кейданах, Койданаве, Слуцку, трэція, як Багуслаў, канюшы літоўскі, — аж у Круляўцы, у чужой зямлі. Але хто ж усё-такі канкрэтна спачывае тут? Гэта павінна вывучыць і сказаць духавенства. Зрабіць яму гэта будзе лягчэй таму, што кальвіністы з часу свайго з’яўлення тут і да сённяшняга дня захоўваюць з рэдкім шанаваннем і дакладнасцю свае акты. Здаецца, што тая вялікая іх частка, якую трымаем мы ў руках, належыць, напэўна, Мікалаю Радзівілу Рудому, які заснаваў і забяспечыў святыню, гэтаму мужу, якога любіў Жыгімонт Аўгуст і, як расказвае біёграф Багуслава Радзівіла, нібы яшчэ на каленях песціў, мужа, які па-геройску змагаўся ў бітвах пад кіраўніцтвам Баторыя. Можа, я памыляюся, можа, гэтая частка не Мікалая Рудога. Шкадую, што не вывучылі старыя паперы —

можа, удалося б высветліць. Пры ўсёй сваёй недасканаласці навука Галена[59] і Спурзгейма[60] — патрэбная навука, калі пры яе дапамозе можна пасля смерці адрозніць чало, што насіла вянец з дубу і алівы, ад чала, заплямленага ганьбай.

## X
## ТРАДЫЦЫЙНАЯ КУЛЬТУРА ВАКОЛІЦЫ

*Вера. — Звычаі. — Ступень асветы. — Умовы побыту. — Гаспадарка. — Узаемаадносіны паміж панам і народам.*

Ты пакуль што — быццам тая дзічка ў гаі,
На якую аніхто і не зважае.
Прышчапі ж галінак — з розуму і цноты,
З веры ў Бога шчырай, з дабраты, пяшчоты,
Гэткіх дасць яна пладоў!

*М. Рэй з Нагловіц*[61]

Перапыняючы тут нашу вандроўку, адчуваю патрэбу даць малюнак звычаяў тутэйшай стараны. Кола нашага даследавання выходзіць за межы намечанай прасторы ў некалькі міль і ўключае ўсю заходнюю частку сённяшняй Мінскай губерні, дзе знаходзім нямала агульнага з нашымі ваколіцамі. Паколькі вясковы люд будзе прадметам разгляду ў наступным раздзеле, тут жа займемся сярэднешляхецкім саслоўем і перш за ўсё пазнаёмімся з яго верай.

Гатычныя касцёлы і касцёлкі нашых гарадоў і мястэчак кожны тыдзень запаўняе Хрыстова паства, каб па прывычцы ці з душэўнай патрэбы выліць душу ў малітве. Кожны тыдзень ксёндз-пробашч прамаўляе з амбона якую-небудзь казань па друкаванай кнізе. І ўсё ж хрысціян як глыбокай правінцыі, так і гарадоў трывожыць вялікая бяда нашага часу. Бяда гэтая — не бязбожнасць ці нявер’е, але, можа, горш за тое — абыякавасць да веры, холад у сэрцах, а адсюль адсутнасць выратавальнага станоўчага ўплыву, які павінна аказаць рэлігія на грамадства. Сярод духавенства правінцыі мы сустракаем добрыя сэрцы, светлыя галовы, але рэдка бачым пастара, які быў бы ў цесных духоўных сувязях са сваёй паствай. Рэдка які плябан добра ведае станоўчае і заганы, долю і нядолю сваёй парафіі, рэдка заглыбляецца ва ўмовы мясцовага жыцця. Таму не дзіва, што казані, якія тут чуем, не вельмі стасуюцца з мясцовымі звычаямі,

яны з холадам выслухоўваюцца, малыя даюць вынікі. Мы чуем вучоны дагматычны трактат там, дзе трэба рабіць уплыў на мараль, дэкламацыю пра пыхлівасць у нас, дзе сціплы жыхар незаможнай ваколіцы, далёкі ад яе д’ябальскіх нашэптванняў, грашаць хіба толькі келіхам. Асобныя найбольш значныя заганы так характэрныя для пэўных ваколіц, што, добра вывучыўшы, можна было б нанесці іх на геаграфічную карту. Ёсць ваколіцы, заражаныя звадамі ды сваркамі, у іншых да такой крайнасці дайшло суседскае дружбацтва, што пашыраюцца нястрыманыя гулянкі, якія марнуюць час і адбіраюць здароўе, у адным месцы як бы пасяліўся чорт, у іншым няспешны прэферанс, нібы павольная гангрэна, паралізуе грамаду. З гэтымі мясцовымі заганамі кіраўнікі сумлення павінны б змагацца, іх слова, сказанае ў часе і да месца, пойдзе толькі на карысць грамадству. Але як вызначыць гэты час? Дзе ўбачыць тое месца? Адказ на гэтыя пытанні можна знайсці, калі добра пазнаёміцца з духам паствы. Не зможа зжыць тыя заганы пропаведзь духоўніка, які не ведае грахоў сваіх суседзяў. У такім разе ўплыў нават самых красамоўных яго слоў будзе раўняцца нулю.

Дзякуй Небу! Няма ў нас вялікіх злачынстваў, ёсць толькі большыя ці меншыя грахі, заганы, звязаныя з традыцыяй, са звычкамі. Мы ў іх застылі. А паколькі ў занадта будзённым стане духу прыходзім мы маліцца і спавядацца Богу, паколькі не ведаем моцных рэлігійных узрушэнняў, што ж растопіць той лёд у нашых сэрцах? Хто ж вызваліць нас ад маральнай стагнацыі? Хто абудзіць у нас вялікія хрысціянскія якасці? Тады б духоўнікі, кіраўнікі духу, толькі машынальна абходзілі б свае рэлігійныя абрады.

Старана, пра якую ідзе гаворка (Мінскі, Слуцкі, Наваградскі паветы) і якая складаецца з паасобных вотчын, агромністай колісь радзівілаўшчыны і меншых прыватных уладанняў, не мае так званай арыстакратыі. Толькі дзе-нідзе які больш заможны паўпанак, бы пацук сярод мышэй, паказвае сваю фанабэрыю перад драбнейшай шляхтай. Таму часта панскія грахі — напышлівасць, касмапалітызм, эгаізм, раскоша — не мелі магчымасці тут разрасціся і заглушыць усё тое добрае, што ёсць у гэтай мясцовасці. Дастатак, якім адарае Бог некаторыя дамы і людзей, служыць для пашырэння жыццёвых выгод, дапамагае ў набыцці ведаў і робіць уплыў на паляпшэнне долі вясковага люду. А калі часам маладзейшая генерацыя паноў-землеўладальнікаў на кантрактах у Мінску ці ў Наваградку дазволіць сабе якія-небудзь панскія выбрыкі, калі ў вінарні ці за

зялёным столікам за адну ноч прасадзіць гадавы прыбытак, то гэтыя выбрыкі, як адзінкавыя грахі, ні ў якой меры не павінны даць падставу меркаваць пра ўсю ваколіцу. Не ў адным заможным доме можна сустрэць добрую кнігу, прыгожую карціну, не ў адной вёсцы можа ўзрадаваць дабрыня памешчыка, якая заўсёды адаб'ецца і на твары селяніна, і на яго ж адзенні, і на стане ягонай хаткі, і на велічыні ягонага гумна для збожжа. Можна было б назваць некалькі адукаваных і сумленных сельскіх памешчыкаў, але няма патрэбы прыводзіць уласныя імёны, бо мы вывучаем хутчэй людскія садружнасці наогул, чым канкрэтных людзей.

Што ж да стану асветы драбнейшай шляхты, дык тут неабходна сказаць праўду: не ўсе яшчэ ў нас усвядомілі яе патрэбу. Маладых людзей аддаюць на выхаванне ў гімназіі Слуцка і Мінска, потым — у айчынныя ўніверсітэты, рэшта моладзі ідзе на чыноўніцкую службу. Тыя маладыя людзі, што ідуць вучыцца, — гэта надзея краю. Што ж з гэтага атрымаецца, пакажа будучыня. Тым часам у нас можна знайсці мноства сямей, дзе ў святой прастадушнасці з пагардай глядзяць на кнігу, бо яна, бачыце, нічога не дае гаспадарцы, затое шчыра вераць, як у нешта святое, у прадказанні з віленскага ці бярдзічаўскага календароў. У апошнія часы ў ваколіцах з'явілася некалькі дзясяткаў экзэмпляраў «Газэты варшавскей» і некалькі — «Дзенніка варшавскего» — доказ вялікага ў нас прагрэсу, бо дагэтуль адзін толькі «Кур'ер»[62] задавальняў нашы сціплыя інтэлектуальныя патрэбы. Чытаючы газеты, часам вельмі пацешна іх каменціруем. Любая палітычная вестка часцей за ўсё толькі тады прымецца да веры, пакуль яе не растлумачыць па-свойму пачціваму шляхцічу які-небудзь аўтарытэтны арандатар, карчмар ці купец або пан, Моўша ці Лейба, якія добра ва ўсім дасведчаны. Я сустракаў сталых чытачоў «Газэты варшавскей» і «Дзенніка варшавскего», якія з цяжкасцю адольвалі палітычную частку, а ў літаратурны раздзел нават і не жадалі заглядваць. Калі я пытаўся ў іх, чаму не чытаюць далей, яны робяць паважны выгляд, даючы зразумець, што чытанне ў сур'ёзнай газеце матэрыялаў пра будзённае жыццё зневажае іх чытацкую годнасць. Мала хто чытае пра гандаль, бо хто ж можа даць больш дакладныя звесткі пра яго, чым мясцовыя жыды? Не цікавяцца чытачы і новымі ўказамі і пастановамі ўрада, бо ведаюць, што пра іх раскажа і мясцовы пан асэсар. Дык ці ж трэба здзіўляцца, што жыд і пан асэсар злоўжываюць гэтым, што, добра ведаючы пра нашу любасць да дамашняга цяпла, не прамінаюць, каб скарыстаць нейкім чынам нашу недасведчанасць. Але колькасць такіх шляхцічаў

пачынае значна змяншацца: сыны і дочкі іх, захапляючыся літаратурай і мастацтвам, мяняюць сітуацыю да лепшага. Ужо да сценаў сціплых літоўскіх фальваркаў дайшлі гукі мелодый Ліста і Тальберга, становяцца вядомымі тут не толькі імёны Сю[63] і Дзюма[64], але нават Кажанёўскага[65], Крашэўскага і іншых айчынных пісьменнікаў, якія прыйшліся даспадобы. Вядома, у гэтай цікавасці да музыкі, у гэтым чытанні няма яшчэ сістэмы, паслядоўнасці. У доўгія зімовыя вечары часцей за ўсё мы забіваем час гульнёй у прэферанс (рэдка дзе келіхам) і менш за ўсё выдзяляем часу на чытанне. Але ўжо цешыць тое, што кніга павολί пачынае станавіцца патрэбнай у шляхецкім доме. Мінская губерня мае магчымасць некалькі разоў на год набываць новыя кнігі: віленскія кнігары пасылаюць свае крамы на кірмашы ў Мінск, Пінск і Наваградак, Нясвіж і кожны раз на пэўную суму прадаюць друкаваны тавар. Наколькі можна меркаваць з бессістэмных звестак, Мінск са сваімі немалымі ваколіцамі набывае літаратуры штогод на чатыры-пяць тысяч рублёў срэбрам. Гэта страшна мала! Бо прымаючы пад увагу, што Мінская губерня налічвае 1 010 965 жыхароў*, атрымліваецца, што на кожнага чалавека ў год прыпадае духоўнага спажытку на суму меней, чым паўкапейкі срэбрам, інакш кажучы, меней за адзін польскі грош. Вось якое гамеапатычнае лячэнне духу! Але з агульнай колькасці насельніцтва, выключаючы жыдоў, якія чытаюць талмуды, што не бяруцца тут у рахунак, сялян, якія не чытаюць, бо чытаць не ўмеюць, засцянковую шляхту, якая не чытае, бо ёй няма за што купляць кнігі, і шляхту трохі вышэйшага палёту, якая не чытае, каб не страціць свайго аўтарытэту, — выключаючы, паўтараю, гэтае нечытаючае насельніцтва, цікава, колькі ж можна налічыць чытацкай публікі? І на якую суму кожны з чытачоў набывае кожны год кніг? Зноў жа, колькі з агульнай сумы, хацелася б ведаць, прыпадае на малітоўныя кнігі, на музычныя ноты, на падручнікі для навучання дзяцей і колькі на мастацкую літаратуру? Колькі на кнігі польскія? Колькі на французскія? Аналізуючы гэтыя лічбы, можа, удалося б даведацца пра ступень асветы, яе патрэбы, пра зацікаўленасць літаратурай і навукамі. Не будзем рабіць дакладных даследаванняў гэтага роду. Перш за ўсё таму, што зрабіць гэта даволі складана, а па-другое — баімся атрымаць несуцяшальныя вынікі.

Жыццё сярэдняга класа ў тутэйшым баку пасрэднае, як пасрэдныя ўраджаі на нівах, як пасрэдная праца на іх, як па-

* Падлікі з 1846 г. Гл. «Статистические очерки России» Арсеньева.

срэдныя нашы прамысловасць і гандаль. У нас амаль зусім няма фабрык. Апрача збожжа больш урадлівыя мясціны даюць лён і пяньку. Лясы дадаюць яшчэ трохі брусу, клёпак, смалы, дзёгцю, шкіпінару, паташу і дзяругі, але ў нас вельмі мала лясоў, мы вельмі неабачна іх вынішчаем, а каб прадаць тое, што нам даў Бог, за мяжу, чамусьці мы не можам без пасрэдніцтва жыдоў, не ўмеем як найлепш карыстацца ўласнай прадукцыяй. На нашых кантрактавых з'ездах няма ў абароце вялікіх грашовых сум, затое невялікія шляхецкія набыткі дзякуючы сціпласці жыццёвых патрэб не абцяжараны вялікімі даўгамі. Не відаць шыкоўных экіпажаў і каштоўных жаночых строяў, і, што з гэтага вынікае, не відаць жабрачых лахманоў на плячах аратаяў; шляхціч і мужык жывуць, як кажуць, сярэдне.

Чаму ж «сярэдне», калі з нашай зямлі, з поту нашай працы маглі б паплыць цэлыя стругі багацця? Бо селянін не мае дастатковай незалежнасці, а шляхціч — духу прадпрымальніцтва, схільнасці да прамысловасці. Гаспадарчая руціна, добрая ў часы прадзедаў, якія заўсёды яе трымаліся, пры сённяшніх умовах жыцця мала што дае. Але паволі ўсё павінна змяніцца да лепшага, бо патрэба ў культурным гаспадаранні стала на парадак дня. Старыя ўмовы жыцця мяняюцца, старыя крыніцы прыбыткаў высыхаюць, адна толькі разумная прамысловасць утрымаць можа сёння гаспадара. Бульба, некалі каштоўнейшая культура, што паўстагоддзе карміла і гарэлачным морам залівала нашы правінцыі, колькі гадоў назад падлегла хваробе, гіне дашчэнту; жыд, гэтая колісь душа вёскі і двара, выгнаны з карчмы, не прыйдзе на дапамогу ў крытычны час; агністыя напоі, якія калісьці з такой паважнасцю і шчодрасцю разлівала яго рука, сёння абкладзены падаткамі, абмежаваны ўмовамі, а таму падаражалі і намнога павінны зменшыць прыбытак у правінцыі. Сельскі жыхар, хоча таго ці не, а павінен скіраваць вочы на зямлю-карміцельку і паспрабаваць, ці не зможа ён вярнуць руплівым гаспадараннем страчаныя прыбыткі; рад ці не рад, а мусіць звярнуцца да чутай даўно не шляхецкай нямецкай навукі — аграноміі, вывучыць яе асновы і скарыстоўваць яе парады.

Штодзённы вопыт паказвае недахопы трохпольнага гаспадарання. Севазварот, улічваючы вялікія абшары нашай зямлі і малую колькасць рабочых рук, відаць, не можа быць прыгодны для ўкаранення. Хто ведае пагэтаму, ці адпавядала б і нашым патрэбам і хлебаробскім сілам чатырохпольнае гаспадаранне, якое прапануюць некаторыя аграномы.

Кажучы пра той недалёкі час, калі жыццё будзе прымушаць нас звярнуцца да культурнага гаспадарання, прыходзіць мне на памяць вядомы ва ўсёй Літве выдатны прыклад якраз з маіх былых ваколіц: гэта — гаспадарка генерала М., якому з былых вялікіх радзівілаўскіх уладанняў перайшло мястэчка Мір і шэсць ці сем іншых вялікіх фальваркаў. Гаспадаранне на гэтых землях можа быць выдатнай школай для ўсёй правінцыі. Выкарыстанне прагрэсіўных спосабаў вядзення гаспадаркі зрабіла яе ўзорнай, усё тут квітнее, здзіўляе сваім багаццем, тут незлічоныя чароды авечак, шырокія, засеяныя збожжам і кармавымі культурамі палі, што даюць гаспадару добрыя прыбыткі. Добрай падмогай у гаспадарцы з'яўляецца гандаль. Хоць ён і не лічыцца галоўным, але яму заўсёды аддаецца належная ўвага працаўніка палёў. Яго віціны, нагружаныя ўласным і суседскім збожжам, ужо некалькі гадоў выпраўляюцца ў кожную навігацыю да Круляўца. Дзякуючы сваёй палепшанай канструкцыі, яны могуць і лягчэй плыць, апераджаючы збудаваныя на спрадвечны лад судны, і браць больш збожжа. Не раз, з цікавасцю прыглядаючыся да вялікай гаспадаркі генерала, дзівіліся мы яго працы, яго настойлівасці, разумнасці яго задум, наваўвядзенняў, а таксама прастаце і найпунктуальнейшай дакладнасці вядзення складанай і заблытанай машыны гаспадарання і яго канцылярскага кантролю. Шкада, што ва ўсёй правінцыі мала падобных прыкладаў.

Закончу гэты артыкул некалькімі словамі пра ўзаемаадносіны шляхты з вясковым людам.

Не трэба быць вучоным, дастаткова быць чалавекам і хрысціянінам, каб убачыць, як шмат павінны мы аддаць сялянам — сардэчнасці як братам, удзячнасці як кармільцам. Матэрыяльны побыт люду так непасрэдна звязаны з побытам уладальніка зямлі, што гэты ўладальнік, грэшачы Богу сваім нядбальствам да падданых, сам становіцца пакутнікам, бо цяпер занепадае і яго ўласная гаспадарка. Гэты заняпад гаспадаркі, фінансавае пагаршэнне якраз і ёсць кара за грахі, якія разам з першародным грахом узялі мы ў спадчыну ад продкаў. Рэшткі даўняй шляхецкай пыхі і цяперашняе наша гультайства — вось крыніца кепскага становішча люду. У некаторых мясцовасцях прага раскошы даводзіць да поўнага краху.

Але несправядліва было б толькі наракаць на нядолю люду, бо трэба прызнаць, што ў апошні час можна ўбачыць і нямала таго, што абнадзейвае. Перш за ўсё — гэта пазбаўленне вёскі ад жыда, які цяпер толькі ў асобных прыхільнікаў жыдоўства як нейкая асаблівасць, як адгалосак даўніны застаецца пад

якім-небудзь выглядам у глухой вёсцы ці ў двары. Змяншэнне п'янства ў селяніна абавязкова пацягне за сабой і любоў да працы, а паблажлівасць і справядлівасць двара, які дае магчымасць памнажаць яго набыткі, яшчэ больш заахвоціць яго да працы. Ужо сёння ў многіх мясцовасцях можна заўважыць паляпшэнне жыцця люду, ужо не адзін землеўладальнік пачынае дзяліцца хлебам са сваімі сялянамі. Не адразу быў пабудаваны Кракаў, — прыйдзе час, і памешчык пачне дзяліцца з селянінам таксама ведамі, а нарэшце і сэрцам. Дай толькі Божа, каб у нас было ведаў і сэрца болей, чым гэта неабходна для ўласнай нашай патрэбы!

## XI
## ВЁСКІ І ЛЮД
### *Агульная карцінка*

*Наш селянін у чатырох перыядах свайго жыцця. — Старажытнасць вёсак. — Тып вёскі і асобнай хаты. — Дзяцінства селяніна. — Выхаванне дзіцяці. — Перыяд росту і сталення. — Старасць. — Смерць.*

Але земляроб, як ліхвяр той, ніколі
Спакою не знае, шчыруючы ў полі.
І быдла, і чэлядзь сваю не шкадуе,
Сам церпіць і сквар, і стыхію любую.
Гной возіць, скародзіць, арэ, засявае,
Жне, косіць, малоціць, у схоў засыпае
Ды меле… Таму сёння мае багата
Ўсяго, што даў Бог з невычэрпнейшых спратаў.
Прымаючы дар той, што вывез ён з поля,
Прамовіць: «Хай скрозь будзе Божая воля».

*Кляновіч. Юдашаў мех*

Нашы маёнткі займаюць звычайна самыя лепшыя мясціны — як па прыгажосці краявідаў, так і з боку гаспадарчай карысці. Выключэнне бывае тады, калі вёска ўзнікла раней, чым панскі двор. Не ўсе ж вёскі ўтварыліся згодна з панскай воляй. Яшчэ трэба ўлічыць, што час узнікнення маёнтка часта перадаецца з пакалення ў пакаленне родавым паданнем. Пра вёску ж, пра тое, хто і калі заснаваў яе, адкуль прыйшлі цяперашнія яе жыхары, ніхто табе не скажа, ніхто не адгадае паходжання яе назвы. Зда-

ецца, люд вырас са сваёй зямлі, як грыбы яго бароў, як кветкі яго лугоў, як параскіданыя на яго палявых шнурах грушы. Калі б дакапацца да пачатку нашых сёл, можа, выявілася б, што ні адзін са старажытнейшых тутэйшых гарадоў быў бы намнога маладзейшы за многія вёскі, што яны на адным і тым жа месцы, пад той жа або трохі зmененай назвай стаяць тут восем ці дзесяць стагоддзяў. І не адно мужыцкае імя добра было вядома праз стагоддзі ў сваёй ваколіцы, пакуль з'явіліся імёны і гербы магнатаў. Калі б народ наш лепей помніў мінулае, калі б разумеў ідэю так званай гістарычнай арыстакратыі, як бы ён пасмяяўся з нашай пыхі, з таго, што мы ганарымся старажытным, трыста гадоў назад атрыманым гербам, ён, што тысячы гадоў налічвае ў сваёй генеалогіі… Наш селянін не піша і не чытае гісторыі, але, верачы ў якое-небудзь сваё мясцовае паданне, з пагардай пaглядае на шляхецкую расу, інстынктыўна адчуваючы, што мы — прыхадні аднекульсьці, а ён — тутэйшы жыхар і гаспадар тутэйшай зямлі.

Але вернемся да прадмета гаворкі — намалюем вёскі з натуры і пададзім тут толькі яе характэрныя рысы.

Двор з прычыны таго, што ўзнік раней, чым падлеглая яму вёска, выбраў для сябе прыгажэйшы пагорак, урадлівейшае і раўнейшае поле, больш рыбнае возера, словам, усё лепшае. Але не буду апісваць панскія двары, бо выгляд іх залежыць ад мясцовасці, ад патрэб, густу і заможнасці іх уладальнікаў, вызначаюцца яны вялікай разнастайнасцю, таму немагчыма падаць тут іх тыповую карціну. Вёскі ж, наадварот, самой толькі мясцовасцю розняцца адна ад адной, а так усе яны падобныя паміж сабой, як сёстры, — паходжаннем, патрэбамі, звычаямі і доляй сваіх жыхароў.

Месцяцца яны звычайна непадалёку ад рэчкі, каля лугу па адзін бок і каля поля — па другі. Перасякае яе вуліца — з хатамі на адным баку і з хлявамі на другім. Часам касцёл, царква і абавязкова карчма ўзвышаюцца пасярэдзіне ці ў канцы сяла. Па абодвух яго канцах стаяць вароты, якія большую палавіну года не замыкаюцца. Пры варотах — крыж, бяроза ці груша альбо пафарбаваны ў белыя і чорныя палосы слуп з надпісам назвы вёскі і колькасці хат, воддаль — мясцовыя могілкі з простымі замшэлымі крыжамі. Гэта — агульны выгляд літоўскай вёскі, характэрны як для маіх былых ваколіц, так і іншых ваколіц краю.

Прыгледзімся бліжэй да асобнай хаты з яе прадметамі. Перад нашымі вачамі выразна ўстае яе вобраз, але слабое пяро не здолее некалькімі хай і трапнымі штрыхамі яе апісаць. Вось доўгая і

вузкая, павернутая бокам да вуліцы, з чатырма дробнымі вокнамі пабудова. Сцены яе зрублены з акруглых яловых ці сасновых бярвёнаў. Накрыта яна саламянай страхой, якая найчасцей пашарпана і цвіце зялёным мохам. Над ёю выдзеўбаны пень дрэва выконвае функцыю коміна. У сярэдзіне пабудовы відаць вузкія адзінарныя дзверы з драўлянай закруткай, перад імі ляжыць калода ці камень — своеасаблівы ганак. Акружае яе абкладзеная дрэвам і засыпаная зямлёй прызба, на якой вечарамі ці ў свята любіць селянін пасядзець, пагаманіць у коле сям'і ці суседзяў. Насупраць — невялікі маляўнічы свіронак, які называецца ў некаторых мясцовасцях клеццю. Далей — паветка з саламянай страхой. Там захоўваюцца сохі, бароны, калёсы і іншыя гаспадарчыя прылады. Невялікая стайня, ці абора, дапаўняе вясковы падворак, агароджаны жардзяным плотам, упрыгожаны часам садком, дзе расце старая расахатая груша, стаіць адзін-другі вулей пчол, расце на градах шыракалісты тытунь, жаўцее высокі сланечнік, зелянее вясельная рута, пасаджаная дзявочымі рукамі, ці раскашуецца гожы куст таямнічай, у народных песнях апетай каліны. На другім баку вуліцы — гумно са збожжам, шчуплае, як той кавалак хлеба, што спажывае наш селянін, а перад ім — высокі драбінчасты пярэплат, дзе пад восень убачыш, як на выставе, увесь плён сялянскай нівы, альбо студня з доўгім характэрным жураўлём ці гняздо бусла, таямнічага апекуна шчаслівай, выбранай ім хаты, уцеха гаспадара, прадмет ушанавання і зайздрасці суседзяў.

Мы апісалі знешні выгляд хаты, цяпер увойдзем у яе сярэдзіну. Там цёмна, часта дымна і вільготна. Галоўная рэч і аздоба хаты — вялікая печ каля парога, на якой у дні марознай зімы грэюцца старыя і дзеці. Паўз сцены — шырокія і тоўстыя лавы з дубовых і сасновых дошак. Перад лавай — доўгі і вузкі стол. Месца ў хаце, дзе яны сыходзяцца з двух бакоў за сталом, называецца покуць — ганаровае месца, дзе садзіцца толькі гаспадар — галава сям'і ці запрошаны ў нядзелю добры госць. У іншым кутку хаты стаяць малыя жорны, якімі мелюць збожжа. Большую палавіну года яны глухія, толькі ўвосень стукаюць на досвітку і вечарамі. Вось унутраны выгляд хаты селяніна, карціна, якую, не жадаючы паэтызаваць, мы паказваем ва ўсёй сваёй праўдзівасці.

У такіх вось хатах нараджаюцца, жывуць і паміраюць людзі нашых вёсак. Прасочым жа збольшага іх жыццё ад калыскі да магілы. Пачнём словамі Святога Пісання: жанчына крычыць ад болю пры родах, але потым цешыцца, што нарадзіўся чалавек.

Боль, радасць і пэўная ўрачыстасць суправаджаюць прыход чалавека на свет. Але пакольki прыгорблены працаю селянін хоча сабе мець падпору ў старасці і памочніка ў гаспадарцы, ён заўсёды болей радуецца нараджэнню сына, чым дачкі. Вось якія словы ўкладае ў вусны бацькі народная песня, якая спяваецца пры нараджэнні дзіцяці: «Калі ў мяне сын народзіцца, я здабуду для гасцей вішнёвага соку, калі дачка, вадой іх прыму, калі сын, збудую высокія гмахі, калі дачка — і шалаша не пастаўлю».

Над дзіцячай калыскай будучага хлебароба не вельмі затрымліваецца маці, занятая працай дома ці ў полі. Яе абавязак — толькі накарміць малое, а забаўляць яго, суцяшаць, калі плача, закалыхваць, каб спала, — гэта задача старэйшага брата ці сястрычкі. Саламяная калыска дзіцяці так зроблена, каб маці змагла лёгка ўскінуць яе на плечы і панесці ў поле, дзе працуе, а калі дзіця ў гэтай калысцы, пастаўленай у цень жытняга снапа, плача ад скавару ці голаду, малы апякун ці апякунка спявае яму песню пра катка, які прынясе малому шаўковы пасак ці смачны піражок, пра курак, якія радзяцца, чым бы яго пачаставаць. Вядома, гэтыя каціныя ды курыныя абяцанкі ніколі не выконваюцца, а калі б і выканаліся, не вельмі прыдаліся б дзіцяці, але манатонны спеў закалыхвае яго да сну.

Так, сплючы і плачучы, правядзе малое першы год свайго падарожжа па зямлі. Калі скончыцца гэты год, маці адлучыць яго ад грудзей, і яно пачне ўжо карміцца няхітрай сялянскай стравай. А ў хаце бывае ўсякае: часам, як кажа прымаўка, з квасам, а парою з вадою, а найчасцей сем посных пятніц на тыдні. Праўда, як кажа іншая прымаўка, густая каша не адганяе дзяцей, якія ад вадзяністай уцякаюць. Але ж не так лёгка знайсці патрэбную страву для дзіцяці. А калі яму не ўсмак цвёрды хлеб з жытняй мукі і мякіны альбо калі пакута прымушае плакаць і клікаць матулю, то ўжо для суцяшэння не абяцаюць яму залатога паска, які прыносіць каток, але проста страшаць плакуна воўкам, што прыходзіць з лесу хапаць крыклівых дзяцей, то дзедам-жабраком, што забярэ яго ў торбу, то панам, што будзе яго біць. Воўк, дзед і пан — гэта страшныя прывіды, якія, лётаючы над калыскай селяніна, дапамагаюць дзіцяці заснуць. І пазнейшы век не хутка выб'е з яго галавы гэтыя пострахі. Паглядзіце, як кідаецца ўцякаць адзетая ў брудныя кашулькі грамадка дзяцей, калі пакажацца на вуліцы вёскі пан ці жабрак, як хаваецца яна ў хатах, зачыняючы вокны, альбо шукае ратунку ў блізкіх каноплях. Рэдка калі паманіш ты дзяцей кавалкам цукру ці хлебам, і рэдка хто з нас мае ахвоту выбіваць з сялянскай галавы гэтыя страхі.

Перыяд дзяцінства і першай маладосці селяніна або сялянкі можна апісаць некалькімі словамі. Да гадоў дзесяці бегае ён самапасам у адной кашулі і босы. Летам, калі старэйшыя ідуць на работу, ён застаецца разам з равеснікамі ў вёсцы, гуляе з імі, дратуе суседскія агароды, латошыць садавіну альбо забаўляецца ў пяску ці ў гразі. Калі мінае дзесяць гадоў жыцця, а то і раней, ён адзяе шату сталасці — суконную сярмягу і лапці з ліпавай кары. Ён памагае ўжо мацеры гадаваць малое дзіця, бацьку — пасвіць раніцай валы, ганяе на начлег коні, потым — ідзе грэбці сена, бо ўжо з дванаццаці гадоў лічыцца як рабочая душа і значыцца ў інвентары. У больш маладзейшым веку, чым колішні рымлянін, атрымлівае селянін сваё права грамадзянства, якое выражаецца тут адбываннем летніх талок, што ў некаторых мясцовасцях называюць гвалтамі. Там праходзіць яго перыяд фарміравання сэрца і ведаў. Маральнае і духоўнае навучанне абмяжоўваецца для яго засваеннем штодзённай малітвы, мясцовых песень і казак. Жыццёвую практыку бярэ ён з уласных назіранняў, з вопыту старэйшых і з прымавак, у якіх, як кажуць вучоныя, ёсць нямала народнай мудрасці, пачуцця і вераванняў люду, але з якіх не ўсё можна ўзяць за правіла пачціваму чалавеку. Бо ў прымаўках люду, як і ў яго хлебе, ёсць і здаровае зерне, і мякіна, а то і атрута. Не бачачы гэтага, ён спажывае і тое, і другое без разбору. Таму не трэба дзівіцца падуладнасці яго цела і духу. Назавём некалькі прымавак сумнеўнай маральнасці, якія не забывае люд: *і Бога хвалі, і чорта не гняві; будзе шчасце — і розум знойдзецца; на крывое палена патрэбен крывы клін; на табе, нябожа, што мне нягожа; доўг круціць, а голад крадзе; бліжэй к целу кашуля, чым каптан; не ганячы — не купіць, не хвалячы — не прадаць; дурны дае, а мудры бярэ; дрэнны той крук, што выпускае здабычу з рук; ліслівае цяля дзве маткі ссе, а гордае — ніводнай; дзе цяжка пераскочыць, можна падлезці,* і г. д.

Побач са здаровай маральнасцю, што знаходзім у народных прымаўках, недасведчанае дзіця, мабыць, слухаючы, верыць гэтым і падобным максімам жыцця. Шкада, што няма каму растлумачыць маладому пакаленню небяспечнае насенне двурушніцтва і фальшу, эгаізму, крадзяжу, ашуканства, нізкага падхалімства, што хаваюцца ў прыведзеных вышэй прымаўках. Але папытаемся: хто павінен гэтым заняцца? На жаль, калі і з'явіцца ў вёсцы нейкім цудам настаўнік для дзяцей, то звычайна гэта будзе, як хутка выявіцца, толькі п'яніца і злодзей. Бо каб быў іншым, то знайшоў бы занятак больш карысны для сябе, чым вясковы бакалаўр.

З пятнаццаці ці васямнаццаці гадоў пачынаецца ў маладога чалавека перыяд сталасці — плечы яго ўзмацнелі, рукі прывыклі да плуга, касы і сякеры, у грудзях пачалі віраваць маладыя пачуцці. Ён спявае ўжо тужлівую песню: «Палавіна лет мінае, я шчасця не маю… Хаджу-блуджу, хаджу-блуджу, як то слонца ў крузе. Куды пайду чы што раблю, усё сэрца ў тузе». І ў сэрцы русакосай дачкі сяла нараджаецца нейкі невыразны сум, у галаву прыходзяць хвалюючыя думкі, ёй хочацца ўпрыгожыць шыю шклянымі пацеркамі, галоўку — кветкай ці чырвонай калінай, паглядзецца ў вадзе, ці да твару яе строі, ці гожая яна сабой.

І наступае для маладых сэрцаў пара кахання. Усё мае цяпер для іх асаблівае значэнне: і сумесная праца ў полі, і нядзельныя паходы ў царкву ва ўсёй красе іх убогіх строяў, і танец у карчме альбо ў панскім двары на дажынках, і гулянкі на гаманлівых зімовых вечарынках, узаемныя падражніванні, песні, жартоўныя кпіны. Вось як, напрыклад, спяваюць хлопцы: «Колькі ў рэшаце вады ест, столькі ў дзевачак праўды ест». А дзяўчаты ім у адказ: «Эй, разгуляўся Юр’еў конь, разбіў камень капытом. Як у тым камені зерне ест, так у хлопцаў праўда ест»*.

Але селянін жыве занадта рэальным жыццём і таму не мае часу аддавацца доўга чарам кахання. Як сон, мінаецца гэтая пара: селянін жа наш перш за ўсё — рабочая істота, і яго сямейныя сувязі — гэта вынік гаспадарчых камбінацый, яны амаль не маюць дачынення да яго кахання. Нельга сказаць, каб гэты малады чалавек не пакахаў ніводнай з вясковых дзяўчат ці, наадварот, кахаў усіх. Аднак, калі панскі двор ці бацька вырашаць, што яму пара жаніцца, ён з халоднай крывёю пасылае сватоў да ўсіх па чарзе дзяўчат у ваколіцы, не надта клапоцячыся, каб выбраць тую ці іншую. У дзяўчыны ёсць як быццам прывілея ў выбары, але і тут акалічнасці альбо чужая воля аказваюць рашаючы ўплыў на яе рашэнне. Дастаткова зірнуць на вясельныя песні і абрады, каб пераканацца, што дзяўчына, аддадзеная чужой волі, становіцца хутчэй паланянкай, чым спадарожніцай жыцця будучага мужа. Дзіўныя гэта абрады! Муж нібы выкрадае жонку ў бацькоў, дзяўчына ўвесь час слепа робіць тое, што кажуць ёй то бацькі, то шаферкі і вясельныя сваццi, то муж. Яе становішча ў гэтую найважнейшую хвілю жыцця заўсёды пасіўнае і падлег-

---

* Аб’ектам нашых даследаванняў народных звычаяў з’яўляюцца тыя ж самыя ваколіцы, якія вывучаў добрай памяці Ян Чачот (Мінскі і Наваградскі паветы), і песні, што тут цытуюцца, узяты з яго зборніка «Сялянскія песні з-над Нёмана і Дзвіны» (1846).

лае. Вязуць яе да шлюбу, адзяюць чапец, загадваюць адбіваць усім прысутным дзясяткі надакучлівых паклонаў, піць, спяваць, нават плакаць пры абходзінах аднаго з адвечных традыцыйных абрадаў, што як святасць берагуць старыя, перадаючы маладым. «Кланяйся, дзяўчына, кланяйся, — спяваецца ў вясельнай песні, — старога і малога не мінай, слёзкамі зямліцу аблівай, роднага ойчаньку пазнавай». Слёзы тут абавязковыя, хоць папраўдзе дзяўчына ў глыбіні душы цешыцца пераменай у сваім жыцці. Ёй звычайна спяваюць: «Зязюлька, зязюлька… кукуеш галасна, да не жаласна: не чутно за ельнічкам, за белым бярэзнічкам. Красная дзяўчына… плачаш голасна, да не жаласна: не чутно за дружкамі, за галаснымі скрыпкамі». На гэта дзяўчына адказвае: «Я па бары не хадзіла, голасу не збірала, плакаць не вучылася…»

Нарэшце маладая жонка жагнае дом бацькоў і родных, дзякуе за хлеб і адзенне, перапрашае за ўсё, зноў плача, зноў кланяецца і пакідае родную хату. Спявае мацеры: «Паглядзіце, матанька, да мяне аддаўшы, да нявестку ўзяўшы. Да ўстанеш раненька — да няма каго будзіці, возьмеш вядзёрка — няма вадзіцы, ты ж будзеш думаць, што валэ пагнала, да твае валэ стаяць у хляве, да тваё дзіця ў чужой старане».

А ў чужой старане, у чужой хаце першыя хвіліны маладой жанчыны рэдка калі бываюць шчаслівыя, бо не любоў, а выпадак зрабіў маладых мужам і жонкай. Трапіўшы ў чужую сям’ю, не ведаючы яе духу і яшчэ не прыжыўшыся там, даводзіцца ёй сутыкацца з бацькамі і раднёй мужа, таму хутка становіцца косцю сямейнай нязгоды. «Свякроў, — кажа прымаўка, — любіць нявестку, як сабакі дзеда». Вечная нязгода паміж жонкамі двух братоў таксама праявілася ў прымаўках. Сумная мусіць быць доля маладой жанчыны. У народных песнях можна знайсці мноства прачулых скаргаў маладой жанчыны пасля замужжа. Вось як наракае яна ў адной песні: «Ой, нашто ж мне свайго мілага гудзіць, калі мяне, маладу, да не раненька будзіць, да сам ідзе на ток малаціць, а мне, маладзенькай, вяліць легчы запачыць. Ой, сам ідзе на поле гараці, а мне, маладзенькай, вяліць ісці гуляці. Ой, іду я, іду гуляці, кроіцца маё сэрцайка на часці. Ой, мае суседачкі і п’юць і гуляюць, а мяне, адну бяздольную, адну акаляюць… Ой, гдзе ж мае дзявоцкія падзеліся гулі? Ой, выйду я на вулічку, рассыпаны вішні, ой, гдзе ж мае падзеліся мыслі?.. Ой, крутая бярозанька, што пад гаем зрасла, няшчасная нядзеленька, што я замуж пайшла…»

У іншай песні спяваецца: «Каюся, млода, а не памалу, што млода замуж пайшла. Жыву я гадок, жыву я другі, у мамкі не

бываю. Абярнуся я шэрай зязюляй і палячу ў мамкін сад. Сяду ў мамкіным саду на белай лілеі. Як закукую, як зашчабячу жаласным галасочкам, чы не пачуе мая маманька, пад аконцам седзя. Як выйшаў старшы брацец з новага церама: калі зязюля, калі шэрая, ляці ў шчырыя бары, калі сястрыца, калі родная, хадзі ка мне ў госці. Ах, добра табе, мой брацетка: гдзе радзіўся, там і жыць, а я маладзенькая ў чужой старане, цяжэнька мне жыць. Чужа старана тугою арана, слёзамі засеяна, свая старана сошкаю арана, пшонкаю засеяна».

Сумуючы па сям'і, яна спявае: «Пахіліцеся, лозы, ад дуба да бярозы, каб мне было відна да ойчанька майго. Лозанькі схіліліся, да хмаркі явіліся, такі мне не відно да ойчанька майго, такі ж мне не відненька да ойчанька майго родненькага!» Вось яна ідзе ў лес і як дзіця прыроды, чуючы інстынктыўна яго лячэбнае ўздзеянне на душу, кліча ў лесе лепшую долю і просіць, каб яна адгукнулася ёй баравым рэхам.

Але паступова туга мінаецца, маладая жанчына прывыкае да новай сваёй ролі. Агульнасць долі і нядолі зближае яе з чужой сям'ёй. Пасля турботы і ўцехі мацярынства ды гаспадарчыя клопаты выбіваюць з маладой галавы дзявочыя мроі.

Мужчына пасля шлюбу становіцца адразу самастойным чалавекам. Цяжкая праца, сціплая яда і надта ж прыцягальнае гарачае пітво — вось увесь змест яго жыцця. Панскі двор, блізкае мястэчка, царква і карчма — адзіныя пункты, вакол якіх душой і целам кружыцца ён увесь свой век. Жыве толькі сённяшнім днём, з дзіўнай безагляднасцю на заўтра і часта паўтарае прымаўку: «Дзень наш — век». Забыўшы пра вясновы голад, ледзь толькі дачакаецца больш-менш ураджайнай восені, шчодра спраўляе Дзяды*, з працэнтамі зернем аплачвае арандатару даўгі за выпітую гарэлку, потым п'е ў нядзелю за гатоўку, п'е датуль, пакуль нічога не застанецца, і ён просіць новую пазыку і дапамогі ў пана. У песні** спяваецца: «Сівы салавейка, чаму ты не спяваеш? Чаму ты, малады, чаму не гуляеш? Чы ты, малады, шчасця, долі не маеш? Патраціў я долю цераз сваволю, у новай карчомцы на горкай гарэлцы. Цяпер жа мне некуды павярнуцца, усё мае сяло ў Боруха на водцэ. Тут мае конікі, тут мае волікі, тут мая адзежка, тут мае грошыкі».

Так прызнаецца селянін у сваёй віне, з якой не мае сілы выбавіцца. Калі глядзіш на яго збоку, ствараецца ўражанне,

* Памінанне памерлых.

** Гл. збор Чачота. С. 24.

што з сям'ёй звязвае яго толькі прывычка, карысць, якую мае ад дзяцей і жонкі, што ён любіць іх гэтак жа, як свайго каня ці вала, і намнога менш, чым люльку, якую ў вольную хвіліну запальвае з нейкай урачыстай важнасцю на твары, любіць, не шкадуючы дубца прадметам сваёй прыязнасці: quos diliget castigat альбо, як кажа яго прымаўка: «Кахай, як душу, а трасі, як грушу». Але з аднаго павярхоўнага позірку меркаваць пра сэрца нашага селяніна было б несправядліва і вельмі крыўдна для яго. Ён не прывык крывіць душой, а чуласць сваю выяўляе ў дзіўных формах. О, ёсць глыбіня ў яго грудзях! Паглядзіце, як гэты паважны гаспадар сям'і ў вольную ад турбот хвіліну бярэ на калені малое і ўрачыста садзіцца з ім на прызбе сваёй хаты, паглядзіце, як шмат у сялян песень пра тугу мацеры па сыне, які апынуўся на чужыне ці быў забіты на вайне, — ён там і сокал, ён і сонца, і ўся яе ўцеха, а паглядзіце, якая доўгая і ціхая жальба, якая святая памяць пануе ў хаце па нябожчыку! А цяпер спытайцеся, колькі добры пан можа прывесці доказаў прыхільнасці да сваіх падданых! Ёсць, паўтараю, глыбіня пачуццяў у гэтых загарэлых касцістых грудзях, прыкрытых грубай і падранай світкай. Намаляваўшы з натуры знешні выгляд нашага люду, павінен вам падаць без ідэалізацыі яго няроўны ўнутраны свет. Іншым разам карыстаючыся правам мастака, расхіну перад вамі яго сэрца, вы ўбачыце, якая сіла пачуццяў хаваецца ў гэтым дзікім на выгляд, але ціхім дзіцяці прыроды.

У некалькіх словах можна паказаць увесь год нашага люду — з гэтакіх гадоў сплятаецца ўсё яго жыццё. Усю зіму малоціць ён панскае збожжа і возіць з лесу дрэва. Каля святога Мацея, калі, як кажуць, ужо зіма пацее, абходзіць ён шчодрую вялікапосную пятніцу, потым адпраўляе вялікапосную споведзь і ў вясновы голад святкуе Вялікдзень. У пачатку красавіка выходзіць у поле з сахой. У канцы чэрвеня распачынае касьбу і жніво. А ў дзень святога Іллі (20 ліпеня) у яго ўжо, паводле прымаўкі, поўная печ хлебнага цеста. Гэта наступіла для яго пара дастатку — прыходзіць Божае Пераўтварэнне, час усялякага выспявання, і бачыш часовае багацце ў хатах і гумнах. У дзень Маткі Боскай зельнай ён асвячае калоссе, а на святога Барталамея, згодна з даўняй прымаўкай, пачынае асеннюю сяўбу. На святога Мікалая аплачвае падаткі, а рэштку гадавых збораў спажывае ў час калядных урачыстасцяў, якія праз колькі дзён шчодра, са свінінай і гарэлкай, спраўляе. А потым пакорліва распачынае сваю звычайную чараду работ і голаду.

Такі перыяд сталасці селяніна. Але вось пачынаецца зіма яго жыцця, пачынаецца досыць позна, бо ў гэтым бясконцым змаганні з працай і нястачамі набыў моцнае фізічнае здароўе. Паступова горбяцца плечы, звешваецца галава, моршчыцца твар, пачынаюць трэсціся рукі. Мужчына, як звычайна ў старасці, набывае шаноўнае імя дзеда і, пакашліваючы, глядзіць на сваё маладое пакаленне, для якога з'яўляецца галавой і вышэйшым аўтарытэтам. Жанчына, гожая колісь жанчына, адчувае, як з часам блажэе яе твар, ведае, што імя бабы, якое ёй цяпер даюць і якое прыраўноўваецца да слова «чараўніца», абражае яе, яна з абыякавасцю глядзіць цяпер на сваё адзенне і, пачынаючы бурчаць і лаяць маладое пакаленне, памалу рыхтуецца да смерці. Дзед няньчыць сваіх унукаў альбо, калі асіраціў яго Бог, ідзе пасвіць вясковую жывёлу. Баба, седзячы на печы з кудзеляй, прамаўляе пацеры, спявае традыцыйныя песні, расказвае казкі, вучыць малых дзяцей і ўнукаў.

З цягам часу дзед і баба, адчуваючы сябе лішнім цяжарам у хаце, надзяваюць на плечы па дзве торбы, бяруць у рукі кіі і, спяваючы дзедаўскія пацеры, пускаюцца ў свет, ходзячы ад вёскі да вёскі, ад касцёла да касцёла і просячы ў добрых людзей які грош ці кавалак хлеба. А добрыя людзі ахвотна, з пэўнай пашанай прымаюць старцоў, бо ва ўсім славянскім свеце звычай жабравання ў старасці вельмі распаўсюджаны і ніхто не зневажае ані саміх жабракоў, ані сям'ю, якая пусціла на валацужніцтва сваіх бацькоў.

Так літоўскі селянін у хаце на печы альбо пад чыімсьці плотам заканчвае сваё ціхае жыццё. Сям'я паплача па ім, замкне яго ў чатыры сасновыя дошкі, пахавае на могілках, а праз год пасля смерці паставіць над ім драўляны крыж, справіць памінкі, нап'ецца там, потым яшчэ паўздыхае, памоліцца і… забывае нябожчыка.

## XII
## ПІЛІГРЫМ У КАНЦЫ ВАНДРОЎКІ

Вось нарэшце і абышоў я, радзіма,
Гарады твае, вёскі з кіем пілігрыма.
Блізка бачыў я вежы касцёлаў, крыніцы,
Падзямельныя склепы твае, камяніцы,
І каб мне пахваліцца хоць чым было можна,
Ўзяў я памятак колькі у ранец дарожны:

Частку нёманскай хвалі, камень даўняе вежы,
Завушніцу з магілы, з дрэва лісцік свежы…
Ўдоўж і ўшыр абышоўшы усё Прынямонне,
Спачываю пад грушай развесістай сёння.
Перад тым як мне выйсці на новую каляіну,
Я той шлях, што прайшоў, сваім зрокам акіну.
Там над возерам замак глядзіцца у зоры,
На пагорку там бачу я бацькаўскі дворык.
Там і хатка, дзе шчасце мяне абмінула,
Там цвінтар, дзе дзятва — мая кроў — заснула.
Там святыні, там блізкія стрэхі з саломы,
Звоніць птаства маё, ходзіць вецер знаёмы.
Да мяне зноў вяртаюць нябачныя крыллі
Ўсе пачуцці, што некалі сэрца палілі,
Тыя думкі, што ўсё ў галаве віравалі…
О куткі мае мілыя! Родныя далі!
Калі ў свет мяне кіне нястрыманым ветрам,
Набяру сабе ў грудзі адгэтуль паветра,
Набяру яго шмат, каб надоўга хапіла,
Каб яно мае песні заўсёды жывіла.
Толькі чым, мае долы, ўзамен вам аддзячыць?
Можа, благаславеннем вандроўным, жабрачым,
Яго з ветрам пусціўшы па родным абшары,
Каб збыліся людзей нашых лепшыя мары:
Над лясамі, над Нёманам, на мужычым загоне
Хай жа лепшыя песенькі птушкі зазвоняць,
Закрасуюць хай збожжам пясчаныя нівы
І аратага сэрца ўстрапянецца шчасліва.
А вясною, ля Нёмана, ў ціхай затоцы,
Калі бусел, свет славячы, зноў заклякоча,
Пасьпяшае мой дух, каб пацешыцца з вамі,
Палунаць зноў над вёскамі, над цвінтарамі,
Дзе ваду піў з бруі, дзе меў хлеб я з пагоркаў,
Дзе ліў слёзы па дзецях пад згубнаю зоркай,
Адкуль з болем пусціўся я ў новую пуцявіну
І дзе памяць пра край свой у песні пакінуў!

Канец вандровак

# МІНСК

## БЕГЛЫ ПОЗІРК НА ЦЯПЕРАШНІ СТАН МІНСКА

### I

*Размяшчэнне. — Клімат. — Унутраны выгляд места. — Статыстыка. — Высокі рынак. — Галоўныя вуліцы, гмахі і плошчы. — Паўслоўца пра гандаль. — Сады. — Аўтарскае адступленне і вяртанне да прадмета гаворкі.*

Места Мінск, размешчанае на 53°54'15" паўночнай шыраты і на 25°13'15" усходняй даўгаты, ва ўмеранай здаровай кліматычнай зоне, заслугоўвае ўвагі як сваім размяшчэннем, так і ўнутраным выглядам. Месца, дзе гэты стары горад шмат вякоў назад быў закладзены, не вызначаецца багаццем краявідаў, як Вільня, Трокі, Коўна, Наваградак і іншыя гарады, заснаваныя літоўскімі князямі, якія ўмелі сваім стратэгічным, а таксама эстэтычным вокам адшукаць пад места найпрыгажэйшыя ваколіцы ў сваім краі, спалучаючы адначасна патрэбы мілітарнага ўмацавання з поўным грацыі хараством, што сведчыла пра паэтычны настрой душы гэтых старажытных заснавальнікаў. Гаспадарлівы русін пры закладцы свайго места кіраваўся галоўным чынам ваеннымі і гаспадарчымі патрэбамі: блізкасцю вады, пашы і лесу. У мясціне, абранай такім чынам, і закладзены Мінск. Шырока раскінуты абапал ракі Свіслачы, якая ўпадае ў Бярэзіну, ён вызначаецца хараством краявідаў. Берагі галоўнай ракі, яе затокі і рукавы ўтвараюць шмат дзе цудоўныя пейзажы; некалькі прыгожых пагоркаў аздабляюць раўніну, а багатая расліннасць вабіць пышнымі дрэвамі, весяліць выглядам багатай збажыны і пашы. Калі некаторыя мясцовасці, як, напрыклад, заезд з боку Койданава, не сведчаць на карысць размяшчэння Мінска, дык іншыя, такія, як прадмесце Камароўка, Ляхаўка,

Пярэспа, Траецкая гара, шчодра гэта кампенсуюць. Рака Свіслач плыве то па зялёнай сенажаці, засланяючыся вянком прыгожых вольхаў, то перарываючыся доўгім мостам, перакінутым праз яе затокі. І ўсё гэта разам стварае непаўторны, запамінальны малюнак. Спічакі касцёлаў і гмахі, што здалёк кідаюцца ў вочы, надаюць Мінску выгляд горада нашмат большага, чым ёсць ён на самай справе.

Унутраны выгляд горада вызначаецца акуратнасцю і парадкам. Вуліцы шырокія і прамыя, дамы не заціснутыя, паветра чыстае, скрозь даступнае павевам ветру настолькі, што нават вуліцы, дзе жыве выключна жыдоўская бедната, можна праходзіць без гідлівасці, якую, напрыклад, у нас у Вільні выклікаюць вуліцы Жмудская або Жыдоўская. Муры і бярвёны дамоў, пафарбаваныя ў белае, выглядаюць лепей, чым у Вільні, дзе рознакаляровая стракатасць камяніц рэдка дадае, а часцей псуе выгляд найпрыгажэйшага будынка. На вуліцах няма тлуму, бо ўсім тут прасторна, а будынкі найбольш важнага значэння не засланяюцца суседнімі і выступаюць ва ўсёй сваёй велічы. Зрэшты, Мінск і да гэтага часу менш як напалову мураваны. Сасновыя, адна-, а часам двухпавярховыя на цагляных падмурках дамы стаяць пры галоўных вуліцах побач з двухпавярховымі камяніцамі альбо нават з цудоўнымі гмахамі, часам псуючы агульны эфект, але часам і размаіцяць яго, перарываючы аднастайнасць мураваных камяніц, да якіх вока настолькі прывыкае, што ўжо асобных з гэтых будынкаў нават не заўважае.

Тэрыторыя места займае 5604 дзесяціны 253 сажні; з гэтай лічбы 3709 дзесяцін 60 сажняў належаць магістрату места. Насельніцтва горада, паводле падлікаў 1856 года, складае 13 451 мужчынскага полу, 10 501 — жаночага, а ўсіх разам — 23 952, амаль дваццаць чатыры тысячы, калі ж, аднак, улічваць і прыезджых, лічба даходзіць да дваццаці пяці тысяч. З гэтай колькасці — паводле класавага падзелу — шляхты мужчынскага полу — 291, жаночага — 393. Мяшчан мужчынскага полу — 10 091, жаночага — 9170. Чыноўнікаў —178. Вайскоўцаў — 1681. Духавенства: праваслаўнага, белага — 20, манахаў — 2; рымска-каталіцкага мужчынскага — 52, манашак — 16; лютэранскага — 1; магаметанскага — 1 чалавек. Паводле веравызнання: праваслаўнага муж. — 1868, жан. — 1679; католікаў муж. — 4215, жан. — 3196; лютэран муж. — 18, жан. — 20; магаметан муж. — 150, жан. — 133; жыдоў муж. — 7200, жан. — 6673. Усё гэтае насельніцтва жыве ў 1442 дамах, з якіх да дзяржаўных належаць 16 цагляных і 15 драўляных, да прыватных — 333 ца-

гляныя і 1078— драўляных. Заўважым, што колькасць дамоў адносна колькасці насельніцтва — даволі значная, бо прыблізна на адзін дом прыпадае 16 жыхароў, у той час як у Вільні — 34 жыхары; але разам з тым у Мінску няма такіх вялікіх дамоў, як у Вільні, да прыкладу, дамы Мюлера, Паца, Вільгоцкай і шмат іншых, а таму і быць іх павінна нашмат больш.

Найцікавейшае месца ва ўсім горадзе, безумоўна, так званы Высокі рынак, да якога сыходзяцца ўсе галоўныя вуліцы і які абступаюць высокія дамы і гмахі. Размешчаны высока на пагорку, забрукаваны, шырокі — гэты рынак імпануе здалёк, добра бачны з прамых, як страла, акуратных прылеглых вуліц. Упрыгожваюць яго: катэдральны паезуіцкі касцёл з унутранай галерэяй, са старым кляштарам тых жа езуітаў (цяпер казённы дом), з высокаю гадзіннікаваю вежаю, якую збудавалі езуіты ў 1750 годзе, і домам, у якім месціцца са сваёю ўправаю мясцовы цывільны губернатар. На другім баку рынка — гатэль купца пана Паляка, мясцовы тэатр (колісь дом Байкова, а цяпер дом купца Беластоцкага, рэстаўраваны ў 1825 годзе), цудоўныя магазіны — братоў Вянцкоўскіх, галантарэйны Айзенштата і некалькі іншых, два дабротныя мясцовыя рэстараны, аптэкі, цукерні. Усё гэта вабіць унутраным парадкам, архітэктураю і бляскам шыльдаў. Трэці бок рынка ідзе паралельна катэдральнаму касцёлу, там жа стаіць стары дамініканскі касцёл (цяперашняя каталіцкая семінарыя), цудоўны гмах, адведзены пад судовыя ўстановы (пабудаваны ў 1852 годзе паводле плана архітэктара Казіміра Хрышчановіча), нядаўна ўзведзены раскошны грэка-расейскі сабор і г. д.

З чацвёртага боку і пасярэдзіне рынка віднеюцца магазіны замежных напояў і магазін моды пані Дэльпачэ, рады жыдоўскіх крамаў і некалькі крамаў з расійскімі таварамі, сярод якіх вылучаюцца крамы купцоў Ракава, Пуляшкіна, Дзехцяровых і г. д. І амаль кожны дом усміхаецца нам ці зграбнаю мансардаю, ці элегантным балконам, і кожная крама свеціцца пазалотаю, міла афармленаю шыльдаю, выставаю тавараў. Туркочуць тут і размінаюцца аднаконныя дрожкі, віруе найбольш арыстакратычны люд, соваюцца туды-сюды купкі жыдоў, але не адчуваецца тлуму, бо на шырокай прасторы ўсё гэта рассыпаецца на малыя і маляўнічыя групкі, перамяшчаецца, як у калейдаскопе. Усё тут такое чыстае, новае, прыгожае, што напраўду імпануе сваёю еўрапейскасцю таму, хто, як мы, прыехаў з Вільні і чыё вока прывыкла да беспрэтэнзійнай фізіяноміі сціснутых, заслоненых адзін адным дамоў, ад якіх вее духам векавой старажытнасці. Тут жа нешта падобнае знойдзеш, толькі калі спусцішся з Высокага рынка, каля касцёла бернардзінцаў, да рынка, што завецца

Нізкім, дзе нашмат больш людскога тлуму, цеснаты і дзе часта забудовы нагадваюць сваёю архітэктураю старыя часы і старыя звычаі.

Важнейшыя вуліцы места — Койданаўская, на якой раней было некалькі касцёлаў і цэркваў, а цяпер мала хто можа паказаць месца, дзе яны стаялі, Францысканская, якую аздабляе мноства крамаў і гандлёвых устаноў і найлепшай аздобаю якой стаў будынак гімназіі, заснаваны ў 1844 годзе згаданым ужо архітэктарам Хрышчановічам, — вуліца цудоўная, шырокая, амаль цалкам забудаваная акуратнымі муравакымі камяніцамі.

Вуліца Саборная, на якой стаіць касцёл і кляштар бенедыкцінак, і яе працяг — Феліцыянская, ужо найбольш забудаваныя адна- і двухпавярховымі драўлянымі дамамі і дамкамі, што ўціснуліся ў асяродак сваіх арыстакратычных братоў, як тыя вяскоўцы, што, трапіўшы на відовішча, праціскаюцца, як могуць, бліжэй да сцэны, не зважаючы на грамаду вяльможных паноў. Вуліцы гэтыя вядуць з Высокага рынка да турмы, што стаіць за горадам і завецца Турэмным замкам.

Вуліца Дамініканская таксама лічыцца адной з важнейшых, — ідзе яна каля старога касцёла дамініканцаў, з Высокага рынка на Гандлёвы рынак, або ў так званы Новы горад. На іншых вуліцах, больш ці менш другарадных, што не выходзяць на галоўную плошчу, такіх, як Захараўская, Валоская, Юр'еўская, таксама дзе-нідзе сустракаюцца прыгожыя будынкі, а сваёй чысцінёю, прастораю, прамізною яны не ўступаюць галоўным вуліцам. На апошняй з іх заслугоўвае ўвагі камянічка, што належыць п. Галаўні і лічыцца найстаражытнейшаю ў Мінску. У ёй жыў цар Павел I, які пасля свайго ўступлення на трон быў у Мінску. Наогул, Мінск налічвае 46 вуліц і вулачак, з якіх 22 — брукаваныя.

З усіх мясцін Мінска найлепей ведаем Новы горад, бо жылі мы там ажно два тыдні. Стары Мінск ад вякоў, па меры таго як будаваўся, пасоўваўся з захаду на ўсход. Высокі рынак, цяперашні цэнтр горада, пэўна ж, не быў такім пры старых крывіцкіх князях Полацкай дынастыі.

Сёння, па меры росту і росквіту места, гэты цэнтральны пункт распускае ўсё далей свае галіны каланізацыі жыцця і руху, а Новы горад, які многія гады быў звычайным гандлёвым месцам, разбудаваўся плошчамі і гмахамі важнага значэння.

Рынак Новага горада, гандлёвае месца і бульвар (для шпацыраў), у абсадзе маладых дрэваў, атачаюць прыгожыя мураваныя камяніцы: дамы купцоў Гольдберга і Ансельрода, уз-

ведзеныя паводле плана архітэктара Хрышчановіча; лютэранскі касцёл, вымураваны ў 1844 годзе; дом мешчаніна Ліпінскага; дом графа Тызенгаўза, у якім цяпер паштамт, і некалькі іншых. На суседняй, прылеглай да плошчы вуліцы, дзе праходзіць гандаль у час кірмашу, які, пачаўшыся 23 мая, доўжыцца амаль чатыры тыдні, ставяць драўляныя буданы для прыезджых купцоў, аднак колькасць гэтых буданоў увесь час змяншаецца, бо тутэйшы кірмаш штораз траціць сваё значэнне, магчыма, з-за большай актыўнасці мясцовых купцоў. У мінулым годзе колькасць гэтых буданоў не пераўзышла нават дзесяці.

У гэты час, пра які ідзе гаворка, у суседнія камяніцы, з карысцю для горада і правінцыі, віленскія выдаўцы, паны Завадскі, Арчэльбранд і Рафаловіч, прывозяць свой інтэлігентны тавар; скрозь віднеюцца вялізныя афішы новых польскіх выданняў, мясцовы люд паволі хінецца да чытання і нятлумным, спакойным, але пастаянным наведваннем кнігарняў гарантуе прыезджым бібліяфілам пэўны збыт тавару. Гаворым — нятлумны, бо гэта, уласна, характэрная рыса Мінска, у якім нідзе не бывае тлумна. Вялізны натоўп люду расплываецца па шырокіх вуліцах і плошчах. Толькі ў вечар шабасу па цяснейшых вуліцах раіцца ізраільскае племя, а яго лепшая частка, шумная, паднядзеленая, ідзе прагульвацца ў грамадскі парк, на Высокі рынак або на бульвар Новага горада. Але і тут, хіба што толькі па адным баку плошчы, вытаптаныя прахожымі сцежкі: бо ў цэнтры тае ж плошчы бачылі мы ў маі жаўнераў, якія самым простым чынам касілі траву і скідалі ў капу сена.

Да галоўнейшых гарадскіх гмахаў апроч будынкаў гімназіі, суда, тэатра і іншых, пра якія ўпаміналася вышэй, належаць яшчэ камяніцы паноў Кістара, Дэльпачэ і мешчаніна Гайдукевіча, у якіх размешчаны дваранская зала, ваенны шпіталь другога класа, збудаваны ў 1844 годзе, гарадскі лазарэт на тры аддзяленні на Траецкай гары (адзін аддзел перароблены з кляштара базыльянак у 1844 годзе). Усе гэтыя будынкі робяць гонар архітэктурнай славе і густу згаданага ўжо будаўніка, калежскага саветніка пана Казіміра Хрышчановіча. Напраўду цудоўная гэта рэч: увекавечыць сваё імя ў складзеных па-мастацку радах цаглін, парадавацца ў душы, што і ты прычыніўся да аздобы места і выгоды бліжніх.

Без дастатковых матэрыялаў не можам гаварыць пра рух гандлю, як унутранага, так і знешняга. Больш заможныя тутэйшыя купцы гандлююць у глыбінцы краю і за мяжою збожжам і лесам, якіх дастаткова дае ўрадлівая перыферыя. Мясцовы

гандаль рэпрэзентуюць 423 купецкія крамы пры дамах. Мы ўжо згадвалі найбольш значныя. Да іх ліку трэба яшчэ дадаць склад тавараў Гурвіна, склад сукна і корту Рапапорта і некалькі іншых. Звесткі за 1843 год, якія падае цытаваны ўжо артыкул з газеты Міністэрства ўнутраных спраў, сведчаць, што да 1-й гільдыі купецтва належаць 15 чалавек, да 2-й — 25, да 3-й — 198. Там жа прыводзіцца лічба фабрык і прадпрыемстваў: іх у горадзе — 17. Каапeратыўны гандаль праходзіць на пяці рынках, з якіх Высокі, Нізкі, Рыбны — брукаваныя, а рыначная плошча на Траецкай гары і Гандлёвы рынак (у Новым горадзе) яшчэ ў першапачатковым стане. Тое, што ўжо было заўважана ў Вільні, можа быць дастасавана і да Мінска: пераважная большасць шыльдаў — на магазінах строяў, він і піва. Гаворачы пра ўстановы такога тыпу, немагчыма не сказаць пра вельмі добры рэстаран пана Цыбульскага на Высокім рынку, а таксама пра цукерню пана Эйснера на вуліцы Саборнай, у якой апроч більярда ёсць два цудоўныя салоны, і ў адным з іх — багатая бібліятэка мясцовых і замежных газет.

Адкладваючы на наступны раздзел агляд Божых святыняў, могільнікаў і духоўны бок жыцця горада — папоўнім наш нарыс пералікам важнейшых паркаў. Натуральна, што першае месца займае тут Губернатарскі парк, названы так у гонар свайго заснавальніка, губернатара Захара Карнеева. Парк закладзены быў каля 1800 года. Гэта прыгожая мясціна займае вялізную плошчу — ацяняюць яе высокія густалістыя бярозы і ліпы, утвараючы над шырокімі алеямі такое суцэльнае скляпенне з галля і лісця, што нават у летні пагодны полудзень сонца, толькі дзе-нідзе крадком прадзіраючыся тонкім праменьчыкам, усцілае сцежкі ўзорыстым рухомым дыванам. Рака Свіслач праплывае пасярэдзіне парку, цудоўныя сенажаці аздабляюць яе берагі; дзе-нідзе дрэвы стаяць купамі, а дзе-нідзе адкрываецца від альбо на прыгожае прадмесце Ляхаўка, альбо на горад ці поле. Памятаем, што ў маленстве нашым бачылі мы тут цудоўныя клумбы кветак, сцежкі былі старанна высыпаныя.

Сёння з-за горшага догляду гэтае месца пазбаўлена мастацкага аздаблення; але паспяшайма заўважыць, што ад таго месца гэтае хараства свайго не толькі не траціць, але нават штосьці набывае дзякуючы невялікаму запусценню: прырода выяўляе тут свой цудоўны непаўторны воблік, пазбавіўшыся строгасці, якую насаджаў густ XVIII стагоддзя. Аднак жа галоўныя алеі захоўваюцца ў чысціні і парадку. У пэўныя дні ў парку іграе музыка — і людзі, што летнімі і вясновымі вечарамі тут гуляюць,

відаць, любяць гэтую мілую мясціну, з разуменнем прымаюць дэвіз, які губернатар Карнееў напісаў некалі на адной з паркавых пірамід: «Post laborem requies» (пасля працы — адпачынак).

Добра блукаць па гэтых цёмных алеях у ранішні час, калі нікога няма. І вечарам, калі скрозь шмат людзей, заходзіў я часам сюды для вывучэння мясцовага духу. Цяжка было часоваму госцю спасцігнуць яго як належыць, а таму занатоўваю тут свае беглыя ўражанні. У такім горадзе, як Мінск, большасць насельніцтва якога складаюць чыноўнікі, не ўдалося пачуць размовы сярод мужчын пра літаратуру, тэатр, эканоміку; толькі моладзь больш свавольна, чым віленская, распавядала пра каханне, а людзі старэйшыя гаварылі пра судовыя працэсы, следствы і г. д. Мінскімі мужчынамі і жанчынамі надаецца большая ўвага строям, але тутэйшая прыгожая палова мае на тое сваё бясспрэчнае права, бо — прабачце нам, мілыя жыхаркі Гедымінавага места, — Мінск, адносна свайго насельніцтва, можа пахваліцца вельмі значнаю колькасцю цудоўных дзявочых вочак. Разумею, што галава менш цвярозая, чым наша, што сэрца, менш загартаванае сталасцю, маглі б тут проста не ўстаяць, але што датычыць нас… вернемся да статыстыкі.

Апроч саду, названага Архірэйскім, які заклаў колькі гадоў таму назад архібіскуп грэка-расійскі Міхаіл, з густам аздобіўшы яго лістоўніцамі і рэдкімі гатункамі дрэў і кветак, — Мінск налічвае 18 прыватных садоў і 239 агародаў.

## II

*Святыні. — Капліцы. — Могільнікі. — Вандроўка да Кальварыі.*

Толькі беглы позірк можам кінуць на тутэйшыя святыні, бо занадта мала часу мы тут былі, не ў стане ўсюды зазірнуць і ўсё агледзець. Добра разумеем патрабавальнасць чытача, адчуваючы важнасць гэтых апісанняў. Дык здзейснім жа, што зможам.

З мноства старажытных каталіцкіх святынь у Мінску засталося ўсяго толькі тры ў горадзе і дзве на гарадскіх могілках. Найзнакаміцейшая з іх — езуіцкі касцёл, цяперашні катэдральны. Стаіць ён, мабыць, на тым месцы, дзе Уладзіслаў Ягайла заклаў першую каталіцкую святыню. У сярэдзіне сямнаццатага стагоддзя аселі тут езуіты; але набажэнства сваё адпраўлялі ў драўлянай капліцы — аж да 1700 года, у якім і пачалі ўзводзіць муры гэтага касцёла. Праз дзевяць гадоў яго асвяцілі. Свя-

тыня гэтая не была пышная, бо, незалежна ад даволі багатых ахвяраванняў, што адусюль прыбывалі і ўзрасталі, Мінская езуіцкая калегія не належала да самых знакамітых. У сярэдзіне мінулага стагоддзя ледзьве налічвала 15 асоб, у тым ліку 5 прафесараў.

Даволі сціплы касцёл, хоць і пабудаваны на відным месцы Высокага рынка, страляе ўгору дзвюма гатычнымі чатырохбаковымі, на чатыры ярусы, вежамі, а на плошчу выходзіць як бы ўнутранай галерэяй, ці калідорам, сцены якога складаюцца з жалезных кратаў. Усярэдзіне ў ім змрочна, але не настолькі, як бывае ў большасці езуіцкіх касцёлаў. Забіраюць касцельную плошчу тоўстыя калоны, пры якіх размешчаны алтары, па-за калонамі ёсць дзве бакавыя капліцы. Налева — св. Тройцы, направа — св. Феліцыяна-пакутніка. Фундатарам першай, яшчэ за езуіцкім часам, быў троцкі ваявода Цыпрыян Павел Бжастоўскі, які памёр у 1689 годзе; фундатарам другой — мінскі ваявода Крыштоф Завіша (1713). Касцёл гэты пасля скасавання ордэна езуітаў у 1773 годзе быў заменены на парафіяльны; а ўжо пры расійскай уладзе ў выніку ўказа Паўла І ад 28 красавіка 1798 года ўдастоены высокай годнасці катэдральнага.

Першым мінскім біскупам быў прызначаны Якуб Дадэрка, віленскі прэлат, кавалер ордэна св. Станіслава. Але перад самым заснаваннем Мінскай парафіі катэдральны касцёл стаў ахвяраю пажару ў сярэдзіне 1797 года. Згарэла значная частка касцельных рэчаў, што асталіся ад езуітаў; ацалелі толькі абразы; цела св. Феліцыяна перанеслі ў касцёл бенедыкцінак. Біскуп Дадэрка адразу ж пасля свайго ўступлення ў сан узяўся за адбудову касцёла, часткова з дапамогаю ўрада і прыватных ахвяраванняў, часткова на ўласныя грошы. За няпоўныя пяць гадоў не толькі адбудаваў яго, але і аздобіў. Спачатку, у 1779 годзе, адна капліца св. Феліцыяна, а пазней, у 1800 годзе, і ўвесь касцёл былі ўжо адчынены для набажэнства.

Дакладна не памятаю, у якім стане быў катэдральны касцёл у Мінску перад яго цяперашнім аднаўленнем; але пра гэта мне расказаў наш мастак пан Адам Шэмеш, які пад час апошняга нашага гасцявання згадзіўся таварышаваць у нашых вандроўках, а пасля даслаў асобную нататку пра тутэйшыя святыні. Вось яго ўражанне пра адбудову касцёла біскупам Дадэркам:

«Дзіўнае ўяўленне меў гэты чалавек аб храстве і дасканаласці Божай святыні. Усё скляпенне ва ўсіх трох нефах загадаў ён замаляваць карцінамі і сімваламі з Новага Запавету; сярэдзіну займае купал з калонамі, але яны так невыразна адмаляваны, што ні на кога не робяць аніякага ўражання. Усе гэтыя малюнкі на сценах

выканаў мастак Антажэўскі, найлепшы на той час у Мінску. Дадэрка паўсюль пакінуў поўна розных надпісаў, то рэлігійных і містычных, то з мэтаю ўласнага самаўсхвалення. Ягоны партрэт у поўны рост змешчаны ў прэзбітэрыі, другі, меншы — у закрыстыі. Усюды было шмат галерэек, упрыгожанняў, нейкіх аксамітных фіранак, усюды панавала стракатасць, вока не мела на чым адпачыць, скрозь Дадэрка панавешваў бліскучых шкляных жырандоляў. У якім жа стылі было гэтае аднаўленне? Цяжка вызначыць. Хіба, можа, назваць яго ўласна «дадэркаўскім»!

Дадамо, што такая стракатасць колераў дзіўна адбіваецца і ад нізкай падлогі, і ад змрочных сцен касцёла. Што ж да жывапісу — першае месца займаюць тут чатыры арыгіналы Чаховіча і адна ўдалая копія з яго. Ахарактарызуем жа іх падрабязна, спасылаючыся на меркаванне пана Шэмеша, тым болей аўтарытэтнае, што той, хто яго выказвае, сам знакаміты мастак і сумленны чалавек, вольны ад дробязных поглядаў, якімі так часта кіруюцца нашы творчыя людзі.

Найперш заслугоўвае ўвагі абраз святога Юзафа, змешчаны ў прэзбітэрыі, памерам, знешнім выглядам, каларытам падобны да абраза ў Віленскім катэдральным саборы, які наш вядомы Вільчынскі размножыў у прыгожых паштоўках.

«Аблічча святога звернута да гледача: выраз яго пачцівы і лагодны, вельмі адпаведны характару апекуна Божага Сына. На яго руцэ — Дзіця, якое трымае лілею, сімвал святога Юзафа. На пярэднім плане, злева ад цэнтральнай фігуры, — дзіця-анёлак, з малітоўна складзенымі ручкамі, тварам звернутае да святога. Направа, крыху ўглыбіні, кленчыць малы анёлак у белым убранні. Уверсе таксама анёлак і пару галовак даволі паспалітых херувімаў. Вельмі каштоўны абраз і, пэўна, ні ў чым не ўступае таму, які ёсць у Вільні, і да таго ж добра захаваны».

На касцельнай калоне, з левага боку, прыцягвае да сябе ўвагу абраз святога Яна, работа таго ж майстра. Святы Ян глядзіць на распяцце, якое трымае ў руцэ, з выразам спакою і шчырай набожнасці на твары. Анёл, які прыкленчыў побач, у адной руцэ трымае ключ, палец другой рукі прыкладзены да вуснаў. «Гэта надзіва прыгожая дзіцячая постаць, зусім не падобная да тых пухнатых анёлаў, якія анічога не значаць і якіх часта сустракаем нават на абразах Чаховіча. У глыбіні — від на мост, з якога каты скідаюць у раку святога. Абраз гэты значна пашкоджаны, а што яшчэ горш, шмат разоў рэстаўраваны. На шчасце, твар святога, правая рука з крыжам і анёлак з ключом цалкам захаваліся.

Ідэнтычная памылка (паўтор аднае і тае ж постаці на адным і тым жа палатне) сустракаецца яшчэ раз. Заўважаем яе, калі

глядзім на абраз святой Барбары, якая вылучаецца на першы план прыгожаю і шляхетнаю постаццю; яна з келіхам у руцэ, у чырвоным плашчы, у светла-блакітнай сукні, у катурнах на нагах, — а ў глыбіні яна, ужо лежачы на зямлі, прымае з рук каплана святое прычасце. Гэтая постаць на другім плане дастаткова выразная, каб не параўнаць яе з постаццю на пярэднім плане. Згаджаюся з панам Шэмешам, што такія анамаліі і залішняя завершанасць другога плана сведчаць не пра памылкі Чаховіча, а пра яго залішняе захапленне традыцыямі сярэднявечнага рэлігійнага мастацтва. Абраз відавочна пашкоджаны: падзёрты пасярэдзіне. Можа, па гэтай прычыне ён і павешаны занадта высока.

І, нарэшце, вельмі добрая копія з Чаховіча: святы Тадэвуш, «постаць адметная свабодаю і спакоем, з надзіва прыгожым абліччам. Гэты святы падобны з твару да Хрыста, са светлымі валасамі і невялічкаю бародкаю. У руцэ ён трымае цяслярскую лінейку, каля ягоных ног абломкі цэглы, але не руіны, а як бы нешта яшчэ недабудаванае».

Гаворачы пра Чаховіча, прыгадайма думку пана Шэмеша пра гэтага нашага знакамітага мастака: «Чаховіч, калі гаварыць пра так званы матэрыяльны бок яго таленту, належыць да эпохі заняпаду італьянскага жывапісу. Малюнак яго хоць і чысты, але ўсё ж манерны, часта неахайны; большая частка галоў на ягоных палотнах, а таксама шмат рук залішне прыгожыя. Што ж да анёлаў, то здаецца, што часта яны проста запаўняюць прастору з-за лішняга ўшанавання мастаком традыцый, — аднак не раз можна сустрэць сярод іх напраўду цудоўную дзіцячую постаць. Драпіроўкі ягоныя цяжкія, амаль скураныя. Аднак калі не ўлічваць гэтых недахопаў, то хто з нас, мастакоў, не хацеў бы быць Чаховічам?

Чаховіч па духу належыць да першабытнага мастацтва, што асвятлялася чыстаю і наіўнаю верою. Кожная постаць на яго палотнах пазначана такім глыбокім рэлігійным пачуццём, якое нашу думку адразу ж адводзіць далёка ад XVIII стагоддзя. У сучасным каталіцкім свеце толькі ў Польшчы мог яшчэ захавацца такі мастак».

Не хацелася б абмінаць тых чатырнаццаці абразоў, на якіх паказана Хрыстова пакута. Адзінаццаць з іх — даволі пасрэдныя копіі з Дамініхіна і паходзяць з Нясвіжа з часоў князя Караля Радзівіла. Адзін абраз яшчэ пры жыцці біскупа Дадэркі дамаляваў згаданы ўжо Анташэўскі, наследуючы кампазіцыю і каларыт Дамініхіна, але так спяшаўся, што аднаму з катаў даў

дзве правыя рукі. Два апошнія абразы, г. зн. «Зняцце з крыжа і палажэнне Хрыста ў гроб», намаляваны за два гады да таго.

Агледзеўшы галоўную частку касцёла, звернемся да іншых. Направа — капліца Святой Тройцы. Шчодрым фундатарам яе быў Цыпрыян Павел Бжастоўскі, трокскі ваявода, асаблівы дабрадзей езуітаў, пра якога Нясецкі гаворыць, што, сыплючы грошы на патрэбы краю, з Богам ён таксама шчодра дзяліўся — віленскім езуітам адпісаў 50 000 польскіх злотых, мінскім падараваў багаты абраз святой Дзевы Марыі, адпісаўшы таксама 50 000.

Быў гэта бацька вядомага віленскага біскупа — чалавек заможны, багаты і за многія заслугі ў краі ўшанаваны. Але нашае пра яго агульнае ўражанне пазбавіла абаяльнасці адна дэталь, запісаная ў Нясецкага і законам у 1670 годзе пацверджаная: аказваецца, ён прыняў ад Рэчы Паспалітай 15 000 польскіх злотых у якасці кампенсацыі тых грошай, што патраціў на грамадскія паслугі. Мог ён па сто тысяч аддаваць езуітам, але не выдзеліў хоць бы дзясятай часткі гэтай сумы свайму краю, дастатак якога, хто таго не ведае, быў па тым часе даволі мізэрны.

У капліцы Святой Тройцы ёсць яго партрэт, палатно пасрэднае, але прыцягальнае выяваю наіўнай праўды. У пана ваяводы даволі адметная худая фізіяномія, паважная і нават крыху скептычная. Ненатуральна складзенымі пальцамі белых рук (можа, гэта зламыснасць самога мастака) трымаецца ён за пояс, накручаны паверх багатага палевага жупана, зашпіленага на мноства гузікаў з дарагімі камянямі. Вакол партрэта надпіс па-польску, што ўслаўляе яго дабрадзейныя адносіны да езуітаў.

У левай частцы касцёла — капліца святога Феліцыяна, рыцара і пакутніка, з целам гэтага святога, якое падараваў мінскі ваявода Крыштоф Завіша. У алтары вялікі разьбяны крыж з Хрыстовым распяццем; пад ім срэбная труна з рэліквіямі, на ёй ляжыць цудоўны пазалочаны шлем, абвіты лаўрам і пальмаю, — атрыбуты святога. Заўважым, што ў гэтай капліцы больш, чым у іншых месцах касцёла, збіраецца вернікаў на малітву. Святы Феліцыян быў слынным на ўсю Літву патронам.

У глыбіні скляпення з чатырох бакоў лацінскія надпісы паведамляюць, што фундатар капліцы — Крыштоф Завіша, на той час старадубскі староста, і што ён, стаўшы мінскім ваяводам, падараваў гэтай святыні цела святога Феліцыяна (1713); што ў часе пажару касцёла ў 1797 годзе цела святога было перанесена ў касцёл бенедыкцінак і што, нарэшце, біскуп Дадэрка вярнуў яго ў капліцу пасля яе адбудовы ў 1799 годзе.

У зброі, з блакітнаю ордэнскаю стужкаю ўвекавечыўся Завіша на партрэце, змешчаным у капліцы святога Феліцыяна. Меў гэты чалавек даволі вядомыя заслугі перад айчынаю, тры разы быў маршалкам дэпутацкай палаты і апроч Мінскага ваяводства, якое атрымаў пасля Уладзіслава Сапегі, быў старастам мінскім, чэрскім і дамінскім. Праславіўся таксама як добры прамоўца, выдаў некалькі твораў: «Водгук салодкагалосай мелодыі» (Варшава, 1728), «Гісторыя несмяротнага Бога, што ў смяротным целе пакутуе» (Вільня, 1721) і інш.

У катэдральнай закрыстыі змешчаны партрэты езуіцкіх дабрачынцаў: Канстанта Бжастоўскага — біскупа віленскага, Сымона Міхоўскага — канцлера смаленскага, Марцыяна Агінскага — канцлера, і Марціна Казіміра Валадковіча; усе партрэты зроблены пасрэдна, пад апошнім з іх літары Д. І., што, напэўна, абазначаюць ініцыялы мастака. Тая ж пасрэднасць пэндзля ўласціва партрэту мінскіх канонікаў і прэлатаў (сярод якіх фігуруе ксёндз Катэндрык, нясвіжскі плябан, вядомы з успамінаў Сапліцы Радзівілаў прыдворны).

Аднак пазней напісаныя карціны — лепшыя, як, напрыклад, копія з Дамеля партрэта ксяндза Паўла Равы, былога адміністратара Мінскай парафіі.

Вось і ўсё, што можам расказаць пра Мінскі катэдральны сабор пры яго беглым аглядзе. Не хапіла нам часу і мажлівасці наведаць грабніцы або залезці на званіцу, дзе за езуіцкім часам быў невымернай велічыні звон, які называўся «Юзафам Салагубам» (прывезены з Круляўца ў 1750 годзе і спачатку змешчаны ў драўлянай званіцы), з якога біскуп Дадэрка загадаў адліць два іншыя. Адзін з гэтых званоў, «Якуб», цёзка біскупа, дасюль лічыцца найбольшым з усіх званоў, якія ёсць у мінскіх каталіцкіх святынях. Кідаючы апошні позірк на муры святыні, трэба аддаць належнае намаганням яе аднаўлення ў 1853 і 1854 гадах; але немагчыма не ўздыхнуць над даволі няўдалым вынікам гэтага. Захавана трохі больш прастаты, аднята крыху стракатасці старога дадэркаўскага стылю, адноўлены амбон, падноўлены фрэскі на скляпеннях, — усё пацягнута белым колерам, не ашчаджаючы залацістай аздобы, але створаны выгляд у цэлым не шыкоўны; антычная адметнасць сцерта, а новай не знайшлося.

Гэтае ўражанне, мажа, занадта прыдзірлівае і староннняе, і не дзіва, бо вочы ўжо прывыклі да цудоўных віленскіх святыняў, ад якіх вее непасрэднасцю і святою старажытнасцю гераічнага мінулага, на якое сталіца Літвы такая багатая.

Другі па чарзе нашага агляду касцёл, які ацалеў у Мінску, касцёл бернардзінцаў, фундатарам якога ў 1624 годзе быў Ан-

дрэй Кансоўскі, пра што яшчэ будзе расказана далей. Святыня, у выніку многіх пажараў і перабудоў, значна змянілася. Не маючы часу дэталёва разгледзець усё аздабленне касцёла і нават даведацца, ці ёсць тут грабніцы Завішаў, пра якія ўспамінае Нясецкі[1], звярнулі мы ўвагу на жывапіс. Апішам яго пры дапамозе нататак таго ж А. Шэмеша. Вартыя ўвагі тут чатыры карціны, а менавіта: святая Тэкля, што прылегла ў гроце і прыціскае да грудзей крыж, зялёная драпіроўка акрывае яе плечы і грудзі.

Святая Марыя Магдалена, таксама ў гроце, таксама паўляжыць, абапіраючыся на руку, але ружовая драпіроўка ўкрывае яе толькі злёгку. Мастак хацеў падкрэсліць прыгожыя формы пакутніцы; ды, відаць, ідэал жанчыны звёўся тут да прыгожага цела, і мастак не пашкадаваў сваёй гераіні гэтага хараства. Вобразу нестае грацыі, але малюнак зроблены дасканала.

Групавы абраз — Езус, Марыя і святы Юзаф — даволі добрае палатно: Марыя ў глыбіні карціны, Дзіця ў цені; і святы Юзаф — галоўны вобраз карціны, які дзякуючы своеасаблівай фантазіі мастака мае такое пахмурнае аблічча і такі пагрозлівы позірк, што пан Шэмеш успамінае, як ён у маленстве баяўся нават глядзець на гэткае «малявідла».

Абраз святой Ганны з Дзевай Марыяй і маленькім Езусам вабіць сваёю непасрэднасцю. Мастак не змог узняцца над зямным ідэалам, крыху правінцыйна зразумеў і выканаў задачу. Маці Божая, якая трымае пялёнкі, выглядае такою сабе паспалітаю кабетаю, маладою, ружавашчокаю, усмешліваю; святая Ганна, дабрадушная бабуля, у чапцы з шырокаю аблямоўкаю, замілавана глядзіць на Унука, які ўсміхаецца да яе з матчыных каленяў. Чатыры гэтыя карціны, хоць і не шэдэўры, усё ж заслугоўваюць увагі.

У касцельнай закрыстыі ёсць тры добрыя партрэты: генерала Мараўскага, Станішэўскага і Чапскай, філантропаў гэтага кляштара. У другой закрыстыі некалькі партрэтаў невядомай шляхты, палотны даволі пасрэднага жывапісу. Паміж іншых — партрэт знакамітага Валадковіча, расстралянага ў Мінску ў часе трыбунала ў 1760 годзе. Вядомы гэты гайдамак тым, што быў апекуном бернардзінцаў, мусіў ля іх канфесіяналаў ліць пакутныя слёзы, а шчодраю міласцінай, што сыпаў на Божыя алтары, спадзяваўся адкупіць свае грахі. Але не быў ён бязбожнікам, здольным наўмысна замахнуцца на крыж: проста ў маладосці ён — вясёлы гуляка, якіх у Польшчы было нямала, а ў канцы жыцця — пакутнік духу.

Занадта мала набраўшы матэрыялу ў дачыненні да касцёла і кляштара тутэйшых бернардзінцаў, мы хацелі займець тлума-

чэнне ад саміх манахаў. Але адзін з нашых сяброў, якога ўдалося ўгаварыць сабраць мясцовы матэрыял, трапіў пад злыя насмешкі мясцовай улады. Адгаворваліся ад яго і тым, і гэтым, не паказалі нават бібліятэкі, якая пасля пажару ўсё яшчэ не прыведзена да ладу. Пажар той быў у 1835 годзе, але за дваццаць гадоў так і не сабраліся ўпарадкаваць тут кнігасховішча!

Касцёл бенедыкцінак на Сабornай вуліцы, апрача старых абразоў святых Бенедыкта і Схаластыкі, а таксама некалькіх старасвецкіх аргентэрый, нічога адметнага не мае. Знешні яго выгляд, з мансардаю і дзвюма даволі стройнымі чатырохбаковымі вежамі, імпануе сваёю старажытнасцю, асабліва сярод пераважна сучаснай забудовы Мінска, дзе як бы наўмысна сціраліся рысы мінулага. Гэтым прывабным духам старажытнасці дыхае цудоўны непабелены, пусты цяпер касцёл францысканцаў на так званай Новафранцысканскай вуліцы, блізка Нізкага рынка.

Стары касцёл дамініканцаў, пра заснаванне якога ў належным месцы раскажам, цяпер, разам з кляштарам, служыць памяшканнем для рыма-каталіцкай семінарыі.

Апрача касцёлаў, у Мінску ёсць яшчэ пара капліц у межах горада: у мурах названай семінарыі і ў доме дабрачыннасці.

У цудоўна адноўленым апошнім часам кафедральным грэка-расійскім саборы святых Пятра і Паўла асаблівай увагі заслугоўвае абраз Збавіцеля, выкананы ў візантыйскім стылі мастаком панам Ксенафонтавым, вучнем Санкт-Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. Абраз гэты апраўлены ў прыгожую разьбяную раму работы пана Ягорава.

З усіх іншых абразоў таго ж Ксенафонтава, што ўяўляюць сабою размаітыя копіі ў новым стылі, вылучаецца абраз Божага Уваскрэсення; іншыя ж прыцягваюць увагу толькі ўдалымі дэталямі. Вылучаецца таксама палатно пана Сарокіна «Пераўвасабленне Божае».

Каштавалі гэтыя копіі 2800 рублёў срэбрам. Да грэка-расійскага веравызнання належыць таксама сабор святой Кацярыны ў канцы горада, царква ў прадмесці Пярэспа пры Віленскім тракце, а таксама пяць капліц — у гарадскім лазарэце, у вайсковым лазарэце і ў турме.

Упомнілі мы і пра лютэранскую царкву ў Новым горадзе, пабудаваную дзесяць гадоў таму, адметную прыгожай архітэктурай.

З жыхароў нехрысціянскага веравызнання татары тут маюць сваю мячэць, жыды — адну сінагогу, а таксама 10 мураваных і 15 драўляных малельных дамоў.

У Мінску налічваецца 9 могільнікаў (два рыма-каталіцкія — на Залатой горцы і на Кальварыі, два грэка-расійскія, адзін лютэранскі, адзін магаметанскі, два жыдоўскія і могільнік, што называецца Рудзене пры Койданаўскім тракце). З іх усіх наведаў я толькі Кальварыю, як заўсёды, у кампаніі слаўнага Шэмеша. Цудоўным маёвым вечарам паехалі мы агледзець гэты арыстакратычны мінскі могільнік, размешчаны ў паўночна-заходнім баку, за тры вярсты ад гарадскіх муроў. Цяністая бярозавая алея рабіла мілейшым вечаровы халадок; выгляд буйной збажыны радаваў сэрца, і расчуленыя, але не сумныя ехалі мы пабачыць месца вечнага супачынку. Спыніліся перад мураванаю брамаю, якая была чыімсьці надмагільным помнікам, заслоненым густымі дрэвамі, з-за якіх маляўніча выглядвалі таксама мураваныя помнікі. Кіраўніцтва плябаніі дало нам ключы ад капліцы, якую мы моўчкі агледзелі. Сама капліца, пабудаваная ў першых гадах бягучага стагоддзя панам Паўлікоўскім, мае за вялікім алтаром велічную фрэску — выяву гары Іерусалімскай кальварыі, жалобнай крыжовай Галгофы.

У цэнтры гэтай фрэскі вялікі, у пазалочанай раме, абраз Хрыста, які лічыцца адным з найлепшых твораў Дамеля. Пад гэтымі сімваламі пакуты і смерці, пад заслонаю тварэння ўласнага пэндзля, пад вялікім алтаром спачываюць астанкі самога Дамеля. Ані ў капліцы, ані ў надворнай яе сцяне грабніцы мастака няма — маўзалеем яму служыць уласны твор*.

Два бакавыя алтары капліцы ўяўляюць сабою як бы дзве грабніцы; у адной з іх, па правым боку ад ўвахода, спачывае Матэвуш Ліпскі, мінскі біскуп. Нарадзіўся ў 1771 годзе, памёр у 1839.

Абышлі мы могільнік, цудоўна зацененены дрэвамі. Агледзелі пару грабніц і некалькі прыгожых помнікаў; але, як староннi прышэлец, не хацеў абражаць я праху мёртвых, не знаёмых мне людзей халодным пералікам іх прозвішчаў, першы раз з помнікаў даведваючыся, што жылі яны на гэтым свеце. Шукаў даўнейшыя помнікі, шукаў імёны, вядомыя ў краі; але ўсё гэта мне чамусьці не ўдавалася. Абыякава мінаў магілы людзей, можа, і вельмі заслужаных сярод сваіх родных, сяброў і землякоў. Баяўся абразіць невядомую мне дабрачыннасць або заслугу. Чалавек чужы, з сухімі вачыма і халодным сэрцам, я адчуваў тут сябе не на сваім

* Пасля ад'езду з Мінска атрымалі мы паведамленне, што мінулым летам 1855 г. у кальварыйскую капліцу ўдарыў пярун, крыху пашкодзіўшы згаданае палатно Дамеля.

месцы — і саромеўся свае нячуласці. Дзеля абуджэння ў сабе цікавасці да гэтых астанкаў, памяць пра якіх святая для гэтулькі тутэйшых людзей, ставіў сябе на месца іхніх бацькоў, дзяцей, мужоў, каханкаў або землякоў; пакутаваў іх болем, верыў усім сэрцам у праўдзівасць заслуг і шчырасць жалю, выпісаных на помніках, бо, не ведаючы ані тых, што памерлі, ані тых, што асталіся, якое ж права меў не верыць?

Шарэла. У капліцы зазванілі на імшу па памерлых. Шэпчучы пацеры, пакінулі мы могільнік, даўшы напаследак невялікую міласціну тутэйшай жабрачцы, якая запэўнівала нас, што памоліцца «за здароўе нябожчыкаў».

## III

*Маральны бок. — Асяродкі асветы. — Дабрачынныя ўстановы.*

Здзіўляецеся, можа, што ў першым раздзеле, старанна пералічваючы крамы ў Мінску, не нагадалі вам ані пра адну кнігарню. Прамінулі мы там гэтую галіну гандлю наўмысна, каб пасля пагаварыць пра яе шырэй. У Мінску ёсць дзве малыя жыдоўскія кнігарні, з якіх адна пачынае выдаваць творы за кошт аўтараў. Але несправядліва было б думаць, што гэтыя сціплыя кнігарні цалкам задавальняюць патрэбы тутэйшай грамадскасці.

Мы самі перад тым, як лепей пазнаёміцца з Мінскам, былі тае ж думкі, але, сустракаючыся скрозь з людзьмі, для якіх кніга не чужая, бачачы невялікія, але пастаянныя прыбыткі, якія маюць віленскія бібліяфілы ў Мінску, завязаўшы тут асабістыя літаратурныя стасункі з Варшаваю, Пецярбургам і нават з замежжам, — з прыемнасцю пераканаліся, што чытанне стала ўжо тут жыццёваю патрэбаю. З-за далікатнасці не ўдаючыся ў пералік асоб, не можам, аднак, не сказаць пра некалькіх уладальнікаў заможных бібліятэк, з якіх ахвотна выдаецца духоўная спажыва тым, хто яе патрабуе. Мог бы назваць некалькі ўлюбёных у сваю справу ўладальнікаў рэдкіх твораў, цудоўных карцін і старажытных збораў, некалькі мясцовых літаратараў, мастакоў, музыкаў, — а суседства такіх людзей не можа не ўплываць станоўча на іншых, тым больш што ў Мінску паміж людзьмі, улюбёнымі ў навуку і ў мастацтва, заўважыў я больш згоды, а не групаўшчыны. Зрэшты, друкарня І. Дворца, што колькі гадоў існуе і заўсёды завалена працаю, зусім неблагая літаграфія Фалька сведчаць, што тут калі не квітнее, то, прынамсі, пастаянна

развіваецца духоўнае жыццё. Калі ж ёсць неабходнасць абавязкова зрабіць папрок мінскай грамадскасці, то ў душы маем адзін, а менавіта: засмуціла нас вельмі слабая зацікаўленасць мясцовым тэатрам, гэтаю цудоўнаю забаваю адукаваных людзей, да якой, аднак жа, замала цяпер праяўляецца ўвагі. Калі ж Мінскі тэатр не адпавядае патрабаванням грамадскасці, то рост яго аўтарытэту залежыць ад яе самой: без старання і апантанасці святыня Таліі[2] ані развівацца, ані пашыраць свайго ўплыву не можа.

На гэтых некалькіх словах павінны мы перапыніць сваю гаворку пра тое, што датычыць адукацыі людзей дарослых. Кінем цяпер позірк на лічбу існуючых навуковых устаноў для моладзі і колькасць вучняў у іх. У Мінску ёсць:

1. Пачатковая, або парафіяльная школа, і ў ёй — каля 80 вучняў.

2. Школа для пачатковага навучання бедных дзяўчынак, вучаніц — 30.

3. Дваранская павятовая школа, вучняў — 150.

4. Павятовая школа для грэка-расійскага духавенства, вучняў — 110.

5, 6. Дзве дзяржаўныя школы для ізраільцян, вучняў — 85.

7. Гімназія, штогод вучняў каля — 400.

8, 9, 10, 11. Чатыры прыватныя жаночыя пансіёны, вучаніц — 260.

12. Рыма-каталіцкая семінарыя, клерыкаў — 80.

13. Грэка-расійская семінарыя, вучняў — 130.

Усяго 1285 вучняў.

Там, дзе ў трынаццаці навучальных установах выхоўваецца штогод каля паўтары тысячы хлапчукоў і дзяўчынак усіх веравызнанняў, ні ў якім разе нельга абвінавачваць грамадскасць у абыякавасці да асветы. Лічба гэтая не пасарамаціць Мінска перад Вільняю, дзе штогадовая колькасць выхаванцаў складае каля 2270 чалавек, але ўлічым, што Вільня — сталіца Літвы, што там выхаваўчых устаноў — 24, што ў Вільні на паўтрэці больш насельніцтва, чым у Мінску, што ў той жа час у Віленскай губерні няма другой гімназіі, у Мінскай жа Слуцкая гімназія забірае моладзь з чатырох ці нават з пяці заходніх паветаў.

Пяройдзем цяпер да дабрачынных устаноў у Мінску. Тут таксама даверымся яскраваму сведчанню лічбаў.

1. Дабрачыннае таварыства, заснаванае ў Мінску дзякуючы намаганням біскупа Дадэркі, налічвае 70 чал.

2. Шпіталь, заснаваны на тое ж ахвяраванне, — 106 чал.

3. Гарадскі лазарэт — 547 чал.

4. Псіхіятрычная бальніца — 27 чал.
5. Аддзяленне невылечна хворых — 10 чал.
6. Дом для старых шляхетных жанчын — 14 чал.
7. Дзіцячы прытулак — 90 чал.
8. Жыдоўскі лазарэт — 1279 чал.
9. Шпіталь пры лазарэце — 50 чал.
10. Вайсковы лазарэт, у якім у 1854 годзе лячылася 5213 чал.

Ва ўсіх дабрачынных установах — 7406 чал.

Так, больш-менш дакладна азнаёміўшыся з агульным станам Мінска, пяройдзем да апісання хронікі яго мінулага.

## ХРОНІКА ГОРАДА МІНСКА

### Першы перыяд

*Часы крывічоў. — Рагвалод. — Заваёва Уладзіміра В. — Рагнеда і Ізяслаў. — Яго паслядоўнікі. — Першы ўспамін пра Мінск. — Заваяванне Мінска. — Усяслаў, князь Мінскі. — Вешчы Баян жыў у Мінску. — Сутычкі мінскіх князёў з кіеўскімі. — Уладзімір Манамах чатыры разы спусташае Мінск. — Заняпад старой дынастыі мінскіх князёў. — Мсціслаў і Ізяслаў, кіеўскія князі. — Захавана адна галіна роду полацкіх князёў. — Расціслаў і Валадар. — Іх сутычкі з Рагвалодам. — Слоўца пра літвінаў. — Іх першыя заваёвы. — Нашэсце татараў на Русь. — Баі Міндоўга з татарамі. — Мінск канчаткова пераходзіць пад уладанне Літвы. — Далейшыя падзеі ажно да з'яднання Літвы з Польшчаю. — Хрысціянства. — Заканчэнне першага перыяду.*

Паміж Нёманам, Прыпяццю, Дзвіною і за Дзвіною амаль да горада Ізборска раскінуліся ў IX стагоддзі абшары, заселеныя славянскімі плямёнамі. Дрыгавічы, крывічы і палачане засялялі гэтыя прыгожыя, але тады дзікія землі. Некалькі невялікіх гарадоў, на чале якіх быў Полацк, раскіданыя як аазісы ў вялізнай пустыні, збіралі невялікае насельніцтва, што блукала па лясах, качавала па берагах рэк альбо толькі пачынала весці аселае жыццё і карчаваць у лясах невялікія паляны.

Гэтаю вялізнаю тэрыторыяй уладаў каля 980 года Рагвалод, выхадзец з нарманаў ці з варагаў, якія сто з лішнім гадоў назад захапілі ўладу над асобнымі ўдзельнымі княствамі Русі. Ваяўнічыя людзі навязалі свае законы плямёнам тубыльцаў, але панаванне іх для гісторыі праходзіла спакойна. Толькі Гнезна, Вялікі Ноўгарад і Кіеў, на тэрыторыі ўсёй славяншчыны, пачалі кіпець рухам, які завязваўся ў палітычныя інтрыгі: гэтае

палітычнае жыццё пачыналася з унутранай каланізацыі і захопаў па-за межамі дзяржавы.

Яраполк, а пазней Уладзімір, вялікія кіеўскія князі, што яшчэ аставаліся ў паганстве, сілаю зброі захапілі суседнія паселішчы. Уладанні Рагвалода, сталіцаю якіх быў Полацк, прасціраліся, як мы ўжо адзначалі, ад Нёмана і Прыпяці ажно далёка на другі бок Дзвіны, — абшар занадта шырокі, каб не звярнуць на сябе ўвагі хцівага да захопаў Уладзіміра. Рагвалод меў прыгожую дачку Рагнеду, якую Уладзімір вельмі хацеў узяць за жонку. Але Рагнеда, заручаная з іншым, з пагардаю адпрэчыла прапанову ўладара Кіева. «Не хачу, — казала, — разуць рабыніча»*, — маючы на ўвазе простанароднае паходжанне Уладзіміра**. Тая пагарда была канчатковаю прычынаю паходу Уладзіміра на княства Рагвалода; захапіўшы Полацк, ён забіў самога Рагвалода і двух ягоных сыноў, іхнія землі далучыў да сваіх і насільна ажаніўся з Рагнедаю.

Ад гэтага шлюбу нарадзіўся Ізяслаў, найстарэйшы з дванаццаці сыноў, якіх Уладзімір меў з некалькімі жонкамі.

Хараство Рагнеды нядоўга цешыла легкадумнага Уладзіміра. Спакутаваная стратаю братоў і бацькі, пакінутая мужам у самотнай адзіноце, у ваколіцах Кіева жыла бедная Рагнеда, у знак смутку назваўшыся Гарыславаю, ад слова «гора», якое было яе лёсам. Калі, адведваючы яе, легкаверны Уладзімір аднойчы моцна заснуў, Рагнеда ў роспачы вырашыла забіць яго нажом. У тую ж хвіліну князь прачнуўся, раззброіў жонку і вынес ёй смяротны прысуд. У светлым пакоі, прыбраная, як да шлюбу, Рагнеда чакала смерці. Калі ж прыйшоў разгневаны муж і сабралася рада суддзяў, малы Ізяслаў, сын Уладзіміра і Рагнеды, прамовіў, падаючы бацьку меч: «Ці толькі сам хочаш жыць? Ці думаеш, што несмяротны? Вазьмі гэты меч, усадзі яго ў мае грудзі, каб не бачыў я смерці мацеры маёй!» Расчулены Уладзімір адказаў, кідаючы меч: «Хто ж ведаў, што ты тут быў!»*** Пасля выйшаў, склікаў баяраў, пытаючы, што рабіць. «Князь! — адказалі яму, — даруй вінаватай дзеля гэтага хлапчука і аддай ім вотчыну Рагнедзінага бацькі». Уладзімір паслухаў гэтай парады,

* Траецкая хроніка, цытаваная ў Карамзіна.

** Уладзімір быў сынам князя Святаслава і простай жанчыны, дачкі Мала Любачаніна. Тагачасныя князі, якія былі язычнікамі, мелі па некалькі жонак.

*** Нестар у Хроніцы Нікана.

пабудаваў новы горад, назваўшы яго Ізяслаўлем, і там пакінуў мацеру з сынам.

Прывялі мы са старых летапісаў гэты выпадак, бо ён мае непасрэдную сувязь з прадметам нашае гаворкі. Места Ізяслаўль, заснаванае ў чатырох мілях ад Мінска, якое цяпер называецца Заслаўем, было першаю ў гэтых мясцінах сталіцаю полацкіх князёў. Ізяслаў атрымаў ад бацькі Полацк, а таксама землі свайго дзеда па мацеры Рагвалода. Мінска тады яшчэ не было, альбо, можа, быў ён якімсьцім глухім сялом, што не заслугоўвала ўпамінання летапісаў, ці, можа, гандлёвым пунктам, куды збіраліся славяне для абмену тавараў, што і тлумачыць назву — Мінск, або, дакладней, Менск, як яго са старажытных часоў называлі летапісцы*.

Ізяслаў, сын Уладзіміра, памёр у 1001 годзе; пасля яго полацкім князем стаў ягоны сын Брачыслаў, яму ж належала і Заслаўе. Пра гэтага полацкага князя з летапісаў вядома толькі тое, што ў 1021 годзе ён вёў барацьбу са сваім дзядзькам з бацькавага боку Яраславам, вялікім кіеўскім князем; але, разбіты, мусіў з ім памірыцца і вярнуцца ў Полацк, дзе і памёр у 1044 годзе.

Усяслаў, сын Брачыслава, больш запомніўся гісторыі. Хцівы да крыві і ўлады, незадаволены толькі валоданнем Полацкага княства і прыгадаўшы, што дзед ягоны Ізяслаў быў старэйшым сынам Уладзіміра, задумаў малодшую лінію (г. зн. Ізяслава, Яраслававага сына) выкінуць з вялікакняскай кіеўскай сталіцы. З гэтаю мэтаю зімою 1067 года акружыў Пскоў, заваяваў Ноўгарад, забраў там у палон жыхароў і абрабаваў цэрквы. Даведаўшыся пра гэта, ураджаныя сыны Яраслава, забыўшы ўзаемную варожасць, непазбежны вынік згубнай удзельнай сістэмы, — памірыліся, каб у адказ спусташаць уладанні Усяслава. Нягледзячы на суровасць зімы, узялі ў асаду Мінск, які належаў Полацкаму княству. Такім чынам першы раз упамінаецца ў летапісах горад, хроніку якога мы ўзяліся пісаць; але гэтая першая згадка пра яго — жахлівая.

---

* Аб паходжанні назвы Мінска ад «мены», «абмену» — праўдзівая гіпотэза, якой мы будзем прытрымлівацца. Такі абмен (па-руску «мена») таварамі паміж рознымі пакаленнямі славян існаваў ад найстаражытнейшых часоў. Наш земляробчы край меў хлеб, а хацеў атрымаць жалеза і прадметы першай неабходнасці ад суседніх плямёнаў. Зрэшты, Мінск, размешчаны паміж гандлёвым Ноўгарадам і заможным Кіевам, мог быць сярэднім пунктам ці прыстанню абменнага гандлю паміж пэўнымі пакаленнямі славян.

Малое, відаць, драўлянае мястэчка, размешчанае на берагах Свіслачы, не магло даць адпор войскам Ізяслава і ягоных братоў, Усяслава ж там не было. Ваяры тых вякоў не ўмелі сціпла перажываць перамогу. Палілі дамы, забівалі бяззбройных і нявінных людзей, жанчын і дзяўчат аддавалі на ганьбу, а дзяцей бралі на шчыт. Так піша пра гэта Нестар*.

Усяслаў шэрым ваўком, як сведчыць «Слова аб палку Ігаравым», спяшаў на дапамогу свайму гораду. Пераможца, заліўшы яго крывёю і засыпаўшы попелам, пачаў ужо адступаць, калі падышлі палкі Усяслава. Пад Мінскам, над ракою Нямігаю, сышліся два непрыяцельскія войскі, і ў апошнія дні лютага 1067 года адбылася крывавая бітва.

На Немизе снопы стелют головами,
молотят чепи харалужными,
на тоце живот кладут,
веют душу от тела**.

---

* Карамзін. Гісторыя дзяржавы Расійскай. Т. 2. С. 43. Выданне Эймерлінга 1842 г. адносіць заснаванне Мінска да 1066 г., спасылаючыся на летапіс Даніловіча, с. 217; але ў цытаваным месцы няма згадкі пра гэтае заснаванне, толькі ў паметцы пад 1067 г. упамінаецца Мінск як абарончае места. Але не магло яно быць такім праз год пасля свайго заснавання.

** Так паэтычна малюе гэтую бітву аўтар «Слова…», вяртаючыся да старых часоў. Тут выправім памылку Карамзіна ў дачыненні да месца, дзе адбылася гэтая бітва. Расійскі гісторык у 2-м томе сваёй «Гісторыі» гаворыць: «Усяслаў сышоўся з непрыяцелем на берагах Нёмана, пакрытых глыбокім снегам», а ў заўвагах да гэтага месца, цытуючы Нестара, піша: «Летапісец называе раку Нёман Нямізаю». Але гэта не так, бо Нёман, самае блізкае, за 12 міль ад Мінска нясе свае воды і не мог быць на дарозе Усяслава і ніколі ні ў адной мове альбо ў дыялекце — не называўся Нямізаю. Пад Мінскам жа, дакладней, у самым горадзе, у яго старой частцы, на паўночны ўсход, ёсць перасохлая сёння рака Няміга, якая дала назву ўсёй гэтай частцы места. Беручы пачатак з узвышша і абагнуўшы ўмацаванні старога, ужо неіснуючага замка, яна ўпадае ў Свіслач. Летам бачны толькі сухі след яе рэчышча пасярэдзіне вуліц; вясною ж Няміга ўздымаецца досыць нечакана і залівае вуліцы, так што няміжане, як тыя венецыянцы, мусяць на гандолах ратаваць свае пажыткі. Ёсць сведчанне, што Няміга калісь была паўнаводнаю. Тады, над тою Нямігаю, г. зн. у самім Мінску, а не над Нёманам, быў у 1067 г. бой Усяслава з Ізяславам. У «Слове аб палку Ігаравым» пішацца «на Немизе», у той час як па-руску павінна было быць «на Немиге». Але трэба памятаць, што ўвесь гэты твор складзены царкоўна-беларускаю

Пераможаны Усяслаў уцёк з рэшткамі свайго войска і пайшоў у бок Кіева, відаць, прагнучы займець сталіцу тагачаснай Русі. Уражаны такім крокам, Ізяслаў пачаў з Усяславам перамовы і, прысягаю і словам гонару паабяцаўшы яму бяспеку, паклікаў да сябе. Было гэта пад Смаленскам. Даверлівы Усяслаў, пераплыўшы Днепр на лодцы, накіраваўся да шатра, але тут жа быў схоплены і адвезены ў Кіеў. Там, у няволі, чакаў немінучай смерці. Аднак літасцівы лёс яго не пакінуў. Кіяўляне, злыя на сваіх князёў за прайграную полаўцам бітву, паднялі бунт, што змусіла Ізяслава ўцякаць і шукаць схову ў Польшчы. Усяслаў жа, мінскі князь, вызвалены з няволі, быў абраны вялікім князем усяе Русі.

Не асталіся безвыніковымі і ўцёкі Ізяслава ў Польшчу: энергічны Баляслаў Крываўст прыняў кіеўскага выгнанца і, даўшы яму падмацаванне, разам з трыма магутнымі палкамі пайшоў на Кіеў. Ваяўнічыя кіяўляне пад кіраўніцтвам Усяслава са зброяй выйшлі сустрэць яго аж пад Белагрудак; але Усяслаў, спалохаўшыся зброі палякаў і пакінуўшы сваіх новых падданых, уцёк у Полацк. Кіяўляне ў адказ прынялі Ізяслава. Баляслаў, запрошаны з войскам на гасціну ў Кіеў, пакінуў на гарадскіх варотах разьбу каранацыйным мячом Баляслава Харобрага і, як Баляслаў Харобры, уражаны гасціннасцю Ізяслава і хараством мілых кіяўлянак, цэлую зіму гасцяваў у сталіцы Русі.

Усяслаў, пасля кароткачасовага ўздыму (толькі сем месяцаў цешыўся ён тытулам князя ўсяе Русі), яшчэ раз сутыкнуўшыся ў бітве з Яраполкам, братам кіеўскага князя, ледзьве здолеў утрымацца на полацкай і мінскай землях.

Праз сямнаццаць гадоў пасля першай бяды Усяслаў наклікаў на Мінск, другую сталіцу свайго Полацкага княства, яшчэ адно няшчасце. Горды і хцівы ваяр, не забываючы, што паходзіць ад старэйшага сына Уладзіміра Вялікага, ён глядзеў на малодшую галіну роду як на ўзурпатараў. Смаленск і Ноўгарад зноў спазналі ягоныя меч і полымя.

У Кіеве ўладарыў спакойны Усевалад, але яго малады сын Уладзімір, пазней названы Манамахам, быў занадта ваяўнічы, каб цярпець крыўды і прэтэнзіі Усяслава. Вось як ён пад старасць у сваім тастаменце, выхваляючыся маладымі ўчынкамі,

моваю, дзе назоўнікі жаночага роду на -га (сярмяга, прысяга, Няміга, адвага) у трэцім склоне маюць канчатак -зе. Карамзін, як велікарос, мог не ведаць старой беларускай мовы так, як ведаем мы, бо вывучылі яе ў штодзённых стасунках з людзьмі.

гаворыць пра бяду, учыненую землям Усяслава і ягонаму месту Мінску: «Тым жа шляхам за Усяславам паліў я землі і ваяваў да Лукомля (цяпер у Магілёўскай губ.), Лагойска (у Мінскай губ.) і Друцка… І ў тую ж восень (1084), маючы з сабою чарнігаўцаў і полаўцаў, паехаў на Мінск і знішчыў яго так, што ў ім не засталося ані дзіцяці, ані штукі быдла…»*

Нарэшце, у 1101 годзе, пасля пяцідзесяці гадоў панавання над Полацкам і Мінскам, скончыў сваё ваяўнічае жыццё Усяслаў. Багатырскую яго душу адно сагравала песня паэта.

Гэтым паэтам быў Баян, вялікі вяшчун старой славяншчыны, які жыў побач з Усяславам.

Калі М. Вішнеўскі ў І томе сваёй «Гісторыі літаратуры» напаўжартам даводзіў, што Авідзій пісаў вершы па-польску, газетная крытыка нават не захацела сур'ёзна ўспомніць яго за такую смелую гіпотэзу. Хоць бы і мне пагражала наклікаць на сябе нешта падобнае, аднак выступлю з такім жа смелым сцверджаннем, а менавіта, што Баян, гэты славянскі Гамер, найстарэйшы са славянскіх вешчуноў, салавей старажытных часоў, жыў у Мінску восемсот гадоў назад. Сведчыць пра гэта старажытная беларуская песня, слаўнае «Слова аб палку Ігаравым», хоць там і не ўпамінаецца назва Мінска.

Баян спяваў Усяславу, які княжыў у Мінску:

Будзь хітры, быстры, будзь, як птах крылаты…

Баян, нарэшце, успамінае мінскую раку Нямігу, значыць, добра ведаў месца бітвы Усяслава з Ізяславам, бо гэты ўступ у «Слове…» — выразны дадатак да Баянавай песні. Таму Мінск перад іншымі славянскімі гарадамі павінен узяць першынство старажытнай паэзіі, мясцовай песні, на той самай мове, на якой — і жніўныя песні нашага люду, толькі з шырэйшым палётам. Бо за тым багатырскім часам шырэйшая была прастора для спевака.

Але вучоная крытыка заўсёды рада пазбавіць даўніну харства; крытыка, якая здрабніла боскага Гамера на тысячы эпічных рапсодаў, гэтаксама і беларускую паэму пра Ігара прымае за апокрыф. Заўважма ў дужках: што датычыць нас, то з усёю шчырасцю верым у аўтэнтычнасць гэтых каштоўных гістарычных помнікаў.

Папрасіўшы ў чытачоў прабачэння за такое адступленне, вернемся да гісторыі Мінска, якую мы перапынілі на 1101 годзе,

* Тастамент Уладзіміра Манамаха.

г. зн. на часе смерці Усяслава. З яго адыходам беды тутэйшых гарадоў і правінцый не скончыліся. Трон заняў сын Усяслава Глеб.

Канфлікты паміж полацкімі князямі і кіеўскай галіною роду, згубная ўдзельная сістэма ўсё яшчэ сутыкалі брата з братам. Давыд, брат Глеба, як можна меркаваць, пакрыўджаны падзелам зямель Усяслава, шукаў падтрымкі Кіева. Гэта якраз і патрэбна было кіеўскім князям, якія праглі барацьбы. Шматлікія іх палкі ў сакавіку 1104 года рушылі на асаду Мінска, але на гэты раз былі адбіты. Горад, пэўна, ужо набыў абарончы гарт і даў адпор непрыяцелю. Праз колькі гадоў прынёс ён шмат клопату і Уладзіміру Манамаху, калі той трэці раз прыходзіў яго заваёўваць. Глеб, ідучы бацькавым шляхам, заўсёды непрыязна ставіўся да поглядаў кіеўскіх князёў. У 1115 годзе ён не скарыўся Манамаху, спаліў места Слуцк, а насельніцтва паміж Прыпяццю і Дзвіною забраў у палон. Незадаволены гэтым, Манамах выслаў свайго сына Яраполка спустошыць Друцк, які належаў да Глебавага ўдзельнага княства, а сам вырашыў пайсці на яго асаду.

«Пачаў ставіць крэпасці насупраць места, — сведчыць летапісец*, — убачыўшы гэта, Глеб вельмі ўразіўся і пачаў прасіць прабачэння». Уладзімір злітаваўся над ім, не жадаючы праліваць кроў у дні Вялікага посту. Глеб з дзецьмі і з дружынаю выйшаў з места пакланіцца Уладзіміру, які дакараў яго за ўсё, а потым усё ж пакінуў яго княжыць над Мінскам.

Другі гісторык, аднак, піша, што Манамах, па просьбе іншых князёў, не толькі прабачыў Глебу ягоную віну, але, па старым звычаі, наладзіў яму і ягонай сям’і пышны баль.

Але гэта яшчэ не канец братазабойчых войнаў, ахвярамі якіх падалі гарады і землі. Праз пару гадоў Глеб зноў падняў меч супраць Манамаха, велікакняжыя войскі зноў сталі пад Мінскам, заваявалі яго, злавілі Глеба і, палоннага, адправілі ў Кіеў, дзе ён і памёр 13 верасня 1119 года. У Кіеве засталіся ягоныя дзеці: Усевалад, Уладзімір і Расціслаў, якія меліся з часам дамагчыся свайго.

У хуткім часе памёр і Уладзімір Манамах; праходзілі гады, мяняліся часы; толькі нянавісць дзвюх галін роду з гадамі мацнела. Браты Глеба раздзялілі паміж сабою землі вялікага Полацка-Мінскага княства. Апроч Мінска, які пасля смерці Манамаха быў пад уладаю ягонага сына Мсціслава, у іншых вотчынах таго ж княства: у Барысаве, Лагойску, Заслаўі, По-

* Кіеўскі летапіс, цытаваны ў Карамзіна.

лацку ўладарылі нашчадкі Усяслава, адчуваючы сябе незалежна, «як бы, — піша Карамзін, — і — аддзеленыя ад «России», і — далёкія ад уплыву кіеўскіх манархаў». Мсціслаў, сын Уладзіміра Манамаха, вырашыў пакласці канец іх грознаму існаванню і таму выдаў адозву да ўладароў усяе Русі і аб'явіў штосьці накшталт крыжовага паходу на полацкіх князёў.

Дзень 4 жніўня 1127 года стаўся часінаю агульнага заняпаду праўнукаў Рагнеды. У дзень той асобныя аддзелы зборных сіл Мсціслава ўдарылі па сталіцах асобных полацкіх зямель. Воля кіеўскага ўладара павяла князёў на князёў, братоў на братоў. Прабіла гадзіна: Усевалад Ольгавіч ударыў на Барысаў; Ізяслаў, сын Мсціслава, заваяваў Лагойск; іншыя, нягледзячы на слова, дадзенае жыхарам, сцерлі ў пыл Заслаўе. Былі ўзяты ў палон пяць полацкіх князёў з іх жонкамі і дзецьмі і адпраўлены ў Кіеў, а ў 1129 годзе на трох ладдзях іх адаслалі ў Канстанцінопаль, дзе зяць Мсціслава, грэцкі імператар Ян, запрасіў выгнанцаў да сябе. Так заняпала на нейкі час дынастыя полацка-мінскіх князёў, якая каля паўтара стагоддзя ўладарыла ў сваім родным княстве. Кроў старога Рагвалода пайшла ў чужыя землі, пад харугвы грэцкіх імператараў, каб змагацца з арабамі, дзе, як сведчаць летапісцы, пакрылі яны свае імёны баявою славаю. Толькі сыны Глеба: Усевалад, Уладзімір і Расціслаў, выгнаныя са свае бацькаўшчыны, заставаліся ў краіне з ласкі Мсціслава.

А Мінск? Страціўшы сваіх гаспадароў, ён праіснаваў толькі 60 гадоў з дня свайго заснавання і за гэты час шэсць разоў быў ахвяраю варожага мяча і полымя. Столькі разоў вынішчаны аж да малога дзіцяці, да падлетка, пэўна ж, апынуўся ў цяжкім стане, калі Мсціслаў, адправіўшы за мора старых ягоных валадароў, гэтае ўдзельнае княства аддаў свайму сыну Ізяславу. Апроч Полацка і Мінска, якія яму аддаў бацька, Ізяслаў ад дзядзькі свайго Яраполка (які пасля Мсціслава заняў кіеўскі трон, бо паводле тагачасных звычаяў не толькі сын мог наследаваць пасля бацькі, але і брат — пасля брата), Ізяслаў, паўторым, узамен аддадзенага камусьці іншаму Пераяслаўля атрымаў у 1133 годзе месты Пінск і Тураў. Але раздрабленне родаў па розных княствах стала крыніцаю вечных міжродавых канфліктаў.

У 1146 годзе ў Кіеве выбухнуў бунт, Ігар Ольгавіч быў сагнаны з трона, а Ізяслаў стаў галоўным вялікім князем усяе Усходняй Русі.

Але над княствамі крывічоў ён не адчуваў сябе законным валадаром, таму часта прымяняў сілу. Аднак законы даўніх уладароў у гэтым краі ўсё ж захоўваліся і шанаваліся, таму побач з уступіўшым на кіеўскі трон Ізяславам зноў бачым Глебавых

сыноў Расціслава, Валадара і Усяслава, якія валодалі Мінскам. Пэўным чынам шанавалася нават выбарчая воля народа. У 1151 годзе палачане прагналі прысланага ім з Кіева Рагвалода, зяця Ізяслава, і запрасілі да сябе мінскага князя Расціслава. Аднак Ізяслаў не спяшаўся да зяця з дапамогаю, паважаючы, пэўным чынам, васальства гэтага краю. Расціслаў, аднак, толькі сем гадоў змог спакойна ўладарыць над палачанамі. Плямёны, а дакладней, гарады тагачаснай Русі неаднойчы залішне свавольна сцвярджалі сваё свабодалюбства і — вераломна — свае выбарчыя правы. Расціслаў апрыкраў палачанам. У 1158 годзе яны зноў паклікалі на трон Рагвалода. Расціслаў з вернаю дружынаю пакінуў Полацк, спусташаючы яго землі, і пайшоў шукаць падтрымкі ў свайго брата Валадара, які пасля прызвання на полацкі трон правіў у Мінску. Рагвалод дагнаў Расціслава, заняў Заслаўе, дзе правіў трэці з братоў — Вячка, і, акружыўшы ў Мінску Глебавых сыноў, змушаў іх да перамір'я.

Мінск перайшоў на абарончае становішча, аднак праз пару гадоў пасля першай асады, у 1160 годзе, мы зноў бачым пад ягонымі сценамі Рагвалодава войска, які, не могучы ўзяць яго штурмам, з дапамогаю асады вымагаў у Расціслава новыя ўмовы міру. Нядоўга ж, аднак, трываў гэты мір: у 1166 годзе Рагвалод зноў пад Мінскам, зноў шэсць тыдняў марна стараецца ўзяць яго і трактатамі дабіваецца вызвалення князёў Васількавічаў, якіх Расціслаў з Валадарам закулі ў кайданы. Помсцячы за няўдачу пад Мінскам, Рагвалод ударыў на Ноўгарад, прагнучы забраць яго ў Валадара; аднак мусіў адступіць, бо якраз у той час дайшла да яго вестка, што здрадлівыя палачане прызвалі на свой трон Святаслава Васількавіча.

З тых часоў у гісторыі не праглядваецца лёс Мінска і яго ўладароў. Не скончыліся іх крывавыя сутычкі з Рагвалодам, але мы не ведаем дакладнай іх паслядоўнасці. Не ведаем, калі памёр князь Расціслаў; толькі ў 1170 і 1183 гадах бачым на мінскім троне ягонага брата Валадара, а ў 1186 годзе ў Лагойску, а можа, і ў Мінску, Валадаравага сына Васілька, пра якога яшчэ ў 1195 годзе сустракаецца ў летапісах беглая згадка. І хутка ў тым жа часе з'яўляецца ў полі зроку Мінгайла, адзін з літоўскіх князёў, які правіць Мінскам. Перад 1220 годам у летапісах таксама знаходзім, што Мінск належаў да ўладанняў Эрдзівіла, літоўскага князя, пляменніка вядомага ў гісторыі Міндоўга. У 1235 годзе вялікі літоўскі князь Рынгальд канчаткова далучыў усю цяперашнюю Чорную і Белую Русь да Літоўскай дзяржавы. Вядомая бітва, якую ён выйграў у тым жа

годзе пад Магільнам, у некалькіх мілях ад Мінска, над Кіеўскім Святаславам, Дзмітрыем Друцкім і Львом Уладзімірскім зрабіла яго ўладаром гэтых мясцін.

Раз'яднаныя на ўсходзе і захадзе рускія княствы з цяжкасцю маглі супрацiўляцца грознай сіле літвінаў, бо з лона азіяцкіх стэпаў вырушыла на іх іншае ваяўнічае племя. Татарын, з мячом і агнём, аб'явіўся ў дзяржавах вялікіх кіеўскіх князёў ужо на пачатку XIII стагоддзя. Нешматлюдна рассеяныя па лясах і палях тубыльцы ўцякалі ад яго ў вялікім страху. Пераяслаўль, Чарнігаў, Глухаў пайшлі агнём і дымам ад татарскага войска Батыя і Менгі; гарады Разань і Уладзімір спасціг той жа лёс, і, нарэшце, у канцы 1240 года незлічоныя татарскія сілы сталі пад Кіевам. Старажытны летапісец яскрава апавядае пра гэтае нашэсце: «У горадзе ў хвіліну нашэсця непрыяцеля за рыпам яго вазоў, за рыкам яго валоў і вярблюдаў, за ржаннем яго коней не было чуваць, што гаворыць адзін чалавек да другога. І напоўнілася ўся зямля руская ўзброеным непрыяцелем».

Большая частка палкаводцаў, што павінны былі бараніць Кіеў, уцякла; адзін толькі князь Дзмітрый, з жменькаю разгубленых жыхароў, адважыўся падставіць галаву прышэльцам. Закіпеў бой: «Снарады зацямнілі паветра, коп'і ламаліся, як трэскі, трупы таўклі капытамі».

Татары ўзялі Кіеў. Барацьба і яе жахлівыя для жыхароў горада вынікі працягваліся з страшнаю заўзятасцю: абрабаваны былі не толькі людзі, але і цэрквы. Грабніца Вольгі, косці Уладзіміра Вялікага, старажытная Пячэрская лаўра таксама былі знішчаны. «Дарую табе жыццё!» — сказаў Батый палоннаму князю Дзмітрыю, абаронцу Кіева, добра адчуваючы, якім ганебным быў гэты дар.

Узяцце Кіева зруйнавала апошнюю мяжу паміж безабароннымі славянскімі дзяржавамі і суровaю татаршчынаю. Не да месца тут прасочваць крывавыя іх шляхі па Русі. Князі, радыя, што могуць утрымацца ў сваіх княствах, схілялі шыі пад ярмо, падпісвалі абавязацельствы на абразлівую даніну; увогуле, працятыя страхам, самі пераходзілі ў лагер для змагання з аднапляменнымі братамі або з Літвою. Прывядзём адзін з такіх прыкладаў, які якраз мае адносіны да гісторыі Мінска. Балцкія князі Данііл і Васілька, прыгнечаныя страхам, разам з ордамі татараў уварваліся ва ўладанні крывічоў, якія на той час канчаткова падпарадкоўваліся ўладзе Літвы. Вынікам таго нападу была крывавая бойка пад Койданавам у 1249 годзе і разгром татараў. Грозны і слаўны ў гісторыі Міндоўг бараніў ужо гэтыя

ваколіцы як сваю дзяржаву. Сем гадоў перад гэтым, як сцвярджае Стрыйкоўскі, а за ім аўтары «Старажытнай Польшчы»[3], у 1241 годзе князь жмудскі Скірмунт таксама атрымаў вялікую перамогу над татарамі пад Койданавам.

Мінск, размешчаны ў некалькіх мілях ад Койданава, абсалютна безабаронны, пэўна ж, не мог не спазнаць крывавай гасціны войск татарскага хана Гаюка і страшнага яго намесніка ў гэтай старане Койдхана.

Маем доказы, што яшчэ колькі часу перад гэтымі выпадкамі і канчатковым далучэннем зямлі крывічоў да Літвы Мінск заставаўся пад уладаю сваіх мясцовых князёў — відаць, з старой дынастыі Рагнеды. А жыхары яго карысталіся гмінным праўленнем, пры якім маглі адкрыта выказваць свае сімпатыі. У 1243 годзе вялікі маскоўскі князь Яраслаў вярнуўся з татарскай арды, прывёзшы новы ярлык на далейшае пацвярджэнне свае ўлады. Акалічнасць гэтая, пэўным чынам супакойваючы славяншчыну тым, што крывавае нашэсце татараў ужо не паўторыцца, напоўніла радасцю суседнія княствы і плямёны. Да Яраслава адусюль спяшаліся ўдзячныя ганцы.

«Вярнуўся Яраслаў ад татараў з павагаю да свае зямлі, — сведчыць старажытны летапісец, — і пацешыў шмат ганцоў. І прыходзілі да яго, у краіну Суздальскую, людзі ад слаўнай ракі Дняпра і з усіх старон: валынцы, галічане, чарнігаўцы, пераяслаўцы і слаўныя кіяне (кіяўляне), тарапчане (жыхары Тарапца), меняне (жыхары Мінска), мешчаране, смаляне, палачане, разанцы і ўсе, хто цешыўся з яго мужнасці».

І зноў настае ў гісторыі доўгае, што цягнулася паўстагоддзя, маўчанне наконт Мінска. Толькі калі ў 1307 годзе Віцень, заснавальнік новай літоўскай дынастыі, канчаткова далучыў усю ўсходнюю Русь да Літвы, дапускаем, што Мінск, падлеглы супольнаму з суседнімі гарадамі і княствамі лёсу, стаў неад’емнай часткаю вялізных уладанняў Гедыміна.

Але і Літва, як калісь Русь, далучыўшы старажытныя землі крывічоў, відаць, шанавала законы яе мясцовых уладароў. Злучаныя з Літвою дыпламатычнымі стасункамі, дзелячы з ёю долю і нядолю, тутэйшыя ўдзельныя князі заставаліся на сваіх старых правах. Такімі нашчадкамі тагачаснага княскага роду трэба лічыць Васіля, князя полацкага, і Фёдара Святаслававіча, князя мінскага, якія ў 1326 годзе зацвярджалі трактат міру паміж Ноўгарадам і князем усяе Літвы Гедымінам.

І гэта ўжо апошняя згадка пра Мінск як асобнае княства з часоў рускіх і чыста літоўскіх. Стаўшы чыімсьці дробным ула-

даннем, страціў ён сваё гістарычнае значэнне; рускія летапісы перасталі сачыць за гісторыяй гэтых ваколіц, а ад позірку польскіх і крыжацкіх гісторыкаў засланілі гэтую старану вялікія пракаветныя лясы.

У 1387 годзе Мінск, размешчаны на рускай старане Вялікага Княства Літоўскага, з людзьмі і даходамі, паводле прывілея ад 28 красавіка таго ж года, быў аддадзены Скіргайлу. Тым жа ўказам далучаны былі гарады і воласці: Трокскае княства, Свіслач, Бабруйск, Рэчыца, Ігумен, Лагойск, Лебедзеў і шмат іншых. У 1392 годзе гэтыя ўладанні перайшлі ў рукі Вітаўта.

У такім стане перабыў Мінск першыя гады ўлады Ягайлы, вялікага князя літоўскага, а таксама караля польскага. У складзе Літвы перажыў ён вялікае адраджэнне з Вады і Духа Святога. Дзякуючы таму ж каралю полацка-мінскія ўладанні былі далучаны да Віленскай парафіі, у катэдральнай сталіцы якой заняў сваё месца першы біскуп Васілён. Новы біскуп асабіста паехаў на Русь для хрышчэння і навучання хрысціянству жыхароў, значная частка якіх заставалася яшчэ ў паганстве, іншыя ж ужо прынялі веру Хрыста паводле ўсходняга абраду. Заслугоўвае тут увагі адкрыты ўказ князя Вітаўта цівунам і княжым намеснікам, які сведчыць пра высокую талерантнасць літоўскіх князёў. «Няхай будзе вядома вам, — піша Вітаўт, — калі да вас прыедзе ксёндз біскуп з гэтым лістом і маёю пячаткаю сам, тады вы, мае цівуны, збярыце перад ім літву, і няхрышчаных ахрысціць біскуп па сваёй волі; а каторы русін будзе і пажадае па сваёй волі ахрысціцца, то няхай ахрысціцца, каторы ж не захоча — няхай застаецца ў сваёй веры. А самому біскупу давайце есць, піць уволю, і яго коням, і яго праваднікам — таксама…» і г. д.

Ягайла з свайго боку ўпаўнаважыў біскупа распараджацца справаю хрысціянскай прапаганды, даўшы дазвол асноўваць касцёлы там, дзе гэта здасца патрэбным, і сам таксама будаваў святыні ў Вільні, Троках, Крэве, а каля 1390 года заснаваў касцёл у Мінску. З-за мноства спраў у першыя гады ўладання Ягайлы немагчыма было паспець аздобіць кожны асобны касцёл, аднак быт духавенства быў забяспечаны прывілеем, выдадзеным у Лідзе ў нядзелю па Трох Каралях 1389 года.

У 1392 годзе Мінск з усёю Літвою перайшоў ад Свідрыгайлы пад уладу Вітаўта, але ці не ў тым жа годзе зноў дастаўся Свідрыгайлу. Справа тут патрабуе ўдакладнення. Вядома толькі тое, што некалькімі гадамі пазней ён ужо належаў Свідрыгайлу, бо ў 1408 годзе, калі гэты князь прыязджаў у Маскву прасіць дапамогі ў вялікага князя Васілія Дзмітрыевіча для змагання

супраць Вітаўта — сярод ягонай світы быў нейкісь Урустай, князь ці намеснік мінскі.

Варта ўвагі тая дэталь, што на слаўную бітву пад Грунвальдам, якая адбылася на два гады пазней, толькі адно Мінскае княства не выставіла свае харугвы на поле, дзе ўсе сілы Польшчы і Літвы ўступілі ў смяротны бой з крыжакамі.

Ад часу Гарадзельскага сейма[4] настае для Мінска новы перыяд палітычнага жыцця, да якога мы пазней і вернемся. На векапомных актах далучэння літоўскай шляхты да польскіх гербаў, а таксама прыняцця Польшчаю і Уладзіславам Ягайлам умоў Літвы няма подпісаў мінскіх старастаў, намеснікаў або дэпутатаў: сведчанне таго, што гэты горад у той час адышоў да ліку другарадных.

Завяршаючы гаворку пра гэтую першую эру места, падвядзём кароткія вынікі мінулай эпохі, што змесцяцца ў некалькіх абзацах.

У перыяд Русі Мінск шэсць разоў заліўся крывёю і вытрымаў шэсць асадаў; два разы знішчылі яго татары, дапускаем таксама, што ён быў і ахвяраю Літвы, прынамсі, у часе ўзброеных сутычак Свідрыгайлы, Ягайлы і Вітаўта. На першы план гэтых стагоддзяў выступаюць варагуючыя між сабою князі: полацкамінскія ўладары, нашчадкі Уладзіміра Вялікага. Як нашчадкі старэйшай галіны роду, яны адчувалі сваё права на першынство ўладання Кіевам, чым тлумачацца іх многія прэтэнзіі. Былі яны настолькі небяспечныя, што прадстаўнікі малодшай галіны не раз вымушаны былі браць іх у палон і нават высылаць за мора. Але, з другога боку, яны адчувалі, што ў іх жылах цячэ кроў Рагнеды, якой Уладзімір Вялікі ўрачыста вярнуў уладанні яе бацькі і ўладу над крывічамі. У родзе Рагнеды захоўвалася крывіцкая дынастыя, чым тлумачыцца павага Кіева да законаў мінскіх князёў. Мсціслаў патаптаў яе, ягоны сын Ізяслаў аднавіў яе. І ажно да перыяду літоўскіх заваёў, і далёка пасля іх паважаліся законы нашчадкаў Рагнеды, і павага гэтая захавалася на землях крывічоў, або крыўцаў: так летапісцы скрозь называюць народ цяперашняй Мінскай губерні, адрозніваючы яго ад народаў, што насяляюць вялікую Кіеўскую дзяржаву. Пасля род полацкіх князёў пачаў, мабыць, згасаць, бо не знаходзім у геральдыках сведчання таго, каб які-небудзь літоўскі або рускі род з яго паходзіў.

Паўторым жа імёны некаторых уладальнікаў Мінска ад пачатку нашага апавядання аж да Гарадзельскага сейма:

I. Перад першаю згадкаю пра Мінск:

Рагнеда; Ізяслаў, сын Рагнеды; Брачыслаў, сын Ізяслава.

II. Пасля першай згадкі пра Мінск (сціслы пералік):

Усяслаў, сын Брачыслава; Глеб, сын Ізяслава; Ізяслаў, сын Мсціслава, вялікі кіеўскі князь; Расціслаў, сын Глеба; Валадар, сын Глеба, брат Расціслава; Васілька, сын Валадара.

III. Княжанне Літвы (з беглых летапісных згадак): Мінгайла; Гінвайла; Эрдзівіл; Фёдар Святаслававіч; Гедымін; Яўнут; Альгерд; Ягайла; Скіргайла; Вітаўт; Свідрыгайла.

## IV

*Даследаванне гісторыі старажытных крывічоў. — Вера. — Звычаі. — Палітычны лад.*

Пагаворым цяпер пра народ, рассеяны на шырокіх прасторах ад Дзвіны да Прыпяці, ад Дняпра да нёманскіх крыніц. Народ гэты называўся дрыгавічамі і крывічамі, размаўляў на рускім дыялекце, каштоўны помнік якога застаўся ў некалькіх летапісах і ў вядомай песні пра Ігара і які, няшмат адрозніваючыся ад цяперашняй мовы тутэйшых «мужычкоў», пад назваю беларускага дыялекту, уяўляе сабою пераход ад вялікарасійскае мовы да мовы Украіны.

Вызнаваў ён язычніцкую веру праз усю тую эпоху, якую мы апісалі. Бо хоць Ізяслаў, сын Уладзіміра, разам з бацькам прыняў святы хрост і ўсходні абрад, хоць даўнія мінскія князі будавалі цэрквы ў Ноўгарадзе і неслі набожныя ахвяры ў Кіеў і Іерусалім, хоць потым талерантнасць літоўскіх князёў дазваляла паўсюль усталёўвацца лацінскаму ці грэчаскаму хрысціянству, — народ занадта быў разрознены і занадта доўга жыў пад уплывам таямнічага хараства веры сваіх бацькоў, каб адразу заўзята бегчы ў касцёлы і цэрквы, збудаваныя ў гарадах князямі, якім большая асвета даказала ўжо ўсю маральную і палітычную сілу хрысціянства. Прынамсі, доказаў вялікага хрышчэння Русі і Літвы да Ягайлы не знаходзім. Перажыткі даўняй паганскай веры яшчэ вельмі моцныя ў нашым народзе і сёння, бо неадукаванаму народу цяжка па добрай волі пазбаўляцца веры сваіх прашчураў. У тыя ж даўнія вякі мала хто клапаціўся пра яго духоўны стан.

Зрэшты, рэлігія народа, менш фармальная, мела выяўную адзнаку яго духоўнасці і прыроджанага характару. Зробім жа яе кароткае даследаванне, не паўтараючы таго, што іншыя напісалі

пра веру славян, і не абапіраючыся на здабыткі старажытнай славяншчыны, бо адно і другое магло зусім не стасавацца да духоўнага жыцця народа ў ваколіцах Мінска. Прытрымліваццa буду болей маральнага, а не дагматычнага боку старажытнай веры крывічоў, звяртаючыся да тых паданняў, перажыткаў, звычаяў і песняў, што захаваліся да сённяшняга дня.

Ці паходзіць назва крывічоў ад літоўскага «крыве»? І ці гэта можа быць доказам адвечнага пабрацімства іх плямёнаў і веры з Літвою? Думку гэтую, кінутую найперш Ватсанам, а цяпер прынятую Т. Нарбутам[5], гісторыкам Літвы, не бяруся ні аспрэчваць, ні разбіваць.

Прынцыповаю ідэяю веры крывічоў, як і ўсіх элементарных веравызнанняў, быў дуалізм, абагаўленне сіл дабра і зла. Крыніцаю дабра быў Белы Бог, бацька сонца і святла. Сілу злую, шкодную людзям, называлі Чарнабогам, ці коратка — Чортам, вызначаючы яго месца ў чорных лясах, у балоце. Ён жа ці якая іншая другарадная постаць называліся Бесам.

Пярун, бог грому, у тым жа значэнні, толькі менш грозны, як літоўскі Пяркунас, належаў да краіны Чарнабога. Дажбог значыў тое самае, што і надзея, багіня добрай Долі (добры лёс), якая была ўнучкаю Дажбога. Нядоля, праціўніца Долі, была боствам, што не ўваходзіла ў кола ўнукаў Дажбога. Лада, бог ладу, хатняга і маральнага парадку, выклікаўся ў часы голаду і войнаў. Святавід (не ведаем, ці крывіцкі) — боства з некалькімі тварамі, сімвалізавала сонца, якое ўсё бачыць, а таксама звышмудрасць, вешчы дух, які пранікае ў таямніцу мінулага, сённяшняга і будучыні. З гэтага асноўнага апісання славянскай міфалогіі бачым, што яна не абцяжарана паданнямі, ад якіх не было пазбаўлена нават цывілізаванае язычніцтва старажытных грэкаў і рымлян. Увогуле, тут усюды праглядвае маральная і філасофская ідэя, дастасаваная да характару народа. Дэфармаваныя рэлігійныя паняцці тут, як і ўсюды, бяруць свой пачатак ад жрацоў, без якіх не абышлося і ў крыўскай славяншчыне. Людзі, больш набліжаныя да прыроды, асвоеныя з яе таямніцамі, пачалі аказваць уплыў на народ, які выключна абагаўляў прыроду. З’явіліся знахары, чараўніцы і вышэйшая іх ступень — ведзьмы, старыя кабеты, надзеленыя глыбокім пазнаннем рэчаў, недаступных уласцівасцяў раслін і іншых сілаў прыроды, якіх малодшае пакаленне, менш дасведчанае, а больш занятае бягучым жыццём, спасцігнуць не магло. Усё гэта і было на ўзбраенні такіх варажбітак.

Дудары, лірнікі, гусляры, што слодычаю музыкі і хараством старых песень уплывалі на народ, засталіся гуслярамі, г. зн.

набылі ў народнай памяці якісь незвычайны воблік. Старцы, дзяды, звычайныя жабракі, карыстаючыся правам свайго веку, дасведчанасці і павагі, якая іх акружала, таксама набылі таямнічасць. І гэтыя знахары, гусляры, дзяды, гэтыя ведзьмы як бы становяцца ўжо святарскаю кастаю крывіцкай славяншчыны. І напачатку чыстую, лагічную, філасофскую веру народа закоўваюць у формы і робяць догмаю. Але для таго каб гэтыя дагматычныя формы ўплывалі на думкі, яны мусяць адпавядаць галоўным прынцыпам вераванняў і характару іх носьбітаў. Прыйшла рэлігія абрадаў з іх таямніцамі. Варажбіт узняў да недасяжнае мары ўяўленне чалавека, уклаў душу ў чыста пачуццёвы свет. І птушку, і расліну, і камень варажбіт заклікаў сабе на дапамогу, каб яшчэ гусцейшаю і больш таямнічаю стала сетка, якою ён аблытваў галовы і сэрцы людзей. Крук, прарок няшчасця, паражэння, што лётае над войскам, пачаў уяўляцца страшным пасланцом Чарнабога.

Зязюля (кукулка), дзякуючы свайму таямнічаму кузанню, сталася прадказальніцаю гадоў і лёсаў.

Бусел, капрызлівы ў выбары месца, стаў жаданым вестуном шчасця для тае хаты, над якою склаў сваё гняздо.

Ластаўка, як шчабятлівая гаспадынька, пачала апекавацца домам.

Пугач узяў на сябе страшнае прароцтва смерці.

Сарока цешыла ветлы люд, паведамляючы яму пра гасцей.

Конь, таварыш славяніна ў баях, быў надзелены вешчым духам прадказання вынікаў гэтых баёў; паводле песні, ён стаіць над магілаю забітага рыцара з сумна апушчанаю галавою і пасылае мацеры вестку пра смерць сына.

Сокал і голуб сталі сімваламі пяшчоты.

Менш знаходзім адухоўленых сімвалаў у раслінным царстве, але не таму, што крывічанін лепей пазнаваў магутныя сілы прыроды, разлітыя ў дрэве, траве і кветцы, а таму, што каста жрацоў — знахароў і варажбітак, прыхоўваючы ключы ад тых таямніцаў, надзяліла адухоўленую раслiннасць толькі містычнымі чарамі. Асіна была праклятым дрэвам; перашчапіць хату асінавым калком азначала навесці на яе хваробы і няшчасці. Папараць валодала ўласцівасцю абдорваць скарбамі і прароцтвам. Руту ўслаўлялі як сімвал дзявочай цнатлівасці. Каліна*,

---

* «Крывіцкія песні з-над Нёмана і Дзвіны Яна Чачота», Вільня, 1846, песня XXXII: «Як паедзеш жаніцца, малойча, не стаў каня пад калінаю, бо каліна нешчаслівае дрэва. Стаў каня пад яварам —

якую так часта ўспаміналі ў народных песнях, была надзелена ўрачыстым значэннем. Явар, не менш сімвалічнае дрэва, быў ужо шчаслівейшы за каліну. Крушні, рассеяныя на палях, і вялізныя камяні жрацы, мусіць, выдавалі за паселішчы багоў, таму народ, стаўшы ўжо хрысціянінам, так ахвотна прымае на веру магчымасць з'яўлення ў такіх мясцінах цудатворных абразоў. Крыніцам і рэкам таксама была нададзена ўласцівасць святога памазання, ім прыпісваліся лекавыя ўласцівасці і прарочы дух: рака Данец прамаўляла да Святаслава ў песні пра Ігара; рака Дунай, пэўна ж, была чымсьці святым, калі ва ўсёй шырокай славяншчыне, хоць народ не бачыў Дуная ані на вочы, засталося пра яго гэтулькі згадак у казках і песнях.

З ветрам размаўляе Яраслаўна ў той жа песні пра Ігара. Да сённяшняга дня чараўніцам прыпісваюць насланнё хваробы пры дапамозе ветру. Бо чаго толькі не рабілі яны дзеля захавання ўплыву на людзей! І чаго толькі сам народ не прыдумваў пра іх! Яны маглі адняць малако ў кароў, яны маглі рабіць на збажыне злавесныя заломы; умелі глянуць злым вокам і сурочыць; умелі зноў гэтыя ўрокі выбраць, няшчасце аддаліць, злучыць каханне без узаемнасці, прадказаць будучыню, словам, стаць наколькі жаданымі, настолькі і страшнымі. І гэтым, незалежна ад рэлігійных паняццяў, заўсёды множыцца і жывіцца людская цікавасць да касты жрацоў. Тлумачыць, містыфікаваць, рабіць больш прывабнымі выявы карэннай веры — гэта ўжо было справаю гусляроў, ведзьмаў, знахароў. Часам у гэтых выкладках сустракаем элементы чыстай казкі, часам — высокую філасофскую або маральную праўду, часам — цудоўную паэзію. Вось прыклад аднае з такіх песняў, якая, без сумнення, сягае да паганскіх часоў крывічоў*: «Згубіла зоранька свае ключы, гамонячы з месяцам, гуляючы з сонцам. Прыйдзіце, ясныя зоранькі, знайдзіце мае ключы. Час адамкнуць зямлю, час выпусціць расу. Адну расу з лёду, другую мядовую».

У абрадавыя дні народ хадзіў да сваіх гарадзішчаў, да месцаў, асвечаных Богам, што, на думку Зарыяна Хадакоўскага, мусяць быць на кожнай квадратнай мілі, і там чыніў ахвяры багам. Важнейшыя з вядомых нам святаў наступныя: Каляды, замененыя

---

шчаслівым дрэвам: у пні явара жывуць чорныя бабры, у сарцавіне раяцца райскія пчолы, а ў голлі сокалы гняздо ўюць. Чорныя бабры прыдадуцца на боты, пчолкі дадуць мёд салодкі, а сокал на забаве паслужыць».

* Збор Чачота, песня XXIX.

ў хрысціянстве на свята Божых Народзін, пачатак паганскага года, час размаітых змоваў і г. д.;

Купала, летняе свята ў гонар невядомага нам бога, памятнае тым, што народ вечарам скакаў праз вогнішча, ноч купальская была напоўнена дзівосамі і цудамі, а раніцаю сонца пры сваім узыходзе іграла ў жывых падскоках;

Дзяды, памінанне памерлых; Дажынкі, жніўнае свята і т. п. З абрадаў прыгадайма ігрышчы, што былі, як пішуць даследчыкі заходняй славяншчыны, сходкаю моладзі, усеагульным вяселлем, на якім пары, адвольна злучаныя, без далейшых абрадаў утваралі сямейныя саюзы. І нарэшце — пахаванне, якое суправаджалася галашэннем плачак. Нябожчыка хавалі ў кургане, закопваючы з ім прадметы хатняга ўжытку, зброю і іншыя патрэбныя яму рэчы. На магіле адбываліся памінкі і рыцарскія ігрышчы маладых ваяроў, вядомыя пад назваю трызны.

У атачэнні такіх вось рэлігійных паняццяў з матчынай калыскі з пакалення ў пакаленне і векаваў крывічанін. Паданні, легенды, аповесці і песні прашчураў сталі такою неад’емнаю часткаю душы і розуму, якую ніякі час не патрапіў выдраць з народнага нутра. Што мог, народ з старых вераванняў далучыў да хрысціянскіх догматаў, чаго не змог дастасаваць да рэлігіі, у тое верыў асобна і, можа, нават мацней, чым у самую рэлігію.

Звернем, нарэшце, увагу на крывічоў як на грамадства і на яго парадкі.

Ужо ў VI стагоддзі пасля Хрыстовага Нараджэння знаходзім у Візантыйскіх летапісах сведчанне, што ў славян над Дунаем былі моцныя вёскі і пасяленні. Дрыгавічы і крывічы, жыхары цяперашніх Віцебскай і Мінскай губерняў, хоць і нашмат пазней пачалі ўтвараць пасяленні і сталае грамадства, аднак смела можна сцвярджаць, што і ў IX стагоддзі яны ўжо займаліся земляробствам. Сведчанне таму — каменныя молаты для разбівання брылаў зямлі, якія часам знаходзім мы на палях. Пасля іх распаўсюдзілася жалеза (молатамі гэтымі карысталіся і на вайне), пра што сведчаць нашы пракаветныя лясы са шматлікімі слядамі загонаў. Нарэшце, сведкаю можа быць і старажытная «Песня пра Ігара», а ў ёй параўнанні, скіраваныя да прадметаў сялянскай працы і земляробчых работ.

Войны перапынялі працу земляроба: «У гэты час на Русі не ўбачыць ратая» (тая ж «Песня…»), але, вярнуўшыся з паходу, крывічанін з радасцю ішоў у поле. Земляробства было пачаткам цывілізацыі, рабіла лягчэйшым жыццё, задавольвала яго патрэбы, прыбірала ў ільняное і суконнае адзенне, карміла хлебам і

малаком і, што самае важнае, развівала станоўчыя якасці сям'і, выцясняла з душы прагу дзікага разбою высакароднай любоўю да айчыны, развівала мяккасць характару, гасціннасць, любасць да музыкі і песні — менавіта тыя ўласцівасці, што аднагалосна прыпісваюць славянам усе гісторыкі. З гонарам можна сказаць пра таварыскія якасці племя, у якога (як ва ўсёй славяншчыне) выразы: Гасподзь (Бог), гаспадзін (пан), гаспадар (уладар краю і гаспадар) маюць тое ж паходжанне, што і гаспода (гасцінны дом), госць або гасціннасць. У гэтай агульнай крыніцы бачым святы рэлігійны закон гасціннасці. Ад часу, калі пачалося замілаванне родным дваром, да часу, які даў пачатак патрыярхальнаму ўкладу і які ў сваім развіцці дайшоў да народаўладдзя. Старац, стараста, выразы амаль што адназначныя, люструюць пераход, пры якім бацька сям'і ўрэшце займае сваё палітычнае месца і ў асяроддзі суайчыннікаў. Бо калі асобныя сем'і пасяліліся сёламі (вёскамі), калі святыя гарадзішчы сталі гарадамі, збор усяе сям'і для сумеснага пасяджэння стаў нерэальным. Такія зборы перайшлі ў веча і існавалі ў славян нават тады, калі на асобных землях запанавалі варажскія і нарманскія рыцары.

Судовая ўлада засталася ў руках таго ж народа з невялікім уплывам князёў.

Слабы, разрознены люд краю адчуваў сваю сілу, калі збіраўся ў грамаду. Такія грамадскія зборы называліся копамі, згадка пра іх засталася нават у помніках справаводства XVIII стагоддзя, калі цывілізаванае і шляхетнае польскае права шанавала прысуд грамады як вялікага чалавека.

Маем усе падставы аднесці да глыбокай дахрысціянскай славяншчыны ўстанову дзясятнікаў і сотнікаў, што захоўвалася не толькі ў вёсках, але нават яшчэ да нядаўняга часу — у войску.

Паўторым, што ў адносінах да старых часоў гісторыі Мінска, акрэсліваючы гэты кароткі нарыс веры і звычаяў старажытных дрыгавічоў і крывічоў, мы пазбягалі адценняў, узятых з тых агульных даследаванняў, што да нашага краю не мелі ніякіх адносін. Абмежаваліся мы тымі здабыткамі, якія маем пад рукою, пераканаўшыся ў тым, што чым меней ужываецца здагадак, тым больш праўдзівага, рэальнага святла набывае карціна.

## V
## МІНСК ЯК НАМЕСНІЦТВА

### Другі перыяд

*Недахоп звестак пра першыя гады гэтага перыяду. — Наместнікі. — Казімір Ягелончык залічвае Мінск у шэраг вялікіх гарадоў. — Цар Аляксандр надае нямецкае права. — Першы манастыр. — Спустошэнне Мінска татарамі. — Мінск асаджае Глінскі. — Жыгімонт I адпачывае ў Мінску. — Установы. — Паборы. — Два нашэсці расіян. — Новыя свабоды места. — Дзве згадкі пра яго ад перыяду войнаў Жыгімонта Аўгуста з Іванам Грозным. — Польскі кароль у Мінску. — Слоўца пра царскіх наместнікаў і старастаў. — Люблінская унія. — Мінск становіцца сталіцаю воласці.*

Змрок часу, а яшчэ больш ваенных пажараў засланіў ад вачэй гісторыі мінулае большай часткі літоўскіх гарадоў. Размешчаныя блізка ад Польшчы, з якою суджана ім было перажываць палітычны лёс, або ўзведзеныя на скрыжалях велікакняжацкіх шляхоў, ці тыя, што мелі важнасць дзякуючы свайму геаграфічнаму становішчу, хутка раслі яшчэ і таму, што пільнае вока Ягайлы ці Вітаўта заўсёды ацэньвала іх важнасць і патрэбы. Спрыяльныя часіны міру дазвалялі гэтым гарадам развівацца ўсё лацвей. Аднак гарады, што не мелі такіх выгод і адсунутыя ў апошнія гады XIV стагоддзя ў шэраг другарадных, раслі надзвычай марудна — жылі будзённым жыццём, і ні адзін летапіс не занатаваў нават хвіліны гэтага існавання. Так сталася і з Мінскам у перыяд паяднання Літвы з Польшчаю. Пад актам Гарадзельскай уніі ў 1413 годзе не падпісаўся ніводзін з тутэйшых чыноўнікаў; у тагачасных і трохі пазнейшых статутах для жыдоў, што жылі ў літоўскіх гарадах, Мінск не ўпамінаецца, і гэта таксама лішні раз даказвае, што места было толькі другарадным намесніцтвам ці, можа, удзельным княствам з пэўнай незалежнасцю, пакінутай нашчадкам заслаўскім князем, стрыечным братам Ягайлы і Вітаўта, Яўнутам, якому Альгерд і Кейстут выдзелілі суседняе Заслаўе. Ведаем, што сын Яўнута, заслаўскі князь Міхал, пасля ўступлення Уладзіслава Ягайлы на польскі трон прыносіў яму прысягу ў Кракаве «за сябе і за сваіх» (меў двух братоў); прысяга гэтая была хутчэй не асабістая, а васальная — ад княства. Праз сто гадоў пасля гэтае прысягі, г. зн. каля 1513 года, пляменніка таго ж Міхала, Багдана Іванавіча, заслаўскага князя, бачым ужо мінскім намеснікам. Мяркуем

таму (але гэта толькі здагадка), што ажно да згасання мужчынскага роду заслаўскіх князёў, згаданых нашчадкаў Яўнута (у канцы першай паловы XIV стагоддзя), Мінск з ваколіцамі мог належаць да іх намесніцтва, маючы пэўную ўдзельную незалежнасць. Аднак гэта толькі здагадкі: не толькі пра ўладу ў гэтым краі, але і пра сам горад ажно да 1441 года нічога не вядома. У згаданым годзе Казімір Ягелончык, вялікі літоўскі князь (яшчэ да ўступлення на трон), прывілеем, выдадзеным у Бярэсці-Літоўскім (у пятніцу, пасля Белай нядзелі), аднёс Мінск да тых важнейшых літоўскіх гарадоў, якім надаў пэўныя свабоды*. Не ведаем, у якой ступені слушны довад вучонага Язэпа Ярашэвіча[6], быццам гэтыя гарады былі перад тым ужо надзелены магдэбургскім правам. Нам жа, аднак, здаецца, што падобнае дапушчэнне ў адносінах да Мінска зроблена зарана. Бо прывілей, які даў Мінску Аляксандр Ягелончык, мае ўласцівасць першапачатковага надзялення згаданымі правамі. Тут ужо ёсць магчымасць шырэйшага развіцця гарадской адміністрацыі. Прызначаецца войт з судоваю ўладаю і адпаведнаю аплатаю. Жыхары ўжо маглі не даваць падводаў, вызваляліся ад вартавання ў замку, хіба толькі па загаду самога вялікага князя Літвы, завераным яго ўласнаю пячаткаю. Дазвалялася таксама браць на будаўніцтва і апал дрэва з бліжэйшых велікакняскіх лясоў, збудаваць млын на рацэ Свіслачы, узвесці ратушу і крамы. Атрымаў Мінск і ўласную меру і вагу, якім падпарадкоўваліся прыезджыя купцы, акрамя, праўда, віленцаў. Меў Мінск і кляймо, якім значыліся мясцовыя тавары для гандлю. Маюцца на ўвазе воск, смала і попел, прызначаныя на вываз. Навакольныя гарады, акружаныя непраходнымі лясамі, маглі вырабляць і прадаваць толькі тое, што даваў лес. Дзе-нідзе раскіданыя па лясных расцяробах вёскі з цяжкасцю збіралі збожжа, неабходнае самому гораду. Зрэшты, апрача гандлёвых свабод, шырока апісаных у гэтым прывілеі, не сустракаем нават следу іншых, апрача будаўніцтва гарадской лазні, бо і ў мінулым, аказваецца, парадак у нашых гарадах ніколі не быў важным прадметам клопату. Ды і само места, зрэшты, было яшчэ не вялікае, і велікакняскі падскарбій мог сабраць тут толькі недзе каля шасцідзесяці коп тагачасных грошаў даходу.

---

* Дубенскі. Збор правоў і прывілеяў места Вільні. Там былі пералічаны такія гарады, як Вільня, Трокі, Полацк, Віцебск, Смаленск, Кіеў, Жытомір, Слуцк, Наваградак, Луцк, Бярэсце, Драгічын, Коўна, Гародня.

Зрэшты, і па прычыне свайго размяшчэння — у глыбіні краю — не мела места значнай палітычнай альбо гандлёвай важнасці, не мела яно і ўмоў, якія прыспешвалі б развіццё.

Што мог, зрабіў для горада Аляксандр апісаным прывілеем. Жонка ягоная, Ганна, едучы з Масквы ў Вільню (з бацькоўскага дому ва ўладанні свайго мужа), спынялася ў Мінску і малілася там у мінскай Вазнясенскай царкве. Тады яна, відаць, і падаравала базыльянам, што былі пры гэтай царкве, сваё памесце Трасцянец, а самому кляштару надала годнасць абацтва, якое муж яе, стаўшы польскім каралём, і зацвердзіў 7 сакавіка 1502 года. У тым жа годзе ў жніўні кароль Аляксандр сам быў у Мінску.

У першыя гады XVI стагоддзя бачым Мінск ужо горадам з прывілеямі, які меў крэпасць, каталіцкі касцёл, грэцкую царкву, ратушу, млыны. А так як стаяў ён на гандлёвым шляху паміж Літвою і Расіяю, то займеў ужо мажлівасць для росквіту. Але гарады нашы рэдка калі маглі свабодна развівацца з-за войнаў, ад якіх край пастаянна пакутаваў.

У 1506 годзе орды татараў, спусташаючы Літву, дайшлі і сюды. Мінск (апроч замка) быў спалены, а эпідэмія чумы вынішчыла нешматлікіх яго жыхароў.

Вядомы ў гісторыі князь Міхал Глінскі вялікаю перамогаю пад Клецкам вызваліў Літву ад пажараў і татарскіх мячоў; але праз два гады сам стаў ворагам і заваёўнікам уласнай зямлі. Пасля забойства Забярэзінскага, не спадзеючыся на літасць караля Жыгімонта I, падаўся нібыта пад апеку Расіі, але ў глыбіні душы хаваў надзею на панаванне ў старажытным Кіеўскім княстве. Неўзабаве з расійскім войскам уварваўся Глінскі ў Літву: маскоўскія ваяводы, князі Шамякі, Адоеўскія, Трубяцкія, Варатынскія, паспяшалі да яго, беручы крэпасці і спусташаючы Літву аж да Вільні. Асадзілі Мінск, узмоцнены каралеўскім гарнізонам, і намагаліся ўзяць крэпасць. Атрымаўшы вестку аб гэтых спусташэннях, Жыгімонт I праз Бярэсце, Слонім, Наваградак спяшаецца ў Літву, збірае літоўскіх рыцараў, папаўняе войска аселымі татарамі і накіроўваецца пад Мінск. Нарэшце вызваляе яго з цяжкай асады Глінскага і Шамякі. Бунтарны князь уцякае пад Друцк і Оршу, а кароль Жыгімонт спыняецца на нейкі час у Мінску і робіць агледзіны свайго войска.

Гэты эпізод з гісторыі ў першыя гады бягучага стагоддзя натхніў кагосьці на напісанне трагедыі пад назваю «Асада Мінска». Трагедыя гэта, якая гэтаксама магла адносіцца як да Глінскага, так і да Карнэля, як да Мінска, так і да Пекіна, сёння ўжо стала бібліяграфічнаю рэдкасцю.

Калі Мінск вітаў манарха Жыгімонта I у сваіх мурах, альбо, дакладней кажучы, на папялішчы, у якое яго ператварылі татары, а потым Глінскі, тады гэта быў яшчэ малы другарадны горад, хоць яго і залічвалі да важнейшых літоўскіх гарадоў.

У 1513 годзе, як гаварылася вышэй, князь Багдан Іванавіч Заслаўскі быў яшчэ тутэйшым наместнікам, але ўжо з больш абмежаванаю ўладаю — падпарадкоўваўся велікакняскаму кіраўніцтву настолькі, што, калі ў тым жа годзе згаданы ўжо Багдан Іванавіч даў базыльянам Вазнясенскай царквы месца для пабудовы прытулку, манахі вымушаны былі звяртацца да Кароны, каб пацвердзіць гэтае права.

Гандлёвая мыта і пошліна адыходзілі да велікакняскай казны, а ўтрымальнікамі іх, як не цяжка зразумець, былі жыды. Такім мытнікам пры Жыгімонце I быў жыд Міхель, каралеўскі слуга. Калі ў тым жа 1513 годзе запісваліся пабора на будучую вайну з Расіяю, Мінск быў толькі абавязаны паслаць дзесяць конных рыцараў і скласці дзесяць коп грошаў падатку, г. зн. гэтулькі, як Трокі і іншыя невялікія гарады*. (Запомнім гэтыя лічбы, бо яны нам паслужаць шкалой ацэнкі росту горада некалькімі гадамі пазней.)

У наступным, 1514 годзе Мінск зноў фігуруе ў гісторыі баёў Жыгімонта I з вялікім маскоўскім князем Васіліем Іванавічам. Глінскі гэтаксама як здрадзіў Польшчы, намерыўся здрадзіць і Расіі. Былі перахоплены ягоныя лісты да Жыгімонта I, у якога дзякуючы пасрэдніцтву венгерскага караля Уладзіслава яму ўдалося выпрасіць дараванне. Расійскія войскі тым часам узялі Смаленск. Польскі кароль рушыў з цэлым дваром з Вільні ў Мінск, агледзеў тут войска і павёў яго пад Барысаў**. Галоўнае камандаванне з гетманскаю ўладаю атрымалі слаўны Канстанцін Астрожскі і Ян Свярчэўскі. Танчынскія, Кміты, Шлецкія асабіста на чале сваіх атрадаў з’ядналіся з Астрожскім***. Пад Оршаю адбылася рашаючая бітва. «Дзяўчаты ў Оршы галасілі ў такт маскоўскім трубам. Чуўся ляскат і гром расійскай і літоўскай зброі. Баяры і князі рускія на чале харобрых войск сустрэліся з Літвою, і зламаліся коп’і, і загрымелі мячы, і шлемы літоўскія на палях пад Оршаю»****. Канстанцін Астрожскі атрымаў перамогу,

---

* Літоўская метрыка ад 1513 г. С. 752.

** Апісанне Барысаўскага павета гр. Тышкевічам. С. 44.

*** Папроцкі. Гербы. С. 637.

**** Так паэтычна апісвае гэту бітву цытаваны ў Карамзіна пскоўскі летапісец. Карамзін. Т. VII. С. 123.

якой (як сцвярджае Карамзін) ніколі яшчэ Літва не мела над Расіяю, узяў у палон военачальнікаў, захапіў абозы, штандары і адолеў каля 30 000 войска. Такая была расправа ў галоўным пабоішчы; але перадавыя раз'езды войск Васілія Іванавіча яшчэ сеялі спусташэнне ў Друцку, Барысаве і Мінску. Горад, хроніку якога мы пішам, заўсёды фігуруе як ахвяра ў чужых крывавых канфліктах.

І яшчэ адна згадка пра яго ў 1519 годзе. Рускія войскі, зваяваныя пад Полацкам, наступнаю восенню зноў уварваліся ў Літву. З летапісу, які цытуе Карамзін, прывядзём тут дэталі таго нашэсця: «1 жніўня 1519 года былі пасланы на непрыяцеля ў Літву ваяводы з вялікім войскам: з Смаленска князь Васілій Васільевіч Шуйскі, з Ноўгарадскай і Пскоўскай Украіны (так!), а таксама з Вялікіх Лук пскоўскі намеснік, князь Міхаіл Васільевіч Гарбаты, а з Старадуба і Севежа князь Сямён Фёдаравіч Курбскі. У мястэчку Крэтве (Крэве) сабраліся літоўскія паны: ваявода віленскі Мікалай Мікалаевіч (Радзівіл), трокскі — Альбрэхт, сын Марціна (Гаштольд)*, гарадзенскі — Юрый, сын Мікалая Радзівіла, старасты жмудскага**, а таксама князь Міхал Заслаўскі, Ян, сын Мікалая Радзівіла, і ляхскі (польскі) ваявода, Ян Свіршэўскі… Расійскія ваяводы, пакінуўшы свой абоз у Красным, пайшлі да іх і пабілі іхнюю нярэдкую ахову; схапілі князя Васіля Палубінскага, Варатынскага, каралеўскага двараніна Чыжа і таксама двараніна, знакамітага чалавека Рая, а ў гарадзенскага ваяводы (старасты) захапілі абоз. Рускія военачальнікі ішлі за непрыяцелем аж пад Вільню, праз Лагойск, Мінск, Айну (напэўна, Гайну), Краснае, Маладзечна, Маркаў, Лебедзева, Крэва, Ашмяны, Меднікі, Мядзель, Куранскі Камень, Бярэзвіч, Зэсна, Курэц, Валуйск, Радашковічы, Барысаў***».

Прыводзім з рускага летапісца цалкам гэтую мясціну пра нашэсце расіян на Літву ў 1519 годзе, бо польскія летапісцы той год былі заняты вайною Жыгімонта I з прусамі і татарамі і пра гэтае нашэсце ўспаміналі толькі бегла.

---

* У Нясецкага няма яго ў шэрагу трокскіх ваяводаў, але спіс нашай геральдыкі карэнных літоўскіх саноўнікаў можа быць недакладным.

** Гародня, як вядома, не мела ваяводы; Юрый, сын Мікалая Радзівіла, быў тагачасным гарадзенскім старастам.

*** У Карамзіна. Т. VII. С. 199. Некаторыя назвы літоўскіх мястэчак дрэнна запісаныя або цяпер ужо змяніліся так, што прыгадаць іх цяжка. Што такое, напрыклад, Валуйск? Можа, сённяшні Валожын або непадалёк размешчаны Вайстом…

Не ручаемся, што апроч гэтых, апісаных летапісцамі, непрыяцельскіх нашэсцяў тутэйшыя мясціны не былі ахвяраю спусташэнняў значна большую колькасць разоў. Вайна з Расіяю, з невялікімі перапынкамі, вялася на працягу ўсяго праўлення Жыгімонта I, а Мінск стаяў на адным з галоўных шляхоў паміж Польшчаю і Расіяю.

Мінск, аднак, нягледзячы на варожыя нашэсці, дзякуючы прывілею Аляксандра, пачаў даволі хутка расці. Мы прыводзілі з Літоўскай метрыкі шматлікія паборы на вайну ў 1513 годзе, што склалі ў Мінску 10 коп тагачасных грошаў. Маем для параўнання іншы падобны прыклад — ваенны статут 1529 года, па якім Мінск плаціць ужо 50 коп грошаў, а гэта значыць, што за шаснаццаць гадоў колькасць насельніцтва ў горадзе павялічылася ў пяць разоў. Іншыя месты павінны былі плаціць, паводле гэтага дакумента, наступнае: Вільня — 1500 коп грошаў, Коўна — 300 коп, Камянец і Магілёў па 200, Бярэсце — 150, Пінск і Наваградак па 50, Трокі — 10, Полацк і Крэва па 5 і г. д. Па ўсім гэтым можна меркаваць, што Мінск у 1529 годзе быў горадам меншым за Коўна ў шэсць разоў, за Камянец і Магілёў у чатыры, за Бярэсце ў тры разы і больш чым у два разы за Полацк і Крэва. Што датычыць колькасці насельніцтва, то Мінск раўняўся Пінску і Наваградку.

У 1541 годзе ў Мінску ўжо было праўленне гараднічага, у абавязкі якога ўваходзіў нагляд за ўтрыманнем і абарончым станам замка. Росту горада вельмі дапамог яшчэ Жыгімонт Аўгуст адразу ж пасля ўзыходжання на бацькоўскі трон, бо ў 1552 годзе пацвердзіў і пашырыў свабоды, наданыя магдэбургскім правам, пабольшыў гарадскія даходы і ўстанавіў штогадовыя кірмашы, якія спрыялі развіццю мясцовага гандлю, тым болей што Мінск (як ужо гаварылася) стаяў на шляху шырокіх гандлёвых стасункаў з Расіяю.

Дзве згадкі знаходзім яшчэ і ў рускіх гістарычных запісах з эпохі войнаў, якія Васілій Іванавіч і Жыгімонт I пакінулі ў спадчыну сваім наступнікам — Івану Грознаму і Жыгімоту Аўгусту. У 1563 годзе, калі вялізныя рускія сілы акружылі Полацк, Януш Радзівіл, вялікі літоўскі гетман, з 40 000 войскам рушыў на дапамогу Полацку, але калі горад быў усё ж узяты, а ваяводы вялікага маскоўскага князя пайшлі на Мсціслаў і Вільню, мусіў з сваімі адступіць назад да Мінска.

У наступным, 1564 годзе, калі канфлікты ўзнавіліся, а расійцы зноў занялі Полацк і Азярышча, у Мінск з’ехалася заможная шляхта з цэлай Літвы для абмеркавання сродкаў абароны.

Іван Грозны загадаў сваім военачальнікам Шуйскаму і Абаленскаму сканцэнтраваць сілы пад Оршаю і ўдарыць на Мінск і Наваградак, але трокскі ваявода Мікалай Радзівіл, апярэдзіўшы гэтыя планы, на чале літоўскіх палкоў і прыдворных харугваў дабіўся, недалёка ад Оршы, помнай у гісторыі перамогі.

Дзесьці ў гэты час Жыгімонт Аўгуст гасцяваў у Мінску. Другі раз мог ён тут быць у 1568 годзе, калі ў студзені адпачываў у Койданаве ў свайго швагра Мікалая Рудога Радзівіла, пра што паведамляў Газыушу* Аўгусцін Ратундус Мілезіус.

Вось усё, што нам удалося сабраць з раскіданых успамінаў пра Мінск з эпохі, калі гэтае места па спадчынным праве належала вялікім князям.

Згадвалі мы ў дачыненні да 1513 года мінскага намесніка князя Багдана Іванавіча Заслаўскага, мяркуючы, што ў гэтым намесніцтве была, можа, і рэшта ўдзельнасці, што перайшла заслаўскім князям ад іх прашчура Яўнута Альгердавіча, вялікага літоўскага князя. Але калі род заслаўскіх князёў з мужчынскага боку звёўся, знікае ў Мінску і тытул намесніка, а з’яўляецца годнасць старасты як судовая ўлада для горада і правінцыі, якім ужо былі дадзены пэўныя свабоды. Такім старастам, адразу пасля заслаўскага намесніцтва, быў вядомы пісар і падскарбій Жыгімонта І Іван Гарнастай, жанаты, як мяркуе Нясецкі, з заслаўскаю князёўнаю, сястрою Багдана Іванавіча**.

Далей бачым на той жа пасадзе старасты Дзмітрыя Скуміна-Тышкевіча, літоўскага маршалка, пасля ягонага сына Фёдара і, нарэшце, дзядзьку апошняга, Базыля.

Але набліжалася доўгачаканая хвіліна, калі Польшча і Літва павінны былі з’яднацца супольнымі законамі, адзінаю ўладаю, як бы шлюбным саюзам усяго свайго будучага лёсу. Жыгімонт Аўгуст І ліпеня 1569 года, сабраўшы ў Любліне дзяржаўных прадстаўнікоў абодвух народаў, заклікаў да братэрскага паяднання. Літва выдала дакумент, якім засведчыла, што сардэчна і шчыра ўваходзіць у братэрскую унію, а кароль на чацвёртым дні таго ж месяца зацвердзіў супольнасць правоў абодвух народаў. Важнейшыя літоўскія гарады і правінцыі былі ўроўнены з гарадамі і правінцыямі Польшчы; вызначыліся ваяводствы ў Літве, а яе сенатарам былі дадзены пастаянныя месцы на супольнай вялікай радзе.

---

* Лісты да Газыуша. Dziennik Wileński. 1815. № 8. С. 122.

** Нясецкі, выданне Бабровіча. Т. IV. С. 376.

Мінск стаў сталіцаю аднайменнага ваяводства. Мінскім ваяводам абралі Гарнастая, кашталянам — Мікалая Тальваша; першаму прызначылі месца ў сенаце паміж паморскім і інфляндскім ваяводамі, другому — паміж гданьскім і інфляндскім кашталянамі. Два новыя сенатары падпісалі акт уніі разам з даўнім мінскім старастам Базылём Тышкевічам і з дэпутатам Мінскага ваяводства Янам Клапотам, саноўнікамі і шляхтаю іншых літоўскіх ваяводстваў*.

З таго часу Мінск выступае сталіцаю свае правінцыі і часткаю вялізнай дзяржавы Ягелонаў, больш упэўнены ў сваёй бяспецы, смялей разлічваючы на палітычную абарону. Сапраўды! Варты ён спакою пасля столькіх вякоў няшчасця і спусташэнняў, пасля шматразовага залівання крывёю і засыпання попелам ваенных пажараў!

## VI
## МІНСК — ВАЯВОДСТВА. РОСТ І НЯШЧАСЦІ ГОРАДА

### Трэці перыяд

*Новая будова ваяводства. — Што ўплывала на пачатковы рост горада. Слоўца Гваньіні пра Мінск. — Рускі манастыр Божага Узнясення. — Каталіцкі касцёл. — Згадка аб пратэстанцкай царкве. — Магдэбургскі статут у дачыненні выбарнасці бургамістра і лаўніка**. — Даравальная грамата Жыгімонта III. — Мінск на польскім шляху з Масквы ў Польшчу. — Шавецкі цэх. — Жыгімонт III праездам спыняецца ў Мінску. — Татары і жыды. — Спрэчкі пра рэлігійную унію. — Рагоза, Сматрыцкі, Марахоўскі. — Няшчасці. — Крыўды мяшчан. — Пераходы войск. — Установа дамініканцаў. — Манастыр святых апосталаў Пятра і Паўла. — Яшчэ пра рэлігійныя хваляванні. — Згадкі пра школы. — Папаўненне фонду дамініканцаў. — Бернардзінцы. — Зноў сутычкі ўніятаў з дызуніятамі. — Друкарня. — Ахвяраванне бенедыкцінак, дамініканак і базыльянак. — Універсалы Яна-Казіміра. — Выгляд места на працягу тагачаснага перыяду. — Ваеннае спусташэнне.*

---

* Акты Люблінскай уніі калісьці захоўваліся ў Нясвіжскім архіве з копіі, якая была ў зборах Нарушэвіча, передрукаваныя п. Вайцецкім для ягонай бібліятэкі старых польскіх выданняў.

** Лаўнікі (*старабел.*) — засядацелі.

Першыя гады новага перыяду з жыцця Мінска нічым значным і вартым занатавання не вызначаюцца. Гаспадарамі гэтага цэнтра новага ваяводства да канца XVI стагоддзя пачаргова былі Габрыэль Гарнастай, Андрэй, Мікалай і Багдан Сапегі, Ян Абрамовіч і Андрэй Завіша, якія не жылі пастаянна ў горадзе. Пад пільным наглядам сваіх кашталянаў і старастаў Мінск пачаў паволі расці і пашырацца як сталіца трох паветаў (Мінскага, Мазырскага і Рэчыцкага). У ім праходзілі шматлюдныя з'езды шляхты. Яна збіралася то на папярэднія сеймікі дзеля абрання на сейм ваяводства шасці сваіх паслоў; то тройчы ў годзе — на кадэнцыю земскіх судоў; то на агляды рыцараў, што пачыналіся ў верасні, у дзень Нараджэння Дзевы Марыі, і доўжыліся чатыры дні; то, нарэшце (пачынаючы з 1581 года), — на Літоўскі і казённы трыбуналы, якія праходзілі тут альтэрнатыўна з Вільняю і Наваградкам. Гэты наплыў багатых паноў і шляхты з ваяводства і паветаў плённа прычыніўся да абагачэння горада, які ад старых сваіх межаў, г. зн. ад Траецкай гары і цяперашняга Нізкага рынка, пачаў пашырацца на ўсход, да месца свае сённяшняй сядзібы, мяняючы драўляныя забудовы на цагляныя. Гваньіні называе Мінск драўляным, вялікім, даволі ўмацаваным местам, што абмываецца ракою, згадвае млыны і драўляны замак, які, як можна здагадацца, быў Верхнім замкам. Цяпер ён ляжыць у руінах.

З асаблівасцяў гісторыі гэтай эпохі нічога не ведаем, акрамя гісторыі рускага манастыра базыльянаў Божага Узнясення, заснаванага, як ужо было сказана, жонкаю Аляксандра Ягелончыка Ганнаю. Бедная была, відаць, яго першая аздоба, калі бачым, што ў сярэдзіне XVI стагоддзя, пасля смерці архімандрыта Пафнуція, манахаў ужо ў ім не было, а Жыгімонт Аўгуст, шануючы годнасць манастыра, аддаў яго ў арэнду свайму двараніну Яну Бацу. Але новы арандатар сам там не жыў, бязладна нішчыў будынкі і памесце, а таксама так доўга не трымаў святароў, што ў царкве ўрэшце перапынілася служба — «пришла в замолчание». Тагачасны мінскі староста Габрыэль Гарнастай у 1576 годзе перадаў гэтую арэнду свайму кліенту Стэфану Дастаеўскаму, але і гэты апошні, карыстаючыся толькі прыбыткамі ад кляштара, рэшту сваіх абавязкаў занядбаў.

Праз дзесяць гадоў запусцення, у 1579 годзе, кароль Стэфан Баторый прызначыў мінскім архімандрытам вядомага пасля ў гісторыі уніі Міхала Рагозу. Гістарычны дзеяч, знакаміты кіеўскі мітрапаліт, галава Берасцейскага з'езда, асыпаны ласкаю каралёў і паноў, Рагоза распачаў тут у 1579 годзе сваю дзейнасць як сціплы архімандрыт занядбалага кляштара.

Царква там асела і згніла і ледзь трымалася ўжо на драўляных падрубах. Адзінаццаць бляклых, з абсыпанаю фарбаю абразоў складалі ўсю яе аздобу, а некалькі кніг ды агаркі свечак у ліхтарах — увесь царкоўны скарб. Той, хто ў хуткім часе ўзначаліў мітрапалітальную сталіцу ўсяе Русі, распачаў сваю дзейнасць у Мінску як настаяцель так званага кляштара, а дакладней — старой каморкі, акружанай гаспадарчымі будынкамі і садамі, агароджа якога была ўжо даўно спалена. У такім стане быў тады Мінскі манастыр грэцкага абраду. Не розніўся ад яго і парафіяльны каталіцкі касцёл, які налічваў ужо 200 гадоў свае гісторыі. Друцкія і горскія князі, а таксама іншая тутэйшая шляхта ўзнялі яго пахілыя сцены і падмацавалі легатамі сціплыя прыходскія даходы. Гэты сумны стан абедзвюх святынь можна вытлумачыць толькі развіццём Рэфармацыі, што распачалася па ўсёй Літве. Вядомы гісторык Юзаф Лукашэвіч[7], не апісваючы асаблівасцяў пратэстанцкай царквы ў Мінску, сцвярджае толькі, што існавала яна ў XVI стагоддзі.

Зразумела, што красавацца яна павінна была ў сталіцы ваяводства, калі ва ўсіх навакольных гарадах і мястэчках на месцах цэркваў і касцёлаў паўставалі кальвінісцкія зборы, што ўзводзіліся дужымі рукамі суседніх літоўскіх магнатаў. Вуліца ад вякоў завецца Сабornaю, хоць і не выводзіць да цяперашняй царквы кальвіністаў, але сведчыць, што старажытная пратэстанцкая святыня павінна была ўзвышацца на самым відным месцы ў горадзе, можа, якраз там, дзе стаіць цяпер касцёл і кляштар бенедыкцінак, недалёка ад плошчы, што завецца сёння Высокім рынкам і хараством значна пераўзыходзіць суседні каталіцкі касцёл. Паўтараем, што ўбогі стан каталіцкай і грэцкай святыняў можна тлумачыць толькі супрацьстаяннем іншага веравызнання, але зусім не беднасцю горада. Пра тое, што горад у гэты час дасягнуў пэўнай заможнасці, сведчыць гарадская пастанова, дзе падатак на сто коп грошаў названы малым і несур’ёзным для багатай часткі насельніцтва. Што да падаткаў прыкладна ў 300–400 коп грошаў — яго ўскладалі на бяднейшых жыхароў. Вось якое, аднак, хрысціянскае спачуванне бліжняму!

І вось жа просты народны розум, часам вышэйшы за ўсялякія мудрагелістыя тэорыі публіцыстаў. Калі ў першыя гады панавання Жыгімонта III шляхта разахвоцілася шумнаю выбарнасцю чыноўнікаў — ад судовага пісарчука да караля, калі ў краіне іншы раз праз цэлы год цягнуліся бурныя выбары соймавых, трыбунальскіх і казённых дэпутатаў, — простыя мінскія мяшчане 8 лютага 1590 года, сабраўшыся ў ратушы,

пачалі прыкідваць сваім розумам, што восем змен бургамістраў за год вядуць краіну да неспакою, злыбяды і цяжкасцяў і што, нарэшце, выбраны на малы тэрмін бургамістр не рупіцца пра гарадскую маёмасць. Каб ліквідаваць гэтыя недахопы, пастанавілі не толькі абраць бургамістра на год, даючы яму ў памагатыя двух лаўнікаў, але нават прызначыць адразу яшчэ двух бургамістраў і чатырох лаўнікаў, якія павінны былі працаваць два наступныя гады. Словам, замест васьмі выбараў на год меліся праводзіцца толькі адны — у тры гады. Дакумент такога зместу падалі на зацвярджэнне пану Івану Быкоўскаму, войту Мінска. Адрачэнне ў імя парадку і ўсеагульнага дабра ад частых выбарчых выгод напраўду гераізм, на які адукаваная сучасная шляхта, якая гэтулькі гаворыць аб сваім патрыятызме, ніколі не змагла б рашыцца. Закон гэты мог зрабіць гонар не аднаму прадстаўніку вышэйшага сану, але праклюнуўся, аднак, у простых галовах гарбароў і ткачоў, шаноўных паслядоўнікаў мінскай магдэбургіі. Устаноўлены ў 1581 годзе Літоўскі трыбунал, чыё паўнамоцтва вызначалася пачаргова ў Вільні, Наваградку і Мінску, прычыніўся да росту горада дзякуючы з'ездам багатых людзей: то судовых чыноўнікаў, то тых, якія правадаліся на трыбунале. А на кожным такім трыбунале была процьма шляхты і магнатаў! А колькі шумных абедаў! Колькі шчодра акропленых вячэраў! Што за рух і жыццё ў вячэрні час у гаспадах!

І хоць часам падгарачаная шляхта і нападала на няверных жыдоў і слаўных мяшчан, між тым вялікі наплыў народу, што праядаў і прапіваў дабро сваіх вёсак і засценкаў, горада не абцяжарваў.

Развіццё места і грамадскія патрэбы, якія ішлі ўслед за гэтым развіццём, вымагалі зацвярджэння законаў і прадастаўлення новых свабод.

Жыгімонт III, адразу ж пасля ўступлення на трон, зацвердзіў Мінску яго свабоды. Прывілеем ад 10 верасня 1592 года аддаў гораду ўсе навакольныя зямельныя надзелы і ворныя землі; дазволіў збудаваць на рацэ Пярэспе, «што выходзіць з Камаровага балота», млын і папяровую фабрыку (прыспела патрэба вырабу пісьмовага матэрыялу), а таксама другі млын на рацэ Крупец. Дазволіў наладзіць гарадскую васкабойню, а войтам і бургамістрам даў права назначаць плату за ворную зямлю і зямельныя гарадскія надзелы — на карысць самога горада.

Бо, акрамя надзвычайных падаткаў, Мінск не абавязаны быў плаціць усе астатнія і аказваць іншыя казённыя паслугі,

толькі мусіў даваць падводы сваім і чужаземным паслам, якія дабіраліся з Кракава і Варшавы ў Маскву ці наадварот. Размешчаны на шляху гэтых пасольстваў, бачыў Мінск у сваіх мурах не адну знакамітую польскую і расійскую дэпутацыю, вітаючы паслоў менш ці больш зычлівай сімпатыяй, што залежала ад справы, з якой гэтыя дэпутацыі ехалі. Так, у 1606 годзе грамада тут абпырскала гразёю князя Валконскага, які спяшаўся ў Кракаў адразу пасля смерці першага Дзмітрыя Самазванца. На пасла напала адданая літоўскім магнатам і падбухтораная мінскім кашталянам Янам Гарабурдам чэрнь. Польскія прыставы, выдзеленыя для аховы пасольскай бяспекі, марна стараліся разагнаць натоўп, паясняючы паслу, што цяжка суняць такую ўсеагульную варожасць.

Пад час наступнай вайны з Расіяю Жыгімонт III, які ішоў пад Смаленск на чале 12 000 войска, выехаўшы з Вільні 18 жніўня, прыбыў у Мінск 25-га і там заначаваў. У Мінску манарха вітаў гетман каронны Станіслаў Канецпольскі. Аднак раіў яму тут жа ісці да Оршы, каб прыспешыць рыцараў, якія, па звычцы, ледзьве валакліся.

Мяшчане падалі каралю скаргі на пана Дамбінскага, што загадваў ім капаць акопы і выбраў ад іх 6000 польскіх фларэнаў.

Патрэба ў сумленных муніцыпальных законах выразна праглядваецца ў справе стварэння рамесніцкіх цэхаў. Мінскі цэх шаўцоў першы дабіўся каралеўскага зацвярджэння сваіх правоў на Варшаўскім сейме 1609 года.

Недзе ў гэты ж час бачым тут аселых татараў, якія пабудавалі сваю мячэць на землях царквы Божага Уваскрэсення. Пачаргова ўніяцкія мітрапаліты Міхал Рагоза, Іпацій Пацей і Іосіф Руцкі пацвердзілі законнасць гэтай замены, што высветлілася ў выніку расследавання, праведзенага ў 1617 годзе мінскім кашталянам Пятром Тышкевічам. Аднак жа, нягледзячы на ўніяцкі дазвол на законнае ўладанне татарамі царкоўным надзелам, дызуніяты з болем глядзелі на гэты выпадак. «Пайдзі ў Мінск і спытай, — заклікае адзін з іхніх палемістаў, — на якой зямлі татарская мячэць стаіць! Даведаешся, што на той, дзе была царква Народзінаў Бога нашага».

Спакойнае і працавітае племя татар гэтаксама, як і ў іншых месцах, занялося тут развядзеннем садоў, гарбарствам і фурманствам. Займацца гандлем татарам і жыдам, што лічыліся чужым народам, забаранялася. Не карысталіся яны і прывілеямі, выдадзенымі самому гораду.

Жыды, як пацвярджае прывілей Жыгімонта III ад 26 мая 1606 года, на працягу ўсяго XVI стагоддзя не мелі крамаў і не займаліся гандлем у вялікім памеры; не дазвалялася ім гэта і пазней. Але з упэўненасцю можна меркаваць, што з пачатку XVII стагоддзя, насуперак закону, яны самахоць падгарнулі пад сябе ўнутраны гандаль, а ў сярэдзіне таго ж стагоддзя, калі войны вынішчылі мяшчан, не ўпусцілі мажлівасці за даўгі ці за дарагую аплату набыць найлепшыя дамы і крамы і de facto абняць тое, што было ім забаронена de jure.

У гэты час у Польшчы нарадзілася ідэя аб з’яднанні грэцкай царквы з каталіцкаю, вядомая пад назваю уніі, натхніцелем і праваднікам якой быў набожны Жыгімонт III, падтрыманы вернымі яму езуітамі.

Ідэя гэта выклікала нечаканыя хваляванні ў Мінску, населеным людзьмі лацінскага і рускага веравызнанняў. Міхал Рагоза, гарачы прыхільнік уніі, у 1576 годзе, як мы ўжо гаварылі, распачаў тут сваю дзейнасць у сане сціплага архімандрыта манастыра Узнясення Хрыстовага. Не ведаем, ці доўга ён заставаўся ў гэтым сане, але, напэўна, трохі менш за дзесяць гадоў, бо мусіў прайсці вышэйшыя ступені духоўнай іерархіі і да таго моманту, калі ў 1588 годзе патрыярх Ярэмій у віленскай царкве Прачыстай Дзевы Марыі пасвяціў яго ў сан мітрапаліта кіеўскага, галіцкага і ўсяе Русі.

Адразу пасля прызначэння на мітраполію Русі Рагоза, апіраючыся на маладых і гарачых святароў Іпація Пацея і К. Тарлецкага, распачаў клопат пра паўсямеснае ўвядзенне уніі.

Скліканыя ім у Бярэсці Літоўскім у 1590 і 1594 гадах сіноды, што зацвердзілі ўніяцтва як асобнае веравызнанне, справакавалі раскол у асяроддзі вернікаў рускай царквы.

Міхал Рагоза памёр у 1600 годзе, а І. Пацей, які прыняў пасля яго сан мітрапаліта, задужа шчырым імкненнем сваім да паяднання з Рымам разбудзіў яшчэ большыя хваляванні сярод насельніцтва літоўскіх гарадоў. Крывавыя сцэны адбыліся ў Вільні і Полацку. Мінск хоць і не паўтарыў ніводнай з падобных трагедый, аднак не застаўся абыякавым да справы рэлігійнага веравызнання, што заўсёды глыбока закранала людское сумленне.

У выніку своеасаблівага збегу абставін амаль усе гістарычныя асобы, якія праславіліся ў пачатковай гісторыі уніі, распачалі сваю дзейнасць менавіта ў Мінску. Мы ўжо ўспаміналі пра Міхала Рагозу. Цяпер згадайма падаляніна Мялеція з места Смотрыч, які пад прозвішчам Сматрыцкага праславіўся спачатку як гарачы праціўнік, а пасля — як не менш апантаны паслядоўнік

уніі. Як настаўнік дзяцей князя Саламарэцкага ён, аб’ехаўшы з выхаванцамі нямецкія ўніверсітэты, вярнуўся ў Мінск каля 1600 года і тут ужо напісаў супраць уніі свой «Трэнас», г. зн. «Плач Усходняй царквы…». Праз пару гадоў Сматрыцкі стаў уніятам і пры ўплывовай падтрымцы Пацея, дасягнуўшы высокага царкоўнага сану, сам горача адмаўляў і крытыкаваў уласны твор.

Акрамя езуіта Пятра Скаргі, з водпаведдзю на «Трэнас» Сматрыцкага выступіў Ілля Марахоўскі, каралеўскі сакратар, а пазней уладзімірскі біскуп. Таксама знакамітая гістарычная постаць. Гэтаксама як Рагоза і Сматрыцкі, ён упершыню праявіў сябе менавіта ў Мінску.

Калі мітрапаліт Пацей пачаў прызначаць у рускія цэрквы духавенства, якое спрыяла уніі, некаторыя з мінскіх мяшчан, пакінуўшы свае даўнія парафіі, перасялілі ў 1612 годзе праваслаўных манахаў з віленскага манастыра Св. Духа, якія з самага пачатку настойліва працівіўся уніі. Магістрат, што складаўся з прыхільнікаў гэтых прышлых манахаў, аддаў ім царкву Народзінаў Дзевы Марыі па вуліцы Нямігскай — на пляцы, перададзеным царкве князямі Радзівіламі. Звесткі пра хваляванні і напады чэрні на ўніяцкіх святароў дайшлі да гарачага прыхільніка уніі Жыгімонта ІІІ, які прыслаў у Мінск свайго сакратара Іллю Марахоўскага — каб той разабраўся ў сутнасці справы і зрабіў строгую заўвагу вінаватым ад імя яго каралеўскай вялікасці.

Павел Люткевіч і Міхал Гаінскі, рускія святары, з’яднаныя з Рымам, узброеныя каралеўскімі лістамі і пасмялелыя ў прысутнасці Марахоўскага, пры падтрымцы судовага генерала Давыда Грыгаровіча і шляхты паспяшалі скласці акт таго, што рабілася ў старой царкве, занятай віленскімі манахамі. На імшы яны налічылі каля 200 чалавек, бачылі і падводы з дрэвам, што мяшчане-аднаверцы везлі на ўзвядзенне новай царквы. Калі ж пайшлі ў ратушу, каб аддаць каралеўскія лісты і пратэстацыі, то паны бургамістры і лаўнікі прынялі іх вельмі холадна. Марахоўскаму было сказана, што каралеўскага войта пана Тарлецкага якраз на гэты час у месце няма і «што яны, гарадская рада, апроч царквы маюць шмат усялякага іншага клопату». Працягваючы далей зневажаць яго каралеўскую вялікасць, адзін з мяшчан, Фёдар Залятыла, сказаў: «Дробязь гэтыя каралеўскія лісты: я, даўшы пару чырвоных залатых, што хочаш у караля выпрашу».

«Значыць, каралеўскія лісты ў вас, паны бургамістры, не заслугоўваюць павагі? Значыць, не толькі прытрымаць сама-

ўпраўцаў, але нават слушнага адказу каралю даць не жадаеце?» Так вусна і пісьмова пратэставаў у горадзе Мінску Марахоўскі, але гэты ягоны пратэст застаўся без аніякіх вынікаў. Жыгімонт ІІІ, заняты вайною з Расіяй, не мог займацца пакараннем смельчакоў. А слаўны мінскі магістрат, як слушна сказаў пан бургамістр Васіль Маслянка, аж занадта меў клопату ў той, сапраўды гарачы час. Усімі чатырма Божымі карамі — хваробаю, голадам, агнём і вайною — быў закрануты гэты край у першыя гады XVII стагоддзя. Голад 1602 года, што вынішчыў на Літве шмат тысяч беднага люду, не мог не закрануць і Мінска, размешчанага ў неўраджайнай старане і запоўненага прышлым людам. У выніку голаду (сведчыць Нясецкі) павадак заразных хваробаў заліў усю Польшчу ў гэтым і наступным гадах. У мясцовых дакументах знаходзім згадку пра чуму ў Мінску напярэдадні 1617 года і адносім яе да 1602–1603 гадоў. Дакументы таксама сведчаць пра пажар, ахвяраю якога стаў Мінск.

Вось так прайшлі па гэтай старане ў першыя гады XVII стагоддзя тры Божыя кары: голад, чума і агонь.

А згубная вайна… Што яна магла прынесці спакойным местам і вёскам у часы Жыгімонта ІІІ, пры абсалютнай адсутнасці вайсковай дысцыпліны?! У тым жа абнятым няшчасцямі 1602 годзе праходзілі сюдою ў Інфляндыю запарожскія казакі. Пасля, размешчаны амаль на гасцінцы, што вёў з Польшчы ў Маскву, горад быў прынесены ў ахвяру ўзброеным канфедэратам і ясным панам, як польскім, так і літоўскім, што са сваімі атрадамі праходзілі на поўнач. Па некалькі тыдняў гуляла тут рыцарства, па некалькі тысяч народа за адзін раз спынялася ў горадзе. Ахвяраванням, павіннасцям на ўтрыманне каралеўскага войска, абозам, прыгнёту і здзеку з мясцовага люду не было ні канца, ні меры. Цяжар гэтых пабораў і павіннасцяў шмат гадоў ляжаў на плячах горада, які не меў іншых даходаў, апроч слаба развітага гандлю і рамёстваў. Мясцовыя сілы былі няздольныя вынесці гэткі цяжар і сцярпець такі ўціск.

Так слёзна расказвалі пра сваю бяду мінскія мяшчане ў 1617 годзе на Віленскім сейме Літоўскаму сенату*. Але ці быў які вынік з гэтага? Ці здольна была каралеўская ўлада Жыгімонта ІІІ дапамагчы гораду і суняць самавольства магнатаў і войска? — не ведаем, але спадзяёмся. Увогуле, прывілеяваны Магдэбургам, але эканамічна слаба развіты горад цярпеў крыўды

---

* Старажытная Польшча. Т. ІІІ. С. 817. Арыгінал чалабітнай мінскіх мяшчан захоўваецца ў зборы вучонага М. Балінскага.

і ўціск не толькі ад уплывовых гасцей. Дзяржаўная ўлада ваяводаў і старастаў вяла пастаянную барацьбу з гарадскою ўладаю паноў бургамістраў і членаў магістрата. Натуральна, што прайгравалі слабейшыя. Духавенства абодвух веравызнанняў, моцнае маральнаю перавагаю і ўплывоваю падтрымкаю трона, таксама насміхалася з аўтарытэту магістрата. Праз пару гадоў пасля сумнай чалабітнай каралю, пра якую мы ўпаміналі, мінскае мяшчанства вымушана было зноў жаліцца на мясцовы ўціск. У 1618 годзе ваявода з прыезджых купцоў самавольна рабіў гандлёвыя паборы, тым самым стрымліваючы развіццё мясцовага гандлю і правакуючы дарагавізну, саджаў мяшчан, без ведама гарадской улады, у замкавую турму, апячатваў гарадскія бровары, забіраў дамы, размешчаныя на тэрыторыі замка, не даючы магчымасці законнага расследавання крыўдаў, забараняў гарадской уладзе прымаць скаргі пакрыўджаных і данясенні возных. Уніяцкае духавенства, са свайго боку, у 1616 годзе забрала ў горада бальніцу, што стаяла на гарадскім пляцы, «недалёка ад Панталінскай пярэрвы, у канцы нізкага моста», і бальнічны Жабчынскі фальварак над ракою Сляпня.

Жыгімонт III, разумеючы слушнасць гэтых скаргаў, пісаў напамінальныя лісты да ваяводы і духавенства, але мы так і не знайшлі вынікаў гэтага каралеўскага заступніцтва.

Добрую, аднак жа, памяць пакінула тут рыцарства, што, вяртаючыся з рускай кампаніі з багатымі ваеннымі трафеямі, угледзела на Высокім рынку муры будучага касцёла і кляштара дамініканцаў, якія заснавала Соф’я Служчына з роду Завішаў, удава інфляндскага ваяводы Крыштофа Служкі. Ухваліўшы капытковую* складчыну, ахвяравалі рыцары на будаўніцтва гэтай святыні вялікія грошы.

Гэта, праўда, вуснае паданне, не запісанае ў «Гісторыі дамініканцаў» Акольскага, але пацверджанае васьмю гербамі палкаводцаў гэтай кампаніі, намаляванымі ў святыні дамініканцаў.

Паданне гэтае дае нам цудоўнае ўяўленне пра характар тагачаснага рыцарства, што адначасна самавольнічала, здзекавалася з беднага мужыка і мешчаніна і шчодра сыпала грошы на ахвяру Божага алтара, па-бабрынаму залівалася слязьмі перад спавядальняю. Але тут жа зноў спяшалася на новае гульбішча і чыніла новыя здзекі.

* Капытковая плата (*гіст.*) — плата за перагон або перавоз жывёлы праз гарадскую заставу.

«Ужо ж такі жывуць яны паводле свайго статута!» — жартаваў сябра тагачаснага рыцарства, бясцэнны Альбертус, вядомы сваімі незабыўнымі ваеннымі паходамі.

Не ведаем дакладна ні даты першага ахвяравання Соф'і Служчынай мінскім дамініканцам, ні даты шчодрага рыцарскага дару. Вядома толькі, што ў 1605 годзе на генеральнай капітуле ў Рыме дамініканскі закон засведчыў, што прымае гэтыя ахвяраванні «імем канвента св. Тамаша з Аквіна». Муры касцёла і кляштара патроху раслі, а пераселеныя з Вільні дамініканцы ў збудаванай на хуткую руку драўлянай капліцы адпраўлялі Божую службу. На сваім месцы дараскажам рэшту гісторыі гэтай святыні.

Тады, каля 1610 года, рыма-каталіцкае веравызнанне мела два касцёлы: парафіяльны і дамініканскі, абодва на Высокім рынку, у бок якога ад старое свае сядзібы, ад Траецкай гары і ракі Нямігі, пачала пераносіцца больш людная і значная частка горада.

Рускае веравызнанне таксама набывала новыя дамы малітвы; але ў лоне гэтага веравызнання паўставалі цяжкія нягоды, то ў імя уніі, то ў імя пратэсту даўняму абраду. Дэталёва і аб'ектыўна перабяром некалькі гадоў гэтых спрэчак, не ўтойваючы прыкрасці, якую адчуваем, прыадкрываючы заслону часу з некаторых выпадкаў.

Частка мяшчан, як мы ўжо гаварылі, не хочучы прымаць уніі, высільваючыся, збудавала для сябе царкву Народзінаў Дзевы Марыі, перавёўшы ў яе манахаў з віленскага кляштара Св. Духа.

Частка шляхты, верная непаяднанаму з Рымам абраду, падтрыманая п. Багданавай-Стацкевіч, у 1613 годзе на выкупленай зямлі па вуліцы Юр'еўскай, узвяла муры манастыра і царквы святых апосталаў Пятра і Паўла, аддаючы іх манахам, якіх прывяла з Вільні.

Увогуле, каб умацаваць апеку сваёй фундацыі, новы кляштар св. Пятра і Паўла зрабілі філіяльнаю прыналежнасцю віленскага кляштара Св. Духа, які ўпарта супраціўляўся уніі. Фундацыя гэта ў пазнейшы час набыла значныя памеры. Каля 1620 года галоўная царква ўжо была амаль закончана, нягледзячы на перашкоды, якія чынілі ваявода Пётр Тышкевіч, уніяцкі мітрапаліт Іосіф Вельямін Руцкі і яго намеснік у Мінску ксёндз Гілярый Барановіч. Пры царкве існавала школа, павялічыліся ахвяраванні, і ў 1618 годзе пры той жа царкве, на пляцы, падараваным п. Ганнаю Стацкевіч, быў заснаваны грэка-расійскі кляштар манашак. Фонды на будоўлю і купчую двух зямельных надзелаў у суме 3490 коп літоўскіх грошаў перадалі з сваіх збярэжэнняў самі манахіні.

У наступным, 1619 годзе, 14 студзеня, пасля закладкі фундаментаў, Ганна Стацкевіч, пісьмова пацвярджаючы сваё ахвяраванне, прызначыла апекунамі згаданага кляштара вядомых у гісторыі пратэстантызму магнатаў: князя Януша Радзівіла, Марціна Валадковіча, князя Яна Агінскага, Юрыя Тышкевіча і яшчэ некалькі прадстаўнікоў слыннай шляхты, слушна мяркуючы, што гэтыя непрыязныя да католікаў заможныя пратэстанты ахвотна і пасляхова будуць ахоўваць ахвяраванне ад магчымых замахаў Заходняга касцёла.

Бо трэба, на жаль, прызнаць, што ўзаемная неталерантнасць абодвух веравызнанняў выклікала на працягу ўсяго панавання Жыгімонта III горкія і нечаканыя праявы.

Вышэй мы прывялі некалькі прыкладаў падобных канфліктаў. Мяркуем не спыніцца на гэтым. Вернікі Усходняй царквы, не з’яднаныя з Рымам, варожым вокам пазіралі на ўніятаў, якія, са свайго боку, падтрыманыя апекаю трона, таксама давалі нямала падстаў для варожасці. У 1616 годзе пра ўзаемнае глумленне, бахвальства і насілле, што парушалі спакой мінскіх жыхароў, стала вядома трону. Жыгімонт III прызначыў пасланцамі ў Мінск інфляндскага ваяводу Крыштофа Служку і кашталяна Пятра Тышкевіча, наказваючы магістрату ў лісце ад 5 кастрычніка, каб вінаватыя былі пакараны. Імі аказаліся неўніяты. Абнадзееныя падтрымкаю, уніяты яшчэ смялей пачалі выказваць сваю варожасць да праціўнікаў. Уніяцкія манахіні пры царкве святых Казьмы і Даміяна падбухторвалі падлеткаў з свае школы да вулічных боек з хлапчукамі з кляштара св. Паўла, што, як зазначалася, належаў неўніятам.

Такая бойка адбылася 16 лютага 1617 года, верхаводзілі ў ёй базыльяне Дэміс Хмяльніцкі і Мікалай Новак. Ідучы з харугваю на чале некалькіх дзясяткаў шкаляроў, яны напалі на групу праціўнікаў, білі іх, закідалі камянямі і прымусілі ўцякаць. Такая ж вулічная сутычка, але ўжо дарослых, мела месца ў 1620 годзе ў часе пабудовы ўсходняй царквы на Нямізе і ў красавіку таго ж года пад час сабору ўніятаў, які адбываўся ў Мінску пад кіраўніцтвам мітрапаліта Руцкага. Калі гарачы праціўнік уніі манах Тодар Ярмоліч пачаў падбухторваць жыхароў Мінска, мітрапаліт загадаў яго супакоіць. Але мяшчане неўніяты разам са студэнтамі, якіх трымалі за свой кошт пры новай царкве і брацкай школе, натоўпам адбілі Ярмоліча і з трыумфам павялі яго да свайго брацтва.

Такія сутычкі паміж прадстаўнікамі двух веравызнанняў і вулічныя бойкі студэнцкай і школьнай моладзі не былі ў тыя

часы навіною. Езуіты і пратэстанты ў іншых гарадах учынялі тое ж самае. Не раз мелі месца і крывавыя сцэны. Разам з сумам, з якім глядзіш на такое парушэнне грамадскага спакою, прыходзіць і ўцеха, калі даведваешся, што ў далёкім ад цэнтра краіны месцы, якім быў Мінск, люд адчуваў патрэбу ў адукацыі. У школе базыльянаў-уніятаў было некалькі дзясяткаў вучняў; у не такой шматлюднай, але добра абсталяванай неўніяцкай школе вучылася таксама значная колькасць дзяцей.

Пры фундацыі кожнай царквы чытаем паведамленне пра школу. Пратэстанты, якіх нямала было сярод тутэйшай шляхты, не маглі даць сябе апярэдзіць. А каталіцкае веравызнанне, якое хутка павялічвала колькасць сваіх святынь, таксама самааддана працавала на карысць пашырэння асветы.

Як было сказана вышэй, інфляндская ваяводава Соф'я Служчына заснавала тут кляштар дамініканцаў, ахвяраванне на які павялічыла рыцарства. Нарэшце аселі тут і пераведзеныя з віленскага манастыра Св. Духа дамініканцы. Ордэн іхні дзейнічаў у Літве ў дзвюх правінцыях, Літоўскай і Рускай, але не вельмі дакладна акрэсленыя межы паміж імі былі прычынаю канфліктаў і спрэчак.

Нядаўна закладзены мінскі канвент стаў прадметам адной з такіх спрэчак. Канец сутычкам, якія доўжыліся некалькі гадоў, быў пакладзены ажно ў Рыме: канвент гэты аднеслі да Рускай правінцыі. У 1622 годзе літоўскія дамініканцы былі вымушаны адклікаць сваіх братоў з Мінска ў Вільню. А на капітулах Рускай правінцыі, якія адпраўляліся ў Падгайцах і Буску на чале з Мар'янам Крапінскім, грамада тае ж правінцыі прыняла мінскі канвент у сваё ўладанне. Мінскі ваявода Пётр Тышкевіч спешна ўзяўся мураваць для іх касцёл і кляштар на пляцы, падараваным ім жа ў 1615 годзе.

І калі пажар у хуткім часе ператварыў у друз вынікі набожных высілкаў, зноў знайшліся апантаныя пабornікі ордэна, што наноў узнялі святыню і памножылі яе ахвяраванні. Гэтымі дабрачынцамі былі: віцебская ваяводава Марцэля з князёў Карэцкіх, у першым замужжы Хлябовіч, у другім — Букоўская, аршанскі святар ксёндз Якуб Пацэвіч, Юрый Завіша і іншыя.

Да ганаровых дабрачынцаў канвента мінскіх дамініканцаў трэба далучыць Яна Воўка, які адпісаў ім свой маёнтак Румніцкае, пра што сведчыць даравальная грамата 1640 года.

Не маючы пад рукою аўтэнтычных крыніц, не ведаем, што сказаць пра мінскіх бернардзінцаў. Але Балінскі сцвярджае, што фундатарам бернардзінцаў у Мінску быў красносельскі

стараста Ян Кансоўскі, які ў 1628 годзе падараваў ім пляц і драўляны касцёл. На карце бернардзінскіх канвентаў, складзенай і гравіраванай у Нясвіжы Гіршам Ляйбовічам, знаходзім паведамленне, што фундатарам мінскіх бернардзінцаў у 1724 годзе быў Андрэй Кансоўскі. Дата тым больш праўдападобная, што Нясецкі ўспамінае Яна Кансоўскага ўжо на пачатку XVIII стагоддзя. Але той жа Нясецкі ў іншым месцы сцвярджае, што маршалак літоўскі і віленскі кашталян Крыштоф Завіша (памёр у 1670 годзе) у касцёле мінскіх бернардзінцаў за вялікія грошы вымураваў капліцу, дзе і спачывае разам з сваім братам Андрэем і ягонымі сынамі, Янам Казімірам і Юрыем.

Зводзячы да аднаго гэтыя спрэчныя паведамленні, магчыма дапусціць, што першае ахвяраванне мінскім бернардзінцам учынілі Ян і Андрэй Кансоўскія, пра якіх як пра добрых людзей успамінае Папроцкі. Крыштоф Завіша мог далучыцца да гэтых ахвяраванняў. А папоўніў іх Ян Кансоўскі.

Заслугоўвае занатавання ў хроніцы места напад жыдоў на царкву і манастыр св. апосталаў Пятра і Паўла 9 жніўня 1629 года пад час хрышчэння жыда Пінхасовіча, якога манахі навярнулі да ўсходняга абраду. Узрушаны натоўп у некалькі дзясяткаў жыдоў адною групаю кінуўся ў манастыр, а другою — уварваўся ў царкву, дзе ў прысутнасці шматлікага люду, шляхты і мяшчан, адпраўлялася святая літургія. Напаўняючы крыкам святыню, галастра кінулася з нажамі на духоўных і свецкіх людзей, абражала і высмейвала хрысціянства, грозячы спаліць царкву. Але пара шабляў без цяжкасці выперла з святыні і з цвінтара гэту збродню.

Віхура рэлігійных разладаў, што на хвілю была сунялася, узнялася ў 1630 годзе, калі неўніяты наноў забралі перададзены уніі кляштар св. Мікалая. Вулічныя сутычкі і ўзаемнае правааванне не спыняліся. У наступным годзе, пасля смерці некалькіх сенатараў-уніятаў, мінскі магістрат склаўся ўжо з бургамістраў і лаўнікаў, настроеных супраць уніі. Уніятам было адмоўлена ў карыстанні магдэбургскім правам, на іх наклалі гарадскія падаткі большых памераў, забараніўшы апеляцыю да трона. Пакрыўджаныя ўніяты кінуліся шукаць абароны ў Іосіфа Вельяміна Руцкага, свайго мітрапаліта, які аддаў пад каралеўскі суд увесь магістрат, чым, як можна здагадацца, дарэшты раздражніў узаемную варожасць двух веравызнанняў.

Уладзіслаў IV, у адрозненне ад бацькі, у пытаннях рэлігіі быў больш памяркоўны і талерантны. Пасля ўступлення на трон стараўся прыглушыць супярэчнасці, аддаўшы ўладам

некалькі цэркваў для неўніятаў. Але супакаенне раз'ятранага самалюбства не магло стацца справаю аднае хвіліны. Крыштоф Валовіч (земскі пісар), прысланы Уладзіславам IV у Мінск для перадачы неўніятам царквы Св. Тройцы, не быў дапушчаны да выканання свайго абавязку. Уніяцкі мітрапалітальны намеснік ксёндз Ігнат Шаковіч і пракуратар базыльянаў ксёндз Язафат Бокей, у атачэнні шляхты, людзей, падалі Валовічу паперу, у якой згадвалі каралю яго прысяжныя словы аб пактах канвентаў. Ігумен з манастыра св. Пятра Феафіл Заяц з вялікаю групаю шляхты і мяшчан, выказаўшы свае правы на царкву, вырашыў акружыць яе. Аднак уніяты гэтага не дапускалі. Былі знойдзены палашы. Пачалася расправа, паплыла кроў, і каралеўскі пасланец, баючыся далейшага яе праліцця, ад'ехаў без аніякіх вынікаў.

Праз два няпоўныя гады гэтыя хваляванні зноў узнавіліся, нават у прысутнасці мітрапаліта неўніятаў Пятра Магілы і галавы уніі Іосіфа Вельяміна Руцкага, якія з'ехаліся тут наўмысна ці выпадкова, невядома.

27 чэрвеня 1635 года ў другой палове дня, калі Руцкі ўрачыста ўязджаў у горад, а ўвесь каталіцкі і ўніяцкі люд выйшаў яго сустрэць, манах з кляштара св. Пятра Э. Ількоўскі з узброеным натоўпам уварваўся ў кляштар базыльянаў, разрабаваў і знішчыў кватэру ксяндза Герасімовіча, шукаючы яго, каб даставіць да Пятра Магілы. 30 чэрвеня базыльяне занеслі ў магістрат пратэст супраць гэтага нашэсця і скаргу да мітрапаліта Магілы, але вынікаў гэтага не ведаем.

Да трона даходзілі трывожныя весткі пра такія сутычкі ў розных канцах Літвы. Нарэшце Уладзіслаў IV пастанавіў пакласці ім канец раздзелам цэркваў і парафій. З гэтаю мэтаю 18 ліпеня 1636 года ён прызначыў камісію, якая павінна была выканаць гэты падзел ва ўсіх літоўскіх гарадах, пачынаючы з Вільні. Ад кожнага боку дазваляліся апеляцыі на імя караля.

У сакавіку наступнага года кароль заклікаў уніяцкага мітрапаліта Міхала Корсака дзейнасці гэтай камісіі не чыніць ніякіх перашкод. Здаецца, гэты мудры крок займеў свае вынікі, бо непрыемныя сутычкі пачалі сціхаць.

У 1633 годзе ў прывілеі Уладзіслава IV ад 18 сакавіка знаходзім першую згадку пра друкарню ў Мінску. Зацвярджаючы разmaітыя правы манастыру святых Пятра і Паўла ў Мінску, кароль дазваляе яму мець друкарню «для друкавання ўсялякіх кніг і ўвекавечання ў іх людзей годных, як духоўных, так і свецкіх». Аднак жа дасюль бібліяфілы не адшукалі ніякіх царкоўных мінскіх друкаў таго часу.

Пры Уладзіславе IV былі заснаваны ў Мінску тры жаночыя кляштары. У 1633 годзе Войцех Сялява, святар даравенскі і нясвіжскі, запісам ад 4 мая таго ж года паклаў пачатак будаўніцтву касцёла і кляштара бернардзінак па вуліцы Сабornай. Першапачаткова гэта былі драўляныя будынкі. Калі і дзякуючы каму яны набылі цяперашні выгляд, будзе расказана ў аглядзе наступнага перыяду.

Аляксандр Служка, заснавальнік гэтулькіх святыняў на Літве, у 1642 годзе вымураваў у Мінску касцёл з кляштарам для бернардзінак.

Нарэшце, уніяцкі мітрапаліт Антон Сялява перавёў у Мінск каля 1645 года манахінь-базыльянак, якім аддаў царкву Св. Духа на Траецкай гары, дзе ў цяперашні час размешчаны гарадскі лазарэт. Кацярына Сапяжанка памножыла яго ахвяраванні, аддаўшы 10 000 зл. на ўтрыманне дзесяцёх дзяўчат-сірот і 9000 — на кляштар.

Важнае значэнне ў гісторыі ўсходняга абраду на Літве і на Русі меў каралеўскі прывілей, якога дамагліся запарожскія казакі пасля бітвы пад Зборавам і які забяспечваў свабоду веравызнання неўніятам. Калі б гэты прывілей быў выдадзены ў іншы час і не дыктаваўся жалезнаю неабходнасцю, мы б яго назвалі цудоўным аб’яднаўчым актам. (…)

Набліжаючыся да канца апісання трэцяга перыяду места Мінска, кіньма вокам на яго «фізіяномію» гэтай эпохі.

Шырока размешчаны на вялікай прасторы ўздоўж ракі Свіслачы па абодвух яе берагах, красуецца ён старым замкам, які ўжо страціў сваё абарончае значэнне, але яшчэ годна ўзносіць галаву над драўляным, не густа забудаваным местам, у цэнтры якога дзе-нідзе бялеюць муры камяніц. Некалькі грэцкіх цэркваў прыгожа ўздымаюць да неба зялёныя купалы сваіх вежаў і абуджаюць наваколле магутнымі званамі. Крыху далей страляюць увысь гатычныя вежы каталіцкага касцёла. У адным баку муруюць, у другім абчэсваюць драўляныя сцены новых святыняў і кляштараў. Вурчаць гарадскія млыны і сукнавальні, густа расстаўленыя ўздоўж ракі; шляхецкія і духоўныя дворыкі зеленеюць вянкамі сваіх прысадаў. У крамах бачыш паважныя постаці багатых мяшчан, якія прадаюць шаўковыя рэчы, сукно, махер, палатно, скураны тавар або напоі ў шынках. Тут часта сустрэнеш праворнага ізраільцяніна, які ўсё больш уціскаецца ў забаронены яму гандаль. За варштатамі бачым рамеснікаў, якіх у Мінску ўжо нямала, а таксама ёсць тут злотнікі, краўцы,

шапачнікі, гарбары, ткачы. Але з іх ліку толькі шаўцы (чабатары) маюць сур'ёзны цэхавы закон.

Снуюць вазкі паноў, што прыбылі на трыбунал, важна праходзяць шляхцічы з палашамі, чыноўнікі з торбамі папераў, упэўнена крочаць слаўныя лаўнікі і бургамістры. Бяднейшыя мяшчане здымаюць шапкі перад сваёю паважнаю магістратураю. Там, бачым, ваяводская ахова вядзе ў замак вязня, які самавольна ўцёк адтуль: народ саступае з дарогі, баючыся гвалту і зачэпкі з боку дзяржаўных служак. А там, далей, уваходзіць у горад выпраўленая на вайну харугва панцырнай ці мо гусарскай кавалерыі. Коні смаляць па бруку падкаванымі капытамі, жаўнерства гарцуе, рассыпаецца па вуліцах, напаўняе гасподы, вымагае пабораў, падводаў і аброку, галасуе, страляе, б'е мяшчан і жыдоў. Схіляецца перад ёю пакорны мясцовы люд: і сівабароды чарнец, і дамініканец у белай адзежы, і хлапчук у чорнай сярмязе, што на малым коніку ў драбінах прывёз прадаць які карэц збожжа або пару пален дроў, і жыд, якога ўсюды поўна.

А там, на бакавой вуліцы, б'ецца паміж сабою кіямі некалькі дзясяткаў школьнай малечы, кідае каменнем у сцены і ў вокны чужых манастыроў, — старэйшыя падбухторваюць малых да бойкі або здалёк сочаць за ёю: гармідар кіпіць, раненыя падаюць на вуліцы. Пан возны, выкліканы для расследавання справы, скрупулёзна лічыць раны на целе, пабітыя шыбы і сляды ад палашоў на варотах.

Жахлівы голад, які ў Інфляндыі і Белай Русі працягваўся аж да жніва 1657 года, адчувальны і тут; папярэднічала яму страшэннае мноства мышэй, якія завяліся на палях, пры платах, у стагах і ў хатах. Люд, сціснуты голадам, вымушаны быў есці ўсё, што траплялася: нават і гэтых, непрыгодных для ежы звяркоў. Пачаліся разбоі з-за кавалка хлеба. Голад, злы дарадчык, як яго назваў Вергілій, не даў нават трупам спакойна ляжаць у трунах.

У 1653 годзе перамога, атрыманая пад Вільняю князем Далгарукім над Гансоўскім, аддала Літву ў рукі расіян. Мінск быў заняты непрыяцелем, а мінскім ваяводам, па ўказу цара Аляксея Міхайлавіча, быў прызначаны Фёдар, сын Юрыя Арсеньева. Недасведчаны ў правах мясцовай шляхты, новы ваявода прымушаў яе будаваць замак і насыпаць валы, выклікаў шляхту да сябе, пасылаючы выціснутыя на воску пячаткі, а калі хто тут жа не прыходзіў, яго звязвалі і прыводзілі да ваяводы сілком. Шляхта вырашыла занесці цару сваю скаргу і з гэтаю мэтаю ў 1656 годзе выправіла ад свае грамады Яна Цадроўскага. Цадроўскі аб сваёй дыпламатычнай місіі піша так:

«Застаў яго вялікасць маскоўскага цара ў Друі над ракою Дзвіною. Ён ішоў з вялікім войскам пад Рыгу. Разам з многімі пасламі Вялікага Княства Літоўскага ад розных ваяводстваў і паветаў я цалаваў руку яго царскай вялікасці. Цар ужо сядзеў у карэце, ён выслухаў мяне, пасля сказаў свайму ганарліваму дыякану Забароўскаму прыняць ад мяне чалабітную. Я быў адпраўлены пад Старую Рыгу, бо нам яго царскай вялікасцю было дазволена па-ранейшаму, г. зн. нашымі законамі, самім судзіцца і ўся шляхта была вызвалена ад суда ваяводы. Не загадваў нам, шляхце, ані валоў насыпаць, ані будаваць замка ў Мінску.

Тое ж самае пацвярджала і грамата, якую я прывёз ваяводу ад яго царскай вялікасці».

Звыклае ў часе войнаў бязладдзе спрыяла насіллю і рабункам. Жыхары навакольных вёсак, паставіўшы на чале якогась Мурашку і абраўшы цэнтральным пунктам мястэчка Камень, у 1657 годзе ўчынялі размаітыя самавольствы. Разгромлены яны былі пад Прасовічамі.

У наступным годзе, калі князь Далгарукі ішоў пад Лагойск, а рускія сілы былі сканцэнтраваны ў Барысаве і яго ваколіцах, у Мінску расіяне раскватараваліся ва ўніяцкім кляштары і царкве. Кашталян Кароль Падоскі, сабраўшы з мясцовай шляхты жменьку партызанаў, хацеў з налёту адбіць гэты кляштар. Але калі замах не ўдаўся, шляхта адступіла, завязаўшы бой пад Каменем Гарэцкім, у якім разбіла аддзел рускай пяхоты. Сам кашталян загінуў пад Ваўкавыскам. У канцы гэтага трэцяга перыяду над Мінскам развяваецца чорная харугва Божай кары: чумы, голаду, вайны і агню, пасля якіх места адрадзілася няхутка. Аднак жа ў наступным перыядзе значна менш сустракаецца гэтакіх няшчасцяў і бедаў.

Такім мы бачым Мінск на працягу ўсяго шаснаццатага стагоддзя ажно да паловы сямнаццатага, калі настала рашаючая для старога места гадзіна.

У 1655 годзе вайна з Расіяй набыла жахлівы характар. Шчэрба, Зміеў і Хаванскі занялі ўсю Літву. У Мінск увайшлі казакі, татары і калмыкі, якія распачалі разню, пусцілі агонь… У крыві і попеле загінула большая частка жыхароў, знішчана была большасць дамоў, манастыроў і святынь…

І прыйшоў мор, які цягнуўся больш чым чатыры гады: ад кастрычніка 1653 да студзеня 1658 года. Горад абязлюдзеў, стаў пустэльным, павялічыліся толькі межы могілак — «залюдніліся месты мёртвых».

## VII
## ПАНАВАННЕ ПОЛЬШЧЫ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

### Чацвёрты перыяд

*Першая ўстанова езуітаў. — Польскія камісары. — Тры наведванні Мінска Янам-Казімірам. — Стан места. — Гарбарны цэх. — Закон для жыдоў. — Францысканцы. — Кальвінскі збор. — Яшчэ пра езуітаў. — Кадэнцыя Літоўскага трыбунала ў Мінску. — Заснаванне ордэна бенедыкцінаў, кармелітаў і баніфратаў. — Расіяне ў Мінску: Пётр Вялікі, Мазепа, князь Шарамецьеў і інш. — Слоўца пра Канстанціна Зялінскага, палоннага львоўскага архібіскупа. — Прыход шведаў. — Карл XII. — Кансэкрацыя касцёла езуітаў. — Трохі статыстыкі. — Заснаванне пошты. — Самавольствы езуіцкіх вучняў. — Абрад кананізацыі новых святых. — Зноў расіяне ў Мінску. — Бандыт Крогер. — Знішчэнне пажарам касцёла бернардзінцаў. — Падрабязнасці пра ксяндза Баца. — Пра клімат і ўраджаі. — Дабрачынныя ўстановы. — Расстрэл Валадковіча. — Валадковіч і Праздзецкі. — Выпадкі на выбарах Станіслава-Аўгуста. — Пажар. — Слоўца пра марыявітак і іх патрона ксяндза Турчановіча. — Адмена ордэна езуітаў, падрабязнасці пра іх. — Успаміны пра ксяндза Карыцкага. — Станіслаў Багушэвіч. — Некалькі нязначных выпадкаў. — Пажар. — Новыя законы. — Адыход Мінска пад уладу Расіі.*

У часы спусташэнняў, якіх ужо столькі налічылі мы ў хроніцы Мінска, магутны ордэн езуітаў перасіліў і тут слабую галіну дрэва. Казімір Сангушка, мінскі ваявода, які перайшоў з усходняга абраду на рымскі, духам гэтай найшчырэйшай прыхільнасці напаіў і сваіх дзяцей. Ягоны сын Геранім, пасвечаны ў духоўны сан, дайшоў да смаленскага біскупства і, убачыўшы, што ў Мінску пераважаюць іншыя веравызнанні, замысліў, як сведчыць гісторыя іх роду, паставіць езуітаў на варце каталіцызму. З гэтаю мэтаю ў 1656 годзе пан Крупка з свае маёмасці адпісаў ім 80 000 польскіх злотых. Калі непрыязныя да езуітаў родзічы Сангушкі запярэчылі, што з гэтае маёмасці нельга даваць ахвяраванняў, Сангушка перавёў на іх маёмасць Ракаў. Але калі смерць у наступным годзе перапыніла далейшае спаўненне яго намераў, спадчыннікі адмовілі зноў езуітам у няправільна зробленых запісах. Такім чынам, Сапега, літоўскі падскарбій, ледзьве выплаціў ім 7000 злотых за сваю сястру, якая была жонкай спадчынніка біскупа. Мелі езуіты і падарава-

ную Сангушкам камяніцу на Высокім рынку, купленую за 5000 польскіх злотых у мешчаніна Юркі Хэгера, а таксама невялікую капліцу з шасцю срэбнымі ліхтарамі і вялізным срэбным распяццем, дарам першага фундатара. Першапачаткова ў Мінску маглі ўтрымацца толькі двое езуітаў: адным з іх быў Лукаш Залускі, вядомы прапаведнік і аўтар некалькіх рэлігійных твораў. Калі адзін з айцоў хадзіў у горад прасіць міласціну, другі збіраў дзяцей і навучаў іх катэхізму і асновам граматыкі, прамаўляў палымяныя казані і спавядаў. Назіраючы за дабратворным уплывам карысных спраў езуітаў, а таксама спачуваючы іх нястачам, жыхары Мінска не памарудзілі з падтрымкаю. Зажэмская, ігумення кляштара бенедыкцінак, пасылала ежу; ксёндз Аборскі, пільтынскі канонік і тутэйшы святар, падараваў вёску Падгору; падтрымлівалі іх Станіслаў Заблоцкі, Войцех Пальчэўскі, Раўтлоўскі і іншыя. А таму праз некалькі гадоў езуіты маглі ўжо адкупіць у члена гарадскога магістрата пана Шышкі суседнюю камяніцу для пашырэння свайго дома і касцельнай закрыстыі. У такой беднаце езуіты жылі дваццаць чатыры гады, г. зн. да 1682 года, калі і дачакаліся нарэшце большых прыбыткаў.

Уся Літва была ў руках расіян.

У той час, калі Сапега і Чарнецкі паўсюль вялі змаганне са зброяй у руках, у Мінску вяліся мірныя перамовы. Жмудскі староста Хлябовіч, Станіслаў Сарбеўскі (брат вядомага паэта[8]) і Геранім Вярбоўскі былі прызначаны камісарамі ад Польшчы. Умовы, што дыктавалі расіяне, былі цяжкія, але абставіны вымушалі да іх прыняцця. Перад падпісаннем трактата расійскія камісары атрымалі вестку аб паражэнні Хаванскага 27 чэрвеня 1660 года пад Палонкаю і выехалі з Мінска. Польскія камісары, не ведаючы, што і думаць пра гэты ад'езд, са страхам чакалі, што расійскія войскі прыйдуць браць іх у палон. Чарнецкі прадбачыў гэта і для іх вызвалення выслаў 12 харугваў пад кіраўніцтвам Барэцкага. У ліку іншых рыцараў быў там аўтар вядомых «Успамінаў» пан Ян Хрызастом Паск. Пачуўшы навіну, што нейкія войскі ўвайшлі ў Мінск, камісары ўтрупелі, тым больш што паны рыцары задумалі трошкі іх памістыфікаваць. «Але затое якая была радасць, — піша пан Паск, — калі пан ваявода Мазавецкі пазнаў свайго зяця Барэцкага і крыкнуў: «Бог справядлівы! Бог ласкавы! Гэта нашы!..» Распытвалі аб ходзе вайны; і Барэцкі пачаў ім расказваць, але таварыш яго крыкнуў: «Не распавядай ім, васпане, няхай нас накормяць спачатку!» Тут жа слугі і кухары ўсіх камісараў узяліся распальваць кухню, пражыць ды смажыць, назносіўшы тым часам і гарэлкі, і

віна, і мёду… Мне (дадае Паск) хоць і вельмі хацелася спаць, але пасля расхацелася, слухаючы гэтыя гісторыі і гледзячы на гэтую шчырую ўцеху. Надышоў дзень… Камісары шыкаваліся ў дарогу і выехалі з намі»*.

Вайна з Расіяю працягвалася, і ўвесь час вяліся перамовы аб міры. У 1664 годзе быў прызначаны з'езд камісараў з абодвух бакоў, і кароль Ян-Казімір, прагнучы паўплываць на станоўчыя вынікі кампаніі, вырашыў быць там асабіста. З гэтаю мэтаю, разам з Чарнецкім і Янам Сабескім, будучым польскім каралём, ён прыехаў у Мінск, дзе яго прывітаў расійскі пасол. Тут жа было вырашана правесці з'езд над Дняпром у Магілёве. Кароль туды адбыў, але калі доўгія перамовы не далі вынікаў і надзея на мір прапала, Ян-Казімір 20 мая 1664 года вярнуўся з Магілёва ў Мінск, дзе затрымаўся ажно на два тыдні і прыбыў у Вільню толькі 15 чэрвеня. У гэтым краі займаў яго клопат пра коней для войска. Тыя атрады, што суправаджалі караля, былі ў вельмі дрэнным стане, а самыя мужныя рыцары ішлі пешкі, несучы на сабе акрамя зброі сёдлы і ўвесь ездавы рыштунак. У грамадскай казне не хапала грошай, і кароль вырашыў забіраць коней у шляхты навакольных вёсак і мястэчак, абяцаючы пазней за іх заплаціць. Гэта выклікала незадаволенасць і нараканні, якія немагчыма было перапыніць іначай, як прызначыўшы камісію па аплаце за коней. Трэці раз Ян-Казімір, відаць, наведаў Мінск у чэрвені таго ж года. Але ў якім жа сумным выглядзе паўстала места перад вачыма манарха! Дзе-нідзе віднеліся ўцалелыя ад пажару дамы, рэшта ж цудоўнага града ляжала ў руінах, чарнеючы абпаленымі камінамі. Рэдкі люд снаваў па вуліцах. Ваенная разруха разагнала жыхароў па свеце, а тыя, што засталіся, ледзьве сланяліся і часта, мёртвыя, падалі на вуліцах. Ужо дайшла сюды эпідэмія чумы — неадлучная сяброўка доўгіх і знясільваючых войнаў. Заняпалае мяшчанства не магло ўжо весці шырокі гандаль, што разам з рамёствамі пачаў пераходзіць у рукі да жыдоў, якія з гэтага часу выраслі ў моцнае насельніцтва, рабіліся заможнымі і ўплывовымі.

У часе эпідэміі прадстаўнікі абодвух веравызнанняў, і асабліва езуіты, з дзіўнаю хрысціянскаю бескарыслівасцю аказвалі лекарскую і духоўную дапамогу хворым і паміраючым. У гэтай добрай справе асабліва вызначаўся малады базыльянін Язафат Бражыц, які, дапамагаючы хворым, упадаў у стан каталектычнага забыцця і бачыў незямныя відовішчы. Прывядзём

* Успаміны Паска. Познань, 1840. С. 79.

адно з гэтых відовішчаў, пра якое ксёндз Бражыц апавядаў езуіту Кулешу поўнымі наіўнай веры словамі: «У часе эпідэміі чумы ў Мінску ўпрасіўся я ў старэйшых памагаць хворым. Як нядаўна пасвечаны духоўнік прыслужваў ім, але сам заразіўся і пасля таго памёр. Гаспадар, паклаўшы мяне на дошку, пайшоў рыхтаваць труну. Калі я разлучыўся з целам і дамкнуў да цудоўнага, ясна-зялёнага краю, з’явілася там перада мною вельмі прыгожая дзяўчына і прамовіла: «Падабаецца мне твая шчырая апека над душамі, крывёю майго сына ўратаванымі. Не спыняй яе. Дарую табе яшчэ шмат гадоў жыцця і дар выгнання д’ябла». З тым я і ачуняў, адчуваючы сябе зусім здаровым, але вельмі слабым з-за доўгага голаду пад час хваробы. Паслаў тады я чатырохгадовага хлапчука, які нічога не разумеў, а таму і нічога не баяўся, да бацькі сказаць, каб прынёс мне есці. Але гаспадар яму не паверыў. Тады я другі раз паслаў малога, каб гаспадар сам прыйшоў. Калі ж той наблізіўся да акна і ўгледзеў, што я сяджу, то пачаў уцякаць. Сабраўшы шмат людзей, ледзьве асмеліўся прыйсці дахаты. Я ж, з’еўшы падмацунак, вярнуўся да свае звыклае справы».

Горад памалу пачалі прыводзіць да ладу. У 1673 годзе прывялі ў парадак гарбарны цэх, а ў 1679 годзе Ян III выдаў пэўныя законы для жыдоў; у 1673 годзе Тодар Ванькові, мінскі стольнік і падусвяцкі стараста, усталяваў тут ордэн францысканцаў. Ордэн гэты перад тым ужо меў у Мінску кляштар на адной з галоўных вуліц, якая дасюль звалася Францысканскаю — на тым месцы, дзе цяпер стаіць дом каталіцкага святара пад № 70. Хто і калі ўпершыню заснаваў там францысканцаў і калі затым ордэн іх знік, цяжка нам было прасачыць. Ванькові аднавіў іх калегію і ўсталяваў яе на вуліцы, якая завецца цяпер Новафранцысканскаю і размешчана ў канцы горада, каля Кальварыі. Там быў вымураваны прыгожы касцёл, што хоць і стаіць цяпер пусты, аднак магутна ўзносіць над старым горадам свае чорна-цагляныя вежы. Пра іншыя набожныя і дабрачынныя ахвяраванні Ванькові раскажам пазней.

Каля 1670 года кальвіністы таксама пачалі клапаціцца пра ўзнаўленне свае занядбалае царквы. Нялёгкая гэта была праца. Прысланы для яе заснавання ў 1668 годзе ксёндз Крыштоф з Жарнаўца нават не мог дапытацца месца, дзе яна даўней стаяла. Бог ведае па якім праве, але на гэтым пляцы пабудаваўся арганісты з каталіцкага касцёла, заклаўшы ў сваім доме шынок. Ксёндз Крыштоф на хуткую руку зляпіў невялікі касцёлік, але калі збіралася шмат шляхты і гэта святыня не магла яе змясціць,

то адпраўляў імшу пад адкрытым небам. Нарэшце, ахвяраю ста коп грошаў, пазбыліся адсюль арганістага. Януш Радзівіл выдзеліў з смалявіцкіх пушчаў дрэва, на ахвяраванні і складчыну закупілі іншы матэрыял, і ў 1671 годзе будаўніцтва царквы было закончана.

Але паступова колькасць езуітаў вырасла, і ўпэўненасць у сваёй моцы зноў падштурхнула іх да звыклага падбухторвання сваіх вучняў на авантуры і розныя непрыемнасці ў дачыненні з іншаверцамі. Кімсьці накіраваная невядомая рука спаліла капліцу кальвіністаў і дом пастара. Аб гэтым кімсьці няцяжка здагадацца. А каля 1680 года, калі ордэн езуітаў стаў яшчэ мацнейшым, кальвінскі святар, які прыязджаў з Койданава, ужо з цяжкасцю адпраўляў набажэнства ў прыватным доме, баючыся нападу езуіцкіх шкаляроў.

Павольна, але няўхільна ордэн езуітаў мацнеў. Троцкі ваявода Цыпрыян Бжастоўскі з жонкаю Рахеллю, якая паходзіла з Дуніных-Раецкіх, адпісалі ім у 1682 годзе ў маёнтку Ніжыцы 50 000 злотых.

У наступным годзе Марыян Агінскі з Казельска, літоўскі канцлер, разам з жонкаю Ізабэлаю Хлябовіч, адпісаў езуітам такую ж суму ў Глівіне і Упярэвічах, аддаўшы ім затым і свае маёнткі. Спадчыннікі Агінскага, аднак, выгналі езуітаў з Глівіна і Упярэвіч. Святыя айцы рушылі скардзіцца да Сапегі, але, нічога там не дабіўшыся, падалі нашчадкаў сваіх благадзецеляў на біскупскі суд, дзе засядаў Канстанцін Бжастоўскі. Суд аддаў непакорных анафеме, якая публічна адбылася ў барысаўскім касцёле. Так страхам і грозьбамі езуіты прымусілі пераемнікаў Агінскага вярнуць ім Глівіна і Упярэвічы.

Павялічыўшы маёмасць, езуіты, на радасць мясцовай шляхце, пачалі выкладаць у сваіх школах рыторыку, паэзію і граматыку. Канстытуцыя сейма ў 1683 годзе зацвердзіла гэтыя школы і перададзеную ім маёмасць. У 1690 годзе для рэлігійнай і настаўніцкай працы езуіты трымалі ўсяго шэсць духоўнікаў, а ў 1692 годзе іх было ўжо дванаццаць. Акрамя таго, езуіты наварочвалі да свае веры многіх іншаверцаў. Прымаліся на вучобу за плату дзеці багацейшых мяшчан, аднак выхоўвалася тут і 30 бедных вучняў. Так ажно да канца XVII стагоддзя шчасліва існаваў і пашыраўся ордэн езуітаў.

У 1694 годзе надарыўся пажар, які жахліва знішчыў увесь горад. Езуіты, якія ў выніку пажару страцілі толькі млын, у сваёй хроніцы гэты выпадак апісалі даволі абыякава. Але мы маем пра яго некаторыя звесткі з іншых крыніц. Вясною 1698 года

праз Мінск праходзіла пасольская місія, адпраўленая нямецкім імператарам да Пятра Вялікага. Сакратар і гістарыёграф гэтай місіі Ян Юрый Корб так апісвае свой побыт у Мінску: «20 сакавіка прыбылі мы ў Мінск, 21-га быў адпачынак; мы слухалі св. імшу ў езуітаў. Калегія гэта, як мы чулі, даволі бедная, пры ёй ледзьве існуе 12 айцоў. Базыльянам, бернардзінцам і кармелітам дакучае тое ж самае. Толькі адны дамініканцы багацейшыя. За гады тры да нашага прыезду ўзнік пажар, які звёў даўней багатае і слаўнае места да такога жахлівага становішча, што нават гандаль, які колісь тут так шырока развіваўся, цяпер ледзь тлее. У хоры францысканцаў ледзьве чуваць толькі два слабыя галасы, што сведчыць пра іх убогае існаванне. У езуітаў ляжаў адзін хворы капуцын, які з двума кармелітамі вярнуўся з Персіі. Яго наведаў наш пасол з панам місіянерам Янам Барулем і аптэкарам, маючы пры сабе аднаго толькі слугу. Даведаўшыся пра стан хваробы манаха, пасол загадаў, каб лекі, да поўнага выздараўлення хворага, выдаваліся з яго ўласнай аптэкі».

22 сакавіка, пабыўшы на імшы ў дамініканцаў, місія адправілася далей.

У тым жа годзе, у жніўні, пасольская місія вярталася з Масквы. 17 і 18 жніўня пaслы правялі ў Мінску, а 19-га выехалі ў дарогу і праз Вязань, Койданава, Засулле, Жукаў Барок, Мір, Сталовічы і Слонім скіраваліся на Варшаву.

У 1699 годзе мінскія езуіты пабудавалі новыя школы, і ў тым жа годзе, згодна з сеймавым правам, Мінску была выдзелена немалая дапамога, і наплыў людзей у горад павялічыўся. Дасюль Літоўскі трыбунал засядаў у Вільні з альтэрнатываю Мінска, але вельмі неакрэсленаю. Дзякуючы новаму закону трыбунал пачаў засядаць толькі праз 20 тыдняў у сталіцы Літвы, а праз другія 20 тыдняў, па чарзе, у Наваградку і ў Мінску. Пазней трыбунал казны пачаў праводзіць свае з'езды ў Мінску. Толькі судовыя справы паміж людзьмі свецкімі і духавенствам праходзілі не ў Мінску ці Наваградку, а выключна ў Вільні.

Не адны езуіты мелі карысць ад шчодрай рукі і набожных сэрцаў літоўскай шляхты. Побач з Таварыствам Езуса, а часам нават яму наперакор, выраcталі іншыя законныя і дабрачынныя ўстановы.

Ганна Стацкевіч заснавала тут касцёл бенедыкцінаў. Запісам ад 23 красавіка 1700 года Антоні Тодар Ванькoвіч, пра якога мы ўжо вышэй згадвалі, прывёў сюды кармелітаў і дакументам ад 1 снежня 1703 года апісаў ім 3000 польскіх злотых, свой маёнтак Саковічы і ўсю касцельную маёмасць, пры ўмове ўтрымання там бедных і хворых людзей.

Аднак заўсёдная шчодрасць шляхты ў адносінах да іншых рэлігійных устаноў не магла параўнацца з тым, як адорваліся езуіты, што праславіліся наладжваннем школ і апостальскай працаю. Разбагацеўшы на шчодрых міласцінах, у 1700 годзе яны заклалі фундамент мураванага касцёла Езуса, Марыі і св. Барбары. Абрад асвячэння вуглавога каменя правёў езуіт Антоні Бжастоўскі, прысланы дзеля гэтага сваім братам Канстанцінам Бжастоўскім — віленскім біскупам, вядомым пратэктарам езуітаў.

У наступным, 1701 годзе Станіслаў Заблоцкі адпісаў на будаўніцтва касцёла 14 000 злотых; смаленскі канонік, Ян Філіповіч, аддаў 2000 злотых для тае ж мэты; Юрый Фурс адпісаў езуітам сваю вёску Вяснянку; шляхта, сабраная ў 1705 годзе на Літоўскі трыбунал, таксама сыпнула шчодрымі прыгаршчамі на будаўніцтва касцёла. Прымаючы размаітыя дары і ахвяраванні, езуіты адначасова вялі судовыя працэсы з спадчыннікамі сваіх благадзецеляў, а таксама закідвалі скаргамі ўлады краю, калі якая вайсковая харугва расквatароўвалася ў іх вёсцы альбо вымагала якіх-кольвечы пабораў.

Аднак, калі ўся краіна зносіла суровыя ваенныя цяжкасці, нельга было рабіць выключэнне адным езуітам. Ваенная разруха на пачатку 1706 года прымусіла іх распусціць сваю школу, якая была зачынена ажно да верасня.

Пад канец таго ж года ў Мінск, на чале рускага войска, увайшоў Пётр Вялікі і заняў кватэру ў цяперашнім доме п. Галаўні на Юр’еўскай вуліцы.

Езуіты з пахвальбою засведчылі ў сваіх штогодніках асаблівую ласку паўночнага імператара да іх арганізацыі, апісаўшы тое, як ён двойчы ў іх абедаў. Пісалі яны таксама і пра асаблівую сімпатыю з боку Мазепы, які з цветам казацкай моладзі бываў у іхнім касцёле на казанях і набажэнствах, прымаў ад іх публічнае прывітанне і не хацеў анічога есці, апроч таго, што гатавалася на езуіцкай кухні.

Калі ў тым жа годзе пачала шырыцца эпідэмія чумы, езуіты праявілі сваю хрысціянскую адданасць, рыхтуючы ў апошнюю дарогу пракажоных.

Пажар у Мінску знішчыў нямала дамоў. Рускія ўвесь час, з нявялікімі перапынкамі, гасцілі ў Мінску, і езуіты пастаянна пахваляліся прыхільнымі адносінамі іхніх палкаводцаў. Такім чынам: князь Шарамецьеў у дзень святога Станіслава Косткі ў 1708 годзе падараваў ім багатую залачоную дараносіцу, якая каштавала, самае малое, сто тагачасных імперыялаў.

2 студзеня таго ж года ў Мінск прыбыў рускі палонны, львоўскі архібіскуп Канстанты Зялінскі, які, насуперак волі Апостальскай сталіцы, каранаваў Станіслава Ляшчынскага.

Зялінскі хацеў жыць у езуітаў, але супраць гэтага выступілі рускія вышэйшыя чыны. А таму ён вымушаны быў заняць дзве сціплыя каморкі ў дамініканцаў, абыходзячыся толькі ежаю, якую яму дасылалі езуіты. Князь Шарамецьеў і генерал Шарф па-людску ставіліся да Зялінскага, спачувалі яму і клапаціліся пра ягонае вызваленне. Настаяцель езуіцкага манастыра выслаў аднаго з манахаў у небяспечную дарогу да родных архібіскупа, каб намовіць іх таксама клапаціцца пра гэтае вызваленне. Манах трапіў да караля Станіслава Ляшчынскага і Карла XII, але атрымаў толькі пустыя абяцанкі. Зялінскага адвезлі ў Маскву, дзе ён і скончыў сваё жыццё.

Набліжаліся шведскія войскі. Валахі, якія ішлі паперадзе іх, ужо былі ў Мінску і ледзьве не захапілі ў палон жонку фельдмаршала Меншыкава. Рускія, якія мусілі адступіць перад непрыяцелем, падпалілі камяніцу старонніка шведаў Сапегі, што стаяла на Высокім рынку, і, выхопліваючы з пажару рэчы, прыгодныя для паходнага ўжытку, рыхтаваліся пакінуць горад. Шведскім валахам далі, аднак, адпор, і рускія зноў вярнуліся ў горад. Незалежна ад намаганняў іх палкаводцаў расло самавольства калмыкаў і татар: пажары і рабункі сталі паўсядзённаю з'яваю… Пасля другога адыходу рускіх у Мінск увайшоў Карл XII, які намерваўся праз Смілавічы, Ігумен і Бялынічы ісці да Галаўчына. На горад была накладзена цяжкая кантрыбуцыя. Шведскі кароль адмахнуўся ад настойлівых скаргаў жыхароў, якія расказвалі яму пра ўціск і разбоі. Нягледзячы на ласку, якою акружыў езуітаў шведскі канцлер Сперлінг, яны павінны былі аддаць свой фальварак пад Мінскам, які каштаваў тысячу злотых, і тую, падараваную Шарамецьевым, дараносіцу для аплаты шведскай кантрыбуцыі і пратэкцыі.

Нарэшце паўсталі муры езуіцкай святыні, куды ў дзень св. Ігната, патрона езуітаў, было перанесена набажэнства з старога маленькага касцёла. Ксёндз Длужкевіч, смаленскі канонік, спяваў урачыстую імшу. Ксёндз Аляксандр Берноф, абат мінскіх дамініканцаў, выступіў з пранікнёнай пропаведдзю. Праз некалькі тыдняў пасля гэтага ў новы касцёл была ўведзена духоўная кангрэгацыя і ў вялікім алтары змясцілі старажытны цудоўны абраз Прасвятой Дзевы Марыі, падараваны біскупам Бжастоўскім. Вышэйшае духавенства, шляхта, чыноўнікі — усе, хто жыў у Мінску, прымалі ўдзел у езуіцкіх урачыстасцях.

Перапыніў іх ганец ад гетмана Сапегі, які дамагаўся новых кантрыбуцый з места, над якім яшчэ курыўся дым ваенных пажараў.

Пачатак наступнага, 1710 года запомніўся суроваю снежнаю зімою, голадам, жаўнерскімі паборамі і новым прыходам у Мінск рускіх на чале з Шарамецьевым, Гюнтэмам, Брусам, Гольтцам, Валконскім і іншымі. У прысутнасці гэтых военачальнікаў віленскі біскуп Канстанцін Бжастоўскі 16 сакавіка асвяціў гэту езуіцкую святыню, змясціўшы ў алтарах рэліквіі святых Даміяна, Канстанцыі і Аматора. Пабежмаваў каля 500 чалавек і абвясціў новых фундатараў. На цудоўным, хоць і посным абедзе ў езуіцкім рэфектарацe біскуп баляваў разам з рускімі палкаводцамі.

Аздоба касцёла ўвесь час багацела. Шляхта — Цяклевічы і Юневічы — ахвяравала 1000 злотых на цёплую закрыстыю. Езуіт Якуб Валадковіч заснаваў капліцу для школьнай моладзі. Алтар св. Яна Хрысціцеля быў збудаваны і аздоблены на сродкі Адама Свалынскага, мінскага гарадскога суддзі, на алтар Станіслава Косткі даў грошы Францішак Валадковіч, на алтар св. Ігнацыя — смаленскі канонік Мікалай Прарадоўскі. Ён жа ахвяраваў для касцёла драўляную статую св. Дзевы Марыі і поўную суму на касцельную музыку.

Віленскі біскуп Бжастоўскі нікому не даў апярэдзіць сябе ў аздабленні езуіцкай святыні: ён падараваў ёй багатыя рызы, абразы святых Антонія з Падуі, Тэрэзы і Францішка Сарафіцкага, а таксама дзвесце кніг для калегіяльнай бібліятэкі.

Крыштоф Завіша, які атрымаў з Рыма цела св. Феліцыяна-пакутніка, перадаў яго названаму касцёлу. У 1713 годзе біскуп Бжастоўскі ў шматлікім суправаджэнні смаленскіх і віленскіх святароў, паноў і шляхты, што сабраліся на трыбунал, правёў абрад урачыстага ўносу цела Феліцыяна-пакутніка ў езуіцкую святыню. Не трэба, пэўна, дадаваць, што гучалі пры гэтым музыка, казані, вершы, былі зроблены алегарычныя надпісы — адным словам, усё, што мае адносіны да аздобы ўрачыстай касцельнай службы езуітаў.

У наступным, 1714 годзе мінскай рэзідэнцыі была нададзена годнасць калегіі, а яе настаяцель Антоні Бжастоўскі (брат віленскага біскупа) атрымаў тытул рэктара.

Канстытуцыя сейма 1717 года вылічвае наступныя падаткі з места Мінска: пагалоўнага жыдоўскага — 2000 польскія злотыя; хіберны ад жыдоў — 602 злотых, ад хрысціян — 1460 злотых; замкавая юрысдыкцыя — 20, што складае 4682 польскіх злотых.

Аднак жа гэтыя лічбы не даюць нам мажлівасці падлічыць колькасць насельніцтва або колькасць дамоў, бо падаткі ўстаноўлены агулам.

Калі браць за аснову пазнейшы за 1764 год закон, які ўстанаўліваў для аднае асобы жыдоўскай нацыянальнасці два злотыя падатку, то атрымліваецца, што ў Мінску было каля 1000 чалавек гэтай нацыі — лічба нечувана малая, якую можна вытлумачыць хіба толькі тым, што жыды звычайна ўтойваюць рэальную лічбу свайго насельніцтва і змяншаюць яе пры абкладанні падаткам.

Наша здагадка пра тое, што жыдоў у Мінску павінна было быць нашмат больш, пацвярджаецца, бо ў прывілеях, дадзеных ім Янам III у 1679 годзе, чытаем, што жыды мелі свае камяніцы, дзесяць крамаў, дваццаць адзін пляц, тры дамы, якія займалі школы, свае малельныя дамы і лазні і што ім дазвалялася: будаваць за горадам саладоўні і бровары, развіваць рымарскае, гарбарнае, цырульнае, барвярнае, токарскае, шклярскае, ювелірнае і іншыя рамёствы, гандляваць разматымі таварамі, рэзаць быдла і адчыняць мясныя лаўкі.

Доказ росту насельніцтва і развітага гандлю, які тут, як і ўсюды, — у часы Яна-Казіміра ад збяднелых хрысціян пераходзіў да жыдоў. Але ўвогуле няма нічога цяжэйшага, як знайсці статыстычныя дадзеныя з часоў старажытнай Польшчы, дзе не вёўся перапіс насельніцтва або вёўся даволі недакладна. У тарыфе, напрыклад, дымоў земскіх маёнткаў, спадчынных, шляхецкіх, духоўных, каралеўскіх у тым жа 1717 годзе знаходзім, што Мінскае ваяводства з Мінскім і Мазырскім паветамі ледзьве налічвала 6850 дымоў, — лічба нечувана малая і, без сумнення, далёкая ад рэальнасці.

У тым жа яшчэ 1717 годзе на аб’ядноўчым сейме была ўведзена пастаянная пошта з Вільні праз Мінск і Магілёў да мяжы з Расіяю.

У 1721 годзе дазволена было наладзіць паштовыя камунікацыі паміж Мінскам і Наваградкам як трыбунальскімі местамі.

Пад уладаю Сасаў спакойна праходзілі гады першай паловы XVIII стагоддзя. Наступілі больш ураджайныя леты, увайшлі ў моду раскоша, шчодра акропленыя віном урачыстасці, езуіцкія панегірыкі, іншыя тлумныя працэсы, бо шляхта наша не любіла бяздзейнасці, а калі ўжо за што бралася, то не спынялася на паўдарозе. Дух набожнасці шырока агарнуў край, моцна авалодаў сэрцамі.

Расла колькасць брацтваў. Ахвяраванні паноў і шляхты ўзрасталі. Зайздросцячы часам адно аднаму, брацтвы змагаліся паміж сабою. Наймагутнейшыя з манахаў, езуіты, натуральна, былі неаднойчы прадметам зайздрасці іншаверцаў і расплачваліся за гэта сваім спакоем. Яны давалі адпор сваім праціўнікам, не выбіраючы сродкаў. Дадайма да ўсяго, што звычай таго часу дазваляў выкарыстоўваць школьную моладзь для помсты, і таму праваахоўныя органы скрозь пальцы пазіралі на вулічныя сутычкі, якімі кіравалі набожныя рукі.

Адзін з такіх, даволі звычайных па тым часе, выпадкаў апісалі ў сваіх штогодніках мінскія езуіты ў 1727 годзе. Некалькі іхніх вучняў уцякло ў школку да айцоў дамініканцаў. Калі ж, нягледзячы на некалькі пададзеных рэкламацый, уцекачы не былі выдадзены, езуіты пастанавілі іх адабраць сілаю. У адзін вечар дамініканцы вярталіся з нешпару ад бенедыкцінак разам з беглымі бурсакамі. З езуіцкай калегіі ў гэты час вырваліся вучні і тут жа схапілі сваіх былых таварышаў. Дамініканцы пачалі клікаць на дапамогу: збегся прыхільны да іх гарадскі люд, завязалася бойка, пайшлі ў ход кіі. Уцекачы былі вернуты назад, а дамініканцы назаўтра падалі скаргу біскупу Бжастоўскаму, які ў той час быў у Мінску. Суддзя гэты быў даволі неаб’ектыўны, бо з’яўляўся шчырым паплечнікам езуітаў. Прыгавор быў вынесены не на карысць пакрыўджаных, але пасля ўмяшальніцтва настаяцеля дамініканцаў усё завяршылася тым, што быў захаваны гонар абодвух бакоў. У касцёле дамініканцаў свавольныя вучні павінны былі публічна прасіць прабачэння і ляжаць крыжам у прысутнасці ксяндзоў езуітаў; а пасля — у прысутнасці святароў дамініканцаў, у езуіцкай школе было прызначана пакаранне ўцекачам, якія сталі прычынаю сутычкі. Езуіты высакародна адмянілі пакаранне, вучні вярнуліся, як сведчыць езуіцкі летапісец, «з перамір’ем і прабачаныя за ўсе абразы абодвух бакоў».

Непакаранае свавольства езуіцкіх вучняў у наступным, 1728 годзе справакавала новы, яшчэ горшы выпадак: за пакаранне аднаго з вучняў гарадскім суддзёю Быкоўскім уся школа ўступіла супраць яго ў змову — шкаляры тры дні бегалі па горадзе з грозьбамі і стралянінаю і ледзьве паддаліся на ўгаворы скласці зброю.

Езуіты любілі з раскошаю праводзіць ушанаванне патронаў свайго брацтва. Калі ў 1728 годзе Бенедыкт XIII абвясціў кананізацыю святых Станіслава Косткі і Алойзы Ганзагі, адбыліся найпышнейшыя ўрачыстасці ва ўсіх езуіцкіх калегіях.

Нават цяжка ўявіць, як святочна праходзіла ўрачыстасць 19 чэрвеня ў Вільні.

З меншаю раскошаю, але не менш прыгожа, праходзіла свята ў Мінску. Прывядзём яго апісанне з рукапіснага летапісу езуітаў.

«Перад Вялікім постам, за некалькі дзён да запустаў, пад гукі размаітай музыкі і стрэлы гармат, якія дзеля гэтага прывезлі з Слуцка, у парафіяльным касцёле распачаў нешпар віленскі біскуп. Ксёндз з Оршы гаварыў казань, у якой усхваляў езуіцкіх святых. Назаўтра, пасля імшы і казані ў парафіяльным касцёле, былі ўскладзены на трыумфальную павозку фігуры новакананізаваных святых і праз увесь горад адпраўлены да езуітаў.

Гэты картэж быў упрыгожаны жывымі агнямі, прысланымі ад гарадскіх установ, яго суправаджала конная і пешая школьная моладзь з запаленымі паходнямі. За вучнямі ішло духавенства і віленскі біскуп, вылучаны ад канонікаў і прэлатаў. За біскупам крочыла трыбунальская рота, а таксама шмат сенатараў і саноўнікаў, чыноўнікаў і шляхты Мінскага ваяводства, а за імі плыў такі агромністы натоўп, што яго ледзьве маглі змясціць гарадскія вуліцы. Дастаўленых такім чынам святых прывітаў у касцёле ксёндз Жаброўскі, а біскуп Бжастоўскі імшою распачаў шэраг урачыстасцяў, што працягваліся тры дні, з казанямі і працэсіямі з раніцы і пасля абеду. Усе гэтыя тры дні касцёл быў ярка асветлены і ўпрыгожаны, а на рынку ўвесь час грымелі гарматы і ручная зброя, без аніякай шкоды для горада і без небяспекі пажару».

У 1730 годзе езуіты мірылі даўнюю варожасць паміж дамамі Завішаў, Быкоўскіх і Валадковічаў. Пасля наступіўшай згоды паяднаныя бакі шчодрымі дарамі асыпалі капліцу св. Феліцыяна. У капліцы з'явіліся срэбная, што магла пастаянна гарэць, лямпа, а таксама срэбнае покрыва для труны з рэліквіямі святога. Над касцёлам былі ўзведзены дзве вежы, адна з якіх мела званіцу, а другая — гадзіннік з боем*. Пасля касцёл быў пабелены і атынкаваны і стаў галоўнаю аздобаю места. Праз пару гадоў пасля таго жыхар Мінска Фурс падараваў езуітам свой фальварачак за Татарскаю вуліцаю, які яны адвялі пад тыднёвы адпачынак школьнай моладзі.

Спакойнае жыццё ў краі было перапынена смерцю Аўгуста II у лютым 1733 года. Новыя прэтэнзіі Станіслава Ляшчынскага

* Гадзіннік быў прывезены з Гданьска. Над яго ўстаноўкаю майстра працаваў тры кварталы.

да Польскай кароны зноў справакавалі ваеннае наступленне Расіі. У верасні і кастрычніку праз Барысаў і Мінск прайшло больш як 20 000 рускай рэгулярнай пяхоты і кавалерыі, за якімі цягнуліся незлічоныя хмары казакаў і калмыкаў. Дысцыпліна ў рускім войску была добрая. Генералы Валконскі і Заруцкі, а таксама казацкія палкаводцы Грабянка і Лізагуб прыстойна абыходзіліся з насельніцтвам, наведвалі касцёлы і кляштары, прымалі гасціннасць духавенства і ўсім аказвалі шчырую апеку.

У Літве распачалася канфедэрацыя на карысць караля Станіслава Ляшчынскага пад старшынствам віцебскага ваяводы Марціна Агінскага. На Мінскае ваяводства быў накладзены падымны пабор, але ўвогуле падаткі не вельмі абцяжарвалі, бо Станіслаў Ляшчынскі два гады ўтрымліваў войска на ўласныя сродкі. Мінскае ваяводства выставіла дзве харугвы войска, конную і пешую. Пешымі камандаваў афіцэр Яцэвіч, які разам з пяхотаю іншых ваяводстваў быў разбіты рускімі пад Сяльцом. Камандавац коннаю харугваю на сейміках былі абраны Стацкевіч і Станіслаў Пішчала, абодва паважаныя і любімыя войскам, а таксама вядомыя сваімі рыцарскімі заслугамі. (Пішчала вызначыўся як намеснік гетмана ў часе мінулых шведскіх войнаў.) Абодва яны загінулі пад Вільняю.

Бескаралеўе ў Польшчы давала шырокі прастор рознай набрыдзі для разбою і насілля. Яшчэ пры жыцці Аўгуста II якісь шляхціч Адам Крогер, сабраўшы банду супольнікаў, наганяў страх на ўсю Літву. Нападаў на дамы несімпатычнай яму шляхты, спусташаў іх, рабаваў, збіваў гаспадароў, адным словам, зрабіўся сапраўдным бандытам. Ён быў схоплены і пастаўлены ў Наваградку перад трыбуналам, але ў гэты момант прыйшла вестка аб смерці караля. Трыбунал страціў сваю ўладу і, не могучы судзіць і караць, адпусціў бандыта на парукі.

Безуладдзе ў краі адкрыла перад Крогерам яшчэ шырэйшыя мажлівасці для разбою. Ён пачаў наводзіць сваіх прыяцеляў на дамы і касцёлы, здзекаваўся з маладых дзяўчат, зневажаў духавенства. Схапіўшы двух езуітаў з Оршы і Гародні, закаваў іх у адну свору са старажавым сабакам і даставіў рускаму военачальніку, князю Рапніну. Шляхетны князь, абураны злачынцам, сурова пакараў яго і з гонарам вызваліў езуітаў.

Літоўскі гетман, князь Міхал Вішнявецкі, выправіў вялікую харугву для захопу бандыта і яго саўдзельнікаў. Банда Крогера была разбіта, а сам ён схоплены і адведзены ў Мінск. У 1737 годзе судом трыбунала Крогер быў асуджаны на смерць,

якую прыняў па-хрысціянску мужна, падрыхтаваны ў апошнюю дарогу адным езуітам.

Ноччу з 24 на 25 чэрвеня на Высокім рынку з магазіна шаўца Дадарацкага заняўся пажар, які знішчыў у Мінску некалькі дзясяткаў дамоў, пашкодзіў званіцу базыльянаў і пагражаў езуіцкаму касцёлу. Пажар згасілі без асаблівых на гэты раз вынікаў. Але ў наступным годзе полымя знішчыла кляштар і касцёл бернардзінцаў, якія на пэўны час знайшлі гасцінны прытулак пад езуіцкім дахам.

У першым перыядзе хронікі Мінска мы зрабілі блізкае да ісціны дапушчэнне, што тут жыў Баян, найстарэйшы вяшчун славяншчыны. Далей было сказана, што тут распачалі сваю дзейнасць вядомыя ў гісторыі уніі Міхал Рагоза і Мялецій Сматрыцкі. Яшчэ хочацца далучыць да славы Мінска незвычайную ў сваім родзе знакамітасць ксяндза Юзафа Бака, бессмяротнага паэта, які апяваў немінучасць смерці. З даследаванняў Юльяна Барташэвіча[9] і ўласных ужо ведаем, што гэты дзеяч нарадзіўся каля 1706 года, што езуітам стаў у 1723 годзе, што доўгі час заставаўся ў Дукштанскай місіі, заснаванай рэктарам мінскіх езуітаў, Іосіфам Рудамінам, што, заахвочаны прыкладам таго ж Рудаміна, выпрасіў у бацькі для езуітаў 10 000 польскіх злотых, а таксама маёнткі Сліжын і Янушкевічы і сам заснаваў у Ігуменскім павеце ў мястэчку Блоні місію, якая пазней была названа Баканскай і настаяцелем у якой ён быў з 1745 года шмат часу. Але перш чым Юзаф Бака стаў настаяцелем і вядомым паэтам, у Мінску ён праславіўся як прапаведнік. Першую згадку пра яго знаходзім у езуіцкім летапісе каля 1739 года, якая сведчыць, што 18 чэрвеня таго ж года Бака меў жалобную казань на пышным пахаванні Ігната Завішы, літоўскага прыдворнага маршалка. Можа, якраз тут, дзе ярка гарэла 4000 свечак і 12 000 лямпаў, залітых аліваю, дзе салютавала войска і дзе, акружаны незлічонаю колькасцю духавенства Антоні Тышкевіч, метаненскі біскуп, вікарый кіеўскі і жмудскі, аддаваў нябожчыку Завішу апошнюю пашану, можа, якраз тут — паўтараем — сціплы і набожны ксёндз Бака, гледзячы на славу і тлен чалавека, упершыню адчуў жаданне сказаць пра немінучасць смерці, можа, тут, на амбоне, прыйшлі да яго гэтыя вершы:

Чалавек, як дуб,
Але смерці зуб
З пня яго зваліць.

Крэслы, троны і кароны
Яе крылы спаляць…

Колькі ж у той казані магло быць узнёслых паэтычных месцаў, колькі глыбокіх думак, якія потым выліліся ў рыфмы! Гаворым гэта не жартам: у Бака была багатая фантазія, і калі яму не пашанцавала з вершаванаю формаю, то паважная форма казані магла яму паслужыць лепей.

З 1737 года амаль 10 гадоў суцэльнаю палосаю цягнуліся неўраджаі, а таму 1740 год быў памятны голадам, асабліва ў халодную зацяжную вясну, якая доўжылася ажно да позняга лета. У наступным, 1741 годзе як вынік голаду навалíліся хваробы і смерці. Праз год, у 1742 годзе, пачаліся навадненні. У 1745 годзе зноў голад вылюдніў вёскі. Два наступныя гады ўраджай таксама быў мізэрны.

Асеннія дажджы 1751 года зноў прывялі да неўраджаю, голаду і дарагавізны. У 1753 годзе хоць у край і вярнуўся звычайны ўраджай, але затое пачаўся падзеж жывёлы, які ў наступным годзе зноў выклікаў нястачу.

Закранутая гэтулькімі бедамі, літоўская шляхта ўсё ж знаходзіла сродкі для непатрэбных гулянак, фарсоўных сеймікаў і зацяглых дарагіх працэсаў. Усё гэта рабілася ў нашым грамадстве пры ўладзе Сасаў. Але, трацячы грошы, нашы продкі заўсёды ўмелі дастаткова знайсці іх на хвалу Бога і дабрачынныя мэты.

Лукаш Богуш-Шышка, жыхар Мінска, складаючы апошні тастамент 4 лютага 1646 года, сярод іншых набожных запісаў прызначыў 1500 польскіх злотых на будаўніцтва бальніцы на ўласным пляцы каля Койданаўскай брамы, а таксама аддаў і другі пляц, названы Сушынскім, які быў куплены ў Манулы, па вуліцы Койданаўскай, недалёка ад той жа брамы, і ахвяраваў яшчэ 750 злотых на харчы і апратку ўбогім, якія маглі жыць пры гэтай бальніцы. Калі ж па прычыне вайны і складанасцяў часу гэты тастамент не быў выкананы, нашчадкі Лукаша Шышкі самі адбудавалі бальніцу і па магчымасці забяспечвалі бедных. У 1752 годзе, калі Тамаш Стацэвіч заснаваў бальніцу для хворых на рахіт, Юрый, Базыль, Тодар і Міхал Шышкі, унукі згаданага Лукаша, далучылі сюды свае ахвяраванні. І так, дзякуючы гэтым падвойным намаганням, вырасла на вуліцы Койданаўскай, каля гарадской брамы, салідная дабрачынная ўстанова, з прыгожым, хоць і не вялікім, касцёлам і са сваім фондам, які склаў каля 7000 ср. паводле цяперашніх падлікаў.

Мы ўжо прыгадвалі пра заснаванне ў 1709 годзе Тодарам Ваньковічам ордэна баніфратаў. Цяпер, у 1750 годзе, ксёндз Аўгустын Антоні Любянецкі, дыяспалітанскі біскуп, мінскі абат ордэна св. Базыля, адпісаў тым жа баніфратам 8000 злотых у сваім маёнтку Гаяны, а таксама падараваў іх касцёлу абразы святых Антонія і Аўгустына.

Такім чынам, у палове XVIII стагоддзя Мінск меў дзве вялікія дабрачынныя ўстановы для хворых, што былі заснаваны на грошы шляхты і апекаваліся набожнаю рукою манахаў.

Пастаянна падтрымліваючы іншыя ордэны, наша шляхта не пераставала дапамагаць езуітам. У 1750 годзе дзякуючы складчыне была закончана вялікая вежа пры ўваходзе ў калегію (якая і цяпер стаіць перад будынкам казённай палаты). Падвешаны ў ёй агромністы звон, адліты ў Круляўцы, названы па імені свайго фундатара «Юзафам Салагубам».

Бездапаможная ўлада Аўгуста III адкрыла шырокія магчымасці для самавольства магнатаў. Маладыя, багаты і ўплывовы Кароль Радзівіл, віленскі ваявода, літоўскі мечнік, трывожыў Літву сваім гайдамацкім свавольствам. Міхал Валадковіч, неразлучны таварыш і прыяцель Радзівіла, упэўнены ў яго магутнай апецы, беспакарана самавольнічаў, насміхаючыся з законаў краю. У 1760 годзе, будучы дэпутатам на трыбунал, раз’ятраны сваркаю з сябрукамі, Валадковіч параніў у судовай палаце дэпутата Длускага і шабляю сцяў распяцце, якое стаяла на стале. Варожа настроеныя да Радзівіла магнаты і шляхта ўхапіліся за гэтую акалічнасць і прыцягнулі Валадковіча на суд трыбунала, які засядаў пад старшынствам Сапегі і вынес прысуд, у выніку якога Валадковіч у кардэгардыі старога Мінскага замка (цяпер дом Чалгакова) апоўначы быў расстраляны. Пачуўшы вестку аб небяспецы, якая пагражала сябру, узброены Радзівіл паспяшаў у Мінск. Але ўжо было позна. Браты Валадковіча, палкоўнік Іосіф і мінскі краўчы Тадэвуш, падалі 30 сакавіка таго ж года абжалаванне. Імкнучыся са зброяй адпомсціць непрыяцелям за братнюю кроў, яны правакавалі ў краіне бесперапынныя грамадзянскія войны (…).

Радзівілаўскае акружэнне хутка знайшло магчымасць балюча адпомсціць за свае крыўды, абраўшы Радзівіла маршалкам трыбунала. Калі верыць злым выказванням праціўнікаў, гэтае кіраўніцтва Радзівіла было страшэнна несправядлівым і вызначалася самавольствам. Новы маршалак трыбунала выкочваў гарматы пад Віленскі замак, ставіў узброеных салдат у судовых палатах і не дапускаў туды шляхту з маніфестамі, выдаючы

дэкрэты на сваіх непрыяцеляў і пад’юджваючы самаўпраўства свайго акружэння да такой ступені, што ў часе мінскіх сеймікаў у палаце пасяджэнняў быў забіты шляхціч Багушэвіч.

Смерць Аўгуста III не перапыніла гэтых крывавых грамадзянскіх сутычак, а, наадварот, яшчэ павялічыла. Радзівіл, вымушаны закрыць трыбунал, надумаў разам з сваімі прыхільнікамі захапіць канфедэратыўныя суды. Па ўсіх паветах, на сейміках шчодра лілася кроў варожых партый. Але насіллю павінен быў нарэшце прыйсці канец. Моцная групоўка ворагаў Радзівіла ўтварыла Літоўскую канфедэрацыю, якая, пазбавіўшы Радзівіла гонару, прыгаварыла апошняга да выгнання, скасавала яго маршалкоўскія дэкрэты, раззброіла ягонае войска і заняла крэпасці ў Слуцку і Нясвіжы. Гетман Масальскі, Ігнацы Агінскі, Флемінг, Праздзецкі, Панятоўскі (будучы кароль), Берастоўскі, Аскерка сталі на чале гэтае варожае Радзівілу партыі. Выбары Станіслава-Аўгуста, тулянне Радзівіла, яго адозва да Радамскай канфедэрацыі і трыумфальнае вяртанне на радзіму — усё гэта падзеі гістарычныя і занадта добра вядомыя, каб была патрэба іх тут паўтараць. Вернемся да хронікі Мінска.

Не маем тут для занатавання новых фактаў: сціплыя ахвяраванні на карысць рэлігіі, такія, як будаўніцтва Міхалам Валадковічам у 1763 годзе касцёла кармелітаў альбо рэлігійныя ўрачыстасці, напрыклад, місія, якую ў тым жа годзе праводзілі даміліканцы ў Мінску пад кіраўніцтвам ксяндза Даміліка Каханскага; альбо пажар, які, выбухнуўшы ў ночы з 15 на 16 кастрычніка 1764 года, знішчыў на Траецкай гары некалькі крамак і частку кляштара базыльянаў; ці скаргі мяшчан і шляхты на марадзёрства айчыннага і чужога войска, якое тут праходзіла, — вось і ўсе факты гэтай беднай эпохі. Па меры таго як шалі ўдачы перахіляліся на бок аднаго з двух варожых лагераў, паборы жаўнерамі жыхароў горада былі бясконцыя. У 1771 годзе харугва Даміліка Каханскага насільна ўзяла 15 коней, 70 чырв. залатых з езуіцкай калегіі і 320 польскіх злотых з зямельных уладанняў езуітаў. Калі ўжо магутны ордэн не мог абараніцца сваёю рэлігійнай недатыкальнасцю ад гэтых пабораў, то які ўціск цярпеў бедны і бяссільны селянін або мешчанін?

Кунегунда Рушчыц, што паходзіла з Матушэвічаў, заснавала ў Мінску ордэн марыявітак. Беручы пад увагу тое, што заснавальніца гэтага ордэна наша зямлячка, а сам ордэн меў на мэце дабрачыннасць, не можам не прасачыць яго летапіс. Грунтоўным матэрыялам паслужыла нам «Кароткая гісторыя арганізацыі сясцёр “Marie Vitae”», напісаная адною з марыявітак

так кранальна і прыгожа, што з прыемнасцю будзем цытаваць з яе некаторыя вытрымкі.

Ксёндз Язэп Турчыновіч, пільтынскі канонік, святар з касцёла св. Стэфана ў Вільні, гарэў жаданнем навярнуць як мага больш ізраільцян да хрысціянства. Палымяныя казані і пастаянная дабрачыннасць так прыцягвалі да яго сэрцы, што адно ўласнаю рукою ён ахрысціў больш як 500 чалавек ізраільцян, «якім не толькі адкрыў евангельскае святло, але і стараўся падказаць кожнаму сэнс жыцця і кожнага ўзяць пад сваю апеку. Нікога з ахрышчаных не дапусціў да вераадступніцтва. На самай справе, амаль неpraўдападобна схіліць ізраільцяніна да змены сваёй рэлігіі без абяцання яму ў новай лепшага жыцця і без дапамогі яму ў новым становішчы — пасля разрыву ўсіх сувязяў, што ядналі яго не толькі з уласнаю сям'ёю, але і з цэлым народам, які нават стасункі з такім чалавекам лічыць найвялікшаю ганьбаю». Дабрачынная задума такога шырокага маштабу патрабавала грашовых запасаў, якіх бедны святар не меў. Па парадзе духоўніка вырашыў ён арганізаваць таварыства апекі неафітаў, а калі мужчынская супольнасць здалася яму не вельмі адпаведнаю гэтай мэце, задумаў сабраць пэўнае кола набожных жанчын. Не змушаючы паслядоўніц свайго статута да беспаваротнага абету, Турчыновіч прадпісаў ім аднатыпны строй адзення і, назваўшы іх сёстрамі-марыявіткамі, выдаў статут з прыгожым дэвізам: «Манастырскі закон — у сэрцы; кляштар — цэлы свет, мэта працы — перакананне, навука і міласэрнасць; месца адпачынку — кожная жыдоўская карчма; абавязак — любіць Бога і свайго бліжняга; канец — адзін пастыр і адна аўчарня; багацце — у небе; прызванне — імя Дзевы Марыі». Атрымаўшы блаславенне біскупа Зяньковіча і Апостальскай сталіцы, Турчыновіч публічна ўвёў марыявітак у шпіталь св. Лазара ў Вільні. Абраўшы адказнаю за справу і інспектаркаю арганізацыі ўдаву Анэлю Пацёмкіну з Чыжоў, ён разаслаў па краіне простую і кранальную адозву і пачаў ствараць такія арганізацыі ў іншых гарадах. У выніку такой дзейнасці недзе каля 1744 года ў Літве было ўжо 17 арганізацый марыявітак.

А з якім глыбокім хрысціянскім спачуваннем апісвае аўтарка «Гісторыі…» жыда, які рашыўся перайсці ў хрысціянства: «І хто ж можа быць бяднейшы за яго? Хто большы сірата за таго, хто навярнуўся да святой веры і, пакінуўшы ўласных бацькоў, братоў, сясцёр родных, пайшоў за Хрыстом і не можа нават бяспечна жабраваць з-за ганенняў, глумлення і здзекаў, якія чыняць над ім яго ж супляменнікі, а часта і не вельмі далікатныя хрысціяне,

якія любяць паўтараць бедным неафітам сваю прымаўку: «Вучаны воўк і ахрышчаны жыд — адно і тое ж». А куды ж ім падзецца, гэтым новым хрысціянам, да каго звярнуцца? Хіба зноў пайсці да жыдоў?»

І як красамоўна паказвае аўтарка «Гісторыі…» мажлівасць грашовых даходаў на адпаведную ўстанову: «А што ж гэта за цяжкасць? Што перашкаджае ўсяму Вялікаму Княству Літоўскаму зрабіць ахвяраванне на карысць новых хрысціян? Няхай толькі слаўныя ваяводствы і паветы з кожнага дыму па тынфе або па злотым збяруць або дадуць тое, што іх воля і ласка падказвае, а таксама вызначаць схільных да гэтае працы правізараў, каб сабраць міласціну. О, якая б гэта была значная сума! І якое высакароднае фундатарства залічыцца на рахунак Вялікага Княства! Бо ў нас жа што ні шляхціч, што ні пан, што ні сенатар — то найласкавейшы фундатар!» Але і на такую сціплую, але карысную ўстанову зайздрасць хутка ўзняла свае вочы. Іншыя ордэны манахаў пад выглядам таго, што марыявіткі перашкаджаюць ім зрабіць ахвяраванні, наладзілі Турчыновічу судовы працэс, абвінаваціўшы яго ў тым, што супраць волі закона Трыдзенскага сабора паспеў заснаваць новы ордэн. Быў выдадзены дэкрэт, які скасоўваў арганізацыю марыявітак, на які Турчыновіч падаў апеляцыю. Але заснаваныя ім дамы толькі дзе-нідзе змаглі ўтрымацца пры падтрымцы некаторых заможных людзей. Удар гэты быў такі моцны і нечаканы для набожнага духоўніка, што давёў яго да магілы. Памёр Турчыновіч у 1773 годзе ў Мінску. Сваім наступнікам ён пакінуў ксяндза Мадзалеўскага як айца ўсяго таварыства, а пані Пацёмкіну — галоўным кіраўніком і інспектарам гэтай установы. Занадта вялікі цяжар лёг на слабыя жаночыя плечы. Але хрысціянская міласэрнасць не баіцца цяжкасцяў і заўсёды верыць у поспех справы. Без грошай, без рэкамендацыйных лістоў, без ведання італьянскай мовы едзе Пацёмкіна ў Рым і атрымлівае ад Клеменса XIV брэве, якое зацвярджала арганізацыю і было перасыпана пахвальнымі словамі ў яе адрас. Пацёмкіна вяртаецца на радзіму і, абапіраючыся на дапамогу віленскага біскупа Масальскага, аднаўляе занядбаныя дамы, збірае сваіх таварышак, запальвае іх духам празелітызму і пашырае кола добрых спраў свае арганізацыі.

Памерла Пацёмкіна ў 1786 годзе.

У той час, калі ціхая, натхнёная духам міласэрнасці арганізацыя марыявітак пашыраецца і набывае ўсё большае значэнне, магутны ордэн езуітаў прыходзіць у заняпад, разбіты знячэўку громам булы Ватыкана. У памятным 1773 годзе

заняпалі ў адну хвіліну ўсе калегіі Літвы і Польшчы. У Мінску на той час рэктарам калегіі быў Міхал Карыцкі, чалавек заслужаны перад ордэнам і навукаю, якога, разам з ягоным братам Каролем, таксама езуітам, Альбертранд называе найпершым рэфарматарам навукі і густу езуітаў менавіта ў Літве. Але езуіты не спяшалі з рэформаю: цэнячы асобу Карыцкага, пакінулі яго марнець на ніве прапаведніцтва ў Бабруйску і толькі перад самай ліквідацыяй ордэна прызначылі яго кіраўніком аднае з першых калегій. Станіслаў-Аўгуст высока цаніў Карыцкага: узнагародзіў яго залатым медалём і пастанавіў за ўласны кошт друкаваць яго лацінскія вершы, да чаго, аднак, справа не дайшла. Як па ўсёй краіне, так і Мінску, была аб ліквідацыі ордэна заспела езуітаў нечакана, калі яны клапаціліся каля свае хатняй гаспадаркі, паляпшалі вёскі, абмуроўвалі сад, будавалі бровары, пакрывалі лакам алтары. Правіннасці і памылкі тутэйшай арганізацыі былі такія ж самыя, як і ва ўсім ордэне. Але дзеля справядлівасці трэба прызнаць, што іх навуковая і рэлігійная праца была вельмі значная. Мінскія езуіты разам з невялікаю калегіяй у Бабруйску выхоўвалі на працягу стагоддзя ўсю шляхту Мінскага ваяводства (бо іншых школаў не было). І як мы ўжо вышэй адзначалі, да трыццаці бедных вучняў штогод вучыліся ў іх бясплатна. А што датычыць рэлігійнага ўплыву езуітаў на грамадства, то ён быў вялізны.

Паводле падлікаў размеркавальнай камісіі, уладанні мінскіх езуітаў — Гаць, Глівін, Упярэвічы, Прушовічы, Сляпянка і Уса — прыносілі штогод 18 000 польскіх злотых даходу, але, ведаючы правілы, якімі кіравалася камісія, прыходзіцца здагадвацца, што лічба гэта нашмат меншая ад рэальных даходаў.

Пасля адмены ордэна езуітаў адукацыйная камісія заснавала ў Мінску трохкласныя вучылішчы пад кіраўніцтвам акадэмікаў, размясціўшы іх у былых езуіцкіх гмахах і пакінуўшы там астаткі езуіцкай бібліятэкі, якая, здаецца, ніколі не была багатаю. У гэтых вучылішчах некаторыя з езуіцкіх выкладчыкаў асталіся на сваіх пасадах; такія, як, напрыклад, ксёндз Тадэвуш Абрамбальскі, экс-езуіт, які стаў рэктарам вучылішча (памёр у 1780 годзе), Пратоцкі, Лаўрыновіч, Бжазоўскі і клірык Аляндскі. Свецкімі выкладчыкамі былі Юрэвіч, Яворскі і намеснік рэктара Бутвіловіч. Карыцкі таксама ўваходзіў у выкладчыцкі склад вучылішча*.

---

* З нататак вучня Мінскага вучылішча Антона Пяткевіча, бацькі вядомага ў літаратуры Адама Плуга.

У часе адмены ордэна езуітаў, г. зн. у 1773 годзе, у бурлівы водаварот тагачаснага палітычнага мора з Мінска трапіла яшчэ адна асоба, вартая гістарычнай памяці. Асобаю гэтаю быў Станіслаў Багушэвіч, абраны паслом на Варшаўскі сейм, які, як вядома, сваім аўтарытэтам павінен быў санкцыянаваць так званы першы падзел Польшчы, або адлучэнне ад яе некаторых правінцый, згодна з жаданнямі Расіі, Прусіі і Аўстрыі. Каронны кухмістар Панінскі заняў пасаду маршалка на гэтым сейме. Вядомы наваградскі пасол Тадэвуш Рэйтан усімі сродкамі намагаўся не дапусціць Панінскага да гэтай пасады, прызнаючы ягоны выбар несапраўдным. Як маршалак канфедэрацыі, настойваючы на сваіх выбарах, Панінскі закрыў сесію. Але Рэйтан, Корсак і Багушэвіч не прызналі яго дзеянні законнымі і ўтрох, на працягу двух дзён, аставаліся ў палаце пасяджэнняў сейма, каб не даць магчымасці яе замкнуць. Выкліканыя рускім паслом графам Стадэльбергам, Багушэвіч з Корсакам паехалі да яго, пакідаючы ў зале аднаго Рэйтана. Яны далажылі паслам замежных дзяржаў пра нелегальнасць выбараў Панінскага і пра замену сейма на канфедэрацыю. Зноў сядзелі некалькі дзён у палацы тры паслы і пасля бяссільных намаганняў утрымаць сейм, не ў змозе замяніць правы земскіх паслоў на правы членаў канфедэрацыі, — вярнуліся дамоў. Багушэвіч 13 мая 1773 года ў мінскіх гарадскіх актах змясціў манфестацыю да сваіх выбаршчыкаў*.

Няшмат астаецца нам фактаў для занатавання ў хроніцы Мінска да падзелу Польшчы. У 1775 годзе так званая Руская

---

* Станіслаў Багушэвіч быў сынам Мікалая Мінкоўскага-Багушэвіча і Феліцыяны з роду Быкоўскіх. Нарадзіўся ў 1751 г. у маёнтку Літві Ігуменскага павета. Бацька яго быў той самы Багушэвіч, якога на сейміку ў Мінску забілі староннікі Валадковічаў і Радзівілаў. Рана асіроцелы Станіслаў быў аддадзены ў школу езуітаў у Вільні і адразу ж пасля яе заканчэння быў абраны дэпутатам у сейм, пра які мы расказвалі і на якім ён вызначыўся разам з Рэйтанам і Корсакам. Кракаўскі біскуп Кастанты Солтык з павагі да яго хацеў выдаць за Багушэвіча сваю пляменніцу, але ў 1779 годзе Багушэвіч ажаніўся з Тэрэзаю Іваноўскаю, мінскаю старасцінкаю. У 1783 годзе ён быў дэпутатам трыбунала і ў тым жа годзе, дзякуючы ласцы караля, стаў гарадскім суддзёю і праславіўся на гэтай пасадзе. Потым страціў сямёра дзяцей і з 1815 года, пасля смерці сына, засмуціўся і толькі ў рэлігіі шукаў уцехі. Памёр 26 жніўня 1819 года. Астанкі яго спачываюць у Івянцы ў скляпенні пад колішнім францысканскім касцёлам.

кафэнцыя (тэрмін паўнамоцтваў) трыбунала была перанесена з Мінска і Навааградка ў Гародню.

Пажар у 1778 годзе знішчыў стары замак, адбудова якога была занядбана.

Законам сейма ад 3 мая 1791 года быў устаноўлены ў Мінску вышэйшы апеляцыйны суд, да якога належалі Мінскае, Полацкае і Віцебскае ваяводствы, а таксама Аршанскі павет.

Месца для сеймаў было адведзена ў былым езуіцкім касцёле. У склад Мінскага ваяводства па-ранейшаму павінны былі ўваходзіць Рэчыцкі і Мазырскі паветы (цяперашнія Барысаўскі, Бабруйскі і Ігуменскі паветы таксама належалі да тэрытарыяльнай улады ваяводства). Аднак марнымі лекамі для хранічнай хваробы тагачаснай Польшчы стаўся акт рэформы 1791 года. Ніякіх вынікаў гэтыя законы не мелі. Прабіла гадзіна пераходу да ўмоў іншага быцця. Гарадзенскі сейм 22 чэрвеня 1793 года даў згоду на другі падзел Польшчы, у выніку якога Мінск з сваёю правінцыяй, Падолле, Украіна, Валынь адышлі да Расіі. Яшчэ да гэтага названыя землі займаў генерал-аншэф Крачэтнікаў, але выпадкі асобных сутычак і барацьбы, тэатрам якіх была тэрыторыя Мінскай правінцыі, да хронікі самога места не адносяцца.

# ДАРОГА З ВІЛЬНІ Ў АШМЯНУ
## *Урывак*

*Крыжоўка. — Меднікі. — Выява Альгерда, в. князя літоўскага. — Крыжакі пад Меднікамі. — Длугаш і дзеці Казіміра Ягайлы. — Святы Казімір. — Каменны Лог. — Успаміны пра ксяндза Скаргу. — Агульная панарама Ашмяны*

Бывай на момант, мілая Гедымінава сталіца! Пачнём аб'язджаць мясціны тваёй некалі вялізнай дзяржавы.

Мінск гэтым разам будзе мэтаю нашай паездкі.

Прыгожая, каханая сталіца Літвы, перахрысці нас крыжамі з вежаў тваіх касцёлаў і добрым слоўцам з сэрцаў тваіх жыхароў.

Сябры! Не надта сумуйце. Добрыя людзі! Не надта абгаворвайце, пакуль мы вернемся. За гэта вам прывязу ў гэтай пустой сёння папцы маленькі плён з майго падарожжа — не асабістыя ўражанні, бо што вам да іх? — але тое, што можа асвятліць крыху мінулае нашай краіны.

Браты і сябры развіталіся, коні гатовы, адыходная чарка на дарогу выпіта, сігара запалена — у сумцы ляжыць паштовая падарожная карта і некалькі грошай. Бывайце здаровы! Гайда, фурмане, за Вострую браму…

Колы павозкі перасталі стукаць па бруку, а, утапіўшыся ў мяккі пясок, сунуцца паволі. Нас ахінае вясковае паветра. Позірк, крыху крануты слязою, крыху знуджаны манатонным выглядам гарадскіх муроў, весела ляціць на волю. Цудоўныя віленскія ваколіцы адкрываюць шырокае поле ягонаму матылёваму палёту.

Мінаем вастрабрамскую рагатку. Вільня засталася за намі, схавалася ўнізе, засланілася маляўнічымі хвалямі ўзгоркаў, — так што, кінуўшы назад развітальны позірк, сказаў бы, што знікла чарадзейным спосабам, і каб не людскі рух, каб не густая імгла, што вечна ўзносіцца над нашым горадам, нізавошта не дадумаўся б, што ён тут ляжыць, усяго за некалькі крокаў. Тут блізенька налева — прыгарад Роса і добры кавалак прыгожага

гарадскога пейзажу; але ўсё гэта засланяе зусім невялікі пагорак ды малады хвойнік.

Направа абведзены мурам грэка-рускі могільнік з прыгожаю жалезнай брамай і цудоўным зялёным купалам могільнікавай капліцы. Гэта апошні відок гарадскіх муроў.

Налева пагоркі і горы ўзносяцца ў самых фантастычных формах; па-за імі праглядваюцца з глыбокіх яроў прыгожыя лясы і зялёныя ўзбярэжжы Віленкі. Абразок за абразком мяняецца як у дыяраме. На адным з узараных пагоркаў уважлівае да мясцовасці вока адшукае невялікі курганок, а на ім востра закончаны камень.

Пагорак гэты з 1838 года атрымаў назву Андрэеўка; а гэты курганок насыпаны рукамі вучняў славутага Анджэя Снядэцкага, якія з незлічоным натоўпам людзей вынеслі ягоныя астанкі 4 мая гэтага ж года з горада да родавага маёнтка. Шкада, што больш прадстаўнічы помнік не ўшаноўвае гэтае месца, што ніякі надпіс не сведчыць аб гэтай чуллівай памяці ўшанавання, складзенага генію вялікага чалавека. Перш чым гэта стане, нязгоршы тым часам цяперашні помнік — земляны насып і надпіс у памяці і ў сэрцах землякоў: «Анджэю Снядэцкаму».

Так між узгоркаў ідзе заўсёды ўгору шырокі пясчаны паштовы тракт, — па ім цягнуцца падарожныя вазы; фуры са збожжам, сенам, лесам едуць у Вільню, жыды роем заступаюць ім дарогу альбо кучкі п’янаватых рамеснікаў, якія варочаюцца ад таннейшай за горадам гарэлкі. Жабрак, які жыве ў недалёкай адсюль хаціне, выкапаў з боку пясчанага пагорка нешта накшталт пячоры, сядзіць у ёй і, палажыўшы перад сабою на лавачцы паднос і распяцце, звоніць у маленькі званочак, спявае з кантычкі і збірае з прахожых даніну хлебам і мядзянай манетаю. За кожнай віленскаю рагаткаю можна ўбачыць убогіх, што жабруюць гэткім жа спосабам, гэта чыста віленскія тыпы.

Праз вярсту ад рагаткі тракт падзяляецца на два адгалінаванні: направа пайшоў на Ліду, у Гародню і Наваградак; налева ідзе ў Мінск, а адтуль у Маскву. Кіруемся налева.

Увесь час незаўважна ўздымаючыся на гару, мы нібы застаёмся на роўнядзі, бо месца, на якім стаім, паводле вымярэння, знаходзіцца вышэй, чым самыя высокія вежы віленскіх касцёлаў, — у такой глыбокай нізіне знаходзіцца наш горад. Непадалёку ад разгалінавання трактаў глыбокі яр налева перарэзаў два пагоркі і сваёю проймаю адкрывае цудоўную панараму далягляду, частку горада, блакітную далеч лясоў і майскае зяленіва ўзбярэжжа. Ад карчмы «Ашмянка», кепскага загараднага заезнага дома, які сваім паддашкам пасміхаецца з

прэтэнцыёзнасцю гараджаніна і нічым не вылучаецца сярод сваіх таварышак — простых корчмаў пры дарозе, — розніцца ад іх пабудоваю і рэшткамі першапачатковай пабелкі; ад карчмы «Ашмянка», кажам, размешчанай за 4 вярсты ад Вільні, варта азірнуцца назад і пастаяць над цудоўным ярам. Яго дол зарос густымі лісцвянымі дрэвамі і кустамі, праз іх вершаліны віднеюцца гарадскія вежы і мініяцюрныя абразкі ваколіц; некалькі дарожак, спускаючыся з гары, вядуць у Рыбішкі, Маркуць і іншыя прыгарадныя фальваркі. Увесну колькі тут водару, калі зацвіце чаромха і распусцяцца маладыя бярозы і пахкія хвойкі! А колькі шчэбету птаства!

Ад гэтага месца расстаёмся на нейкі час з прыгожым краявідам і мілымі ўражаннямі: бо дарога робіцца камяністаю, пясчанаю, краявід без разнастайнасці, манатонны, расліннасць досыць убогая, нават бярозкі рэдка дзе растуць пры паштовым тракце.

Але праз мілю ад горада краявід багацее. Спускаемся ўніз. Ажно пяць корчмаў адна пры адной выбеглі на гасцінец, і ўсе бедныя і брудныя. Налева, за зялёным лугам, цягнецца паселішча з некалькіх двароў, больш-менш паважных і прыстойных; направа, на другім плане, у гушчэчы дрэў віднеюцца муры палаца.

Мы ў Немежы.

Гэтае пры карчме паселішча, вёска, ваколіца альбо засценак (называйце як хочаце) — гэта татарская Немеж; а той, што далей, мураваны двор — гэта маёнтак графаў Тышкевічаў, які некалі належаў Сапегам.

У татарскай ваколіцы, пра якую гаворым, першы дварок прымасціўся на ўзгорку. Пагорак мае форму чатырохкутніка, вельмі падобнага да ва́ла, і гэта наводзіць на думку, што, магчыма, тут быў Немежскі замак, пра існаванне якога дакладна вядома, а размяшчэнне якога дзе-небудзь яшчэ адкрыць нам не ўдалося.

Збяром жменьку ўспамінаў і гістарычных паданняў, звязаных з Немежжу, хоць не ведаем дакладна, ці адносіць іх да сённяшняга татарскага паселішча ці да мураванага двара графаў Тышкевічаў.

Немеж спрадвеку належала вялікім князям літоўскім. Тут некалі жыў Вітаўт. Сюды яго хворай жонцы Юльяне вялікі магістр крыжацкі пасылаў лякарствы і лекара ў 1426 годзе*, запабягаў перад Вітаўтам, бо тады ордэну быў патрэбны млын

* M. Baliński. Starożytna Polska. T. II. C. 213.

на рацэ Дрвенцы, гэта была адзіная ваенная дарога з Польшчы ў Прусы, дарога такая важная, што Вітаўт уступаў крыжакам за гэты млын цэлы Палангскі павет; крыжакі акружылі млын і пасля атрымалі яго праз дагаворы*. Магчыма, тут, у Немежы, выкручваўся перад Вітаўтам гэты, у паўтара локця, гарбаты Ганнэ, нібы прысланы ў падарунак блазан, а на самай справе крыжацкі шпег, які, атрымаўшы за сваё грубіянства аплявуху, аб'явіў яе пасвячэннем у рыцары.

Тут, у Немежы, Аляксандр Ягелончык, на тыя часы яшчэ толькі вялікі князь літоўскі, у лютым 1496 года сустрэў сваю нявесту Алену, якая ехала з Масквы, дачку Івана Васільевіча. Калі Аляксандр з цэлым дваром і панамі раднымі наблізіўся, князёўна выйшла з карэты на разасланую парчу і чырвонае сукно, падала руку будучаму мужу, і пасля абмену некалькімі ветлівымі словамі нарачоныя рушылі ў горад; яна ехала ў санях, ён конна побач з ёю.

У Немежы, калі Вільня з большаю часткаю Літвы была ў руках Расіі, Ян-Казімір падпісваў у 1656 годзе з царом Аляксеем Міхайлавічам дыпламатычную ўмову, нягледзячы на перашкоды з боку Швецыі**. Маглі б тут яшчэ быць фартыфікацыі, але дзе гэта ўсё падзелася?

Велікакняскі замак, калі быў у Немежы, то ў першыя гады XVI стагоддзя так моцна заняпаў, што сёння, як мы ўжо казалі, і следу яго цяжка дашукацца. І даўнейшыя сляды побыту тутэйшых татараў сцерліся зусім, з-за страты папер пад час нашэсця рускіх і шведаў пры Яне-Казіміры, пра што зараз скажам. Хочучы даследаваць пачатак гэтага паселішча, мы павінны былі б зрабіць кампіляцыю з прац Чацкага, Крашэўскага, Нарбута і іншых; павінны былі б паўтараць тое самае, што адзначалі, расказваючы пра Вацу, больш-менш пэўныя меркаванні пра татараў, пераможаных Вітаўтам на Доне ў 1397 годзе, якіх ён пасяліў пад Вільняю ў Вацы, Сорак Татараў, Ласоснай, Немежы і іншых месцах Літвы, — альбо прыпісаць гэтыя калоніі пазнейшым уцекачам альбо ваеннапалонным. Яны самі не ўмеюць вырашыць сумненні наконт свайго перасялення ў тутэйшыя мясціны. Вітаўтавага асадніцкага прывілея як татарам, так і адначасова прыбылым з імі караімам да гэтага часу адшукаць не ўдалося, — ён мог існаваць і загінуць у ваенных ліхалеццях і цемнаце тых, для якіх павінен быў служыць. І не надта яны пра

* Narbutt. Dzieje nar. Lit. T. IV. C. 407 і далей.

** Krajewski. Dzieje pan. J. Kazimierza. T. I. C. 21.

гэта турбаваліся, на правах даўнасці ўгрунтаваўшыся на сваіх сядзібах, а пры Люблінскай уніі Літвы з Польшчаю ў 1569 годзе ўраўнаваныя са шляхтаю, калі толькі рыцарскаю службаю, а не рамяством будуць займацца. Верныя гэтаму прызначэннію тутэйшыя татары пралілі не адну кроплю крыві, абараняючы сваю прыёмную айчыну; адкінулі адозву сваіх крымскіх пабрацімаў, якія чакалі ад іх дапамогі ў спусташэнні Польшчы, удзячна памяталі (як гавораць у сваёй просьбе, пададзенай Жыгімонту І), што Вітаўт «казаў ім не забываць прарока, а да сваіх святых месц вочы накіроўваючы, наказаў паўтараць яго імя, нібы свайго каліфа. На шаблі прысягнулі, што будуць любіць ліцвінаў, якія прыбылым да іх сказалі, што гэты пясок, гэтая вада, гэтыя дрэвы для нас агульныя. Іх браты ля салёных водаў і ў Кіпчаку ведалі, што яны тут не былі чужынцамі».

З пачкаў пазнейшых мясцовых дакументаў, якія мы трымалі ў руках, найдаўнейшыя датуюцца ад Уладзіслава IV, які надаў тут пэўныя зямельныя ўладанні татарыну Фурсу Скіну.

Амаль усе тутэйшыя каланісты служылі ў татарскіх вайсковых харугвах, на старасць вяртаючыся дадому, поўныя гонару, што нароўні з польскаю шляхтаю маюць прывілеі, выслужаныя рыцарскім заняткам, амаль усе тытулаваліся князямі на падставе сапраўднай альбо прыдуманай генеалогіі, якую прынеслі з радзімы. Сустрэнем тытул князёў побач з прозвішчамі Тагузовічаў, Давідовічаў, Масюкевічаў, Міхалоўскіх. Бедныя гэта былі княствы, на некалькіх моргаў зямлі, якія пры далейшым большанні сям'і належала дзяліць яшчэ і яшчэ на некалькі і некалькі надзелаў. Вядомая рэч, што паміж імі калатнечам і працэсам, часам нават крымінальным, канца не было. Князь, склаўшы свой пачціва абліты крывёю рыцарскі рыштунак, браў саху альбо сякеру; княгіні не гультайнічалі ў гарэмах, як іхнія крымскія айчынніцы, а рыдлёўкаю капалі літоўскую зямлю, вырошчваючы гародніну альбо прадучы кудзелю.

Цяжкі быў кавалак хлеба! Галеча больш замінала ім у набыцці асветы, чым непрыязныя да асветы запаведзі Алькарана, які ўжо не маглі разумець.

Яшчэ горш было, калі ў часы Яна-Казіміра рускія занялі Літву ў 1656 годзе. Татары з Немежы, з прыгарада Лукішкі, з Медэран, Роўналан, Сорак Татараў, Пруздзян, Гемзы, Рудаміны, Трок — людзі, большаю часткаю заслужаныя ў дзяржаўным войску, рассыпаліся са сваімі сем'ямі па краіне. Найбольшая іх частка знайшла прыстанішча ў Кароне. Там татарын Хадэла-Халецкі, каралеўскі ротмістр, са сваёю харугваю размяшчаўся ў ваколіцы

Замброва. Адны з літоўскіх татараў кінуліся пад крыло гэтага свайго натуральнага абаронцы, другія туляліся па Мазоўшы і Падляшшы. Але ў Кароне рабавалі шведы. Страх зноў вярнуў на Літву бедныя мусульманскія табары.

У чацвер пасля Вялікадня 1656 года такі іх табар з 300 вазоў, напоўненых жанчынамі, дзецьмі і маёмасцю, цягнуўся з Замброва ў Літву, калі мясцовая польская шляхта, як звычайна на вайне, нахабная і хцівая да здабычы, з тлумам сваіх сялян і чэлядзі заступіла ім дарогу. Ніяк не дапамаглі ўніверсалы Яна-Казіміра, якія паказвалі татары: бо паны Войцех Апацкі, падкаморны віскі, Аляксандр Макавецкі, уладальнік вёскі Высокае, належалі да шведскага лагера. Разам з імі было яшчэ 23 шляхцічы, а кожны са шляхты вёў сваіх сялян і добра ўзброеную дваровую чэлядзь. Дайшло да бітвы!

Узброеных татар пазабівалі, безабаронныя ўцяклі. Прыхільнікі шведаў кінуліся на табар, пазабіралі коней, захапілі скрыні, парвалі каралеўскія лісты, сямейныя татарскія паперы разам з татарскімі кнігамі, якіх (як скардзіліся) так цяжка дастаць у Літве і Кароне. Не прамінулі і дзявоцкага гонару. Такі самы напад назаўтра быў зроблены на табар татараў, які ішоў праз Ломжу ў Ганёндзу; Ян Касакоўскі, віскі стараста, узначальваў налётчыкаў; было з ім 13 шляхцічаў з чэляддзю.

Пан Хадэла-Халецкі, ротмістр караля Яна-Казіміра, які не змог абараніць сваіх суайчыннікаў і аднаверцаў сілаю зброі, абараняў пакрыўджаных праз суд.

Паводле яго загаду ў васьмідзёнку свята Цела Гасподня гэтага ж года афіцэры татарскай харугвы Багдан Токаш, паручнік, Самуэль, яго брат харунжы, Адам Раманоўскі і Давід Мустафіч падалі пратэст у Бранскі замак, скардзячыся на гвалт, учынены татарам. Не ведаем, ці быў суд і чым усё скончылася, але праўда тое, што гэтыя два напады шляхты мелі рашучы ўплыў на лёс літоўскіх татараў. Ваколіцы, дзе яны пражывалі, абязлюдзелі, звыш дзесяцігоддзя мала хто альбо і зусім ніхто там не жыў. Адны з татараў уцяклі за мяжу, другія прымалі хрысціянства*, іншыя пасля бадзяжнага хлеба не хутка вярнуліся дадому, дзе іх чакала пустка і галеча. Суседзі прыгарнулі сабе пакінутыя палі і лугі, гаспадарам даводзілася дамагацца сваёй маёмасці

---

* Сведчыць Смяроўскі Дамішкан у сваёй кніжцы пад назвай «Fontanna mystyczna» (Вільня, 1737), што каля гэтага часу ў метрыках Лукішскага касцёла знаходзіўся абшырны рэестр ахрышчаных ex Mahometanismo. Гл. с. 293.

праз суды і прашэнні. У Немежы пачаліся працэсы татараў з памежным духавенствам, з дамініканцамі, францысканцамі і віленскімі кармелітамі. Следства тым больш было цяжкае і апіралася больш на сумленні захопнікаў, чым на пісьмовыя доказы, бо татары страцілі свае дакументы, а трыбунальскія кнігі, гарадскія і зямельныя ў Вільні, пад час ваеннага рэзруху былі ў значнай частцы спалены.

Манастырскія абшчыны, праўда, вярнулі татарам зямельныя надзелы і лугі; але колькі захадаў, колькі бяды давялося зазнаць, пакуль удалося іх вярнуць! Яшчэ больш балючую, бо маральную крыўду нанесла татарам літоўская шляхта, якая напала на іх пад Бранскам і Ганёндзам. Знішчэнне рэлігійных магаметанскіх кніг, з якімі было так цяжка ў Польшчы і Літве, прывяло да ўпадку і самой веры. Калі сёння адзін экзэмпляр Карана задавальняе патрэбы цэлай ваколіцы, у якую ўваходзіць больш за дзясятак сядзіб, калі татарын моліцца па-арабску, не разумеючы мовы, вельмі лагічна разважаючы, што Бог, які ведае ўсе мовы, лепей, чым ён сам, і так зразумее ягоную малітву, калі суполка літоўскіх мусульман, не прыняўшы іншай веры і не ведаючы ўласнай, жыве толькі напаўзабытымі формамі веравызнання, то, можа, яшчэ і сёння гэта належыць прыпісаць таму чацвяргу пасля Вялікадня 1656 года, які пазбавіў іх рэлігійных кніг. Можа, не бліжэй чым за дзвесце гадоў мы павінны шукаць прычын сённяшняга ліха.

Сполах, які разагнаў тады татараў з Літвы, быў больш панічны, чым сапраўдны; прынамсі, тое, аб чым гаворым, адносіцца да Немежы. Гэтая мясціна, нягледзячы на сваю блізкасць да Вільні, засталася яшчэ пад уладаю Польшчы. Тут, як мы казалі вышэй, у гэтым жа 1656 годзе гасцяваў некалькі дзён Ян-Казімір; тут, не зважаючы на шведскія інтрыгі, ён дагаворваўся з царом Аляксеем Міхайлавічам; тут падпісаў 3 лістапада памятную ў гісторыі абодвух народаў умову.

Нягледзячы на сваё беднае існаванне, татары, якія паволі пачалі збірацца да сваіх літоўскіх сядзіб, не пераставалі аддана служыць Рэчы Паспалітай. Усе мужчыны гурмой ішлі на вайну не толькі з чужынцамі, але з татарамі і туркамі, з якімі лучыла іх агульнае паходжанне і вера. І такім чынам: ва ўдалым Язлавецкім паходзе пры Яне III у 1684 годзе, калі 25 жніўня прагналі туркаў з Язлоўца, паблізу караля знаходзіўся цэлы полк літоўскіх татараў… Адзін з іх, Раман Давідовіч, родам з Немежы, цяжкапараненны, падпісаў там сваё завяшчанне, якое як узор такіх актаў у татараў мы цалкам прыводзім паводле арыгінала:

«У імя Госпада Бога Адзінага, Творцы праўдзівага!

Я, Раман Давідовіч, землеўладальнік і татарын караля Яго міласці Віленскага ваяводства, жыхар вёскі Немеж, хваробаю ад Госпада Бога Усёмагутнага разбіты і ведаючы, што кожны чалавек, здаровым будучы, хваробы і смяртэльнай хваробы спадзявацца павінен, якая кожнага чалавека на свеце абмінуць не можа, таму я, здаючыся на волю Божую і кіруючыся агульным правам, яшчэ пры добрай маёй памяці пры многіх годных людзях склаў гэтае маёй астатняй волі завяшчанне; і вось якім чынам:

Цела маё грэшнае прашу брата майго Белата Давідовіча, каб дадому як мага адвёз. Маеш тады гатоўкаю трыста злотых, з якіх на страву сто злотых аддаю, як і на яго самога, так і на чэлядзь і мае коні. Другія сто злотых на пахаванне цела майго і ўсё патрэбнае, гэта значыць: кураны (адпяванне з Алькарана) і іншыя малітвы і на трохдзённую варту, а асабліва, што важна, тым, якія будуць ля магілы сядзець на з'ярэце (на варце ўначы ля магілы). Трэція сто і тыя, каторыя, ад'язджаючы, пакінуў, тыя жонцы маёй княгіні Марусі Гальяшавічоўне Раманавай Давідовічавай завяшчаю, просячы, каб мяне ў малітвах не забывала. Зноў жа, дадзеныя паўтараста злотых за Лакушэўчыну, у вёсцы Немеж гэтай жа маёй жонцы ў пажыццёвае карыстанне як поле, так і агарод і сад, а пасля жыцця яе на немежскую мячэць і ўсё джэмату на вечныя часы належаць павінна… і г. д. Таксама сведчу, што ніякіх даўгоў, каб каму вінаваты быў, не прыпомню, і мне ніхто нічога не вінаваты. Прашу таксама ўсіх шаноўных братоў, каб мне даравалі, гэтае маёй апошняй волі завяшчанне канчаю, якое і сцвярджаю, каб яно ні ў чым не было абвергнута. Напісана пад Язлоўцам дня 24 кастрычніка 1684 года» і г. д.

У гэтым завяшчанні звярнулі на сябе нашу ўвагу якраз дзве рэчы — па-першае: форма, зусім падобная да завяшчанняў хрысціян, і таму зусім страчаная ісламская форма, па-другое: убогасць, якая адкрываецца ў спадчыне шаноўнага рыцара з-пад Язлоўца. Гэтая ўбогасць, а можа, і туга па сваёй старой айчыне бывалі часам нагодай уцёкаў татараў у Крым ці Стамбул да сваіх суайчыннікаў. Такім з'яўляецца дэзерцірства ў 1710 годзе двух братоў Міхалоўскіх з Немежы, якія пасля доўгай службы ў польскім войску ўцяклі да татараў у Хоцім. След гэтага мы знайшлі ў паперах камісіі, пасланай апісаць і здаць у казну маёмасць гэтых двух уцекачоў. Неўзабаве, бо ўжо ў 1715 годзе, была тут іншая камісія, прысланая ад караля па пытаннях татарскай маёмасці; далі гэтаму повад падзелы, драбленне спадчын, спрэчкі, нязгода паміж немежскімі татарамі і тысячы скаргаў, якія ішлі да караля.

Зямельная нястача адчувалася паўсюдна. Ураблялі агароды, прадаючы ўраджай у Вільні, але ніводзін з немежскіх татараў не браўся за рамяство, добра ведаючы, што паводле звычаяў і польскага права менш высакародная праца пазбавіла б яго шляхецкіх прывілей. Ужо найменшае дапушчэнне, што нехта займаецца рамяством, выклікала ў іх абурэнне. [...]

Вайсковая служба была, як бачым, адзіным заняткам літоўскіх татар; але і тут ім не асабліва шчасціла. Служачы па некалькі дзясяткаў год, пачцівы магаметанін мог даслужыцца толькі да купнага рангу паручніка. Слёзны мемарыял аднаго з іх быў пададзены каралю Станіславу-Аўгусту пасля прыняцця закону аб забароне продажу вайсковых рангаў. Сорак гадоў праслужыўшы ў войску, бедны татарын страціў усю сваю маёмасць на пакупцы рангу паручніка і просіць трон, каб гэты ранг мог ён уступіць наступнаму па старшынству за ім афіцэру — не дзеля таго, каб атрымаць на старасці хоць бы частковы зварот квоты, унесенай за званне, але каб выклікаць у палку рух павышэння па службе і такім спосабам аблегчыць дарогу свайму сыну, які служыць у гэтым жа палку, каб той мог атрымаць званне малодшага харунжага.

Татарскія харугвы складалі фарпост вялікай булавы. Са штатаў альбо роляў харугваў, некалькі з якіх у нас перад вачыма, бачым, што полк складаўся з пяці харугваў; а ў кожнай з іх быў ротмістр, паручнік, харунжы і няпэўная лічба наменікаў. Ніколі поўная лічба афіцэраў не знаходзілася ў харугве: адны, маючы водпуск, сядзелі дома, другія выконвалі свае абавязкі пры гетмане, так што часам у харугве знаходзіўся толькі адзін афіцэр. Ротмістр пастаўляў двух радавых; паручнікі ж, харунжыя і памочнікі — па адным. Абмундзіраванне паручніка і намесніка складалася ў апошнія часы пры Польшчы з курткі, шапкі, жакета, райтузаў, эпалет, шпораў, хусткі і плашча; са скураных вырабаў былі падсумкі, патранташы, партупея; зброю складалі коп'і, пісталеты, палашы; конскі рыштунак складаўся з сядла, чапрака, партпледа, сядзельнай кабуры, цугляў, нагрудніка і іншых дробязяў стаеннага экіпажу, яшчэ выдавалася па дваццаць баявых альбо халастых зарадаў, у залежнасці ад патрэбы.

Пастановамі сейма некалькі разоў пацвярджалася надзяленне татараў зямлёю. Што да саслоўных правоў, яны лічыліся нароўні са шляхтаю, калі не займаліся рамяством; фурманы ж, гарбары і іншыя рамеснікі з татараў лічыліся за плебеяў, — земляробства было пачэсным выключэннем.

Сённяшняе становішча гэтага паселішча сумнае. Падзеленыя больш чым на дзясятак невялічкіх двароў у Немежы, яны

жывуць з поля і агарода. Багацейшыя заняты на цывільнай альбо вайсковай службе, бяднейшыя працуюць на зямлі. Рэлігія засталася толькі як форма і традыцыя; некаторыя ўмеюць прачытаць Каран, але ніхто яго не разумее, не выключаючы і мулы. Зборня штопятніцы ў прыцененай дрэвамі маленькай мячэці і больш-менш дакладнае пільнаванне посту месяца рамазан — вось і ўся іх рэлігійная практыка. Прытрымліваючыся запаветаў Алькарана, яны не п'юць віна, ды і, зрэшты, мала хто мог бы яго купляць. Але што да гарэлкі, пра тую нічога няма ў Алькаране, то падмацоўваюцца ёю нескупою меркай. Зрэшты, трэба аддаць справядлівасць прыроднай сумленнасці гэтага народа: жывучы амаль у поўным забыцці рэлігіі, ён усё ж даволі цвёрда пільнуецца маральных законаў. Абавязаныя мясцовым законам да аднажонства, тутэйшыя татары так глыбока праняліся ім, што калі адзін з іх у XVII стагоддзі, выехаўшы з Немежы, узяў другую жонку на Ватыні, аднаверцы патрабавалі ў судзе смяротнай кары як крымінальніку*. Дадайма яшчэ адну рысу характару татараў: з-за нястачы рэлігіі яны поўныя прымхаў і забабонаў, адны з якіх маглі яны прынесці з сабою альбо пачарпнуць са сваёй веры, іншыя без разбору запазычылі ў мясцовага насельніцтва.

Хай даруюць нам чытачы, што мы так доўга засяродзіліся над малой мясцінаю. Нам хацелася нашы невялічкія звесткі пра татар укінуць у скарбніцу агульных ведаў пра іх. Тым часам мы ўзабраліся на гару. Нашы коні адпачылі каля мураванай карчмы, якая належыць да мураванага двара ў Немежы. Тут некалі быў, як ведаем з «Вядомосьці брукове», гандлёвы дом, альбо шынок, даволі папулярны ў наведнікаў з горада, дзе завязваліся паміж гасцей сур'ёзныя дыскусіі, як, напрыклад, паміж панам суддзёю, асэсарам і студэнтам з аддзялення логікі: што такое розум?** Сёння віленскія аматары загарадных экскурсій лічаць гэтае месца занадта аддаленым, перасталі яго наведваць, і немежскі шынок зышоў да разраду звычайнай карчмы.

Спускаемся ўніз, мінаем ставок і млын і зноў уз'язджаем на гару. З гэтай гары варта азірнуцца назад, каб ахапіць позіркам увесь маляўнічы краявід Немежы. На фоне саду, аздобленага буйнымі ліcцвянымі дрэвамі і арыгінальнымі ялінамі, бялеюць муры палаца, які разам з шырокім газонам, перарэзаным гладкаю

* Усе пададзеныя тут звесткі пачэрпнуты з аўтэнтычных папер, ветліва прадастаўленых нам п. Міхайлоўскім, адным з мясцовых татар.

** Гл.: Wiadomoście brukowe. 1818. № 66.

эліпсоіднаю лініяй прагулачнай сцежкі, адбіваецца ў прылеглым стаўку каля самай паштовай дарогі. Кузня, карчма, млынок, сельскі шпіталь і вёска, раскіданая на прыгожым пагорку, складаюць першы план карціны; на другім плане праглядваецца татарская Немеж — групка акуратных дворыкаў, — там з густога вянка дрэў выстрэльвае вежа мячэці, бляшаны паўмесяц якой блішчыць і прыгожа адцяняецца зелянінаю; далёкія сінія і цёмныя лясы падкрэсліваюць глыбіню далягляду.

Далей за вярсту на пагорку, што парос кустамі, стаіць мураваны помнік у форме калоны. З яго ападае тынкоўка, крыжык на дашку з гонтаў пахіліўся на бок; ужо за шэсцьдзясят гадоў, як узведзены тут гэты помнік. Яго гісторыя звязана з гісторыяй апошніх часоў Польшчы.

Пасля віленскіх хваляванняў у красавіку 1794 года, у выніку якіх загінулі гетман Касакоўскі, Швейкоўскі і інш., рускія войскі на чале з генераламі Кнорынгам і Зубавым ударылі па Вільні 7 чэрвеня таго ж года. Рускія сілы, сканцэнтраваўшыся ў Медніках, намагаліся здабыць батарэі, якія абаранялі горад, а таксама і сам горад, абарону якога ўзначальваў Заёнчак. Ад Меднікаў да Вільні ў розных кірунках стаялі рускія войскі, а Маскоўскі грэнадзёрскі полк і Казанскі пяхотны займалі якраз гэтыя пагоркі пад Немежжу, аб якіх мы гаворым. Пры безвыніковым на гэты раз штурме Вільні загінулі камандзіры абодвух палкоў: першага — Караваеў, другога — Дзееў. Апошні, цяжка паранены каля Зарэчнай брамы, быў адвезены ў свой лагер і тут сканаў. Жонка, як кажуць, узнесла яму тут помнік, каля якога мы праязджаем. У паданні зліліся абодва прозвішчы: Дзееў і Караваеў, так што сёння цяжка сказаць, над якім або над абодвума разам узнесены гэты надмагільны помнік*.

Наступная міля дарогі небагатая на цікавыя краявіды, нудзішся, едучы па пясчаным і камяністым грунце. Амаль нідзе не кіне свайго ценю бярозка, якімі звычайна абсаджаны нашы тракты. Лес і пара кустоў — вось і ўвесь пейзаж, з адзінаю разнастайнасцю — бруднымі і абдзёртымі корчмамі, якіх на двухмільнай прасторы сабралася не больш і не менш як 19. Іх назвы — гэта цэлы слоўнік карчомнай наменклатуры: тут знойдзеш «Вішнёўку», «Катлоўку», «Маляванку», «Саламянку», «Дубоўку», а лічба гасцінных дамоў — красамоўнае сведчанне і заможнасці жыцця, разумовага і маральнага стану тутэйшага

* Гл. у рускай «Библиотеке для чтения». Т. XII. 1838 г.; артыкул генерала Тучкова.

насельніцтва. З жалем і сорамам мы павінны прызнацца пра люд, які мы сустракаем па дарозе і што валачэцца на рынак у Вільню са сваімі вырабамі, ён нясе на сабе адбітак убогасці і няразвітасці, ад якога відавочна адрозніваюцца сваёй бадзёрасцю і кемлівасцю твару, цалейшай і чысцейшай вопраткай сяляне, што едуць з больш аддаленых месцаў.

Але вось мінаем трынаццатую вярсту, і з гары перад намі адсланяецца краявід дзіўнай прыгажосці. У глыбіні далягляду бялее мястэчка Рукойны, сінее лес, адкрываюцца разлогі палёў. Які глыбокі далягляд! Колькі фантазіі ў гэтых парослых лясамі пагорках! Колькі разнастайных барваў ад блакітнага да фіялетавага ўжыў бы мастак, каб паказаць багацце тонаў у гэтай адлегласці! Якое багацце гульні святла ў самыя розныя гадзіны дня пераліваецца ў паветры!

Не пра адну ваколіцу нашай Літвы можна было б сказаць балючую праўду: Бог усё зрабіў, каб яе аздобіць, чалавек — усё, каб яе сплюгавіць.

Спускаемся ўніз пад дзевятнаццатую чарговую карчму. Адсюль, хай прабачаць мяне ласкавыя чытачы, я пакажу прыцененым бярозамі дах невялікай сядзібы. Гэта Барэйкаўшчына, маёнтак тых жа графаў Тышкевічаў, шаноўная вёсачка, дзе прайшлі тры гады майго жыцця, адкуль я нудзіў вас маім «Маргерам», «Корсакавай споведдзю», «Хаткаю ў лесе», «Графам на Ванторах», «Янкам Цмантарнікам», «Старымі варотамі» і іншымі дробнымі творамі, якія, перш чым гэты ліст дойдзе да тваіх рук, добры чытачу, ужо даўно выйдуць з тваёй памяці. Гэтую сціплую страху ўганаравалі пры мне сваім побытам А. Э. Адынец, Мікалай Маліноўскі, граф Еўст. Тышкевіч, наш шаноўны цэнзар і вядомы рускі паэт Павел Кукальнік, Станіслаў Манюшка, Антоні Ляшноўскі, гітарыст англійскага двара Ст. Шчапаноўскі, віяланчаліст Самуэль Касоўскі, нашы вядомыя мастакі Ян Маратынскі і Вінцэнты Дмухоўскі, Антоні Пяткевіч (Плуг), Тэадор Трыплін і шмат іншых людзей, добра табе вядомых славутым імем і заслугамі, якія набылі на ніве літаратуры альбо мастацтва. Горды такімі гасцямі некалі гаспадар Барэйкаўшчыны, прашу прабачэння, што пахвалюся перад вамі; і, даўшы на старонках гэтай кнігі месца асабістым пачуццям, складаю гарачую падзяку маім тутэйшым суседзям і прыяцелям за мілыя хвіліны, якімі прысутнасцю сваёю яны мяне некалі ўцешылі.

Адсюль праз пару вёрст знаходзіцца мястэчка Рукойны, першая станцыя ад Вільні. Пра гэтую мясціну многа не скажаш. Яна належала некалі Віленскаму капітулу, сёння ўласнасць

царскай казны. Тут ёсць мураваны касцёл, вялізны мураваны збожжавы склад, паштовая станцыя, вясковая школа, карчма і 28 сялянскіх дамкоў, прыцененых пладовымі дрэвамі, а ў гэтых дамках 106 рэвізскіх мужчынскіх душ і 125 жаночых. Тутэйшы двор, што віднеецца за пару вёрст налева ад мястэчка, адзначаецца сваім прыгожым размяшчэннем над вадою, і старым, з густам упарадкаваным садам: бо, належачы некалі да Віленскай архідыяканіі, Рукойны мелі ксяндзоў і было рэзідэнцыяй багатых касцельных саноўнікаў. Некалькі імён, якія тут мы прывядзём, належаць асобам, якія складаюць славу касцёла ў Літве.

Тут быў плябанам і пахаваны ў старым касцёле прэлат Палубінскі, якога паданне называе біскупам, што цяпер спраўдзіць не можам. Пасля яго каля 1814 года стаў плябанам Рукойнаў кс. Міхал Длускі, архідыякан віленскі (нар. у 1784 годзе), чалавек глыбокіх ведаў і паважных звычаяў. Замалада падарожнічаў па Італіі; у 1812 годзе выступаў з артыкуламі ў публічных выданнях. У «Дзенніку віленьскім» ёсць яго выступленне супраць Е. Ляхніцкага ў сувязі з карцінамі Чаховіча.

Быў гэта знаўца і аматар жывапісу, ён даваў эстэтычныя і гістарычныя парады славутаму Смуглевічу і пакінуў пасля сябе багатую і дасканалую галерэю карцін, сярод якіх было шмат работ польскіх майстроў, асабліва Чаховіча*. […]

Тутэйшы касцёл, мураваны з камення, якім аж занадта багатыя навакольныя палі, няшмат гадоў налічвае ў сваёй метрыцы і амаль не можа пахваліцца ні сваёй старажытнасцю, ані мастацтвам. Некалькі простых абразоў, пісклівы арган і ўбогае начынне закрыстыі — вось і ўсё, што рэжа вока і вуха наведніка. Толькі ў каплічцы, дзе адбываецца велікодная імша, а дакладней, у малой нішы, асветленай акном, варта зірнуць на цудоўнейшы, але папсуты ўжо вільгаццю абраз «Нараджэння Госпада» італьянскай школы, відавочна рэстаўраваны і рэстаўрацыяй знявечаны — сапраўды варты лепшага захавання.

Даўнейшы драўляны касцёл, пабудаваны, як кажа паданне, нейкім каралём ці каралеваю, стаяў на тым месцы, дзе знаходзіцца цяпер стары цвінтар. Там было некалькі прыгожых абразоў. У чэрвені 1812 года тут праходзілі французы і, знайшоўшы ў касцёле порах і гарматкі, якія служылі для салютаў пад час набажэнства, выстралілі з адной у вялікі алтар: касцёл загарэўся і згарэў з усёй плябаніяй і яе забудовамі. Згарэлі ўсе

---

* Гл.: Smokowski. Do wspomnień o Szkole Malarskiej Wileńskiej Adama Szemesza, wiadomość dodatkowa. Athenaeum, 1847. Сш I.

касцельныя акты. Ксёндз Міхал Длускі, пра якога гаварылася вышэй, тутэйшы пробашч, на свае ўласныя грошы распачаў будову новага касцёла: далей яго ўзводзіў кс. Цывінскі і скончыў і асвяціў кс. Бжастоўскі ў 1821 годзе. З 1812 па 1821 год набажэнствы адбываліся ў малой капліччы, што знаходзіцца ў фальварку Рукойны. Сённяшні могільнік знаходзіцца непадалёку ад мястэчка.

Але ўжо коні перапрэжаны, спяшаймася далей.

«Доўга ж ехаць будзем, — скажуць чытачы, — калі кожная станцыя займе нам звыш сарака старонак!»

Вельмі перапрашаем! Цяжка было ў ваколіцы, так добра нам знаёмай, не расказаць вам пра ўсё, што трапілася на вока.

Не крыўдуйце, добрыя чытачы! Надалей абяцаем вам не біць лішне языком аб зубы.

* * *

Адразу ж за Рукойнамі, мінуўшы злева прыгожы хвойнік, заслугоўвае ўвагі папялішча карчмы, званай «Крыжоўка», у прыгожай мясціне над ракою Свіранкай. Быў гэта першы ад Вільні больш-менш прыстойны пастаялы двор, на некалькі пакоікаў для гасцей, — таму нічога дзіўнага, што амаль ва ўсялякую пару дня можна там было ўбачыць тых, хто спыняўся адпачыць, пакарміць коней, пераначаваць, — падарожных самых розных рангаў. Насупраць карчмы некалі была тут паштовая станцыя, пасля пажару перанесеная ўжо больш за дзесяць гадоў таму назад у Рукойны. Гэтае месца памятнае смутным выпадкам, пра якія, можа, некалі вам раскажу.

Настае пясчаная дарога, — уязджаем у хваёвы лес, за якім справа выглядвае двор Свіраны, які некалі належаў віленскім базыльянам, а сёння адышоў у казну.

Шкада, што не магу больш падрабязна паказаць вам ні самога двара, што стаіць у прыгожай мясціне, над вадою, між альшаніку, ні шэрагу магіл пабітых тут французаў пад час памятнага іх адступлення ў 1812 годзе.

З лесу, праехаўшы вёрст з пяць, узбіраемся на гару; за ёю здалёку тырчыць цагляная вежа старажытнага замка. Уз’язджаем на гару; двор, замак і вёска паўстаюць перад нашымі вачыма.

Гэта Меднікі: замак адзін з найстаражытнейшых у Літве — пачатак якога не прыпамінае сабе ні традыцыя, ні гісторыя. Прыгожыя яго руіны складаюцца толькі з абнесенай сцяны, вымураванай з каменю і цэглы, і адной вежы на ўсходнім рагу

гэтага мура. Абвадны мур старажытнага замка сёння служыць агароджаю фальварковага саду. Унутры, наколькі нам вядома, ніякія пошукі нічога не адкрылі. Казалі пра знойдзеныя тут косці веліканаў, настолькі вялікіх, што адна галёнка раўнялася мужчыне статнага росту.

Але дзе няма такіх жа паданняў каля старых замкаў?! Меднікі заслугоўваюць на археалагічныя доследы. Перш чым яны нам нешта раскажуць, якое чуллівае пачуццё абуджаюць у вандроўніка гэтыя замшэлыя камяні, гэтая вышчарбленая сцяна, гэты стос чырвонай крохкай цэглы, складзенай у фантастычны слуп рагавой вежы!

Час заснавання замка ў Медніках сягае незапамятнай старажытнасці. Паводле паданняў, якія мы чулі пад Крэвам, ён павінен быць сучаснікам Крэўскага замка. Будавала яго нейкае племя багоў альбо волатаў, такое дужае, што муляры, працуючы адначасова ў Медніках і Крэве, пазычаючы адзін аднаму молат, перакідвалі яго ў паветры праз чатыры мілі.

Тут улетку любіў бываць Альгерд, бацька Уладзіслава Ягайлы, як на падставе старой крыжацкай хронікі сведчыць Нарбут*. Аднак не часта яму тут даводзілася бываць, бо рэдка каторага лета не вырушаў ён у ваенны паход.

Ад усялякай гістарычнай руіны павявае ўспамінам — а з-пад яе карнізаў вынікаюць на вочы постаці славутых людзей, якія тут жылі. Мне ніколі не надарылася праязджаць паўз Медніцкі замак, каб не разгулялася маё ўяўленне, прыводзячы на памяць тое, што чыталася, што дапоўнілася ў мройлівай галаве. Між гэтых вежаў, дзе ён жыў, пастаўма постаць Альгерда, так, як яе апісваюць у сваіх хроніках крыжакі.

Чалавек статны і прыгожы, з прадаўгаватым румяным тварам, на якім выдаецца нос, з доўгай светла-русаю, крыху пасівелай барадою, палыселы, крыху накульгвае на левую нагу, а таму абапіраецца на кіёк альбо на плячо збраяносца. У ягоных блакітных вачах свеціцца розум і як бліскавіца мільгае спрытная думка хітруна, характэрная адзнака тагачаснай дыпламатыі. Такім бачым мы яго ў асяроддзі двара, акружанага дзецьмі, пачынальніка роду Ягелонаў, які разросся, як зоркі на небе.

Моцны перавагаю зброі, ён адкрывае пагранічча дзвюх эпох: бо ўжо прамяністая заранка сапраўднага поступу, відНеючы за ім, блішчыць золатам гарадскіх купалоў і замкавых вежаў Літвы.

* Hist. nar. Lit. T. V. S. 237.

Але перш чым лагоднае святло гэтай заранкі цалкам прабілася на краявід, доўга, яшчэ доўга заступала яе крывавае зарыва пажараў, узнятае на Літве крыжакамі. Праз усё наступнае пасля Альгерда панаванне Ягайлы амаль над усімі гарадамі Літвы, на берагах Нёмана і Віліі праляцела зарыва агню ад рукі крыжакаў. Коўна, Гародня, Трокі па чарзе то траплялі ў іх рукі, то вызваляліся. Аднак далей на ўсход, за Вільню, не адважваліся ісці нямецкія атрады. Але калі шлюб Ядвігі і Ягайлы абвясціў злучэнне дзвюх моцных краін і тым самым аслабленне моцы крыжакаў, — гэта ўстрывожыла іх. Нямецкі ўладар, узрушаны гэтым, падаў руку крыжакам. Тлумы нямецкіх рыцараў, у пошуках прыгод, сабраліся пад Кёнігсбергам, і ў жніўні 1384 года адбыўся рыцарскі ганаровы баль, на якім уся Германія ўзняла першы тост за агульную пагібель Польшчы і Літвы. Узнялі харугвы, вырушылі, караблі з прадуктамі і зброяю паплылі па Нёмане, войскі ішлі па яго берагах. Пры вусці Нявяжы затрымаліся караблі, а крыжацкае войска, акружыўшы Коўна, падышло да Віліі. Літвіны запынілі пераправу. Пасля крывавай бітвы, адбіўшы літвінаў, немцы перайшлі раку і шасцю атрадамі пайшлі драсаваць Літву. Яны абышлі Вільню, баючыся адпору, праз раку Мерачанку, цераз Алкенікі, Салечнікі пайшлі да Ашмяны, спадзеючыся ўдарыць па Крэву. Аднак нешта перашкодзіла ім выканаць гэты намер: бо ад Ашмяны яны павярнулі на Меднікі і тут затрымаліся, магчыма, каб сканцэнтраваць свае рассеяныя сілы. Невядома, ці яны здабылі замак альбо толькі затрымаліся для яго аблогі, але павінны былі быць упэўненыя ў сабе, калі ля медніцкіх муроў іх вялікі магістр Конрад Цолнер правёў абрад пасвячэння ў рыцары, былі наладжаны турніры і пачастункі. А было з чаго іх справіць, нарабаваўшы ў Літве такое мноства жывёлы, што вала прадавалі за паўталера, а авечку за шэлег! Тым часам літвіны, маючы на чале Скіргайлу і Вітаўта, перарэзалі ім зварот, не даючы пераправіцца праз Нёман і Вілію. Яны вырушылі тады з-пад Меднікаў, гнаныя і бітыя па дарозе, і з вялікай цяжкасцю перайшлі Нёман у Румшышках, з агромністымі стратамі вярнуліся ў свае землі*. Па ўсёй дарозе, аб якой тут гаворка, поўна баявых і магільных курганоў, на палях яшчэ сёння знаходзяць кавалкі рыштунку і зброі, на якой лёгка разгледзець крыжацкія знакі.

Пры Казіміры Ягелончыку Меднікі былі летняю каралеўскаю рэзідэнцыяй. Гэты ўладар, паводле тагачаснага звычаю, выму-

---

* Гл.: Kronike Wiganda. S. 299; Narbutt. T. V. S. 375.

шаны ўвесь час аб’язджаць край, ці то бываючы ў Польшчы, ці ў Літве, аберагаючы сваю дзятву ад сталічнага тлуму, стараўся мець яе разам з настаўнікам непадалёку ад сябе, у якім-небудзь зацішным месцы. Калі жыў у Польшчы, дзятва бывала тады альбо ў Тыньцы, альбо ў Любліне; калі пераязджаў у Літву, месцам іх побыту былі Меднікі. Гэтыя дзеці былі: Ян-Альбрэхт, Аляксандр, Жыгімонт, пазнейшыя каралі Польшчы, а таксама Казімір, прызнаны святым, які дагэтуль патрэбы нашай ягелонскай зямліцы Госпаду воінстваў складае. А настаўнікам дзяцей быў славуты Ян Длугаш, першы ў дакладным значэнні слова гісторык Польшчы.

Не трэба быць вялікім фантазёрам, каб тут на месцы, ступаючы па слядах гэтых трох важных гістарычных постацяў, убачыць сваімі вачыма ўяўлення гэтую цудоўную групку. Найбольш вясёлым, найбольш гаваркім, жвавым хлопцам павінен быць Жыгімонт (якога пазней назвалі Старым); напэўна, любіў кветкі, ірваў іх у медніцкіх садах, палях, убіраў імі сваю дзіцячую галоўку, бо з гісторыі ведаем, што любіў у старасці хадзіць у вянку з ружаў, напэўна, жартаваў з братамі, бо пазней, калі ўжо быў каралём і ў сталым веку, жартаваў з прыдворнымі. Хваравіты Аляксандр, здаецца, пазглядае сумнымі вачыма на голыя пагоркі і далёкія лясы. Пануры Ян-Альбрэхт глядзіць у зямлю. Прыгожы Казімір анёльскія вочы звяртае да неба, у сваю айчыну; на яго вуснах малітва, ва ўсім твары беззаганная сціпласць. А Длугаш, як ведаем яго з тагачасных запісаў, апрануты ў чорную манаскую тогу, сярэдняга росту, з вялікаватым носам, з жывымі, глыбока пасаджанымі вачамі, чытае пергаментны том хронікі Матэвуша Халявы, часам звяртае ўвагу на маладых выхаванцаў і, заікаючыся (бо меў такі недахоп), адказвае на лаціне на іх дзіцячыя пытанні. Дзятва бегла размаўляе мовай рымлянаў, але і польская мова ёй не чужая; бо ведаем, што ў 1469 годзе Казімір па-польску вітаў бацьку, які вяртаўся са Львова*. Выхаванне каралевічаў было такое выдатнае, што Аляксандр, папскі легат, прызнаў, што ні ў якім больш двары не бачыў ён такіх прыемных каралевічаў.

Святы Казімір жыў альбо гасцяваў у Медніках аж да самай смерці, якая наступіла ў 1484 годзе. Усе гісторыкі сцвярджаюць, што ён памёр у Вільні, але Нарбут, паводле сведчання ксяндза Галанскага, адзначае месцам ягонай святой канчыны Меднікі**.

---

* Wiszniewski. Histor. literat. T. IV. S. 43.

** Dzieje. T. VIII. S. 230.

Гістарычнае паданне, зрэшты, не зусім доказнае, сцвярджае, што перад 1638 годам, гэта значыць перш чым была ўзнесена і добраўпарадкавана сённяшняя капліца святога Казіміра пры Віленскай катэдры, ягонае цела некалькі гадоў спачывала ў замку ў Медніках. Бо пры Жыгімонце I каля 1517 года Медніцкі замак ляжаў у руінах*. Дапоўніў канчатковы заняпад гэтага месца напад рускіх у 1519 годзе, калі яны з агнём і мячом прайшлі ўсю дарогу ад Мінска да Вільні**. Быў тут нядаўна яшчэ касцёл, заснаваны ў старажытнасці, у якім вялі службу карменіты альбо аўгусціяне***. Не маем цяпер магчымасці ўдакладніць, каторы з гэтых двух ордэнаў меў тут свой кляштар і калі ён перастаў існаваць.

Французы, вяртаючыся ў 1812 годзе, спалілі тутэйшую вёску і прылеглы двор, разбіўшы лагер каля муроў спустошанага замка, палілі вогнішчы з будаўнічага бярвення і мэблі. Тут згарэла значная частка запісных кніжак паважанага Лаўрыновіча, рэшткі якіх падаў нам у цудоўнай хроніцы квестар п. Ігнат Ходзька.

За Меднікамі мясцовасць роўная, грунт гліністы і надзвычай камяністы, краявід небагаты. Мінаем карчомкі, лічыць якія ўжо адпадае ахвота, і, цераз невялічкі масток пераехаўшы рэчку Саламянку, бачым перад сабою ў даліне другую чарговую паштовую станцыю, званую Каменным Логам.

Станцыя з аднаго боку, карчма з другога боку дарогі, горы закрываюць далягляд з трох бакоў. На адной з гор віднеецца вёска, а тут жа пры дарозе — добры кавалак лугу, што так густа ўсыпаны вялізным каменнем, што касіць яго нельга, здаецца, што гэты луг (па-русінску лог) даў назву гэтаму месцу, бо не лёх каменны, як гэтая мясцовасць называецца ў даўнейшых дакументах: ні пра які лёх ні следу, ні падання дапытацца на месцы нельга.

Вёска Каменны Лог належала да нерухомай маёмасці біскупскага стала. Пры Валяр'яне Пратасевічы, віленскім біскупе, налічвалася ў ёй 10 сялянскіх хат. Той жа Пратасевіч 25 жніўня 1578 года перадаў гэтую вёску разам з Меднікамі і іншай

---

* Гл.: Gerberstein. Commentarii rerum Moscoviticarum.

** Гл.: Карамзин. История государства Российского. Т. VII. Прим. 199.

*** М. Балінскі ў «Старажытнай Польшчы» сцвярджае, што карменіты; але ў дыярыушы аўстрыйскага пасольства ў Расіі ў 1697 г. (Вена, с. 23) чытаем: «Quatuor Miliaribus confectis in pago Miedneck nocte conquevimus. Dicto in loco patres Ord. S. Augustini, monasterium habent».

шматлікай маёмасцю віленскім езуітам у фонд іхняй акадэміі, што Стэфан Баторый 1 красавіка наступнага года пацвердзіў. У гэтым аддаленым ад гарадскога шуму зацішку жылі занятыя духоўнаю працай паважаныя айцы. Тут пад час свайго рэктарства бываў векапомны Пётр Скарга […].

Звыш дзвюх міль ад Каменнага Логу да Ашмяны ішлі гарыстыя і разнастайныя мясціны; мільгаюць двары, дворыкі, і бялеюць прыдарожныя карчомкі, але наша недакладная памяць нядобра захавала іх выгляд, назвы альбо звязаныя з імі гістарычныя ўспаміны. Люд, які спатыкаем па дарозе, чуем, гаворыць часам на літоўскай мове, але яна ўжо між маладога пакалення забываецца і саступае месца русінска-польскай. Люд гэты сярэдняга росту, носіць белыя сярмягі, шапкі-аблавушкі, жанчыны ў свята носяць цёмна-сінія бекешы з вялікаю колькасцю жоўтых металічных гузікаў. Тутэйшы селянін, як і ўвогуле ўсе падвільняне, не адзначаецца ні вялікай інтэлігентнасцю, ані цвярозасцю.

З пагорка позірк ахоплівае Ашмяну. Мураваная вежа каталіцкага касцёла, зялёная макаўка грэцкай царквы і пара муроў блішчаць здалёку. Чырвоная цэгла касцёла, некалі францысканскага, прыгожыя пагоркі, сярэбраная плынь ракі Ашмянкі сярод зеляніны, далёкія двары і лясы ствараюць навокала багаты і разлеглы краявід.

# НЁМАН АД ВЫТОКАЎ ДА ВУСЦЯ
## *З «Уступнага слова»*

«Шануй бацьку свайго і маці сваю», — кажа адна з свяшчэнных усталяваных запаведзяў.

Ва ўсіх нас ёсць абавязак перад Богам і людзьмі, з якімі мы жывём. У значэнні больш шырокім бацькам нашым ёсць Бог, маці — зямля, дзе мы нарадзіліся. Тут любоў — не толькі запаведзь, а і наша прыроднае пачуццё.

Хто ж з нас можа не любіць цябе, Божа, магутны ў дзеях сваіх, невычэрпны ў дабрыні! Хто ж не праліў бы з нас кроў за цябе, родная Маці-зямля! Гэтыя пачуцці любові і ахвярнасці — нават не заслуга наша, а проста абавязак.

Я заўсёды лічыў, што нельга палюбіць родную маці-зямлю без глыбокага і шырокага пазнання ўсяго яе аблічча. Навучыцца глядзець у іскру, што злятае з яе веек, плакаць слязьмі, што льюцца з яе вачэй ці ліцца маглі, нават лічыць з любоўю маршчынкі на высакародным абліччы — вось прыкметы любові. Вывучаць нашу родную зямлю ў адносінах гістарычных, прыродазнаўчых, этнаграфічных, археалагічных, геаграфічных — гэта, як мне здаецца, толькі нязначны вынік таго, што звычайна завецца любоўю да бацькаўшчыны.

Бо як жа любіць, як жа аддаваць кроў за тое, чаго не ведаеш і не разумееш?

Нямала вучоных з святым замілаваннем урабляюць скібу роднай зямлі ў сэнсе яе пазнання, даследавання. Шмат зроблена ўжо для вывучэння яе гісторыі, але мала, страшна мала — геаграфіі. «Паўночныя схілы Карпат» Вінцэнта Поля, «Старажытная Польшча» Балінскага і Ліпінскага, яшчэ дзве ці, можа, тры кнігі — вось крыніцы, дзе можна знайсці такія-сякія геаграфічныя звесткі.

Як кроў у артэрыях жывой істоты, так жыццё краіны мацней чым дзе пульсуе ў яе рэках. А між тым апісанняў нашых рэк амаль няма. Першая вядомая мне спроба такога роду — гэта выдатнае, да гэтага часу не надрукаванае апісанне Віліі графам

Канстанцінам Тышкевічам, што захоўваецца ў Віленскім музеі. Плаваючы на простай віціне, шаноўны аўтар здолеў ухапіць і адбіць на паперы і рух паветра, і плёскат хвалі, і гоман берагоў, і мелодыі народных спеваў, і старое паданне. Змераў глыбіню ракі, вышыню навакольных гор, звярнуў увагу на гістарычную вартасць напатканых помнікаў — словам, выдатна вычарпаў тэму.

Якраз гэтая выдатная праца падштурхнула і мяне напісаць нешта падобнае, кніжку, якую і прапаную цяпер чытачам.

Адна з самых вялікіх, геркулесавых жылаў нашай Літвы — гэта рака Нёман. Хоць і не гэтулькі, як у графа Тышкевіча, сабралася ў мяне матэрыялаў, усё ж надумаўся я прабегчы Нёман ад яго вытокаў і да вусця і пусціць ва ўжытак усё тое, што некалькі гадоў назапашваў я ў сваёй папцы.

Пісаў я без намеру надрукаваць «Манаграфію ракі Нёман» ад яе вытокаў да Коўна. Гэтая праца ніколі б не была апублікавана, калі б не трапіў мне ў рукі «Паментнік Літэвскі Жэгляжа» ад Коўна да Краляўца, які даў магчымасць дапоўніць нашу працу, паказаць увесь Нёман ад пачатку да канца — гэтую галоўную артэрыю нашай Літвы, нават агледзець усе важнейшыя яго нервы — трохі меншыя рэкі і рэчкі, азёры і ручаі, што ў яго ўпадаюць. Усімі імі пульсуе жыццё нашай краіны. Шкада толькі, што гэтае жыццё вельмі скупа здолеў я паказаць, сабраўшы на старонках нашай кнігі. Слаба закрануў я этнаграфію. Можна б было на вялікім працягу Нёмана назапісваць ад людзей гістарычных легендаў, паданняў. Але гэта робіцца на месцы, на самім Нёмане. Я ж пісаў гэтую кнігу за сваім столікам, дома, прытым змучаны хваробай…

*1861*

# БІЯГРАФІЯ КОСАЧА

…Любая праца, якая прыносіць людзям карысць, заўсёды вартая ўхвалы. Якраз зыходзячы з гэтага майго пераканання і надумаў я падаць вам біяграфію Косача.

Нарадзіўся ён 17 сакавіка 1836 года, пра што сведчыць яго метрыка, запісаная на календары рукою майго бацькі, нябожчыка. Калі Косач прыйшоў на свет, раставаў снег, ужо добра прыгравала ранішняе сонца і, што рэдка бывае ў гэтую пару, над чорнай яшчэ і вільготнай зямлёй спяваў у небе жаўранак. Усё прадракала Косачу добрую будучыню.

Наш фурман у гонар нараджэння Косача ўзяў з радасці кілішак гарэлкі, — я забыўся сказаць вам, шаноўныя чытачы, што Косач не быў нейкай славутай асобай, а простаконікам колішняй добрай польскай пароды. Немалы табунок такіх слаўных, вынослівых і працавітых коней быў у маіх бацькоў, якія сядзелі на невялікай арэндзе і належалі да заможнай шляхты.

Але спачатку варта апісаць ваколіцы, у якіх нарадзіўся Косач. Быў гэта невялікі, але ладны фальварак паміж Свержнем і Нясвіжам — налічваў ён дваццаць пяць сялянскіх хат і ўваходзіў у шырокі Радзівілаўскі маярат. Для такіх сціплых уладанняў маёнтак выглядаў як панскі, бо тыя, што тут некалі гаспадарылі, будаваліся і для сябе, і для ўнукаў. Былі гэта закладатрымальнікі радзівілаўскай спадчыны, якіх потым вельмі несправядліва выгналі з абжытых сядзіб, пусціўшы ў свет з торбай і кіем. Сціплыя ў сваіх патрэбах, амаль увесь прыбытак з урадлівай зямлі яны ўкладвалі на паляпшэнне і аздобы маёнтка. Дом, хоць быў драўляны, выглядаў як палац і сведчыў аб багацці яго даўніх гаспадароў. У ім быў ладны ганак пад вартай таполяў, шырокія сенцы, восем пакояў, два з якіх заслугоўвалі назвы салонаў. Двор з усіх бакоў быў акружаны вялікім прыгожым садам. У садзе раслі рэдкіх гатункаў пладовыя дрэвы, экзатычныя кусты і кветкі. Тут, на чарназёме, усё радзіла выдатна. У двары была вялікая клумба з кветкамі. У маёнтак вяла драўляная брама з прыгожай гатычнай верандай.

Але калі былі выгнаны закладатрымальнікі, а фальварак за вялікія грошы аддалі ў арэнду, арандатары не маглі ўжо з такой святасцю ўтрымліваць рэзідэнцыю. На даху пазелянела старая гонта, сенцы пачалі зацякаць ад дажджу. З салонаў толькі адзін збольшага прыбіраўся для гасцей. У другім жа ссыпалі збожжа. Мы, сям'я арандатара, месціліся ў адным пакоі, у другім — чэлядзь, у трэцім, дзе быў склад усялякага рыззя, — жылі пацукі, а ў іншых нават і пацукі не хацелі жыць, бо там гасціў холад і поўная пустэча. Аплачваць гэтулькі пакояў мы не мелі сродкаў.

Сад здзічэў, палова дрэў перастала даваць плады. Яблыні і грушы зрабіліся, як шкілеты, на камлі і галінах вішань павыступала смала, агрэст і маліна пазарасталі быльнягом, сцежак ужо амаль не было відаць, на кветкавых клумбах садзілі капусту і сеялі агуркі. Толькі на адной клумбе невядома як ацалелая раскашавала чырвоная бузіна.

Панскі дом стаяў на ўзгорку. Прыгожы з яго быў від на ваколіцу. Направа, за шырокім полем, відаць былі дахі шляхецкага засценка і чырвоны дашак са статуяй Хрыста, далей ішоў луг, зарослы алешнікам, а паміж цяністых высокіх вольхаў вілася рачулка, такая прыгожая, што бляднеюць перад ёю самыя паэтычныя апісанні «крышталёвых вод». Вада яе была чорная, бо густыя вольхі ніколі не прапускалі сюды сонечных промняў. Толькі часам пры ўзыходзе сонца і ў ясны поўдзень, прабіўшыся праз густое лісце, бегалі па чарнаце вады мігатлівыя сонечныя водбліскі. Дно рачулкі было ўслана жвірам і каменьчыкамі, і вада ўвесь час булькатала, пенілася, ад яе ляцелі пырскі. Абодва берагі рэчкі густа пазарасталі ўсялякай раслінай. Над вадою схіляліся кусты парэчак, маліны, там-сям хмель абвіваў альшыну, а то перакідваўся на другі бераг, учапіўшыся за які куст. Перакінуты праз раку мост хістаўся на старых палях, падгнілыя парэнчы хадзілі ўверх-уніз, нібы крыльцы матыля ў палёце, калі па мосце гучна тарахцеў воз селяніна, што ехаў на паншчыну. Ад моста ішла да вёскі гразкая грэбля, усланая рэшткамі леташняй фашыны і страшнейшая для колаў, чым само балота. За грэбляй стаяла вёска, што належала да фальварка, — з кузняй наводшыбе. Далей цягнулася не меней як на паўмілі іншая вёска, якая замыкала гарызонт. Такі вось кругагляд адкрыўся вачам Косача, калі першы раз убачыў ён дзённае святло, што, як вядома, бывае ў коней праз дзевяць дзён пасля нараджэння. Што ён падумаў, убачыўшы ўсё гэта, невядома, але, відаць, падумаў нешта добрае, бо аж тры разы радасна падскочыў. Тут яму заіржала матка, і ён, узмахнуўшы хвастом, пабег да яе вымені.

З кожным днём мацнелі яго ногі. Ён бегаў па зямлі з незвычайнай радасцю. Часта імчаўся наўгалоп, кружыў вакол маткі, раздзімаў храпы, уцягваючы паветра. У грудзях яго было весела, сэрца гуляла, як рыба ў вадзе на пагоду.

Але хутка мінае гэтая ранняя пара жыццёвага абману. Шляхецкая каняга — гэта не панскі рысак, не пястун, які мае толькі адзін нейкі абавязак. У нас адзін і той жа конь служыць і для верхавой язды, і для таго, каб цягаць воз ці барану. Усё ён павінен умець, ні ад якога цяжару яму нельга ўхіляцца. Недзе праз месяц пасля нараджэння Косача яго матку ўзялі баранаваць гарох. Было гэта 18 ці 19 красавіка ў суботу (бо, вядома, гарох можна сеяць толькі ў панядзелак і суботу, у іншыя ж дні, напрыклад, у аўторак і г. д., у гучанні якіх ёсць гук «р», нельга, інакш яго з'ядуць чарвякі, па-польску робакі). Дык вось у суботу на шыю зняможанай канягі надзелі цяжкі хамут, да пастронкаў прычапілі цяжкую барану, на барану палажылі цяжкі камень і павялі ў поле. Са здзіўленнем глядзеў жарэбчык, што ўсё гэта азначае, і нічога не мог зразумець. Аднак пабег за маткай. Калі б ён меў розум, мог бы вольна гуляць па мяжы, шчыпаць сабе спакойна канюшыну. Але ён баяўся згубіць матку і таму бег увесь час за бараной, грузнучы сваімі слабымі яшчэ ножкамі ў пульхнай раллі. Нелітасцівы парабак рэдка спыняў кабылу, каб яна магла пакарміць сваё жарабя. Кароценькі прыпынак — сцегануў дубцом, і зноў работа. Гэтае бясконцае кружэнне па марозе так аслабіла малога коніка, што, калі вечарам знялі са спацелай кабылы хамут, яму ўжо было не да гуляў: расцягнуўся на зямлі і тут жа заснуў. Назаўтра было тое ж самае. На трэці дзень кабылу не пагналі на работу, быў адпачынак, і жарэбчык ізноў забаўляўся і скакаў, але цяпер ужо іншымі вачамі пачаў глядзець на свет і прыроду. Інстынктам адчуў рэальнае жыццё.

У нядзелю мы сабраліся ехаць у касцёл. Парафіяльнае мястэчка Свержань ад нашай сядзібы ляжала меней чым за тры чвэрці мілі, таму мы заўсёды бывалі на набажэнстве, часам хадзілі туды пехатой. Мае немаладыя ўжо бацькі, нягледзячы на тое, што цэлы тыдзень працавалі ў поце на гаспадарцы, знаходзілі сілы ўстаць у нядзелю рана і пасля кавы, пах якой я і дагэтуль чую, падацца да касцёла.

У нас была тады вялікая брыка з яркім скураным кузавам, пафарбаваным у цёмна-зялёны колер, акутая жалезам, а таму цяжкая, — у яе трэба было ўпрагаць трох коней. Спрацаваныя канягі не мелі ніякіх прывілеяў — запрагалі іх і ў брыку. Сярод іх была і матка нашага Косача; бедалага, хацеў ён ці не хацеў, а

мусіў пускацца з ёю ў дарогу, бо інакш некалькі гадзін заставаўся б без корму. З апушчанай галавой ішоў ён следам.

Вось падкаціла брыка да ганка. Мы паселі ў яе — бацька, маці і я з дзвюма сёстрамі. Фурман Аляксей, адзеты па-мясцоваму ў чорную сярмягу, падпяразаную чырвоным поясам, у саламяным капелюшы, паганяе коней, і мы едзем.

Да магілы не забуду я гэтыя гожыя нядзельныя ранкі, калі мы ехалі ў касцёл. Маці звычайна пачынала псалом «Хто ідзе пад апеку Бога», а мы паціху і не вельмі ўважліва паўтаралі яе словы…

Мы едзем пад шэпт малітвы, які напамінае пчаліны гул. Сонца яшчэ невысока, таму залацістае, а над ім — млечна-блакітнае неба. Весела гуляе вецер, на сэрцы робіцца светла, радасна, нават мілей спяваюць птушкі. Я ўсёй істотай адчуваю, што сёння — нядзеля. Коні бадзёра пафыркваюць, а малады жарэбчык стараецца не адставаць ад воза, часам апярэджвае яго і, прыпыняючыся, свавольна пашчыпвае валошкі ды дратуе жыта пры дарозе.

Усюды на дарозе святочны рух. Людзі з вёсак і засценкаў сыплюць у мястэчка — на рынак і на набажэнства. У гэтых засцянковых «ягамосцях», якія сустракаюцца нам па дарозе, зусім нельга ўжо распазнаць нашчадкаў даўнейшай рыцарскай шляхты. Калі-нікалі прамільгне верхам на худым інаходцы які-небудзь хлопец у сурдуце смешнага сваёй прэтэнцыёзнасцю крою з накрухмаленым, як кардон, каўнерыкам, з белай муслінавай хусткай на шыі, з самалюбнаю дурнотаю на твары. Але часцей за ўсё шляхта едзе ў аднаконных плеценых каламажках. Больш важныя ягамосці носяць падстрыжаныя і падголеныя вусы, апрануты яны ў плашчы з кароткімі каўнярамі. Дамы — у чапцах, вельмі элегантных, з яркімі стужкамі, у вялікіх, часцей за ўсё пунсовых хустках. Але маладзейшыя асобы прыгожага полу, што едуць на вазах ці ідуць пехатой босымі, вылучаюцца яшчэ большай яркасцю фарбаў у адзенні. Адны ваўнянымі хусткамі ахінаюць аж па вочы свае гожыя тварыкі, каб засланіць іх ад ветру, у другіх на галовах відаць вялізныя грэбні, з-пад якіх тырчаць яшчэ большыя снапы жоўтых і чырвоных кветак, іншыя фарсяць пачварнымі капелюшамі з ламанымі пёрамі. Дзядок з доўгімі белымі вусамі ў канфедэратцы, пажылая пані ў старасвецкім чэпчыку і ў спадніцы ў вялікія кветкі — жывыя помнікі мінуўшчыны. Можна не пытацца ў тутэйшай шляхты пра старыя часы. Князя Караля, канфедэрацыі і сеймікаў амаль

ніхто не помніць ужо. Маладзейшыя яшчэ насілі ў Нясвіжскі замак пры князю Дамініку чынш гатоўкаю, цёмныя ўнукі наўрад ці ведаюць пра рыцарскую службу іх дзядоў. Цямнота і шляхецкая пыха — характэрныя рысы тутэйшых засценкаў.

Селянін мае бадзёры выгляд. Чыстая, хоць і грубая яго сярмяга, падпяразаная чырвоным паскам, выдатна адцяняе яго добра складзены стан. Доўгія светлыя валасы спадаюць яму на шыю, яркая запінка блішчыць на белай кашулі. Высокая аўчынная шапка дапаўняе маляўнічасць яго ўбору. Дзяўчаты ў блакітных гарсэціках, у беласнежных кашулях, з пацеркамі на шыях, у белых хустках, з-пад якіх вытыркаюцца залацістыя сплёты валасоў, вылучаюцца такой натуральнай прыгажосцю, якую можа стварыць толькі маці-прырода.

Такая рознакаляровая людская рака цячэ па дарозе. Чуецца смех дзяўчат і хлопцаў, кудахчуць куры, бляюць авечкі, якіх вязуць на рынак, іржуць коні, скрыпяць калёсы, за якімі клубіцца пыл, а малады наш герой, вараны жарэбчык, гарцуе сярод гэтага тлуму, пастуквае сваімі маленькімі капыткамі.

Даруйце мне за гэты просты і не новы абразок. Сляза ўспаміну пра маленства, скаціўшыся на паперу, міжволі адбіла яго, хоць, можа, і нязграбна. Прашу не быць залішне суровымі да мяне ў падобных выпадках.

Праз пясчанае ўзвышша ўязджаем мы паўз парафіяльны цвінтар да непрыгляднага парафіяльнага мястэчка. Мураваны чырвоны арыянскі касцёльчык, пабудаваны недзе ў XVI ці, можа, і ў XV стагоддзі, узносіць сваю сціплую званіцу, якая ўжо кліча на імшу ў два разбітыя званкі. Перад касцёлам ужо відаць колькі крытых і не крытых брычак, колькі шляхецкіх каламажак і адзіная ў парафіі карэта, старасвецкая, праўда, і не надта паглядная, але ж карэта — прадмет пашаны і часам зайздрасці суседзяў. Мы з шумам пад'язджаем пад касцёл і сунімаем коней, што вельмі радуе нашага малога коніка, які ўжо, бедны, замарыўся, выгаладаўся і, як тут кажуць, падупаў. Праз стары драўляны прытвор, дзе па даўняй базыльянскай кантычцы (ох, як бы яна прыдалася да майго кнігазбору!) моліцца маршчыністы, з прыветлівым тварам дзядок, уваходзім у касцёл.

О ціхі спрадвечны касцёльчык старэнькі!
Тут на павуціне, на нітачках ценькіх
Малітву маю з дзён малых час гайдае,
На шыбах сляза мая стыне жывая…

Тады зусім не думалася, што некалі ў жыцці сустрэнуцца пакуты і гора, — па сканчэнні набажэнства, бесклапотны, здаровы духам і целам, бег я да плябаніі паласавацца грушкамі. Дагэтуль жывы яшчэ, чуў я, добры дзядок, ксёндз Ян, мясцовы пробашч. Толькі, кажуць, яшчэ больш схіліўся да зямлі і ён, і яго стары дамок з жалезнымі шышакамі на даху.

У касцёле можна ўбачыць усіх заможных парафіян, усіх арандатараў малых і большых фальваркаў з жонкамі і дзецьмі. Усе прыбраныя ў святочныя строі, трымаюць сябе ўрачыста і строга: у такі дзень не хочацца думаць пра жыццёвыя дробязі. Святочныя строі адзяюцца адзін раз на тыдзень, не дзіва, што носяцца яны з асаблівай акуратнасцю. Гэтак жа як і панскі фрак, накрухмаленая панская хустка, якая сціскае звыклую да волі шыю. Мода сюды не даходзіць, крой залежыць ад фантазіі местачковага краўца Лейбуся, які, ходзячы з локцем і прасам ад двара да двара, дзе спыняецца па тыдню ці па два тыдні і такім чынам ужываецца ў кожную сям'ю. Ходзіць ён па дварах са сваім матэрыялам, з якога не робіць ніякай таямніцы, па чарзе. Пакуль дойдзе гэтая чарга, у многіх дамах будуць свяціць ватаю паабдзіраныя халаты паняў, вылежвацца ў куфрах матэрыя на сукенкі ды салопы для паненак, а пан будзе насіць сваю тужурку з надпоратым каўняром, у якой сорамна ўжо выйсці на людзі. Вядома, сукенку можна было б пашыць дома і самім, але хто ж яе без Лейбуся скроіць, хто надасць ёй модны фасон? У Лейбуся — свой асаблівы фасон, свая мода, свой крой, адзіны на ўсю парафію, амаль адзіны на кожную асобу, іншых модаў не ведае і, мусіць, ведаць не хоча. Аднаго разу яму далі ўзор парыжскай моды, каб пашыць па ёй новую сукенку, але ён і не глянуў на крой, а дарагі малюнак парэзаў на мерку і скроіў сукенку па-свойму. Заказчык быў абураны, Лейбуся выгналі. Але ён толькі пасміхаўся, добра ведаючы, што яго хутка зноў паклічуць. Вы, пэўна, здзівіцеся, калі скажу, што гэтая важная ў парафіі асоба, сапраўдная газета, пацеха, дарадца ўсёй ваколіцы, не зарабляла болей як два ці тры рублі на тыдзень. Ён шчаслівы, калі прыдбае на свята куру ці індыка, пры гэтым на чым свет расхвальвае таго, хто даў — перш за ўсё ў знак падзякі, а другое, для таго, каб іншых падбухторыць на гэтакі дарунак.

У сціплай хаціне пробашча жанкі не шмат разважаюць пра строі, болей пра гаспадарку, пра сваіх дзяцей, пра іх здароўе, дасціпнасць, мужчыны за чаркай гарэлкі (якую сам пробашч не бярэ) — пра сенакос, жніво, паляванне, пра палітыку, пра Турцыю, пра новыя ўказы ўрада, пра становішча прыстава.

Што ён «бярэ» (пад гэтым выразам разумеецца — бярэ грошы, хабар) — гэта не кепска, але што любіць закладваць (тут расказчык шматзначна пстрыкае сабе па шыі, што азначае — напіваецца) — вельмі дрэнна, бо не помніць, што кажа, і б’е жыдоў (тут называецца імя арандатара).

Ксёндз пробашч, як мы казалі, гарэлкі не ўжываў, але кожны дзень выпіваў колькі дзясяткаў шклянак чаю, з радасцю частаваў ім іншых і з удзячнасцю ўсміхаўся аматарам гэтага напою. Нам, дзецям, наліваў па тры ці чатыры шклянкі. Пот раўчукамі цёк з дзіцячых ілбоў, нашы твары чырванелі, аднак мы пілі чай з ахвотаю, бо добра бачылі, як гэта прыемна пробашчу, якога вельмі любілі.

Пасля чаю мы беглі ў сад, — нідзе пазней я не бачыў такога выдатнага саду, як у ксяндза пробашча. Больш за ўсё любіў ён кветкі, і ў садзе цвілі самыя розныя дары флоры. Што тут былі за півоні! А якія мальвы, рэзеда, астры, браткі, рагулькі! А як пахлі цэнтыфоліі і гваздзікі! У пакоі алеандры даставалі да невысокай столі, а міртры, якім уверсе не было прасторы, разрасталіся ў нізкія, але галінастыя і тоўстыя дрэвы. Ксёндз пробашч першы ў парафіі развёў вяргіні розных колераў і адценняў. Не ў прыклад іншым аматарам ён шчодра дзяліўся з усімі, хто хацеў, флянцамі, насеннем, парадамі.

Кветнік быў толькі ўступам да іншых дзівосаў саду. Добра дагледжаны былі яблыні і грушы. Яны давалі гэтулькі смачных і духмяных пладоў, што ні ў якае параўнанне не ішлі з усімі іншымі садамі. Сёння я зусім не ем садавіны, бо ведаю, што ўжо такіх, як у ксяндза, няма і на свеце, — іх мы тузінамі тады з’ядалі. А якая была нам радасць, калі добразычлівы гаспадар злёгку страсяне грушу і з яе пасыплюцца ў траву жоўтыя, як воск, сакавітыя, як апельсіны, маргарыткі альбо сапяжанкі. Ён насыпле табе поўную шапку, поўныя кішэні, навяжа ў хустку і яшчэ скажа збіраць у сурвэтку для мацеры. Не толькі мы, дзеці, але і дарослыя паненкі і вусатыя кавалеры кідаліся збіраць грушы…

Рынак парафіяльнага мястэчка не дасць табе матэрыялу для новых карцін. Людская таўханіна, іржанне коней, рык валоў, скрып калёс — усе гукі зліваюцца ў адзін суцэльны, амаль гарманічны шум. Некалькі дзясяткаў драўляных, вядома, жыдоўскіх крам абстаўлены вазамі, аблеплены тымі, хто прыйшоў ці прыехаў на кірмаш. У крамах можна знайсці ўсё самае неабходнае. Жыд і не думае нейкім лепшым спосабам выстаўляць свой тавар, бо ведае, што і без таго палову яго

невялікай крамы раскупяць у нядзелю паны, шляхта і сяляне. Тут усё ляжыць разам: селядзец і чай, турэцкі перац і паколаны на фунтавыя кавалкі цукар, цукеркі і вакса для абутку, вяроўкі і чырвоныя стужкі, памада і дзёгаць, алоўкі і жалезныя цвікі, папера і камфара, шафран і просты тытунь у лісцях. У слоіках, у бочках, у драўляных скрынках, на паліцах, на стале, на доле можна ўбачыць самы розны тавар, а над ім пачуць бясконцую балбатню гаспадароў — мужа і жонкі, якія таргуюцца з двума дзясяткамі пакупнікоў адразу. На самім рынку ж, наадварот, каля аднаго воза з жытам, каля аднаго вала ці барана збіраецца каля дзесяці жыдоў адначасна. І кожны стараецца абдурыць мужыка, кожны крычыць яму на вуха, кожны называе сваю цану, і чым далей к вечару, тым ніжэйшую. Адразу відаць змова ашуканцаў, якія толькі для выгляду ўчыняюць паміж сабою сваркі. Адзенне іх паабшарпанае і бруднае. Ствараецца ўражанне, што нехта наўмысне павыквэцваў ім даволі новыя жупаны, бо адкуль набралася на іх многа засохлай гразі ў гэтакі сухі ліпеньскі дзень? Але яны не зважаюць на сваё адзенне: нядзеля для іх — рабочы дзень. Трэба сказаць, тутэйшы люд, прадаўшы свой тавар, не надта заглядае ў шынок, бо думае пра свае немалыя патрэбы ў гаспадарцы, ён толькі хіба зойдзе ў карчму, каб падмацавацца, ну і заадно ўзяць якую чарку гарэлкі ці кухаль піва. Тут не пачуеш п'яных вокрыкаў. Праз дзве ці тры гадзіны пасля набажэнства рынак пусцее, па ім цяпер ходзяць хіба жыдоўскія козы ды каровы, падбіраючы параскіданае з вазоў сена, а самі гаспадары паволі разыходзяцца з думкай пра наступны нядзельны гандаль.

Але пакінулі мы без увагі героя нашай біяграфіі, малога жарэбчыка. Яму тут някепска: насмактаўшыся матчынага малака, ён лёг адпачыць у цяні жыдоўскай карчмы. Згледзеўшы, што брыка рушыла далей у дарогу, ён неахвотна ўздымаецца і бяжыць следам.

Прыгледзімся ж да люду, што варочаецца з рынку. Усе цвярозыя, толькі зрэдку ўбачыш трошкі падхмеленага, але п'яных няма. Не гэтак, як пад Вільняй. Калі і ўбачыш тут нешта такое, то хіба што сярод чыншавай шляхты, а не сялян. Шляхецкія коні, падбадзёраныя бізуном, хутка нясуць каламажкі з ягамосцямі і іх жонкамі разнастайнай формы. Не сумуюць і тыя, што ідуць пеша. Панічы, паскідаўшы боты, каб дарэмна не збіваць іх у дарозе, і ўздзеўшы іх на палкі, каб лаўчэй несці на плячах, весела перакідваюцца жартамі з паненкамі, што, увязаўшы ў хатулі свае сукенкі самага новага Лейбусавага крою, у якіх яны красаваліся ў касцёле, вяртаюцца ўжо ў сваім белым адзенні.

Свае пачварныя капелюшы нясуць яны ў руках, адкрыўшы сонцу мілыя тварыкі…

Чорнарусін з-пад Нясвіжа, Мінска, Наваградка, словам, прадстаўнік крывіцкага племені, вызначаецца рэдкім нават у самых адукаваных дарам памяркоўнасці (тэмпераменту), бо не даводзіць сябе да ганебнага п’янства. І твары людзей лагодныя, думка цвярозая, рукі працавітыя, адзенне цэлае і чыстае. Як сведчаць нашы назіранні, чорнарусін напіваецца тады, калі яго душу разрывае роспач альбо калі ён гуляе вяселле. Літвін п’е без прычыны, напіваецца да самазабыцця, гіне ад ляноты. Тут, пад Нясвіжам, селянін з рынку заўсёды вяртаецца дадому на позні абед альбо на раннюю вячэру, а той, што ад раніцы буяніць у мястэчку пад уплывам чаркі, вечарам, выгнаўшы на начлег коней ці валоў, спявае святыя песні, а не тыя брыдкія, што дзенідзе можна яшчэ пачуць у нядзелю вечарам. Натуральна, што свабода спрыяе маральнасці люду, а селянін Радзівілаўскага маярату, спрадвеку седзячы на добрай глебе, не абцяжараны беспрасветнай працай, болей любіць свой дом і сям’ю. Але ў той час спакуса да кепскай звычкі была даволі моцная. Выраблялася мора гарэлкі, прадавалі яе ў корчмах, прадавалі за бесцань па маёнтках употай ад карчмара, нават накладвалі на хаты пэўную колькасць дурманнага напою. Нядобры прыклад падавалі і вайскоўцы, што былі заўсёды ў вёсках на пастоі. Але верны сабе, моцны воляй селянін не захапляўся гарачым напоем. Таму вялікая колькасць гарэлкі ішла на продаж далей…

*1861*

# ДАРОЖНЫ ДЗЁННІК 1856 ГОДА

Цяперашні год, хоць і халодны, без цяпла, значна багацейшы, чым мінулы, на падарожжы літаратараў. Качкоўскі, Сяменскі, Вільконскі ездзілі на воды Зальцбурга, Трыплін з Варшавы і Адам Плуг (Антоні Пяткевіч) з Падолля прыехалі пазнаёміцца са сталіцай Літвы, Ян са Слівіна ажыццявіў вучонае падарожжа па роднай зямлі, словам, узнікла і ў нас амаль невядомая дагэтуль мода падарожнічаць і запісваць назіранні для азнаямлення чытачоў з усёй краіны. Імкненне гэтае, выклікана жыццёвай неабходнасцю, заслугоўвае ўсялякай ухвалы. Не думаю, што хто-небудзь з нашых падарожнікаў, вярнуўшыся на зіму да роднага парога, пашкадуе страчанага часу і гроша, што ён не ўбачыў на нашай ціхай зямлі нічога цікавага, не прывёз дамоў якіх-небудзь уражанняў і не ўзбагаціў свой кругагляд чымсьці істотным, карысным… Добры прыклад маіх братоў па пяру падштурхнуў і мяне пусціцца ў дарогу. Якраз пагэтаму, збіраючыся па сваіх клопатах у Варшаву, я, замест таго каб ехаць бітым шляхам з Вільні на Коўна, надумаўся выправіцца раменным дышлем на Мінск, Слуцк, Брэст-Літоўскі і, ахапіўшы такім спосабам немалую частку роднага краю, расказаць табе, чытач, пра маё падарожжа. Будуць гэта простыя ўражанні падарожніка, напісаныя таксама проста. Блаславі ж мяне, дарагі чытач!

*Дня 23 жніўня.*

Я выехаў з маёй падвіленскай вёсачкі, што ляжыць каля самай дарогі на Мінск, за дзве вярсты ад станцыі Рукойны. Уся мая вялікая сям'я захацела правесці мяне да станцыі. Цэлы абоз з вазоў і павозак цягнуўся дарогай. Колькі там было размоў, колькі клапатлівых пажаданняў, малітваў у сціплым касцёльчыку, — думаю, ты добра зразумеў бы гэта, чытач, калі б у цябе таксама былі старыя бацькі, жонка, сёстры і цэлая гурма дзяцей, што сардэчна цябе любяць. Акрамя таго, тут былі — мой швагер Р., высакародны Каратынскі, аўтар ужо вядомых табе вершаў, і самы выдатны ў свеце віленскі жыд, прадавец кніг, які ехаў са мною ў Варшаву… Твары маіх праважатых хмурнелі па меры

набліжэння да станцыі. Перад станцыяй, з акна якой выглядалі іншыя падарожныя, бачым два экіпажы без коней. Пасылаем папытацца пра іх. Заклапочаны і незадаволены паштовы пісар адказвае, што коней няма, што яны павінны быць гадзіны праз дзве. Замест таго каб абурыцца, мы былі нават рады гэтаму, бо яшчэ дзве гадзіны маглі пабыць разам. Усёй грамадой мы праехалі яшчэ адну вярсту ўперад, да карчмы Крыжоўка, што ляжала ў прыгожай мясціне над ракой Свіранкай, — там захацелі мы пачакаць коней. Пры някепскім самавары, у шумнай размове мы і не згадалі, як мінуліся дзве гадзіны і падышлі коні. Развітанне з роднымі, і вось мы едзем.

Добры жыд, таварыш майго падарожжа, шанаваў маё маўчанне. Коні прывычна ступалі па пясчанай дарозе між высокага рэдкалесся. Надвор’е было цудоўнае, халаднаваты, ужо асенні ветрык веяў чымсьці дарагім і блізкім, асобныя чырвоныя і жоўтыя лісты на зялёных яшчэ дрэвах, а таксама першая, яшчэ кволая рунь казалі пра восень, такую мілую для летуценных і журлівых сэрцаў.

Праз якую мілю ад Рукойнаў паказваецца вёска Меднікі. Выехаўшы з вёскі, бачым направа маёнтак і руіны старога замка, налева — вельмі прыглядную карчму.

Медніцкі замак быў заснаваны ў найдаўнейшых часах, недзе яшчэ да XIV стагоддзя. Крыжакі, якія спусташалі Літву, добра ведалі гэтую мясціну, называючы яе па-нямецку — Медэнікей…

Гэта — пра замак. Што ж да вёскі і маёнтка, то скажам колькі слоў пра тутэйшы люд, правядзём параўнальныя даследаванні, якія мы будзем працягваць і ў іншых мясцінах. Падвіленскі люд, без сумненняў, быў у далёкай старажытнасці чыста літоўскага адгалінавання. Сёння, амаль усюды забыўшы сваю мову, ён, аднак, не мае падабенства да русіна. Паставай — нязграбны, сярэдняга росту, ён не мае таго спрыту, што характэрны для сялян каля вялікіх гарадоў. Размаўляе па-русінску, зусім някепска і папольску. Ёсць у яго на сваёй мове песні, напрыклад, дажынкавыя. Шануе рэлігійныя рытуалы, але асаблівай набожнасцю не вызначаецца. Усё ж вельмі прыстойны ў паводзінах, сардэчны, хоць гэтага не прачытаў бы на яго твары, нерухомым, пазбаўленым усякай жывасці мускулаў. Мужчыны носяць белыя сярмягі і шапкі-аблавушкі. Магчыма, колер гэтых сярмяг мае сувязь з белымі кашулямі, якія Ягайла раздаваў літвінам пры хрышчэнні. Жанчыны ў святы носяць чапцы з вялікімі ліштэўкамі і крамныя чырвоныя хусткі, зімой — цёмна-сінія бекешы з фалдамі, упрыгожаныя з тыльнага боку вялікай колькасцю латунных гузікаў.

Летам носяць усё белае, толькі гарсэт — слабага цёмна-сіняга колеру. Часам на свята ці на якую ўрачыстасць надзяюць вышываную сарочку, пурпуровыя, з залатым пазументам спадніцы, пры гэтым не шкадуюць для ўпрыгожання стужак, кветак, медальёнаў і пацерак. Здалёку гэта здаецца прыгожым, але толькі здалёку, бо цяжка праз усё гэта разгледзець твар, а яшчэ цяжэй — выраз думкі на ім.

Заліваецца званок, мільгаюць перад вачамі бярозкі, адбягаючы назад, як і думкі падарожнага, што пакінуў за сабой другую палову сябе. Мясцовасць роўная, глеба глiністая, пейзаж небагаты.

Па драўляным мастку праязджаем рэчку Саламянку, і вось мы ў Каменным Логу, другой па чарзе станцыі.

— Няма конікаў — у разгоне. Трэба чакаць, — сказаў, нават не чакаючы пытанняў, паштовы пісар зусім не з прыветлівай усмешкай.

Я не зазлаваўся на гэта, бо сустрэў тут, на маю радасць, дваіх знаёмых з Вільні, гамонка з якімі не магла не зрабіць прыемнымі хвіліны чакання (я ўжо на другой станцыі сумаваў па Вільні і рады быў пагутарыць пра яе!).

Пад’ехала адна, потым другая карэта, кожная запрэжана ў чатыры кані. Падалі скрыўленаму пісару падарожную, і ён аж засвяціўся, прачытаўшы тытулы пасажыраў. І што вы скажаце: восем коней было тут жа запрэжана і дзве карэты паляцелі далей к Мінску…

Прыязджаем у Ашмяны.

Ну і насланнё — і тут «няма конікаў»! Вернуцца ўночы, да таго ж іх трэба будзе яшчэ пакарміць.

— То ўладкуйце на начлег, — адказваю. — Папрашу толькі, каб у восем гадзін раніцы коні былі пададзены.

Гэта мне паабяцалі. Мяне пасялілі ў хаціне, прынеслі чаю, і я сеў пісаць пісьмы, напісаў новую гавэнду, словам, вечар не быў страчаны. Свечка дагарала — мой букініст хроп у кутку.

Хацеў бы расказаць тут пра гістарычнае мінулае Ашмян, пра Свідрыгайлу… Але мяне ўзялі тут нервовыя дрыжыкі, акрамя таго, гісторыя Ашмян ужо асветлена ў друку. Калі-небудзь я шырэй раскажу пра гэты горад… Добрай ночы!

*24 жніўня, пятніца.*

Сёння — сапраўдны дзень няўдач! Прачынаюся я ад нейкага шуму ды гуку званкоў — праўда, праз хвіліну ўсё сціхае… Ізноў аддаюся дрымоце… Потым зноў прачынаюся, прашу чаю

і пытаюся пра коней. Чаю мне падаюць, пра коней даведваюся наступнае: уночы іх выправілася ў дарогу аж шэсцьдзясят, некаторыя вярнуліся, але ім трэба адпачыць. Акрамя таго, няма фурманаў. Значыць, рана адсюль не выедзеш. Паштовы тракт зусім пусты — чацвёра коней з другой станцыі, якія прывезлі чатырох студэнтаў, што едуць з Кіева, бразгочуць званкамі, даядаючы рэшткі сена. Іх фурман дрэмле, паштовыя начальнікі, пісар і стараста, недзе пахаваліся, як яны гэта часта ўмеюць. Калі абодвух іх удалося адшукаць, яны выслухалі мяне і, нібы не разумеючы, пра што гаворка, прабубнілі нешта незразумелае і адышлі. Нарэшце фурман усё ж з’явіўся, вывеў коней, — і вось мы ізноў у дарозе.

Раніца — адна з самых дзівосных у гэтым годзе. Высокія кучаравыя бярозы цалкам зацяняюць дарогу. За намі — Ашмяны, направа, за рэчкай, — старажытная частка горада, касцёл францысканцаў і месца замка, дзе ўчыняў свае оргіі Свідрыгайла і дзе ў 1432 годзе напаў на яго Жыгімонт Кейстутавіч, прымусіўшы яго пасля бітвы ўцякаць. Колькі тут пранеслася войнаў — то з крыжакамі, то паміж самімі літоўскімі князямі. Колькі па тутэйшых лясах курганоў — яскравых помнікаў тых крывавых і неспакойных часоў! Як прыгожа расце цяпер збажына на гэтых раўнінах, так густа палітых крывёю!

За вёрст дзесяць ад Ашмян каля рэчкі Сініца сустракаем колішняе ўладанне Радзівілаў — мястэчка Жупраны з невялікім касцёльчыкам, які з XVI да канца XVII стагоддзя быў месцам збору вернікаў гельвецкага веравызнання. У тутэйшых пушчах часта паляваў Кароль Радзівіл. Яго пышнае паляванне ўстала ў мяне перад вачамі: так добра намаляваў яго ў сваіх «Літоўскіх карцінах» Ігнат Ходзька. Прыемна было падумаць, што яшчэ сёння, да вечара, я абдыму яго ў Дзевятні, дзе мы з Адамам Плугам дамовіліся сустрэцца і правесці наступны дзень…

Не затрымліваючыся на станцыі Нарбутаўшчына, што ляжыць за дзве мілі ад Ашмян над рэчкай Ашмянкай, мы падаліся ў Смаргонь. Тут, як і ўсюды, раўніна не аднастайная, не сумная для вачэй. Тракт прыгожа аздоблены цяністымі дрэвамі. Зямля — глiністая, дарога — выдатная, хаця на яе чатырох грэблях у асеннюю пару багата гразі. Ужо дванаццатая гадзіна. Пераязджаем праз масток рэчку Чэрвянку, і вось мы — у Смаргоні.

Добры дзень, горад старой акадэміі мядзведзяў, сталіца славутых на ўсю Літву абаранкаў, якія, аказваецца, і цяпер вунь прадаюць на станцыі, каля паштовага дома. Тут я патрабую паштовых коней, бо да Дзевятні, маёнтка Ходзькаў, адсюль мілі

тры, налева ад бальшака. Мы задаволіліся парай жыдоўскіх кляч. Паснедаўшы, рушылі да Дзевятні. Імчым хутка, бо фурману і майму таварышу па падарожжы трэба паспець яшчэ на шабас у Смаргоні. Купецкі бальшак, якім мы едзем, вядзе на Вілейку. Дарога шырокая, выдатная, дзень ясны, пагодлівы — настрой бадзёры. Адразу за Смаргонню кідаецца ў вочы вёска, не падобная на іншыя: хаты акуратныя, выстраіліся ў шнур, як салдаты, гэтакія ж акуратныя вароты і платы, наводшыбе за хатамі выцягнуліся гэтак жа роўненька, адзін за адным, хлявы. Навокал не відаць ні дрэўца — нават не ўбачыш ніводнай ігрушы ці рабіны, якіх звычайна ніхто не саджае, але якія самі любяць аднекуль прывандраваць пад сядзібы нашых сялян. Гэта ж — калонія жыдоў-земляробаў, якіх у колькасці дваццаці пяці сем’яў пасяліў тут урад. Як відаць, каланістам палюбілася земляробства. На вуліцы не ўбачыш гразі, шуму ды гаму, як у жыдоўскіх мястэчках, за вёскай шчыруюць з сохамі ды баронамі людзі…

Разважаючы пра долю гэтых жыдоў, мы пад’ехалі да Віліі, якую пераплылі на пароме. Я паслаў яе хвалямі сваё прывітанне Вільні, прыкінуўшы, калі гэтыя хвалі дакоцяцца з-пад Смаргоні да самой Вільні, да Панараў, да Кернава, да тых курганоў, якія летась раскопваў, і праз лес пусціўся далей…

З узгорка нашым вачам адкрылася ў цені дрэў Дзевятня. Палі тут дагледжаныя, буйна раскашуюцца гарох і віка — відаць, наш любімы аўтар не толькі на папяровай ніве добры працаўнік. Пад’язджаем да сядзібы — шырокі двор, акуратны дамок, сад, адкуль адразу дыхнула на мяне шляхецкай старасвеччынай, налева відаць лямус, той лямус, у якім працуе Ходзька і які мне добра знаёмы з апісання Яна са Слівіна і расказаў Плуга, што правёў тут колькі дзён.

Але зноў няўдача! Гаспадара няма дома, паехаў на колькі дзён да сваёй дачкі С.

Я папрасіў, каб мяне правялі ў лямус, ці скарбец, як назвала гэтую даволі прыглядную будыніну дзяўчына з мілавідным тварам. З пачуццём глыбокай пашаны глядзеў я на месца, дзе ствараліся выдатныя «Літоўскія карціны» і «Паданні», поўныя цяпла і мілыя кожнаму, хто любіць сваю зямлю, творы, напісаныя пяром сапраўднага мастака… Стол, горкі кніг, канцылярскія прылады, рукапісы. Вядома, нядобра было аглядваць дамашнія святыні. Я толькі кінуў позірк на рукапісы — быў гэта гумарыстычны зборнік накшталт шубраўскіх, прабег вачыма крытычны артыкул і загарнуў манускрыпт, бо сам не люблю, калі хто чытае мае паперы. Начыркаўшы запіску Ходзьку і Плугу, які сёння

павінен быць тут, я ўкраў на памяць пяро са століка Ходзькі (упамянуўшы пра гэта ў запісцы) і склаў пра кражу пяра верш…

Я схлусіў бы, калі б сказаў, што вясёлы вяртаўся ў Смаргонь з паездкі ў Дзевятню, дзе не застаў гаспадара. Сонца ўжо хілілася к захаду, жыд гнаў коней, каб паспець на шабас. Хочаш не хочаш, а трэба будзе сядзець у гэтым убогім мястэчку ўвесь заўтрашні дзень. Мне знайшлі ў Смаргоні два пакоікі ў карчме…

*Дня 25 жніўня, субота.*

Прачнуўся я з думкай, што сёння — дзень майго нараджэння, дзень, які ўжо не адзін дзясятак гадоў прывык праводзіць у коле добрых сяброў. Гэты раз давядзецца адзначаць яго аднаму… у глухім кутку Смаргоні, дзе не ведаю ніводнай жывой душы. Як тут не засумаваць па родных! Але тугі я не баюся дзякуючы вам, маё добрае пяро і белы ліст паперы, вам, мае бясконцыя думкі, вам, цікавыя кніжкі з маёй кайстры!

Раніца выдатная. А таму іду знаёміцца з мястэчкам.

Смаргонь у XVI стагоддзі належала Зяновічам, ад іх як пасаг Ганны Зяновіч, полацкай кашталяншы, дасталася Радзівілам, ад якіх у сваю чаргу перайшла к Пшаздзецкім. Цяпер гэта ўласнасць манарха. Адзін з першых уладальнікаў Смаргоні Крыштоф Зяновіч, брэсцкі ваявода, што жыў у часы Жыгімонта III, заснаваў тут пратэстанцкі збор, які потым быў перароблены яго сынам на каталіцкі касцёл. Стаіць ён у паўночным баку мястэчка, над прыгожай сажалкай, каля панскага маёнтка. Над касцёлам высока ў неба ўзносіцца купалавідная вежа з брылём, на якой быў новы гадзіннік. Два акруглыя збудаванні каля галоўнай вежы робяць будынак падобным на ваеннае ўмацаванне. Сціплы інтэр'ер гэтай святыні, драўляныя алтары, адсутнасць ляпных і іншых упрыгожанняў, характэрных для нашых святыняў, наводзяць на думку, што гэта быў пратэстанцкі збор. Алтароў тут тры: на галоўным — Хрыстос на крыжы, направа — Матка Боская з Дзіцем, у сярэбраным пакрывале, налева — святы Антоні. Каля галоўнага алтара — дзве гіпсавыя статуі. Усе гэтыя і іншыя статуі і карціны касцёла выкананы вельмі ж няўмела. З касцёла выходжу ў двор. Над шырокім могільнікам узносіцца зусім не стары пірамідальны надмагільны помнік, а недалёка адсюль, справа ад касцёла, ляжыць у траве стары замшэлы камень з даўнейшым надпісам па-латыні: «Слова Божае бессмяротнае». Мне не было ў каго папытацца, што гэта за камень. Можа, гэта помнік, пастаўлены тут католікамі ў гонар перамогі над пратэстантамі? А мо яшчэ пратэстанцкі? Побач, у

цяні старога саду, — драўляны палац, пабудаваны Пшаздзецкімі. Цяпер тут — сельская ўправа. Прыгожая сажалка, якая адкрывае паўночны бок мястэчка каля паштовай дарогі, круціць млын. Вада цячэ ў рэчку, потым ізноў у сажалку і далей па вузкім канале — у недалёкую Вілію.

Само мястэчка вялікае, густа заселенае. Тут можна ўбачыць немалы рынак, некалькі радоў усялякіх крамак, новую царкву, мураваную жыдоўскую бажніцу і некалькі іншых мураваных будынкаў. Усяго ў мястэчку дзвесце дваццаць дамоў, больш за ўсё жыдоўскіх, — стаяць яны роўнымі шэрагамі ўздоўж доўгіх, шырокіх і прамых вуліц…

На гэтым я хацеў закончыць свой агляд Смаргоні, але ўзніклі новыя факты, якія варта запісаць. Пасля сціплага полудня я ў пяць гадзін дня надумаў прайсці па доўгай, крокаў 700, вуліцы, якая называецца Крэўскай, бо вядзе к мястэчку Крэва. Мне захацелася выйсці за само мястэчка, паглядзець, як працуюць на палях сяляне. Якая ідэальная раўніна, які шырокі гарызонт! Здалёку я ўбачыў купкі працавітых жней, чырвоныя копкі грэчкі і залатыя бабкі ячменю. Але галоўнае, што запыніла маю ўвагу, быў шнур старажытных курганоў прыкладна за вярсту ад мястэчка. Прайшоўшы трохі ў тым кірунку, я ўбачыў каля пяцідзесяці курганоў рознай велічыні. Сельскі пісар, які мне тут сустрэўся, расказаў, што тут знаходзяць старажытную зброю, кавалкі жалеза і іншыя археалагічныя рэчы, вышукваннем якіх я якраз захапляюся. Мяне, мусіць, не адпускае наканаванне, нават у дзень імянінаў. Сядзеў я ў смаргонскай хаце і не ведаў, што каля самага мястэчка гэтулькі курганоў. А можна ж было наняць сялян і раскапаць разам з імі некалькі гэтых пагоркаў. Тым больш што мне тут ніхто не перашкодзіў бы, бо ў маёй кішэні ёсць пасведчанне нашага Музея старажытнасцяў, якое дае мне паўнамоцтва рабіць у дарозе археалагічныя раскопкі. Курганы каля мястэчка — гэта сляды нейкіх войнаў. Але ні пра адну з бітваў каля Смаргоні я дасюль нідзе не чытаў. Хаця колькі яшчэ фактаў гісторыі не зафіксавана на паперы. Уваскрасіць некаторыя з іх могуць дапамагчы курганы каля Смаргоні — пры дарозе, што вядзе на Крэва. Таму я і звяртаю на іх увагу даследчыкаў старажытнай гісторыі, магчыма, больш шчаслівых, чым я…



# ГОД У ПЕСНІ

*Кантата да музыкі С. Манюшкі*

ІНТРАДУКЦЫЯ

Хто любіць спёку ў пору санцагрэяў,
Хто любіць песню ў полі нашых жнеяў,
Хто рады хлебу новага ўраджаю,
Хто любіць шыр палёў, прастор без краю,
І птаства гімны у лісці дубровы,
І просты люд вясковы засцянковы —
    Ідзі да нас,
    Чало развесні,
    Нам самы раз
    Спяваць тут песні,
    Песні айчыннай асновы.
Успомнім мы і дзень сонцастаяння,
І косаў звон, і жыта красаванне,
І ў люстры возера ва ўсіх абрысах
Адбіты бор, і гром у дзень Барыса,
І з рогам галасістым нашы ловы,
І на дажынках скрыпак перазовы.
    Ідзі ж да нас,
    Чало развесні,
    Нам самы раз
    Спяваць тут песні,
    Песні айчыннай асновы.
Успомнім мы і снег той першы, чысты,
І за акном мяцеліц перасвісты,
Святыя вечары, калядаванне,
Вячорак весялосць, вясны гуканне,
І рэк разліў, і ясны дзень маёвы,
І над усім — званочак жаўруковы.

Ідзі ж да нас,
Чало развесні,
Нам самы раз
Спяваць тут песні,
Песні айчыннай асновы.

## *Частка I*
## ЛЕТА

Р э ч ы т а т ы ў

Неба яснее на ўсходзе — світанне.
Вербы над рэчкай — у белым тумане.
Там салавей не змаўкае ў лістоце,
Голас свой драч падае на балоце.
Спіць яшчэ вёска — люд працавіты
Сіл набіраецца новых, знябыты.
А па-над вёскай анёлы лятаюць,
Богу за люд наш Асанну спяваюць.

Х о р  а н ё л а ў

О Божа, Божа мілы,
Наш валадар святы!
Пад нашай ласкі крылы
Здаў сны людскія ты.
Аберагаць мы будзем
У хатах Божых слуг.
Няхай паспіцца людзям,
Пакуль браць серп і плуг.
Мы ноч снуём над імі —
Спакой і мір наўсцяж.
Тваё хай вечна імя
Свяціцца, Ойча наш.

Р э ч ы т а т ы ў

Ледзь заірдзелася на небасхіле,
Як у падворку, залопаўшы крыллем,
Голасна певень усім аб’яўляе,
Што ўжо хаду сваю дзень пачынае,
Што прачынацца пара. Дзед Васілі

У нецярпенні чакаў гэтай хвілі.
З ночы не спаў ён. Паціху на ганак
Выйшаў з гасподы ў золісты ранак.
Час на работу ўсім, толькі гаспода
Спіць, маладых жа будзіць яму шкода.
Сын яго Янка луг пляжыў касою,
Выйсці б туды яму сёння з расою,
Ды ён так змогся за дзень, працавіты,
Што не дабудзішся: спіць, як забіты.
Спіць, ну а ў сне бачыць тварык дзявочы,
Ганны суседавай сінія вочы.
Ці ж абрываць хлопца сны залатыя?
Мы ж гэтаксама былі маладыя.
Ды ўжо вунь трэція пеўні прапелі,
Нельга больш песціцца ў цёплай пасцелі,
Нельга нам траціць цяпер ані хвілі.
Стукае ў шыбу акна дзед Васілі.

В а с і л і

— Дзеці, пара ўжо ўставаць: на падворку
Светла зусім. Будзе цёпленькі дзень.
Божае сонейка вам з-за пагорку
Скора пашле прывітальны прамень.
Дык жа не спіце, расплюшчвайце вочы,
        Песціцца ў ложку мінуўся ўжо час.
З Богам пачніце дзянёк свой рабочы,
        Крыж хай Хрыстовы асвечвае вас.
        Дзеці, устаньце ж: на працу вам час
        Светла зусім. Вас чакае ўжо дзень.
        Сонца вам шле прывітальны прамень.
        Крыж хай Хрыстовы асвечвае вас.

Р э ч ы т а т ы ў

Голас старога пачулі ў гасподзе,
Дружна ўсе ўсталі: вылежвацца годзе!
Нібы з калоды руплівыя пчолы,
З хаты ўсе сыплюць: смех, гоман вясёлы.
Хто не прачнуўся як след яшчэ з ночы,
Бегма да студні — працерці там вочы.
Той пракачаўся на лаве, ды сілы
Ранішні ветрык уліў яму ў жылы.

Мігам прачнулася й вёска. Гамонка
Чуецца ўсюды, разносіцца звонка.
Войт ад двара да двара, як зазвычай,
Ходзіць, на паншчыну голасна кліча.
Рушылі ўсе — хто з сярпом, хто з касою —
З хатак за вёску ідуць грамадою.
Янка пры Ганне. Гаворку заводзіць,
Ды каб сказаць ёй што, слоў не знаходзіць.
А калі выцісне слова якое,
Сам жа адчуе: не тое, не тое!
Ды воч іскрынкі, уздыхі цяжкія
Больш кажуць сэрцу, чым словы якія.
Каб не магла сэрцаў іх таямніца
Перад людзьмі выпадкова раскрыцца,
Янка паціху, спакойна, як можна,
Ганне казаць так усчаў асцярожна:

Я н к а

Ганна, дзень добры! Дарогі палова,
А твайго голасу ўсё не чуваць.
Досыць маўчаць нам. Скажы мне хоць слова.
Ці ты не маеш хоць што мне сказаць?

Г а н н а

Янка, дзень добры! Пад ветру павевы
Думкі ў сваёй галаве я сную.
Слухаю звонкага жаўранка спевы,
Ціха шапчу з ім малітву сваю.

Я н к а

Што гэты жаўранак! Вечна над збожжам
Звоніць, гамоніць пра нешта з сабой.
Лепш заспявай нам сама, мы ж — паможам,
Спеў твой мілейшы, чым птушкі любой.

Г а н н а

Ты не хвалі мяне: што твая ўхвала!
Сэрца нішто тут маё не кране.
Песні, што знала я, пазабывала,
Смутак нязбытны на сэрцы ў мяне.

Я н к а

Ведаю, ведаю, Ганна, чаму так
Ты затужыла. Каб быў тут другі,
Ты заспявала б, прапаў бы твой смутак,
Не асталося б і следу тугі.

Г а н н а

Выдумка гэта! Пабойся ты Бога!
Ты нібы сваркі шукаеш, дружок.
Я не чакаю нікога другога.
Янка, дарэмны твой гнеўны папрок.

Я н к а

Згода ўжо, згода! Хіба ж я крыўдую?
Гэта ад сну ўсё. Даволі ж драмаць!
Ганна, спявай жа, табе падпяю я,
Будзем усе мы табе падпяваць.

Г а н н а

Згода ўжо, згода! Не, я не крыўдую!
Гэта ад сну ўсё. Даволі драмаць!

Х о р

Ганна, спявай жа, табе падпяю я,
Будзем усе мы табе падпяваць.

Г а н н а
*(спявае)*

Колас жытні, ці ж не шкода,
Што цябе сажнём?
Тут была табе лагода.
Сонца, ветрыкі, свабода
Кожным летнім днём.

Быў травінкай, распрамляўся,
Падымаўся, рос,
Красаваў і наліваўся,
Калыхаўся і шаптаўся
З зорамі нябёс.

Х о р

Дождж яму спрыяе
Тут, у мройным полі.
Весела на волі
Ветрык з ім гуляе.

Г а н н а

Ды за днямі дзень мінае,
І ніжэй штораз
Зерне колас свой згінае,
Бы рой думак, што схіляе
Голаў нам падчас.

Колас твой паспеў, араты,
Аж свіціцца ён.
Нібы золата, зярняты.
Будзе, будзе збор багаты,
Шчырай працы плён.

Х о р

Сквар і слоту церпіць колас,
Сохне пакрысе.
А вясёлы жнеек голас
Смерць яму нясе.

Г а н н а

Лепш быць траўкай, што рунее
Дружна на раллі,
Чымся коласам, што спее,
Што цяжэе і марнее,
Хіліцца к зямлі.

Лепш быць юным і вясёлым,
Без турбот, без мук,
Чымся мудрым, але кволым
І, як колас той, над долам
Гнуцца, гнуцца ў крук.

Х о р

Хай квітнее ўсё жывое
Летам і зімой.

Лепш мецъ сэрца маладое,
Чымся розум той.

В о й т
*(спявае)*

Гэй, хлопцы! Касіць! Луг нас просіць.
Пакажам жа працу сваю!
А спеваў тых досыць! Так, досыць!
Бо я вам інакш падпяю!
Так, добра, што славім каханне
І кветачкі ў песнях сваіх.
Па мне ж, гаспадар той, васпане,
Хто сена высушвае з іх.
А вас, дзеўкі, ніва унь просіць.
Хутчэй жа на постаць сваю!
І досыць тых спеваў! Так, досыць!
Бо я вам інакш падпяю!
Жытцо, каласоў калыханне
Над ніваю бачыць я рад.
Той колас найлепшы, васпане,
Што мае найболей зярнят!

Г а н н а

Эй, Янка! Хай войт сам тут косіць!
Завёў гэтак песню сваю!

В о й т

Эй, досыць тых шэптаў! Так, досыць!
Бо я вам інакш падпяю!
Сачыць буду пільна за вамі,
Не дам анікому гуляць.
Гэй, жнеі, шчыруйце сярпамі!
Гэй, хлопцы, касіць сенажаць!
Упартых бізун мой папросіць
Рабіць лепш работу сваю.
І досыць тых шэптаў! Так, досыць!
Бо я вам інакш запяю!

Р э ч ы т а т ы ў

Шэрагам доўгім, сагнуўшы ў крук спіны,
Жнуць свае постаці ў полі жанчыны.

Войт, як заўсёды, стаіць над жанкамі.
Спелае жыта шасціць пад сярпамі.
Сонца пячэ іх з нябёсаў бязмерна,
Коле асцё ўсіх тут неміласэрна.
Вусны ў дзяўчат перасохлі ад смагі,
Бо спаражнілі даўно ўжо біклагі.
Моладзі ж гэта ўсё не перашкодзіць
На перадыху зноў песню заводзіць.
Бо ўмее моладзь, вясёлая моладзь
Песняй і смагу, і стому адолець.
Рэй вядзе Ганна. Яна зачынае
Жніўную песню, а гурт падпявае.

Х о р   ж н е й

Перапёлка плача ў жыце,
Плача ў жыце — як ёй жыці:
Жалі мы, снапы лажылі
І гняздо ёй разбурылі.
Плача птушка, не змаўкае,
На нядолю наракае,
Дакарае жней няўпынна.
Ну й зласлівая пташына!

«Жніце, жнейкі, жыта, жніце,
Болей пана залаціце,
Пот свой ліце, гніце спіны,
Млейце ў скварында штохвіліны
Тут, пакорныя жанчынкі!
Вам за гэта на дажынкі
Дасць пан мёду, дасць і вінаў».
Ну й зласлівая пташына!

«Піце ж, жнейкі, пакуль хаты
Маюць хлеб, хоць скупаваты.
А вясной памкнуць віціны
Немцу збожжа ўсё з краіны.
Падмятуць ратаі клеці,
Без яды заплачуць дзеці,
Смерць пачне жніво ў хацінах».
Ну й зласлівая пташына!

Перапёлка ў жыце плача.
Пане войце, вось няўдача!

Каб замоўкла гэта птушка,
Ты бяжы ў двор, панскі служка,
Па ружжо й забі на золку
Шчабятушку-перапёлку —
Хай не енчыць безупынна!
Ну й зласлівая пташына!

В о й т

Гэй, жвава! Бо біч вас папросіць!
Пільнуйце ўсе постаць сваю!
І досыць тых песень! Так, досыць!
Бо я вам інакш падпяю!
Вы бачыце, хмара! О Божа!
У небе грукоча ўжо гром!
Дождж будзе! Замокне ўсё збожжа!
Да копаў, да копаў — бягом!
Жвавей жа! Снапы туды зносіць!
Барзджэй жа на постаць сваю!
І досыць тых шэптаў! Так, досыць!
Бо я вам інакш падпяю!

Х о р

Вы бачыце — хмара! О Божа!
У небе грукоча ўжо гром!
Тут лівень абрынуцца можа —
Усё пацямнела кругом!

Г а н н а

Крывёю мільгнула з-за хмары
І знікла ў ёй сонца зусім.
У цемры зямлі ўсёй абшары,
І мы — нібы ў склепе які́м.

Х о р

Закапалі кроплі буйныя,
І вецер калоссе затрос.
Нібыта ўсе сілы ліхія
На нас наляцелі з нябёс.

Р э ч ы т а т ы ў

Тут бліскавіца агністай змяёю
Неба наўзмах раскалола. За ёю
Ляснуў пярун у раздзёртую хмару —
Аж скаланула зямлю ад удару.

Х о р ж н е й

А слова яго… А слова…
А слова сталася целам.
Не дай нас, вялікі Ягова,
Караць перуновым стрэлам.
Вазьмі нас пад абарону
  Й апеку святую.
Мы дзякаваць будзем да скону
  За ласку такую.
  Ты ў добры час
  Папесціш нас,
  Дажджом не страш.
  Ты ж бацька наш!
  Ты ж бацька наш!

*(Грукат буры, перапынены словамі малітвы.)*

Г а н н а

О дзякуй, наш Божа ласкавы,
Што гневу не маеш да нас.
Заціхлі ўжо буры праявы
І лівень спыніўся ўраз.
З-пад хмары заззяла — даў Божа —
Глядзі, залатая зара.
Пан войт, ужо вечар і, можа,
Пайсці б нам дадому пара?

Х о р

Пусціце дамоў, мы да ніткі
Прамоклі. Як нам працаваць?
Дый, гляньце, ужо ўвачавідкі
Цямнее — сярпа не відаць.

В о й т

Далёка ўжо груканне грому,
Не вернецца лівень да нас.
Што ж, дзеці, ідзіце дадому,
Бо змоклі і, праўда, вам час.
Здаецца, аж сэрца ўваскрэсне,
Як дома мы сядзем за стол.

Х о р

Ану, заспявай, Ганна, песню,
Хай весела будзе наўкол!

Г а н н а

Спеў наш дзявочы
Хай аж да ночы
Вольна над вёскай лунае,
Дзе наша хатка,
Дзе наша матка,
Што нас вячэраць чакае.
Заўтра ў нас свята,
Жыта ж не зжата —
Хай яно там даспявае.
Хай вецер вольны,
Хай конік польны
Ды жаўручок там спявае!
Блізка ўжо хатка,
Любая матка
Стрэне дачку ля парога
Ды папытае
З ласкай старая:
— Ці хоць нажалі там многа?
— Што нам старацца?
Што, мама, праца?
Ногі абколваць аб восці?
Шкода рук белых,
Там агрубелых,
Шкода маёй маладосці.

Р э ч ы т а т ы ў

У вёску прыйшла ўжо нядзелька святая.
Той дзень адпачынку хто з нас не чакае?
У вёсцы усе — ад людзей да гавяды —
Найсветламу святу, дню гэтаму рады.
Як ютрань зазвоніць здалёк у касцёле,
Гуляе вальней нават ветрык у полі.
Душою і целам спачнуць сёння людзі,
Бо войт ім у шыбіны грукаць не будзе.
Вам можна ўжо, хлопцы, прыўзняць і галовы,
Не слухаць пагрозныя крыкі вайтовы,
Ля веснічак любую стрэціць, прывеціць,
А дзеўчына можа й галоўку уквеціць,
Прыгожа ў святочныя строі прыбрацца
І ў гурце на Божую службу падацца.
А там, у касцёле, так светла, так гожа!
І кожны укленчыць з малітваю можа
Ды раны Хрыста ўшанаваць урачыста,
Суцешыць душу каля Маткі Прачыстай.
Зазвоняць званы, заспяваюцца песні,
Душа ажыве тады, сэрца ўваскрэсне.
Яго падмацуе й малітва святая.
Там кожны пакуты свае забывае.
З касцёла ў карчму ўсе ідуць грамадою,
Там скрыпкі адразу бяруць за жывое.
У скокі пускаецца моладзь. Гулянкі
Шум-гоман да познага. Смех, заляцанкі.
Старыя — Васілі наш з кумам Сымонам —
Пад шум той і гоман у тлуме прымглёным,
Схіліўшы галовы, мядок папіваюць,
Гамоняць, на долю сваю наракаюць.

С ы м о н

Зноў дажджы, а на надзеле
Шчэ не зжата збожжа.
Хіба ж жаць мне па нядзелях?
Зжалься, зжалься, Божа.
Пану — чынш, ксяндзу — календу,
Хто ж бы ўсё асіліў?
Не дасі — задасць войт пэнду.
Кепска, кум Васілі!

Васілі

Помню лепшыя часы я:
Ўсе жылі ў раскошы,
Скрозь раслі жыты густыя,
Чынш быў — два-тры грошы.

Сымон

Б’ёмся мы, як рыба ў сецях,
Падупалі ў сіле.
Цяжка жыць, сусед, на свеце,
Кепска, кум Васілі.

Васілі

На рабоце дзень пры дні я,
Ў мазалях далоні.
Так, сусед, часы цяжкія.
Кепска, кум Сымоне.

Сымон

Праўда ж, нас паны ліхія
Працай падкасілі.
Так, сусед, часы цяжкія,
Кепска, кум Васілі!

Васілі

Праўда, праўда… Хоць старыя,
Ды мы ў працы й сёння.
Так, сусед, часы цяжкія,
Кепска, кум Сымоне!

Янка

Усе мы жывём на зямлі паднявольнай,
Ды толькі што можам змяніць тым ныццём?
Вось так у нядзельку па працы мазольнай
Хоць тут адпачнём мы, душу адвядзём.
Гэй, мёду нам, моцнага мёду скарэй!
Дзяўчаткі-ягадкі, я буду весці рэй.
Заскачам так, што ў небе пазайдросцяць нам.
Музыкі, грайце, грайце, на струны грыўню дам!

В а с і л і

Так, кінем пра ліха! У кола ўсе, ў кола!
Грай, сівы музыка! Гэй, мёду сюды!
Ты помніш, як я тут чачотку вясёла
Пад скрыпку тваю адбіваў, малады?
Дзяды й бацькі, ці ж наш быў горшы час?
Тады, дзяўчаткі, не было йшчэ вас!
Я вашых бабак круціў да ўпаду, рад.
Музыка сівы, грай! Бо пырсне слёзаў град!

Х о р

Калі зноў збяромся тут, Бог толькі знае,
Усюды ўжо восені новай пячаць.
Старых, маладых, зноў нас праца чакае,
Дзяўчаткі, не дайце ж вы нам сумаваць!
А што прайшло, мінула, успомнім мы не раз,
Бацькі й дзяды, на шчасце паблаславіце нас.
Мы ў віхры танца ўздымем уверх карчомны пыл.
Музыка сівы, грай жа, пакуль хапае сіл!

# МАГНАТЫ І СІРАТА, або СОФ’Я, КНЯЗЁЎНА СЛУЦКАЯ

*Гістарычная драма з XVII стагоддзя ў чатырох актах, пяці заслонах*

АСОБЫ

Соф’я, князёўна слуцкая — засталася сіратою па Юрыю Алелькавічу.
Рыгор Хадкевіч — віленскі кашталян, апякун Соф’і.
Кароль Хадкевіч — яго пляменнік.
Князь Крыштоф Радзівіл — віленскі ваявода, гетман ВКЛ.
Князь Януш Радзівіл — яго сын.
Ян Завіша — віцебскі ваявода.
Андрэй Завіша — падскарбі літоўскі.
Крыштоф Дарагастайскі — маршалак вялікі літоўскі.
Беата — кампаньёнка Соф’і.
Клосак — адвакат Хадкевічаў.
Дваране Хадкевіча.
Дваране Радзівіла.
Возны.
Жабрак.
Жаўнер-вартаўнік.
Шляхта і мяшчане віленскія.

*Падзеі адбываюцца ў 1600 годзе ў Вільні.*

## АКТ I

### Сцэна I

*Інтэр'ер палаца Хадкевічаў: вокны, ашчаціненыя гарматамі.*
*С о ф 'я, Б е а т а.*

Б е а т а

Што засмучае цябе, дарагая?
Бледная з твару, ўздыхаеш, гаруеш,
Быццам цябе ўкрыжавалі — такая.
Хутка вяселле тваё, ты ж сумуеш.
Твой нарачоны — ён краю акраса!
Князем з князёў! І вяльможны, багаты.
Можа ён стаць каралём нават з часам,
Што ж гараваць?..

С о ф ' я

Не пытайся, Беата!
Сумныя думкі трывожаць мой розум,
Часам сляза набягае на вочы,
Сэрца баліць, адчувае пагрозу,
Даць сабе рады не можа й не хоча.
Кару я сэрцу не раз прыдумляла,
Трэба, як птушку, трымаць яго ў клетцы;
Толькі ж яму там нябёсаў замала,
Прагне кахаць…

*(Праз хвіліну.)*

Прагне іншага сэрца.
Што я кажу!.. Ах! Беата! Беата!
Не выдавай майго сэрца сакрэты!
І не зважай, што я плачу, не варта!
Я нарачоная — справа ўся ў гэтым!
Смутак, што рве маё сэрца і жылы,
Толькі мяне ён датычыць, дый годзе!

Б е а т а

Але, даруй мне, заўжды Радзівілы
З домам Хадкевічаў былі ў нязгодзе;

І апякун ваш, наколькі вядома,
Згоду даваў неахвотна да шлюбу.
Ён перадумае…

С о ф ' я

Дадзена слова!
Не датрымаць яго — значыць на згубу
Край цэлы кінуць, бо Януша-князя,
Бацькі яго ўсім вядомая пыха.
Гэта адмова іх моцна абразіць:
Зброяй дастануць свайго, ўчыняць ліха.
Кроў паплыве, і вайна запалае,
Зноў уваскрэсне варожасць двух родаў.
Лепш хай Хадкевіч належна стрымае
Слова сваё і ўсё скончыцца згодай.
Буду адна я ахвярай праклятай,
Хоча рукі маёй, з ёю ж — багаццяў!
Страшыць мяне мой жаніх, ах, Беата!
Хоць не кахаю, дый мушу з ім стаць я
Прад алтаром…

Б е а т а

Але што ў такім разе
Будзеш ты мець?

С о ф ' я

Дні тугі ды маркоты…

Б е а т а

Бедныя, бедныя вы, паны-князі,
Ў вашых палацах сярод пазалоты!
Знішчыш вясну ты ў чаромхавай белі,
Сэрца жалобай укрыеш сабе ты:
Бо адзін пан спадабаў твае землі,
А пан другі за цябе даў абеты.
Ці твая маці, ці бацька твой любы
Дзеля таго цябе песцілі ў пуху,
Каб ты ахвярай рахункаў і згубы
Стала цяпер — на праклящце, на муку?

С о ф ’ я

Ганьба багаццю, што прагнасць сілкуе!
Іншае неба мяне наталяе…

Б е а т а

Дзеля сяброўства, па кім жа сумуе
Сэрца тваё?

С о ф ’ я

Яно праўду хавае.
Бог толькі ведае гэта адзіны,
Бог і святар другім знаўцаю будзе.
Хтосьці ідзе! Мы схавацца павінны:
Слёз не хачу я выносіць на людзі!

*(Выходзяць.)*

Сцэна II

*Р ы г о р Х а д к е в і ч — віленскі кашталян, за ім — К л о с а к са стосам папер.*

К а ш т а л я н

Ну што, прайгралі справу ў Трыбунале?!

К л о с а к

Прайграў, але ж то чыстае бяспраўе!

К а ш т а л я н

Казаў жа, грошай каб не шкадавалі;
Хоць страціў я, ды на сваім пастаўлю.
Бо ваявода ўзяў, нібы па жонцы,
Капыскія ўладанні і трымае.
Усё сабе грабе па завядзёнцы,
Законна, не — пра гэта ані дбае.
А князь Астрожскі меў якое права
Не свой кавалак па сястры разветрыць?
О, Радзівіл, адпомшчу я крывава!
Засвішчуць шаблі вострыя ў паветры.

Збяру рушэнне грознае і з войскам
Сам я на Копысь выпраўлюся ўдала —
На знак таго, што ў шляхце ёсць літоўскай
Яшчэ сапраўдных рыцараў нямала,
Якія ўзновяць праўду!.. Але, пане!
Як мог прайграць ты справу Радзівілу?

К л о с а к

Не ходзіць тут аб нейкае загане!
Але і мне такое не пад сілу:
Адзін я быў і дзесяць іхніх радцаў.
Не будзьце гнеўны, пане кашталяне!
З усім імпэтам я пачаў змагацца
І разбіваць іх дзёрзкае жаданне.
На дзесяць аркушаў я напісаў прамову:
Увёў цытаты з даўніх правадаўцаў,
З паэтаў грэцкіх, рымскіх даў па слову,
Што ў нашай справе нам маглі прыдацца.
І так узнёсся я ў сваім запале,
У доказах, што аж адчуў я крылы!
Усё дарэмна, — бо ў тым Трыбунале
Трымаюць лейцы тыя ж Радзівілы!
А ў іх заўсёды свой свайго ратуе,
Таму ёсць безліч прыкладаў належных.

К а ш т а л я н
*(з абурэннем)*

Што, ўсякі на Літве цяпер спасуе
Прад родам гэтым дзёрзкім і драпежным?
Усёй Літвы магутнасць і апраткі
Сабе знарок прыўлашчылі памалу:
Ў сенаце крэслы, землі і дастаткі,
Уладу ў войску, ласку Трыбуналу, —
Усім цяпер кіруюць Радзівілы!
Чаму, пытаю я, чаму й навошта?
Ці ў бітвах больш крыві яны пралілі?
Ці паслужылі краю большым коштам?
Не!.. Што заслуг датычыць, мы нароўні
Са шчырасцю служылі верна краю!
Няхай дрыжыць там нехта, страху поўны
Прад Радзівіламі, — я ж гонар маю,

І не баюся іх! Прашу сардэчна:
Рыхтуй, пан Клосак, новыя паперы.
Жадаў бы суд я шанаваць, бясспрэчна,
Ды не людзей, што прагныя без меры.

*(Клосак кланяецца і выходзіць.)*

Сцэна III

К а ш т а л я н
*(адзін, сядае)*

А ўсё ж я мушу… гнеў ва ўсякім разе
Суцішыць свой, што паліць моцна сэрца.
Я абяцаў калісьці сам за князя
Дзяўчо, маёй адданае апецы,
За жонку выдаць, як узрост дзіцячы
Міне, і кляўся ў тым сабе на гора!
Занадта верыў гаду, не прадбачыў,
Што аддаю ў вужыную пячору
Дзіця — ні ў чым не вінную сіротку.
Але я слова даў! Па меншай меры
Нянавісць прыпыню ў самім зародку
І расчыню для Януша я дзверы!
Хоць крыкам тут крычыць маё сумленне,
Што апякун я кепскі і злачынны:
Пусціў на гандаль шчасце, благаславенне!
Але зрабіць я мушу, што павінны.

Сцэна IV

*К а ш т а л я н і К а р о л ь Х а д к е в і ч,*
*якія некалькі хвілін слухаў, незаўважаны.*

К а р о л ь

Зрабіць!.. Навошта?.. Перад смерці сховам,
Калі вам бацька давяраў дзіцятка,
Вы ж урачыста прысягалі словам,
Што ёй найлепшым будзеце вы таткам.
Хіба ж той бацька, што дзіцятка любіць,
Аддасць яго свядома на пакуту?

На шлях той кіне, што яго пагубіць,
Падасць з рукі сваёй адпіць атруту?
Хто даў урэшце вам такое права
Жыццём яе распараджацца?..

К а ш т а л я н

Годзе!
Чаму ж маіх ахвяр не бачыш нават?
І годнасці маёй? Ці ўжо не ў модзе
Яна? Хай трыумфуюць Радзівілы?
Ці мне падмуркам стаць іх дзікай пыхі?
Перадусім шляхецкі гонар мілы
Мне, даражэйшы ён за ўсе інтрыгі!
Стрымаю слова, дадзенае годна.
Князёўна слуцкая з таго не страціць:
Яна і ён — абодва княскіх родаў,
У іх магутнасць, слава і багацці.
Яна ж пры тым і радаснай здаецца,
Вясёлай, як гасцюе ў нас князь Януш.
Кахае, значыць…

К а р о л ь

Церні яе сэрца
Якіясь джаляць, страшыць яе замуж…
Заўсёды бледная, сляза гаркава
Цячэ з вачэй, сачыў за ёй крадком я:
Яна не любіць…

К а ш т а л я н

Пане Божа правы!
Я ж не пытаў, мне тое невядома!
Асцерагаўся я вачэй варожых,
Не размаўляў з ёй, не даваў парадаў,
Бо што сказалі б? Што я цісну, можа,
І апякунскай злоўжываю радай?
Яна сама распараджацца вольна
Ўладаннямі, як то і запісана,
Кахае, не кахае — мне ўсё роўна,
Бо даў я слова — слова кашталяна!
Даць волю сэрцу — простая задача,
Цяжэй тут сэрцам кіраваць з узбочча.

К а р о л ь

А што ж рабіць, скажы, як лёс лядачы
Вядзе кагосьці к прорве, каб ускочыць?
Хіба рука шляхетная шаленца
Не затрымае прад смяротным скокам?
Яна вясёлая — не трэба й шкельца,
Убачыць каб тугу спагадным зрокам.
Яна ахвяра парахункаў княжых,
Хадкевічаў упорыстага слова.
Баішся, што Літва на гэта скажа,
І помсты радзівілаўскай суровай?

К а ш т а л я н
*(сам сабе)*

Га!.. На Літве спалоханы ўсе чыста,
Бо Радзівіл змушае ўсіх баяцца!

*(Да Кароля.)*

Адкуль табе вядома, што ўрачыста
Яна не хоча з Янушам пабрацца?

К а р о л ь

Зірні на твар яе, на вочы, слёзы,
Каб зразумець, што скончыцца ўсё згубай.
Яна прадбачыць князевы пагрозы
І пагарджае Янушавым шлюбам.
Бо ведае, што не яе прывабнасць,
А скарбы роду Януша палоняць.
Што над усім разлік стаіць і прагнасць,
І цнот яе ніхто не абароніць.
Па ўсёй Літве іх крэпасці, палацы,
На вёсках кметы, шляхта на загродзе.
Ці ведаеш, як лёгка ім дабрацца,
І кіпці ў грудзі нашае свабодзе
Як найглыбей засунуць? Глянь, як шчыра
Яны працуюць — прагна і без меры,
Абы пажар нязгод раздзьмухаць, шыраць
Між шляхтай галузу кальвінскай веры.
Каб разнаверцаў пад страхой сваёю
Злучыць ласкава і пусціць на ловы,
Нібы сцярвятнікаў, на край гайнёю,

Каб атлумлялі новыя галовы.
Мой дзядзя, калі думкі шлеш ты небу,
Калі табе баляць паразы роду,
Калі шануеш тарч старога гербу
І продкаў веру, права і свабоду,
Адклікай слова!.. Зачыні для Яна
Свой дом!

*(Укленчвае.)*

Цябе прашу я на каленях!..

К а ш т а л я н

Як ты гаворыш, пане, ўсхвалявана!
Але адклікаць… Дзе ж тады сумленне?
Князёўна слуцкая ў такім раскладзе
Сама сваёй рукі ёсць гаспадыняй!
Яе спытаем…

К а р о л ь

Дзякуй! Дзякуй, дзядзя!
Пакліч яе, спытай, бо сэрца стыне!
Ці хоча Януша?

К а ш т а л я н

Да гэтай хвілі
Не меўся я капацца ў жарсцяў хлудзе.
Няхай сама сумненні ўсе адхіліць.
Як Бог захоча…

К а р о л ь

Так няхай і будзе!

Сцэна V

*Тыя ж і д в а р а н і н.*

Д в а р а н і н

Лісты з палаца князя ваяводы.
Ганец чакае…

К а ш т а л я н

То няхай чакае!

К а р о л ь

Пакляўся б, дзядзя, з гэтае нагоды,
Што пыха зноў тут пашчу разяўляе.

К а ш т а л я н
*(чытае)*

«Яснавяльможны пане кашталяне!
Звяртаюся з пакорным напамінам,
Што хутка час прызначаны настане
Князёўну Соф'ю даць за майго сына.
Дзень шосты лютага ў наступным годзе —
Апошні тэрмін, шлюбу заключэнне!
І спадзяюся, справа годна дойдзе
Да выніку, аб чым ёсць пагадненне.
Калі ж вы, ваша светласць, ад дамовы
Адмовіцеся і сарвеце справу,
Я папярэдзіць мушу, што суровы
Адказ мой будзе, жорсткі і крывавы:
Я з войскам моцным пад муры з'яўлюся,
Сваё здабуду, вы ж пажнеце ліха!
Затым слугой пакорным застаюся —
Літоўскі гетман Крыштоф Радзівіл».

К а ш т а л я н

Га!..
Пагрозы шле? Ён грозіць мне нападам!
Няўжо Хадкевіч стаўся баязліўцам?
Збяру атрад і разбяруся з гадам!
Хай Бог паможа мне за праўду біцца!
Адказ яму такі даём па чэсці:
Сама князёўна долю выбірае!
Яе да шлюбу гвалтам не прывесці,
Як жаніха яна не ўпадабае.
Калі ж з вайной аб'явіцца злачынца,
Ну што ж, тады й памераемся славай!
Ніхто тут Радзівіла не баіцца, —
Дай гэта зразумець яму яскрава!

*(Кароль выходзіць.)*

Сцэна VI

К а ш т а л я н
*(адзін)*

Трыумф заўчасны хай яго не цешыць!
Неспадзяваны тут адпор дастане.
Я ёсць Хадкевіч! — І мой герб «Касцеша»,
У горле косткай ворагу ён стане.

*Канец першага акта*

## АКТ II

Сцэна I

*Ноч. Вуліца. Злева палац Хадкевічаў.*
*Углыбіні, здалёк, відаць муры ратушы. Вільня.*

Ж а б р а к
*(адзін)*

Адным — пярыны, а другім — салома:
Усім аднак салодка ў месце спіцца.
І толькі я тут прыхадзень, вядома,
Чужынцу цяжка дзесьці прытуліцца.
Жабрак усюды выспацца патрафіць —
Яму й камень пакажацца падушкай.

*(Кладзецца спаць на суседнім камені.*
*Праходзяць два* ш л я х ц і ч ы.*)*

А д з і н  с а  ш л я х ц і ч а ў

На месцы князя я, пане Астафій,
Ідэю вашу палічыў бы слушнай.

Д р у г і
*(смеючыся)*

А што? Давёў я, пане Мікалаю,
Што маю галаву?

П е р ш ы
*(смеючыся)*

На ёй і шапку!

Д р у г і

Навошта шырыць смуту, кару краю?
Правакаваць усіх да беспарадку?
Магутныя, бясспрэчна, Радзівілы!
Ды і Хадкевіча не з’есці ў кашы:
Гарматы горад знішчаць да магілы,
Таго, хто роўнасць і спакой зняважыць,
Асудзіць сейм! Запросіць помсты Неба!
І што далей?!

П е р ш ы

Але тут сказ нядоўгі:
Князёўну слуцкую нам скрасці трэба.

Д р у г і

Навошта ж гвалтам, калі ёсць улоўкі!
Кагосьці трэба без ніякай зброі
У дом Хадкевічаў знарок адправіць,
Як грэкі некалі ўвайшлі да Троі,
Няхай паболей стражнікам адваліць
Віна і грошай, знойдзе, дзе князёўна
Апартаменты мае, замарудзіць
Да ночы ў замку. Потым жа раптоўна
Адчыніць браму, там жа — нашы людзі:
Са зброяй, чалавек так трыццаць! Жыва
Я сам пайду на ашуканства ў труку:
З жабрачай торбай, з барадой фальшывай —
Належна ўсё зраблю без гуку-груку!
Пагавары-ка з князем ваяводам —
Хай мне даверыць гэтую выправу:
Вазьму князёўну хітрым падыходам
І Радзівілам здам яе па праву.
Няхай па-свойму робяць…

П е р ш ы

Я даводзіў
Якраз жа сёння князю вашы планы.

«Ці я круцель які, ці мо я злодзей! —
На тое князь выкрыкваў, раззлаваны. —
Круцельствы прэч!.. Не сярод цёмнай ночы,
Але, як рыцар, — збройна і крывава, —
З маім атрадам буду ўдзень я крочыць,
Каб тое ўзяць, на што і маю права!
Што мне Літва! Што хоча, хай гаворыць,
Да просьбаў не прыніжуся ніколі,
Няхай кароль шле з Кракава дакоры,
Не дам чыніць Хадкевічу сваволі!
Я гада раздаўлю, калі, як хцівец,
Не датрымаць дамовы ён патрафіць!» —
І, ведаеш, хоць я не баязлівец,
Дый задрыжэў нутром, пане Астафій,
Як за палаш схапіўся ён…

Д р у г і

Васпане!
Назаўтра… раніцай… у добрай згодзе,
Калі хвілінка зручная настане,
Зноў падступіся к князю ваяводзе
І думку паўтары… Талковай рады
Ён не адкіне, можа, і паверыць,
Што хітрасць лепш за збройныя атрады,
Што лепш прайсці ў адчыненыя дзверы.
З жабрачай кайстрай пракрадуся ціха
Назаўтра… ўноч… і адчыню я браму,
А вы ўжо там… Павер, пазбегнем ліха
І гучнага — з гарматаў — тарараму!
А трыццаць вояў хопіць нам для страху.

Ж а б р а к
*(са схову)*

Тут спее змова!

П е р ш ы   ш л я х ц і ч

Хтосьці нас падслухаў!

Д р у г і

Не, гэта вецер гойсае па даху!

П е р ш ы
*(аглядаецца)*

Га! Хтосьці тут напружыў, мабыць, вуха!

Д р у г і
*(аглядаецца)*

Няма ні ценю.

П е р ш ы

Дык скажу я князю!
Дабранач, вашаць! — Будзь гатоў да справы:
Хоць мне сумнеўны плён такіх аказій,
Але ж то лепш за бітвы плён крывавы.

Д р у г і

Князёўну скрасці — тут нам пашанцуе,
А там князь Януш зробіць крок рашучы.
Для нас ён золата не пашкадуе,
Бо княства Слуцкае яму мы ўручым.

П е р ш ы

Так памяркоўна, без разні крывавай,
Уладзім спрэчкі, вырашым пытанне:
Ды толькі — ша!..

Ж а б р а к
*(выходзіць з глыбіні, сам сабе)*

Але, панове, справа
Не будзе лёгкай так для выканання!
Хадкевіча я заўтра ж папярэджу,
Каб у палацы пільна прыглядаўся.
Я да яго прыхільнікаў належу,
Ягонай ласкай часта карыстаўся.
Ён апякун убогіх і сіротаў,
Няхай Пан Бог яму сто год адлічыць!
Князёўна ж — то анёл усякіх цнотаў,
І мае ўся анёльскае аблічча!
У нядзелю мне манету залатую
Падаравала на шацунак лёсу.
Яе — дый скрасці! — Чыстую, святую, —
Дзеля якіхсьці скарбаў, земляў, вёсак!

Трасецца сэрца ад жуды з той долі,
Ад панскай ласкі, злучанай са страхам.

*(Чуваць звон.)*

Але пайду: ўжо звоняць у касцёле,
Жабрак, як дома, пад касцельным дахам.

*(Выходзіць.)*

## Сцэна II

*Інтэр'ер палаца Хадкевічаў: у пакоі шмат зброі, у вокнах гарматы малога калібру, наперадзе сцэны стол для пісьма. Р ы г о р Х а д к е в і ч — кашталян віленскі — выбягае ў гневе на сцэну.*

К а ш т а л я н

Яшчэ адно рыхтуецца злачынства!
Га!.. Ў дом прабрацца ашуканствам, здрадай!
Арліны род, апушчаны да свінства,
Калі ж канец загубным вашым звадам?
Не мець спакою пад уласным дахам!
За што мне, Божа, гэта пакаранне?
Бо ваявода хоча адным махам
Дастаць для сына новае ўладанне.
Схіліцца мусім згодліва, пачціва,
Як цень пры іхнім княжацкім пурпуры?
А дзе кароль? Дзе сейм з яго уплывам?
Дзе наш Статут? Дзе шляхта? Што — фігуры
На дошцы мы яго гульні ў варцабы?
Не!.. Саступіць — у тым няма рэзону.
Мы адаб'ём ягоны збройны табар
З гармат у вокнах, з дужым гарнізонам.
Дзе мой пляменнік?

*(Да прыслугі.)*

Гэй, жывы хто ёсць там?

*(Уваходзіць Дваранін.)*

К а ш т а л я н

Пакліч-ка старасту мне зараз прама.

Д в а р а н і н

Са Шклова войска прыбыло, вашмосцю!

К а ш т а л я н

У двор пусціце, зноў замкніце браму;
Хай стануць у парадны строй ваякі,
Гатоўнасць іх уважліва агледжу.
Бывалыя літоўскія рубакі!
Адважныя! Я сам да іх належу.

Д в а р а н і н

Паўсотні шляхты — вершнікаў са зброяй —
З'явіліся, каб вам служыць па чэсці!

К а ш т а л я н

Гасцей вітаем! — Правіла старое:
Шырокі, доўгі стол сюды прынесці!
Адкрыйце клеці! Фуражу даць коням!
Старога мёду выкаціць з піўніцы!
Тут шляхта добра ведае сягоння,
Што з Радзівілам бой — не бой амбіцый,
То бой за веру, што ў святым Касцёле.
О, не будзі дух продкаў, Радзівіле,
Адступніцтвам сваім, сваёй сваволяй,
Адпомсціць Неба гэтай дзёрзкай сіле!
Як хто не мае — пораху даць, куляў,
Даць новы панцыр, як каму завузкі.
Я выйду сам да іх з падзякай чулай!
О, Ваявода, маю свой хаўрус я!

*(Выходзіць, за ім — дваранін.)*

Сцэна III

С о ф ' я
*(уваходзіць з другога боку)*

Там лязгат зброі, людзі на дзядзінцы,
Прадвесце бітвы, смерць запанавала.
О, гэта ж я крывавыя гасцінцы —

Бяду Літве сваёй прыгатавала!
Якія страшныя гарматаў жэрлы!
Вось-вось паветра кулямі зайграе.
Адпрэч навалу, Божа міласэрны!
О, злітуйся над людам і над краем!
Праклён мне горкі!.. Але ж я нявінна!
Бо зачыніла сэрца таямніцу.
Пайду да алтара, з кім і павінна,
Аддам багацці пылу іх амбіцый,
Каб толькі без вайны…

Сцэна IV

*Соф'я і Кароль Хадкевіч.*

Кароль
*(уваходзіць паспешна)*

А дзе тут дзядзя?

*(Убачыў Соф'ю, адступае.)*

Даруй, князёўна, ў спеху не заўважыў.
У замку войска, быццам на парадзе,
Ці вас той вэрхал Марсавы настрашыў?
Але гармідар гэты не змалее —
Праз пару дзён усчыніцца такое!..

Соф'я

Пан стараста! Я ўсё ж не разумею,
Дзеля чаго тут столькі ўсякай зброі?

Кароль

Дзеля чаго?.. Не гвалцім мы нікога,
Ды ад нападу мусім бараніцца!
Чакае нас ці жорсткая аблога,
Ці здрадны трук. Не можам мы змірыцца
І спаць спакойна…

Соф'я

Сілаю ці здрадай —
Што ж, князь сюды ўламіцца пажадае?

К а р о л ь

Князёўна! Не трывожся, сам я рады
Струціць усё, што так цябе жахае.

*(Праз хвіліну.)*

А ўрэшце… Можа, повад бойкі згіне,
Як марны прывід, што ўяўленнем грае…

*(З прыхаваным болем.)*

Сваёй рукі сама ты гаспадыня —
Яе князь Януш, пэўна ж, атрымае.
У кожным разе выбар твой свабодны,
І дзядзька мой стрымае абяцанне…

С о ф ’ я
*(сама сабе)*

Што значыць гэты позірк неспакойны,
І бледны твар, і голасу дрыжанне?
Няўжо мой шлюб яго так пераймае?
Няўжо мяне кахае ён? Мой Божа!

*(Уголас.)*

Князь Януш… Так, бо дзеля шчасця краю
Сваім я шчасцем ахвярую, можа…
Святую згоду на Літве ўсталюю:
Падайце рукі, цешцеся яднаннем!

К а р о л ь

Нам, Соф’я… Дзядзьку перш… як я мяркую,
Дбаць аб тваім замужжы ёсць заданнем.
Гвалтоўны шлюб!.. О, не! О, дзякуй Богу!
Яшчэ мы можам зброяй бараніцца.
Сюды зачынім Янушу дарогу!
За гонар твой, за шчасце будзем біцца!

*(Кладзе далонь на цаўё палаша.)*

С о ф ’ я
*(узрушана)*

Пан староста!.. Што тыя словы значаць?
Чаму рыўком хапаешся за зброю?

К а р о л ь

Даруй, князёўна!.. Хай нябёсы бачаць…

*(Праз хвіліну.)*

Цябе кахаю!.. І кахаў даўно я!
Бывала, меў надзею, позна-рана,
Што узаемнасць пырсне ў тваім сэрцы,
Але хаваў пачуцці я старанна,
Бо ты нявеста, й дзядзькавай апецы
Аддадзена… І мне здалося ў болю,
Што весела табе, як прыйдзе Януш.

С о ф ' я

Пан стараста!.. Пан стараста! Каролю!
Усё жыццё мне труціць гэты замуж!
Я не кахаю Януша! Адхланнем
Хай стануць словы, што сказаць не можна:
Кахаю іншага…

К а р о л ь

Вось дык прызнанне!
Хто ж гэты іншы?..

С о ф ' я

Гэта ж вы!

К а р о л ь
*(беручы з запалам яе руку)*

Мой Божа!
Я!.. Паўтары! О, Соф'я, дарагая!
Памру ад шчасця і памру ў спатолі.

С о ф ' я

Пан стараста! Жыві! Абараняе
Няхай твой меч мяне ад здраднай долі.
Цяпер знайшла я духу ўмацаванне!
І Янушу я паўтару адмову.
Гатова я змагацца за каханне!

К а р о л ь

Мяне кахаеш, Соф’я?!.

С о ф ’ я

Так, ды ў схову
Пачуцці я гарачыя трымала,
Анёл-ахоўнік сведка тут адзіны,
Як я ў самоце слёзы пралівала,
Калі быў на вайне ты… Не павінны
Мы дагаджаць пажадлівым прыгодам.
Паўстала з Радзівіламі дамова,
Бо дзядзька не пытаўся маёй згоды,
Сам вырашыў усё, а ты ні слова
Мне не прамовіў аб сваім каханні,
Халодны быў, мая ж душа стагнала.
Я аднаго чакала ў спадзяванні,
Каб пачуццё няшчаснае сканала,
І волю дзядзькі споўніла б я суха.
Не так прыйшлося!.. Вырваў маё слова…

К а р о л ь

О, Соф’я, дарагая! Гіне скруха!
З тваім прызнаннем я ажыў нанова!

С о ф ’ я

Аднак жа святасць дзядзькі абяцання?
Аднак напады тыя, што нам грозяць?

К а р о л ь

Не бойся, Соф’я! Знікне ўсё дазвання,
Як даручымся Божай дапамозе.
Я маю план… Так… Зараз аддаліся,
А заўтра будзеш добрую мець вестку!

*(Паціскае яе руку. Соф’я выходзіць.)*

Сцэна V

К а р о л ь
*(адзін)*

Што ж, перад імі, праўда, — адчыніся!
Абараніць павінен я нявесту.
Князь Януш, пэўна, мусіць быць шляхетным,
Гордзіеў вузел сам няхай развяжа.
Яго паклічу допісам карэктным
Я на сустрэчу…

*(Сядае і піша.)*

«Міласцівы княжа!
Як вам вядома, прыкрыя нязгоды
Між дзядзечкам маім і бацькам вашым
Дратуюць край, і сумныя прыгоды
Тут абярнуцца могуць ліхам страшным.
Належыць нам злачынства апярэдзіць,
І перш, чым край аросіцца крывёю,
Сустрэчу трэба вызначыць нам недзе,
Каб спрэчкі жар згасіць паміж сабою.
Бо сутнасць справы асабіста тычыць
Вас і мяне ў аднолькавай ступені.
Таму мой абавязак — шчыра зычыць,
Каб мы змаглі знайсці паразуменне.
Увечар, сёння, каля Трокскай брамы,
Чакаю, князь, прыходзьце без ваганняў.
Паразмаўляем вочы ў вочы прама,
І, можа, край пазбегне катаванняў.
Адзін прыходзьце, але майце шпагу —
Ў падобнай справе кроў цячэ нярэдка.
Не знойдзем згоды — з рыцарскай адвагай
На паядынак вас, але без сведкаў,
Я выклікаю! Будзе бой па чэсці.
На тым слугой пакорным застаюся —
Кароль Хадкевіч».

*(Складвае і запячатвае пісьмо.)*

Як такое з’есці
Захоча князь, прадбачыць не бяруся.
Аднак у гэтым толькі выйсце бачу:

Мячом ці згодай — але між сабою!
Не дапусціць суродзічаў да плачу!
Не дапусціць, каб край сышоў крывёю!
Гэй, служба! Хто там?

*(Уваходзіць д в а р а н і н.)*

Перадай пасланне
Уласна князю Янушу — у рукі!

*(Цішэй.)*

Але зважай — то тайнае заданне,
І ні адной душы аб тым ні гуку!
Мой дзядзька хай не ведае наогул,
Што вас паслаў да дому Радзівіла.
Ці ясна ўсё, вашмосць?

Д в а р а н і н

Так, дзякуй Богу!

*(Выходзіць.)*

К а р о л ь

Дык паспяшай! Цяпер у гэтым сіла!
Як быць павінна, так няхай і стане!
І скончым спрэчкі мірнымі шляхамі.

## Сцэна VI

*Шырока адчыняюцца двухстворкавыя дзверы, уваходзяць з цырыманіяльнымі паклонамі: Я н   З а в і ш а — ваявода віцебскі, К р ы ш т о ф   Д а р а г а с т а й с к і — маршалак літоўскі і   А н д р э й   З а в і ш а — падскарбі літоўскі; за імі: Р ы г о р   Х а д к е в і ч — кашталян віленскі. К а р о л ь сыходзіць з авансцэны.*

В а я в о д а   в і ц е б с к і

Марудзіць служба, пане кашталяне!

П а д с к а р б і   л і т о ў с к і
*(да Рыгора Хадкевіча)*

Прашу наперад!

К а ш т а л я н

Толькі ўслед за вамі.

П а д с к а р б і  л і т о ў с к і
*(кланяючыся ваяводзе віцебскаму)*

Тады — старэйшы з нас!

В а я в о д а  в і ц е б с к і
*(кланяючыся маршалку)*

Больш важны званнем!

М а р ш а л а к  л і т о ў с к і

Няхай вядзе нас гаспадар! Ці згода?

К а ш т а л я н

О! Не ўстаю прад гэтакім абраннем!

*(Кланяецца.)*

У с е
*(да ваяводы віцебскага)*

А вы кіруйце, пане ваявода!

*(Уваходзяць з паклонамі.)*

К а ш т а л я н

Сядайце, найвяльможнейшыя госці, —
Чало сенату, ўсёй зямлі апора!

*(Рассаджваюцца.)*

В а я в о д а  в і ц е б с к і

Кароль сюды прыслаў нас, вашамосцю,
З нагоды прыкрай.

М а р ш а л а к  л і т о ў с к і

Так, пане Рыгору!
Бяда з табой нам! Ты і твой сапернік
На меч айчыны сэрца накалолі,
І сэрца караля спавілі цернем,

Да гвалту дойдзе з гэтакай сваволі.
Прабач, што кажам праўды жорсткай словы.

В а я в о д а   в і ц е б с к і

Крыві ў краі праліцца не павінна!

П а д с к а р б і   л і т о ў с к і

І вам належыць выканаць умовы!

К а ш т а л я н
*(круцячы вус, холадна)*

Яшчэ таму не надышла хвіліна.

В а я в о д а   в і ц е б с к і

Калі ж яна надыдзе?

К а ш т а л я н

Не дакажа
Ніхто, што не стрымаў я слова чэсці,
Князёўна хай сама вязьмо развяжа.
І волю мусіць нам сваю давесці.
Яе рука для гандлю не прычына!
А я люблю спакой, як Бог мне мілы!

В а я в о д а   в і ц е б с к і

Таму даць веры проста немагчыма:
Што ж азначаюць збройныя тут сілы?
Штодня прымаеш новыя жаўнеры,
Карцеч падвозіш… Для чаго ўсё будзе?
Гармат з усіх акон відаць ашчэры,
Ваенны панцыр сам надзеў на грудзі,
Муруеш вежы…

К а ш т а л я н

Пане ваявода!
Такім пытаннем жартаваць ахвочы!
Мне пагражаюць арміі паходам
І выхаванку здрадай скрасці хочуць,
А я, бяссільна заламаўшы рукі,
Чакаць павінен жудаснай расправы?
Павінен зносіць пыхі іхняй трукі?

Свой дом, сям’ю сказаць на лёс крывавы?
Не першы *я* сюды паклікаў войска!
Не першы *я* гарматы ўвёз у горад! —
Князь Радзівіл! Браты, сябры па-свойску
Яму ўсё шлюць людзей, усім на гора.
Ужо сышліся тысячы там вояў!
Адпор сустрэне тут яго навала.
І калі ён задумае благое —
Стаю з мячом, надзейна і трывала!

Падскарбі літоўскі

Пакіньце гэту пыху, закалоты,
Сыны айчыны, адной маці дзеці!
Падайце рукі, выбаўце з багноты
Айчыны цела! Да крыві раздзерці
Яго ўзяліся дружна вы, заўзята.
Героі войнаў, улюбёнцы славы,
Вы брата вядзеце цяпер на брата,
І сэрца маці рэжаце крывава.
Пане Рыгору, пане кашталяне!
Калі чужынец грозіць — бі трывогу!
А ў міжусобнай бойцы ўсё — прайгранне,
І ганьба ў ёй геройства й перамога!
Магчыма, князь пагрозамі, хвальбою
Цябе і зачапіў, ды гнеў свой зменшы!
Падайце рукі зноў, дзеля спакою:
І той герой — хто ў гэтым будзе першы.
За князя Януша аддай князёўну,
Згарні свой гарнізон, схавай гарматы,
І справы ўсе ўладкуйце памяркоўна.

Кашталян

Ці гэта я ў чым быў тут вінаваты?
Сваёй рукі князёўна валадарка:
Хай зробіць так, як Бог напіша ў сэрцы.
І ўперад ваявода згорне шпарка
Хай войска, я ж за ім…

Падскарбі літоўскі

Але, здаецца,
Яны не ўступяць! Каралю не міла,
Што вы ўсчалі тут вэрхал непамерны!

К а ш т а л я н

Ідзіце, сцішце пыху Радзівіла,
Я ж каралю служу і краю верна!
Сігналу я не дам сваім жаўнерам,
Схаваю меч! Спакойна й самавіта
За край памру, за караля, за веру,
За справу цэлай Рэчы Паспалітай!
Але згарну тады людзей, гарматы,
Калі свае раззброіць князь атрады.
Стрымаю слова шляхціча-сармата,
Рукі ж не дам! Бо ненавіджу гада!

В а я в о д а   в і ц е б с к і

На тым і скончым! Вынік хоць не вельмі,
Дый хутка, мажа, і спакой настане.
Утопім злосць у келіху вясельным;
Бывай здаровы, мосцю кашталяне!

П а д с к а р б і   л і т о ў с к і

Бывай здаровы! Але добра ведай —
Спакой айчыны над усім вышэйшы.

М а р ш а л а к   л і т о ў с к і

Бывай здаровы! З гэтаю бяседай
Табе лёс краю ўручаны далейшы.

*(Рыгор Хадкевіч праводзіць саноўнікаў.)*

К а р о л ь
*(выходзіць на авансцэну — сам сабе з горкай усмешкай)*

«Утопім справу ў келіху святочным»,
«Утопім у віне, з дазволу неба!»
Не так імпэтна, зацныя сваточкі!
Яе ў маёй крыві ўтапіць перш трэба.

*(Прымацоўвае палаш і выходзіць.)*

*Канец другога акта*

## АКТ III

### Сцэна I

*Змрок. Вуліца. Углыбіні бачны абрысы Трокскай брамы. Каля яе — узброены* ж а ў н е р - в а р т а ў н і к.

Ж а ў н е р
*(сам сабе)*

Ну і нудота: кіснуць тут пад брамай!
Гусцее змрок і места глухне шпарка.
Пагутарыў ахвотна б я… І прама
Прызнаюся, кульнуў бы зараз чарку.

*(Праходзіць жабрак.)*

Ж а ў н е р

Хто там ідзе! Ану! Ўначы няможна!

Ж а б р а к

Жабрак стары я, ў Трокі валакуся.
Там паслязаўтра фэст, хачу пабожна
Туды паспець. А цемры не баюся.
Старому ноччу добрая папаска:
Вядомы шлях, і месяц выплывае.
Адкрыйце мне вароты, калі ласка,
Няхай вас Бог шчасліва захавае.

Ж а ў н е р
*(сам сабе)*

Люблю пагаварыць, як ёсць нагода…

*(Да жабрака.)*

Ці шляхціч вашамосць?

Ж а б р а к

Гальяш Заглоба.

Ж а ў н е р

Чуў пра Заглобаў — з Украіны родам:
Крыштоф і Марк — то рыцары абодва.

Ж а б р а к

Не, я з-пад Слуцка, ведаеш, вашмосцю?
Там, дзе князі ўсе вымерлі нядаўна.
Цяпер дачку іх — кветку прыгажосці —
За іншаверца хочуць выдаць… Спраўна
Сплывуць багацці… Балбачу без меры.
Прывык казаць, як ёсць, прабач старога,
А можа, й вашаць пратэстанцкай веры?

Ж а ў н е р

Католік я.

Ж а б р а к

Ага! Ну, дзякуй Богу!
А то цяпер часы такія, браце:
Не так сказаў — не абярэшся бедаў,
Там чорнае, там белае… Прабачце,
Дык я аб чым?.. Ага! Князёў я ведаў.
Хадзіў тады са зброяй і ў кунтушы,
Служыў я ў войску, ў выбранецкай стражы…
Што то за землі, што то за фундушы!
Князь Юры срэбра цэнтнерамі важыў
І золата… Нішто не ўратавала,
Як смерць прыйшла… Што ёй зямны шацунак!

*(Уздыхае, з пакораю.)*

Цяпер, вашмосць, вандрую я нямала,
Люблю ў дарозе часам падмацунак.
І маю пляшку… З вашага дазволу…

*(Выпівае за жаўнера.)*

Ж а ў н е р

Ага… За вас!

*(П’е, а потым убок.)*

Люблю яго я шчыра!

Ж а б р а к

Жыццё, жыццё! Людзей хінеш ты долу:
Хоць бедняка, хоць князя — без ранжыру.
Памёр, дачку ж пакінуў сіратою.
Так на маіх вачах расла паволі.
Князёўна мае сэрца залатое,
Але ж Пан Бог не даў ёй добрай долі.
Бо выдаюць за князя Радзівіла.
А ён жа зух і дысідэнт вядомы!
У пятніцу есць мяса, шляхты сіла
Яму спрыяе гучна, пакрыёма.
Няладная то справа! Май увагу:
Бо разам з ёю — з хараства анёлам —
Ён землі возьме Слуцкія ў пасагу,
А гэта ж безліч цэркваў і касцёлаў!
На свае зборы іх аберне хутка,
Кавалак смачны…

*(Зноў бярэ пляшку.)*

Ну, яшчэ па разу.

*(П’е.)*

Ж а ў н е р

Вашэці дзякуй! Ну то памалютку…

*(П’е.)*

Ж а б р а к

Але кавалак цвёрды, і паразу
Прынесці можа, бо Хадкевіч служыць
Не для загаду, гонарам і кшталтам…

Ж а ў н е р

Дый войска Радзівіла не адужаць!
Ён адбярэ кавалак смачны гвалтам.

Ж а б р а к

Глядзі, аднак, якіх узвёў фартэцый
Хадкевіч… І яшчэ страшней муруе.

Ж а ў н е р

Але нашмат мацнейшы, мне здаецца,
Ўсё ж Радзівіл! Ён крыўды не даруе.
Збірае тлум вялікі пад штандары,
Ён гетман, і ў яго руках улада.
Яго не страшаць рызыка, ахвяры,
Сышлася войскаў тысячных грамада.
Астрожскія і Гуркі шлюць жаўнераў,
Канцлер Замойскі, іншыя магнаты.
Хто просьбаю, хто грозьбаю — без меры
Ідуць у горад збройныя атрады.

Ж а б р а к
*(смеючыся)*

Чаму ж праз браму варта іх пускае?

Ж а ў н е р

Бо для слабых прыдуманы запоры.

Ж а б р а к

Ўсё гэта глупствы! Лёгка хай не дбае
Перамагчы Хадкевічаў дазоры!
Тут кожны шляхціч стане на падмогу.
Не возьмуць райскай птушкі ў кашталяна!
Зарана граць без бітвы перамогу,
Як і паразу абвяшчаць зарана.
Ці так, ці не — адбыцца тарараму,
Ператаўчэ ўсё места пацяруха…

Ж а ў н е р

Давай цішэй! — Хтось ходзіць каля брамы,
Ён можа нашу гутарку падслухаць.
Глядзі налева!..

Сцэна II

*Ж а б р а к  і  Ж а ў н е р сядзяць углыбіні. Уваходзіць таямніча, апрануты ў дылею, к н я з ь  Я н у ш.*

К н я з ь  Я н у ш

Стараста штось хібіць!
Мяне сюды паспешна так паклікаў,
А сам пазніцца. Га, нашчадак рыбін,
Набраўся ганарлівасці вялікай.
Са мной рахункі зводзіць ён падбіўся.
Ну, хутка вам павырастаюць рогі!

*(Уваходзіць  К а р о л ь  Х а д к е в і ч.)*

К а р о л ь

Вітаю, князь! Даруй, што я спазніўся,
Бо меў кавалак ладны я дарогі.

К н я з ь  Я н у ш
*(ганарліва)*

Хто столькі крыўд ад вас штодзённа зносіць,
Яшчэ адной ці стане пераймацца?
Яшчэ адна — ў такім вялікім стосе!

К а р о л ь
*(сам сабе — раптоўна)*

Ну, немагчыма з гэткай пыхай знацца!

*(Стрымліваецца.)*

Не ятрыць спрэчкі, але іх загойваць
Прыйшоў па ўласнай волі і жаданні.
Намер ад вас не стану свой утойваць:
Канфлікт хачу закончыць у яднанні.
Дарогай згоды прапаную крочыць
Прад каралём, прад сеймавым урадам.
Вайна між намі край дарэшты сточыць,
Калі карцеч пасыплецца тут градам.
Мы ж дзеці краю нашага, зычліўцы,
Паміж сабою згодна ўладзім справу:
Вайну не ўчынім…

К н я з ь   Я н у ш

Га! Вы — палахліўцы!

К а р о л ь

Схіляемся мы толькі перад правам!

К н я з ь   Я н у ш

Схіляемся прад правам… Га! Юрысты!
Вы хітрацы, аратарскае кодла!
Хай дзядзька мосці вашай урачыста,
Што абяцаў, то выканае годна.
А ўжо зухвальства вашае прабачым.
Князёўна слуцкая — мая нявеста,
Яе аддаць павінны, так ці йначай,
А дзядзька ваш вязе ўзбраенні ў места.
Гарматамі гняздо сваё ашчэрыў…
Так вера ваша вучыць па сумленні?

К а р о л ь

Стрымайся, князь! Не ганьбі нашай веры!
Мой дзядзька з неахвотаю ўзбраенні
Ў свой дом збірае. Грозіце нападам,
Дык што ж — схіліцца згодліва ў паклоне?
Згарніце самі ўсе свае атрады,
І дзядзька меч не варухне ў далоні.

К н я з ь   Я н у ш

Пан стараста! Ўжо колькі можна прэнняў?
Абрыдлі мне дакучныя размовы.
Хачу пачуць апошняе рашэнне:
Князёўну даяце мне ці — адмова?

К а р о л ь

Вяльможны княжа! Дзядзька ўвёз гарматы,
Бо ад бяспраўя мусіць бараніцца.
Князёўна тут ні ў чым не вінавата,
І толькі гвалту жорсткага баіцца.
Яе рука свабодная, і выбар
Хай зробіць той, які дыктуе сэрца.

Мой дзядзька не пытаў яе … Хай вы бы
Яе саму паслухалі… Здаецца…

К н я з ь   Я н у ш

Яе паслухаць?.. У мяне дамова!
І тут няма што доўга абмяркоўваць.
Пасля заручын адступаць ад слова
Запозна! Хто павінен вас выхоўваць?
Што ёй дыктуе сэрца?.. Ў тым хаўрусе?
Ёсць пэўны тэрмін, мушу вам давесці,
Калі са мной прад алтаром стаць мусіць!
І княствы — два — ў пасаг з сабой прынесці:
Капыль і Слуцк!..

К а р о л ь

Дык вось дзе корань справы!
Так бессаромна ў хцівасці прызнацца!
Засведчыць прагнасць нават без аправы!
Дык, можа, лепш адразу вам падацца
На Слуцк, Капыль з гарматамі і войскам?!
Навошта тузаць горад замяшаннем?
Уквецьце грудзі справаю геройскай:
Усё вам можна — з тытулам і званнем!

К н я з ь   Я н у ш

Пан стараста!..

К а р о л ь

Князёўны ж не чапайце:
Яна сама сваёй рукі ўладарка,
І ёй зрабіць свабодны выбар дайце!
Рашае сэрца, а не гаспадарка!
Князёўну дзядзька шчыра апякае,
Гвалтоўным шлюбам ён яе не звяжа.
Яна не хоча вас, бо не кахае.
Кахае іншага — так, мосцю княжа!

К н я з ь   Я н у ш

Кахае іншага?.. Як гэта міла!
Хто рызыкнуў мне заступіць дарогу?
Каму такое шчасце засвяціла?

К а р о л ь

Ён перад вамі, князь! І, дзякуй Богу,
Ён вашай моцы, гневу не баіцца!

К н я з ь   Я н у ш

Так гэта вы?..

К а р о л ь

Прызнаюся з нагоды:
Даўно кахаў я Соф'ю, ў таямніцы
Трымаў каханне, бо лічыў заўсёды,
Што вы абраннік дум яе і сэрца,
Што з вамі шлюб шчаслівы і жаданы.
Але не так усё — аб тым ідзецца!
Не вы, пачцівы князь, яе каханы.
Душу гняце ёй шлюб, нібы каменне.
Мяне даўно кахае, ў шчасце верыць…

К н я з ь   Я н у ш
*(з пагардай)*

Але, але! Ну, дзядзька! Ну, пляменнік!
Вось дык шляхетных рыцараў намеры!

К а р о л ь

Пры чым тут дзядзька! Шчыра і ў спадзеве
Кахаць мы пакляліся з ёй навекі!

К н я з ь   Я н у ш

Пане Хадкевіч! Гэй! Стрымайся ў гневе!
Ваш дзядзька, пэўна ж, ведае з апекі
Багацці княства Слуцкага няблага,
Таму і патурае вашай мроі.
Умееце лічыць!

К а р о л ь
*(грозна)*

Князь! То — знявага!

*(Выхоплівае палаш.)*

Дык бараніся!

К н я з ь   Я н у ш
*(дастае палаш)*

Хай рашае зброя!

*(Б’юцца.)*

Ж а ў н е р
*(каля брамы падае знак трывогі, пасля са зброяй урываецца паміж дуэлянтамі)*

Ратуйце! Гвалт! Ліецца кроў у месце!
Хто б ні былі вы, гэй: шануйце права!

Ж а б р а к
*(сам сабе)*

Відаць, не буду ў Троках я на фэсце,
Бо нешта тут рыхтуецца! Цікава,
Хачу пабачыць…

К н я з ь   Я н у ш
*(да жаўнера)*

Прэч адсюль!

К а р о л ь
*(да жаўнера)*

З дарогі!

*(Насядае на Януша.)*

Гэй, бараніся, князь!

*(Жаўнер зноў аказваецца паміж імі. На сігнал трывогі выбягаюць з бліжэйшых дамоў спалоханыя гараджане.)*

А д з і н   з   м я ш ч а н

Што там за крыкі?

Д р у г і

Ці там пажар?

Т р э ц і

Ці там сігнал трывогі?

К н я з ь   Я н у ш
*(адступаючы і хаваючы ў логны палаш)*

Пан стараста! Тлум сведкаў шмат наклікаў.
Пазнаць нас могуць… Трэба разысціся.

К а р о л ь

Разыдземся! Ды не пазбегнеш кары!

К н я з ь   Я н у ш

Маёй крывавай помсце не дзівіся!

*(Разыходзяцца ў супрацьлеглыя бакі.)*

Г а л а с ы   з   н а т о ў п у

Ратуйце! Гвалт! Разбой! Пажар! Татары!

*(Пасярод апошняга ўскрыку апускаецца заслона.)*

## Сцэна III

*Пакоі радзівілаўскага палаца. К р ы ш т о ф   Р а д з і в іл — ваявода віленскі, К р ы ш т о ф   Д а р а г а с т а й с к і — маршалак літоўскі, Я н   З а в і ш а — ваявода віцебскі; А н д р э й   З а в і ш а — падскарбі літоўскі — у якасці каралеўскіх паслоў.*

П а д с к а р б і   л і т о ў с к і

Няхай жа ўрэшце, князю ваявода,
Сенатары адказ пачуюць слушны,
Што спрэчкі вашы прымірыла згода,
Дзеля дабра дзяржавы…

К н я з ь   К р ы ш т о ф

Дам я скрушны:
Няхай кароль аб згодзе ані дбае!
Гнеў маіх продкаў прагне адкуплення.

Маё дабро Хадкевіч падграбае
Без ценю нават сораму, сумлення.
Ўжо блізка тэрмін — хай стрымае слова!
Тады і будзе ціша, пан Завіша!

Маршалак літоўскі

Нянавісць прэч! Яднае хай умова,
Што ў сэрцах план прыяцельскі запіша!

Князь Крыштоф
*(ударае рукой па цаўі мяча)*

Вось мой прыяцель! Вось і мой дарадца!
А з ім шэсць тысяч рыцараў адданых.
Агонь гармат — адзіны правадаўца,
Калі вакол інтрыгі ды падманы.
Таму з мячом, узброены сурова,
Свой інтарэс я спраўджу паслядоўна:
Пайду дазнацца, ці алтар гатовы
І ці чакае перад ім князёўна?
Так павіншую шчыра пана свата,
І пусцімся ў вясельныя мы скокі.

Ваявода віцебскі

Але ж сталіца чым тут вінавата?
Навошта ёй адчай, трывога, ўцёкі?
І куляў дождж, крыві нявіннай рэкі?
Разбураныя гмахі і святыні?
Пажару дым? Праклён нябёс навекі?
Няхай твой гнеў суцішыцца, астыне!
Вялікі горад попелам стаць можа.
Нікому ў тым не будзе даравання.

Князь Крыштоф
*(з іроніяй)*

Святыні рухнуць… Міласцівы Божа!
Іх тут зашмат, скажу я без вагання!
Маіх братоў па веры гэта страшыць,
Ці разумееш, стаўленік папежа?
Крывёю пасвячу святыні вашы,
Зруйную рымскі дух, зруйную вежы!

П а д с к а р б і   л і т о ў с к і

Але! Блюзнерыш, пане ваявода!
Рыхтуеш бунт! Разбою патураеш!

К н я з ь   К р ы ш т о ф

Прабач, але вярэдзіць кроў нязгода,
І ўжо яе нікуды не схаваеш!
Хадкевіч мусіць выканаць дамову —
І толькі так развяжам гэту справу!

М а р ш а л а к   л і т о ў с к і

Я зычу вам пакінуць тон суровы
І зразумець адзіны шлях яскрава:
Хіба са зброяй сватаюць кагосьці?
А можа, ў замку ўжо яна чакае:
Ці там не едзе нарачоны ў госці,
Ці яго сэрца любасцю палае?
Ніхто князёўны не пытаў дагэтуль,
Але ж, відаць, кахае маладога!

К н я з ь   К р ы ш т о ф

Хадкевіч мае іншую тут мэту:
Сам хоча ўзяць кавалку дарагога.
Як даверыць двурушнай іх пародзе,
Няшчырасці, што ўся навідавоку?!

В а я в о д а   в і ц е б с к і

Аднак жа пойдзем, дбаючы аб згодзе,
Бяззбройныя, без гневу і папроку, —
Уладзім справу, як сваты, паважна,
Бо ў рэшце рэшт, як годныя літвіны,
Яны гасцей у доме не зняважаць,
Але прыняць дастойна нас павінны.
Калі ж убачым, што сталы накрыты,
Што для вяселля ў доме ўсё гатова,
Знак пададзім — князь Януш самавіта
Няхай з дружынай едзе…

К н я з ь   К р ы ш т о ф

Красны словы!
Благаславёны, хто тым людзям верыць,
Хто верыць у мажлівасць прымірэння!
А для чаго ідуць туды жаўнеры?
Гарматы ў вокнах зеўраць? Абурэння
Стрымаць свайго не маю болей сілы!
А што, калі мы з’явімся без зброі,
Нас прычакае пастка ці магіла,
А не краса-нявеста ў шлюбным строі?
Ці кашталян не схіліцца ў паклоне,
Ці Соф’я скажа: «Януш мне не мілы»?
А гэта ж ганьба, ведаеце?.. О, не!
Адкуль вам ведаць? Вы ж — не Радзівілы!

*(Усе сенатары хапаюцца за палашы.)*

П а д с к а р б і   л і т о ў с к і

Суцішся, князь! Тваю вялікасць хвалім!
Але і наша годнасць — не забава!
Ў чужых дварах мы скарбаў не збіралі!
Мы ўсе тут шляхта роўная прад правам.
Ці кроў твая, вяльможны ваявода,
Ад нашай чырванейшая? — Пабачым!..

В а я в о д а   в і ц е б с к і
*(да падскарбія)*

Але мы тут дзеля братэрскай згоды!
Пане падскарбі! Свой палаш гарачы
Схавай! Вялікі той, хто велікана
На бітву кліча смела і адважна.
Дый большы той, хто меч свой устрымана
Схавае ў логны годна і разважна.
З табой жа, князь, мы шляхцічы абодва,
Нягледзячы на ўсе твае дастаткі,
Мой крыўдзі герб, калі табе заўгодна,
Але Літвы не крыўдзі — нашай маткі!

К н я з ь   К р ы ш т о ф

Запал залішні спарадзіў мой гонар.
Прабачце гнеў, вяльможныя ДАРАДЦЫ!

Шаную сам я літару закона,
І праву цалкам прагнуў бы аддацца,
Але закон мяне не абароніць!
Кароль не дасць, пры ўсім жаданні, рады.
Дык хто ж даўгі з нягодніка спагоніць,
Калі не сам я з рыцарскім атрадам?!
Намарна перамовы ўсе! Бясконца
Мяне за нос вадзіць ён не павінны.
Пайду на штурм, пакуль узыдзе сонца!
Стапчу палац ягоны на руіны!
Крыві паток, вы кажаце, бязвіннай
Пральецца тут? Хадкевіч хай трымае
Адказ за ўсе наступствы… Вось і сын мой!

Сцэна IV

*Тыя ж і князь Януш.*

Князь Януш

Чалом вашмосцям!

Усе
*(апрача князя Крыштофа)*

Шчыра вас вітаем!

Ваявода віцебскі

Навошта ў дзень вяселля князю панцыр?
А дзе ж касцюм да шлюбу?

Князь Януш

Вашамосцю!
Маё вяселле! Кіньце жарты! Танцы
Пачнуць пад гром гарматны хіба госці!
На бой адкрыты выкліканы сёння,
Я мушу ўвесь жалезам акавацца.

Ваявода віцебскі

Няхай вас Бог ад гэтага адслоніць!
З раздорам, сваркай трэба развітацца.
Хадземце ўсе туды — ў вясельных строях!

А можа, там князёўна ўжо чакае?
Няхай маўчыць суцішаная зброя,
Гаворыць толькі сэрца, што кахае.

К н я з ь   К р ы ш т о ф

Але, пан Януш! Як у тое верыць?

К н я з ь   Я н у ш

Што ж, бацька, час адсунуць нам заслону:
Дарэмна йсці ў адчыненыя дзверы,
Чакаць дарэмна іхняга пардону!
Тымчасам Соф'я іншага кахае,
Хадкевіч малады — яе абраннік!

К н я з ь   К р ы ш т о ф

Як то — Хадкевіч?.. Права ён не мае!
Як ён пасмеў? Га!.. Звадыяш! Нахабнік!

К н я з ь   Я н у ш

У гэтым сам учора мне прызнаўся.
На паядынак выклікаў, ды бойку
Перапынілі…

К н я з ь   К р ы ш т о ф

Дзядзька пастараўся!
Вядома ж, дзядзька ўсё падстроіў лоўка!
Пасагам хоча спрытна пажывіцца.
Дзівіцеся, прыдбаў якога пылу!
Як ён сваёй сваволяй ганарыцца!
І гэта мне сцярпець?! Мне — Радзівілу?!
Пры чым тут права? Крывадушша, здрада
Кіруюць справай шлюбнаю адзіна!
Пан Януш! Час! Ідзі — выводзь атрады!
Хай апранае панцыры дружына.
Я сам шыхты агледжу пры парадзе.
Хай першы строй вядзе Пятро Збароўскі,
Другі ачоліш ты! Адкажам здрадзе!
А трэці я вяду — гетман літоўскі!

В а я в о д а   в і ц е б с к і

Гетман літоўскі ворагаў знішчае,
А не сваіх суродзічаў карае!
Не, мосцю княжа! — Рацыі не мае
Такі імпэт, што бойцы патурае.
Не можаш, як крывавы Катыліна
У Рыме, стаць зямлі айчыннай катам.
Таму, як радца сейму, я павінны
Не папусціць адбыцца гэтым стратам!
Табе забараняю…

К н я з ь   К р ы ш т о ф

Раю сцішыць
Загадаў палкасць, смешная іх сіла!
А можа, хто дамову перапіша
І стане супраць волі Радзівіла?!
Ідзі да іх, паважны ваявода,
Ды імем сейму прыпыні інтрыгі!
Тады і я згарну ўзбраенні; згода
Настане ўраз, нібы цяпло адлігі.
А не — дык бой! Зацяты і крывавы!

П а д с к а р б і   л і т о ў с к і

Але вайна злачынствам ёсць для краю!
Калі табе не любы край, няславы
Сабе не зыч! І мець на ўвазе раю
Павагу сейма! Кожны з нас пакліча
Дзеля яе злачынцу да адказу.
Бунтаўніком кароль цябе палічыць,
І сам сябе ты вырачаш на сказу —
На пакаранне горлам…

К н я з ь   К р ы ш т о ф

Што? Пагроза?

П а д с к а р б і   л і т о ў с к і

Пагроза, так! Сенатар — страж парадку!
Хоць моц твая вялікая, дый поза,
Ў якую стаў, дзяржаву пхне да ўпадку!
Імем закона помстай пагражаю!

Не думай, князь, што знойдзеш ты заўсёды
Мячы за плату!.. Шляхта паважае
Свае правы, законы і свабоды.
Таго, хто топча іх, яна адкіне!
А кроў яе, калі пральецца марна,
Пакажа ўсім, што край і права гіне
Не дзеля праўд вялікіх, а бяздарна!
Ты думаеш, аб золаце ўсе мараць
І што ў яго ярмо ўсіх упражэш ты?
Бог і кароль тут шляхтай уладараць,
А не твае крывавыя пражэкты!
Ты, міласцівы княжа, прагнеш моцы,
Але ў любові — моц уся! Ў любові!
А шляхціч — рыцар перш, а не забойца!

Князь Крыштоф

Пане падскарбі! Вашамосць! Панове!
У тым, што вы гаворыце, ёсць слушнасць,
Яшчэ я сёння пашаную права
І не пачну вайны, хоць іх двудушнасць
Усім цяпер тут бачная яскрава.
Да іх нары вужынай мы не пойдзем,
Бо замардуюць іхнія жаўнеры.
Сюды няхай ідуць у добрай згодзе:
Ксяндза паклічу каталіцкай веры,
Я ўсё зраблю, як сказана ў дамове,
І ўрэшце сын мой шлюбам пабярэцца.
Іначай заўтра шлюб гэты, панове,
Мы зробім на руінах іх фартэцый!

Князь Януш

І выбіце ёй з галавы каханне,
А я прабачу выбрык той нявесце.

Падскарбі літоўскі

Але Хадкевіч…

Ваявода віцебскі

Хто ж пярэчыць стане!

К н я з ь   К р ы ш т о ф

Ідзіце! І чакаем добрых весцяў!

П а с л ы

Чалом табе!

К н я з ь   К р ы ш т о ф

Чалом! Да пабачэння!

*(Паслы выходзяць, іх праводзіць князь Януш.)*

Сцэна V

К н я з ь   К р ы ш т о ф
*(адзін)*

Так!.. Шляхта, шляхта… Гідры хітрай звівы!
То ўвасабленне згоды, паніжэння,
То забіякі выгляд ганарлівы!
То ласая на грошы, пачастунак,
То хваліцца сумленнем чалавечым!
Заўжды закону мчыць на паратунак.
Каб мог, яе мячом бы ўсю знявечыў!
Дык, можа, хутка… З ласкі тых зычліўцаў,
Намер свой спраўджу, будзе ўсім пацехі:
Да сох пастаўлю бедных ганарліўцаў,
Гарматамі суцішу сейму брэхі!

*Канец трэцяга акта*

## АКТ IV

### Сцэна I

*Дзеянне адбываецца ў палацы Хадкевічаў, як і ў першым акце. Наперадзе сцэны — стол, накрыты грызэтам (парчой), па другі бок сцэны — стол з пісьмовымі прыладамі. Каля першага стала сядзяць* С о ф ’ я   і   Р ы г о р

*Х а д к е в і ч; К а р о л ь  Х а д к е в і ч неспакойна праходжваецца; у глыбіні сцэны — д в а р а н і н.*
*Хвіліна маўчання.*

С о ф ’ я

Як позна ўжо!

К а ш т а л я н

Мы мусім да паўночы
Чакаць тут князя Януша з картэжам.
Хоць гвалт-прымус чыніць я не ахвочы,
Але ж умову выканаць належыць!
Паводле той умовы хай і стане.
Закон і меч нам будуць за дарадцаў!
Прыслалі нам ганебнае заданне,
Каб самі мы прыйшлі да іх палаца.

К а р о л ь

Як гэта самі?..

К а ш т а л я н

Там алтар чакае,
І там шлюб гэты стане асвячоны.

К а р о л ь

Што вы сказалі?

К а ш т а л я н

Што лухта якая,
Каб не жаніх ішоў да нарачонай!
Так не было ад веку! Хай як хочуць:
Не з паслушэнства іх загадам грозным
Чакаць іх буду сёння да паўночы
Са святаром, са сведкамі і возным,
Але адно — шануючы дамову!
Калі ж наступіць поўнач, без ваганняў —
Я больш не служка дадзенаму слову
І вольны ад ранейшых абяцанняў!

Соф'я

Але я сёння… Заўтра… Штохвіліны
Гатова князю Янушу адмовіць!
Ты ж апякун мой, значыць не павінны
Мяне да шлюбу гэтага няволіць.
Яшчэ нядаўна ў слабасці дзіцяці
Не мела духу думаць нат' аб гэтым,
А сёння чую сілы, каб змагацца
І бараніць мае правы кабеты.
Я не жадаю Януша! Пачварай
У хцівасці пыхлівай мне здаецца.
Бяруць хай замкі — цешацца хай марай!
Мяне ж не возьмуць, пакуль сэрца б'ецца!

Кашталян

Прашу цябе: суцішся! Маю сёння
Перад сабой заўчаснае прызнанне.
Цябе я не спытаў, прабач, князёўна!
Сама яму скажы, як тут ён стане,
Скажы яму пры сведках! Хай жа будзе,
Як цвердзіць абавязак мой і Неба:
Я рызыкну жыццём, падстаўлю грудзі,
Але прымус не зведаеш ганебны.
Калісьці бацька твой аддаў з надзеяй
Палаш мне ў рукі, — ён заўжды ў далоні!

Соф'я

Абарані, зычлівы дабрадзею,
Мяне ты!..

Абодва Хадкевічы
*(да паловы вымаюць з логнаў палашы)*

Абаронім! Абаронім!

Кашталян

Належыць мне чакаць тут да паўночы,
Мець вознага, ксяндза, алтар і сведкаў.
Табе ж свабода поўная! Як хочаш, —
Зрабі сама свой годны выбар, дзетка:
Прымі або адкінь запалы князя,

Калі сюды прыбудзе на бяседу.
Чакаем тут яго ва ўсякім разе.

*(Да двараніна.)*

Вашмосцю, далажы, сваты ці едуць?

*(Дваранін хоча выходзіць.)*

Скажы трымаць зачыненаю браму,
Калі ж пад'едуць, — пільна прыглядацца:
Нам не хапала збройнага тут гаму!
Са броўяй не ўпускаць! І не вагацца!
Няхай увойдуць госці, сведкі, самі
Князь гетман і князь Януш, як належыць,
Без пальнай зброі, як мы і казалі,
І дваццаць коней шлюбнага картэжу.
І зараз на засовы браму зноўку!
Бо падмануць сябе я не дазволю.

*(Са смехам.)*

Стары жаўнер, прадбачу іх улоўку!
Цяпер бы вывеў гетмана я ў поле.

*(Дваранін хоча выходзіць.)*

Чакай, вашмосць! Запаляць хай паходні,
Сустрэць картэж каб велічна, панадна.
Калі ж без зброі ўвойдуць і лагодна, —
Мне далажыць: на лесвіцы парадна
Іх прывітаю. Гэтым часам варта
Няхай пільнуе вежы ад вар'ятаў.
Калі ж затрубіць рог, — адкінуць жарты
І даць агонь па ворагу з гарматаў!

*(Глядзіць на гадзіннік.)*

Палова на дванаццатую… Позна…
Дамова разам з тэрмінам знікае.
Прасіце! Хай увойдуць сведкі, возны,
А ксёндз няхай пры алтары чакае.

*(Дваранін адыходзіць.)*

К а ш т а л я н
*(сам сабе)*

Душу мне дрэнчыць смутак прыхаваны.

К а р о л ь
*(да Соф’і)*

Як, Соф’я, ты? Ці чуешся адважнай?
Ці ты мяне кахаеш?..

С о ф ’ я

Вер, каханы:
Больш за жыццё, астатняе не важна!

Сцэна ІІ

*Тыя ж, уваходзіць* в о з н ы *і ў маўчанні сядае за прыгатаваны для пісьма стол, піша; потым* К л о с а к *з некалькімі шляхцічамі, усе сядаюць. Хвіліна ўрачыстага маўчання.*

Д в а р а н і н
*(уваходзіць)*

Няма нікога, ціш мяне здзівіла,
Але здалёк, — прыслухваўся старанна,—
Здаецца, ад палаца Радзівіла,
Чуваць трубу і грукат барабана.

К а ш т а л я н

Але, але… па споўненае слова
Не хутка едуць зацныя панове!

*(Да двараніна.)*

Хай брамы пільна сцеражэ ахова,
Гарматы ўсе трымаць напагатове!

*(Некалькі хвілін ціша. Гадзіннік б’е дванаццаць.)*

К а ш т а л я н

Аднак жа — поўнач!..

К а р о л ь
*(сам сабе)*

Скончаная справа!..

К а ш т а л я н

Я ўсё, што меўся, выканаў па чэсці;
Цяпер нам трэба бараніцца правам
І ў адпаведнасць запісы прывесці.
Васпане возны! Ўважліва глядзіце
Той тэкст умовы з князем ваяводам,
І так праз акт службовы давядзіце,
Што я яе выконваў з поўнай згодай.
Я ўсё зрабіў належна і дакладна,
Але яны парушылі ўсе планы!

В о з н ы
*(з паклонам)*

Я напісаў якраз аб гэтым складна.

Д в а р а н і н
*(убягае)*

Грымяць, вашмосцю, ўсюды барабаны!
Трасецца горад з маршавага шалу.

К а ш т а л я н

Калі падыдуць, не даваць карцечы!

В о з н ы
*(устае і чытае ўрачыста)*

«Я, Пётр Ваканда, возны Трыбуналу,
Што подпісам рукі ніжэй засведчыў:
У годзе Панскім тысяча шэсцьсотым,
У месяц люты ў шосты дзень, ад рана
Быў выкліканы з рыцарствам шляхотным
Да віленскага пана кашталяна!
Каб я пасведчыў шчыра й непамыльна,
Што ўжо князёўна слуцкая гатова
Ісці за князя Януша прыхільна,
Як то і цвердзіць шлюбная дамова.
Прыбыўшы ў дом у памянёнай даце,
Правёўшы дзень у пана кашталяна,

Я бачыў святара ў абраднай шаце,
Была й князёўна ў шлюбны строй убрана.
Чакалі сведкі, крэўныя і госці
Аж да паўночы князя Радзівіла,
Ды ў тэрмін не было тут ягамосці,
Таму й дамовы страчаная сіла!
Аб тым, што бачыў, сведчу гэтым словам, —
Як і вышэй, я — Пётр Ваканда, возны».

*(Да прысутных дваран.)*

Няхай падпішуць сведкі акт гатовы.

*(Дваране па чарзе падпісваюць.)*

А д з і н  с а  с л у г
*(уваходзіць)*

Ад замка шум сюды нясецца грозны!

К а ш т а л я н

Картэж вясельны блізіцца памалу,
Ўначы прыгода нам прыгатавана…

В о з н ы

Адзін узор — у Акты Трыбуналу,
Другі — у рукі пана кашталяна!

*(З паклонам аддае яму паперу.)*

К а ш т а л я н
*(да дваран і вознага)*

Маёй вы праўдзе шчыра паслужылі,
За гэта шлю падзяку вам ад сэрца.
Яны палац мой шчыльна абкружылі
І думаюць, што здамся ў паняверцы.
Але напад іх будзе ўжо разбоем!
А зараз мы — да палашоў! Час біцца!

*(Да Соф’і.)*

Князёўна! Меў апеку над табою,
І засланю цяпер грудзьмі, як рыцар!

*(Возны і ўсе дваране выходзяць.)*

Сцэна III

*К а ш т а л я н, К а р о л ь, С о ф ’я.*

С о ф ’ я
*(здымае з пальца і кідае на стол пярсцёнак)*

Дык я магу свабоднай называцца!
Пярсцёнак гэты з мукай мяне лучыў.

К а р о л ь
*(бярэ яе за руку і падыходзіць да кашталяна)*

Мой дзядзя! Час наспеў табе прызнацца:
Суцішыць неспакой, што сэрца мучыў!
Кахаю Соф’ю, ўжо даўно кахаў я,
Як толькі можа сэрца маладое,
Але на ўмову з Янушам зважаў я:
Маўчаў, цярпеў пакорна з долі тое.
Ляцеў я з бою ў бой — не мог іначай,
І толькі ў думках быў заўсёды з ёю.
На доблесць клікаў лёс мяне лядачы,
Я думаў, смерцю мукі супакою.
Але вяртаўся ў славе і здароўі…
Калі ж мяне хвалілі ўсе за мужнасць,
Жадаў на смерць хутчэй ляцець ізноў я,
Каб муку сэрца даўнюю адужаць.
Яе ж усмешку, радасці хвіліны
За дабрату сястры прымаў, не болей.
Але ў вачах яе быў смутак дзіўны,
І ён мне сэрца раніў вострым болем.
Згадаў тады, што Януш ёй не мілы,
Што толькі паважае твае планы.
Асмеліўся — ў каханні да магілы
Прызнаўся ёй… і… ёю быў каханы.

*(Укленчвае.)*

Мой дзядзя! Бацька з дабрынёй надлюдскай!
Ты, хто жаніцца раіў мне так часта,
Апеку маеш над князёўнай слуцкай,
Дай мне яе руку — дай наша шчасце!

К а ш т а л я н
*(вагаецца)*

Табе яе руку!.. Мяне ж адразу
Ў карысці западозраць, у падмане!
А што князёўна мае для адказу?
Ці вы даўно яго кахалі ў тайне?

С о ф ' я

Ці я кахала?.. Бог пачуў малітвы!
Хачу таксама зараз я прызнацца:
Калі Кароль вяртаўся з кожнай бітвы,
Хутчэй ляцела першай з ім спаткацца.
Раней устану, гожа апрануся,
Хоць варажбе не веру, адгадаю,
Што гэта ён у край ужо вярнуўся,
Бо скок яго каня здалёк пазнаю.
А прыйдзе Януш а якой гадзіне,
Калі яму мой апякун дазволіць,
Замрэ душа, і пачуццё ўсё згіне,
І страшна мне, што лёс мяне няволіць.
Мне нарачонай стаць вы загадалі,
Хацела слова выканаць я верна:
Калі пярсцёнак гэты надзявалі,
Я чула, што ўпіліся ў сэрца церні.
Тачыла дух цярпенняў доўгіх джала,
І смутак агарнуў мяне суцэльны…
Ды падышоў Кароль, спытаў, што стала,
Ўзяў за руку… І смутак знік пякельны.
Прызнаўся, што кахае, што шчаслівы,
Што за мяне змагацца ён ахвочы.
Так за слязою роспачы жахлівай,
Слязіна шчасця росіць мае вочы.
Калісьці, пане, на смяротным ложы
Мяне ўручыла бацькі майго воля
Тваёй апецы — дык на раздарожжы
Нас блаславі! — Кахаю я Караля!

К а ш т а л я н

Дзіўлюся я чуць гэтыя прызнанні:
Ў іх столькі шчырасці і столькі болю!
Бог знае, што рабіць… І я ў ваганні…

Адказ мой заўтра — так, пане Каролю!
Бо мы да бітвы змушаны ўсё роўна…

*(Чуваць грукат барабанаў. Уваходзіць д в а р а н і н.)*

Д в а р а н і н

Вакол палаца войска ўсюль раіцца!

К а ш т а л я н
*(да Кароля)*

Тваёй апецы ўручана князёўна,
А сам іду за сцены продкаў біцца!

*(Дастае палаш і выходзіць, за ім — дваранін.)*

Сцэна IV

*С о ф ’я і К а р о л ь, затым Б е а т а.*

С о ф ’ я

Няма спакою нам аднак ні знаку.
Як моцна ў браму стукаюць! Мне страшна…

К а р о л ь

Не бойся, Соф’я, кожную атаку
Мы адаб’ём тут годна і адважна!
Цябе заўжды я бараніць гатовы.

Б е а т а
*(убягае напалоханая)*

Князь Радзівіл тым часам не марудзіць:
Ён папярэдзіў холадна й сурова,
Што свайго права боем ён здабудзе!
Што аблажыў палац наш і на ранку
Заплача нават Вільня тут старая:
Учыніць дзёрзкі штурм на нашым ганку!

К а р о л ь

Не страшыць тут Хадкевіча іх зграя —
Натоўп шалёны, з гвалту ап’янелы!
Аб гэтым думка толькі — ўжо знявага!

С о ф ’ я

З таго ўзрастае дух мой асмялелы,
І да свабоды велічная прага!
Хоць я слабой жанчынаю здаюся,
Хоць пагражаюць сцены нашы сцерці,
Загінуць у руінах не баюся:
Шчаслівай буду тут, з табой, памерці!
Дзяліць з табой лёс ваяра павінна,
Калі ж яны карцеччу нас дастануць, —
Руіны знойдуць тут!..

Б е а т а

Але ў руінах
Нявінных жыццяў тысячы палягуць!

К а р о л ь

Ну што вы! Тут руінаў і не будзе!
Хіба з гарматаў зладзяць страляніну,
Каб знішчыць горад?

Б е а т а
*(пазіраючы ў акно)*

Пане! Тыя людзі
Не спыняцца, каб мець сваю даніну!

*(Відаць праз акно зарава агню.)*

Пажар на рынку! Гляньце! Баронь Божа,
Каб жа агонь не знішчыў увесь горад!
Гараць дамы! Хто ж людзям дапаможа?
Ратуйце, пане! Гора нам! О, гора!

*(Чуваць галасы і крыкі.)*

К а р о л ь

Вось жа шаленцы! Гадаўё ўсе разам!
Так, сапраўды, ратунак там патрэбны.
Прагнаць іх час! Зняславіць іх паразай!
Струціць адразу выклік той ганебны!
Хай наша войска рэйд у горад зробіць:
Я дам загад…

С о ф ’ я

О, не выходзь, Каролю!
Там палашоў табе нямала грозіць!

К а р о л ь

Што палашы ваяку ў полі бою?!

С о ф ’ я

А як жа я?

К а р о л ь

Няма што хвалявацца!
Там, звонку, больш пагрозлівыя рэчы.
Як рыцар, перш, павінен я праймацца
Айчыны лёсам, горам чалавечым.
Будзь за мяне, каханая, спакойнай,
Аддам загад — і хутка да цябе я!

*(Адыходзіць.)*

Сцэна V

*С о ф ’я, Б е а т а.*

С о ф ’ я

Пачаўся дзень пакутаю нягойнай:
У збройным шалу горад палымнее!

Б е а т а
*(каля акна)*

Нібыта Страшны суд перад вачыма:
У вузкіх вулках сполах, замяшанне!
Жаўнеры цьмой, таўкуць усіх плячыма,
І мітусяцца ўсюды гараджане.

Г а л а с ы  з а  с ц э н а й

Ратуйце! Гора! Дзе вада? Дзе помпа?
Ўсе на пажар! Ляціце! Гэй, смялей жа!

Г а л а с ы   ж а ў н е р а ў
*(за сцэнай)*

Няхай жыве князь гетман ваявода!
Няхай жыве князь Януш і вяселле!

*(Чуваць звон.)*

С о ф ’ я

Што гэта значыць?

Б е а т а

Гэта б’юць трывогу!

*(Чуваць стрэл.)*

Ўжо бой кіпіць на вуліцах адкрыты.

С о ф ’ я

А дзе Кароль? Кароль дзе? Дапамогу
Ён, можа, кліча?.. Можа, ён забіты?..
За кожны меч над ім, падлюкаў зграя,
Пан Бог над вамі ўзніме бэрла кары!

*(Зноў стрэл.)*

С о ф ’ я
*(праз хвіліну)*

А хто ж тады прад Богам і прад краем
Адкажа за нявінныя ахвяры?

Б е а т а
*(пазіраючы ў акно)*

Ах, Божа мой! Жабрак ляжыць забіты:
На камні спаў пры вартаўнічай будзе.
Ах, Божа мой! Слязьмі кабета зліта:
Яе дзіця ў агні!

*(Крычыць.)*

Ратуйце, людзі!

*(Выбягае.)*

Сцэна VI

С о ф ’ я
*(адна)*

Дзіця… Жабрак… Нявінныя галовы
Ўжо з-за мяне знайшлі сабе магілу.
Нязгоды хатняй цмок на ўсё гатовы:
З крыві, з агню бярэ сваю даніну.
Ох, я нявінна! — Божа! Я нявінна!
Адзіна ў тым, што сэрцам пакахала.
Але ж з таго пакутуе айчына,
Няхай бы лепш мая тут кроў сплывала.

*(Выстрал.)*

Каб тая куля сэрца мне прабіла!
І так яго суцішыла бы стогны!
Вайна б тады спынілася, астыла,
Мячы б схавалі ўсе забойцы ў логны.
Так, куля ў сэрца!.. Ўсё адно прапасці,
Мячы і кулі цэлы край знявечаць.
Сказаць каханню — не! Адпрэчыць шчасце!
О, не магу! Звыш сіл маіх — адпрэчыць.

*(Чуваць лязгат зброі і бой барабанаў.)*

Сцэна VII

*С о ф ’я, К а р о л ь.*

К а р о л ь

О, не трывожся, Соф’я! Ў бітве бравай
Не будзе больш пасечаных галоваў:
Князь Януш сам стаіць прад нашай брамай,
Палаш ён зняў і хоча перамоваў.

С о ф ’ я

Але там бой кіпіць і кроў ліецца,
Пажар забраў нявінныя ахвяры.
Ніхто з іх зброі кінуць не памкнецца,
Бо помста распаляе іх удары.
Падумаць страшна…

К а р о л ь

Ох! Не могуць вочы
Глядзець на родны край, адданы гору!
Праклятай будзь рука, праклятай тройчы,
Што грудзі маці тне мячом раздору!
Мы іх паб'ём, але ж ліхая справа
Такі трыумф — пабіць братоў у бойцы,
Хоць бы браты злачынна топчуць права,
І нападаюць ноччу, як забойцы.
Я мушу выйсці — зброяй іх прывеціць!
За дом змагацца, за спакой у краю
За ўсё, што мне найдаражэй на свеце, —
Тваю руку, бо я цябе кахаю!

С о ф ' я

Маю руку! Мой Бог! Перапрашаю!
Прабач, прабач мне цяжкую правіну!
Гэта ж яна кіруе палашамі —
Мая рука, і кроў цячэ без спыну!
Мая рука запальвае лучніцы,
Яна пустошыць край, знішчае горад!
Які цяжкі, пякельны крыж злачынцы
Мяне прыціснуў краю ўсяго горам!
Забітых душы… скрыўджаных праклёны —
Ўсе панясуцца скаргамі да Бога.
О не, Каролю! Мужнасцю хвалёны,
Пакінь мяне… Няўжо прашу замнога?..

К а р о л ь

Цябе пакінуць? Знішчыць сваю мару?
Няварты Януш…

С о ф ' я

Але Польшча варта,
Каб шчасце ёй прынесці на ахвяру!
Няхай ізноў нальецца сілай, гартам,
Адкіне міжусобныя разборкі!

*(Чуваць стрэл.)*

Зноў стрэл! Яшчэ загінуў хтосьці ў краю.

К а р о л ь

Дык я табе не любы!

С о ф ’ я

Лёс мой горкі!
Больш за жыццё сваё цябе кахаю!
Ты мой ратунак, мара сноў дзявочых!
Мне без цябе не зведаць шчасце, долю.
Ты ласка дзён тужлівых і сірочых,
Памру пад дахам Януша ад болю.
Але вышэй за ўсё — спакой айчыны!
І абавязак мне адно прадвесціць:
Пакінь мяне… З адвагаю мужчыны
Суціш вайну, згасі пажар у месце.

*(Кленчыць.)*

Малю цябе ўсёй моцаю кахання!
Расстацца мусім!.. Ты ў ваяцкім полі
Зноў паляціш на бітвы без вагання,
Я ж слёзы болю ціха, без патолі,
Дзеля краёвай справы выллю скрушна.
Мяне кахаеш… Праўда… Роспач бачу
На ўсім тваім абліччы… Любы, мужна
Прымі рашэнне… Край ратуй ад плачу!

К а р о л ь

Ад плачу край?.. О, хараство жанчыны!
Бог праз цябе гаворыць!.. Край, ахвяра…
Забіць каханне! Грэх дзеля айчыны —
То значыць больш, чым высекчы татараў!
О, краю мой! Бясстрашна я змагаўся
За твой спакой… Чым сэрца мне злагодзіць?
З такім геройствам я яшчэ не знаўся…
Рашай сама!

Д в а р а н і н
*(каля дзвярэй)*

Князь Януш уваходзіць.

## Сцэна VIII

*Тыя ж, князь Януш, за ім Рыгор Хадкевіч, дваране.*

Князь Януш

Князёўна! Перш, чым грымнуць тут гарматы,
Адказ мне дай!.. Апошні!.. Вынікова!

Соф'я

Мяне не страшаць выбухі і страты.
Памерці тут у момант я гатова.
Але мой церпіць люд! А з ім без меры
Цярплю і я пакуту ў гэтай хвілі.
Дык загадай жа, каб твае жаўнеры
Хутчэй пажар у горадзе згасілі!
Хоць ты мне, князь, не мілы і не любы,
Хоць кашталяну моцы не бракуе,
Але… Калі ты край вядзеш да згубы, —
Лепш падыдзі — табе даю руку я!

*Падае руку князю Янушу. Рыгор Хадкевіч выступае наперад з выразам здзіўлення на твары. Кароль бяссільна стаіць, абапёршыся на цаўё палаша.*

*Заслона*

*Канец*



# БАРБАРА, ВЯЛІКАЯ КНЯГІНЯ ЛІТОЎСКАЯ І КАРАЛЕВА ПОЛЬСКАЯ

У Вільні, ідучы па абноўленай набярэжнай з Антокаля да Зялёнага моста міма дома і склада дроў князя Вітгенштэйна, вы сустрэнеце на самым беразе Віліі насупраць вострава Лебядзінага, сярод руін невялікую вежу з чырвонай цэглы, якая носіць выразныя сляды архітэктуры XV стагоддзя. Адсюль здзіўленым вашым вачам адкрыецца чароўнае відовішча: Антокальскія ўзгоркі, удалечыні сасновы лес, раскошныя палацы Слушкаў, храмы, могілкі за ракою, а налева велічны Зялёны мост і сярод усяго гэтага блакітная стужка Віліі. Вы спытаеце, што гэта за дзівосная вежа? Першы стары рыбак, якога сустрэнеце на беразе, скажа вам, што ён памятае, як на гэтым месцы высіліся сцены канчаткова разбураных гадоў сорак назад багатых палацаў, з абваленай цэглы якіх збудаваны дом Касабуцкіх за Востраю брамаю, а прахожы віленскі старажыл растлумачыць вам, што гэта былі палацы Барбары, народжанай князёўны Радзівіл, жонкі Жыгімонта-Аўгуста. Вось усе ўспаміны, якія засталіся ў Вільні пра гэтую цудоўную і няшчасную каралеву польскую і вялікую княгіню Літвы і Русі, гісторыя жыцця якой больш жаласлівая, магчыма, чым гісторыя праслаўленых каранаваных пакутніц Ганны Болейн, Іаганны Грэй альбо Марыі Сцюарт. Лёс яе, здаецца, заслугоўвае таго, каб мы пазнаёмілі з ім чытачоў гэтай кніжкі, прысвечанай успамінам з гісторыі і старажытнасці тутэйшага краю. Барбара некалькі разоў была прадметам натхнёных песень паэтаў і апавяданняў раманістаў*; але мы абмяжуемся толькі выкладам фактаў, выбраных з хронік

---

* Польскія паэты Фялінскі, Вэнжык, Магнушэўскі напісалі трагедыі пад загалоўкам «Барбара Радзівіл», Бранікоўскі напісаў па-нямецку раман пад загалоўкам «Іпаліт Баратынскі». Мы для гэтага нарыса выбіралі звесткі з выдатнай працы Міхала Балінскага п. з. «Успаміны пра Каралеву Барбару» і з сучасных хронік.

і прыватнай перапіскі каралевы, што захавалася да гэтага часу ў Нясвіжскім архіве.

Гэта быў славуты і старажытны род — Радзівілы, з якіх паходзіла Барбара; бацька яе, князь Юры Радзівіл, уладальнік Біржаў і Лубінак, быў віленскім кашталянам і таму займаў другое месца ў літоўскім сенаце; акрамя гэтага, ён быў гетманам, г. зн. галоўным маршалкам літоўскіх войск. Перамогамі ж і мужнасцю ў трыццаці бітвах ён здабыў славу выдатнага палкаводца. Усякі раз, калі прыязджаў у Вільню, ён спыняўся ў палацах, пра руіны якіх мы сказалі вышэй. Тут, у час шматлікіх сходаў, у 1538 годзе з'явілася перад уражаным дваром і віленскай знаццю цудоўная сямнаццацігадовая дзяўчына, на свой час выдатна выхаваная, першая на Літве нявеста як па багацці, так і па ўплыве і сувязях яе бацькоў. Наколькі была яна прыгожая, няхай скажа яе партрэт, які знаходзіцца яшчэ і цяпер у Нясвіжскім замку. У вачах, вуснах і ва ўсім абліччы Барбары разліта нейкая прыемнасць; высокі лоб, арліны нос, прадаўгаваты задуменны твар раскрываюць узвышанасць яе пачуццяў і рашучасць. На гэтым высакародным, цудоўным твары вы бачыце водбліск тых пакут, якімі лёс услаў увесь шлях яе жыцця.

З ліку многіх просьбітаў рукі маладой Барбары бацькі аддалі перавагу старому графу Станіславу Гаштольду, ваяводу наваградскаму, мужу, якому паходжанне і званне давалі права парадніцца са знатным домам Радзівілаў.

У той час, калі воля бацькоў мела рашучы ўплыў на лёс дзяцей, калі шлюбныя саюзы, асабліва паміж вяльможамі, заключаліся праз фамільныя разлікі, шлюб гэты, магчыма, не здзіўляў сваёй недарэчнасцю, але калі ўспомніць юныя гады Барбары, лёгка можна дапусціць, што ў той час, як яна аддавала руку багатаму ваяводу, сэрца яе не ведала яшчэ кахання. Гэтаму пачуццю суджана было ў палкай яе душы развіцца ў далейшым і заняць важную старонку ў гісторыі таго стагоддзя. У тым жа годзе, г. зн. у 1538-м, Гаштольд, уступіўшы ў шлюб з Барбараю, павёз яе ў свой замак Герапаны (у 63 вёрстах ад Вільні). Яшчэ і цяпер можна ўбачыць там руіны старажытнага замка, у сценах якога правяла некалькі тужлівых гадоў маладая жонка Гаштольда; тужлівых, бо ці магло быць іншым жыццё яе ў гэтым зацішку, з мужам, якога яна магла толькі паважаць, але не кахаць. Гэты сум хутка выліўся слязьмі: у 1541 годзе памёр бацька яе Юры Радзівіл, а ў наступным годзе сышоў у магілу і муж яе Станіслаў Гаштольд. У жалобным адзенні па бацьку і ў чорным каптуры, які згодна з тагачасным звычаем надзявалі

ўсе ўдовы, Барбара пасля чатырохгадовага бяздзетнага замужжа вярнулася ў Вільню ў мацярынскі дом і жыла ў тых жа палацах.

Вільня ў той час кіпела жыццём і зззяла бляскам. Жыгімонт-Аўгуст, які яшчэ пры жыцці свайго бацькі ўдзельнічаў у яго праўленні з тытулам малодшага караля і займаўся пераважна справамі Літвы, жыў тут пастаянна разам са сваёю жонкаю Елісаветаю, дачкою Фердынанда, рымскага імператара. Жыгімонт-Аўгуст, атрымаўшы выхаванне пры спешчаным двары сваёй маці Боны, любіў пышнасць і забавы; Елісавета, па сведчанні сучаснікаў, славілася сваёй прывабнасцю і дабрынёю; уся лепшая моладзь з Літвы і Польшчы наперабой дабівалася гонару бываць пры двары, дзе не спыняліся банкеты, вечары, маскарады, у якіх прымаў удзел і Жыгімонт-Аўгуст, і дзе штотыднёва ішло 1000 тагачасных фларэнаў (каля 1800 руб. срэбрам).

Маладая ўдава Гаштольд па заканчэнні жалобы пачала з'яўляцца ў каралеўскіх пакоях, куды для яе быў вольны ўваход — яе знатны род, прыгажосць, выхаванне і ўплыў, якімі карысталіся яе родны брат Мікалай, празваны Рыжым, і стрыечны Мікалай, празваны Чорным, Радзівілы, першыя саноўнікі Літвы і любімцы Жыгімонта-Аўгуста. Тут малады манарх упершыню ўбачыў Барбару. Тут зрабіла яна такое моцнае на яго ўражанне, што яно не згладзілася да канца жыцця.

«Вочы ўсіх, піша адзін сучаснік, звернуты былі на Жыгімонта-Аўгуста, усе прадказвалі яму многія гады шчасця і радасцей, але пасля таго, як мінула некалькі гадоў, каралева Елісавета, якая сваёю лагоднасцю, чалавекалюбствам і цудоўнымі якасцямі душы заваявала агульную павагу і любоў падданых, была забрана смерцю (у студзені 1545 г.). Час і дзяржаўныя справы, якімі кароль асабіста займаўся ў Літве, зменшылі смутак, якому ён аддаваўся з прычыны страты любімай сваёй жонкі. І калі малады кароль, каб развеяць свой сум, аддаўся зноў забавам, паляванню і іншым уцехам свайго часу, цудоўная Барбара зачаравала яго не толькі сваёй знешнасцю, але і прыемнасцю і лагоднасцю свайго характару».

Барбара не магла быць абыякавай да ўвагі караля, якога лічылі тады першым прыгажуном у Літве; яна рада была бачыць яго, калі ён прыходзіў у палацы яе маткі над Віліяй, яўна або таемнай галерэяй, якая знарок ім пабудавана была ад ніжняга замка да палацаў Радзівілаў.

Маці Барбары, жанчына ганарлівая, прадбачачы бліскучую будучыню сваёй дачкі, не працівілася поклічу закаханых сэрцаў; але абодва браты яе, Мікалай Рыжы і Мікалай Чорны Радзівілы,

асцерагаючыся благіх вынікаў, якія маглі б запляміць іх славуты род, прасілі, каб кароль спыніў свае наведванні. Закаханы Жыгімонт-Аўгуст абяцаў, але не стрымаў слова. Тады Радзівілы, сустрэўшыся з ім у сястры, пачціва сказалі: «Милостивый Король, не мелъ еси до сестры нашее ходити, а теперь для чего ем пришелъ?» — «А што ведаете, — адказваў кароль. — Может, теперешнее пристье мое къ сестре вашей учинитъ вамъ большую славу и пожиток». — «Дай жа Божа», — адказвалі Радзівілы. І праўда, пакліканы быў прыдворны духоўнік, і адбылося вянчанне Жыгімонта-Аўгуста з Барбараю, з такой тайнаю, што ведалі аб ім толькі Радзівілы і Станіслаў Кержгайла, муж Ганны, сястры Барбары. Гэта адбылося ў верасні 1547 года.

Пасля першых двух мядовых месяцаў Жыгімонту-Аўгусту трэба было ехаць на сейм у Петракоў, а маладая яго жонка, каб схавацца ад надакучлівай цікаўнасці, вымушана была з’ехаць у Дубінкі, маёнтак Радзівілаў, за 49 вёрст ад Вільні. Прытулкам вялікай княгіні літоўскай быў змрочны, сярод лясоў, на высокай гары замак, акружаны вадою возера, забяспечаны ўсімі жыццёвымі выгодамі. Клапаціліся пра яе браты, а на выпадак частых іх адлучак — Станіслаў Давойна, стараста мярэцкі, воін, прыдворны лекар, ліслівы блазан; але чалавек з добрым сэрцам і цалкам аддадзены каралю і яго жонцы.

Пяць месяцаў жыла Барбара ў Дубінках. Дні, якія яна правяла тут, былі самыя горкія ў яе жыцці. Адгароджаны ад свету высокі замак у лясной таемнай глухамані ператварыўся для яе ў манастыр, у якім маркотная Барбара ў манаскай сукенцы бернардзінак лічыла доўгія гадзіны самотнага жыцця, поўнага малітваў, слёз.

Толькі клапатлівасць мужа, які прысылаў да яе ганцоў з Кнышына, з Петракова, з Сандаміра, і перапіска з клапатлівымі братамі вырывалі яе з самазабыцця і адзіноцтва. Неўзабаве па прыездзе ў Дубінкі Барбара, змучаная дарогаю, дачасна нарадзіла дзіця. Потым разбурылася частка замка ў Дубінках, што надзвычай спалохала каралеву, а Жыгімонт-Аўгуст убачыў у гэтым чыйсьці ліхі намер. У дадатак да ўсіх гэтых няшчасных выпадкаў каралеву гнялі плёткі паслужлівых жанчын аб уяўнай няверласці мужа. Нарэшце, сама невядомасць будучыні і таямніца іх шлюбу прыводзілі яе ў трывожны стан і трымалі паміж страхам і надзеяю.

Між тым чутка аб шлюбе маладога караля ўжо пранеслася па ўсёй дзяржаве і ў Петракове дайшла да старога караля. Ён пытаўся ў сына, ці справядлівыя чуткі аб жаніцьбе. Але

Жыгімонт-Аўгуст, не жадаючы, магчыма, атручваць апошнія хвіліны жыцця хворага бацькі, абвергнуў тыя чуткі. Маці яго Бона-Сфорчыя, жанчына ганарлівая, уладалюбівая і карыслівая, давала ўсім зразумець, быццам нічога аб гэтым не ведае. Жыгімонт-Аўгуст, вырашыўшы ў што б там ні стала пераадолець усе цяжкасці, якія павінен быў чакаць з боку сваіх бацькоў і народа, пасля прызнання свайго шлюбу, імкнуўся схіліць у сваю карысць падарункамі Станіслава Ляскага, ваяводу серадскага, ветлівасцю Пятра Кміту, маршала кароннага, паверанага каралевы Боны. Гэтыя асобы мелі тады моцны ўплыў на ўсё грамадства. Стары гетман Іван Тарноўскі, Самуіл Мацяёўскі, епіскап кракаўскі і Андрэй Зебржыдоўскі, епіскап куяўскі, аддадзеныя маладому каралю і пасвечаныя ў яго тайну, рыхталіся быць яго абаронцамі, калі навальніца грымне над яго галавою.

І праўда, становішча Жыгімонта-Аўгуста, яго жонкі, Радзівілаў было складанае не толькі ў адносінах сваёй царскай сям'і, але і ў адносінах цэлай дзяржавы.

Жыгімонт І, нягледзячы на многія дабрадзейнасці, якімі ён вылучаўся ў грамадскім жыцці і дома, заслугоўваў справядлівага папроку за празмерную дагодлівасць сваёй жонцы Боне, якая, вядома, не хацела парадніцца з жанчынаю не царскай крыві, у той час як яшчэ нядаўна каралеўскі трон падзяляла з яе сынам дачка імператара рымскага. Хітрая італьянка імкнулася да таго, каб і са смерцю Жыгімонта І не страціць таго ўплыву, які яна мела на працягу дваццаці гадоў на дзяржаву і караля, а для гэтага, натуральна, ёй хацелася, каб жонка яе сына была ёю самою выбрана і каб цалкам адпавядала яе намерам. Вось чаму Бона дала сабе слова не дапусціць Барбару ўступіць на прастол Ягелонаў. Жыгімонт І, пакорны яе волі, і ўся каралеўская сям'я ці маглі пасля гэтага даць згоду на шлюб Жыгімонта-Аўгуста са сваёю падданаю, шлюб, які здзейсніўся без іх ведама і волі? Думку двара падзяляла ўся Польшча; у Літве ж сярэдняе і ніжэйшае саслоўі не маглі не радавацца гэтаму шлюбу, бо ён цешыў іх народнае самалюбства і яшчэ мацней звязваў са сваім спадчынным гаспадаром, але вяльможы лічылі сябе глыбока пакрыўджанымі і асцерагаліся вынікаў, бо кароль, пароднiўшыся з Радзівіламі, якія і без таго мелі перавагу перад іншымі як сваім багаццем, так значэннем і асабістымі вартасцямі (дастаткова ўспомніць тут Мікалая Чорнага і Мікалая Рыжага), цяпер даваў ім рашаючую перавагу перад усімі. Хадкевічы, Астыкі, Глебавічы, сапернікі Радзівілаў па знатнасці роду і багацці, баяліся, каб парадненне Радзівілаў з каралеўскай сям'ёю не прынізіла іх.

Нарэшце, польскія магнаты і шляхта, акрамя гэтых прычын, бачылі ў тайным шлюбе маладога караля парушэнне не толькі карэнных законаў і звычаяў, але разам з тым і прысягі, дадзенай Жыгімонтам-Аўгустам, калі ён быў дапушчаны да ўдзелу ў бацькоўскім кіраванні: ён без ведама Сената ні з кім не павінен уступаць у шлюб. Адным словам, Бона баялася сустрэць у жонцы Жыгімонта-Аўгуста пераемніцу сваёй улады, літоўская знаць баялася переваг Радзівілаў, Польшча — переваг Літвы. Такім чынам, пры няпэўных яшчэ чутках, што малады кароль тайна ажаніўся з літвінкай, усюды з аднаго канца краіны ў другі разнёсся гул незадаволенасці, выкліканы прыватнымі і палітычнымі меркаваннямі. Гэта быў грозны гул у нетрах вулкана, і кожная хвіліна пагражала страшным вывяржэннем. І ўся гэтая трывога паднялася праз адну маладую, закаханую, стомленую горам жанчыну, на якую гатова была абрынуцца бура.

Жыгімонт-Аўгуст у Петракове даведаўся аб навіслых хмарах; ён зразумеў, што яму спачатку ў Літве трэба супакоіць розумы, усхваляваныя нядобразычлівымі намовамі вяльмож. Літва яму была даражэй за Польшчу. Ён моцна любіў яе, таму што сам быў яе сынам і спадчынным манархам. Тут ён марыў пакласці сваю галаву. Ён заспяшаўся ў Вільню; але як толькі прыбыў сюды, літоўскія вяльможы пачалі даймаць яго просьбамі, угаворамі і нават недвухсэнсоўнымі пагрозамі, каб ён скасаваў непрыстойны, на іх думку, шлюб. Пры такіх абставінах Барбара не магла прыехаць у Вільню. Бедная жанчына не адважвалася паспяшацца на сустрэчу да свайго мужа, не адважвалася адведаць таго, хто быў прадметам самага палымянага яе кахання.

Між тым у час, калі Жыгімонт-Аўгуст у сталіцы Літвы сачыў за настроем розумаў і адхіляў навязлівыя патрабаванні вяльмож, з Кракава скакаў дзень і ноч кур’ер-падкаморы Рафал Ракіцкі з сумным паведамленнем аб смерці Жыгімонта I, якая наступіла 1 красавіка 1548 года.

Становішча спраў раптам зусім змянілася: Жыгімонт-Аўгуст зрабіўся незалежным уладаром і волі сваёй, і дзвюх магутнейшых дзяржаў.

Нягледзячы на гэта, у абедзвюх гэтых дзяржавах надта грозна бушаваў ураган асабістых прэтэнзій і неўтаймаваных пачуццяў, і таму справу аб сваім шлюбе кароль не мог лічыць яшчэ закончанай.

Паведамленні аб смерці Жыгімонта I і аб уступленні ў шлюб Жыгімонта-Аўгуста адначасова пераходзілі з вуснаў у вусны. Між тым 17 кастрычніка Барбара прыехала ў Вільню з Дубінак.

Жыгімонт-Аўгуст урачыста прадставіў яе літоўскаму сенату як законную сваю жонку і каралеву Літвы і Польшчы.

Гэты рашучы крок караля ўціхамірыў вяльмож і ўстанавіў цішыню. Літва пакорна ўшанавала волю свайго юнага гаспадара і з глыбокаю павагаю сустрэла сваю новую манархіню, але ў Польшчы мужу яе заставалася пераадолець яшчэ мноства перашкод. Там хітрая Бона, горды Сенат і шляхта, якая турбавалася аб захаванні сваіх правоў, рыхтавалі юнай пары горкую чашу, у той час як Літва, гордая за сваю княгіню, несла ёй на алтар сэрцы, поўныя самых шчырых пачуццяў, і Ніжні Віленскі замак, ператвораны ў раскошны палац для новай каралевы, кіпеў ужо новым жыццём і пышнасцю. Жыгімонт-Аўгуст зноў з'ехаў у Кракаў.

Урачыстае пахаванне нябожчыка караля і справы гаспадарчыя занялі першыя дні прабывання Жыгімонта-Аўгуста. Надзелены веліччу сваёй улады, падмацаваны вялікім значэннем і ўплывам у дзяржаве Івана Тарноўскага і дыпламатычным розумам Самуіла Мацяёўскага, кароль не звяртаў увагі на незадаволенасць сваіх нядобразычліўцаў. Смелы і ўпэўнены ў сваіх сілах, каго мілуючы, каго страшачы пазбаўленнем маяратаў, ён рыхтаваўся ўрачыста прадставіць Барбару ў Кракаве, як ужо гэта зрабіў у Вільні. Барбара адправілася ў Кракаў. Кароль для сустрэчы яе паслаў самых знатных сенатараў і прыдворных. Епіскапы, ваяводы і многія самыя знатныя дамы сустракалі юную манархіню ў розных месцах яе ўрачыстага падарожжа. Кароль выехаў на сустрэчу ў Радам і прызначыў гэты горад месцам яе прабывання да таго часу, пакуль абставіны не дазволяць яму ўвесці яе ўрачыста ў сталіцу і здзейсніць над ёю абрад каранавання. Згодна з законамі тагачаснай Польшчы кожны новы кароль, перш чым прыняць руль кіравання, павінен быў склікаць сейм, г. зн. сход Сената і палаты дэпутатаў ад шляхты. Месцам гэтага сейма прызначаны быў каралём горад Петракоў, а часам збору — 18 кастрычніка 1548 года.

Там якраз гатова было ўспыхнуць непрыязнае полымя, якое да гэтага часу стрымлівалася ўмелаю рукою караля і сяброў яго, а раздзімалася пранырліваю Бонаю і яе кляўрэтамі. Праціўнікі шлюбу рыхтаваліся да выступлення. На чале іх стаяў Пётр Кміта, каронны маршал, і граф Андрэй Гурка, пазнанскі кашталян, вяльможы ганарлівыя, якія лічылі знявагай для сябе схіліць чало перад каралеваю аднаго з імі паходжання. Прадузятасць Кміты і Гуркі падзяляла ўся польская і большая частка літоўскай арыстакратыі. Фанатызм у гэтых адносінах даходзіў да такой

ступені, што Іван Пялчынскі, ваявода сандамірскі, сказаў публічна, што «яму лепш было б бачыць турэцкага султана ў Кракаве, чым дачку Радзівіла на польскім троне». На баку нядобразычліўцаў стаялі епіскапы, якія карысталіся даверам народа: Мікалай Дзяржгоўскі, прымас дзяржавы, Іаан Дзядыцкі — епіскап перамышльскі, Венцаслаў Вяржбіцкі-Самагіцкі і больш разумныя і ўплывовыя Пётр Баратынскі, Іван Серакоўскі, Ліёна Падлоўскі, Хрыстафор Гнаінскі і Мацвей Стадніцкі. Нават сваякі Барбары Іван Радзівіл, крайчы літоўскі, і Станіслаў Кержгайла далучыліся да ліку яе ворагаў і рыхтавалі ў самой Літве крамолу. На баку караля было няшмат сапраўдных абаронцаў гэтага шлюбу. Праціўнікі ж падзяліліся на дзве партыі. Адны з іх, кіруючыся бескарыснаю любоўю да радзімы, бачылі ў гэтым шлюбе парушэнне дадзенай клятвы і знявагу каралеўскаму сану, а другія былі толькі сляпой зброяй Боны, якая жадала атруціць жыццё роднага сына, пахіснуць яго ўладу і парушыць сувязі, якія звязвалі яго з народам. Калі тыя і другія малілі караля развесціся з Барбараю, калі прымас аб'явіў, што сілаю царкоўнай улады цяжар каралеўскага грэху за скасаванне шлюбу «разделитъ на всехъ подданныхъ», калі Пётр Кміта, кракаўскі ваявода і каронны маршал, у запале прамовы і нястрымнага парыву гнеўна кінуў каралю ў ногі сваё маршальскае жазло, калі нават верны Мацяёўскі, здавалася, пакідаў ужо Жыгімонта-Аўгуста, кароль заставаўся непахісны, як гранітная скала, якую білі гром і валы раз'юшанай стыхіі. Але калі просты шляхціч Пётр Баратынскі, дэпутат Рускага ваяводства, у імя грамадскага дабра загаварыў простымі словамі, якія выліліся з глыбіні душы, молячы караля развесціся з Барбараю, калі стаў перад ім на калені, заклікаючы не звязваць сябе шлюбам, заключаным без ведама народа і ў супярэчнасць каралеўскай прысязе, і калі ўслед за Баратынскім уся палата дэпутатаў упала перад каралём на калені, Жыгімонт-Аўгуст быў расчулены і адклаў свой адказ да наступнага дня.

Але гэтая нерашучасць яго тут жа мінулася; надта многа было цвёрдасці ў гэтай юнай душы, вельмі моцным было каханне да сваёй жонкі, каб што-небудзь прымусіла яго парушыць дадзеную Барбары клятву. У наступныя дні ён рашуча аб'явіў, што скасаванне шлюбу лічыць найвялікшым злачынствам, што ніколі на гэта не пойдзе, таму што лічыць свяшчэнным абавязкам выканаць клятву, дадзеную перад алтаром, што ўратаванню душы ён аддае перавагу перад зямнымі выгадамі. «Што здарылася, — гаварыў ён урачыста і з энергіяй, — тое адмяніць нельга, а вам прыстойна не аб тым прасіць, каб я здрадзіў сваёй жонцы, а аб

тым, каб я свята захоўваў прысягу, каму б там ні было мною дадзеную. Я пакляўся сваёй жонцы і буду ёй верны, пакуль Гасподзь захавае дні мае». Такім быў адказ Жыгімонта-Аўгуста. Цвёрдасць яго абяззброіла была грозную буру, якая навісла над ім, але вецер не рассеяў яе, і глухія стогны прадракалі, што хутка яна выбухне ўдарам грому. Завадатары падгаварылі земскіх паслоў раз’ехацца з Петракова на той падставе, што яны, не выканаўшы галоўнага пункту дадзеных ім інструкцый, не могуць прыступіць да якога-небудзь іншага дзяржаўнага пытання.

Такім чынам, Петракоўскі сейм закончыўся нічым, таму што не зацвердзіў сваёю ўладаю каралеўскага шлюбу і не прымусіў Жыгімонта-Аўгуста скасаваць яго. З пачаткам 1549 года прамень надзеі і шчасця асвяціў на хвіліну маркотнае чало Барбары. Абставіны садзейнічалі ўрачыстаму ўезду яе ў Кракаў. Гэта адбылося 13 лютага 1549 года. Яе акружалі бляск і веліч каралеўскай улады; смутак і слёзы, якія яна доўга таіла, нарэшце змагла свабодна выліць перад закаханым у яе мужам. У паляўнічым замку Непаломіцах (куды праз некалькі дзён Жыгімонт-Аўгуст адправіўся з ёю) у пышных пакоях Кракаўскага замка на гары Вавель натоўп народу цясніўся вакол яе. Цяпер усё змянілася. Усе, хто акружаў яе, шчыра альбо прытворна выказвалі ёй любоў і павагу, а прыбліжаныя былі зачараваныя лагоднасцю, дабрынёю, прыгажосцю юнай манархіні. Ці дзіўна, што народ хутка ацаніў яе, зразумеў і палюбіў. Яна зрабілася яго кумірам, бо сапраўдная дабрачыннасць заўсёды знаходзіць водгалас у людзей. Ранейшыя праціўнікі і нядобразычліўцы прыціхлі, а магчыма, і самі былі захоплены агульнай любоўю; здавалася, аднаго з’яўлення дабрадзейнай Барбары даволі было для таго, каб выкараніць нянавісць і пасяліць любоў. Але ў той самы час, калі два народы пасылалі цёплыя маленні да прастола Усявышняга аб дараванні доўгіх дзён Барбары і аб пасланні дому Ягелонаў патомства, была істота, якая дала сабе слова загубіць Барбару і атруціць усё жыццё Жыгімонта-Аўгуста. Гэтай пачварай была маці яго родная — Бона.

Праз год пасля першага сейма кароль склікаў другі сейм у Петракове для нарады аб каранаванні Барбары. Бона, якая жыла да гэтага ў Варшаве, пераехала ў ваколіцы Петракова ў невялікую вёску Гамалін, каб мець магчымасць процідзейнічаць намерам сына. Ведаючы яе і асцерагаючыся, Жыгімонт-Аўгуст сачыў за ўсімі яе дзеяннямі і, даведаўшыся, што яна мае тайныя нарады з нейкаю старою вяшчункаю, загадаў неадкладна схапіць яе і дапытаць. Вядзьмарка на допыце адкрыла шмат такіх рэчаў,

якія прывялі ў жах юнага манарха*. Трывога яго за жыццё жонкі была тым больш абгрунтаваная, што ён добра ведаў сваю маці і не сумняваўся, што яна гатова была рашыцца на самае жахлівае злачынства. Да таго ж Барбара была хворая, — як думалі, у яе развіваўся рак.

Нягледзячы на гэта, у Петракове кароль радаваўся. Сейм скарыўся. Кміта, Гурка, Танчычэўскі, прымас Дзяржгоўскі — усе ранейшыя нядобразычліўцы ціснуліся да двара і выказвалі сваю адданасць і пакорнасць, прызнаючы Барбару сваёй гасударыняй. Гурка трымаў стрэмя, калі Жыгімонт-Аўгуст садзіўся на каня. Кміта ўмаляў высокую пару даставіць яму шчасце наведваннем дома яго ў Віснічы. Дзяржгоўскі выказаў гатоўнасць здзейсніць абрад каранавання Барбары. Урачыстае вянчанне яе адбылося 9 снежня 1550 года ў Кракаўскім храме, але адна толькі гераіня гэтага велічнага абраду не падзяляла ўсеагульнага захаплення. Ці разумеючы небяспечнасць сваёй хваробы, ці кіруючыся нейкім сумным прадчуваннем, яна з жалем сказала: «Да іншага вянца хутка запросіць мяне Гасподзь… Маліце яго, няхай пашле міламу майму мужу суцяшэнне ў смутку пасля маёй смерці».

З прастола, на які ўзвёў яе архіепіскап, бедная Барбара вельмі хутка перайшла на смяротнае ложа. Хвароба, якою яна мучылася (рак альбо скула), пайшла на спад, так што кароль, лекары і ўвесь двор былі ў захапленні; але нечакана з’явіўся новы сімптом хваробы — гарачка альбо ліхаманка. Няма сумнення, што паслужлівая рука свекрыві паднесла ёй смяротны келіх, у той жа час каварная Бона прыслала да сына і нявесткі свайго духоўніка, прапануючы мір і дружбу і прызнаючы Барбару сваёю дачкою. Двор прыняў гэтае хітрае пасольства з недаверам. Жыгімонт-Аўгуст, не адыходзячы ні днём, ні ўночы ад ложка сваёй пакутнай жонкі, не жадаў асабістага яе збліжэння з маці, як быццам сэрца яго гаварыла яму аб учыненні страшэннага злачынства. Барбара памерла 8 мая 1551 года. Хто кахаў і павінен быў навек развітацца з прадметам свайго кахання, той толькі зразумее роспачны крык Жыгімонта-Аўгуста. Пра страшэнны яго смутак гавораць шмат сучасных летапісаў. Выконваючы дадзенае памерлай жонцы слова пахаваць яе ў Вільні, Жыгімонт-Аўгуст насуперак фанабэрыстым Радзівілам, якія жадалі галіну гордага іх дрэва пакінуць паміж магіламі каралёў польскіх у Кракаве, рашыўся выканаць апошнюю яе просьбу.

* 20 чэрвеня кароль пісаў з Петракова да Мікалая Радзівіла: «Мы вядзьмарку яе (Боны) тут злавілі, яна цяпер у нас у клетцы, шмат новага яна нам напявае, аб чым з часам усё падрабязна даведаецеся».

Абураючыся на палякаў за ўсе непрыемнасці і смутак, якія яны прычынілі любай яго жонцы, ён аб'явіў, што «незычлівая зямля не дастойна валодаць яе прахам». Жалобная калясніца з мноствам епіскапаў і духавенства рушыла з Кракава праз Прашавіцу, Кізлічы, Радам, Лукаў, Масты, Ружанку, Шчучын, Васілішкі, Алькенікі, Руднікі, і на дваццаты дзень тленныя астанкі Барбары былі дастаўлены ў любімую ёю родную Вільню. Нягледзячы на цяжкасць павольнага шэсця, кароль ехаў за труною вярхом і не пакідаў яе ні на крок. Яго акружалі першыя чыны Польшчы і Літвы. Каля калясніцы ішоў з маршальскім жазлом у руцэ Пётр Кміта, вялікі каронны маршал, ранейшая зброя Боны, які атруціў нямала дзён кароткачасовага жыцця нябожчыцы Барбары. Будзем верыць, што спачуванне яго да глыбокага смутку і тугі караля на гэты раз было нефальшывае. Абрад урачыстага пахавання Барбары адбыўся ў віленскім Кафедральным саборы 23 ліпеня 1551 года.

І надоўга, надоўга глыбокі смутак пасяліўся ў сэрцы Жыгімонта-Аўгуста, а ўспамін аб ім згасне толькі з жыццём. Міласці, якімі ён абсыпаў Радзівілаў, касцёл у імя св. велікамучаніцы Барбары, збудаваны паблізу Кафедральнага сабора, запрашэнне ў двор чараўніка Твардоўскага, які паказваў яму ў люстэрку цень Барбары, — усё гэта даказвае, наколькі дарагою, наколькі свяшчэннаю для караля была яе памяць.

Сёння, па сканчэнні трох стагоддзяў ад смерці Барбары, ні ва ўсёй Літве, якая так ганарылася ёю, ні нават у роднай ёй Вільні, на якую вылілася столькі міласцей Жыгімонта-Аўгуста, няма аніякага помніка Барбары. Пажары, якія перацярпеў віленскі Кафедральны сабор і розныя яго перабудовы, сцерлі нават сляды, дзе спачывае прах гэтай слаўнай сваёй прыгажосцю і дабрачыннасцю венчанай пакутніцы.

З а ў в а г а. Атручэнне Барбары па загадзе Боны яе прыдворным лекарам італьянцам Монці сучаснікі лічылі бясспрэчным фактам. У наш час паважаны біёграф Барбары М. Балінскі аспрэчвае гэты факт, ніяк не абгрунтоўваючы сваю думку. Здаецца, Балінскі прыняў пад увагу тое, што сучасныя пісьменнікі, як, напр., Гурніцкі («Гісторыя Польшчы») і Аржахоўскі (у сваіх «Аналах»), нідзе не ўпамінаюць аб гэтым атручэнні; але мы прывядзём цэлы шэраг доказаў злачынства. Якія гэта жахлівыя рэчы адкрыла вядзьмарка на допыце ў Петракове? Што значаць словы караля ў пісьме да Радзівіла, дзе, гаворачы аб магчымым прымірэнні Барбары з Бонаю, ён дадае: «Аднак жа больш пажадана было б нам, каб яны пры дапамозе пісьмаў узаемна

сябе наведвалі, чым мець ім частыя асабістыя сустрэчы». Што значаць словы: «Да вячэры трэба будзе звяртаць асаблівую на ўсё ўвагу». Хіба паспешлівасць Боны ў прымірэнні з Барбараю перад самаю смерцю гэтай апошняй не была толькі хітра прадуманай мераю для знішчэння ўсялякага падазрэння? Адкуль у яе з'явіўся неспакой, калі даведалася пра смерць? Ці ж дарэмна пачалі ўсе не толькі ў Літве, Польшчы, але і за мяжою гаварыць пра атручванне Барбары? Бельскі, Стрыйкоўскі, Каяловіч, на якіх спасылаецца і Балінскі ў сваёй працы, таксама сцвярджаюць гэта. А тое, што Гурніцкі і Аржахоўскі нічога пра атручванне не кажуць, лёгка можна растлумачыць. Гурніцкі, чалавек малады, быў адным з прыдворных караля. Аржахоўскі ж свае запісы паказваў самому Жыгімонту-Аўгусту, якога б зняважыла злачынства маці. Для сучаснага гісторыка гэта была вельмі далікатная справа, асабліва для Гурніцкага як блізкага да караля і Аржахоўскага, звязанага з Кмітам блізкімі адносінамі. Хоць на гэтага апошняга не можа падаць і ценю падазрэння ў саўдзеле яго ў злачынстве; але наўрад ці прыемна было б яму чуць і бачыць доказы віны Боны, давераным і нават зброяй інтрыг якой ён быў некалі.

## КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ «GAZETY WARSZAWSKIEJ»

*дня 23 чэрвеня 1855 г.*

Адчуваем неадчэпнае жаданне падзяліцца з чытачамі нашай газеты ўражаннем, атрыманым пасля прачытання маленькай, сціплай кніжачкі пад назвай «Вечарніцы і Звар'яцелы», паэзія Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (Мінск, выданне і друк Екеля Дворца, 1855, in 8°, 134 с.). А галоўнай нагодай для цяперашняй гаворкі з'яўляецца першы твор — «Вечарніцы», напісаны на беларускай, або, дакладней, крывіцкай мове.

Пекная гэта галіна славянскай мовы — той крывіцкі дыялект — і старая! Бо гэта мова нашага Літоўскага статута і заканадаўства на працягу двух стагоддзяў — XVI і XVII. І пашыраная! Бо смела можна сказаць, што на ёй размаўлялі тры чвэрці даўняй Літвы, народ, шляхта і паны. Мова, пазбаўленая пісьмовага значэння, сёння засталася толькі роднай памяткай сялянскіх хат і налічвае, наколькі вядома, толькі двух пісьменнікаў: адным з іх быў незабыўнай памяці Ян Чачот, другі — п. В. Д.-Марцінкевіч.

Першы з іх у сваіх кніжачках пад назвай «Сялянскія песенькі з-над Нёмана і Дзвіны» захапляўся, можна сказаць, мовай і паэзіяй крывічанскага народа, сабраў яго песні, перакладаў іх удзячным польскім вершам, выдаў іх арыгінальны тэкст, спрабаваў сам ствараць песенькі на гэтай мове, сабраў народныя праказкі і, зрабіўшы над мовай шмат глыбокіх назіранняў, заклаў першы падмурак яе граматыкі[1]. За далейшай працай смерць заспела дабрачыннага Чачота.

П. Марцінкевіч, выдатна знаёмы з духам і самымі тонкімі адценнямі крывіцкай мовы, першы наважыўся сам ствараць у большым маштабе творы на нашай народнай гаворцы. Першы вядомы яго твор, так званая «Сялянка», які надрукаваны некалькі год назад і з поспехам ставіўся на сцэне ў Мінску, апрача іншых, мае тую яшчэ вартасць, што тут аўтар у вуснах войта вёскі Навума Прыгаворкі сабраў і ўдала выкарыстаў мноства арыгінальных і жыццёвых народных прыказак — неацэнны важнасці матэрыял для рознага роду народных даследаванняў. Бытавая праўда загадала аўтару пераплятаць польскія дыялогі з крывіцкімі адпаведна таму, выступае на сцэну пан, аканом ці хто іншы са шляхецкай пароды, што размаўляе па-польску, або народ з уласнай гаворкай. Але гэта двухмоўнасць у адным творы магла абражаць пераборлівых эстэтыкаў. Гэта акалічнасць ці само наша няўменне чытаць па-крывіцку былі прычынаю, што «Сялянка» пана Марцінкевіча, хоць ужо цалкам распрададзеная[2], не атрымала ў літаратуры такога водгуку, якога заслугоўвала.

W dni moje młode, w dni moje szczęśliwe
I jam uprawiał nad-Niemeńską niwą[3].

І я навучыўся крывіцкай мове і валодаў ёю з пэўнай элеганцыяй у размовах з добрым сялянствам Жукава Барка[4]. Выгнаны з тых старонак бураю жыцця, я запомніў, аднак, гэту мову настолькі, што магу зрабіць чытачам сумленную справаздачу наконт другога твора пана Марцінкевіча, які з'яўляюцца «Вечарніцы». Паспрабую па-польску перадаць каларыт гэтых вершаваных гутарак, хоць, сумняваючыся, ці ўдасца мне гэта, загадзя прашу аб паблажлівасці чытачоў.

У названым зборніку ёсць дзве так званыя «вечарніцы», першая складаецца з трох, другая — з дзвюх песень.

1-я песня першай вечарніцы з'яўляецца як бы пралогам: Ананія, вясёлы дзядок, бедны, але шанаваны, не мог ужо хадзіць у карчму, «скрыпку падарыў унуку, хваліў Бога, плёў лапці і

расказваў казкі». Вечарніцы ў яго хаце бывалі людныя, бо нямала было жадаючых паслухаць апавяданні старога. І вось аднойчы ён запрасіў да сябе на такую гутарку: і юнакі, і дзяўчаты жвава скінуліся па некалькі грошаў, паслалі па гарэлку, хтосьці прынёс вяндліны, хтосьці некалькі яек, хлопцы паклалі смаляной лучыны, запелі набожную песеньку, пахвалілі ў адзін голас Хрыста і Багародзіцу, а стары, абапершыся на локаць, усеўся за сталом, падзякаваў гасцям, што сабраліся, і так далей казаў:

«А можа, гэта праўду, мае дзеткі, кажуць людзі, што ў Слуцку не па-людску, а яшчэ горш у Оршы, але тыя грашаць смяротна, хто Мінск наш ганіць! Няма лепшага за Мінск! Відны, вясёлы, забудаваны горад: палацы белыя як снег, пасярэдзіне плыве зялёнай стужкай пекная рака Свіслач… А людзі? Не заморскія, не чужыя, хрысціяне шчодрай, добрай, не панскай натуры. Спаткаеш каго, павітаеш, ён табе адкланяецца, скажа добрае слоўца, запытаецца, куды ідзеш, што нясеш у кошыку на рынак, заплаціць, не таргуючыся, а яшчэ табе ў дадатак удзеліць кус хлеба».

Стары далей працягвае апалогію роднага горада, звяртаецца чулліва да даўніх часоў: «Махнуў рукою, уздыхнуў глыбока, перажагнаўся, напіўся з конаўкі дамашняга квасу, і ўсе на яго паглядаюць, дзеўкі матаюць ніткі, зыркаючы крадком на хлопцаў, і ў хаце поўная цішыня, якая перапыняецца толькі гудзеннем верацёнаў».

Гэты цудоўны ўступ, якога толькі цень мы далі ў перакладзе, найлепш нам падабаецца з усёй першай вечарніцы. Пасля такога чуллівага пралога мы спадзяваліся на нешта больш урачыстае, чым два народныя наіўныя анекдоты. Шкада, што аўтар не адклаў іх на канец кніжачкі, — тут яны крыху псуюць эфект.

У адным з іх апавядаецца, як неабачлівы вясковец Зміцер разам з селядцом з'еў пяцірублёвую асігнацыю, узятую за вала, у другім той жа Зміцер, містыфікаваны ў горадзе вясёлымі панамі, сам не ведае, пеўня або зайца носіць ён па рынку на продаж. Мова і стыль жывыя, маляўнічыя, натуральныя, толькі дзе-нідзе выдае сябе пісьменны апавядальнік залішняй вытанчанасцю слова або рыфмы, але гэтыя нячастыя плямкі заўважыць толькі той, хто добра знаёмы з духам народнага вымаўлення і таму разумее ўсю мастацкую цяжкасць, не скажу — немагчымасць, утрымацца ў тоне народнай прастаты, каб абысці Сцылу і Харыбду, штучнасць і трывіяльнасць. Увогуле п. Марцінкевіч вельмі шчасліва пазбягае гэтых перашкод.

Другая вечарніца, якая складаецца з дзвюх песень, з'яўляецца гутаркай са старой мінуўшчыны крывічан і носіць назву

«Стаўроўскія дзяды». Раскажам яе змест, устаўляючы дзе-нідзе ўласныя словы аўтара.

«Даўным-даўно, — гаворыць Ананія, — некалькі сот гадоў назад, калі не ўсе хвалілі сапраўднага Бога, а народ жыў у веры няхрышчанай і пакланяўся нячыстаму духу, у горадзе Лагойску, над ракой Гайнай, быў моцны замак крывічан». Панаваў там князь Грамабой, пан малады, добрага сэрца. Непадалёку, у яго ўладаннях, жыў селянін Даніла з прыгожай дачкой Кацярынай, са злой жонкай Параскай, яе мачыхай, і дачкой ад той самай Параскі Марфай.

Бедная была доля Кацярыны ад мачыхі і яе пешчанай дачкі!

Даніла адзначаў народную памінальную ўрачыстасць «Стаўроўскія дзяды», якая прыпадала на зялёныя святы[5]. Падняліся векі трунаў, памерлыя кружаць па зямлі, а ведзьмы і ваўкалакі мучаць жывёлу.

Кацярына раніцой моліцца за душу сваёй маці. Марфа абгаворвае яе перад мачыхай, што яна лянуецца працаваць, увіхаецца аблаенае дзяўчо, рыхтуе вячэрнюю бяседу, а Марфа ляжыць сабе цэлы дзень.

Надышоў вечар. Кацярына засцілае белы абрус на стале, Даніла ставіць пляшку гарэлкі. Прыйшлі казляр і гусляр, язычніцкія жрацы, запалілі яны свечку, памаліліся за нябожчыкаў і селі за стол.

«Гаспадар наліў чарку гарэлкі, выліў трошкі на стол, паводле звычаю, выпіў да жраца, той — да гусляра, гэты — да Параскі. Кацярына прыносіць стравы. Даніла частуе, госці бяруць яду на гліняныя талеркі, кідаючы першую лыжку кожнай стравы ў міску, што стаіць пасярод стала — для нежывых…

На лыжцы Кацярыны ўсеўся матылёк — гэта душа яе маткі. Дзяўчо не кранае лыжку: хоча матыля пачаставаць стравай. Матыль пасядзеў трошкі і паляцеў».

Гусляр звярнуўся з заклінаннем да Стаўра і Гаўра — двух абагаўлёных сабак на славяншчыне. Тыя з’явіліся на заклінанне. Марфа хоча іх прагнаць, Кацярына частуе стравай і песціць міфічных сабак, за што яе лае сястра. Сабакі пад’елі і зніклі, а ля ног Кацярыны аказваюцца дзве бліскучыя цацкі, залатая і жалезная.

Гусляр тлумачыць іх значэнне. Залатое ўпрыгожанне — гэта вобраз бажаства Лады, апякункі дастаткаў; жалезнае — крыж, сімвал невядомага тут да таго часу хрысціянства. Гусляр раіць кінуць крыж у агонь. Але зайздросная сестрыному шчасцю Марфа прысвойвае сабе залатую цацку, а сястры аддае жалезную.

У другой песні дзеянне пераносіцца ў Лагойск. Там пануе апякун народа князь Грамабой: ён любіць паляванне, жыве сціпла, як другі le roi d'Yvetot[6] у вядомай французскай песеньцы: гарэлка, талакно, сыр, яйкі складаюць яго яду.

Вітаўт, князь літоўскі, паклікаў Грамабоя на дапамогу супраць непрыяцеляў пад Оршу. Лагойскі князь паказаў сваю мужнасць: пабіў ворагаў, узяў здабычу і вяртаецца дадому пад радасныя крыкі свайго народа, які высцілае яму дарогу дыванамі.

Гэты доказ прывязанасці народа ўзрушыў прысутнага тут Вітаўта. «Мусіш ажаніцца, — кажа князю, — бо хто будзе панаваць пасля цябе, хіба можна такую верную грамадку пакінуць на чужыя рукі?»

Падслухалі гэтыя словы падданыя і далучаюць свае просьбы да Вітаўтавай парады. Узрушаны Грамабой абяцае падпарадкавацца іх патрабаванням; жрацы моляцца багам аб шчаслівым выбары.

Аднаго разу на паляванні сніцца Грамабою, што сівы дзядок вядзе да яго прыгожую дзяўчыну. Сэрца яго закіпела, галава закружылася, і ён сардэчна пакахаў убачаную ў сне. Стары раіць яму зараз жа паклікаць і павянчацца з гэтай дзяўчынай, якой міфічны сабака Стаўры падарыў гасцінец. Князь абуджаецца і выконвае параду старога.

Уладальніца залатой цацкі, зайздросная Марфа, цешыцца, што будзе княгіняй — «узяла святочныя сукенкі, павесіла на шыю залаты абразок бажаства Лады і разам з маці ідзе на замкавую гару», — але князь, які быў папярэджаны ў сне, што крыжык — прыкмета яго будучай жонкі, і ўяўляў яе постаць, загадвае шукаць яе. Народ са здзекамі скідвае Марфу з замкавай гары, а Кацярына становіцца княгіняй.

На заканчэнне перакладзём фантастычную прыказку, якімі звычайна завяршаюцца народныя апавяданні:

«І я, дзеткі, быў на вяселлі, — кажа апавядальнік, — піва, мёду і гарэлкі было там дасыта, па барадзе ў мяне цякло, у роце не было. Далі мне смаляную кабылку, пугу з пастарнаку, збрую з капусты, еду… Аж тут пры дарозе blішчыць агеньчык. Пад'язджаю да яго, кідаю пугу, сядаю пры агні і — у размову з пастушкамі, якія там быдла пасвілі. Як загаварыўся, не дагледзеў, што мая смаляная кабылка растала, а скацінка з'ела ярыну, і пугу, і збрую для каня. Вярнуўся дадому пешшу».

Вызваляем сябе ад разгляду далучанай польскай меладрамы пад назвай «Звар'яцелы», бо задачай гэтага артыкула было даследаванне п. Марцінкевіча як крывіцка-народнага паэта; дададзім яшчэ некалькі слоў у сувязі са «Стаўроўскімі дзядамі».

Справа вялікага значэння, як збіраць з чыста гістарычнай мэтай легенды, што маглі застацца з часоў дахрысціянскай славяншчыны, так і па-мастацку ўзнаўляць у паэзіі тую мінуўшчыну, што сінеецца з імглы вякоў, — мінуўшчыну, некаторыя звесткі аб якой запісала для нас гісторыя, а некаторыя мы выкапалі з курганоў. Здаецца, невялікі запас, але і з гэтага нямногага геніяльны паэт можа стварыць рэч Гамеравай моцы, — бо чаго яму не даскажа кніжка або старая магіла, тое можа ён знайсці пад саламянай страхой народа, які ў паданнях, казках, прыказках, забабонах і мове захаваў яшчэ мноства дахрысціянскага элемента. Спасцігнуць усё гэта, умець падслухаць біццё сэрца гэтага народа, умець ключом уласнай шчаслівай інтуіцыі прачытаць іерогліф паданняў, умець пакласці на палатне мінуўшчыны фарбы і контуры, якія асыпаліся вякамі, — вось задача паэта, вось яго шырокая ніва. «Вечарніцы» п. Марцінкевіча добра сведчаць аб яго кваліфікацыі ў гэтых адносінах, няхай жа яе прызнае сам у сабе і прысвеціць сябе выключна народным творам. Наша выцвілая шляхецкая літаратура мае досыць працаўнікоў — у народнай ён адзін.

## КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ Ў «GAZETU WARSZAWSKU»

*Барэйкаўшчына,*
*17 жніўня 1855 г.*

У адной з папярэдніх нашых карэспандэнцый у «Газэту варшавску»[1] гаварылі мы пра літаратуру на беларускай мове і пра напісаныя на той мове «Вечарніцы» пана Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча; цяпер, атрымаўшы новы твор таго ж аўтара на гэтай жа мове, спяшаемся расказаць пра яго.

«Гапон» (такая назва кніжкі, Мінск, выданне Бейлінаў, 125 с.). Побач з паказам народных звычаяў аўтар яшчэ меў утылітарную мэту — звярнуць увагу паноў на выбар аканомаў, хоча агульнымі інтарэсамі прымірыць паноў і сялян, хоча даць у рукі народа кнігу, напісаную на яго мове і пра яго жыццё, каб прывучыць народ да чытання. Паглядзім, як аўтар справіўся з гэтымі важнымі літаратурнымі і грамадскімі задачамі. Агляд наш зробім простым спосабам: перакажам змест і растлумачым характэрныя асаблівасці твора.

Дзеянне пачынаецца малюнкам вясковай гулянкі, якая напамінае баладу пра пані Твардоўскую[2]; рэй вядзе селянін

Гапон, пары танцораў мільгаюць перад вачамі, у іх прыпеўках гучаць мелодыі народных песень, чуваць вясковая скрыпка, гоман у хаце. У самы разгар гуляў адчыняюцца дзверы і ўваходзяць аканом з войтам. Грамада танцораў адчула штосьці нядобрае, збялеў Гапон, бо адразу зразумеў, што прыйшлі браць яго ў рэкруты; хапіў ён кол, стаў спінаю ў кут і пачаў махаць калом, пагражаючы кожнаму, хто падыдзе да яго; але не памог яму такі сродак абароны, пачалі кідаць на яго адзежу, ублытаўся ён, і яго звязалі; збялела, заплакала, страціла прытомнасць Кацярына, яго каханая, з якой Гапон так весела танцаваў.

У другой песні апавядаецца пра жыццё Гапона і даецца тлумачэнне, чаму ён менавіта, а не хто іншы з вясковай моладзі ўзяты на вайсковую службу: Гапон кахаў Кацярыну, з ёю заручаны, маткі каханых, суседкі і прыяцелькі ўхвалілі іх выбар. Але Кацярына — прыгожая дзяўчына, а пан аканом меў вока на вясковую прыгажуню; Кацярына верная свайму каханаму, сапернік задумаў прыбраць Гапона. Сутычка была ўжо раней між імі. Пакрыўджаны Гапон узяўся тады за кій, каб стукнуць аканома, сказаў гнеўныя словы праўды — гэта яшчэ больш распаліла варожасць. Аканом нагаварыў на Гапона пані, здаў яго ў рэкруты, а Кацярыну ўзяў у двор, надаядае ёй сваімі заляцаннямі. Не вытрымаўшы яго назойлівасці, бедная Кацярына паскардзілася добрай пані, якая прагнала аканома са службы, а Кацярыну ўзяла пад сваю апеку, навучыла чытаць і пісаць.

У трэцяй песні паказаны горад Магілёў… Набор рэкрутаў. У памяшканні суда засядаюць маршалак, вусаты воінскі начальнік, тоўсты доктар, худы пракурор і малады прыгожы афіцэр, які павінен прыняць рэкрутаў. Уваходзяць аднадворцы, прызначаныя да здачы, сярод іх сустракаем знаёмага аканома, які не здолеў дакументамі пацвердзіць сваё шляхецкае паходжанне, і яго чакае лёс, які некалі падрыхтаваў Гапону. Доктар спрабуе даказаць, што аканом хворы, але яго перабівае малады афіцэр і на сваю адказнасць загадвае здаць аканома ў рэкруты. Спалоханы аканом пазнае Гапона.

Кацярына ў чацвёртай песні паказана адукаванай паненкай. Аднойчы вечарам, калі яна з паняй спявала святыя песні, даюць знаць, што прыехаў нейкі афіцэр і просіць дазволу зайсці. Чытач здагадваецца, што гэта Гапон; далей ідзе шлюбная прапанова і вясельныя абрады, бо Гапон няйначай хоча зрабіць вяселле па старым бацькаўскім звычаі: пасылае сваху з гарэлкай да старой Кацярынінай маці, гуляюць заручыны, вяселле — і канец аповесці.

Пан Марцінкевіч мае цудоўны дар вобразна маляваць народ — ручаюся напэўна, бо добра ведаю гэты шчыры народ беларускага племені. Па-майстэрску паказаны яго звычаі, прымаўкі, склад думак, калі паэт заглядае ў сэрца герояў, ёсць у яго малюнках і жыццё, і праўда. Але ў «Гапоне» няма той наіўнай сентыментальнасці, якая нас бянтэжыла ў «Вечарніцах» таго ж аўтара. Сцэны праўдзіва ўзяты з жыцця, але некаторым з іх не хапае эстэтычнага погляду мастака, які іх апаэтызаваў бы, не хапае драпіроўкі, якая ўмела прыкрывала б залішне рэзкую праўду. Бойка Гапона з аканомам, размова апошняга з войтам, безумоўна, правільныя, але, відаць, таму, што вельмі праўдзівыя, менш падабаюцца. Ці ж наш народ жыве толькі цяжкім жыццём? Ці ж няма ў яго хвілін узнёслых і паэтычных? Такі знаўца народа, як пан Марцінкевіч, ведае, што такія хвіліны ёсць, і не рэдка ёсць. І ў «Сялянцы», і ў «Вечарніцах», і ў «Гапоне» паказаў ён не адну такую радасную хвіліну народнага жыцця, але ў гэтым апошнім творы не зусім закончыў свае малюнкі, на будзённых сцэнах многа, а на ўрачыстых мала прыцiскаў пяро. Меў аўтар зручную магчымасць намаляваць сцэну, калі афіцэр у часе набору пазнае свайго прыгнятальніка. Няхай бы Гапон быў велікадушным — наш народ умее быць велікадушным у падобных выпадках, — а ён у парыве асабістай помсты бярэ аканома на сваю адказнасць у рэкруты, чым пазбаўляе свой характар чароўнасці, а свой народ настройвае на помсту, якой у яго душы няма…

Наш паэт сам апавядае, што ў народзе, калі свайго дабіўся, то прабачаюць ворагу: «ляжачага не б’юць», «пакорнай галавы з плеч не знімаюць» — што за цудоўныя два прыслоўі гэтага народа; шкода, што забыўся на іх аўтар, пішучы трэцюю частку «Гапона».

Спадзяёмся, што гэтыя прыяцельскія заўвагі не саб’юць аўтара з пахвальнай дарогі народнай літаратуры, бо інакш цяжкі грэх узялі б на сваё сумленне; калі мяне зразумеюць інакш, то маю права на некалькі крытычных слоў, бо, стоячы здалёку, паказаў мастаку на плямкі ў яго творы, якіх ён, стоячы зблізку, не заўважыў.

У кнізе «Гапон» змешчаны беларускі верш і некалькі польскіх. Кожны з іх з’яўляецца пачуццёвым голасам душы. Кароткі, як мімалётная думка, як натхненне, кожны з іх прымушае задумацца, уздыхнуць.

Віншуем горад Мінск з тым, што ў ім абуджаецца літаратурны рух. Браты Бейлінавы[3] і Е. Дворац варушацца над выданнем

кніг; увогуле някепская друкарня апошняга прадпрыемцы адпавядае мясцовым літаратурным патрэбам, а літаграфія Фалька[4] мае магчымасць нават ілюстраваць кнігі. Калі б мы не бачылі іншых работ пана Фалька, не адважыліся б на слова пра чатыры малюнкі, якімі ўпрыгожаны «Гапон», але ведаем яго карту Мінскай губерні, ведаем ілюстраваны буквар і ўзоры каліграфіі. У тых работах відаць гладкі разец і правільны малюнак, таму мы з добрым намерам рэкамендавалі віленскім выдаўцам звяртацца да пана Фалька з рознымі сваімі патрэбамі. Ілюстрацыі да «Гапона» не апраўдалі нашага ўражання. Добры малюнак сцэны ў карчме скрэслены штрыхамі, якія зрабілі агіднымі твары постацей; як нядбала выглядаюць рукі, як паламаны ногі! Нейкую карыкатуру ўяўляе сцэна набору! Чаму такая пачварная постаць пані ў апошняй сцэне?.. Для карысці будучых выданняў, якія, вядома, з'явяцца ў Мінску, выгаворваем свае заўвагі літаграфіі пана Фалька, тым болей упэўнены мы, што ён мог выканаць работу лепей.

## КАРОТКАЕ ДАСЛЕДАВАННЕ МОВЫ І ХАРАКТАРУ ПАЭЗІІ РУСІНАЎ У МІНСКАЙ ПРАВІНЦЫІ

Розныя розных фарбаў русіны, як смела сказаў Вінцэнт Поль, калісьці падпалі пад польскую ўладу, у мове сваёй падзяляюцца на два рэзка адрозныя дыялекты: беларускі і маларускі, або ўкраінскі. Першы піскលівы і працяглы, другі дзёрзкі, жвавы, маляўнічы. Пераходным ад аднаго да другога з'яўляецца дыялект, якім размаўляюць на Чорнай Русі, або ў Мінскай правінцыі, і на Чырвонай Русі, або ў Галіцыі. Едучы ўздоўж усёй Мінскай губерні з поўначы на поўдзень, самы дасведчаны знаўца русінскай мовы не заўважыць, дзе відочна сутыкаюцца два дыялекты, бо пераход гэты адбываецца на прасторы ў некалькі дзясяткаў міляў. Без відавочнай розніцы ў словах або ў акцэнце кожная вёска з'яўляецца, аднак, адным агменем у ланцугу гэтага пераходу і мае ўласцівыя ёй спосабы маўлення, але так непрыкметныя, што гэта не толькі падарожны, але нават блізкі яе сусед не заўважыць. Праз некалькі міляў розніца становіцца больш відочная; праз павет жа ўжо самаму абыякаваму дойдзе да вуха змена як у вымаўленні асобных словаў, так і ў моўных зваротах. Ніхто ў нас яшчэ не праводзіў падобных даследаванняў, таму ў перапісванні народных песенек нашы збіральнікі, стварыўшы для сябе якуюсь норму русінскай

мовы, заціралі характэрныя мясцовыя рысы. Аднак каб даць хоць якое ўяўленне пра мову чорнарусінаў, або крывічанаў, і гэты пераход ад беларускай мовы да маларускай, які тут незаўважна адбываецца, прывядзём некалькі характэрных моўных урыўкаў з народных песенек, ідучы з поўначы, гэта значыць з Беларусі, на поўдзень, або Украіну.

З ваколіц Мінска, з паўночнай сферы:

Наехала повен двор татароў,
Да ўзялі ж майго мужа ў палон.
Не жаль жа ж мне, што яго ўзялі,
Толькі шкода, што ня крэпко звязалі:
Ён паганец уцячэць, уцячэць*.

Песня гэтая павінна быць вельмі старажытная, бо татары, як вядома, не былі тут ад XIII стагоддзя.

З Наваградскага, як з сярэдняй сферы Мінскай губерні:

Жнеце, жэньцы, жнеце,
Самі себе не пажнеце**.

З Піншчыны, з паўднёвай сферы:

Жнійце, жэньцы, жнійце,
Самі себе не пажніце***.

З Наваградскага:

Лецеў жураў па-над морам
І стаў галасіці:
О, як цяжка убогаму
Багату любіці!****

З Украіны:

Летів орэл по-над морэм
Тай став голосыті:
О, як тяжко убогому
Багату любыті!

---

* Hapon W. D. Marcinkiewicza.
** Zbiór Czeczota, XV.
*** Zbiór R. Zieńkiewicza, s. 222.
**** Zbiór Czeczota.

Па-беларуску з-пад Мінска:

Яшчо разумным не быў так наш сьвет,
Як цяпер…*

У Наваградскім:

Ужо ж вы мене цепер не казьнеце**.

У Пінскім:

Цепер Купала, заўтра Ян***.

Па-ўкраінску:

А тэпэр я в козачыне ешчэ погуляю****.

Хто не ведае мовы русінаў, хто не звярнуў увагі на тыя сотні і тысячы ручаінак, якія, выцекшы з яе агромністай крыніцы, абабягаюць розныя ваколіцы шырокай славяншчыны, з гэтых прыкладаў не шмат даведаецца пра розныя адценні дыялектаў, пра якія гаворым. У Барысаўскім павеце, самым паўночным у Мінскай правінцыі, ажно крыху за Мінск на поўдзень, мова амаль чыста беларуская, працяглая, напеўная, пяшчотная. Інфінітыў і трэцяя асоба цяперашняга і будучага часоў абавязкова маюць у словах канчатак на *ць* мяккае, варыянт велікарускага *ть*; тут аддадзена перавага мяккай літары *ць*; падоўжаныя галосныя *а* і э дамінуюць у кожным слове, напрыклад, *уцячэць* (уцячэ), *цяпер*, *цяжка*, *ня* (не) і г. д. Большая частка слоў трэцяй асобы будучага часу ў мужчынскім родзе, дзе ў польскай і рускай маем *л* (uciekał, бежал), канчаецца кароткім *ў* і да т. п. Мінскі, Наваградскі і частка Слуцкага павета захавалі ўжо толькі частку гэтых характэрных рысаў беларушчыны; гэта дыялект прамежкавы, болей набліжаны да польскай мовы, а дакладней, да мовы Статута і даўнейшых дыпламатаў. Літара *ць* яшчэ пануе ў інфінітыве (лецець), але ўжо амаль цалкам знікае ў трэцяй асобе цяперашняга і будучага часоў; тут ужо не гаворыцца *летаець*, *уцячэць*, а *летае*, *уцячэ* і да т. п. Падоўжанае *а* змяняецца на

* Marcinkiewicz: Wieczornice.
** Czeczot.
*** Zieńkiewicz.
**** Izopolski, zbiór pieśni w «Atheneum».

літару э менш доўгую. Тут замест беларускага *ня* гавораць *не*, замест *мяне* — *мене* і да т. п. У трэцяй асобе мінулага часу застаецца яшчэ кароткае беларускае *ў* і да т. п. Паўднёвыя ж паветы, як Слуцкі, Пінскі, Кобрынскі, ужо відочней носяць рысы пераходу да маларушчыны: літара *ць* у інфінітыве змяняецца на *ті*; у мове дамінуе э, якое на Наваградчыне вымаўляецца яшчэ працягла, тут сціскаецца (цепер); *у* як канчатак трэцяй асобы адзіночнага ліку вымаўляецца чым далей на поўдзень, тым больш сціснута, так, што на ўскраіне Піншчыны, якая мяжуе з Валынню, цалкам замяняецца на *в*, літарай, не любімай на Белай Русі, дзе зрэдку толькі сустракаецца ў асновах назоўнікаў, але ніколі ў граматычных формах пры скланенні і спражэнні. Каб закончыць гэтыя мовазнаўчыя назіранні, прывядзём вясельную песеньку, што спяваецца ў Барысаўскім павеце і на Піншчыне, гэта значыць адна на поўначы, другая на поўдні Мінскай правінцыі, і звернем увагу на змены, якія трывае мова русінаў на гэтай прасторы. З Барысаўскага павета:

Да нет ксяндза дома:
Паехаў да Львова
Ключыкі купляць,
Цэркаўку адчыняць*.

З Пінскага павета:

Да не ма ксёндза дома:
Поехал до Львова,
Ключыков куповаті,
Цэрковку отмыкаті**.

Мова Белай Русі больш набліжана да вялікарасійскай гаворкі — Палесся ж да мовы ўкраінцаў. Калі б мы падобную аналагічную нітку правялі праз Валынь, Украіну, Галіцыю да Чэхіі, Маравіі і адрыятычных славянаў, можа б, высветлілася, як нябачнымі адценнямі славянскія дыялекты пераходзяць у дыялекты. Натуральная з’ява, што галоўную ўвагу тут трэба надаваць геаграфічнаму становішчу, клімату і суседству чужых плямёнаў. Але, вяртаючыся да вывучэння народа Мінскай губерні, звернем цяпер мімалётную ўвагу на характар яго паэзіі.

---

* Opis pow. Borysowsk., Eust. hr. Tyszkiewicza, s. 321.

** Piosnki gminne ludu Pińskiego, Rom. Zieńkiewicza, s. 62.

Хай чытач не жахаецца, бо мы не маем намеру назаляць яму апісаннем вясельных абрадаў, святкаваннем Каляды, Купалля, Дзядоў, бо хоць і багатая гэтая скарбніца для гісторыі вераванняў і народнай паэзіі, яна столькі разоў даследавана, і не адзін вучоны аматар славяншчыны яшчэ вывучаць яе будзе — абмяжуемся некалькімі параўнаўчымі заўвагамі.

Паўночны бок Мінскай правінцыі ў сваіх пагаданках і казках развівае шмат фантазіі — а яе прыкметаю з'яўляецца нейкая сумная чуллівасць. У цені задраманых лясоў люд сніць наяве, але якімсьці сумным сном, калі сны паўднёвых насельнікаў Палесся жывейшыя і больш вясёлыя. Люд, дзіця прыроды і працы, усе поры года выплятае ў паэзію…

Бліснула вясна: Вялікдзень і св. Юры пачынаюць яе ўрачыстасць. Заможны, прынамсі, без адчування нястачы паўднёвы пінчук вітае яе песняю, у якой чутны пульс свабоды. «О вясна, вясна! Як жа ж ты красна! Узлятае жаваранак, буркуе шызы голуб, вітае вясну і нам радасці дадае. Весялімся ж вясною, пляскайма ў ладкі, пускаймася ў танец! Пагонім валоў, будзем пасвіць коней на траве ў дуброве. У мілыя дні вясны-маткі так цудоўна грэе, брацці, сонца! Будзем кветкі рваць і віць вянкі ў радасці і ў песні…»* З менш утрапёнаю радасцю, але больш чулліва вітае вясну наваградскі наднямончык: «Выйду ў двор, там рыкае быдла, бо чуе вясну. Зашумелі рэкі, паплылі ільдзіны, пачарнела ўзараная зямля, зазелянела, распусціўшыся, бяроза, павесялела ў дуброве — выйду я, выйду збіраць кветкі, віць вянкі і спяваць Святога Юрыя»**.

Тут селянін ужо не самому сабе спявае, як паляшук, а св. Юрыю, бо адчувае патрэбу ў вышэйшай апецы над сваім плёнам. І цешыць сябе, калі марыць пра гэтую апеку: «Святы Ян з Пятром ходзяць па палях паміж межамі і сцерагуць ураджаі жыта. Усюды яно добрае, а найлепшае ў двух гаспадароў: у аднаго ў трубкі круціцца, у другога само ў сцірты кладзецца»***.

Так спявае наваградчанін, жыхар урадлівай зямлі. Няма гэтай песні ў бяднейшым і халаднейшым Барысаўскім павеце, самым паўночным пункце Мінскай губерні; там Бог і святыя, як людзі, «занятыя клопатам, якому святому ісці наперад. Святы Аляксей чэша плуг, на Благавешчанне пачынае аранне. Вербная нядзеля свянцае вярбу, Чысты чацвер ячмень засявае»****. А калі

* Zieńkiewicz, Pieśni ludu Pińskiego, s. 138.

** Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny, przez Czeczota, s. 3.

*** Tamże, s. 4.

**** Opis powiatu Borysowsk., s. 389.

на Палессі, паводле прымаўкі, на святога Юрыя (23 красавіка) у збажыне павінна варона схавацца, то тут, на Барысаўшчыне, паводле той жа песні: «Святы Юры, пасланец Божы, бярэ залатыя ключы і ледзь адмыкае сырую зямлю і выпускае з яе цёплую расу».

Калі вечарам на Вялікдзень грамада так званых валачобнікаў спявае пад акном гаспадара і з уласцівым народнай песні перабольшаннем праслаўляе яго багацці і выпрошвае дарункі, сціплы барысаўскі селянін просіць толькі «для таго, хто пачынае песню, капу яек, для тых, хто памагае — па дзясятку, тры грошы — для кабзара (механоса), а для музыкі, што ласка, бо яго сумная доля, бярэ, што дадуць». Гатовыя, зрэшты, задаволіцца «тым, што дадуць, квартай гарэлкі і сырам»*.

Заможны наваградчанін у такім выпадку вымагае больш; дапрошваецца «да сталоў цясовых, засланых кітайкаю, зялёнага віна ў срэбраных кубках, цёмнага піва і салодкага мёду, хоць, зрэшты, не пагарджае яйкамі і пірагом. Зычыць гаспадару толькі ўраджаяў: «Дзе гара, хай стане капа жыта; дзе луг, хай будзе стог сена»**. Менш даверлівы да ўрадлівасці сваёй зямлі паўночны сусед Белай Русі дадае зычэнне спору: «Няхай табе родзіць жыта на полі ў копах, у гумне, на таку ўмалотам, у амбары спорам, у дзяжы падходам, у печы падростам», бо там горшы гатунак зерня.

Самым багатым полем паэзіі земляробчага русінскага люду з'яўляецца жніво — урачыстасць для дзяўчат і ахвотнікаў да песні. Святы Пётр дае спеласць жыту, гаворыць песня ў Барысаўскім павеце, калі на Палессі гэтай парою пачынаецца ўжо восень: «Прыйшоў Пятрок, апаў лісток», — кажа тамашняя прымаўка. Дождж, так патрэбны для росту раслін у маі да паловы чэрвеня, але рэдка калі вымольваны, з'яўляецца ў нашым клімаце тады, калі ён найменш патрэбны, гэта значыць каля Святога Яна (24 чэрвеня): «Па Святым Яне ідзе дождж няпрошаны», — кажа шляхецкая прымаўка, а іншая дадае: «Калі Ян расчуліцца, то й за Прасвятою Паннаю не стуліцца». Месяц ліпень, кожны дзень якога такі дарагі для земляроба, колькі ж ён мае прымавак і паданняў, што адносяцца да кожнага дня! «Святы Кузьма сярпы куе новыя, залатыя, сталёвыя» (2 ліпеня). Святая Малгажата (13 г. м.) дае спеласць грушкам сваёй назвы; Святы Аляксей называецца на Палессі «Божым чалавекам» з-за

* Tamże, s. 391.

** Opis pow. Borysowsk., s. 389.

пагоды, якая заўсёды бывае ў яго дзень (17 г. м.). Святая Макрына (17 г. м. у рускім календары) адпавядае сваім імем мокрай пагодзе. Св. Іллю (20 г. м.) барысаўская песня называе добрым жнівом, а на ўсёй Русі гаспадыні хваляцца, што нальe поўную печ цеста жытняга (на Ілью поўну печ налью)…

Ніводзін, можа, народ не ўмее так пераканаўча плакаць над нядоляю, як славянскі русін. Гэта можа быць вынікам побыту, але болей яшчэ халоднага і вільготнага клімату, што схіляе да чуллівых роздумаў.

«Выйду я на ганак, — спявае дзяўчына над Бярэзінаю, — гляну на кветкі; кветкі мае павялі, ручкі мае апусціліся. Вяньце, кветкі! Не я вас буду насіць: звіла адзін вянок, і той вісіць у хаце на зялёнай галінцы, на чырвоным шоўку для малодшай сястры»*.

«Пайду я ў лес, — спявае наднёманка, — буду шукаць, шукаць маёй долі. Адгукніся, мая доля, на тым баку сіняга мора». Або ў іншай песні: «Зялёная бярозка, чаго пабялела? Як жа зелянець мне пры дарозе? Тут штодзень купцы едуць, мой ствол абпальваюць, галіны абдымліваюць. Красная дзяўчына, чаго сумуеш?..»

«Пайду я ў чыстае поле, — спяваюць на Піншчыне, — там арэ мой брат пад пшаніцу. Кінь, браце, работу, а хадзі са мною шукаць маёй долі. Я, сястра, хадзіў і сёння і ўчора, але долі твае не пазнаю: ці твая доля, што п’е і гуляе, ці тая, што цяжка ўздыхае?»** — і падобныя да гэтых намёкі пра стан душы. У халодным паўночным баку Мінскай правінцыі амаль не сустракаем песень чыста эратычных, бо яны дзеці гарачых кліматаў, дзе жывей бяжыць кроў да сэрца, дзе праца не згінае спіну, дзе думка вальнейшая. Тут покрыва нейкай сціпласці накінута на святое пачуццё, беднасць стрымлівае стасункі, сэрца не мае часу нагадваць пра свае правы; тут маладая нявеста не шкадуе, што няма ўзаемнасці, а калі скардзіцца, то на цяжкую працу, на нянавісць свякрухі, на адсутнасць родных; калі ж пяшчотная пакута закране яе сэрца і абудзіць песеньку, нясмелая дачка паўночнай вёскі прыкрые думку агульным нараканнем на долю і якой-небудзь агульнай фразаю закончыць выказванне пачуцця.

Інакш пад цёплым сонцам паўднёвай сферы, на Палессі, дзе сэрцу і гарачэй і вальней: там струны пачуцця гучаць разнатонна, то чулліва, то гарэзліва. Колькі адценняў сардэчнага пачуцця, столькі разнастайных песень.

---

*Opis pow. Borysowsk., s. 366.

** Pieśni ludu Pińskiego, s. 176.

Прывядзём некалькі з іх.

«Дай, Божа, пагодны вечар! Паехаў мой мілы ў чужую старану, пакінуў на маю галаву тугу; вярніся, мой мілы, знімі з галавы цяжкія думкі»*.

«Пахілілася сухая ляшчына, маладая дзяўчына пакахала казака; пакахаліся маладыя і ў той жа час знепрытомнелі. Казак ляжыць у зялёнай дуброве, дзяўчына хварэе ў бацькі ў хаце; па казаку чорны груган кракае, па дзяўчыне плача бацька і маці»**.

Іншы варыянт той жа песні сведчыць пра не надта строгую маральнасць таго ж люду: «Плылі рэкі піўныя і гарэлачныя, казак і дзяўчына тры гады былі няшлюбныя і абое памерлі, адно вечарам, другое раніцай. Пахавалі абаіх у адну яму; па казаку шумяць лугі, па дзяўчыне званы звоняць; па казаку груган каркае, па дзяўчыне плача бацька і маці»***.

Нічога больш чуллівага за сіроцкія песні, пазначаныя сапраўднай паэзіяй, ва ўсёй славяншчыне няма. Нічога дзіўнага: зямля гэта патрыярхальная, хатняе жыццё моцным вузлом лучыць кожнага члена сям'і з галавою дому — бацькам, з яго сэрцам — маткаю. Калі малое дзіця прамысловай Германіі або Францыі, як качанё, толькі вылупіцца, а ўжо само сябе пачынае забяспечваць і спрабуе жыць на ўласныя сродкі — славянскі селянін нібы куранё з яго хатняга падворка, якое доўга патрабуе клапатлівай матчынай апекі. Адсюль і аплакваецца стан сіроцтва. Прасочым на некалькіх прыкладах гэтую элегічную паэзію нашага народа ў правінцыі, пра якую гаворым.

«Прытуліўся б да яблынькі, — пяе наваградскі селянін, аддадзены на салдацкую службу, — але яблыня не матка: зялёная, ды не родная. Прытуліўся б да явара, але явар не бацька: зялёны, ды не родны. Без маткі, без бацькі блукаю, як авечка».

Хто ж не ведае тае чуллівае песні, якая ў тысячах варыянтаў вандруе па ўсёй славяншчыне, пра салдата, забітага на вайне, над труною якога адданы конік сумна грабе пясок капытом, а вецер нясе да маткі жальбяную весць! У якія дзівосныя варыянты прыбірае змест гэтай песні люд у кожнай ваколіцы! Вывучыўшы незлічоныя варыянты адной і той жа песні, мы, можа, мелі б адначасна і меру глыбіні пачуцця і паэтычнай фантазіі народа ў розных старонах.

З прыведзеных прыкладаў бачым, што галоўная рыса ў паэзіі нашага народа — лірызм. Эпас, г. зн. апавядальныя, гістарычныя,

---

* Pieśni ludu Pińskiego, s. 158.

** Tamże, s. 168.

*** Tamże, s. 176.

традыцыйныя песні, нешматлікія і слабыя, але і ад гэтай драбніцы трэба адняць значную частку вандроўных, нетутэйшых песень, якія Бог ведае адкуль і калі прыйшлі і спяваюцца па ўсёй Русі, з адрозненнем толькі дыялекту і з варыянтамі мясцовай фантазіі. Такая, напрыклад, класічная «Не хадзі, Грыцю, на вечарніцы», у якой каханая атручвае няявернага і якая, будучы, здаецца, з Украіны, разляцелася ўсюды з ветрам палёў, з рэхам лясоў. Такая думка пра Канеўскага і няшчасную Бандароўну, якую спяваюць на поўдні і на поўначы, пераплятаючы змест мясцовымі словамі і называючы Канеўскага то Канчэўскім, то (як у Наваградскім павеце) Хаміцкім…

Тутэйшы люд, займеўшы такую гістарычную ці паўгістарычную песню, зменіць чужыя прозвішчы асобаў на лягчэйшыя для свайго вымаўлення, сцэну перанясе ў свой край, часам яе цалкам перастворыць; але ў сябе падобных песень стварае не шмат, не намагаецца ўвекавечыць у песні які-небудзь мясцовы выпадак. Гэта стасуецца да паўночных ваколіц, бо паўднёвыя, што суседнічаюць з паэтычнаю, больш агністаю Украінаю, дзе менш аднастайныя ўмовы побыту, куды даходзілі і набегі татараў і паветра казаччыны, часцей сустракаем гістарычную песню, традыцыйную, рэдка калі прышлую, часцей за ўсё заснаваную на мясцовым здарэнні, дробны эпас, які, нават не выпрацаваўшы свае формы, атуляецца ў лірычныя формы, адзіна ўпадабаныя народам…

У цэнтральных паветах Мінскай правінцыі фантазія люду відочна слабее. Амаль не напаткаеш у песні традыцыйнай, гістарычнай, хоць хатняй аповесці; а калі і напаткаеш, то відочную парафразу або пераклад песні, якая прывандравала аднекуль. Выключэнне тут складаюць, можа, дзве або тры няпоўныя, пакалечаныя ваяцкія песні, бо падобныя сустракаем і ў сумежных ваколіцах; але тут патрэбны параўнальныя і вельмі сумленныя даследаванні, каб дайсці, што з'яўляецца рэхам чужое песні, а што помнікам старых часоў, сучаснікаў тутэйшых старых курганоў, часоў, калі ціхі тутэйшы земляроб насіў каменны тапор, жалезны панцыр, булатны меч і, як кентаўр, зрастаўся з вараным конікам, якога верная каханка карміла залатым аўсом, чулая сястра паіла крынічнай вадою, іржанне якога ажно з поля бою магла пачуць клапатлівая матка, які гінуў ад тугі на магіле свайго гаспадара…

Але як тут адрозніць хатні змест ад прышлага, калі люд наш, ухапіўшы чужую песню, зараз жа прыстасоўвае яе да сваёй вёскі, свае ракі, свае царквы?

Ды рэлігійных песень на роднай гаворцы ён мае не шмат, бо слухае літургіі на лацінскай або царкоўнай мове, моліцца па-польску або па-руску; хіба што які жабрак пад касцёлам ці царквою заімправізуе жаласным голасам малітву на мацярынскай мове.

О! Колькі ж яшчэ патрэбна даследаванняў і гэтай дзедаўскай песні, і тону, якім пяецца, даследаванняў граматычных над моваю і будоваю верша, даследаванняў музычных над спевамі жніўнымі, вясельнымі, купальскімі, пахавальнымі, даследаванняў філасофскіх над духам народа і яго паэзіі, даследаванняў параўнальных, а найперш даследаванняў, пазначаных любасцю і добрай вераю.

***1856***

## HEBDOMADALIA[1]

*Барэйкаўшчына,*
*д[ня] 17 снежня 1856 г.*

У адной з нашых літаратурных справаздач у «Gazecie Warszawskiej»[2] мы з вялікай цікавасцю гаварылі пра творы пана Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, пісаныя на беларускай мове — на мове нашага простага народа. Наш разбор «Вечарніц» гэтага аўтара выклікаў свайго роду палеміку ў той жа «Gazecie», падпісаную літарай Y[3]. Паколькі розныя перашкоды не дазволілі мне адказаць на яе адразу, мы павінны былі спыніць усю справу, але вось новы народны твор п. Марцінкевіча (аповесць пад назвай «Купала» ў кніжачцы «Цікавішся? Прачытай!») дае нам нагоду для новай справаздачы, і перш за ўсё для ўзнаўлення ранейшага пытання, гэта значыць для адказу на пытанні п. Y. Робім гэта тым ахвотней, што пытанні яго скіраваны не на марную літаратурную палеміку, а проста да высвятлення прадмета, а таксама таму, што, асабіста пазнаёміўшыся ў Варшаве з шаноўным нашым апанентам, мы засталіся поўныя такой павагі да яго, што гэту гаворку з ім лічым для сябе вялікай прыемнасцю.

Дык вось у № 138 «Gazety Warszawskiej» за 1856 год пытаецца ў нас п. Y, па-першае: «Ці заслугоўваюць творы, пісаныя на гэтай мове беларусаў, радаснага прывітання незалежна ад вартасці іх зместу?»

Адказваем: Ні адзін і ні на адной мове напісаны твор не заслугоўвае радаснага прывітання, калі ён не з’яўляецца пры-

гожым або карысным, але калі якая-небудзь мова або гаворка з непісьмовай становіцца пісьмовай, кожная кніжка, што выходзіць на ёй, заслугоўвае занатавання як доказ, што нараджаецца патрэба пісаць на гэтай мове або гаварыць.

(Тут мы адразу апраўдаем шаноўнага апанента, што ён не меў намеру ганіць вартасць прац п. Марцінкевіча, бо сам прызнаецца, што іх не чытаў.)

Пытанне другое: «Ці можна гэту мову (беларускую) прыстасаваць да ўсіх вымаганняў думкі і стылю і ўдасканаліць да ступені, якая заслугоўвае назвы асобнай мовы?»

Адказ: Так, таму што ў ёй досыць лёгкасці і разам з тым сілы, яна перадае ў паэзіі мяккія і далікатныя пачуцці, у жывой размове мае лёгкія звароты, трапныя выразы. Адсутнічае ў ёй многа выразаў для перадачы таго, што не ўваходзіць у склад паняццяў і патрэб нашага народа, але з прагрэсам самога ж народа і развіццём пісьмовай мовы здолее яна са сваіх каранёў выпрацаваць словы і выразы, якіх сёння няма. Кожная мова праходзіла эпоху дзяцінства.

Пытанне трэцяе: «Ці варта імкнуцца да гэтай мэты, нават пры тым сумніцельным дапушчэнні, што яе дасягненне аказалася б магчымым?»

Адказ: Варта і трэба, як да ўсяго, што скіравана да прагрэсу. Занадта агульна багатую мову славяншчыны шаноўны апанент дзеліць толькі на чатыры галіны, гэта значыць на мовы рускую, польскую, чэшскую і ілірыйскую[4]. Мы не пярэчым, што гэтыя чатыры мовы стаяць на чале славянскіх дыялектаў з прычыны сваёй літаратурнай дасканаласці, але навошта ж іншыя мовы адлучаць ад гэтай дасканаласці, навошта, напрыклад, у мове беларускай бачыць толькі мешаніну рускай і польскай моў? Хіба ж пад гэта самае вызначэнне можна падцягнуць і маларасійскую мову? Калі так, то чаму ж чэшскую і ілірыйскую мовы шаноўны апанент узнімае да годнасці асобных моў? Аднак жа ў іх ён відавочна знойдзе выразы і рускія, і польскія.

З усёй сілай мы аспрэчваем тое, што гаворыць далей шаноўны апанент, нібы «паміж рускай і так званай русінскай мовай, з усімі адценнямі гэтай апошняй, тая розніца, якая ёсць паміж разумна і яскрава апрацаваным творам і простанароднай думкай». Але ж і рускі просты народ яшчэ непісьменны і мае сваю простую мову, далёкую ад кніжнай гладкасці.

То выходзіла б, што і гэта простая мова рускага народа будзе зусім такой жа, як і мова русінаў, бо, паводле апанента, розніца толькі ў развіцці. А ўсё ж гэта не так. Не, сапраўды,

усе славянскія мовы маюць амаль адны словы, гэта значыць назоўнікі і дзеясловы, розніца заключаецца ў акцэнтаванні, прасодыі, кіраванні назоўнікаў і дзеясловаў, словам, у духу моў. Навошта ж гэтыя адрозненні называць скажэннем, калі яны з'яўляюцца ўласцівасцю дыялекту? Навошта, прызнаючы гэту ўласцівасць за чэшскай мовай, адмаўляць у ёй русінскай?

У адным мы ахвотна згаджаемся з апанентам, што ўдасканаленне якой-небудзь мовы не можа быць справай аднаго або некалькіх геніяў, але павінна быць справай усёй грамадскасці, якая гэту патрэбу адчуе і апынецца на пэўнай ступені развіцця. Але хіба ж заслугоўвае гэта асуджэння, калі хто-небудзь, адчуваючы ў сабе ахвоту і здольнасць, захоча пракласці гэтаму народу шлях да развіцця яго мовы? Хіба ж мы не абавязаны падзяліць з гэтым народам наш хлеб надзённы і хлеб духоўны? Хіба ж ёсць што-небудзь дрэннага ў чыста літаратурным сэнсе ў тым, што ў Расіі Катлярэўскі[5], а ў нас Падура[6] пісалі на маларасійскай мове? Хіба ж іх песенькі ўжо не вандруюць па ўкраінскіх вёсках і сваёй больш цывілізаванай мелодыяй не выконваюць Амфіёнавай місіі?[7]

З усёй пашанай да паважанага апанента паўтараем: на гэтай ніве працаваць можна і варта.

Але вось кніжачка пана Марцінкевіча з арыгінальнай назвай «Цікавішся? Прачытай!» (Мінск, друкарня Екеля Дворца, 1856). Складаецца яна з трох аповесцей і аднаго верша з нагоды. Мэтай гэтага артыкула з'яўляецца разбор аповесці на беларускай мове пад назвай «Купала».

Даём яе змест [...].

Пачынаецца яна сельскай сцэнкай. «Сонца заходзіць за гару і абяцае свету ціхую ночку, бледны месяц выплывае з-за хмар, салавей у лесе выводзіць песеньку.

Гаспадары брыдуць з поля, гонячы перад сабой рабочых валоў, статак цягнецца ў вёску, дзяўчаты ўпрыгожваюць кветкамі рогі жывёлы».

У вёсцы Лошыца шумна, як у вуллі. Пасадзілі дрэўца ў полі, наклалі кучу сухога галля, гатуюць пачастунак, заклікаюць гасцей. Гэта пярэдадзень св. Яна, гэта мае святкавацца традыцыйная ўрачыстасць Купала.

Ва ўнучкі старога Апанаса, маладой Агаты, пасланай у вёску для запрашэння гасцей, спатканне ў густым арэшніку з маладым панічом. Парабак Саўка даўно патрабуе ў яе абяцанай яму рукі, але неабачлівае дзяўчо верыць клятвам паніча, аддаляе дзень шлюбу, марачы, што паніч з ёй ажэніцца.

Паніч, якога палохае гэта наіўная прапанова, раіць дзяўчыне ісці замуж, абяцаючы кахаць яе заўсёды. Дзяўчо абураецца, і хоць яе сэрца абліваецца крывёй і слёзы льюцца з вачэй, уцякае ад падступнага каханка.

А на полі кіпіць народ, узлятае полымя, паставілі стол, заслалі яго белым абрусам, хто што мае, нясе на супольны пачастунак. Гучная будзе ўрачыстасць Купалы, але застолле не распачынаецца: чакаюць кагосьці, выклікаюць яго песняй. Дзяўчаты і хлопцы, сплёўшы рукі, скачуць вакол вогнішча. Скача і бедная Агата з болем у сэрцы, з хмарай на твары. Па вясковым звычаі заігрывае з нарачоным — лупцуе яго кулаком па плячах, — аж павесялеў хлапчына. Суседзі бачаць гэтыя залёты, прадбачаць вяселле, віншуюць старога Апанаса песенькай, адпаведнай сённяшняй урачыстасці:

«Сёння ў нас Купала, Бог раскладвае вогнішча, заклікае да сябе святых, аднак няма Іллі і Пятра. Ілля пайшоў аглядаць жыта, чыё найлепшае. Найлепшае жыта Апанаса, ён будзе варыць піва, гнаць гарэлку, спраўляць для ўнучкі[8] вяселле».

Пасля гэтай цудоўнай песенькі, якую мы ахвотна пераклалі б вершам, калі б не баяліся абвінавачання ў саперніцтве з мілым, адзіным апавядальнікам народных рэчаў такога каларыту, падыходзіць з вёскі іншая грамада. Світа ўнукаў вядзе пад рукі састарэлага Халімона Накліку — сустрэлі яго з гонарам, падвялі да купальнага вогнішча, пасадзілі за стол. Стары пакланіўся, перахрысціўся, выпіў да суседа, і бяседа распачалася. Моладзь скача праз агонь, спявае, танцуе. Нарэшце заціхае бяседа, і стагадовы Халімон расказвае наступную легенду пра Купалу.

Легенда

«Было гэта пры Альгердзе[9], у часы старой Літвы; у вёсцы Рудабелка адзначалі свята бажка Лады:

Ażeby poszczęścił w komorze, w oborze.  
Aby nowożeńcom szczęśliwe słał łoże,  
Ażeby dopomógł we pszczołnej chudobie,  
Myśliwym po kniejach, rumakom przy żłobie.

*(пераклад)*

Гараць свечкі, пыхае кадзіла, усе моляцца Ладзе. Што ж гэта за тры дзяўчыны ўваходзяць у касцёл? Адна ў золаце, другая ў аксаміце, трэцяя, найпрыгажэйшая, у льняным белым убранні. Гэта князёўна, паненка і сялянка.

Бажок Лада прынёс ім шчасце — усе атрымалі мужоў.

Князёўна агідная мужу, паненка — няверная, сялянка — узор для жонак і жанчын».

Скончыў стары легенду, скончыў, як стары, бурклівай мараллю. Тады заіграла сонца, бяседнікі працерлі вочы, кожны пайшоў дахаты, той гавяду выгнаць na расе, той ідзе аглядаць ураджай — моладзь адыходзіць, спяваючы купальскія песні.

Якая ж там пара пры першых праменнях гуллівага купальскага сонца клянецца адно аднаму ў каханні? Гэта Саўка і Агата, якая з легенды старога набралася добрых уяўленняў пра высакароднае прызначэнне сялянкі і развітваецца з думкай пра паніча.

«Бог чуў яе клятву і, нібы родная маці, блаславіў яе з неба».

Гэта, бадай, старыя легенды. У гэтым творы п. Марцінкевіча (бедным па змесце, але багатым вобразамі, што сведчаць пра талент вобразнага ўяўлення аўтара) мы знаходзім яшчэ адзін доказ таго, аб чым мы ўжо гаварылі: што мова русінаў мае ўмовы для самабытнага развіцця. Аўтар выкарыстоўваў словы і факты, чужыя народнай паэзіі ў яе чыстым выглядзе, і, аднак, не злоўжыў чысцінёй мовы, не сказаў нічога, чаго б гэты народ не зразумеў. Мы раілі б толькі аўтару, каб пазбягаў паланізмаў і кніжных зваротаў, каб не прысвойваў правінцыялізмаў адной ваколіцы або парафіі ўсёй русінскай мове, каб толькі тады пазычаў чужыя словы, калі ў мове, на якой піша, не знойдзе ёй уласцівых (што абазначае, напр., лакоце — łakocie замест прысмакі)[10], каб не прысвойваў народу чужых яму ўяўленняў. Што, напрыклад, абазначае ўспамін Альгерда ў мінскай правінцыі, якая хоць і належала да Літвы, але кіравалася намеснікамі, не досыць шчыльна была злучана з метраполіяй і не магла ў паданнях перахоўваць імёны яе пануючых князёў. Тым больш гэта шакіруе побач з урачыстасцю чыста славянскага бажка Лады і ў вуснах Халімона, які, пэўна, не чытаў ні «Хронікі» Стрыйкоўскага, ні «Гісторыі» Нарбута[11].

Нарэшце, заўвага, якую мы раілі б п. Марцінкевічу сур’ёзна прыняць да сэрца. Бог не ўкладвае без мэты ў нашы галовы і сэрцы любві і таленту да якой-небудзь галіны ведаў. Ён мае адносна нас і нашага прызначэння свае мэты, якія мы павінны выканаць. Паэзія народная, русінская, з’яўляецца арэнай п. Марцінкевіча — няхай ён трымаецца на ёй, як сапраўдны гладыятар.

Цэзар… горды Юлій Цэзар… дыктатар Рыма, сталіцы свету, праязджаючы праз убогую вёску і прыпомніўшы грознага ў Рыме саперніка Пампея, сказаў гэтыя памятныя словы: «Жадаў бы я тут быць першым, чым у Рыме другім».

# ВАЛОЖЫН — МЯСТЭЧКА Ў АШМЯНСКІМ ПАВЕЦЕ

На самым краі гарызонту, дзе ўзнеб'е цалкам сыходзіцца з зямлёю за далёкім лесам, дзе ўжо канчаецца свет, наглуха забіты дошкамі, за 15 з лішнім міляў ад Вільні ляжыць у Ашмянскім павеце мястэчка Валожын. Яго геаграфічнае становішча такое, што ён знаходзіцца на паўднёвым усходзе ад Вільні і Ашмян на 54°6' паўночнай шыраты і на 44°11' усходняй даўгаты. Калі ехаць ад Вільні і ад вёскі Славенская, па-за маляўнічымі глiністымі ўзгоркамі Валожын паўстае досыць велічна ў глыбокай даліне, свеціць мурамі і больш абяцае, чым ёсць на самай справе.

Выгляд яго здалёку даволі маляўнічы, але каб даць ацэнку той мясцовасці, на якой ён ляжыць, трэба ехаць зусім з процілеглага боку, з боку Міра, рэк Нёман і Сула, мястэчкаў Камень або Івянец. За тры мілі ад Валожына, ад карчмы Руды ўязджаеш у сасновую пушчу, глухую, аднастайную, дзе рэдка чалавека, а часцей воўка, мядзведзя або лася сустрэнеш, дзе пару карчомак, адна ці дзве вёсачкі нагадваюць, што знаходзішся ў заселеным краі. Дзе-нідзе лес радзее і праглядвае парослая буйнай травою дрыгва, што й вокам не акінуць. Дзіка чамусьці і страшна тут для вока і вусцішна на душы, але на паўдарозе лес становіцца весялейшы, і дзе-нідзе праз аднастайныя сосны пачынае праглядваць разложысты дуб, бяроза, ляшчына і духмяная чаромха. Па доўгім мосце перад вёскаю Яцкава пераязджаеш раку Палачанку, якая, не вельмі далёка адсюль беручы пачатак, звілiста цячэ да Нёмана і ўпадае ў яго за Дзяляцічамі. Па ёй плывуць драўляныя плыты, везучы да Балтыкі лясны тавар гэтых ваколіц, па абодвух яе баках у кустарніках спяваюць птушкі, дзе-нідзе рыкаюць на пашы чароды кароў, аднак трэба быць вялікім прыхільнікам дзікай прыроды, каб палюбіць гэты лясны край, балоцісты, бязлюдны, заўсёды далёкі і нават паштовым гасцінцам не звязаны з астатнім светам. Не кажучы ўжо пра вясковы люд, у тутэйшай ваколіцы ёсць сядзібы і вельмі добра забудаваныя сядзібы, а ў іх ёсць людзі, і як тыя людзі могуць жыць, ніколі не атрымліваючы газет, лістоў, нават звестак ад свету, бо нават іерусалімскія чуткі праз трэція вусны не часта даходзяць праз гушчары лясоў і дрыгву балот. Шкада іх шчыра, калі яны адчуваюць той недахоп. Але ў гаспадарчых адносінах гэты край павінен быць выдатны. Глеба між лясоў і ў гарах цудоўная, добрых лугоў багата, вады хапае. Акрамя меншых рэк, такіх, як Каменка, Волка, Валожынка, Пурвіла, дзве сплаўныя ракі Бярэзіна і Ісляч перасякаюць гэты край. Люд, хоць і жыве ў сціплых хатах і апранаецца ў сціплыя

шэрыя сярмягі і аблавухія шапкі, хоць і не вызначаецца высокай інтэлігентнасцю і, як усюды ў гэтым краі, трохі схільны да падхмялення, пад добрым панам заможны, бадзёры, здаровы, ахвочы да працы і рэлігійны. Такую характарыстыку даюць яму капланы, найбліжэйшыя сведкі і вартаўнікі яго маральнасці*. Чаго ж яшчэ хацець ад люду?

Калі выязджаеш нарэшце з лесу, святлее ў вачах, весялее на сэрцы. Калі глянеш налева, бачны ўвесь абшар тае пушчы; погляд губляецца ў сіняй пасме лесу, на бясконцым выгане, на якім мноства стагоў сена, як зорак на небе, сведчыць, што тут павінна быць добра быдлу і прыбыткова яго ўладальніку. Па стромых гарах, як па хвалях, едзеш яшчэ паўмілі да мястэчка, дарога выдатная, шырокая, абкапаная равамі, абсаджаная маладымі дрэвамі, сведчыць, што тут дбаюць пра грамадскую карысць, хоць грамадскасці няма. Фальварак пры дарозе драўляны, але прыгожа забудаваны, вялікая стадола красамоўна даводзіць, што гэтыя глiністыя ўзгоркі даюць заможнасць людзям, якія іх урабляюць, што жыхару вёскі і шляхецкай гаспадаркі напэўна не шкада далейшага свету і яго насельнікаў, калі прырода так добра адпавядае яго надзеям, калі зямля разумее заглыбленне плуга і праезд бараны і адклікаецца на пачцівыя і ахвочыя да працы рукі сялян.

Узбіраючыся з узгорка на ўзгорак, бачым уперадзе праваруч цвінтар з нядаўна закончаным прыгожым гатычным касцёлам, і адразу самое мястэчка маляўніча адкрываецца перад вачыма. Сасновыя жыдоўскія дамкі пахаваліся ў прадонне даліны, а віднеюцца муры палаца з вялікім садам і аранжарэяй, а таксама цудоўныя муры касцёла і пабернардынскі кляштар.

Валожын — сталіца так званага тутэйшага графства або ўласнасць графа Яна Тышкевіча, які мае ў ваколіцы некалькі фальваркаў, больш за дзесяць вёсак з насельніцтвам да чатырох тысяч мужчынскіх душ. Клапатлівы дзедзіч, відаць, меў на ўвазе становішча сялян, калі перад наступленнем права аб распрыгоненні люду на 843 хаты, што складаюць агульную масу ўласнасці, 560 былі ўжо ачыншаваны, і, як можна бачыць

---

* Сведчанні пра характар люду, як і матэрыялы для апісання касцёла, мы пачарпнулі з рукапіснай парафіяльнай хронікі. Такія хронікі, перапісаныя плябанамі паводле жадання епархіяльнага начальства на аркушы ў 1848 і 1849 гадах па ўсёй Віленскай епархіі, знаходзяцца цяпер у Віленскім музеі.

з афіцыйных крыніц, колькасць рабочай сілы і памер чыншу знаходзяцца ў адпаведнасці.

Мястэчка Валожын, што налічвае цяпер 1535 жыхароў муж(чынскіх) д(уш), большай часткаю жыдоў, цяпер уласнасць графа Яна Тышкевіча, а раней належала князям Валожынскім*, у 1500 годзе было ўласнасцю Альбрэхта Гаштольда, ад яго перайшло да Радзівілаў, ад іх у 1614 годзе набыў яго Аляксандр Служка, староста рэчыцкі, далей паводле тастаментнага запісу яно перайшло ў 1711 годзе да фельдмаршала Флемінга, пасля да Панятоўскіх у 1721 годзе, затым да Чартарыскіх у 1738-м, нарэшце, у 1803-м набылі яго графы Тышкевічы**.

Самое мястэчка мала варта таго, каб яго аглядаць; тры ці чатыры карчмы, два ці тры мураваныя дамы, некалькі драўляных крамаў, дзе прадаюць толькі тыя прадметы, якія патрэбны земляробу або адпавядаюць сціплым запатрабаванням вясковай сялянскай нявесты; драўляная царква, мураваная сінагога, некалькі рамеснікаў-жыдоў, сярод якіх нават майстры гадзіннікаў, пару прыстойнейшых дамоў, як, напрыклад, дом доктара, — вось і ўсё, што трапляе на вока. Мястэчковая гразь не належыць да асаблівасці, а тлумнае снаўданне ізраільцянаў зараджае пытанне, чым гэтая грамада без крыніц гандлю і промыслу можа харчавацца. Корчмы і шынкі не гучаць п’яным жыццём, бо тут сялянам не дазвалялася заходзіць у гасподу. Гандаль у нядзелю адбываецца тут нейк цішэй, чым у іншых нашых мястэчках; сяляне прывозяць на продаж збожжа, часам сена, калі-нікалі

---

* Гл.: Baliński M., Lipiński T. «Starożytna Polska». T. 3, s. 250. Род Валожынскіх сёння ўжо згаслы.

** Тут маем пацверджанне, як небяспечна часам верыць друкаванай кнізе. У парафіяльнай хроніцы, пра якую мы гаварылі вышэй, ксёндз Л. піша так: «Тое яшчэ варта ўспаміну, што *з паданняў старых людзей вядома* (??) і пра што сказана ў працы пад назваю «Успаміны старога шляхціча», выдадзенай у Вільні, бо гонар для гэтай мясціны, што Станіслаў-Аўгуст, кароль польскі, у Валожыне нарадзіўся. Аднак яго тут не хрысцілі». Аўтар «Успамінаў старога шляхціча» любіць часам забаўляцца гістарычнай імправізацыяй (як, напрыклад, твораць трынітары за сто з лішнім гадоў да заснавання іх ордэна ў Кракаўскім замку), а Станіслаў-Аўгуст нарадзіўся, як вядома, не ў *Валожыне,* а ў *Волчыне,* пад Брэстам-Літ(оўскім) д(ня) 17 студзеня 1732 года. Аўтар хронікі *падання старых людзей* не чуў, але пацвердзіла яго ў працытаванай памылцы тое, што Валожын належаў калісьці Панятоўскім.

дрэва на апал, бо яго жыхары павінны купляць у двары — так, прынамсі, было колькі гадоў таму, калі я часта праязджаў тут.

Валожын славіўся вядомым у Ізраілі сваёй навукаю, набожнасцю і дабрачыннасцю рабінам, што памёр гадоў дзесяць назад. Я пазнаёміўся з яго сынам, чалавекам увогуле адукаваным, і агледзеў бібліятэку слаўнага рабіна, складзеную са старажытнаяўрэйскіх і нямецкіх кніг.

Прыгожы, з афіцынамі, стайняй, аранжарэяй і садам, мураваны палац цудоўна аздабляе мястэчка, але самая выдатная яго аздоба — касцёл і кляштар пабернардзінскі на рынку.

Над прыземленым мястэчкам, якое, здаецца, кленчыць перад яго веліччу, свецяць яго цудоўныя муры. Не ўздымаюцца, не ўзлятаюць у неба яго вежы, бо гэта святыня ў гусце васямнаццатага стагоддзя, калі алоўкам архітэктара кіравала не набожнасць, а захапленне грэцкім хараством. Нагадвае віленскую катэдру, толькі што няма бакавых капліц. Франтон надзейна трымаецца на шасці філярах, паміж якімі чатыры велізарныя гіпсавыя фігуры евангелістаў. Над вялікімі дзвярыма на мармуровай табліцы чытаем залатымі літарамі: «offerimus praeclarae Majestati Tude, de Tuis donis ac datis. Anno Dui 1813 septembris 17».

Фундатарам Валожынскага касцёла ў 1661 годзе быў Юзаф Багуслаў Служка, тады маршалак надворны літ(оўскі), потым кашталян віленскі і гетман польны літоўскі, які памёр у 1702-м*.

Першапачатковы касцёл і кляштар на сямнаццаць манахаў былі з дрэва. У пазнейшых перыпетыях Валожына падумвалі пра больш адпаведную пабудову. Пажар у 1815 годзе паскорыў стаpанні, бо знішчыў стары касцёл, спаліў большую частку кляштара, яго архіў, бібліятэку і прымусіў бернардзінцаў звярнуцца па дапамогу да хрысціянскіх душ.

Такі зварот ніколі ў нас не быў безвыніковы і бясплённы, асабліва калі на чале дабрачынцаў стаў заможны і набожны дом Тышкевічаў. За дзевяць гадоў касцёл быў змураваны і забяспечаны рыштункам, назбіраным з розных бернардзінскіх касцёлаў, на сродкі нейкага Радынскага ў ліцейшчыка Готліба Феера Абэнда ў Вільні былі куплены два званы, адзін дзесяці-, а

---

* Памыляецца п. Барташэвіч у жыцці гэтага Служкі («Tygodnik Illustrowany», т. IV, s. 62), сцвярджаючы, што ў 1683 г. ён не быў яшчэ маршалкам літоўскім, хіба што перад самым ведэньскім паходам, бо ўжо ў 1681 падпісваўся маршалкам на фундацыі валожынскага касцёла. Сейм у 1690 пацвердзіў гэтую фундацыю — гл.: Volumina legum, t. V, s. 828.

другі трохпудовы. Унутры касцёл прыўкрасна аздоблены. Бачна заможная рука і клапатлівая ахвота фундатара, бачна любасць да гэтай святыні і стараннасць капланаў, якія яе ўтрымліваюць.

Хоры па-за вялікім алтаром, драўляныя, пафарбаваныя ў цёмнае, накладваюць сур'ёзны адбітак на ўвесь касцёл; добры, на 27 галасоў арган, не псуе, як дзе-нідзе бывае, урачыстага ўражання. Вялікі і чатыры іншыя алтары, упрыгожаныя разьбою і ляпнымі аздобамі Пульмана. Абразы пэндзля Вайтовіча*. Наколькі памятаю, найлепшы з тых абразоў — абраз св. Банавентуры ў кардынальскім адзенні, акружанага ксяндзамі, потым св. Юзаф і св. Ганна. Абраз св. Юрыя, як звычайна яго малююць, на кані, які над алтаром справа, пазнейшай, відаць, рукі, што выяўляе свежы каларыт. Задума абраза здзіўляе і смешыць пры сур'ёзных уражаннях, якія пакідае ўся святыня. Так, св. Юрый, акрамя зброі, поўная копія вядомага абраза Давіда, калі Напалеон I пераходзіць Альпы. Тая ж самая поза не толькі постаці і каня, але нават згрупаванне скалаў. Гэта ўжо занадта наіўна.

Знакамітай аздобаю касцёла з'яўляецца ўмураванае ў сцяну надмагілле фундатара гэтай прыгожай святыні Юзафа Ігната Тышкевіча, якое ўдае знакаміты разец мастака. Анёлак трымае мармуровую табліцу, у версе якой спачывае ўзброены чалавек, акружаны арматураю, а ніжэй залатымі літарамі высечаны надпіс: «ДОМ яснавяльможнага Юзафа Ігната, графа на Лагойску і Бярдычаве, дзедзіча на Біржах, Дубінках, Валожыне… Тышкевіча, старасты вілятынскага, палкоўніка Нацыянальнай Кавалерыі, кавалера ордэнаў Белага Арла і Святога Станіслава, сіндыка Апостальскага вялебных ксяндзоў бернардзінцаў Мінскага канвента»…

Пад хорамі знаходзіцца скляпенне, а ў ім труны фундатараў і алтар, на якім у пэўныя дні адбываецца імша.

Кляштар невялікі, але зручны, змяшчаў келлі амаль на два дзясяткі манахаў. Перад пажарам меў ён большую бібліятэку, пазней яго навуковы збор ледзь узнімаўся да пары соцень аскетычных кніжак, што засталіся пасля смерці братоў. Да сціплых

---

* Гэты мастак быў вучнем Рустэма, памёр у Валожыне ў мастакоўскай беднасці. Я набыў у Валожыне ў жыда п. Рабіновіча дзве нядрэнныя гістарычныя карціны яго здольнай рукі. Адна ўяўляе сцэну Хшаноўскай у Трэмбоўлі, другая — сейм пры Жыгімонце III, сцэну Жыгімонта з Замойскім («Каролю, не рвіся да зброі»). У абедзвюх кампазіцыя жывая, выкананне паспешлівае, малюнак часам няўдалы ці не папраўлены. Бедны мастак пакінуў свае карціны і не выкупіў.

успамінаў свайго кляштара, айцы бернардзінцы лічылі, што ў іх канвенце неаднойчы адбывалася манаская капітула і што апошняя манаская капітула адбылася тут у 1842 г., што ад свайго пачатку ажно да 1838 года яны трымалі навучанне клерыкаў, што, нарэшце, тут скончылі жыццё два заслужаныя старцы Стафан Ялавецкі, экс-правінцыял, і Герард Батранец, юбіляр, абодва праслаўленыя навукаю і казанню. Апошні з іх быў асабліва дабрачынны. Абодва гэтыя айцы спачываюць у фундатарскіх скляпах.

Апошнім настаяцелем тутэйшым быў кс. Дамінік Лятукевіч (з хронікі якога мы пачарпнулі колькі звестак), каплан дзіўнай сціпласці і прыемнасці. Пасля яго скону бернардзінцы выбраліся адсюль праз сто семдзесят восем гадоў свайго тут знаходжання, а касцёл і парафія перайшлі пад уладу свецкага духавенства.

*1861*

## ПРАЦЫ ВІНЦЭНТА ДУНІНА-МАРЦІНКЕВІЧА[1]

Адразу пасля выхаду кожнай больш выдатнай працы Марцінкевіча мы давалі справаздачу аб ёй у «Gazecie Warszawskiej», лічачы творы народнага паэта феноменам, вартым увагі з таго менавіта погляду, што Марцінкевіч, першы ўзяўшы ў свядомыя рукі беларускую дуду нашага народа, здабыў з яе песню, якую народ зразумеў, а хатняе рэха паўтарыла. Адразу пасля выхаду нашых рэцэнзій у «Gazecie» высакародны і вельмі намі шанаваны п. Францішак Скібіцкі, камергер і член сената Каралеўства Польскага, зрабіў пад літарай Y у гэтай жа «Gazecie» папрок, што ён лічыць непатрэбным раздрабленне дыялектаў славяншчыны і ўзняцце іх да пісьмовай апрацоўкі, што дапускае ў славяншчыне толькі чатыры галоўныя падзелы моў: руская, польская, чэшская і сербская (ці, здаецца, ілірыйская), што мова беларусаў як сапсаванне польскай мовы не заслугоўвае літаратурнай апрацоўкі. Мы меліся з гэтага выпадку адказаць, выпісваючы нашы супрацьлеглыя перакананні, аднак, перш чым гэта адбылося, спаткала нас прыемнасць пазнаёміцца ў Варшаве з паважаным апанентам, які, выслухаўшы нас, зрабіў ласку згадзіцца з некалькімі нашымі заўвагамі. Сапраўды, гаворачы агульна, на велізарнай славяншчыне толькі адна мова. Калі б мы пешшу, з кіем пілігрыма прайшлі ўвесь яе абшар, ад вёскі да вёскі, услухоўваючыся ў гукі мовы, то не заўважылі б тых

тонкіх змен, якія адбываюцца на кожным кроку, а прайшоўшы з дзясятак міль, убачылі б са здзіўленнем сябе ў акружэнні зусім іншай гаворкі і, нарэшце, сярод цалкам асобнага дыялекту славянскай мовы. Адна мова на такім велізарным абшары, ад Белага да Адрыятычнага мора, мусіла непазбежна разгалінавацца дастасавальна да геаграфічных умоў, уплыву суседніх плямёнаў, нават неславянскіх. Калі мы дапусцім, што галоўныя галіны супольнага роду мовы могуць і павінны фарміраваць кожная ў сабе пісьмовую літаратуру, то ў гэтай прэрагатыве ні ў якой меры нельга адмаўляць мове тутэйшага народа. Русінская мова[2] са сваімі галоўнымі разнавіднасцямі бела- і чарнарускай (крывіцкай), а таксама маларускай і галіцыйскай столькі мае падабенства да польскай ці чэшскай моў, колькі твары братоў, хоць падобныя, аднак зусім розныя характарам сваёй фізіяноміі. Гэта мова народа Літоўскай Русі тым больш заслугоўвае назвы асобнага дыялекту, што як галіна русінскай мовы мела сваю багатую мінуўшчыну. У Літве пры Альгердзе і Ягайле яна была афіцыйнай і рэпрэзентацыйнай мовай двара, пазней стала афіцыйнай мовай спраў і актаў, пасля пакінула каштоўны пісьмовы помнік, Статут літоўскі, а таксама колькі кніжак і казаняў з часоў рэлігійных палемік. Ужывалася на сеймах, хоць тут, здаецца, апошняе яе слова прагучала разам са слаўнай прамовай шаноўнага Мялешкі[3] пры Зыгмунце III[4]; аднак яшчэ ў часы Яна-Казіміра яна была мовай прыватнай карэспандэнцыі, доказам чаго служыць пісьмо Цырыяка Камунякі да Абуховіча[5]. Выцесненая потым з афіцыйнай арэны латынню і польскай мовай, якая засталася ў хатах, крытых саломай ці дранкай, у сваёй спрадвечнай чысціні.

Шчаслівейшая за сваю бела- і чарнарускую сястру мова маларусаў, хоць ніколі не была афіцыйнай мовай, знайшла ў сабе, аднак, сілы на больш багатыя праявы. Паэтычнае і свабоднае казацтва стварыла на ёй рыцарскую песню; а калі і яна адгучала, водар паэзіі разносілі па вёсках лірнікі, па дварах — бандурысты, па палях і стэпах — вясковыя жанчыны, што жалі залатую пшаніцу. Уяўленне, раскалыханае цёплым кліматам і яшчэ цяплейшымі ўспамінамі, нарадзіла такія цудоўныя творы, што, калі прыйшлі натхнёныя пісьменныя паэты, каб замацаваць мову на паперы, яны толькі асцярожна бралі нібыта жыўцом яе хараство, пераносячы на ступень, больш даступную выхаванаму вуху. Чулліва прынята гэта праца.

Іншую, больш сумную долю мела беларуская мова, якая пайшла на выключны ўжытак народа, бо і ўмовы жыцця гэтага

народа былі іншыя. Паселены на пясчаных пагорках, на балотах або ў цёмных лясах, не зведаў ён ніколі лепшай долі. Калі бадзёры ўкраінец хіліў чарку, каб яшчэ болей падвесяліць вясёлае сэрца для мужнасці або песні, збяднелы беларус бяздумна браў таксама чарку гарэлкі […] піў яе, каб забыцца пра бяду, а калі ў яго цямнела ў галаве, як у яго курнай хаце, адважваўся, нарэшце, на песню, сумную словамі і матывам, як шум баравой сасны, як енк ветру ў коміне. Жняя на моргу не мела ахвоты спяваць, бо гэты морг не даваў ёй натхнення, бо быў або неўрадлівы, або чужы. Змізарнела фантазія народа, а свет яго дзеяння быў такі маленькі, што селянін не адчуў бы нават патрэбы ў асвеце, калі б меў да яе больш лёгкія сродкі, пра якія, зрэшты, ніхто са старэйшых братоў не клапаціўся. Багатая некалі яго мова закасцянела ў застоі, перастала ўзбагачацца, а тыя, хто намагаўся замацаваць яе на пісьме і тым самым заахвоціць народ да кніжкі, мусілі змагацца з не адной цяжкасцю. Няшмат можна налічыць гэтых працаўнікоў добрай і разумнай волі. Р. Зянькевіч[6] сабраў і перанёс на паперу песенькі пінскага люду, высакароднай памяці Я. Чачот, робячы тое ж самае для люду з-над Нёмана і Дзвіны, у сваёй прадмове накідаў навуковы фундамент граматыкі крывіцкага дыялекту. Нарэшце, Вінцэнт Марцінкевіч сам пачаў пісаць на мове беларускага народа, у яго духу і пра яго. І міла нам даведвацца, што яго словы ўдзячна адбіліся ад крытых дранкай беларускіх стрэх. Марцінкевічу належыць заслуга, што літоўска-рускі[7] народ, зацікавіўшыся даступнымі яму аповесцямі, распаляе чужую для яго ахвоту да чытання.

Працам пана Марцінкевіча мы не прысвячаем цяпер разбору, а толькі агляд. Мы ацанілі іх некалькі гадоў назад з сумленным перакананнем у іх карыснасці. Будзем гаварыць перш за ўсё пра адны беларускія.

У першым паводле чаргі творы, «Вечарніцах», паэт дае нам вобраз старога Ананія, якога, хоць і быў ён бядняк, кожны шанаваў. Ананій быў вельмі стары: не хадзіў ужо ў карчму, падарыў сыну скрыпку, плёў лапці, хваліў Бога і апавядаў розныя казкі малодшым, калі тыя збіраліся на вечарніцы.

На адной з такіх вечарніц ён апавядаў аб прыгодах неабачлівага селяніна, які, будучы п’яным, праз памылку на закуску пасля гарэлкі разам з селядцом з’еў 5-рублёвую асігнацыю. На другой вечарніцы — пацешны анекдот пра мужыка, якога мясцовыя жартаўнікі, згаварыўшыся ўпяцёх, змістыфікавалі, што замест пеўня ён прынёс на рынак зайца, так што падмануты мужык, думаючы, што знаходзіцца пад уплывам чараў,

кінуў свой тавар. На трэцяй сходцы расказвае моладзі паданне пра Лагойскі замак і пра князя Грамабоя, што панаваў у ім колькі сот гадоў назад. Пра сялянскую сям'ю: як падчарыца Кацярына з'яўляецца прадметам праследавання, а дачка Марфа — пяшчоты ў Параскі, другой жонкі гаспадара, [як] Даніла меў звычай адзначаць дахрысціянскі абрад Стаўроўскіх дзядоў, як на закляцце гусляра з'явіліся ў доме два міфічныя сабакі Стаўры і Гаўры, прыносячы Кацярыне абраз Лады, славянскага бажаства, як зайздрослівая мачаха аддае гэты абраз сваёй дачцэ, як Грамабой, будучы на паляванні, прысніў старога, што вёў найпрыгажэйшую дзяўчыну, як пасля адкрыцця, што гэта стаўроўская дзяўчына, ён загадвае сабрацца ўсім дзяўчатам таго сяла, пытаецца, хто з іх мае падарунак ад сабак Стаўра і Гаўра, і, адчуўшы гідлівасць да брыдоты Марфы, якая паказвае яму падарунак, загадвае яе пакараць смерцю, як гусляр адкрывае, што гэты падарунак быў прынесены Кацярыне, як, нарэшце, князь Грамабой жэніцца з Кацярынай.

Уся гэта легенда мае афарбоўку нашага народа; можа, нават спісана з народнай казкі, але пры спісанні згладжаны ў ёй прывідныя рысы аўтэнтычнасці. Чаму князь называецца паязычніцку Грамабоем, калі іншыя асобы маюць хрысціянскія імёны? Што робяць сярод хрысціян язычніцкія казляры і гусляры? Чаму міфалагічныя сабакі адзін раз дораць абраз Лады, а другі раз крыжык? Чаму народ запомніў імёны Грамабоя і, што яшчэ горш, Вітаўта (князь Віт), калі, апавядаючы паданні, народ звычайна забывае імёны спрадвечных герояў, не ўвекавечаныя на месцы назвай якога-небудзь горада, вёскі, урочышча ці каменя. Тут кніжныя рэмінісцэнцыі хутчэй псуюць, чым узнімаюць ілюзію.

Змест другога твора, «Гапона», можна пераказаць коратка. Аканом кахае сялянку Кацярыну, кахае яе таксама малады парабак Гапон. Аканом вырашае здаць саперніка ў рэкруты, тым больш злы на яго, што Кацярына абвінаваціла яго [аканома] перад паняй. Аканом апраўдваецца перад легкавернай паняй, якая згаджаецца здаць Гапона ў рэкруты, але бярэ Кацярыну ў двор і загадвае вучыць яе чытаць і пісаць.

У трэцяй песні «Гапона» паўстае карціна рэкруцкага набору, але праз некалькі ўжо гадоў. Шляхце загадана давесці свае правы. Несумленны аканом, не маючы магчымасці прадставіць папераў аб высакародным паходжанні, вымушаны запісацца ў так званыя аднадворцы. Бяруць яго ў рэкруты, ставяць да набору. Багаты аканом падкупіў доктара, доктар сведчыць пра яго

хваробу, павятовы маршалак згаджаецца з яго меркаваннем, аканом павінен быць вызвалены, але афіцэр, прысланы прымаць рэкрутаў, знайшоўшы здароўе аканома выдатным, рост дастатковым, загадвае прыняць рэкрута, беручы яго пад сваю адказнасць. У гэтым афіцэры аканом пазнае здадзенага некалькі гадоў назад у вайсковую службу… Гапона, які пазней жэніцца з Кацярынай.

Нягледзячы на чыстую беларускую мову і паасобныя вобразы, смела і па-майстэрску накрэсленыя, мы не можам пахваліць «Гапона». Сёння зусім несвоечасовым з'яўляецца падаграванне старой непрыязні паміж грамадскімі класамі. І калі, з аднаго боку, мы не верым, каб усе аканомы былі такія злыя, як апісаны аўтарам, то, з другога, нават не дапускаем, каб Гапон, дзіця сумленнага нашага народа, зрабіўшыся ўжо афіцэрам, мог хаваць на дне сэрца брыдкую помсту. Наколькі ведаем гэты наш народ, мы ўпэўнены, што Гапон у такім разе стаў бы натуральным апекуном і абаронцам свайго ворага. Навошта аўтар крыўдзіць высакародныя пачуцці народа, наконт якіх (я ўпэўнены) ён сам прытрымліваецца іншага пераканання?

Мы маем цяпер доказ, што пясняр народа п. Марцінкевіч верыць у яго вышэйшыя дабрачыннасці. Так наступная публікацыя пад назвай «Цікавішся? Прачытай!» змяшчае аповесць на беларускай мове «Купала», якая міла чытаецца.

Рух у вёсцы, а потым усё жывое кіруецца ў даліну каля карчмы; моладзь складвае ў кучу сухое галлё. Заўтра дзень святога Яна; народ адзначае традыцыйнае свята Купалы, гаспадынькі завіхаюцца каля печыва, гаспадары робяць неабходную няшчасную гарэлку. Усе ва ўрачыстым настроі, толькі маладая Агатка, прыгожая, як маліна, у трывозе прычэсвае валасы, уплятае стужку ў касу, надзявае зялёны гарсэцік і ўпотай выбягае з хаты.

У блізкім альшэўніку нешта шалясціць, дзяўчына ўздыхнула, калі паўстаў перад ёй гожы хлопец; на ім зялёная чамарка, шапка з сівым баранчыкам.

— Галубка дарагая, — кажа ёй, — мая ненаглядная пяшчота! Як жа доўга прымусіла ты сябе чакаць! Хіба цябе сцярог бацька або сярдзітая маці?

— У мяне добрыя бацькі, — адказвае яна, — яны мяне не вартуюць, толькі Бог ахоўвае і добрыя людзі, якія гавораць, што на апошнім судзе Бог будзе караць неразважлівых дзяўчат. Тое ж і ксёндз-дабрадзей паўтарае.

— Што з табой, што ты стала такой халоднай? — пытаецца паніч. — Ці табе апрыкрала маё каханне, ці твой каханак Саўка, хам, пся вера, адмовіўся ад цябе?

— Не выдумляй, пане, на Саўку, ён, бедны, сумуе, ходзіць за мной, плача і моліць, каб я ішла з ім да шлюбу. Калі б я цябе не кахала, панічок, была б з ім шчаслівая. Сёння забылася пра яго, забылася пра Бога, баюся… панічок, што зняславіш мяне, бацькі праклянуць, а свет будзе мной пагарджаць.

— Я мог бы цябе зняславіць? Перастаць кахаць… не! Богам клянуся. Ведаеш што, любая? Ідзі за Саўку, будзеш замужняй, злыя плёткі змоўкнуць… а мы як кахаемся, так і будзем кахацца навекі.

На гэтыя словы дзяўчына задрыжала, нібы асіна, цяжка ўздыхнула, заламала рукі, заплакала, глянула з папрокам на паніча і так яму сказала:

— Да чаго ж я, няшчасная, дайшла, што мушу слухаць падобныя словы, Бог карае мяне за легкадумнасць, панічу хочацца забавы, а не шлюбнага абраду.

— Што з табой, Агатка? Ты п’яная ці звар’яцела? Ці выпадае, каб я, шляхціч, жаніўся з мужычкай, мяне б затыцкалі пальцамі.

— А хіба мае не выракуцца мяне, хіба бацькі не праклянуць, калі з табой буду жыць у сораме… Вам нічога не каштуе здзекавацца з селяніна! Дзякую табе, паніч, за тваё каханне, аддаю перавагу Саўку, хоць ён і селянін, а шчырым сэрцам кахае мяне.

Так яна адказала, хоць слёзы каціліся ў яе градам, хоць сэрца білася молатам, а на душы ляжаў цяжкі камень… Пайшла, сціскаючы ў грудзях збалелае сэрца.

Мы цалкам пераклалі гэту поўную праўды сцэнку, каб паказаць узнёслыя пачуцці народа і разам з тым апраўдаць п. Марцінкевіча, што ён так дрэнна пра яго не думае, як гэта быццам бы выказаў у «Гапоне».

Калі гэта адбываецца, абрад Купалы ідзе сваёй традыцыйнай чаргой. Грамада сабралася, полымя выбухнула, ставяць сталы пад дрэвамі, засцілаюць іх белымі абрусамі і застаўляюць іх складчыннай ядою. Кагосьці яшчэ няма, заклікаюць марудлівага звычайнай песняй «Сонца прыпякае, калода парыцца, сонца паліць, калода пацее». Дзяўчаты, узяўшыся за рукі, акружаюць Купалу і ахвотна скачуць, ажно пот ліецца. Другая іх грамада, і ў ёй Агатка, хоць на яе твары сум, жартуе з Саўкам і паводле вясковага этыкету б’е яго кулаком па плячах, ажно хлопец павесялеў. Старыя, падміргваючы, віншуюць яе з пераменай, а маладзейшыя замужнія жанчыны не вытрымалі і спяваюць: «Сёння ў нас Купалле, сам Бог агонь раскладае, толькі няма Іллі і Пятра. Ілля пайшоў аглядаць жыта, чыё лепшае; у Апанаса лепшае жыта, бо яму час гнаць гарэлку — выдае дачку замуж».

Якую ж там грамадку відаць здалёку? Гэта Халімон Накліка са сваёй сямейкай — праўнукі вядуць старога пад рукі, за ім ідуць сыны, за сынамі — унукі. Дзед ледзьве перастаўляе ногі; твар яго пасінелы, кроў быццам застыла; пражыў ён гадоў сто. Усе пабеглі яго сустракаць, вядуць да вогнішча, саджаюць за стол. Дзядок пакланіўся, перажагнаў дар Божы і чарку гарэлкі выпіў да суседа.

Зноў закіпела бяседа, чаркі кружаць, дзяўчаты скачуць праз агонь, не адна апячэцца, а полымя ледзьве не хапае вопратку. Сябры абступаюць елку, бяруцца за рукі і спяваюць:

«Цераз гару ідуць тры сцежкі, трыма сцежкамі ідуць трое дзяўчат, адна ў золаце, другая ў аксаміце, трэцяя з розумам; золата можна пазычыць, аксаміт можна купіць, але розуму не здабудзе той, у каго яго няма».

Калі ўсе змарыліся, грамада пакланілася дзеду ў пояс, просячы, каб ён расказаў што-небудзь з даўнейшых падзей. Стары пагладзіў бараду, пасадзіў каля сябе ўнукаў, адкашляўся і пачынае апавядаць маўклівай грамадзе.

Аповесць старога з'яўляецца ўжо прэтэнцыёзнай, яна павінна расказваць пра тое, што было дзесяць сотняў год назад; памяць народа так далёка не сягае, а чарнарус у сваіх апавяданнях не ўжывае выразу «Літоўская ніва» і не ўспомніць дзяцей Альгерда. Навошта гэтыя нацяжкі?

У далейшым апавяданні мы чуем, як у Рудабелцы, русінскай вёсцы, збіраецца народ у свяцілішча бажаства Лады; паляць яму агні, дымяцца кадзілы, моляцца. У свяцілішча ўваходзяць тры дзяўчыны, моладзь не спускае з іх вачэй; адна ў золаце, другая ў аксаміце, трэцяя ў белай вопратцы, бедная, але багатая розумам. Тая, што ў золаце, гэта панскае дзіця, мае выйсці за князя; тая, што ў аксаміце, бяднейшая, але знайшла вяльможнага жаніха; трэцяя, Кацярына, хоць сялянка, вартая ўладара; заручыўся з ёй Янка. Здзіўляюць нас гэтыя імёны ў часы Альгерда, а яшчэ больш здзіўляюць у язычніцкім свяцілішчы Лады.

У гэты дзень усе трое выйшлі замуж, справілі багатыя вяселлі; госці паелі, папілі і разышліся па дамах.

Жонка князя была зласлівая і прыкрая для мужа, панская жонка таксама мела свае грахі, жонка селяніна верная, ціхая, паслухмяная. Бог даваў ім дастатак, якім яны дзяліліся з беднымі, яна лечыць хворых, чары адгаворвае (бо была знахаркай), разлівае вакол сябе шчасце людзям і мае ад іх пашану. А паколькі яна любіла чысціню цела і прывыкла купацца на досвітку, людзі дзень яе смерці назвалі Купала.

Стары, які меў сто гадоў за плячыма і кілішак гарэлкі ў галаве, патрызніў сабе ў ахвоту, памыліўся ў этымалагічным вывадзе свята Купалы (не ўпершыню гэта этымолагам), скончыў гаворку сухой мараллю, затое аўтар цудоўна скончыў сваю аповесць карцінай запаленай сасны ў лесе і заручынамі Агаткі з Саўкам.

Чацвёртая, нарэшце, публікацыя, пра якую маемся цяпер гаварыць, — «Дудар беларускі». З братэрскай падзякай прымаем адрасаванае нам прысвячэнне, бо мы заўсёды, шануючы аўтара, аддавалі належнае яго добрым намаганням. Першую частку кніжкі складаюць «Літаратурныя клопаты», у якіх аўтар польскімі вершамі паказвае свае аўтарскія беды, калі з гатовым рукапісам ён шукае для яго пакупніка. Рыжабароды кнігагандляр дае яму дзесяць рублёў, і то кніжкамі, багаты паніч, які, аднак, шануе грошы, ахвярує яму патрэбную для друку суму, але пад трыццаць працэнтаў. Аўтар пагрэбаваў ахвярай і, здабыўшы дзесьці ў іншым месцы марны метал, убачыў нарэшце сваё тварэнне надрукаваным… але, на жаль, без пакупнікоў у перспектыве. Новыя перагаворы з кнігаром, каб той узяў твор на камісію, і новыя з яго боку абуральныя ўмовы.

Не ведаю, ці да месца такога роду публічная споведзь пра штодзённыя клопаты, праз якія мы праходзім. Пры сабе лепш пакінем той хлеб, слязамі паліты і попелам пасыпаны, які мы ядзім з ласкі барадатых і безбародых прыхільнікаў літаратуры! Мінуў час мецэнатаў, і добра, што мінуў, бо мы не вымушаны прымаць прыніжальную падтрымку ад прыватных асоб, услед за якой, хоць міжвольна, мусіць ісці нявольніцкая ліслівасць. Лепшай і больш ганаровай, чым апека кнігагандляроў і мецэнатаў, з'яўляецца апека, якую сукупнасць чытаючай публікі са спачуваннем удзеліць свайму выбранаму пісьменніку, апека, якую ўласна знайшоў аўтар у беларускага грамадства. Імёны, якія ён называе, належаць асобам, вядомым у правінцыі асветай і добрай воляй, спачуванне такіх людзей павінна пераканаць аўтара ў карыснасці выбранай ім прафесіі.

Няхай сукупнасць нашых грамадзян скончыць з пытаннем сваіх малодшых братоў, няхай, аб'яднаўшыся ў гандлёвыя і земляробчыя суполкі, вызваліцца […] і мы ўпэўнены, што і нас, пішучых, вызваліць з-пад апекі кнігагандляроў. Ужо сёння падтрымку літаратуры, г. зн. пакупку кніжак, публіка лічыць грамадзянскім абавязкам, але што з таго? Плацячы нечувана дорага за польскія кніжкі, яна ўзбагачае выдаўцоў, не паляпшаючы быт аўтараў. Верачы ў выратавальны дух грамадзянскай супольнасці, мы будзем цярпліва чакаць, а тым часам цешымся

з Марцінкевічам, які, зазнаўшы спачуванне на Беларусі, у вёсцы Шчарах[8] святкуе дажынкі са сваім любімым народам.

«Шчароўскія дажынкі» — гэта паэма на народнай мове. Грыпіна, стагадовая бабулька, з'яўляецца аракулам у сваёй вёсцы; да яе сходзіцца грамада; паважаныя матроны акружаюць сівую гаспадыню. Гэты арэапаг павінен выбраць дзяўчыну, якая заўтра панясе ў двор дажынкавы вянок. Умовы для гэтага гонару досыць цяжкія, таму кожная з дзяўчат павінна прайсці праз досыць клапатлівыя выпрабаванні, асабліва калі ўзяліся за варажбу з рэшатам і пеўнем. Была выбрана шчаслівая Тадора. Насупраць двара ў Шчарах стаіць маленькая хатка, жыве ў ёй Акуліна, бедная ўдава, матка выбранніцы. Тадора — прыгожае дзіця, якое ўсім падабаецца, але яна не пазбегла злога паклёпу, ад якога яе ўрачыста вызваліла варажба з пеўнем. Але вось дажынкі! У Шчароўскім двары стаіць на ганку малады любімы пан, у чорнай капоце і канфедэратцы, і слухае дажынкавую песню, якая даносіцца да яго з поля. Набліжаецца голас… Гэта плятуць вянок. Набліжаецца яшчэ, забялела, зачырванела на падворку. Гэта ідзе дажынкавы натоўп, наперадзе якога абраная дзяўчына з вянком. Зноў гучыць песня; адзін са слуг нясе на сярэбраным падносе хлеб, сыр і грошы, другі згінаецца пад цяжарам вядра гарэлкі (1860 год! гэта мусіць быць анахранізм![9]), і яшчэ песня і прамова Тадоры да пана, і пачастунак з гавяды і бараноў, і песні, песні без ліку. Заканчваецца застолле скокамі, у якіх прымаюць удзел і ўладальнік маёнтка, і войт Навум Прыгаворка, у якім пазнаём вядомую нам постаць аўтара.

Так выглядаюць пераказаныя сухой прозай «Дажынкі», трэба іх чытаць у энергічных і чуллівых беларускіх вершах Марцінкевіча, і ўспаміны маладосці святой слязой увільготняць нашы павекі.

Няхай жа аўтар не стамляецца ў сваім высакародным намаганні выхоўваць народ, няхай асвячае яму галаву, узнімае сэрца, выбіраючы надзённыя прадметы для сваіх апавяданняў, і, нарэшце… няхай не лічыць сваёй заслугай апісанне ў занадта дакладных фарбах дробязей будзённага жыцця. Не ў іх стыхія паэзіі, асабліва такой, якая мае мэтай узнімаць сельскі народ.

Пра польскія паэтычныя творы аўтара пагаворым у адным з наступных аглядаў[10].

*1861*



# КАМЕНТАР

## ВЕРШЫ

Большая частка вершаў друкуецца паводле выд.: Сыракомля, У. Добрыя весці. Мінск, 1993.

### *Добрыя весці (с. 21)*

Напісаны на беларускай мове верш быў водгукам на рэвалюцыйныя падзеі 1848 г. у Галіцыі. У 1861 г. аўтар дапрацаваў яго дапоўніў новымі строфамі. Упершыню верш быў ананімна змешчаны ў выданні «Гутарка старога дзеда» (1862).

### *Ужо птушкі пяюць усюды... (с. 22)*

Другі беларускамоўны верш У. Сыракомлі, што дайшоў да нас. Упершыню — газ. «Kurjer Litewski», 15 верас. 1912 г.

### *Пра маю старую хатку (с. 29)*

[1] *Мацісан Ф.* (1761–1831) — нямецкі паэт-лірык.
[2] *Лешка* — градка.
[3] *Даць валету* — развітацца (ад лац. vale — бывай). У даўняй польскай літаратуры валетай называлі верш на развітанне.

### *На Палессі (с. 42)*

У арыгінале верш называецца «Уражанні падарожжа на Палессе».

### *Тост у доме В. Марцінкевіча (с. 55)*

[1] *Дунін-Марцінкевіч* Вінцэнт (1808–1884) — беларускі паэт, сябра У. Сыракомлі.

### *Да Аляксандра Жалезняка пасля першага спаткання (с. 56)*

[1] *Жалязняк* Аляксандр — псеўданім Аляксандра Валіцкага (1826–1893), мінскага кнігара і літаратара, удзельніка паўстання 1862–1863 гг., біёграфа С. Манюшкі.

### *Адменнікі старых напеваў (с. 56)*

Верш складаецца з дзвюх частак. Тут падаецца толькі першая частка.
[1] *Каханоўскі* Мікалай — польскі паэт XIX ст.

### *Вінцэнту Каратынскаму пры выданні «Чым хата багата» (с. 57)*

[1] *Каратынскі* Вінцэнт (1831–1891) — беларускі паэт і публіцыст. Быў сакратаром У. Сыракомлі.

### *Да Арцёма Вярыгі-Дарэўскага (с. 61)*

[1] *Вярыга-Дарэўскі* Арцём (1816–1884) — беларускі паэт і рэвалюцыянер.

### *Гімн да Найсвяцейшай Панны ў Вострай браме (с. 62)*

Друкуецца паводле час. «Наша вера», 2009, № 2.

### *Ды найлепшыя сарматкі (с. 63)*

Друкуецца паводле час. «Наша вера», 2009, № 2.

### *Вызваленне сялян (с. 65)*

[1] *Чытаў рэскрыпт я дабрачынны цараў…* — Абвастрэнне крызісу феадальна-прыгонніцкага ладу, сялянскія хваляванні прымусілі расійскага імператара Аляксандра II (1818–1881) пачаць падрыхтоўку да адмены прыгоннага права. Праект скасавання прыгонніцтва быў выкладзены ў рэскрыпце цара 20.11.1857 віленскаму губернатару У. І. Назімаву. Але з’езд беларускай шляхты ў 1858 г. у Вільні не падтрымаў план замены паншчыны чыншам як першы крок да вызвалення сялян ад прыгонніцтва, што і абурыла «вясковага лірніка».

[2] *Зыгмунт* (Жыгімонт) *Аўгуст* (1520–1572) — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага і польскі кароль, які зацвердзіў Статут ВКЛ і садзейнічаў правядзенню валочнай памеры ў Беларусі.

### *Эпітафія землеўласніку D. O. M. (с. 77)*

[1] D. O. M. — скарочанае лацінскае Deo Optimo Maximo (Богу найлепшаму, найвышэйшаму) — надпіс на даўнейшых магільных скляпах.

### *Што ўмею намаляваць (с. 78)*

[1] *…поруч з бацькам хацеў бы я легчы…* — Бацька паэта пахаваны ў Рукойнах, недалёка ад Барэйкаўшчыны, мястэчку на Віленшчыне.

### *Авідзій на Палессі (с. 79)*

[1] У аснове твора — паданне пра высылку ўладамі рымскага паэта Публія Авідзія Назона (43 да н. э. — каля 18 н. э.) на пачатку I ст. н. э. на землі, якія потым засялілі славяне. На Палессі ёсць некалькі ўзгоркаў, якія нібыта названы імем Авідзія. Гэты твор У. Сыракомля напісаў пасля арышту ў Варшаве за ўдзел у антыцарскай дэманстрацыі і высылкі дамоў, у Барэйкаўшчыну.

[2] *Цэзар* Аўгуст (63 да н. э. — 14 н. э.) — рымскі імператар.

[3] *Гарацый* Флак Квінт (65 да н. э. — 8 н. э.) — рымскі паэт.

[4] Вергілій (70–19 да н. э.) — рымскі паэт.

[5] *Мецэнат* Гай Цільній (?–8 да н. э.) — рымскі паэт-аматар, апякун паэзіі. Дарадца імператара Аўгуста. Гурток Мецэната, у які ўваходзілі Вергілій, Гарацый і інш., быў цэнтрам культурнага жыцця Рыма. Імя Мецэната стала агульнай назвай апекуноў літаратуры.

[6] *Агрыпа* Марк Віпсаній (каля 63 да н. э. — да 12 н. э.) — рымскі палкаводзец і дзяржаўны дзеяч, галоўны ваенны памочнік імператара Аўгуста.

[7] *Эўксінскае мора*, Понт Эўксінскі — Чорнае мора.

[8] *Альдона* Ганна (1309–1339) — дачка вялікага князя літоўскага Гедзіміна, якая стала жонкай польскага караля Казіміра III Вялікага (1310–1370), апошняга з дынастыі Пястаў.

[9] *Паята* — дачка легендарнага ўладара прывіленскай Літвы Кернуса, сталіцай якога стаў Кернаў, і жонка князя Вількаміра Жывібунда. Была вельмі прыгожая і дабрадзейная. Пасля смерці лічылася багіняй паганскай Літвы.

### *Мелодыі з вар'яцкага дома (с. 81)*

[1] *Сігнатура* — тут: надпіс, налепка.

[2] *Кардыял* — «сардэчныя кроплі», як жартоўна называлі гарэлку.

## ГАВЭНДЫ, ПАЭМЫ

### *Паштальён (с. 95)*

Друкуецца паводле выд.: Сыракомля, У. Добрыя весці.

[1] Паштальёнам у XIX ст. называлі фурмана, што вазіў пошту, а пры патрэбе — і падарожных. Рускі паэт Леанід Трэфалеў (1839–1905) пераклаў Сыракомлеву гавэнду на рускую мову, назваўшы яе «Ямщик». Пакладзены невядомым кампазітарам на музыку «Ямщик» («Когда я на почте служил ямщиком…») стаў шырока вядомай народнай песняй.

### *Хадыка (с. 97)*

Друкуецца паводле выд.: Сыракомля, У. Добрыя весці.

[1] *Тынф* — дробная манета.

[2] *Асочнік* — панскі служка, у абавязак якога ўваходзіла асочванне звяроў на паляванні.

[3] *Solvitur sesja* — сесія адкладаецца *(лац.)*.

### *Радавіты шляхціч Ян Дэмбарог (с. 112)*

Пераклад «Перадспева для літоўскага чытача», які друкуецца тут упершыню, зроблены паводле выд.: Syrokomla, W. Wybór poezji. Warszawa, 1975.

[1] *Гельветы* — гальскае племя, што жыло ў I ст. да н. э. у паўночназаходняй частцы сучаснай Швейцарыі; адсюль яе старажытная назва — Гельвецыя.

[2] *Аўзонцы* — племя ў Апенінах.
[3] *Валахі* — італьянцы.
[4] *Каледонія* — чорная частка Шатландыі.

### *Гетман польны (с. 115)*

Друкуецца паводле выд.: Сыракомля, У. Добрыя весці.
[1] *Гетман польны,* або палявы — гэта другая вайсковая пасада ў Вялікім Княстве Літоўскім пасля найвышэйшага, або вялікага, гетмана, які прыраўноўваўся да ваеннага міністра.

### *Акраец хлеба (с. 120)*

Друкуецца паводле выд.: Сыракомля, У. Добрыя весці.
[1] Сіманіды — ідыліі, ад прозвішча польскага паэта Шымана Шымановіча (1558–1629), аўтара выдадзеных у 1614 годзе «Ідылій».
[2] Аўтар падкрэслівае тут значэнне хлебаробства, якое пасля перыяду збіральніцтва стала новай, важнай ступенню ў развіцці чалавецтва.
[3] Як сведчыць В. Каратынскі, тут даецца дакладнае апісанне сельскай капліцкі каля вёскі Тулёнка, якую арандаваў бацька паэта (цяперашні Стаўбцоўскі раён).
[4] Шляхціч Лагода — правобраз паэтавага бацькі Аляксандра Кандратовіча, які быў выгнаны панам з арандаванай Тулёнкі ў 1855 годзе.
[5] Віціна — рачное судна.

### *Дачка Пястаў (с. 148)*

Пераклад, які друкуецца ўпершыню, зроблены паводле выд.: Syrokomla, W. Córa Piastów. Powieść wierszem z dziejów litewskich. Z muzyką St. Moniuszki. Wilno, 1855.
[1] *Трайдзень* (?–1282?) — вялікі князь ВКЛ.

### *Гадавы кругабег дзён на Літве (с. 160)*

Друкуецца пераклад паводле час. «Полымя», 2008, № 9, дзе змешчаны ўпершыню.

### *Школьныя часы — новае апавяданне Яна Дэмбарога (с. 164)*

Друкуецца паводле выд.: Сыракомля, У. Добрыя весці.
[1] На свята Пятра і Паўла, якое адзначалася 29 чэрвеня, заканчваўся школьны год і пачыналіся канікулы.

### *Вулічны кнігар (с. 166)*

Друкуецца паводле выд.: Сыракомля, У. Добрыя весці.
[1] Платон (сапр. Арыстокл; 427–347 да н. э.) — старажытнагрэцкі філосаф-ідэаліст.
[2] *In quarto* — друкарскі фармат, чвэрць аркуша *(лац.).*
[3] *Эльзевіры* — славутыя выданні галандскай сям’і друкароў Эльзевіраў.

[4] *Цыцэрон* Марк Тулій (106–43 да н. э.) — прамоўца, пісьменнік і палітычны дзеяч Старажытнага Рыма.

[5] *Інкунабулы* — першыя кнігі, надрукаваныя наборнымі літарамі на пачатку кнігадрукавання.

[6] *Плаўт* Ціт Макцый (каля 254 — 184 да н. э.) — старажытнарымскі драматург.

[7] *Гродэк* Г. Е. — прафесар Віленскага ўніверсітэта, адзін з настаўнікаў Адама Міцкевіча.

[8] *Бака* Юзаф (1707–1780) — святар-прапаведнік і аўтар няўклюдных маралізатарскіх вершаў, якія былі прадметам жартаў і насмешак у віленскім літаратурным асяроддзі. Родам з Міншчыны.

[9] *Ньютан* Ісак (1642–1727) — англійскі фізік, механік, астраном і матэматык.

[10] *Рэй* Мікалай (1505–1569) — польскі паэт і празаік.

[11] *Вуек* Якуб — перакладчык Святога пісання.

[12] *Папроцкі* Барталмей — аўтар старапольскіх гербоўнікаў (XVI ст.).

[13] *Стрыйкоўскі* Мацей (1547 — каля 1590) — польскі гісторык, храніст, паэт. Аўтар «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі» (1582), першай друкаванай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага.

[14] *Лазар і Піатркоўчык* — славутыя кракаўскія друкары XVI ст.

[15] *Бянткоўскі* Фелікс (1781–1852) — аўтар першай гісторыі польскай літаратуры.

[16] *Калонскі Кромер* — кёльнскае выданне працы польскага гісторыка, гуманіста, тэолага Марціна Кромера (1512–1589) «Палонія» (1577).

[17] *Nove Ateny* — кампіляцыйная энцыклапедыя Хмялеўскага Бенедыкта (1700–1763).

[18] *Тацыт* Публій Карнелій (каля 55 — каля 120) — старажытнарымскі гісторык.

[19] *Плутарх* з Харанеі (каля 46 — каля 126) — старажытнагрэцкі пісьменнік-мараліст.

[20] *... in folio ці quarto maiori...* — вялікая чвэртка друкарскага фармату.

[21] «Дзяды», «Конрад Валенрод», «Гражына» — творы Адама Міцкевіча.

[22] *Скот* Вальтэр (1771–1832) — англійскі пісьменнік, аўтар шэрагу гістарычных раманаў.

[23] *Пан Адам* — Адам Міцкевіч.

[24] *Пан Іяхім* — Іяхім Лялевель (1786–1881) — вядомы польскі гісторык, прафесар Віленскага і Варшаўскага ўніверсітэтаў, грамадскі дзеяч.

[25] *Крашэўскі* Юзаф Ігнацы (1812–1887) — польскі пісьменнік, аўтар многіх раманаў.

*Вясковая школа (с. 177)*

Друкуецца паводле выд.: Сыракомля, У. Добрыя весці.

[1] *Шарваркі* — прымусовыя дарожныя работы.
[2] *Тыфтык* — тканіна, дыванок.

# ПРОЗА

## *Вандроўкі па маіх былых ваколіцах (с. 187)*

Друкуецца паводле выд.: Сыракомля, У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах. Мінск, 2002.

[1] *Зімаровіч* Юзаф Бартламей (1597–1677) — польскі паэт і гісторык. Нарадзіўся ў Львове.

[2] *Гэтае сціплае мястэчка…* — Гаворка ідзе пра Нясвіж.

[3] *Аднак жа цяпер, у шуме горада…* — Маецца на ўвазе Вільня.

[4] *Кахоўскі* Вэспраз'ян Геранім (1633–1700) — польскі паэт, празаік, гісторык.

[5] *Алківіяд* (каля 450 — 404 да н. э.) — палітычны і ваенны дзеяч старажытных Афін. Быў вучнем Сакрата, але часта не згаджаўся з яго поглядамі.

[6] *Аладыяльнае права* — свабодна адчужаная індывідуальна-сямейная зямельная ўласнасць у раннефеадальнай Заходняй Еўропе. Як перажытак існавала і пры развітым феадалізме.

[7] *Пяркун* — у літоўскай міфалогіі язычніцкі бог грому і маланкі, атаясамліваўся з Зеўсам і Юпітэрам. Адпавядае Перуну ў беларусаў.

[8] *Мілда* — багіня кахання ў літоўскай міфалогіі.

[9] *Крывэ-Крывэйта* — вярхоўны жрэц, капішча якога, паводле падання, было на месцы Кафедральнай плошчы ў Вільні.

[10] *Жыгімонт II Аўгуст* (1520–1572) — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага (1544–1572), кароль Польшчы (1548–1572).

[11] *Жыгімонт I (Стары)* — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага і кароль Польшчы (1506–1548).

[12] *Плуг* Адам (сапр. Пяткевіч Антоні Антонавіч) (1823–1903) — беларускі пісьменнік. Нарадзіўся ў в. Замосце на Случчыне. Жыў у в. Жукаў Барок на Стаўбцоўшчыне.

[13] *Ад берагоў Днястра…* — Адам Плуг настаўнічаў у Бесарабіі.

[14] *Кляновіч* Себастыян Фабіян (1545–1602) — польскі паэт, які пісаў на лацінскай і польскай мовах.

[15] *А. С.* — Поўнае імя паэта не высветлена.

[16] *Трэмбіцкі* Станіслаў (1739–1812) — польскі паэт эпохі Асветніцтва.

[17] *Ясінскі* Якуб (1759–1794) — польскі паэт, удзельнік паўстання пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі. Загінуў у адным з баёў.

[18] Увесь рымскі народ (*лац.*).

[19] *…дзяцей Альгерда і Кейстута…* — Маецца на ўвазе міжусобная барацьба паміж Свідрыгайлам (каля 1370–1430), сынам вялікага князя

літоўскага Альгерда, і Вітаўтам (1350–1430), вялікім князем літоўскім, сынам Кейстута.

[20] *Жыгімонт Кейстутавіч* (?–1440) — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага.

[21] *Балінскі* Міхал Ігнатавіч (1794–1864) — гісторык і публіцыст, родам з Полаччыны, пісаў на польскай мове. Аўтар 3-га тома «Старажытнай Польшчы» (1846), дзе шмат увагі ўдзяліў гісторыі Беларусі, яе гарадоў, мястэчак і інш., «Гісторыі горада Вільні» ў 2-х тамах (1836–1837), на якую тут, відавочна, і робіцца спасылка.

[22] *Казімір IV Ягелончык* (1427–1492) — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага з 1440 г. і кароль Польшчы з 1447 г.

[23] *Аляксандр* (1461–1506) — вялікі князь літоўскі з 1492 г. і кароль Польшчы з 1501 г.

[24] *Глінскі* Міхал (1470–1534) — князь, военачальнік. У 1506 г. на чале войска Вялікага Княства Літоўскага разграміў пад Клецкам крымскіх татараў.

[25] *Крашэўскі* Юзаф Ігнацы (1812–1887) — польскі пісьменнік, гісторык, грамадскі дзеяч. З сям'і пружанскага харунжага. Аўтар шматлікіх гістарычных раманаў (асобныя прысвечаны мінуламу Беларусі), навуковых прац «Старажытная Літва, яе гісторыя, законы, мова, вера, звычаі, песні…» (1847–1850), «Барысаў» (1848), «Мастацтва славян, асабліва ў Польшчы і добрахрысціянскай Літве» (1860) і інш., а таксама падарожных нарысаў, у тым ліку пра Беларусь, напр., «Пінск і Піншчына» (1838), «Успаміны Палесся, Валыні і Літвы» (1840), «Карціны з жыцця і падарожжаў» (1842), «Адзенне мяшчан і сялян з ваколіц Брэста, Кобрына і Пружан» (1860).

[26] *Гельветы* — гальскае племя, што жыло ў I ст. да н. э. у Швейцарыі, якую называлі яшчэ Гельвецыяй. Сталіца Гельвецыі Жэнева з'яўлялася аплотам аднаго з напрамкаў Рэфармацыі — кальвінізму (заснавальнікам яго быў Кальвін). Адсюль, відавочна, вызначэнне кальвінізму як гельвецкае веравызнанне.

[27] Адлюстраванне (*лац.*).

[28] *Ходзька* Ігнат (1794–1861) — польскамоўны пісьменнік Беларусі.

[29] «Кароль Станіслаў Радзівіл, уладальнік Алыкі, Нясвіжа, Біржаў, Дубінак, Слуцка, Капыля і Клецка, галава і граф у Шыдлоўцу, Міры, Крожах і Белай…». «Выплавіў Амбросій Іаан Пат». «Св. Міхаіл, св. Кароль Станіслаў» (*лац.*).

[30] *Каханоўскі* Ян (1530–1584) — польскі паэт.

[31] *…аднаго з выдатнейшых нашых паэтаў…* — Маецца на ўвазе Адам Міцкевіч, месцам нараджэння якога многія лічылі Навагрудак.

[32] *Дамінікан* Віт — першы ў Вялікім Княстве Літоўскім біскуп аднаго з каталіцкіх ордэнаў — дамініканцаў, названага імем заснавальніка.

[33] *Бляструтовіч* Пётр (*Кміта* Пётр Бляст) — выдавец, друкар і паэт 1-й паловы XVII ст.

[34] *Лянге* Ян — выдавец і друкар XVII ст. Узначальваў Любчанскую друкарню ў 40–50-х гадах.

[35] *Аўзонская даліна*, Аўзонія — так называлі ў старажытнасці Італію, па імені першага цара Аўзона, які быў, згодна з міфалогіяй, сынам Адысея.

[36] *...класічны боцькаўскі бізу*н... — Ад назвы мястэчка Боцькі на Беласточчыне, вядомага калісьці рымарскімі вырабамі, асабліва бізунамі, якія прызначаліся для «выхавання» вучняў у школах.

[37] *Далэнга-Хадакоўскі* Зарыян (сапр. Чарноцкі Адам; 1784–1825) — славязнавец, пачынальнік беларускай, польскай, рускай і ўкраінскай археалогіі, фалькларыстыкі і дыялекталогіі. Родам з Мінскай губерні.

[38] *Жавускі* Генрык (псеўданім Ярош Бэйла; 1791–1866) — беларускі польскамоўны пісьменнік. Аўтар нашумелай у свой час кнігі «Успаміны пана Севярына Сапліцы, парнаўскага падчашага» (1839), адным з герояў якой быў Радзівіл Пане Каханку.

[39] *Гескі* Юзаф — прыдворны жывапісец Радзівілаў у Нясвіжы ў другой палове XVIII — пачатку XIX ст.

[40] *Дамель* Ян (1780–1840) — беларускі жывапісец.

[41] Асвечанае свяцілішча (*лац.*).

[42] *Вішнеўскі* Міхал (1794–1865) — польскі гісторык літаратуры. Аўтар «Гісторыі польскай літаратуры» (т. 1–10, 1840–1857), даведзенай да сярэдзіны XVII ст.

[43] *Ягайла, Якаў, Уладзіслаў II* (каля 1348 — 1434) — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага (1377–1392), кароль Польшчы (1386–1434), заснавальнік каралеўскай дынастыі Ягелонаў.

[44] Святая гара (*лац.*).

[45] *Белона* — паводле міфаў, італійская багіня вайны, жонка Марса.

[46] Вышэйшая ступень, крайняя мяжа (*лац.*).

[47] *Канарскі* Станіслаў-Геранім (1700–1773) — польскі грамадскі дзеяч, публіцыст і педагог.

[48] *Дружбацкая* Альжбета (каля 1695–1765) — польская паэтэса.

[49] *Бяляўскі* Юзаф (1739–1809) — польскі драматург і паэт.

[50] Змрочная крэпасць (*лац.*).

[51] Таварыства Ісуса (*лац.*).

[52] *Брагэ* Ціхан (1546–1601) — дацкі астраном.

[53] *«Божа слаўны»* — рэлігійны гімн.

[54] *Нарушэвіч* Адам Станіслаў (1733–1796) — польскі паэт, гісторык, родам з мястэчка Лагішын на Піншчыне.

[55] *Карпінскі* Францішак (1741–1825) — польскі паэт.

[56] *Urbs subterranea* — падземны горад (*лац.*).

[57] *Смуглевіч* Францішак (1745–1807) — жывапісец, графік, педагог.

[58] *Гарайн* Юльян (1821–1883) — польскамоўны пісьменнік Беларусі.

[59] *Гален* Клаўдзій (131–211 да н. э.) — рымскі лекар, вывучаў анатомію чалавека.

[60] *Спурзгейм* Каспар (1776–1832) — французскі вучоны-медык.

[61] *Рэй* Мікалай (1505–1569) — польскі паэт і празаік. Родам з Нагловіц.

[62] *«Kurjer Wileński»* — часопіс.

[63] *Сю* Эжэн (1804–1857) — французскі пісьменнік.

[64] *Дзюма* Аляксандр (Дзюма-бацька; 1802–1870) — вядомы французскі раманіст і драматург.

[65] *Кажанёўскі* Юзаф (1797–1863) — польскі пісьменнік.

## *Мінск (с. 320)*

Пераклад зроблены паводле выд.: «Teka Wileńska» за 1857 г., т. I–II.

Друкуецца паводле выд.: Сыракомля, У. Выбраныя творы. Мінск, 2006.

[1] *Нясецкі* Каспар (1682–1744) — польскі гісторык, генеалог. Аўтар гербоўніка «Карона польская» (1728–1743, т. 1–4). Праца змяшчае дзяржаўныя гербы Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага, ваяводстваў, спісы манархаў Рэчы Паспалітай, сенатараў, міністраў, маршалкаў пасольскай ізбы і трыбуналаў. Асноўнае месца ў працы адведзена вопісу шляхецкіх гербаў і радаводаў, у тым ліку і беларускіх родаў. У XIX ст. гербоўнік з дапаўненнямі А. Нарушэвіча, І. Красіцкага і І. Лялевеля, звесткамі з іншых крыніц перавыдадзены Я. Н. Баброўскім пад назвай «Польскі гербоўнік» (1839–1845, т. 1–10). Перавыдаваўся ў 1979 г.

[2] *Талія* (Фалія) — у старажытнагрэцкай міфалогіі адна з дзевяці муз, апякунка камедыі. Малявалася ў выглядзе юнай дзяўчыны ў лёгкім адзенні, з камічнай маскай у левай руцэ, з пастуховым посахам (часам з бубнам) у правай і ў вянку з плюшча.

[3] *…аўтары «Старажытнай Польшчы».* — М. Балінскі і Ц. Ліпінскі, якія выдалі грунтоўнае даследаванне «Старажытная Польшча…» (1843–1846, т. 1–3). Трэці том, падрыхтаваны М. Балінскім (1794–1864; родам з Полацкага павета), быў прысвечаны гісторыі Беларусі і яе населеных пунктаў (1846).

[4] *Гарадзельскі сейм* — агульны сейм Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы, які адбыўся ў кастрычніку 1413 г. у замку Гарадле на рацэ Заходні Буг і які юрыдычна замацоўваў у 3 граматах (прывілеях) саюз абедзвюх дзяржаў, так званую Гарадзельскую унію 1413 г.

[5] *Нарбут* Тэадор (1784–1864) — беларускі гісторык і археолаг. Аўтар «Гісторыі літоўскага народа» (1835–1841, т. 1–9). Пад словам «літоўскі» меў на ўвазе беларускі.

[6] *Ярашэвіч* Язэп (1793–1860) — беларускі гісторык, этнограф, юрыст. Прафесар права Віленскага ўніверсітэта ў 1826–1831 гг. Аўтар навуковых прац «Вобраз Літвы з пункту гледжання цывілізацыі ад найстаражытнейшых часоў да канца XVIII веку» (1844–1845, т. 1–3), «Матэрыялы да статыстыкі і этнаграфіі Гродзенскай губерні: Бельскі павет» (1848) і інш.

[7] *Лукашэвіч* Юзаф Анджэй (1799–1873) — польскі гісторык. Аўтар прац па гісторыі арыянства, кальвінізму, лютэранства і іншых пратэстанцкіх кірункаў у Польшчы і ВКЛ.

[8] *…вядомага паэта.* — Маецца на ўвазе Сарбеўскі Мацей Казімір (1595–1640), лацінамоўны паэт Польшчы і Беларусі.

[9] *Барташэвіч* Юльян (1821–1870) — польскі гісторык, літаратуразнавец. Аўтар «Гісторыі польскай літаратуры» (1877, т. 1–2) і інш.

### *Дарога з Вільні ў Ашмяну (с. 402)*

Гэта — раздзел з двухтамовай кнігі У. Сыракомлі «Wycieczki po Litwie w promieniach od Wilna». T. I. Вільня, 1857. T. II. Вільня, 1860.

Друкуецца паводле выд.: Сыракомля, У. Добрыя весці.

### *Нёман ад вытокаў да вусця (с. 421)*

У гэтай кнізе, якая выйшла ў 1861 г. у Вільні, аўтар коратка расказаў пра ўсе вядомыя яму прынёманскія вёскі і мястэчкі.

Урывак з яе друкуецца ў перакладзе паводле выд.: Сыракомля, У. Добрыя весці.

### *Біяграфія Косача (с. 423)*

Твор незакончаны. Друкаваўся ў «Gazecie Codziennej», 1961, № 70–71.

Пераклад друкуецца паводле выд.: Сыракомля, У. Добрыя весці.

### *Дарожны дзённік 1856 года (с. 432)*

Друкуецца паводле выд.: Сыракомля, У. Добрыя весці.

Пераклад зроблены паводле рукапісу.

## ДРАМАТУРГІЯ

### *Год у песні (с. 441)*

Пераклад кантаты, які друкуецца тут упершыню, зроблены паводле выд.: Syrokomla, W. Wybór poezji. Warszawa, 1957.

### *Магнаты і сірата, або Соф'я, князёўна слуцкая (с. 455)*

Пераклад друкуецца паводле час. «Маладосць», 2009, № 6–7.

П'еса прысвечана Соф'і Слуцкай (1585–1612) — апошняй князёўне са старадаўняга роду Алелькавічаў, якую ўшаноўваюць беларусы як сваю хрысціянскую святую і як вялікую патрыётку роднай зямлі. Гісторыя шлюбу Соф'і ў 1600 годзе з Янушам Радзівілам набыла гучны розгалас і стала тэмай для шматлікіх біёграфаў і храністаў. Маладая слуцкая князёўна і яе багатыя ўладанні апынуліся ў цэнтры жорсткага канфлікту двух уплывовых магнатаў таго часу: віленскага кашталяна Гераніма Хадкевіча (у п'есе — Рыгор Хадкевіч) і віленскага ваяводы Крыштофа Радзівіла. Хадкевіч, найбліжэйшы сваяк Алелькавічаў, пасля смерці свайго брата стаў апекуном Соф'і, якая з малалецця засталася сіратою. Ён жа пацвердзіў шлюбную дамову, складзеную яшчэ яго братам — першым апекуном Соф'і — і Крыштофам Радзівілам, які бачыў у князёўне з яе немалым пасагам выдатную партыю для свайго сына Януша. Аднак неўзабаве паміж магнатамі разгарэлася маёмасная спрэчка, у якой кашталян прайграў, і прайграў, як ён лічыў,

несправядліва. Хадкевіч пад ціскам сваякоў адмаўляецца ад выканання шлюбнай дамовы…

Гісторыкі паведамляюць, што з тае прычыны ледзь не ўсчалася страшная міжусобная бойка, якая магла б дашчэнту знішчыць даўнюю Вільню і цэлы край. Віленскі палац Хадкевічаў, дзе стала жыла Соф'я пад апекай дзядзькі, быў ашчэраны гарматамі, а да замка Радзівіла з усіх бакоў сцякалася грознае войска для штурму гэтай мясцовай фартэцыі. Занепакоены развіццём падзей, тагачасны кароль Рэчы Паспалітай прыслаў да варагуючых бакоў сеймавую дэлегацыю, каб наладзіць згоду і адвесці ад краю небяспеку. Соф'я, па апісаннях храністаў, пасіўная цацка ў руках магнатаў, ніяк не рэагуе на падзеі, што разгортваюцца вакол яе рукі. Паводле гістарычных звестак, штурм палаца Хадкевіча напярэдадні вызначанай даты шлюбу — 6 лютага 1600 года, так і не пачаўся, маёмасныя спрэчкі магнатаў былі ўрэшце ўрэгуляваны, а шлюб адбыўся ў кастрычніку таго ж года ў Берасці.

У мастацкай інтэрпрэтацыі Сыракомлі канфлікт набывае глыбокую псіхалагічную распрацоўку. Асаблівую ўвагу ён надае вобразу Соф'і. Яна ў п'есе не маўклівая ахвяра лёсу, а асоба са сваімі пачуццямі, жаданнямі, светаўспрыманнем. Паэт стварае глыбока праўдзівы нацыянальны характар жанчыны-арыстакраткі, для якой найважнейшае значэнне мае не ўласны капрыз, а святое паняцце Айчыны. Яна надзелена чуйнай душой, тонкімі пачуццямі, высокай годнасцю.

Вершаваная драма Уладзіслава Сыракомлі, напісаная ў сярэдзіне XIX стагоддзя, прысвечаная рэальным падзеям беларускай гісторыі, мела выразнае патрыятычнае гучанне, вылучала як найвялікшую маральную цноту служэнне Айчыне. Прычым носьбітам гэтай ідэі былі не ваяўнічыя мужчыны-рыцары, а кволая жанчына, якая паказала нязломную моц духу. Адзін далікатны жэст яе рукі спыняе раз'ятраныя, узнятыя над галовамі палашы зацятых, асепленых нянавісцю ваяроў, якія гатовы сячы направа і налева сваіх суайчыннікаў. Услаўляе Сыракомля таксама і моц кахання, якое ўзвышае чалавечыя сэрцы да ахвярнасці і подзвігу.

*І. Багдановіч*

## ПУБЛІЦЫСТЫКА, КРЫТЫКА

Друкуюцца артыкулы паводле выд.: Сыракомля, У. Добрыя весці. Мінск, 1993.

### *Барбара, вялікая княгіня літоўская і каралева польская (с. 517)*

Пераклад з рускай зроблены паводле выд.: Черты из истории и жизни литовского народа. Вильно, 1854.

### *Карэспандэнцыя «Gazety Warszawskiej» (с. 528)*

Упершыню на польскай мове ў «Gazecie Warszawskiej» 4 (16) ліпеня 1855 г., № 184.

Друкуецца паводле выд.: Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. Мінск, 1977, с. 294–301. Перакладзена, падрыхтавана да друку і пракаментавана Г. Кісялёвым.

[1] Назіранні Я. Чачота над беларускай мовай змяшчаліся ў яго прадмове да зборніка «Сялянскія песенькі з-над Нёмана і Дзвіны» (1846).

[2] Як сведчаць пісьмы В. Дуніна-Марцінкевіча да кнігавыдаўца А. Завадскага, «Сялянка» («Ідылія») не была распрададзена яшчэ ў 1856 г.

[3] Цытата з паэмы У. Сыракомлі «Акраец хлеба». Беларускі пераклад гл. у гэтым выданні.

[4] У. Сыракомля жыў каля вёскі Жукаў Барок (цяпер Стаўбцоўскі р-н) у 1844–1852 гг., арандуючы фальварак Залуча.

[5] Духаў дзень, Сёмуха — царкоўна-рэлігійнае свята, якое прыпадае на сёмы тыдзень пасля Вялікадня.

[6] Кароль Івето (*фр.*). — герой аднайменнай песні (1813) французскага паэта П’ера Жана Беранжэ (1780–1857).

### *Карэспандэнцыя ў «Gazetu Warszawsku» (с. 533)*

Упершыню на польскай мове ў «Gazecie Warszawskiej» 4 (16) верасня 1855 г., № 244. У перакладзе: С. Х. Александровіч, В. С. Александровіч. Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст. Хрэстаматыя крытычных матэрыялаў. Мінск, 1978.

[1] Маецца на ўвазе артыкул Карэспандэнцыя «Gazety Warszawskiej», змешчаны ў № 184 за 1855 г. (гл. вышэй).

[2] Гаворка ідзе пра баладу А. Міцкевіча «Пані Твардоўская».

[3] *Браты Бейліны* — уладальнікі мінскай друкарні, дзе выдаваліся кнігі В. Дуніна-Марцінкевіча.

[4] *Фальк* — уладальнік мінскай друкарні, дзе выпускаліся чорна-белыя і каляровыя малюнкі. Тут рыхтаваліся малюнкі да аповесці «Гапон».

### *Кароткае даследаванне мовы і характару паэзіі русінаў у Мінскай правінцыі (с. 536)*

У першай публікацыі артыкул меў падзагаловак — «Урывак з вандровак па Літве».

Друкаваўся ў «Gazecie Warszawskiej» у нумарах 137, 139, 142 за 1856 год.

### *Hebdomadalia (с. 545)*

Упершыню на польскай мове ў «Gazecie Warszawskiej», 6 (18) студзеня 1857 г., № 16. У перакладзе: Пачынальнікі, с. 301–307. Пераклад, падрыхтоўка да друку і каментар Г. Кісялёва.

[1] Назва газетнай рубрыкі: ад лац. hebdomadalis — тыднёвы.

[2] Гл. папярэднія артыкулы.

[3] *Y* — крыптанім Францішка Скібіцкага (1796–1877) — буйнога варшаўскага чыноўніка, публіцыста, мемуарыста. Маецца на ўвазе яго артыкул «Творы на простанароднай гаворцы» ў «Gazecie Warszawskiej» ад 19 мая 1856 г.

[4] *Ілірыйская* — сербскахарвацкая.

[5] *Катлярэўскі* Іван Пятровіч (1769–1838) — украінскі паэт і драматург. Пісаў таксама па-руску.

[6] *Падура* Тымко (Тамаш; 1801–1871) — паэт, вывучаў украінскі фальклор, пісаў на ўкраінскай і польскай мовах.

[7] *Амфіён* — у грэцкай міфалогіі сын Зеўса і Антыопы, старажытны музыкант Грэцыі. Сваёй ігрой на ліры зачароўваў камяні, якія самі складваліся ў сцены Фіваў.

[8] Так у Сыракомлі. Трэба — дачкі.

[9] *Альгерд* (каля 1296 — 1377) — вялікі князь літоўскі ў 1345–1377 гг.

[10] Маюцца на ўвазе радкі «Усякі там — стары, малы рад бы локацей нанесць» (Дунін-Марцінкевіч В. Творы. Мінск, 1984, с. 228).

[11] *Нарбут* Тэадор (1784–1864) — гісторык і археолаг, аўтар «Гісторыі літоўскага народа» (т. 1–9, 1835–1841).

### *Працы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (с. 555)*

Упершыню на польскай мове ў газ. «Kurjer Wileński», 7 і 10 сакавіка 1861 г., № 19–20. У перакладзе: Пачынальнікі, с. 307–316. Пераклад, падрыхтоўка да друку і каментар Г. Кісялёва.

[1] У арыгінале ёсць яшчэ назва газетнай рубрыкі: Літаратурны агляд.

[2] У арыгінале: Język ruski, ruteński, rusiński.

[3] Маецца на ўвазе «Прамова Мялешкі», выдатны помнік беларускай літаратуры першай паловы XVII ст. Мае форму прамовы на сейме, якую нібыта сказаў смаленскі кашталян Іван Мялешка (памёр у 1622 г.). Артыкул Сыракомлі — адно з ранніх упамінанняў твора.

[4] *Жыгімонт III Ваза* (1566–1632) — польскі кароль і вялікі князь літоўскі (1587–1632).

[5] Маецца на ўвазе «Ліст да Абуховіча», выдатны помнік беларускай літаратуры XVII ст. Напісаны ў 1655 г. ад імя шляхціча Цыпрыяна Камунякі, адрасаваны смаленскаму ваяводу Піліпу Абуховічу.

[6] *Зянькевіч* Рамуальд Сымонавіч (1811–1868) — даследчык беларускага фальклору і этнаграфіі, педагог. У 1851 г. выдаў кнігу «Народныя песенькі пінскага люду».

[7] Г. зн. беларускі.

[8] Больш правільная форма назвы: Шчаўры.

[9] У гэты перыяд сярод народа ў Літве і на Беларусі пашыраўся рух цвярозасці.

[10] Наколькі вядома, гэты намер Сыракомлі не здзейсніўся.

## SUMMARY

In the mid XXth century the name of Uladzislau Syrakomlya was well known throughout Belarus. A true defender of oppressed peasants and common people, a wonderful poet, prose writer, historian and local history learner Uladzislau Syrakomlya (the literary name of Liudvik Kandratovich; b. 1823 – d. 1862) was one of the most active members of anti-serfdom movement at his time. Inspired by a deep democratic idea of his poetry and its clearness to common people, the critics used to call Uladzislau Syrakomlya ‘a true people’s poet’ and ‘a singer of Litva’. Uladzislau Syrakomlya’s Litva was Belarus. Here he was born at the village of Smolhau in Liuban region and here as well spent most of his life first in Palessye region and then in Niasvizh and Stoubtsy regions. The last ten years of life he spent at the homestead of Bareikaushchyna in Vilnya region (the present day Lithuania) among the Belarusian people.

Uladzislau Syrakomlya had a very short life of 39 years but left a significant literary heritage. Shortly after his death ten volumes of his poetry were published.

The present edition of Selected Works comprises all the best and the most important from the literary legacy of Uladzislau Syrakomlya. The volume comprises the following chapters: verses and poems, prose, drama plays, publicistic articles and critique materials.

Kastus Tsvirka, the Candidate of History and the writer, is the compiler, preface and comments writer of the volume.



# ЗМЕСТ



## ВЕРШЫ

## ГАВЭНДЫ, ПАЭМЫ



## ПРОЗА

## ДРАМАТУРГІЯ



## ПУБЛІЦЫСТЫКА, КРЫТЫКА

**Сыракомля, У.**

**С95** Выбраныя творы / Уладзіслаў Сыракомля; уклад., прадм., камент. К. Цвіркі. — Мінск : Беларуская навука, 2010. — 584 с. : [8] с. іл. — («Беларускі кнігазбор»: Серыя 1. Мастацкая літаратура).

ISBN 978-985-

Гэта — самае поўнае выданне на беларускай мове твораў выдатнага паэта, празаіка, драматурга, публіцыста і гісторыка-краязнаўца Беларусі У. Сыракомлі (1823–1862). Чытач мае магчымасць пазнаёміцца тут з усімі асноўнымі жанрамі яго творчасці.

Пяцьдзясят сёмы том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».

**УДК 821.161.3**
**ББК 84(4Беи)**

Літаратурна-мастацкае выданне

«Беларускі кнігазбор»
Серыя I. Мастацкая літаратура

**Уладзіслаў Сыракомля**

Выбраныя творы

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Кастусь Дуброўскі*
Тэхнічны рэдактар *Алег Глекаў*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Алена Шагун*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 25.01.2011.
Фармат 84х108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 30,66 + 0,42 укл. Ул.-выд. арк. 29,72.
Наклад 1000 асобнікаў (1 з-д — 1–500). Зак. .

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Беларуская навука».
Ліцэнзія № 02330/0131569 ад 11.05.05.
Вул. Ф. Скарыны, 40, 220112, Мінск.

ISBN 978-985-




Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў друкарні РУП «Типография “Победа”».
Ліцэнзія ЛП № 02330/0056832 ад 30.04.04.
Вул. Таўлая, 11, 222310, Маладзечна.

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

***Выйшлі з друку:***

*Серыя I.*

ЯН ЧАЧОТ. Выбраныя творы
МАКСІМ БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы
ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА. Выбраныя творы
ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ. Зборнік
ЯН БАРШЧЭЎСКІ. Выбраныя творы
ЯНКА БРЫЛЬ. Запаветнае. Выбраныя творы
КУЗЬМА ЧОРНЫ. Выбраныя творы
ЭЛІЗА АЖЭШКА. Аповесці, апавяданні, нарысы
ЛАРЫСА ГЕНІЮШ. Выбраныя творы
ПАЎЛЮК ТРУС. Выбраныя творы
ІВАН МЕЛЕЖ. Выбраныя творы
ЦЁТКА. Выбраныя творы
НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА. Выбраныя творы
ЯНКА КУПАЛА. Выбраныя творы
АЛЕСЬ ГАРУН. Выбраныя творы
АДАМ МІЦКЕВІЧ. Выбраныя творы
ФРАНЦІШКА УРШУЛЯ РАДЗІВІЛ. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ БЫКАЎ. Выбраныя творы
РЫГОР КРУШЫНА. Выбраныя творы
ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ. Выбраныя творы
ЯН СКРЫГАН. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ. Выбраныя творы
ЗМІТРОК БЯДУЛЯ. Выбраныя творы
СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА (XII–XVII стст.)
СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ. Выбраныя творы
ЯКУБ КОЛАС. Выбраныя творы
АЛЯКСЕЙ КАРПЮК. Выбраныя творы
КАНДРАТ КРАПІВА. Выбраныя творы

РЫГОР БАРАДУЛІН. Выбраныя творы
РАССТРАЛЯНАЯ ЛІТАРАТУРА. Зборнік
АНАТОЛЬ ВЯРЦІНСКІ. Выбраныя творы
*БЕЛАРУСКІЯ* АЛЕКСАНДРЫЯ, ТРОЯ, ТРЫШЧАН. Зборнік
НІЛ ГІЛЕВІЧ. Выбраныя творы
ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН. Выбраныя творы
РЫГОР КОБЕЦ. Выбраныя творы
МАКСІМ ГАРЭЦКІ. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ. Выбраныя творы
АЛЕНА ВАСІЛЕВІЧ. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ ЗУЁНАК. Выбраныя творы
КАЗІМІР СВАЯК. Выбраныя творы

*Серыя II.*

БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ХРОНІКІ. Зборнік
КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ. За нашую вольнасць
МІКАЛАЙ УЛАШЧЫК. Выбранае
ЯЎХІМ КАРСКІ. Беларусы
ІГНАТ ДАМЕЙКА. Мае падарожжы
ГАЎРЫЛА ГАРЭЦКІ. Выбранае
ФАДЗЕЙ БУЛГАРЫН. Выбранае
ЧАСЛАЎ ПЯТКЕВІЧ. Рэчыцкае Палессе
АЛЯКСАНДР ЕЛЬСКІ. Выбранае
ЗАРЫЯН ДАЛЭНГА-ХАДАКОЎСКІ. Выбранае
АДАМ МАЛЬДЗІС. Выбранае
АДАМ СТАНКЕВІЧ. Выбранае
МІКОЛА ЕРМАЛОВІЧ. Выбранае

*Серыя III.*

ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ. Выбраныя творы
ФЁДАР ДАСТАЕЎСКІ. Выбраныя творы

***Рыхтуюцца да друку:***

ВІНЦУК АДВАЖНЫ. Выбраныя творы